Пераклад Васіля Раманава 2015 г.

# Аляксандр Мікалаевіч Марозаў

# Хрыстос

## (Гісторыя чалавечай культуры ў прыродазнаўча-навуковым асвятленні.)

# Кніга 1

## Нябесныя вехі зямной гісторыі чалавецтва

### Змест.

# Прадмова да першага выдання.

Пры перакладзе на нашу мову помнікаў чужога нам жыцця галоўная цяжкасць заключаецца ў тым, каб знайсьці такія словы, якія выклікалі б у чытача такія ж самыя ўяўленні, якія былі ў аўтара, некалі пісаўшага іх, а гэта часам вельмі цяжка. Возьмем напрыклад слова “лес” на розных мовах. У якута гэтае слова выклікае ўяўленне пра скапленне ў нейкай мясцовасьці вялікай колькасьці *хвойных* дрэваў, у ягіпцяніна і аравійца – пра скапленне *пальмаў*, у італьянца – дубоў і іншых *лісьцявых* дрэваў.

Усё гэта – уяўленні вельмі адрозныя, а таму і ў перакладах, калі вы жадаеце, каб у чытача з’явілася пры чытанні слова *лес* тое ж уяўленне, якім было ў аўтара пэўнага апавядання, то вы павінны выказвацца *вызначальна*: у якуцкім апавяданні вы павінны напісаць хвойны лес, у ягіпецкім – пальмавы і г. д.

Дакладна гэтак жа слова *дрэва*, і слова *хата*, і слова *агароджа* на розных мовах маюць рознае значэнне, зыходзячы із таго якімі ў той мясцовасьці бываюць звычайнымі дрэвы і із якога матэрыяла і згодна з якім планам будуюцца там хаты і агароджы. Пры звычайным апавяданні мы не заўважаем, што замест вобразаў аўтара мы падстаўляем свае, але пры выкарыстанні такіх слоў у якасьці сімвалаў ці алегорый, гэта часам мае вынікам непаразуменні і мае настолькі вялікае значэнне, што без тлумачальнага тэрміна вы нічога не зразумееце ў алегорыі, калі не жывеце ў той жа мясцовасьці і ў той жа час, ці не ведаеце гэтых асаблівасьцей.

Такім, напрыклад, з’яўляецца біблейскае апавяданне пра тое, што ў раю побач раслі два дрэвы: дрэва жыцця і дрэва ведаў. Сэнс гэтага падання станавіцца зразумелым толькі тады, калі мы гэта ўявім *па-ягіпецкі* ў выглядзе двух струмкіх пальмаў з вяршынь якіх да зямлі апускаецца *парасон пер’епадабных лістоў*. Яны выраслі як быццам бы із аднаго плада і зрасліся унізе каля кораня, а іхныя вяршыні адхіліліся адна ад адной на $23^{1/2}$ градусы. Першае дрэва будзе сімвалізаваць *зямную вось*, якая вызначае сваім абарачэннем працягласць сутак і ўяўляемую як ствол пальмы, якая расьце на паўночным полюсе зямлі. З вяршыні гэтай пальмы ў выглядзе парасона спускаюцца на зямлю нябесныя мерыдыяны з пер’епадобнымі адгалінаваннямі паралелей. Другое дрэва – пальма геацэнтрычна ўяўляемая там жа;

гэта як бы вось экліптыкі, якая ўнізе зраслася з першай пальмай і вызначаючае працяканне года і нахіленая да першай пальмы (як я толькі што пазначыў) на $23^{1/2}$ градусы і з такім за парасонам мерыдыянаў і паралелей пасярод якіх наладзіў сваё гняздо Змей (зараз сузор'е Цмока). Яна атрымала назву дрэва (г. азн. пальма) ведаў таму што яе вынаходніцтва ўпершыню дало магчымасць старажытным прадказваць нябесныя з'явы, дзякуючы чаму людзі сталі падобнымі багам, даведваючыся згодна з рухам планет будучае дабро і зло. Ад гэтага і бярэ пачатак астралогія.

Без такіх уя'ленняў пра "дрэва" вы ніколі не зразумееце і месца з'яўлення гэтага падання і яе сімвалічнасць. А засвоіўшы гэтыя ўяўленні, вы адразу ж зразумееце, чаму пад першай пальмай на астралагічных мапах неба стаяць Адам і Ева ў выглядзе Цэфея і Касіяпеі, чаму на вяршыні другой пальмы сядзіць змей-спакушальнік у выглядзе сузор'я Цмока і чаму тут паведамляецца, што адна із гэтых пальмаў "дае плады 12 раз на год, у кожны месяц свой асобны плод".

Такім чынам, прытрымліваючыся сучаснага ўяўлення пра неба, як пра не маючую межаў прастору, у якой то тут то там узнікаюць і распадаюцца зоркі, вы не зразумееце тое месца ў "Здзясненях Апосталаў", дзе гаворыцца, напрыклад, пра абрус, які спусьціўся з неба апосталу Пятру, напоўнены дзіўнымі звярамі, якіх яму было загадана з'есьці. А, ведаючы, што неба, згодна з уяўленнямі старажытных, было каўпаком, накрытым блакітным абрусам з выявамі на ёй двух Мядзведзіц, Скарпіёна, Казярога, Цмока, Змей і разнастайных іншых звяроў вы адразу зразумеце, што ў дадзеным выказванні гаворка ідзе пра загад Пятру вывучаць астралогію з дадаткам каб ён "не лічыў паганскім тое, што ачысьціў сам бог-бацька".

А легенда пра тое, як евангельскі "настаўнік" накарміў (і пры гэтым "*паглядзеўшы на неба*". Марк, 6, 21) пяць тысяч сваіх слухачоў двума рыбамі і пяццю (а згодна з іншай версіяй - сямю) хлябамі?

Двух рыб вы, бясспрэчна, знойдзеце зараз жа там куды ён "паглядзеў", г. азн на неба. Гэта сузор'е Двух Рыб. Ну, а дзе ж там хлябы, якімі пасьля насычэння слухачоў напоўніліся яшчэ 12 плятушак?

Калі мы будзем сабе ўяўляць старажытны хлеб (άρτος) у выглядзе сучасных буханак, а старажытныя плятушкі (κοφίνονς) у выглядзе сучасных кошыкаў то, бяспрэчна, і тут мы нічога не зразумеем. Але толькі згадаем царкоўныя прасвіры, гэтыя перажыткі старадаўняга хлеба, і тады лёгка зразумеем, што імі тут сімвалізіраваны (як "хлябы прапановы богу-бацьку") пяць (ці згодна з іншым варыянтам *сем*) планет, а пад 12 плятушкамі разумеюцца 12 знакаў Задыяка, прыкрытых, як плятушкамі, каардынатнай сеткай. Тут размова ідзе пра астралагічную лекцыю з нагоды збірання сямі планет у сузор'і "Дзве Рыбы"; і далей (у наступных тамах) я пакажу і год і дзень, калі было такое спалучэнне.

Дакладна так жа са старажытных часоў эвалюцыяніравала ўяўленне пра духаў. Першакрыніцай іх былі разнастайныя пахі, а таму і духі падзяляліся на *чыстых* (напрыклад, збіраючыхся навокал квітнеючай ружы) і *нячыстых*, збіраўшыхся над адкідамі ці заходзячых у каналы кішкі неустрыманых людзей і выклікаючыя там болькі. Толькі з падобнага боку гледжання і магчыма ўявіць сабе іх выгнанне із людзей евангельскім лекарам, як легенду пра яго лекавальнае майстэрства.

Дакладна так жа і ў дачыненні да слова "Хрыстос", якое стаіць у найменні гэтай кнігі, вы не атрымаеце выразнага разумення, калі не будзеце пастаянна

памятаць, што першапачаткова яно азначала: “*намазаны*”, “*прысвечаны*”. Яно ў нас скарацілася да слова “*святар*” і набыло выключна аднабаковы сэнс духоўнай пасады, а, між іншым, раней яно мела сэнс звычайнай царскай улады, таму што цары пад час старажытнага перыяду хрысьціянства, як намазаныя на царства, таксама мелі найменне *хрыстоў*. Звычайна гэтае намазанне здзяйснялася толькі пасьля курса тагачаснага навучання, да якога дапускаліся толькі абраныя і адпавядала цяперашняму званню магістра ці доктара (magister, doctor, г. азн. навучаны). Менавіта *магістрам* вучні і называюць Езуса ў лацінскай версіі Евангелляў, звяртаючыся да яго.

Асобныя цяжкасьці ў гэтым дачыненні ўяўляе слова *бог*, так як яго значэнне змянялася з цягам эвалюцыя ў кожнага народа асабліва моцна.

Так, згодна з карэнным значэннем нашага слова *бог* відаць, што пад ім нашы продкі разумелі тое, што мы зараз разумеем пад словам асілак, а асілкаў, бясспрэчна, магло быць і шмат, ад гэтага і множны лік – *багі*. Згодна з сугучнасьцю старажытна-арабскага слова *Алі* з грэцкім *Эліос* – сонца – можна здагадацца, што яно прыйшло ў Аравію із *Грэцыі*, і бацька багоў там уяўляўся ў выглядзе Сонца. Згодна з карэнным значэннем лацінскага слова *дэус (deus*) можна лёгка прыйсьці да высновы, што пад час узнікнення гэтага наймення вярхоўны бог, г. азн. “бог багоў”, атаясамляўся з днём, па-латыні *duec* (diec найменне святла). Гэты *duec* толькі нязначна адрозніваецца згодна з гучаннем ад *дзеуса* старажытных італійцаў і ад *Зеўса* старажытных грэкаў, тым больш, што слова Зеўс згодна з правіламі грэцкай мовы, ужываецца толькі ў назоўным склоне, а ў родным і астатніх бярэцца ад лацінскага корня *duec*. Чаму гэты *duec* – дзень – ператварыўся ў грэкаў у назоўным склоне ў Зеўса? Таму што корнем гэтага апошняга слова з’яўляецца *зао* (*ζάω*) – жыву і слова Зеўс (ці *Зеус*) азначае *жывы* і сугучна з *дзевусам – днём*.

Мы тут бачым што разуменне пра святло замянілася разуменнем пра жыццё, як асноўны атрыбут бажаства. Дзякуючы няздольнасьці італьянцаў вымаўляць грэчаскі гук *з*, які вымаўляўся як наш гук дз у слове *дзень*, Зеўс перайшоў назад да рымлян пад імем Іёвіс (Jovis). Із далучэння да яго слова патэр (бацька) атрымалася слова Іёвіс-патэр, скараціўшаяся да Ю-пітэр, так як лаціняне пазбягалі дарэмна выкарыстоўваць поўнае імя Зеўса-Грамабоя праз баязнь, што ён уразіць такога чалавека маланкай. У бясспрэчнай лінгвістычнай і ідэалагічнай сувязі з грэка-італійскім Зеўсам стаіць і біблейская назва бога Іеве (ЙЕУЕ[1]), г. азн. Яве, ці, згодна з няправільным тэалагічным вымаўленнем, Йегава.

Гэтае імя, як і на латыні, было боязна цалкам вымаўляць аўтарам Бібліі і Талмуда і таму, аналагічна яго лацінскаму скарачэнню ў Йі, паходзіць скарачэнне то ў Йу, то ў Йе, то ў Йі, то нават у І. Усе гэтыя скарачэнні мы і маем у Бібліі, асабліва ў злучэнні з іншымі словамі. Так, слова Ісаія, правільней Іса-Іе, азначае выратаванне Іёвіса, г. азн. згодна з сучасным вымаўленнем – Іегавы; слова Іосіф (=Іу-Сфе) азначае зеўсаў кратэр і г. д і г. д. Можна сказаць, што і слјва І-Ісус у перакладзе азначае бог-выратавальнік, аналагічна таму, як Юпітэр, ці лепш Ю-патэр, азначае бог-бацька.

Аднак, ці правільныя абодва гэтыя пераклады? Зразумела, не.

Пад словам бог-бацька ў мяне, ды, верагодна, і ў вас, калі вы выхоўваліся ў хрысьціянскай сям’і, міжвольна ўзнікае сучаснае хрысьціянскае ўяўленне пра бога-бацьку, як пра частку нейкай тройцы, цалкам не падобнае на лацінскага Юпітэра. Было б больш правільна перакласьці ліціна-жыдоўскае слова Іёвіс як “бацька

---

[1] Клічны склон ад Jovis.

багоў”. Дакладна так жа і пры перакладзе жыдоўскага слова І-Ісус (І-ІШЕ) выразам *бог-выратавальнік* і надаў слову бог не тое значэнне, якое надавалі яму аўтары і чытачы евангельскіх часоў.

Атрымліваецца нешта нападобнае на тое, як калі б я пажадаў выканаць сімфонію Бетховена на піяніна, у якога дзве-тры асноўныя ноты ў дамінуючых акордах змянілі сваё гучанне ад часу. Я стукаю па клавішы *рэ*, а ў мяне выскоквае *сі-бемоль*; я стукаю па клавішы *сі*, а замест таго гучыць *рэ-дыез*. Замест сімфоніі атрымліваецца какафонія, ці, ва ўсякім разе, не тое, што было ў Бетховена.

Як пераадолець такую цяжкасць? Пераіначыць слова *бог* на старажытны лад немагчыма: у такім разе яно губляе сучаснае значэнне. Няма іншага сродка, як замяняць яго пры перакладзе старажытных кніг нейкім прыдатным сурагатам кожны раз, калі яно выкарыстоўваецца ў адзіночным ліку, таму што ў множным ліку слова бог мала перамяніла сваё значэнне.

Але знайсьці прыдатны сурагат у такім выпадку вельмі цяжка, таму што гэтае слова і ў старажытнасьці не мела пастаяннага значэння. Яно эвалюцыяніравана ці нават адразу выкарыстоўвалася ў розных сэнсах, як і слова *чалавек*. Мы сустракаем яго то ў сэнсе істоты, якая не мае падобных сабе, то ў сэнсе істоты маючай сабе падобных. У першым выпадку яго пішуць з вялікай літары, а ў другім – з малой. Але гэта яшчэ не дае ніякай магчымасьці паказаць чытачу, што і грэцкі Зеўс і лацінскі Іёвіс-бацька (Юпітэр), і біблейскі Іеве (ці Ю) адзін і той жа бог, які ўяўляўся тагачасным людзям лятаючым чараўнікам-асілкам, маючым чыста чалавечую псіхіку, хаця і здольным змяняць свой выгляд, ці станавіцца цалкам нябачным.

Як усё гэта перадаць на сучаснай мове? Заўсёды выкарыстоўваць апісальныя выразы пры перакладах розных біблейскіх кніг, дзе слова Йеве выкарыстоўваецца на кожнай старонцы, цалкам немагчыма: склад кніжкі стаў бы вельмі цяжкім, што б мела наступствам поўную немагчымасць зразумець прачытанае. А рабіць так, як робяць сучасныя перакладчыкі, выкарыстоўваючыя слова гасподзь кожны раз, калі ў іудэйскім тэксце стаіць слова Йеве, г. азн. выкарыстоўваць, замест яго вельмі вызначанага значэння ў арыгінале, іншае, маючае з ім вельмі малое падабенства. У выніку міжвольна атрымліваецца самападман, які перадаецца і чытачу.

Із гэтага цяжкага становішча я не знайшоў іншага выйсьця, як узяць для перакладу слоў: *Зеўс* у грэцкіх кнігах, *Юпітэр* у лацінскіх і *Йеве* ва іудэйскім Пяцікніжжы, іх галоўны атрыбут: *Громабой*, ці бацька багоў, а пры перакладзе Йеве ў пракрокаў, дзе яно набывае ўжо месіянскі сэнс, я пачаў ужываць: *будучы бог*.

Тэрмін Громабой быў непадзельна злучаны з уяўленнямі пра самага магутнага із усіх багоў, і гэта было непазбежным пры натуральнай эвалюцыі разумення пра “бога”. Першабытны чалавек лічыў багамі і Сонца (бог святла), і Месяц (бог цемры), і зоркі (іхныя дзеці), і вецер, і аблокі.

Але гэта былі багі якія не бралі ўдзелу ў жыцці асобных людзей: сонца, месяц і зоркі свяцілі аднолькава як добрачыным людзям, так і не, як добрым, так і злым і вецер дуў аднолькава для ўсіх. Толькі адзін із багоў разлічаў розных людзей. Гэта быў бог навальніцы.

Час ад часу ён налятаў у хмарах на нейкую мясцовасць і раптоўна ўражваў вогненнай стралой таго ці іншага жыхара. Чаму? За што? Думка першабытнага чалавека прыйшла да непазбежнай высновы: за нейкую вялікую правіну, схаваную ад астатніх людзей. Гэта азначае, што гэты бог усёзаўважаючы, нешта пабачыў і

абурыўшыся, прыляцеў пакараць... Мы ведаем, што да забітага навальніцай першабытныя людзі баяліся нават падыходзіць і пакідалі непахаваным.

Гэты бог зацямняў саімі хмарамі і сонца, і зоркі, ён вымушаў буру насіць яго на сваіх крылах. Ён быў самым магутным із усіх багоў і яго пачалі лічыць бацькам усіх багоў.

Потым гэтае ўяўленне раптам нечакана і ўражваючы дапоўнілася.

У італьянскай Кампаніі пачалася жахлівая разбуральная дзейнасць Везувія, якая павінна была напоўніць жахам не толькі саму Італію, але і ўвесь тагачасны культурны свет, які меў з ёй гандлёвыя сувязі.

Гэта бясспрэчна быў той жа бог навальніцы, які апусьціўся на зямлю. Ён таксама грымеў і выпускаў маланкі із пенападобнай велічэзнай хмары над Везувіем. Зямля сатрасалася пры яго спусканні на гару і каля яе падножжа разбураліся цэлыя гарады. За што? За нейкія жудасныя грахі, якія яны здзяйснялі. Гэта былі языцкія гарады, там шанавалі ўсіх багоў, але ён скінуў з п’едэсталаў усе іхныя выявы. І вось чалавечая думка прыйшла да высновы, што бог Грамабой і сутрасальнік зямлі зусім не бацька багоў, а бог-богабарацьбіт, які змагаецца з імі і на зямлі, і на небе, праганяючы адтуль маланкамі ўсіх не дагаджаючых яму багоў і не даруючы шанавання каго б то ні было акрамя сябе. Пачалося богазмаганне, з’явіўся народ-богазмагальнік (ЗМ-ІШР-АЛ – народ ізраільскі).

Не із мірных згодна са саёй прыродай месапатамскіх раўнін, не са спакойнай Палестыны ці із Сіная з’явілася богазмагальніцтва і першыя ідэі пра адзінаборства, а із сатрасаючагася наваколля Везувія. З геафізічнага боку гледжання не лацінскі Йёвіс-бацька (Юпітэр) бярэ пачатак ад біблейскага Ёеве-бацькі, бога нябеснага войска, а сам гэты Іеве перайшоў у Палестыну із Італіі і там толькі апрануўся ва усходняе адзенне. Калі мне запярэчаць, што біблейскае ІЕВЕ (Іегова) на сваёй мове мае разуменне *будучага* (будучы час ад дзеяслова ЕУЕ - быць), то я адкажу, што і Зеўс па-грэцку азначае жывучы, ад дзеяслова зао (ζάω) – жыву.

Я добра разумею, якой нечаканай з’яўляецца гэтая апошняя ідэя для майго чытача, але далей я яе патлумачу настолькі грунтоўна, што ў правільнасьці мойго светапогляду будзе цяжка сумнявацца. Тут жа я маю намер толькі патлумачыць сваю тэрміналогію.

Падобна таму як слова Йеве я буду перакладаць, то бог-Громабой, то бог-бацька, то бацька багоў, то будучы бог, у залежнасьці ад таго як яго разумее аўтар гэтай кнігі, так і слова АЛЕУМ (зараз вымаўляемае як Элаім) я буду перакладаць у Бібліі згодна з яго літаральным сэнсам “багі”, таму што гэта – множны лік ад слова “бог” (ІМ – па-жыдоўску з’яўляецца канчаткам множнага ліку). А выказванне АЛ АЛЕУМ я буду перакладаць – бог багоў, а ніяк не бог Элаім, як робяць царкаўныя перакладчыкі, жадаючы схаваць шматлікія сляды шматбожжа ў біблейскім “Пяцікніжжы”.

Я вельмі добра разумю, што не кожны, каму цікавіць узнікненне і развіццё рэлігійных уяўленняў у Яўрпе, Пярэдняй Азіі і Ягіпце, абавязаны першапачаткова вывучыць латынь, грэцкую і жыдоўскую мовы. Пагэтаму я імкнуся не выкарыстоўваць словы гэтым моў у тэксце маёй кнігі з дапамогай іхных нацыянальных альфабэтаў, якія вядомы далёка не кожнаму, а імкнуся перадаць іхнае вымаўленне нашымі літарамі. У дачыненні да жыдоўскіх слоў, якія мне тут давядзецца выкарыстоўваць асабліва часта, я заўсёды пазбягаю прыводіць іхнае

сапсаванае пунктуацыяй вымаўленне, а даю іх транскрыпцыю літара за літарай згодна с наступнай схемай:

א – А, зараз вымаўляецца то як *а*, то як *о*, то як э, падобна ангельскаму *а*.

ב – Б і В, зараз вымаўляецца як *б* і як *в*, а ў старажытнасьці, верагодна, існавала прыдуўное *б*, сярэдняе паміж абодвума нашымі гукамі.

ג – Г, у ягіпецкім і *g* (італьянскае *дж*) ва ўсходняй гаворцы.

ד – Д, як *д*.

ה – Е, вымаўлялася прыдыхальна. Як грэцкая η (эта).

ו – У, часам як у, блізка да в.

ז – З, як наша дз.

ח – Х, як лацінскае h.

ט – Т, звычайна чытаюць як т, але, верагодна, існавала прыдуўное т.

י – І і Й, і, й, ай.

כ – К, гартанна, як злучанае кх.

ל – Л, як наша л.

מ – М, як м.

נ – Н, як н.

ס – С, як с.

ע – Э, зараз вымаўляецца як э і як у, і як о.

פ – Ф, падобна на прыдуўное п.

צ – Ц, як ц.

ק – К, вымаўленне невядома, магчыма, што і пераходзіла і ў наша ч.

ר – Р, хутчэй за ўсё картавае р.

ש – Ш, як *ш* і як *с*.

ת – Т, лічыцца блізкім да ангельскага *th*.

У дачыненні да слоў, якія не ўтрымліваюць галосных, напр., БН (сын), я раблю здагадку, што тут першапачаткова разумеўся кароткі гук *ы*, уяўляючы галосную, частую ва ўсіх усходніх мовах, але не маючы для сябе ў біблейскім альфабэце асобнага малюнка. Магчыма, без яе старажытныя народы і не ўмелі асобна вымаўляць зычныя гукі, а таму натуральна і не пазначалі яе.

Дакладна гэтак жа можна быць перакананым, што першапачатковым складальнікам розных альфабэтаў было не да таго, каб псаваць сваё вынаходніцства не маючымі карысьці ўмоўнасьцямі, ці вымаўленнем адной і той жа літары ў адных славах так, а ў іншых інакш. Як следства, літара *а* (жыдоўская Алеф) у іх заўсёды вымаўлялася як гук *а*, літара *і* (жыдоўская іод) заўсёды вымаўлялася як *і* (*й*), а не на ўсе лады, як зараз вымаўляюць гебраісты. Гэта ўжо пазнейшыя пераіначванні чытання галосных, калі біблейская мова ператварылася ў міжнародны навуковы жаргон і чужаземцы пачалі пераіначваць словы.

Сучасная “пунктуацыі” жыдоўскіх літар я не надаю ніякага значэння: ад яе не можа паходзіць нічога, акрамя шкоды для філолага-тэарэтыка, як пачаўшай выкарыстоўвацца толькі пад час сярэдніх стагоддзяў і таму я яе нідзе не выкарыстоўваю ў маёй кнізе.

Іераграфічны і кліпанісны альфабэты будуць паказвацца ў такім жа тлумачальным сэнсе ў адпаведных месцах наступных тамоў. Тут жа, у выглядзе аднаўлення Абідоскай і Сакарскай табліц, я пазначу толькі адно. Іераграфічная пісьмовасць не з’яўляецца першабытным спосабам чалавечага пісання. Якраз

наадварот: гэта больш складанае выкарыстанне .фанетычнага альфабэта. Яна падобна на сучасны *рэбус* і складаецца із усіх звычайных літар, але ускладнёных ідэаграфічнымі малюнкамі.

Уявіце сабе, што замест наймення, напр., “*бог Нілу*”, вам напісаліб “*б-огні-л-а*” і кампанент *огні* паказалі б двума ці трыма языкамі полымя, а астатнія пакінулі б у звычайным выглядзе літар. Так і ў іярогліфіцы, замест элінізіраванага выказвання “*неф-архірэй*”, г. азн. “*Нево* (*ці Меркурый, спадарожнік сонца*) – *вярхоўны цар*”, напісалі б “*Нефер-х-Рэ*”, пры гэтым *нефер* паказалі б *лютняй* (па-ягіпецкі: *нефер*), а Рэ паказалі б сонцам, сімвалам царскага звання. Із фанетычнай азбукі тут засталася б толькі літара *х* (яна ж і *k*). Толькі пры рэбусападобным падзеле прозвішчы ягіпецкіх царэй выяўляюцца маючымі сэнс і ў той жа час у іерогліфіцы выяўляецца моцны ўплыў грэцкай культуры.

-------------

Асабліва неспрыяльным для гэтага першага тому выкладаемай тут агульнай крытычнай апрацоўкі гісторыі старажытнага свету ў сявязі з узнікненнем у ім “прысвячэнічаства” (г. азн. хрысьціянства) у тым сэнсе, у якім я яго толькі што вызначыў, з’яўляецца тая абставіна, што гэты першы том не выходзіць адначасова з астатнімі пяццю тамамі, у якіх адмыслова разглядаюцца і вызначаюцца на новых храналагічных пачатках: старажытна-месапатамская, сірыйская, грэцкая, і італійская (а таксама тыбецкая і індустанская) культуры і дзе яны прыводзяцца да пагаднення паміж сабой і з гісторыяй сярэдніх стагоддзяў, набыўшай дзякуючы гэтаму массу новых дакументаў, лічыўшыхся ўзнікшымі за некалькі соцень і нават тысяч гадоў раней, чым гэта было на самай справе.

Над гэтым пытаннем я пачаў працаваць, хаця і з вымушанымі доўгімі перапынкамі, яшчэ з 1883 г., але асабліва шмат з часоў рэвалюцыі, упершыню даўшай мне надзею безперашкодна друкаваць свае высновы. Пры гэтым я выкарыстоўваў:

1. Астранамічны метад для вызначэння часу ўзнікнення помнікаў старажытнасьці, якія ўтрымліваюць дастатковыя астранамічныя сведчанні ў выглядзе савакупнасьці месцазнаходжання планет, сонечных і месяцовых зацьменняў і з’яўлення камет. Вынік даследавання гэтым метадам, ахопліваючым у мяне больш за 200 дакументаў, выявіўся ўражваючым: усе запісы грэцкіх і лацінскіх аўтараў, змяшчаючыя вылічваемыя астранамічныя з’явы пасьля 402 года н. э. падцвердзіліся і, наадварот, усе запісы пра зацьменні, планетныя спалучэнні і пра каметы (апошнія я параўноўваў з запісамі кітайскіх летапісаў Шэ-Кэ і Ма-Туань-Лінь, а спалучэнні вылічваў самастойна) не падцвердзіліся і прывялі да дат тым больш пазнейшых, чым больш раннімі яны лічыліся. Ад старажытнасьці даўней пачатку нашай эры нічога не засталося.

2. Геафізічны метад, заключаючыся ў вывучэнні таго, ці магчымы тыя ці іншыя буйныя гісторыка-культурныя падзеі і факты, пра якія нам паведамляюць старажытныя аўтары, пры маючыхся геаграфічных, геалагічных і кліматычных умовах пазначанай мясцовасьці. І гэты метад таксама даў адмоўныя вынікі за пачаткам нашай эры. Так, напрыклад, геалагічныя ўмовы наваколляў паўвыспы Цур (дзе размешчаюць старажытны Тыр) паказавае фізічную немагчымасць утварэння тут, так жа як на ўсім астатнім сірыйскім беразе ад вусьця Ніла да вусьця Эль-Асі (старажытная Аранта), якой-небудзь закрытай ад вятроў ці нават наогул зручнай для буйнога мараплавання гавані.

3. Матэрыяльна-культурны метад, які паказвае неадпаведнасць шмат якіх паведамленняў старажытнай гісторыі эвалюцыі прылад вытворчасьці і агульнага стану тэхналогій, так, напрыклад, пабудова храма Саламона у глыбіні Палестыны да пачатку нашай эры.

4. Этна-псіхалагічны метад, які заключаецца ў даследаванні таго, ці магчыма дапусьціць, каб тыя ці іншыя буйныя літаратурныя ці навуковыя творы, прыпісваемыя старажытнасьці, маглі ўзнікнуць на той ступені маральнай і разумовай эвалюцыі, на якой тады знаходзіўся дадзены народ.

5. Статыстычны метад, які складаецца ў параўнанні адзін з другім шматкроць паўтараючыхся з’яў і апрацоўка іхных дэталей абапіраючыся на тэорыю верагоднасьці. Прыкладам гэтага метада з’яўляецца выкладаемае тут параўнанне радаводу Ра-Месу і евангельскага Хрыста, а таксама дыяграматычныя параўнанні часоў працягласьці царавання цароў “ізраільскіх” і “іудэйскіх” з царамі Лаціна-Эліна-Сірыйска-Ягіпецкай імперыі пасьля Канстантына І і г. д.

Накалькі стройнай, непарыўнай, пасьлядоўнай і заканамернай робіцца эвалюцыя чалавечай культыры з новага боку гледжання, чытач пабачыць толькі із наступных тамоў. Тут жа па-сутнасьці я даю толькі ўводзіны да іх (якія ў той жа час з’яўляюцца і іхным канчатковым рэзультатам).

Мікалай Марозаў

Навуковы інстытут імя Лесгафта. Астранамічнае аддзяленне. 27 красавіка 1924 г.




# Прадмова да другога выдання.

Гэтае другое выданне адрозніваецца ад першага толькі тлумачэннем некаторых невызначаных месцаў у маім ранейшым выкладанні біяграфіі “Вялікага Цара” Чэцці-Мінеі (што я не мог зрабіць раней выхаду другой кнігі “Хрыста”, якая дае новую тапаграфію месца падзей) і выпраўленнем некаторых карэктурных памылак. Мае крытыкі да гэтага часу не паказалі мне нічога істотнага, з чым бы я мог пагадзіцца.

Мікалай Марозаў

Навуковы інстытут імя Лесгафта. Астранамічнае аддзяленне. 2 красавіка 1926 г.

# ПРАЛОГ.

Апакаліпсіс з астранамічнага і гістарычнага бакоў гледжання.

## Лекцыя Першая.

Пытанне, якое я маю намер абмяркаваць з вамі зараз, відавочна паказвае нам, да якой ступені папярэдняе знаёмства з натуральнымі і асабліва фізіка-матэматычнымі навукамі патрэбна для разумення ўсіх астатніх галін ведаў, нават такіх цёмных, як сярэднявечная тэалогія.

На думку артадаксальных тэолагаў, з дня з'яўлення Апакаліпсіса прайшло ўжо амаль дзве тысячы гадоў. Згодна з маімі астранамічнымі вылічэннямі, пра якія я агульназразумела распавяду вам далей, гэты тэрмін даводзіцца скараціць да паўтары тысячы гадоў. Але ўсё ж і такі прамежак часу вельмі вялікі, асабліва па колькасьці змен у палітычным і грамадзкім жыцці, у вобласці мастацтва, літаратуры і, асабліва, навукі. Можна сказаць, што за ўвесь папярэдні перыяд свайго жыцця чалавецтва на зямлі не перажывала нічога падобнага.

Мільёны людзей прачыталі за гэты час Апакаліпсіс, і цэлыя горы каментараў было напісана пра яго. Я без перабольшвання магу сказаць, што, калі б сабраць увесь рукапісны матэрыял гэтай кнігі, які існаваў у старажытных, даўно загінуўшых кнігасховішчах сярэдніх стагоддзяў да вынаходнітства друкарскага станка, і той, які назапасіўся з часу гэтага вынаходніцтва, то для захавання выдаткаванай паперы, напэўна, не хапіла б памераў нашай залы.




*Мал. 1. Сузор'е Ільва (Са старадаўняй лацінскай кнігі "Astrognosia" XVI ст. із кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі).*

Апакаліпсіс тлумачыўся ў гэтых кнігах з розных бакоў гледжання: з гістарычнага, містычнага, літаратурнага, прадказальніцкага... Не тлумачыўся ён да самага апошняга часу толькі з аднаго - астранамічнага - боку гледжання, з якога яго, перш за ўсё, і належала б тлумачыць.

Каб не быць голаслоўным, я зараз жа прывяду вам відавочны прыклад, які паказвае, як сфінкс адразу рассыпаецца, калі мы знаходзім яго разгадку.

Кожны із вас, хто хоць раз чытаў Апакаліпсіс, вядома, памятае тое яго месца ў IV главе, дзе аўтар выказваецца, што бачыў у небе чатыры жывёлы. Першая з іх было падобна на цяля, другая - на ільва, трэцця - з галавой, як у чалавека, і чацвёртая было падобна на ляцячага арла, і ўсе яны былі поўныя вачэй спераду і ззаду, усярэдзіне і навокал. У адным даўнейшым рукапісе я бачыў на малюнку і самі выявы гэтых істот у выглядзе рэальных жывёл: цяльца, ільва, цэнтаўра і крылатага каня Пегаса, да якога ў дадатак была дадзена арліная галава. А ўся скура гэтых жывёл была пакрыта вачамі: вочы ў іх былі і на спіне, і на хвасьце, і на нагах, і на жываце, вочы лёталі каля іх... Атрымалася нешта вырадлівае, жахліва-пачварнае...



*Мал. 3. Сузор’е Цяля. Із той жа “Астрагнозіі.*

А тым часам, калі б каментатары ведалі, што гэтыя чатыры жывёлы знаходзяцца і да гэтага часу на тым “шкляным моры”, у выглядзе якога для старажытных жыхароў уяўлялася нябеснае скляпенне; што кожны пад час яснай зорнай ночы можа іх назіраць у выглядзе адпаведных сузор'яў Ільва, Цяльца, Стралка і Пегаса; калі б яны ведалі, што на ўсіх старажытных мапах першых стагоддзяў хрысьціянства і нават аж да XIX стагоддзя каля згаданых сузор'яў акрэсліваліся контуры гэтых самых жывёл, прытым Стралок маляваўся менавіта ў выглядзе цэнтаўра з тулавам, як у каня і з галавой, як у чалавека; калі б яны ведалі, нарэшце, што ўсе гэтыя контуры старадаўнія астролагі лічылі сапраўды намаляванымі на “крышталічным купале неба” ці нават жывучымі на ім у выглядзе рэальных звяроў, і што ўсё яны "поўныя вачэй", г. азн. вечна мігаючых зорак, спераду і ззаду, усярэдзіне і навокал (мал. 2, 3, 4 і 5), - то яны зразумелі б, што тут толькі апісваецца адно із самых цудоўных відовішчаў зорнага неба, а не тыя шматвокія пачвары, якія стварыла іх дзікае, навукова непадрыхтаванае ўяўленне!




Мал. 4 і 24. Сузор’е Стралка з лукам у руках.

Для канчатковага ж высвятлення нагод, чаму аўтар Апакаліпсіса, перш за ўсё, апісаў гэтых жывёл, мне трэба вам сказаць яшчэ наступнае: усё скляпенне неба падзялялася ў старажытнасьці, ды падзяляецца і зараз, сваімі мерыдыяннымі лініямі на 24 палосы, якія маюць назву "гадзінамі простага ўзыходжання" неба. Усе гэтыя 24 палосы сыходзяцца каля палярнай зоркі, і ў нашых умераных краінах паўночнага паўшар'я зямлі, пры штосутачным руху неба, кожная з іх спачатку павольна ўзыходзіць на ўсходзе ніжняй сваёй палавінай, потым высока ўздымаецца да зеніту і як бы вартуе над прыкрываемай ёю краінай на працягу цэлай гадзіны, пасля чаго гэты “зорны вартавы” спускаецца да захаду, як бы падаючы на калені, пакуль ізноў не пачне ўздымацца на ўсходзе.




Мал. 5. Сузор’е Пегаса, крылатага каня (Із той жа “Астрагнозіі”).

Чатыры ж жывёлы, пра якія я вам згадваў, размяшчаюцца крыжападобна (мал. 6) сярод гэтых вечна змяняючых адзін аднаго вартаўнікоў скляпення неба старажытных. І знаходзяцца яны якраз на шляху, па якім, пры сваім уяўным руху, штогадова праходзіць сонца на працягу чатырох пор года.



*Мал. 6 і 16. 24 гадзіны-старцы. Сузор'і Ільва, Цяльца, Стралка і Пегаса на экліптыцы і паўночнага вянка над імі.*

Калі вы пры гэтым згадаеце, што на небе знаходзіцца яшчэ сузор'е Пасада (пазней пераназванае ў сузор'е Касіяпеі), а якраз насупраць гэтага Пасада, па іншы бок нябеснага полюса, у якім сыходзяцца ўсе 24 палосы гадзін прамога ўзыходжання неба, знаходзяцца яшчэ сем *полымевых лампад* - сем яркіх зорак (мал. 7) вядомага кожнаму із вас сузор'я "Вялікая Мядзведзіца", - то вы зразумееце, прачытаўшы наступнае месца із Апакаліпсіса, наколькі вялікая яго паэтычнасць, калі вы размесьціце ўсе паказаныя выявы на зорнае неба адпаведна з прыкладзенай мапай, уяўляючай тую палову неба, якая знаходзіцца на поўнач ад экліптыкі (шляхі сонца па небе), стар. 23:

"Вакол Пасада (*г. азн. сучаснага сузор'я Касіяпеі, якое мела ў старажытнасьці назву Пасада*. Мал. 7) было 24 сядалішчы (*г. азн. 24 крылы простага ўзыходжання неба*), і на іх сядзелі 24 старцы (*гадзіны сутачнага абарачэння скляпення неба*), апранутыя ў светлыя адзенні (*нябеснага блакіту*) і асененыя ўгары залатымі Вянцамі (*відавочная апіска перапісчыкаў, якія паставілі множны лік замест адзінага: у зеніце зорнага неба знаходзіцца ў гэты час Паўночны Вянок,* мал. 6). А ад пасада выходзілі маланкі і грамы і гукі (*надыходзячай навальніцы, кожны ўдар якой апісаны далей*) і гарэлі супраць яго сем палымяных лампад (*сем зорак Вялікай Мядзведзіцы, якая знаходзіцца насупраць сузор'я Пасада,* мал. 7) - сем духаў, заўсёды стаячых перад Грамабоем. Вакол жа Пасада шкляное мора (*скляпенне неба*), празрыстае, як крышталь, а пасярод мора і вакол Пасада знаходзяцца чатыры жывёлы (*чатыры сузор'і пор года*), поўных вачэй (*вечна мігаючых зорак*) спераду і ззаду".



Мал. 7. Сузор’е Пасада (зараз Касіяпея) і Сямізор’е (зараз Вялікая Мядзведзіца) насупраць яго, па другі бок ад Нябеснага Полюса.

"Першае з іх (*сузор'е ўсёпажыраючай восені*) падобна Ільву (мал. 6 і 2), другое (*сузор'е сілкуючага лета*) падобна Цяльці (мал. 6 і 3), трэццяе (*сузор'е ўсё забіваючай зімы* - *Стралок*) (мал. 6 і 4) мае твар, як у чалавека, а чацвёртая жывёла (*сузор'е вясны* - *крылаты конь* - *Пегас*, мал. 6 і 5) падобна ляцячаму арлу.

І мелі яны як бы на кожнага із сябе па 6 крылаў угары (*па шасьць крылападобных палос простага ўзыходжання неба*, мал. 6), а ўсярэдзіне сябе і навокал яны поўныя вачэй (*зорак*) і ні днём, ні ноччу не маюць супакою, усклікаючы (*сваім мігаценнем*): “святы, святы, святы ўладар наш, бог усёмагутны, той, хто быў, ёсць і будзе!”

Але калі гэтыя радкі з’яўляюцца выразам відавочна астранамічным (а далей я вам прывяду і яшчэ цэлы шэраг падобных месцаў), то, гэта азначае, Апакаліпсіс пабудаваны на астранамічным падмурку. Людзі, незнаёмыя з падставамі астраноміі, вядома, не маглі слушна растлумачыць гэтыя месцы і, натуральна, павінны былі прыпісваць ім нейкае таямнічае значэнне, як людзі, незнаёмыя з падставамі элементарнай геаметрыі, няўхільна павінны прыпісваць кабалістычнае значэнне самым простым яе формулам і знакам.

Але вы спытаеце мяне, якім жа чынам адбылося, што ніхто із астранамічна адукаваных людзей не даў у сярэднія стагоддзі такіх простых тлумачэнняў (хутчэй указанняў), і чаму гэтыя ўказанні зараз не былі прыняты ўсімі гісторыкамі і тэолагамі, як відавочныя? Якім чынам магло адбыцца, што асабістыя тлумачэнні самога аўтара Апакаліпсіса, які, вядома, разумеў сваю кнігу, маглі згубіцца сярод яго прыхільнікаў у сярэднія стагоддзі?

Адказ на такія пытанні дае нам сама гісторыя сярэднявечча.

Старажытны свет з яго навуковым светапоглядам і асабліва гісторыя першых стагоддзяў хрысьціянства зараз з'яўляюцца аддзеленымі ад нас як бы непранікальнай заслонай змрочнага царкоўнага самаўладдзя, якое прафільтравала на працягу XII-XV стагоддзяў праз полымя сваіх вогнішчаў усе гістарычныя дакументы і дапусціўшае да нас толькі тыя із іх, якія былі ўхвалены пануючай царквой, ды і то нярэдка ў напалову падробленым ці перарobленым да непазнавальнасьці выглядзе.

На самым пачатку гэтага мярцвяцкага перыяду павінны былі знікнуць і ўсе водгаласы астралагічных тлумачэнняў Апакаліпсіса, якія несумнеўна існавалі да таго часу. Згадаем толькі, што "кодэкс Юстыніяна", прыпісваемы VI стагоддзю, прыраўноўвае астролагаў да атрутнікаў і загадвае выкарыстоўваць для іх такія ж катаванні і караць сьмерцю, як і гэтых апошніх. Напісаць ці захаваць астралагічнае тлумачэнне на Апакаліпсіс, ужо абвешчаны, як нас запэўніваюць, на Карфагенскім саборы 397 г. боганатхнёнай, прароцкай кнігай, гэта было б у XII-XV стагоддзях прамым шляхам адправіцца на плаху ці на вогнішча...

Потым наступіў, нарэшце, світанак. Шматлікая паства тых самых манахаў, якія спальвалі ўсе кнігі, апроч артадаксальных, дзякуючы самай сваёй шматлікасьці, вымушана была дэмакратызаваць падмурак нават і дзяржаўнай царквы. У шматлікіх кляштарах, якія паўсюль узнікалі ў сярэднія стагоддзі, як грыбы ў восеньскі час, па ўсёй заходняй, паўднёвай і сярэдняй Яўропе, пачалі патроху, акрамя бяздзейных і фанатызыраваных манахаў, знаходзіць сабе прытулак і ўсе думаючыя людзі, стомленыя жыццём і яе бурамі і меўшыя жаданне

прысвяціць рэштку сваіх дзён назіранню і разважанням. Гэтыя людзі, разам з нешматлікімі па-філасофску-наладжанымі розумамі з прывілеяваных ці заможных станаў таго часу, пачалі культываваць не толькі адну артадаксальную тэалогію, але і ўсе рэшткі ведаў, якія дайшлі да іх праз мяртвяцкі перыяд рэлігійных праследаў часоў інквізіцыі. На рэалістычнай глебе адрадзіліся і набылі рэалістычнае адценне і ўсе ранейшыя навукі старажытнага свету - астралогія, алхімія, матэматыка і першыя зародкі фізікі і цалкам прыродазнаўства.

Але першапачатковыя астранамічныя тлумачэнні Апакаліпсіса ў гэты час ужо згубіліся, сама кніга была прызнана царквой за твор вучня Хрыста, былога рыбака Яна, і ў пацверджанне яе прыналежнасьці менавіта гэтай легендарнай асобе быў складзены цэлы шэраг падробленых тлумачэнняў ад імя розных біскупаў першых стагоддзяў і нават шэраг падробленых спрэчак гэтых біскупаў з нагоды яе паходжання.

Кожны, хто пачынаў вывучэнне Апакаліпсіса, падыходзіў да яго яшчэ не падрыхтаваны навукай, таму што тэалогія тады ставілася на чале ўсіх астатніх навук і вывучалася раней за іншыя. Дзякуючы гэтаму, у галаве кожнага спачатку ўзнікалі трывалыя асацыяцыі паміж рознымі выказваннямі Апакаліпсіса і адпавядаючымі ім містычнымі тлумачэннямі настаўнікаў. Гэтыя асацыяцыі былі да такой ступені непарыўнымі, што калі будучы навуковец, нарэшце, прыступаў да вывучэння астраноміі і ўласнымі вачамі бачыў на тагачасных мапах усіх апакаліптычных жывёл у іх дакладным выглядзе, то ўжо не мог адкінуць прэч староннія ўяўленні, якія падзялялі для яго непранікальнай сьцяной гэтыя роднасныя ці нават адпавядаючыя адна адной карціны ў дзвюх розных абласьцях ведаў.

Ён міжвольна лічыў гэтую тоеснасць за простую выпадковасць, а самую сваю думку пра аўтара Апакаліпсіса, як пра простага астролага, – за д'ябальскае насланне, ад якога трэба бегчы і пра якое небяспечна пісаць.

Амаль у такім жа становішчы знаходзіўся, відаць, і вялікі заснавальнік сучаснай матэматычнай астраноміі – Ньютан.

Калі, назаўсёды зняволены ў сьценах Аляксееўскага равеліна, а потым у Шлісельбургскім умацаванні, я ўпершыню прачытаў Апакаліпсіс і адразу пабачыў у некаторых яго выявах надзвычай жывое і паэтычнае апісанне зорнага неба, я адразу зразумеў, што згодна з выкладзеным у VI главе гэтай кнігі астралагічным гараскопам моманту назірання, як і згодна з кожным іншым гараскопам, не цяжка вылічыць з астранамічнай дакладнасьцю не толькі год і дзень, але нават і саму гадзіну зорных назіранняў аўтара, і мне вельмі захацелася даведацца, што напісаў Ньютан пра Апакаліпсіс.

Мне было відавочна, што, як астраном, ён не мог не разумець чыста астранамічных выказванняў, якія перапаўняюць амаль увесь Апакаліпсіс і дзіўных толькі для недасведчаных у астраноміі. Але як бы я мог тады, адрэзаны ад усяго жывога свету, дастаць каментар Ньютана? Толькі пазней, калі бура, што прамчалася над краінай у 1905 г., выкінула мяне са сьцен Шлісельбургскага ўмацавання, я змог здабыць Opuscula Ньютана, у якім змяшчаецца яго даследаванне пра Апакаліпсіс і прытым адразу ў двух версіях: адна на лацінскай мове, атрыманая ў якасьці падарунка ад майго сябра Л. Ф. Панцялеева, і другая на старажытнай ангельскай мове, часова, із бібліятэкі Пулкаўскай абсерваторыі. Абедзве версіі былі амаль аднолькавымі, але ні ў адной я, да свайго вялікага

засмучэння, не знайшоў ніякага выразнага намёку на тое, каб Ньютану быў вядомы астралагічны сэнс шматлікіх месцаў даследуемай ім кнігі.

Дарэчы, ужо пасьля некалькіх старонак чытання для мяне зрабілася зразумелым, што Ньютан не мог, ды і не пажадаў бы паведаміць усяму свету пра свае супастаўленні, калі такія і былі. Ужо напачатку свайго тлумачэння ён папярэджвае чытача, што Апакаліпсіс – кніга, напісаная пад дыктоўку самога бога, і чытаць яе немагчыма як кожную іншую кнігу.

“The folly of interpreters, - выказваецц ён, - hath been to fortell times and things by this profecy, as if God designet to make them prophets... The design of God was much otherwise. He gave this, and the (ancient) prophecies not to gratify men's curiosities by enabling them to forknow things, but that after they were fulfild, they might be interpreted by the event, and his own providence, not the interpreters, be then manifested therby to the world.”

(Neutoni Opera, Londini. 1785. T. V. P. 441).

Што азначае:

“Вар'яцтва тлумачальнікаў заключалася ў тым, што яны хацелі прадказваць тэрміны і падзеі, як калі б бог ўпаўнаважыў іх быць прарокамі... Намер бога быў цалкам іншым. Ён даў гэта прароцтва, як і прароцтвы Старога Запавету, не для таго, каб задаволіць чалавечую цікаўнасць, дазволіўшы людзям ведаць падзеі загадзя, але для таго, каб пасьля выканання яны былі патлумачаны самімі фактамі, і ўласнае прадбачанне бога, а не прадбачанне тлумачальніка, зрабілася адкрытым сьвету”.

Без слоў зразумела, што самы светлы розум, падышоўшы да прадмета свайго даследавання з падобнымі прадузятымі думкамі, не мог бы і не захацеў бы сказаць нічога іншага, акрамя таго, што ён сам сабе загадзя ўнушыў.

Так было і з Ньютанам. Толькі што апісаная мной вам чужая выява сузор'яў чатырох пор года - Ільва, Цяляці, Пегаса і Стралка – пачала ўяўляцца яму ў "іншасказальным сэнсе", як адлюстраванне чатырох херувімаў біблейскага сусвету, а шкляное мора, на якім яны стаялі, не "нябесным скляпеннем", а меднай падлогай каля палестынскага ахвярніка!

Калі Ньютан і заўважыў, што шмат якія месцы Апакаліпсісу змяшчаюць дакладныя астранамічныя выказванні, то ён пабаяўся адкрыць гэта перад кожным, кіруючыся, магчыма, той містычнай ідэяй, што “схаванае богам ад людзей на працягу паўтары тысячы гадоў” і адкрытае толькі аднаму яму, Ньютану, ён не мае права публікаваць для ўсеагульнага ведама. У яго Opuscul'ах нават ёсць адна акалічнасць, якая прама наводзіць на такую думку. Справа ў тым, што із усіх біблейскіх пракрокаў Ньютан напісаў містычныя каментары толькі да трох, і як раз да тых, якія маюць чыста астралагічны характар, пакінуўшы ў баку ўсе іншыя прадказанні, у якіх астралогія адсутнічае! Зразумела, што для яго, як для астранома, менавіта гэтыя тры астралагічныя кнігі - Апакаліпсіс Яна і кнігі Іезекііла і Данііла - і павінны былі прадстаўляць асаблівую цікавасць, а таму ён і даследаваў выключна толькі іх, пакінуўшы свае астралагічныя здагадкі выключна для сябе ці нават зашыфраваў іх у сваіх каментарах якім-небудзь звычайным для таго часу спосабам, якога яшчэ ніхто не мог расшыфраваць.

Такім было стаўленне старых астраномаў да Апакаліпсіса. Што ж да новых, то большасць з іх, да выдання маёй кнігі "Адкрыцьцё ў навальніцы і буры", верагодна, ніколі нават і не дакраналіся да Апакаліпсіса, ды і наогул да рэлігійных кніг; толькі адзін Скіяпарэлі нядаўна напісаў даследаванне пра астраномію ў Бібліі.

Дакладна тое ж, несумненна, было б і са мной, калі б не выключныя абставіны майго жыцця, пра якія я вам ужо згадваў. Калі ў 1882 г. я быў пажыццёва зняволены ў Аляксееўскі равялін Петрапаўлаўскага ўмацавання без права чытання якіх бы там ні было кніг і без права мець якія б там ні было стасункі са знешнім светам ці ўласнымі таварышамі па зняволенню, я быў ужо дастаткова падрыхтаваны астранамічна. Варта было мне толькі заплюшчыць вочы, і ўвесь цудоўны малюнак нябеснага скляпення з усімі яго мігатлівымі сузор'ямі паўставаў ў маіх успамінах як быццам наяву. Таму зразумела, што калі праз палову года нас палічылі дастаткова падрыхтаванымі адзінотай для ўспрымання праваслаўнага вучэння і выдалі кожнаму па Біблії, то я з прагнасьцю накінуўся на яе, каб знайсьці ў ёй новы, яшчэ не распрацаваны мной матэрыял для разважанняў і каб пазнаёміцца праз яе са светапоглядам старажытных. Пра Апакаліпсіс я ў гэты час быў знаёмы толькі дзякуючы знакамітаму некалі раману Чарнышэўскага "Што рабіць?", дзе адзін із герояў выказваецца, што каментар Ньютана да Апакаліпсіса надзвычай цікавы дакумент, бо ўяўляе сабой тлумачэнне вар'ята на вар'ята, таму што і Ньютан і аўтар Апакаліпсіса "пісалі гэтыя творы ў вельмі старэчым узросьце, калі страцілі яснасць розуму".

З гэтым запазычаным уяўленнем пра Апакаліпсіс я і ўзяўся за яго чытанне і раптам адчуў, што чытаю зусім не трызненне хворага, а цудоўную паэтычную кнігу, незразумелую для астранамічна непадрыхтаванай большасьці, але зразумелую і ясную для тых, хто мае схільнасць да назірання зорнага неба, хто прывык ў зорную ноч зліваццa з ім ўсёй сваёй душой, хто ў нямым захапленні назіраў і запамінаў усе адбываўшыяся на ім сутачныя і гадавыя перамены...[2]

Але ёсць нагоды, дзякуючы якім лёгкае і выразнае разуменне старажытных навуковых кніг з’яўляецца цяжкім нават і для энцыклапедычна адукаванага чалавека. Ужо занадта далёка адышоў наш сучасны светапогляд ад светапогляду старажытных!

Для прыкладу пакажу вам хоць бы адрозненні нашага ўяўлення пра сусвет і сярэднястагоддзевымі ўяўленнямі пра яго.

Сучасны астранамічна адукаваны чалавек лічыць атачаючую яго прастору бясконцай па ўсіх напрамках, і ўверх, і ўніз, і направа, і налева. І ўся яна напоўнена, як бяздонны акіян вадой, надзвычай тонкім і пругкім рэчывам, напаўняючым усе нябачныя, але шматлікія паміжмалекулярныя прамежкі нашых уласных целаў і навакольных нас прадметаў, падобна таму, як вада напаўняе у глыбіні мора ўсе поры жывучых у ёй губак. У гэтым бясконцым акіяне сусветнага эфіру паўсюль праносяцца, з галавакружачай хуткасьцю трохсот тысяч кіламетраў у секунду, хвалі святла, цеплыні і іншых відаў прамяністай энергіі, як акорды вечнай, ніколі не змаўкаючай музыкі сусветаў, якая зыходзіць ад кожнага атама нябесных свяцілаў. Гэтыя хвалі скрыжоўваюцца паміж сабой, перасякаюцца па ўсіх напрамках у кожнай драбнюткай кропцы нябеснай прасторы, абмываюць сваімі ўсплёскамі кожны атам шматлікіх сьвяцілаў і ўсіх істот, якія знаходзяцца на іх, і выклікаюць у іхных атамах у адказ водгукі і хвалі, сапраўды гэтак жа выносячы ў бясконцасць, утвараючы з усяго сусвету як бы адзін суцэльны акорд – нідзе і ніколі не змаўкаючы голас яе вечнага жыцця. І самі нябесныя сьвяцілы, узятыя цалкам, ніколі не застаюцца ў спакоі. Яны кружацца, круцяцца адзін каля аднаго і цэлымі чародамі імчацца кудысьці ўдалечыню сусветнай прасторы, кружачыся вакол яшчэ невядомага цэнтра нашага зорнага неба...

---

[2] Гл. Маю кнігу “Адкрыццё ў навальніцы і буры”. 1907 г.

Нераўнамерна напоўнена імі прастора сусвету. У яго бясконцасьці то тут, то там плаваюць, як архіпелагі выспаў на моры, асобныя зорныя згуртаванні, кожнае із мільёнаў сьвяцілаў, згрупаваныя разам як бы ў зорныя вянкі. (Мал. 8). Усе бачныя нашаму воку сьвяцілы складаюць толькі нязначную вобласць ўнутры аднаго із такіх вянкоў і па-за гэтай вобласьцю мы ўжо не можам разабраць простым вокам ні адной асобнай зоркі.




Мал. 8. Схема пабудовы нашага зорнага згуртавання (галактычная сістэма сусветаў)

Дэталёвае вывучэнне агульнага выгляду неба і шчыльнасьці размяшчэння зорак у яго розных частках паказвае нам, што гэты зорны вянок знаходзіцца ўнутры іншага такога ж вянка (мал. 9), зоркі якога зліваюцца ў аперазваючую усё бачнае намі неба бурштынава-белаватую паласу. Гэтая паласа здаецца для нас больш шырокай за сузор'ем Арыёна, дзе вонкавае кола знаходзіцца да нас бліжэй за ўсё, і здаецца нам больш вузкай за сузор'ем Скарпіёна, дзе кола найбольш выдалена ад нас, як гэта і павінна быць згодна з правіламі перспектывы.

Што ж да ўнутранага зорнага вянка, у якім мы жывем, то відавочна, што ён не можа нам здавацца ахопліваючым усю сферу бачнай намі прасторы сусвету, але толькі яго палову, а зблізку нас гэты вянок павінен распадацца для нашых вачэй на тысячы зорак. Гэта вельмі відавочна вы можаце бачыць пры разгляданні маёй схемы. Вы бачыце на ёй, што кожны прамень гледжання, які ідзе ўніз із кропкі A, дзе мяркуецца наша знаходжанне, не сустрэне ўжо на сваім шляху ніводнай часткі ўнутранага кола, зліваючайся ў паласу. Ён сустрэне толькі яго асобныя зоркі. Дакладна гэтак жа і ўсе прамяні гледжання, якія ідуць хоць бы і ўскосна у правую палову схемы. Цалкам не тое, калі мы праектуем на нашым плане прамяні гледжання ў левым накірунку. Тады кожны з іх сустрэне ў аддаленні суцэльную частку ўнутранага кола, а таму зразумела, што перспектыўна паласа гэтага кола будзе нам здавацца працягваючайся толькі па палове неба левай гемісферы чарцяжа. Акрамя таго, гэты ўнутраны вянок мае не раўнашчыльную, а хмарную пабудову, г. азн. складзены са шматлікіх зорных згураванняў.



Мал. 9. Перспектыўны выгляд нашага зорнага згуртавання (галактычнай сістэмы сусветаў). Перарывы на паўночнай гемісферы лягчэй за ўсё растлумачыць закрываючымі гэтую частку неба міжзоркавымі воблакамі і особныя зацямненні – цёмнымі вялікімі збіраннямі першагоднага рэчыва каля цэнтра абарачэння усёй гэтай сістэмы сусветаў.

Із гэтага зразумела, што калі б абодва гэтыя вянкі ляжалі ў адной плоскасьці, то ўнутранае кола напалову засланяла б вонкавае. Але, на шчасьце для нас, плоскасць, у якой яно ўтварылася, злёгку нахілена да плоскасьці вонкавага зорнага кола. З гэтай нагоды другое ўнутранае кола, у адной із абласьцей якога мы жывем, і здаецца нам згодна з законамі перспектывы як бы адгалінаваннем вонкавага кола Млечнага Шляху, тым самым адгалінаваннем, якое пачынаецца на нашай паўночнай гемісферы амаль за сузор'ем Лебедзя і заканчаецца на паўднёвай гемісферы амаль за сузор'ем Карабля (мал. 9).

Пра тое, што знаходзіцца ў цэнтры кручэння абодвух гэтых зорных вянкоў, мы пакуль не можам сказаць нічога пэўнага. Вельмі магчыма, што тут размешчаны адно або некалькі із тых таямнічых цёмных і авальных утварэнняў неверагодна вялікіх, якія ў астраноміі ўдала называюцца вугальнымі мяшкамі неба. Самы вялікі із такіх мяшкоў віднеецца за сузор'ем Паўднёвага Крыжа, другі - за сузор'ем Лебедзя і цэлы шэраг - за сузор'ем Скарпіёна, за якім тэарэтычна і павінен бы знаходзіцца цэнтр кручэння абодвух вянкоў нашай зорнай выспачкі.

Адсюль вы бачыце, што калі б вы паляцелі з нашай зямлі на чароўным караблі, нясучымся ў прасторы з хуткасьцю ў тысячу разоў большай за хуткасць святла, вы ў адно імгненне праляцелі б міма нашага сонца і ўсіх яго планет і праз некалькі хвілін апынуліся б каля бліжэйшай да нас зоркі. Затым за некалькі хвілін вы даляцелі б да наступнай за ёю зоркі і, працягваючы імчацца з такой жа хуткасьцю, дасягнулі б апошняй зоркі нашага зорнага вянка. Пасьля гэтага вы заляцелі б ў той цёмны, не змяшчаючы зорак праліў паміж двума коламі нашага збірання, дзе не сустрэлі б больш ніводнай зоркі. Потым вы заляцелі б у вонкавае кала і зноў праляцелі б паміж тысячамі яго зорак: белых, жаўтаватых, чырвоных, аранжавых, зялёных, блакітных, сініх і патухлых, пакуль не патрапілі б у іншую, яшчэ непараўнальна больш велічэзную пустыню сусветнай прасторы. Там вы, абмінуўшы за некалькі гадзін усё наша зорнае неба, ляцелі б цэлыя тыдні і месяцы да таго часу, пакуль пры прыпынку (таму што пры такой хуткасьці вы ўжо не маглі б нічога бачыць) усё наша зорнае неба здалося б вам толькі простай імглістай плямкай, ледзь даступнай для вашага зроку!

Але затое там удалечыні перад вашымі вачамі ўжо з'явілася б новая такая ж плямка, новы архіпелаг зорак у бясконцым акіяне Сусвету, новыя зорныя нябёсы з

Усюды пазначаецца, што аўтар паказвае гэтае становішча планет для дня свайго назірання, а ніяк не для якога-небудзь будучага года.

"Г. азн., - прыйшло мне ў галаву пры першым жа чытанні гэтай кнігі, – калі б мне ўдалося вызначыць, у які час ўсе гэтыя планеты былі ў названых сузор'ях, то я з астранамічнай дакладнасьцю вызначыў бы і год, у якім быў напісаны Апакаліпсіс". Тэорыя верагоднасцей прама паказвала мне, што калі б гэтае апісанне было фантазіяй аўтара, або маё разуменне памылковым, то я не знайшоў бы ні аднаго дня на працягу першых шасьці-сямі стагоддзяў, у які б пазначаныя тут планеты знаходзіліся б у пазначаных для іх пунктах неба.

Але ў мяне тады не было планетных эфемерыд для такога даследавання. Толькі праз 20 гадоў адзіночнага зняволення, ў 1901 годзе, я атрымаў, нарэшце, у Шлісельбургскім умацаванні магчымасць зрабіць неабходныя вылічэнні і адразу ж узяўся за іх. Асновай ўсёй працы паслужылі мне становішчы Юпітэра і Сатурна, як планет з найбольш доўгімі перыядамі абарачэння. Я вылічыў, перш за ўсё, тыя гады, калі Юпітэр быў бачным із зямлі ў сузор'і Стралка, і атрымаў першы слупок прыведзенай тут табліцы за дзесяць стагоддзяў нашай эры і часткова да яе. Затым вылічыў усе гады, калі Сатурн быў у Скарпіёне, і атрымаў другі слупок. Пасьля вызвалення са Шлісельбургскага ўмацавання я яшчэ працягнуў яго ад мінус 282 года за пачатак нашай эры і да 1723 пасьля яго (табл. I).

Згодна з апісаннем Яна неабходна, каб Юпітэр быў у той жа год у Стралку, калі Сатурн у Скарпіёне. Але, прагледзеўшы атрыманыя мною даты, я пабачыў (ды і вы самі бачыце із табліцы I), што такога супадзення ніколі не было за першыя тры стагоддзі нашай эры і за два з паловай да яе. Шукаць жа падобных спалучэнняў яшчэ раней -282 года не мела сэнсу, так як аўтар відавочна хрысьціянін. Толькі ў 395 годзе вы бачыце тут першае неабходнае супадзенне месцазнаходжанняў Юпітэра і Сатурна (мал. 29) з іхнымі становішчамі пазначанымі ў Апакаліпсісе[13].

[13] У 335, 336 і 337 гадах мы знаходзім як бы некаторыя дадзеныя для знаходжання падобнага спалучэння планет Сатурна, Юпітэра і Марса, але і толькі для адных гэтых трох планет адсутнічае бездакорная адпаведнасць. У 333 годзе Юпітэр у верасні прыйшоў у сярэдзіну сузор'я Стральца толькі геліяцэнтрычна, а геацэнтрычна быў яшчэ толькі на яго пачатку, а Сатурн у гэт час быў яшчэ толькі ў Шалях і толькі ў студзені 337 года Сатурн дайшоў да сярэдзіны Скарпіёна. Хаця ў 336 годзе Сатурн мог бы ўжо лічыцца ў Скарпіёне, але Юпітэр ужо пакідаў Стральца, а Марс, як паказвае трэцці радок табліцы, быў у гэты час на супрацьлеглай ад Персея гемісферы неба (гл. далей у тэксце). А ў 337 годзе Юпітэр быў ужо ў Казярогу. Аднак, я усётакі зрабіў вылічэнні астатніх планет і для 335 года, калі Сатурн і Марс усётакі былі блізка ад пазначаных сузор'яў (у суседніх ад іх). Вылічэнні восеньскіх маладзікоў дало тут магчымыя даты: 1) Маладзік каля чацвярга 4 верасня і тады апакаліптычная канселяцыя прыпала б на нядзелю 7 верасня. Але ў такім выпадку Венера была б на процілеглым ад сонца баку неба ў Раку і за "Перамагаючага" давялося б прыняць хіба што толькі Арыён. Аднак Венера праз яго не праходзіць ніколі і была б вельмі далёка ад яго і аддалялася б яшчэ больш. Меркурый жа знаходзіўся не ў Шалях, а ў Панне, градусаў на сем лявей сонца. Гэта азначае, што гэтая дата не падыходзіць. 2) Маладзік пад пятніцу 3 кастрычніка 335 г. таксама не падыходзіць. Пры ім Апакаліпсіс мог быць напісаны ў нядзелю 5 кастрычніка 335 г. Аднак, Венера у гэты дзень была ў Ільве, а не пад Змеятрымальнікам, а Меркурый – у Панне, а не ў Шалях. Такім чынам, пры ўсіх намаганнях і нават высілках, мы не маем магчымасьці прызначыць для часу ўзнікнення Апакаліпсіса ніводны із тэрмінаў раней 30 верасня 395 года, пачынаючы нават ад III ст. за пачатак н. э. Далей у глыбіню стагоддзяў я вылічэнняў не праводзіў з нагоды безсэнсоўнасьці.



Мал. 29. Сузор’е Скарпіёна. (Із латынскай “Астрагнозіі” Пулкаўскай абсерваторыі).

Табліца I, якая паказвае, што ад 282 года да пачатку нашай эры і да 1723 г. пасьля пачатку адначасовае знаходжанне Сатурна ў сузор'і Скарпіёна, Юпітэра ў сузор'і Стралка і Марса ў сузор'і Авена (пад Персеем) у восеньскі час года было толькі ў 395, 632, 1249 і 1486 гадах нашай эры.

| Гады, калі Сатурн быў пасярэдзіне сузор’я Скарпіёна (250° сучасн. Даўг. геліацэн.) | Гады, калі Юпітэр быў пасярэдзіне сузор’я Стралка (263° сучасн. Даўг. геліацэн.) | | | |
|---|---|---|---|---|
| -262,49 | -261,94 | | | |
| -253,04 | -256,21 | | | |
| -223,56 | -222,63 | | | |
| -194,12 | -195,9 | | | |
| -164,66 | -163,32 | | | |
| -135,21 | -139,59 | | | |
| -105,75 | -104,01 | | | |
| -76,29 | -50,25 | | | |
| -16,54 | -44,70 | | | |
| -17,38 | -20,97 | | | |
| 13,5 | 15,61 | | | |
| 42,54 | 39,34 | | | |
| 72,00 | 74,92 | | | |
| 101,45 | 95,56 | | | |
| 130,91 | 134,23 | | | |
| 160,37 | 157,96 | | | |
| 189,52 | 193,54 | Рэшткі ад цэлай лічбы зорных абаротаў Марса да яго прыхода ў сузор’е Авена пад Персеем, калі сонца было ў Панне (верасень-кастрычнік). | | |
| 219,25 | 217,27 | | | |
| 245,74 | 252,55 | | | |
| 275,2 | 276,55 | Параўнальна з 1847 г. | Параўнальна з 1832 г. | |
| 307,65 | 312,16 | | | |
| 337,11 | 335,59 | 0,367 | 0,39 | для 336 г. |
| 366,56 | 371,47 | 0,90 | 0,92 | для 335 г. |
| NB. 395,99 | ˆ395,20 | ˆ0,9987 | ˆ0,002 | для 395 г. NB |
| 425,45 | 430,75 | | | |
| 454,95 | 454,51 | 0,620 | 0,67 | для 454 г. |
| 464,4 | 490,09 | | | |
| 513,65 | 513,51 | 0,260 | 0,29 | для 513 г. |
| 543,31 | 549,4 | | | |
| 572,77 | 573,12 | 0,36 | 0,35 | для 578 г. |
| 602,23 | 605,71 | | | |

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| 631,65 | NB. 632,43 | 0,99 | 0,01 | для 632 г. NB |
| 661,14 | 665,02 | | | |
| 690,59 | 691,74 | 0,62 | 0,64 | для 691 г. |
| 720,05 | 727,33 | NB. Цэлая лічба зорных абарачэнняў Марса дала для гэтай серыі супадзенняў Сатурна і Юпітэра толькі ў 395 і горш у 632 г. Але толькі 30 верасня 395 г. быў нядзельны маладзік і сузор'і Панны і меліся задавальняючыя становішчы і Венеры і Меркурыя. | | |
| 749,51 | 751,05 | | | |
| 775,97 | 786,64 | | | |
| 805,42 | 810,36 | | | |
| 837,85 | 834,09 | | | |
| 867,33 | 869,67 | | | |
| 896,79 | 905,26 | | | |
| 926,25 | 964,57 | | | |
| 955,7 | 985,29 | | | |
| 985,17 | 1012,02 | Рэшткі ад цэлай лічбы зорных абарачэнняў Марса да яго сапраўднага прыходу ў сузор'е Авена і пад Персея, у той час калі сонца было ў Панне (верасень-кастрычнік). | | |
| 1014,62 | 1047,61 | | | |
| 1044,05 | 1071,33 | | | |
| 1073,54 | 1106,92 | | | |
| 1102,99 | 1130,64 | | | |
| 1132,45 | 1166,23 | Параўнальна з 1847 г. | Параўнальна з 1832 г. | |
| 1161,91 | 1189,95 | | | |
| 1191,36 | 1225,54 | | | |
| 1220,52 | NB. 1249,26 | 0,94 | 0,97 | для 1249 г. NB |
| 1250,25 | 1264,55 | | | |
| 1279,74 | 1308,57 | 0,57 | 0,60 | для 1308 г. |
| 1309,19 | 1332,30 | | | |
| 1338,65 | 1367,85 | 0,20 | 0,23 | для 1367 г. |
| 1387,56 | 1403,47 | | | |
| 1427,02 | 1427,19 | 0,35 | 0,36 | для 1427 г. |
| 1456,47 | 1450,92 | | | |
| 1465,94 | NB. 1486,50 | 0,93 | 0,96 | для 1486 г. NB |
| 1515,39 | 1510,22 | | | |
| 1544,54 | 1545,51 | 0,56 | 0,59 | для 1545 г. |
| 1574,31 | 1561,39 | NB. Амаль поўны лік зорных абарачэнняў Марс даў на працягу гэтай серыі супадзенняў Юпітэра і Сатурна толькі у 1249 і ў 1486, але ні адзін із гэтых двух гадоў не задавальняе становішчу Венеры і Меркурыя і маладзіку ў сузор'і Панны ў нядзелю. | | |
| 1603,76 | 1605,12 | | | |
| 1633,22 | 1625,54 | | | |
| 1662,65 | 1664,43 | | | |
| 1692,13 | 1685,15 | | | |
| 1721,59 | 1723,74 | | | |

**Гэта азначае, прыйшоў я да высновы, кніга была напісана ў 395 годзе.**

Прысутнасць Сонца ў Панне (і ўказанне на жніво) вызначае месяц верасень, а становішча Месяца дапаможа вызначыць мне, думаў я, і самы дзень, так як Месяц рухаецца вельмі хутка.

Я зрабіў адпаведныя вылічэнні і знайшоў, што Месяц праходзіў (як паказана ў главе XII) пад нагамі Панны толькі 30 верасня (мал. 29). **Гэта азначае,назіранне Яна здзяйснялася 30 верасня 395 года, ні днём раней, ні днём пазней.**




Рис.29.
Положения "шести планет" 30 сентября 395 года. Ю. - Юпитер в Стрельце (280° эклиптикальной долготы и - 0°3 широты). С. - Сатурн в Скорпионе (242° эклиптикальной долготы и + 1°5 широты) В. - Венера под ногой Змиедержца (248° эклиптикальной долготы и - 1°3 широты). М. - Меркурий в Весах (232° эклиптикальной долготы и - 3° широты). ☽ и ☉. - Луна и Солнце в ногах Девы (207° эклиптикальной долготы).

Мал. 29. Становішча “шасьці планет” 30 верасня 395 года: Ю – Юпітэр у Стралку (280° экліптычнай даўжыні і 0,3° шырыні); В – Венера пад нагой Змеятрымальніка (248° экліптычнай даўжыні і 1,3° шырыні). М – Меркурый у Шалях (232° экліптынай даўжыні і 3° шырыні); Месяц (серп) і Сонца (кола з кропкай пасярэдзіне) у нагах у Панны (207° экліптычнай даўжыні).

Такім чынам, час з'яўлення кнігі быў вызначаны мной з астранамічнай дакладнасьцю яшчэ ў той час, калі я быў у Шлісельбургскім умацаванні.

Аднак, Апакаліпсіс выдатны не толькі тым, што час яго стварэння можна вызначыць па становішчу планет, але яшчэ і тым, што ў дакладнасьці атрыманага выніку можна пераканацца шэрагам іншых дакладных спосабаў. Вось некаторыя із іх:

У першай главе аўтар паведамляе, што бачыў усё, апісанае ім, у нядзелю. Якім днём тыдня было 30 вер 395 года? – Задаў я сабе пытанне. – Калі я памыліўся, то, згодна з тэорыяй верагоднасьцей, павінен атрымацца іншы дзень. Я зрабіў вылічэнні і атрымаў, што 30 верасня 395 года сапраўды была нядзеля.

*Сапраўды 30.09. 395 г. згодна са старым стылем была нядзеля, Месяц і Сонца ў Панне, маладзік, дарэчы, быў 29-га!!! (Праверыць можа кожны за 2 секунды - "Вечны каляндар"? А. Лысенка) Не прыдумляе Марозаў! І колькі ж яму давялося на паперцы ў слупок лічыць, хаця не - ужо, як быццам бы, арыфмометры з'явіліся:) J.*

Затым, у главе VI сказана, што вогненна-чырвоны конь – Марс – быў пад Персеем. Калі мае высновы (зробленыя толькі па Сатурну, Юпітэру, Сонцу і Месяцу) правільныя, то ён тут і выявіцца; калі ж не, то, згодна з тэорыяй верагоднасцей, немагчыма будзе знайсьці яго ў гэтым месцы неба. Я зрабіў вылічэнні і знайшоў, што 30 верасня 395 года Марс быў пад Персея (мал. 30).

| 105° | 90° | 75° | 60° | 45° | 30° | 15° | 0° | 15° | 30° |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Вазнічы | | | Персей | | | | Андрамеда | | |
| | | | | | | | | | 0° |
| | | | | | | ° Марс | | | -5° |
| | | Цяля | | | | Авен | | Рыбы | |

Мал. 30. Становішча Марса ў Авене пад мячом Персея 30 верасня 395 года (пад 36° экліптыкалнай даўжыні і -2,5° шыраты).

Потым, у той жа главе сказана, што Меркурый быў у Шалях. Калі мае вылічэнні правільныя, вырашыў я зноў, то ён і выявіцца ў Шалях. Я зрабіў патрэбныя вылічэнні і сапраўды знайшоў Меркурый у глыбіні сузор'я Шаляў (мал. 27).

Затым у главе другой (2.28) гаворыцца: "Перамагаючаму (*г. азн. Змеятрымальніку, астральнаму сімвалу выратавальніка сусвета, над якім стаіць зорны Геркулес, збіваючы дубінай змей, мал. 31*) дам ранішнюю зорку". Я зрабіў вылічэнне і знайшоў Венеру 30 верасня 395 года як раз у нагах Змеятрымальніка (мал. 29).



Мал. 31. Сузор'і паміж полюсам экліптыкі ў сузор'і Цмока (злева) і нябесным Ахвярнікам (зправа). Над Ахвярнікам – Скарпіён у адгалінаванні Млечнага Шляху, над ім Змеятрымальнік трымае Змея, які адкрывае пастку на Нябесны Вянок, а вышэй Геркулес, збіваючы дубінай змей і топчучы Цмока.

**Усе планеты апынуліся на пзначаных месцах.**

Я мог бы вам прывесьці цэлы шэраг іншых падцверджанняў маёй даты як у такім жа астранамічным, так і ў чыста гістарычным родзе. Але для вас, як знаёмых з астраноміяй, дастаткова і гэтых, каб пераканацца ў тым, што з боку гледжання тэорыі верагоднасцей пытанне пра час з'яўлення Апакаліпсісу мы зараз можам лічыць канчаткова вырашаным. Нават цэлыя кіпы сумніўных сведчанняў із рук сярэднястагоддзевых манахаў не маглі б пераважыць гэтыя нешматлікія астранамічныя высновы, падобна таму, як цэлыя горы рукапісных паведамленняў пра знаходжанне якой-небудзь планеты не ў тым месцы неба, у якім яна вызначаецца сучаснымі астранамічнымі вылічэннямі, не могуць пахіснуць меркаванне астранома, праверыўшага свае вылічэнні.

Аднак каб раз і назаўсёды закончыць з гэтым пытаннем, паказаўшы, што ніякіх іншых дат для Апакаліпсіса астраномія не дае, я, пасьля вызвалення са Шлісельбургскага ўмацавання на прыканцы 1905 года, праверыў з дапамогай Марса і ўсе іншыя даваемыя Юпітэрам і Сатурнам даты. Гэта вы можаце зрабіць і самі такім жа простым спосабам, як я зараз пакажу. Я ўзяў французскія астранамічныя календары (Connaissance des temps) за 1817 і 1832 гады, калі Марс на прыканцы верасня як раз быў геацэнтрычна ў тым жа самым становішчы, якое паказана ў Апакаліпсісе. Зразумела, што калі б ні існавала пазначанае Янам становішча, але поўная колькасць гадоў паміж ім і кожнай із двух знойдзеных мною дат у астранамічных календарах павінна нацэла дзяліцца на час сярэдняга

зорнага абароту Марса, роўнаму 1,880832... долям сярэдняга зямнога зорнага года. Гэта азначае, ўсякая дата, якая не задавальняе гэтаму патрабаванню, г. азн. якая дае рэшту хоць бы ў адну дзесятую долю зорнага абарачэння Марса, ужо не прыдатная, бо Марс за гэты час адойдзе амаль на два сузор'і ад Авена і із-пад Персея або настолькі ж не дойдзе да іх.

І што ж выявілася? Чытач бачыць сам із прыкладзенай вышэй табліцы І, што Марс толькі для 395 года даў на дзіва дакладнае супадзенне. Дробная рэшта ад 1452 зорных гадоў, якія працяклі паміж 395 і 1847 гадамі, выявілася для 395 года роўнай толькі 0,0001 долі зорнага абароту Марса, г. азн. матэматычна вылічаны Марс быў амаль тут жа і апісваў псеўда-эпіцыклічную пятлю S-падобнага выгляду ад пачатку верасня 395 да лютага 396 года. Аналагічныя выпадкі былі толькі ў 632 годзе, ды яшчэ ўжо пад час эпохі Адраджэння ў 1249 і 1486 гадах.

Але ў 632 годзе пазначаны ў Апакаліпсісе вераснёўскі маладзік прыпадаў на тэрмін каля 20 верасня, напярэдадні нядзелі, і, акрамя таго, Венера была не ў нагах Змеятрымальніка, а ў самой Панне, у ніжнім злучэнні з Сонцам, і толькі адзін Меркурый быў у сузор'і Шаляў. А для выпадкаў праходжання Сатурна, Юпітэра і Марса праз названыя ў Апакаліпсісе сузор'і ў 1249 і ў 1486 гадах вылічэнні далі: 1) для 1249 г. маладзік прыпадаў на напярэдадне нядзелі 14 верасня, калі Венера была сапраўды пад Змеятрымальнікам, але Меркурый быў правей Сонца, у Панне, бліжэй да сузор'я Ільва. Вядома, ён быў тады нябачным у промнях ранішняй зары, і аўтар Апакаліпсіса мог памыліцца ў разліках яго становішча, але ледзь ці хто-небудзь вырашыцца сказаць з гэтай нагоды, што Апакаліпсіс напісаны 14 верасня 1249 года, тым больш што ў гэты час ужо існавалі лепшыя, чым у старажытнасьці, спосабы вылічэння планетных рухаў. 2) У 1486 г. маладзік прыпадаў на аўторак 26 верасня, а бліжэйшая нядзеля было 1 кастрычніка, калі Месяц ужо значна адышоў із-пад ног Панны. І ў гэты раз Венера была пад Змеятрымальнікам[14], як паказана ў Апакаліпсісе, але Меркурый быў у Панне нябачным, у верхнім злучэнні з Сонцам. З нацяжкамі можна было б сцвярджаць і тут, што аўтар мог памыліцца ў вызначэнні месцазнаходжання нябачнага для яго Меркурыя, але раз вылічэнні далі без якіх бы то ні было нацяжак дату 30 верасня 395 года, то навошта рабіць выснову пра падробку?

Мы прама можам сцвярджаць: самыя грунтоўныя астранамічныя вылічэнні на працягу амаль трох стагоддзяў да пачатку нашай эры, і заканчваючы нашымі днямі, не дае ніводнага здавальняючага рашэння адносна часу ўзнікнення Апакаліпсіса, акрамя нядзельнага маладзіка з сонечным зацьменнем 30 верасня 395 года, і толькі ў гэты адзіны дзень астралагічная карціна неба, апісаная Янам, падцвярджаецца сучаснай астраноміяй у драбнюткіх падрабязнасьцях.

Такім чынам, пытанне пра час з'яўлення Апакаліпсіса з астранамічнага боку гледжання не можа выклікаць больш ніякіх сумневаў. Яно вырашана канчаткова і назаўсёды, і з гэтым з гэтага часу даводзіцца лічыцца ўсім сур'ёзным гісторыкам. Тут ім застаецца толькі адно: растлумачыць паходжанне ўсіх падробленых цытат і разважанняў пра гэтую кнігу, атрыманых із рук сярэднястагоддзевых манахаў і аднесеных імі да першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства.

[14] Тут Марозаў памыляецца: Венера на прыканцы верасня 1486 года праходзіла Ільва, г. азн. 26 верасня 1486 г. (на самай справе маладзік быў у ноч 27-28 верасня, г. азн. з серады на чацвер) яшчэ менш падыходзіць, чым ён лічыў.(VVU)

Але хто ж мог быць аўтарам Апакаліпсіса? Тое, што гэтая кніга напісана Янам, – несумненна, так як ён сам сябе называе такім імем у першай і ў апошняй главе Апакаліпсіса. Але хто ж быў гэты Ян?

Мне здаецца, што такое пытанне не цяжка вырашыць грунтуючыся на самім Апакаліпсісе, ведаючы, што ён быў напісаны ў 395 годзе.

На самай справе, мы маем у разглядаемай кнізе наступныя ўказанні на асобу яе аўтара:

1) Аўтара звалі Янам.

2) Ён быў хрысьціянскім тэолагам і пісаў свае творы па-грэцку.

3) Ён жыў у Малой Азіі.

4) У 395 годзе, калі ён пісаў Апакаліпсіс, ён быў у поўным росквіце сваіх разумовых здольнасьцей; не быў вельмі маладым, так як выказваецца як чалавек маючы аўтарытэт, і не быў вельмі стары, так як захаваў усю жвавасць свайго ўяўлення.

5) Ён быў выхаваны ў заможнай сям'і, так як цудоўна апісвае колеры ўсіх каштоўных камянёў свайго часу.

6) Ён быў надзвычай красамоўны, хоць і з азіятызмамі ў сваёй мове, як гэта відаць са шматлікіх месцаў кнігі.

7) Ён цудоўна ведаў астраномію і ўсе навукі свайго часу.

Але ў старажытнасьці вялікія аратары і пісьменнікі былі не такімі частымі, як зараз. Калі мы знойдзем хоць бы аднаго, які б задавальняў усім гэтым патрабаванням, то больш не варта і шукаць.

Вось чаму пасьля заканчэння астранамічнай апрацоўкі я ўзяўся за вывучэнне гісторыі хрысьціянства першых чатырох стагоддзяў і, зазірнуўшы ў 395 год, зараз жа натыкнуўся на такую знакамітасць, як Ян Антыяхійскі, празваны Хрызастомам, або Златавустам.

Усё ў яго жыцці было як-быццам знарок прыстасавана для таго, каб прызнаць яго аўтарам Апакаліпсісу. У 395 годзе яму было паміж 40-50 гадамі. Перад гэтым ён быў нейкім апазіцыйным прасвітарам у Антыёхіі і лёгка мог патрапіць за чым-небудзь або за што-небудзь на выспу Патмас. Затым, праз год пасьля вылічанай намі даты, калі яго грамавое прароцтва павінна было ўжо распаўсюдзіцца ў публіцы і выклікаць паніку, яго раптам хапаюць, прывозяць пад вартай у Канстантынопаль і пад прымусам прызначаюць канстантынопальскім патрыярхам, каб ён выратаваў усіх ад пагражаўшай бяды. Апакаліпсіс прызнаецца на ўрачыстым паседжэнні Карфагенскага сабора ў 397 г., г. азн. як раз праз два гады пасьля яго эфектнага выхаду ў свет, свяшчэннай кнігай. Усе хрысьціяне на Усходзе, як сведчаць гісторыкі, пачынаюць чакаць заканчэння сусвету на прыканцы IV стагоддзя і абвяшчаюць ўсеагульнае пакаянне, а сам Ян кідае грымоты і маланкі на візантыйскіх цароў і святарства, але яму ўсё даруюць аж да V стагоддзя, на самым пачатку якога, згодна з яго прароцтвам, павінен быў прыйсьці на зямлю Ісус. Але Ісус не прыйшоў, і Яна раптам пачынаюць пераследаваць усе ўлады, як царкоўныя, так і дзяржаўныя. Яго пазбаўляюць пасады, асуджаюць, на падставе таго, што ён абразіў і рэлігію, і імперыю, высылаюць на працягу некалькіх гадоў у спасылку з аднаго месца ў іншае, больш аддаленае, пакуль, нарэшце, ён не памірае ў выгнанні.

Усё ў яго біяграфіі наводзіць на думку, што ён быў аўтарам Апакаліпсіса. Чаму ж гэтую кнігу забралі ў яго ў наступным V стагоддзі і прыпісалі іншай асобе і стагоддзю, сфабрыкаваўшы шэраг падробленых дакументаў? Хай гэта вырашаюць

гісторыкі. Я магу настойваць тут толькі на правільнасьці астранамічнай часткі майго даследавання, і на заключэнне толькі паўтару вам тое, пра што я казаў на пачатку маёй першай лекцыі, г. азн. што веданне натуральных навук зараз стала неабходным для выразнага разумення ўсіх астатніх. Хто б мог падумаць, што астраномія нябачна напісала на небе і захавала да нашых дзён час з'яўлення Апакаліпсіса? А між тым выявілася менавіта так, і гэты нябесны запіс, якога не змог ні знішчыць, ні пераіначыць рэлігійны абсалютызм сярэдніх стагоддзяў, выяўляе перад намі цэлы шэраг буйных падлогаў у літаратуры першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства і дае нам магчымасць, аддзяліўшы ў ёй праўду ад хлусні, аднавіць гісторыю ўзнікнення і развіцця хрысьціянства ў яго першапачатковым выглядзе.

Аднак, спытаеце вы мяне, пра каго ж прарочыў Ян пад імем "Вялікая цьвярдыня" Брама госпада" (Баб-Ілу згодна з бібліяй, Вавілон - па-грэцку), маці блудадзеяў і ўсіх мярзотаў зямлі"?

Пра каго ён выказваўся ў главе XVIII:

"Заплачуць і загалосяць па яе купцы зямныя, таму што іхныя карабельныя грузы, якія прыйшлі для яе, застануцца непрададзенымі: грузы золата і срэбра, і каштоўных камянёў, і пацерак, і тонкіх палотнаў, і шоўку, і пурпуры, і кіпарысавага дрэва, і вырабаў са слановай косткі, і разнастайных вырабаў із каштоўнага дрэва, жалеза, медзі і мармуру. І не купіць у іх ніхто карыцу і курэнні, і свяшчэннае міра і ладан, і віно, і аліўкавы алей, і пшаніцу, і жыта, і буйнае быдла, і авечак, і коней, і калясьніцы, і чалавечыя целы і душы".

Ужо адна згадка пра ладан і міру, пра віно і алей, і пра чалавечыя душы, як завяршэнне ўсяго, відавочна паказвае, што гаворка ідзе пра тагачасную дзяржаўную Ўсходне-Эліна-Ягіпецкую царкву, пра Мікалаіцкую фракцыю, як яе далей называе Ян, г. азн. пра адну із фракцый, якія ўзніклі яшчэ на Нікейскім саборы, у процівагу арыянам і астролагам-арыгенітам.

Гэта пра яе гаворыць яму адзін із сямі вястунаў неба (*хмар*), выліўшых на зямлю сем апошніх чарак гневу Божага:

"Хадзем, я пакажу табе прысуд над Вялікай Самапрадажніцай, якая сядзіць на шматлікіх хвалях (народах). Яе купялі цары зямныя і віном яе амаральнасьці напоены ўсе народы" (Ап. 17.2).

Ян пабачыў яе сімвал са свайго пустыннага патмаскага берага ў постацях воблакаў над грэцкім архіпелагам, нагадваючых сваім выглядам жанчыну, якая сядзела на барвовым сямігаловым воблаку-зверу, з дзесяццю рагамі, усярэдзіне якога быў сімвал блюзнерства (сузор'е Самка Гідры, якая носіць на сваёй спіне царкоўную Чарку, мал. 32).



Мал. 32. Сузор'е Гідры з Воранам і царкоўнай чаркай на ёй. (Із атласа Грынбергера 1609 г. у кнігасховішчы Пулкаўскай абсерваторыі.)

"Гэтая жанчына, - кажа ён, - была апранута ў парфіру і ў пурпур (*заходзячых воблакаў*) і аздоблена золатам і жэмчугам, і каштоўнымі камянямі (*вячэрняга зарыва*). У руцэ яе была залатая чарка, напоўненая мярзотай і нечыстотамі яе амаральнасьці, а на ілбе надпіс: Сакрамэнт[15], вялікая цьвярдыня "Брама господа" (17.5). "Яна была, - кажа ён далей, - пабарвянёнай крывёю шукаючых праўду і апавяшчальнікаў Збавіцеля" (17.6).

"Выйдзі із яе, мой народ, – чуўся Яну ў шуме ветру голас з неба, – каб не ўдзельнічаць у яе злачынствах і не прыняць яе пакарання, таму што дайшлі да неба яе злачынствы, і згадаў бог яе крыўды..." "Колькі яна ганарылася і раскашавала, столькі ж аддайце ёй зневажанняў і крыўд, таму што яна кажа ў сваім сэрцы: сяджу царыцай, я не ўдава і таму не зведаю смутку. Затое ў адзін і той жа дзень прыйдуць на яе і пошасьці, і пагібель, і прыніжэнні, і нястача і будзе спалена полымем, бо моцны бог, яе суддзя. І заплачуць, і загалосяць па ёй усё цары зямныя, раскашаваўшыя з ёю, бачачы дым ад яе пажару. Стоячы ўдалечыні, праз баязнь зведаць яе пакуты, яны будуць усклікаць:

"Гора, гора табе, вялікая цьвярдыня "Брама господа", моцнае ўмацаванне! У адну гадзіну вырашыўся твой лёс".

"І не будзе ў табе чуваць ні гукаў выконваючых музыку арфістаў, ні спяваючых галасоў, ні трубавых гукаў, ні музыкі выконваючых на жалейках і іншых прыладах. Не будзе ў табе больш ніякага мастака і мастацтва, і шуму жарнавоў не будзе больш чуваць ў табе. Святло свяцільні не заблішчыць ў табе, і не пачуецца ў табе голас маладога і маладой, таму што зямныя вяльможы пагадняліся з табой і тваёю сумессю (*у залатой чарцы*) ўведзены ў зман ўсе

[15] Па-грэцкі змяшчаецца μυστέριον – рэлігійны сакрамэнт, містэрыя.

народы. І знойдзена ў табе кроў усіх апавяшчальнікаў ісьціны і беззаганных і ўсіх закатаваных за праўду на зямлі"(Ап. 18.24)[16].

Кожны вучоны павінен імкнуцца да знаходжання ісьціны як у агульных, так і ў прыватных пытаннях. Да ліку апошніх пытанняў адносіцца і разгледжаенае тут мною. І гэтае пытанне зусім не такое маловажнае, як гэта можа здацца з першага погляду.

Не кажучы ўжо пра тое, што незразумелы да апошняга часу астралагічны змест Апакаліпсіса рабіла яго паўтары тысячы гадоў крыніцай буйных і шкодных рэлігійных забабонаў, – вызначэнне даты яго стварэння і сапраўднага сэнсу вельмі важна і з пункту гледжання ўсякага вальнадумнага чалавека. Тое, што я вам паведаміў тут, з’яўляецца новым і надзвычай важным прыёмам гістарычнай крытыкі. Толькі гэты прыём і мог паставіць Апакаліпсіс на яго сапраўднае месца ў храналогіі буйных гістарычных падзей. З гэтага часу ўсякая кніга, у якой трактуецца Апакаліпсіс, павінна быць аднесенай не раней, як да пятага стагоддзя.

Такім чынам, гісторыя першых чатырох стагоддзяў хрысьціянства адразу вызваляецца ад цэлага вораху загрувашчваючага і зацямняючага яе апакрыфічнага сярэднестагодПаннага хламу. Гарызонт старажытнага сусвету адкрываецца чыстым і ясным для свабоднага і сапраўды навуковага даследавання.

# Частка Першая

## Вялікі Цар. Гістарычныя асновы легенды пра вялікага мага і настаўніка Езуса.

# Глава I.

## Прывіды і міражы старажытнага жыцця.

Калі вы глядзіце на які-небудзь толькі-што адрамантаваны і атынкаваны будынак, ён заўсёды вам здаецца вельмі трывалым. Калі вы не бачылі яго да рамонту, вам і ў галаву не прыйдзе, што пад яго тынкоўкай, пад новымі шпалерамі ўнутры шмат што даўно прагніло, і нават асноўныя бярвенні пакояў прыладжаны адзін да аднаго так нетрывала, што гатовыя разбурыцца пры першым напоры моцнага ветру.

Дакладна такое ж ўражанне вырабляе на нас і гісторыя старажытнага свету. Згодна з нашымі курсамі і падручнікамі, нават не пазначаючымі да якога часу належаць першыя выданні іх першакрыніц і калі знойдзены першыя рукапісы, якімі карысталіся іх складальнікі, – выходзіць ўсё так пасьлядоўна, а часам і цікава, што думка пры чытанні цалкам перастае працаваць крытычна, ды і не можа, не ведаючы, адкуль аўтар узяў свае звесткі. Загіпнатызаванаму чытачу застаецца толькі верыць у яго глыбокую кампетэнтнасць ды запамінаць, што ён паведаміў...

Цалкам іншае, калі, пакінуўшы аўтараў XX стагоддзя, пачынаеш чытаць іхныя першакрыніцы. Перш за ўсё, ніякіх першакрыніц большай часткай нідзе на зямным шары ўжо не існуе ў рукапісах. Маюцца толькі друкаваныя кнігі, якія з'явіліся на свет пасьля 1450 г. і з іх мы даведваемся, што ў сярэднія стагоддзі

[16] Падрабязнае тлумачэнне Апакаліпсіса і яго поўны літаратурны пераклад зроблены мной ужо 16 гадоў таму ў кнізе “Адкрыццё ў навальніцы і буры”, першае выданне ў 1907 годзе.

рукапісы гэтых кніг заставаліся невядомымі і што яны "знойдзены" асобамі, якія прынеслі іх да выдаўцы толькі перад самым друкаваннем, а потым зноў падзеліся невядома куды.

Вось хоць бы неабходная для гэтай нашай працы "Царкоўная гісторыя" Сакрата Схаластыка, абдымаючая перыяд ад Канстанціна I да Феадосія Малодшага (г. азн. прыблізна ад 325 г. да 425 г. нашай эры). Выдаўцы "знайшлі" яе спачатку толькі ў лацінскім рукапісе на пачатку XVI стагоддзя, а пазней, гадоў праз трыццаць, новыя выдаўцы "адкрылі" і яе грэцкі арыгінал. Што з абедзвюма версіямі было на працягу 1200 гадоў, ды і ці існавала сама гэтая кніга, ніхто нічога сказаць не можа. Бо нават і ў тых рэдкіх выпадках, калі, пасьля друкавання, у адказ на ўзмоцнены попыт аматараў старажытнасьцей з'яўлялася асоба, якая прапаноўвала такі рукапіс, нібыта захаваўшыся ў яго продкаў са старадаўніх часоў, можна сказаць, што "попыт заўсёды нараджае прапанову". Мы не ведаем нават пра тое, куды падзеўся рукапіс пасьля друкавання. Чаму выдавец і знайшоўшы яго не прыклалі намаганняў для захавання такой каштоўнасьці, хаця ўжо і тады збіралі старажытнасьці?

Тое ж самае выяўляецца і з іншымі першакрыніцамі старажытнай гісторыі, амаль з усімі.

Вось хоць бы знакамітыя дыялогі Платона. Яны былі цалкам невядомымі навукоўцам аж да канца XV стагоддзя. Толькі ў гэты час адзін фларэнтыйскі філосаф, на імя Марчэла Фічына, прынёс заможнаму выдаўцу Лаўрэнцію Венета лацінскі рукапіс пад гэтай назвай, абвясьціўшы яго сваім перакладам із грэцкага рукапіса. Гэты зборнік артыкулаў, у якім, акрамя палітычных і філасофскіх разваг, выявілася таксама шмат як непрыстойнага, так і відавочна анахранічнага, быў выдадзены Венета ў 1482 годзе. Кніга хутка разышлася. Невядомы раней Платон стаў адразу знакамітым, і праз дзевяць гадоў, у 1491 г., гэты зборнік выйшаў другім фларэнтыйскім выданнем на сродкі Лаўрэнція Медычы.

Яго анахранізмы к гэтаму часу былі ўжо заўважаны сур'ёзнымі чытачамі, і вось той жа самы Фічына дае аднаму венецыянскаму выдаўцу свой новы "*выпраўлены ад павядомленых яму анахранізмаў*" пераклад, а ў 1517 г. з'яўляцца і яго другое выданне.

Грэчаскіх рукапісаў Марчэла Фічіна нікому не паказваў да самай сваёй сьмерці; не знайшлі іх у яго і яго нашчадкі. Да гэтага часу ніхто нічога не ведае пра іх існаванне дзе-небудзь на сьвеце, і да гэтага часу несумненна толькі тое, што яны зніклі не пакінуўшы слядоў, нягледзячы на тое, што амаль адразу пасьля выхаду із друку першага выдання "перакладa Фічіна" шмат хто із асвечаных людзей таго часу пачалі ўзмоцнена шукаць паўсюдна грэчаскія рукапісы гэтага нанова адкрытага ў толькі-што зробленым перакладзе грэцкага філосафа.

У гэты час адзін заможны веніцыянец Альда Манучыо нават абяцаў плаціць па залатой манеце за кожнае выпраўленне Фічынава перакладa згодна з грэцкім тэкстам. У адказ на яго абяцанне, але ўжо праз 30 гадоў пасьля першага выдання Платона і, відаць, яшчэ пры жыцці Фічына, не сам Фічына, а адзін венецыянскі крыцянін Марк Мазур прадставіў ў 1512 годзе і "грэцкі тэкст Фічынавых перакладаў", якія выяўляюць, згодна з маімі даследваннямі іхнага складу, характар твораў, належачых некалькім розным аўтарам. Яны ўяўляюць сабой, верагодна, пераклады саміх жа лацінскіх твораў Фічына на грэцкую мову, зробленыя згодна са спешнай замовай Мазура некалькімі грэкамі-перакладчыкамі із розных

мясцовасьцей.[17] У той час навукова-літаратурная крытыка была вельмі слабая, і ўсе гэтыя творы былі адразу надрукаваныя ў 1513 годзе, а затым з пастаяннымі выпраўленнямі яны друкаваліся ў шмат якіх выданнях на працягу ўсяго XVI стагоддзя. Італьяна-лацінскі пісьменнік XVI стагоддзя Марчэла Фічына, пад імем грэцкага філосафа Платона, стаў найвялікшай знакамітасьцю "старажытнасьці", хаця ў XIX стагоддзі ўжо не засталося ні аднаго із яго дыялогаў, сапраўднасць якога не была б пастаўлена пад падазрэнне або прама аспрэчанага кім-небудзь із платаністаў, ды і сапраўднасць згадак пра яго ў іншых старажытных грэчаскіх аўтараў губляе ўсякае значэнне, так як усе яны сталі вядомымі ўжо пасьля Фічынава перакладa. Попыт нарадзіў прапанову...

А вось і трэцці прыклад – знакамітыя кнігі Іосіфа Флавія. Гэты Флавій быў "знойдзены" і стаў вядомым толькі пачынаючы ад 1566 года. Толькі ў гэты час аўтар XVI стагоддзя, Самуіл Шэлі, раптам прапанаваў выдаўцу рукапіс "Юдэйскія Старажытнасьці", зноў без прад'яўлення каму б там ні было "сапраўднага рукапісу". Гэтая кніга нават адразу пасьля выдання абудзіла падазрэнне ў сучаснікаў. І сапраўды яна поўнілася анахранічнымі месцамі[18]. Аўтарам яе быў сам Самуіл Шэлі, а затым яна з дадаткамі з'явілася ў перакладах ужо на жыдоўскую і іншыя мовы.

Я не буду прыводзіць далейшых прыкладаў.

**Скажу толькі адно: такім з'яўляецца паходжанне ўсіх старажытных кніг!**

Возьмем хаця б творы Васіля Вялікага, Яна Златавуста, Арыгена, не кажучы ўжо пра Сакрата, Арыстоцеля, Цыцэрона, Віргілія, Гарацыя, Герадота, Піфагора і пра ўсіх астатніх да аднаго. Іхных рукапісаў, хоць бы ад IX стагоддзя, нідзе няма; як-быццам асобы, якія прынеслі іх у друкарні, знарок знішчалі іх адразу ж пасьля друкавання...[19] І міжволі прыходзіць думка: ці не прывіды, ці не міражы ўсё тое, што мы сабе ўяўляем пра старадаўняе жыццё грэкаў, ягіпцян, рымлян, жыдоў і ўсяго старажытнага усходу грунтуючыся на падобных дакументах?

Але нават і не згадваючы пра гэтую асноўную загану ўсіх першакрыніц, па якіх мы аднаўляем старажытнае жыццё, г. азн. пра іх уласную маладосць, мы знаходзім у іх цэлыя серыі неверагодных па самой сваёй сутнасьці, або супярэчачых адзін аднаму паведамленняў, а ва ўсім тым, што нам здаецца ў іх цалкам адпавядаючым рэчаіснасьці, мы заўважаем крайнюю ўрыўкавасць і нявызначанасць у часе, да якога належыць апавяданне. Із-пад павярхоўнага пласта па-майстэрску абтынкаванага будынка сучасных гісторый старажытнага жыцця, як я ўжо казаў, паказваюцца, пры кожным даследаванні часу адкрыцця іх першакрыніц, напалову гнілыя і нетрывала прымацаваныя бярвенні.

А ў крытычным разборы гэтых першакрыніц нават у аўтараў XIX стагоддзя мы заўважаем крайнюю наіўнасць. Тут не крытыка, а абараняючыя прамовы на карысць вельмі цяжка абараняемага.

Гэтая маленькая экскурсія да першакрыніц з'яўляецца неабходнай для працягу чытання маёй кнігі.

---

[17] Гл. Мой артыкул "Лінгвістычныя спектры" ў "Паведамленнях Акадэміі Навук" 1914 г. Склад розных дыялогаў да такой ступені адрозніваецца, што якія б то ні было меркаванні пра напісанне іх адным і тым жа аўтарам выключаюцца.

[18] Гл. пра гэта маю кнігу "Прарокі".

[19] Толькі праз шмат дзесяцігоддзяў пасля першага друкавання, часам толькі ў XIX ст., пачалі "знаходзіцца" і рукапісныя спісы няпэўнай старажытнасьці. Пра іх я яшчэ буду разважаць у сваім месцы.

Інакш, для звычайнай публікі, ніколі не чытаўшай па гісторыі нічога, акрамя ўжо напісаных курсаў і аглядаў, хоць бы нават і шырокіх, мой недавер да грунтоўнасьці асноў старажытнай гісторыі можа здацца чымсьці марным, загадзя асуджаным на няўдачу, хоць на справе гэта не так, і чым больш старажытны час, тым больш і тым больш сур'ёзна можна аспрэчваць нашы веды пра яго ў дачыненні да тагачаснага жыцця людзей.

Дарэчы, у гэтай сваёй працы я маю намер аспрэчыць не толькі нашы веды пра пачатак хрысьціянства, але і, наадварот, выказаць некалькі важных пярэчанняў і супраць узнікшай у апошняе дзесяцігоддзе плыні гісторыка-рэлігійнай думкі, згодна з якой ніякага чалавека, з каго мог бы быць спісаны евангельскі Ісус, нават і не існавала ніколі і ўсе хрысьціянскія паданні пра яго ёсць чыста астральны міф.

Самым яркім і таленавітым прадстаўніком гэтай плыні з'яўляецца ў Германіі Артур Дрэве, прафесар філасофіі ў Політэхнічным Інстытуце ў Карлсруэ, кнігі якога: "Christus-mythe" і "The Wittnesses of Historicity of Jesus" нарабілі за мяжой шмат шуму. Яго крытыка гістарычных паданняў пра зямное жыццё Езуса, як-быццам бы меўшае месца ў першым стагоддзі нашай эры, сапраўды, вельмі знішчальная для гэтых паданняў. Робіцца відавочным, што калі прызнаць за Бібліяй і за індускім паведамленнем пра Крышну глыбокую старажытнасць, то легенда пра надыходзячае ўцараваньне бога на зямлі ўзнікла ўжо даўно. З'яўляючыся быццам бы "колішняй патрэбай усяго духоўна-пакутуючага чалавецтва", яна "хутка пераходзіла із краіны ў краіну, пакуль не ахапіла, у той ці іншай форме, усе духоўна развітыя пласты народаў". Так, – кажуць нам, – у Індыі паўстала легенда пра Крышну, час ад часу ўвасабляючагася на зямлі, у жыдоў – пра будучага Збаўца-Месію (у перакладзе таксама Хрыста)[20], а ў хрысьціян пра ўжо прыходзіўшага на зямлю сына божага...

І ўсё гэта, – сцвярджаюць, – развівалася ў сувязі са з'явамі, якія адбываліся на зорным небе, якое спрадвеку лічылася жыллём багоў.

Але ці так гэта? Ці сапраўды ў нашых уяўленнях пра старажытнае жыццё – адны прывіды, і ці сапраўды легенда пра ўкрыжаванне "Сына Божага" не мае ніякіх каранёў у сапраўдным жыцці народаў на ўзбярэжжы Міжземнага мора?

Мае астранамічныя даследаванні помнікаў старажытнасьці, на падобе вышэйпрыведзенага пра Апакаліпсіс, паказалі, што карані ёсць, і я тут пакажу іх наглядна тым жа метадам, якім мне ўдалося вызначыць, што і Апакаліпсіс не трызненне вар'ята, якім ён уяўляўся раней, а апісанне рэальных з'яў у прыродзе. Але само сабой зразумела, што пры маім даследаванні і дзеючая асоба евангельскай легенды пра "сына Бога-Айца" выявіцца не богам, а сапраўдным чалавекам і прытым цалкам не таго часу і месца, якое яму прыпісваюць, і нават не падобным на евангельскі вобраз, а шмат у чым лепшы і шмат у чым, магчыма, горшы за яго. Евангеллі, з гэтага боку гледжання, выявяцца толькі сентыментальнымі раманамі із жыцця гэтага чалавека, якія мелі велізарнае значэнне ужо праз адно тое, што гэта былі першыя сентыментальныя творы чалавецтва.

---

[20] Дарэчы, месія (משיח нашымі літарамі МШЫХ) у перакладзе на нашу мову азначае “прысвечаны звычаем памазання ў святарскі сан”. Так, у кнізе “Лявіт” гаворыцца: “і возьме святар-памазанік (הכהן המשיח = Е-КЕН Е МШЫХ)” крыві Цяляці і пакрапіць сем разоў перад Грамабоем перад завесаю свяцілішча”. Гэта тое ж самае, што і грэцкае слова ХРЫСТОС, г. азн. таксама ПАМАЗАНІК.

# Глава II.
## Адлюстраванне зорак у старадаўніх хрысьціянскіх гімнах і святах.

Тое, што сцвярджае Дрэве, а да яго Дзюпюі, вядома, цалкам магчыма і шмат у чым, безумоўна, адпавядае рэчаіснасьці. Я сам магу дадаць да іхных высноваў шмат аналагічнага із вобласьці старажытных астранамічных уяўленняў.

Вось хоць бы ў хрысьціянскіх гімнах, напрыклад, мы бачым адлюстраванне зорак на кожным кроку. Паглядзім хоць бы на святы, пазначаемыя ў нашых календарах адразу ж пасьля раўнадзенстваў і сонцастаяння 21 сакавіка, 21 чэрвеня, 21 верасня і 21 снежня. Я кажу "адразу пасьля" гэтых дзён, таму што астраномы першых стагоддзяў хрысьціянства не ведалі дакладнага часу гэтых падзей і адзначалі іх, у сярэднім, на чатыры суткі пазней сапраўднага надыходу, калі адпаведныя вобласьці неба ўжо выразна паказваліся на ўсходзе перад узыходам Сонца. Яны адлічвалі тады не моманты закрыцця сонцам адпаведных зорак, чаго нельга бачыць простым вокам, але рэальнае з'яўленне іх на ўсходзе із-за сонца.

Так, свята "Звеставання", г. азн. свята паведамлення панне Марыі вястуном неба (як пабачым далей – каметай у сузор'і Панны) пра маючае адбыцца зачацьце ёю выратавальніка людзей, аднесены ў іх да 25 сакавіка, калі апоўначы кульмініруе зорная Панна і калі сімвал Езуса – зорны Авен – прыносіць сябе ў "ахвяру цэласпаленьня за грахі людзей", г. азн. апускаецца ў полымя вячэрняга зарыва.

Свята Каляд "нараджэнне выратавальніка сусвету" аднесена на 25 снежня, калі другі нябесны яго сімвал – зорны Змеятрымальнік , які трымае змея пазнання дабра і зла, ужо з'яўляецца із полымя ранішняй зоркі, адроджаны пасьля свайго снежаньскага цэласпаленьня за грахі людзей. У гэты час Панна як раз кульмініруе над паўднёвай часткай гарызонту, а згуртаванне дробных зорачак – Яслі, са стаячымі каля іх зорачкамі, аслом і асьліцай, у самым высокім із задыякальных сузор'яў – Раку, ужо спускаецца на захадзе да чакаючай свайго выратавальніка грэшнай зямлі. Апоўначы гэтага ж 25 снежня, калі Панна ўзыходзіць на досвітку, гэтыя нябесныя Яслі, правобраз тых, у якіх, згодна з паданнем, нарадзіўся "выратавальнік людзей", дасягаюць свайго найвышэйшага становішча над зямлёй (мал. 34).




Мал. 34. Выгляд паўднёвай часткі неба пад час снежаньскага ранку перад узыходам сонца. Панна выводзіць за сабой раней існаваўшае ў ёй сонца. Над зямлёй вертэп (г. азн. Яслі),

каля іх Херувімы (Блізняты), а над Паннай Пастыр (Валапас). Направа заходзяць тры вешчуны (тры зоркі Арыгена) з зоркай Сірыус.

У сувязі з гэтым гучыць і калядны гімн старажытных хрысьціян, усю паэзію якога можа зразумець толькі чалавек, які ведае і шануе зорнае неба і слухае гэты гімн пад ім, як старажытныя хрысьціяне, а не пад дахам, як сучасныя хрысьціяне, забываючыся пра тое, што робіцца ў небе над ім. Вось гэты гімн у тлумачальным перакладзе:

"Панна (*на небе*) сёньня раней існуючае (*Сонца*) нараджае, і зямля грот з яслямі яму, непрыступнаму, прыносіць;

Апавяшчальнікі (*сузор'і*) з пастырамі (*зоркамі Валапаса*) усхваляюць, вешчуны ж (*тры зоркі Арыёна*) за зоркай падарожнічаюць. Дзеля нас нарадзілася маладое дзіця – прадвечны бог (*Сонца*)".

Як гэтыя словы робяцца зразумелымі і простымі ў астранамічнай сімвалістыцы (мал. 34)!

А вось і другая кантата: "Нараджэнне тваё, Хрыстос, бог наш, азарыла сусвет святлом розуму, бо ў ім служачыя зоркам (*г. азн. астролагі-вешчуны*) зоркай (*Ахернарам у нябеснай рацэ Эрыдане*) навучыліся табе кланяцца, Сонцу праўды, цябе пазнаваць з вышыні Ўсходу. Слава табе, валадар!"

Такая ж і трэццяя калядная кантата: "Бачу (*наверсе*) сакрамэнт дзіўны і слаўны: неба – гэта грот, Панна (*ўзыходзячае сузор'е*) – гэта пасад божых калясьніц (*планет*)[21], нябесныя Яслі – гэта ёмішча, у якім адпачываў няўмяшчальны бог (*Сонца, мал. 34*)".

Само нараджэнне "выратавальніка людзей" ад панны, якая не мела чалавека, прама паказвае на сузор'е Панны, праз якое ў верасні, калі пачынаўся візантыйскі год, праходзіць Сонца, а дадатак пра яе пазнейшага апекуна Язэпа выкліканы стаяўшым над ёю Валапасам (мал 34).

Дакладна таксама адлюстроўваюцца зоркі і ў вадахрышчанскім гімне шостага студзеня, які, відаць, ужо мае дачыненне да Арыёна, які выходзіць із Нябеснага Ярдана (*сузор'я Эрыдана, мал. 12*), у якім толькі што з'явілася, дзякуючы прэцэсіі ў гады складання гэтага гімна, над паўднёвым гарызонтам Палестыны "Чужая Зорка" (*Ахер-Нар*).

"У Ярдане купаючамуся табе, госпаду, тройчаскае з'явілася пакланенне. Бацькаў голас сьведчыў пра цябе, каханым цябе сынам называючы, і дух, у выглядзе галубіным (*сузор'е Голуба*), засведчыў падцверджанне слова. З'яўляюся, Хрысце божа, і свет навучай, слава табе!"

А таксама: "Асвячаецца сёння існасць вады, і падзяляецца Ярдан, падымаючы бруі сваіх вод (*г. азн. Эрыдан ўзыходзіць на ўсходзе*), бачачы ўладара ("*Чужую Зорку*"), купаючымся ў сабе[22].

---

[21] Я пераклаў тут жыдоўскае слова כרבימ (КРБІМ) – словам калясніца, таму што такім з'яўляецца яго асноўнае значэнне. רכוב = כריב — калясніца, а ў астралогіі – планета, якая коціцца на сваёй калясніце – арбіце.

[22] У нашым перакладзе значыцца: ахрышчваючамуся, але калі звярнуцца да грэцкага тэкста Евангелляў, то там знойдзем для слова ахрышчваць – βαπτίζω (баптызо), што ў перакладзе азначае абпырскваць ці паліваць дажджом, купацца, апускаць у ваду. У візантыйцаў апускалі, у лацінян абпырсквалі, але як у тых, так і ў другіх аднолькава абпырсквалі каляднай вадой, як бы ў гонар успамінаў, што Езус Хрыстос быў ахрышчаны як апусканнем у ваду, так і дажджом з неба. Пра гэта яшчэ пагаворым далей.

Ва ўсіх гэтых песнях мы бачым толькі захопленае сімвалістычнае ўсхваленне з'яваў зорнага неба, якімі яны і сапраўды з’яўляюцца пад час гэтых дзён кожны год.

Не менш цікава адзначаны хрысьціянскімі святамі і дзве астатнія кардынальныя кропкі неба, г. азн. вобласьці летняга сонцастаяння і веснавога раўнадзенства.

На 24 чэрвеня, г. азн. пад час летняга сонцастаяння (дакладна такжа вызначаемага амаль на тры дні пазней сапраўднага), калі нябесны сімвал Езуса, які выходзіць із Ярдана, – зорны Арыён-Цяляборац разам са самім Эрыданам-Ярданам[23] – упершыню ўзыходзіць над полымем ранішняй зары ў арэоле сонечных прамянёў, і калі вобраз Яна Купалы (Хрысьціцеля), зорны Вадалей, перад узыходам сонца ў Яслях, над Арыёнам, дасягае са сваёй Арашальнай Пасудзінай кульмінацыйнай вышыні, – аднесена нараджэнне Яна Хрысьціцеля, або Папярэдніка, акрапіўшага Езуса нябеснай вадой у Ярдане, таму што зорны Вадалей ў гэты час ідзе наперадзе Сонца, як адзнакі ствральніка неба і зямлі, у яго сутачным кругавым руху. Зачацце ж Яна пры гэтай умове давялося аднесьці, вядома, на дзевяць месяцаў раней, так што гэтае сьвята натуральна прыйшлося на 23 верасня і, такім чынам, патрапіла пад заступніцтва Авена, кульмініруючага ў гэтую поўнач, у той час як Вадалей-Арасіцель заходзіць на захадзе, а нябесны Ярдан ўзыходзіць на ўсходзе разам з Арыёнам, сімвалам выходзячага із вады Езуса, г. азн. Авена, зрынаючага першынство сузор'я Цяльца. Ён дасягае затым кульмінацыйнай кропкі пры ўзыходзе Сонца ў сузор'і Панны, калі Вадалей-Арасіцель ўжо даўно пад зямлёй, чым і тлумачацца словы евангелістаў ад імя Яна: "той, хто ідзе за мной мацнейшы за мяне", і "яму належыць ўзыходзіць, а мне паніжацца" (мал. 35 і 36).

Не цяжка таксама знайсьці ў жыдоўскіх і хрысьціянскіх святах важную адзнаку і веснавога раўнадзенства. Так, паска ў тых і другіх аднесена да поўнага месяца вясновага раўнадзенства, калі сузор'е Авена (*г. азн. Велікоднае Ягня*) пачало, згодна з разуменнем равіністаў-месіянцаў, прыносіць сябе ў ахвяру цэласпаленьня ў полымі вечаровага зарыва, пры Сонцы, як бы ўкрыжаваным на ўзыходзячым скрыжаванні нябеснага экватара з экліптыкай (мал. 37) у сузор'і Рыб і пры Месяцы, які ідзе каля процілеглага яму сыходзячага перасячэння ў сузор'і Панны.

Блізняты Рак Леў
Цяля Арыён М. Сабака Гідра Чарка Воран Панна
Авен Рака Эрыдан В. Сабака Карабель Гара Цэнтаўр

[23] Ярдан па-старажытнасірыйскі ירדן (ІРДН), але ў Бібліі ён пастаянна выкарыстоўваецца разам з вызначаючым словам הירדן (Е ІРДН), як імя агульнае, а не асабістае і азначае: сыходзячы з вышыні.



Авен Кіт Паўдн. Рыба Ахвярнік Воўк Шалі
Рыбы Вадалей Казярог Паўдн. Вянок Скарпіён
Стралок

Мал. 35. Паўднёвая палавіна небасхілу, згодна з кнігай Zodiaque expliqué пачатак XIX ст. (Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі).



Шалі Змей Паўн.Вянец Цмок Цефей Андрамеда Трохвугольнік
Скарпіён Змеятрымальнік Геркулес Ліра Лебедзь Гара Пегас
Стралок Арол Дэльфін Вадалей Урна Рыбы
Казярог

Мал. 36. Паўная частка небасхіла, згодна з кнігай Zodiaque expliqué пачатку XIX ст. (Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі).




Мал. 37. Перасячэнне экліптыкі з нябесным экватарам у сузор’і Рыб, якое як крыж, нясе перад сабой Авен пры сваім штосутачным шляху ад усходу да заходу. А рыба, па-грэцку Іхтыёс, азначае анаграматычна Езус Хрыстос Тэі Іййнас Сотэр, г. азн. Езус Хрыстос Божы Сын Выратавальнік (ужо хрысьціянскага паходжання).

Нараджэнне панны Марыі аднесена на 8 верасня, г. азн. паблізу да восеньскага раўнадзенства, калі сузор'е яе правобразу – Панны хаваецца ў промнях Сонца, а ў поўнач кульмініруе Пасад Бога (зорная Касіяпея). Скон жа Марыі аднесены на 15 жніўня, калі сузор'е Панны толькі яшчэ прыносіцца ў “ахвяру цэласпаленьня” ў полымі вечаровага зарыва.

Смерць (г. азн. перасяленне на неба) двух галоўных настаўнікаў хрысьціянства, апосталаў Пятра і Паўла, аднесена на 29 чэрвеня, калі сузор'е іхных правобразаў – Двайнят, самага высокага із 12 сузор'яў Задыяка, знікае ў сонечных праменях. Адпавядае гэтаму і царкоўная кантата гэтага дня:

“Павучальнікаў цвёрдых і боганатхнёных, вярхоўных тваіх пасланнікаў, ты прыняў сёння, ўладар, у зачараванне і ў асалоду тваіх дабротаў...”

Аналагічныя водгукі сузор'яў мы назіраем і ў размеркаванні дат скону, г. азн. пераходу на неба, шмат каго са старажытнагрэцкіх і лацінскіх сьвятых. Так, каля вясновага раўнадзенства,[24] услед за пераходам Сонца ў нашым паўшар'і праз “верхні вузел”, або верхняе перакрыжаванне нябеснага экватара і экліптыкі, прызначана сьвяткаванне святога Артамона (24 сакавіка), што, у перакладзе на нашу мову, азначае "верхні ветразь", у поўнай адпаведнасьці з ягіпецкімі ўяўленнямі першых стагоддзяў нашай эры, што ў гэтым месцы неба, у сузор'і Рыб, у так званай “воднай частцы задыяку”, і Сонца, і Месяц, і ўсе планеты пераплываюць на чоўнах із ніжняй (паўднёвай) часткі нябеснага скляпення у верхнюю (паўночную).

А за дзень перад гэтым, на 23 сакавіка, прызначана праваслаўнымі грэкамі свята Нікана (г. азн. Перамагаючага), калі Авен пераможна злучаўся з Сонцам у першыя стагоддзі нашай эры.

Дакладна так жа і на адваротным баку неба, каля “ніжняга вузла”, г. азн. восеньскага перасячэння нябеснага экватара і экліптыкі, перад сузор'ем Шаляў, дзе

[24] На працягу I і II стагоддзяў н. э. яно было 22 верасня; у I ст. да н. э. яно было 23, а на працягу II ст. – 24 верасня, перамяшчаючыся на суткі на працягу 125 гадоў назад.

Сонца, Месяц і ўсе планеты спускаюцца із паўночнай часткі неба ў паўднёвую, мы бачым 20 лістапада сьвята святой Фёклы, што па-сірыйску і па-халдэйску азначае сузор'е Шаляў, праз якое Сонца ў V стагоддзі праходзіла менавіта 20 лістапада. Дакладна гэтак жа свята Стэфана (г. азн. вянка) прызначана на 14 студзеня, калі ў V і VI стагоддзях Сонца менавіта і падыходзіла пад сузор'е Вянка, і гэты Зорны Вянок кульмініраваў апоўдні (мал. 36).

Я не буду тут разглядаць такія ж іншыя каляндарныя супадзенні, відавочна не выпадковага характару, так як і гэтыя прыклады дастаткова даказваюць, што храналогія найважнейшых царкоўных падзей першых стагоддзяў хрысьціянства грунтуецца не на “згубленых гістарычных дакументах” і не на “перадаваемых ад пакалення да пакалення беражліва захоўваемых традыцыях”, а ўсталявана пазней шляхам астралагічных меркаванняў. Нават і пачатак нашай эры, вылічаны, як кажуць, толькі ў 525 годзе Дыянісіем Малым, відавочна ўсталяваны на падставе таго, што скрыжаванне экліптыкі і нябеснага экватара прыходзілася, згодна з яго, яшчэ не вельмі дакладнымі вылічэннямі, на час за 525 гадоў да яго прама пад альфай сузор'я Авена, сімвалізуючага евангельскага Хрыста, з нагоды чаго гэтае летазлічэнне і распаўсюдзілася толькі на пачатку новага часу і названа хрысьціянскім ужо ў гэты час, але на справе гэта проста "эра Авена", да якой цалкам памылкова аднесена нараджэнне Езуса.

Ва ўсіх гэтых выпадках, як мы бачылі, вярхоўным кіраўніком рэлігійнай думкі быў бог-Сонца, "усёпадтрымліваючы стваральнік неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага", міма якога праходзілі яго дванаццаць апосталаў, сузор'яў Задыяка, адно із якіх, знаходзячаяся ніжэй за ўсіх іншых, – Скарпіён – і было абвешчана пазней яго здраднікам.

У тым жа месцы неба мы бачым і сімвал яго будучага адраджэння – зорнага Змеятрымальніка, узнімаючазася да Пасада Бога (зараз сузор'е Касіяпея) па шляху зорак – Млечнаму Шляху, топчучы нагой сімвал сваёй сьмерці – Скарпіёна (мал. 36). Да бога-Сонца, як першапачатковага натхняльніка рэлігійнай эвалюцыі, пазней далучаецца і другі натхняльнік – бог-Месяц, які абыходзіць 12 раз на працягу года тыя ж 12 сузор'яў Задыяка і дакладна так жа вышэй за ўсё паднімаецца ў сузор'і Рака, дзе знаходзяцца Яслі Хрыста, і апускаецца ніжэй за ўсё у Скарпіёне. Але гэтая рэлігійная навіна была канчаткова створана, відаць, толькі ў IV стагоддзі нашай эры, пасьля таго як была знойдзена магчымасць загадзя вылічваць (праз 29 $^{1/2}$ сутак) маладзікі, якія былі разлічаны аж да паловы таго ж самага стагоддзя, як сведчаць іўдэйскія крыніцы,[25] толькі шляхам простага назірання першага вузкага сярпа месяца, які з'яўляецца над палымем вячэрняга зарыва.

Толькі пад час валадарання імператара Юльяна ў Візантыі (361-363гг.), згодна з гэтымі іўдэйскімі крыніцамі, першасьвятар Гілель II быццам бы паведаміў народу (каля 359 г., калі Юльян быў яшчэ консулам) дзевятнадцацігадовы цыкл із 235 маладзікоў, пасьля якога ўсе маладзікі паўтараюцца зноў у тыя ж самыя дні юліянскага года працягласьцю $365^{1/4}$ дзён, які лічыўся тады трапічным годам[26]. Гэта, – кажуць нам, – і было падмуркам календара, які іудэі выкарыстоўваюць і да гэтага часу. Згодна ж з грэцкімі крыніцамі гэты цыкл (а такім чынам, і трапічны год у юліянскім яго памеры $365^{1/4}$ дзён!) быў павядомлены народу яшчэ афінянінам Метонам у V стагоддзі да пачатку нашай эры, але гэтае паведамленне, як і іншае пра яшчэ больш старажытны "Сароскі цыкл" зацьменняў, які патрабуе таго ж

[25] С. Бекі М Бран. Іудэйская гісторыя ў перапрацоўцы С. М. Дубнова т. I. Гл. XI.
[26] Ад пачатку эры Дыяклетыяна (284 г.) да 359 г. прайшло 4 такіх цыклы.

папярэдняга ведання юліянскага каляндара[27], відавочная легенда. Нават згодна з сяроднестагоддзевымі крыніцамі, заўсёды схільнымі перабольшваць старажытнасць ранейшых падзей, за адно стагоддзе да пачатку нашай эры не было вядома пра гэты каляндар. А згодна з найноўшымі даследаваннямі Хаіма Слонімскага, першага астранома-іудаіста, сучасны іудэйскі каляндар належыць Хасану ха-Даян із Кардовы, апублікаваўшаму яго толькі ў 953 годзе, а да таго часу ён не быў вядомым. І з гэтай высновай Слонімскага нельга не пагадзіцца.

Вось чаму, мне здаецца, магчыма сумнявацца нават і ў тым, што юліянскі каляндар усталяваны ў І стагоддзі нашай эры, а не пры толькі-што згаданым Цэзары Юльяне, калі жыў Гілель II, а магчыма і сам Сазіген, які склаў, паводле падання, гэты каляндар. Ды і іншыя меркаванні паказваюць на тое ж[28].

Аднак, незалежна ад таго, калі быў створаны юліянскі каляндар, пры Юліі або пры Юльяне, і нават незалежна ад таго, калі паўстала ідэя, што бог-Месяц ёсць сын бога-Сонца, "адзіны народжаны ад (гэтага) бацькі перад усімі стагоддзямі, сапраўдны бог ад сапраўднага бога, народжаны, а не створаны і адзінасутны Бацьку", але факт тое, што культ бога-Месяца сапраўды існаваў у сярэднія стагоддзі нашай эры і што выключныя з'явы змены яго фаз, згаранне праз кожныя $29^{1/2}$ сутак у полымі ранішняй зарніцы і адраджэнне праз тры дні із полымя вячэрняга зарыва, процілегла таму, што бывае з усімі знешнімі планетамі, звярталі на сябе асаблівую ўвагу ў старажытнасьці, і яго фазам надавалася таямнічае значэнне памірання і адраджэння. На гэта ўжо паказвалі некаторыя апошнія даследчыкі астральных уплываў на развіццё хрысьціянскіх ідэй, як то: Дрэўс, Немаеўскі, Свяцкі.

Усё гэта развівалася, – кажуць нам, – задоўга да пачатку нашай эры, і драбнюткія дэталі жыцця Езуса былі, такім чынам, апісаны да яго. Евангельскія апавяданні, з гэтага пункту гледжання, – кажуць нам зноў, – нічога істотнага не дадаюць да загадзя склаўшагася міфа пра "выратавальніка сусвету" і прытым да такой ступені перапоўненага цудамі і цалкам неверагоднымі падзеямі, што сур'ёзна лічыць іх за гістарычныя дакументы так жа цяжка, як лічыць апісаннем гістарычнай рэчаіснасьці арабскія казкі із "Тысячы і адной ночы". А сур'ёзных дакументаў пра яго жыццё ў Палестыне, або дзе б там ні было, нідзе не існуе, і ў нехрысьціянскіх крыніцах, якія адносяцца гісторыкамі да першага або другога стагоддзяў нашай эры, пра яго нічога не гаворыцца: усе цытуемыя тэолагамі месцы із Плінія, Святонія, Тацыта або занадта цьмяныя, або апакрыфічныя. Гістарычнага "Хрыста", такім чынам, – кажуць нам, – не існавала ні ў першым, ні ў другім, ні ў трэцім стагоддзях нашай эры: ён міф і больш нічога. І з гэтым нельга не пагадзіцца, пакуль справа ідзе толькі пра тры першыя стагоддзі. Але ці не было чаго-небудзь рэальнага пазней?

**Табліца II.**

Веснавыя раўнадзенствы згодна з Юліянскім календаром.

---

[27] На самай справе, вось як фармуліруецца Сароскі цыкл: "зацьменні месяца паўтараюцца праз кожныя 18 гадоў і $10^{1/3}$ дні, калі перыяд утрымлівае 5 юліянскіх высакосаў і праз 18 гадоў і $11^{1/3}$ дні, калі перыяд утрымлівае толькі чатыры юліянскія высакосы. На працягу гэтага перыяда бывае ў сярэднім 29 зацьменняў месяца". Гэта азначае што юліянскае злічэнне з'яўляецца фундаментам гэтага цыкла, а ніяк не яго вяршыняй.

[28] У тым што Юліянскі каляндар прыняты толькі пры "заступніку навук" імператары Юліяне (калі была вызначана працягласць з дапамогай шэрагу назіранняў за ўзыходам Рэгула, а не Сірыуса, із-за сонца ў Ягіпце і па пачаткам разліцця Ніла, псеўдатрапічнага Юліянскага года), можна пераканацца і праз пазначэнне ў Юліянскім календары дат месяцаў для роўнадзенстваў і сонцастаянняў.

| Гады | Даты | Гады | Даты | Гады | Даты |
|---|---|---|---|---|---|
| 1900 | 8 сакавіка | 1100 | 14 сакавіка | 300 | 20 сакавіка |
| 1800 | 9 сакавіка | 1000 | 15 сакавіка | 200 | 21 сакавіка |
| 1700 | 10 сакавіка | 900 | 16 сакавіка | 100 | 22 сакавіка |
| 1600 | 10 сакавіка | 800 | 16 сакавіка | 0 | 22 сакавіка |
| 1500 | 11 сакавіка | 700 | 17 сакавіка | -100 | 23 сакавіка |
| 1400 | 12 сакавіка | 600 | 18 сакавіка | -200 | 24 сакавіка |
| 1300 | 13 сакавіка | 500 | 19 сакавіка | -300 | 25 сакавіка |
| 1200 | 13 сакавіка | 400 | 19 сакавіка | -400 | 25 сакавіка |

Яны паказаны з самага пачатку на 20-ыя дні месяцаў сакавіка, чэрвеня, верасня і снежня. З прыкладзенай жа табліцы мы бачым, што на гэтыя дні, як раўнадзенствы, так і сонцастаянні прыпадалі згодна з Юліянскім календаром толькі ў IV стагоддзі нашай эры (табл. II), а ў першым стагоддзі да яе яны прыпадалі не на 20-ыя, а на 23-ія дні адпаведных месяцаў. Вызначэнне ж раўнадзенстваў і сонцастаянняў з’яўляецца не вынікам, а асновай усякага сонечнага календара.

Калі б юліянскі каляндар быў усталяваны ў першым стагоддзі да нашай эры (калі, як пакажам далей, не было ніякага Юлія Цэзара), то раўнадзенствы і сонцастаянні ў ім так бы і былі зафіксаванымі на 23-ія дні ўсіх яго месяцаў. Бо і сама даўжыня месяцаў, у 30 і 31 дзень з лютым у 28-29 дзён, відавочна прыстасавана да загадзя вызначаных 20-ых дзён для ўсіх гэтых чатырох пунктаў. Для наступнага ж прыстасавання да іх "юліянскага календара, складзенага ў I стагоддзі" давялося б чакаць такога ж папу Рыгора, як і для пераўтварэння гэтага календара ў новы стыль, і такая падліковая катастрофа, вядома, засталася б адзначанай у гісторыі астраноміі. Акрамя таго, Юльян Цэзар быў, несумненна, самым адукаваным і рамантычным із усіх рымска-візантыйскіх імператараў. Дакладна такжа і літаратурныя творы, на падобе "De bello Gallico", якія прыпісваюцца Юлію Цэзару, хутчэй за ўсё належаць не яму, а Юльяну, паходы якога ў Галію добра вядомыя. Гэтае пытанне настолькі важнае, што яму я прысвячаю ў наступных тамах гэтага даследавання цэлую главу, ды і пра Юлія Цэзара будзе тут дадзена асобнае даследванне, якое прывядзе нас да дзіўнага адкрыцця, што ён спісаны з Канстанцыя Хлора, які памёр у 306 годзе. Нават і з гэтага боку гледжання юліянскі каляндар належыць 1-му году "Эры Дыяклетыяна", якая пачалася ў коптаў у Ягіпце з 284 года нашай эры, а ў абісінцаў з 276 года.

# Глава III.

## Ці быў нейкі "Хрыстос" (г. азн. "магістр акультных ведаў") калі-небудзь укрыжаваны?

Мы бачылі тут высновы новай рэлігійна-гістарычнай школы, якая адмаўляе само гістарычнае існаванне на зямлі рэальнага правобраза легендарнага Езуса, і ігнараваць іх, я паўтараю, немагчыма, як і ўсякую іншую шчырую і сур'ёзную крытыку існуючых у нас дакументаў па старажытнай гісторыі, крытыку цалкам навуковую і відавочна натхняемую імкненнем даведацца праўду і толькі адну ісьціну. Можна толькі паспрабаваць паглядзець, ці не існуе якога-небудзь іншага выйсця са склаўшагася становішча, і ці не выявіцца нейкіх гістарычных фактаў у дайшоўшых да нас "паданнях пра Хрыста", калі мы перанясём іх у іншую эпоху, і

калі ўсе дайшоўшыя да нас паданні пра яго, за якімі нельга прызнаць гістарычнага значэння, мы перавядзём у вобласць псіхалагічнай характарыстыкі таго пакалення ці той стадыі развіцця чалавечай душы?

У не адпавядаючых рэчаіснасьці евангельскіх апавяданнях пра цуды, здзейсненыя Езусам, вядома, нельга шукаць гістарычных фактаў, а толькі зборы чутак, якія хадзілі ў той час пра яго, як пра лекара і як пра чалавека, упершыню выкарыстаўшага таямнічую магутнасць ўздзеяння адной чалавечай душы на другую для лекавання нервовых захворванняў. Яны характарызуюць больш саміх апавядальнікаў, даюць яркія прыклады тагачаснага светапогляду. Евангеллі – гэта не гісторыя, а першы зародак пазнейшых сентыментальных раманаў на гістарычнай падставе з прымешкай цудоўнага.

Значную частку цудаў можна растлумачыць не магутнасьцю ўздзеяння Езуса на звычайных людзей, а натур – з сімвалічным настроем старажытных розумаў, гэтым першым праблiскам нараджаючагася рэлігійнага пачуцця, дзякуючы якому жыццёдаючае Сонца паступова ператварылася ў іхным уяўленні ў бога-бацьку, "усёпадтрымліваючага стваральніка неба і зямлі", ціхі месяц, асвятляючы пасярод незлічоных яркіх зорак нашы ночы і атрымліваючы сваё святло ад Сонца, - у "бога-сына, адзіна народжанага богам-Сонцам раней усіх стагоддзяў", а святло і паветра, якія старажытныя навукоўцы яшчэ не аддзялялі адно ад другога, - ў "святога духа" (г. азн., у святло-паветра), Уладара жыватворнага, ад бацькі-Сонца выходзячага, якога патрэбна шанаваць і праслаўляць разам з богам-Сонцам і яго сынам богам-Месяцам" (*гл. сімвал праваслаўнай веры*).

Аднак жа, у Евангеллях і сучасных ім дакументах і літаратурных творах першых стагоддзяў хрысьціянства маюцца і такія месцы, якія нельга растлумачыць ні астралогіяй, ні алхіміяй, ні чорнай магіяй і гіпнатызмам, як іх асновай, і якія носяць характар сапраўднай гістарычнасьці. Асабліва вызначаюцца гэтым тыя месцы на прыканцы ўсіх Евангелляў, дзе распавядаецца ў нашых перакладах пра "ўкрыжаванне Езуса на крыжы".

Я знарок выказваюся: у нашых перакладах, таму што, звярнуўшыся да грэцкага тэксту, на якім былі напісаны ўсе Евангеллі, я знайшоў там цалкам іншае. Замест *крыж* там паўсюль стаіць *стаўрас* (σταυρός), а замест *укрыжаванне на крыжы* ўсюды ўжываецца дзеяслоў *стаўроо* (σταυροω). Але стаўрас азначае зусім не крыж, а *кол* або *шост*, а дзеяслоў *стаўроо* азначае: *саджаю на кол*.

Тут не можа быць іншага сэнсу, таму што і ўсе словы ўтвораныя ад гэтага кораня маюць такое ж значэнне. Так, *стаўрома* азначае частакол, *стаўросіс* - забіванне калоў, умацаванне лагера шанцамі і гэтак далей. Ніколі слова *стаўрас* не мела сэнсу крыж у свецкіх грэчаскіх аўтараў, як, напрыклад, Фукідзід. Усюды яно азначае кол і больш нічога, а тое, што тэолагі тлумачаць як укрыжаванне, у звычайных грэчаскіх аўтараў усюды азначае пакаранне пасродкам натыкання злачынцаў на завостраны кол, убіты ў зямлю.

Якім жа чынам і калі хрысьціянскія тэолагі прыйшлі да высновы, што Ісус быў не пасаджаны на кол, як літаральна гаворыцца ў грэцкім арыгінале усіх Евангелляў і ўсіх пасланняў апосталаў, а *прыбіты да крыжа*? Бо гэта цалкам іншае!

Такое пераіначванне сэнсу грэцкага падання ўпершыню адбылося ў лацінскім перакладзе Евангелляў, дзе замест грэцкага Стаўраса – кала было пастаўлена слова Крукс (crux) – крыж, і гэтая замена зваротным шляхам перайшла і на тлумачэньне першапачатковага грэцкага слова *стаўрас* у сэнсе крыжа, хоць у

славянскім перакладзе і гаворыцца больш правільна, што Ісус быў "узнесены на дрэва".

Гэта ж тлумачыць нам і старажытнахрысьціянскі звычай стоўпніцства, г. азн. працяглага сядзення на высокіх слупах, як сродак адкуплення сваіх грахоў. Заснавальнікам гэтага звычаю быў грэцкі манах Сымон-стоўпнік, памёршы, згодна з царкоўным паданнем, 1 верасня 459 года, г. азн., як хутка пабачым, праз 91 год пасьля стаўбавання евангельскага Хрыста. Нам тлумачаць, што Сімяён "правёў шмат гадоў жыцця на слупе, каб быць бліжэй да неба", але гэта тлумачэнне занадта наіўнае, каб яго варта было абмяркоўваць. Лепш было б сесьці на дах. І гэтая Сымонавага недарэчнасць можа быць растлумачана толькі "перайманнем Хрысту". Ды і так званыя стыўрапігіяльныя кляштары ў перакладзе азначаюць кола-задныя (Стаўрас – кол і пігэ – задніца) (Ух, ты! Так пігаліца - гэта-ж цакам не тое, што я думаў раней...).

Разважаючы пра тое, якое мне знайсьці выйсьце із гэтай цяжкасьці пры сваім выкладанні, я вырашыў прытрымлівацца нашага царкоўна-славянскага тэксту і перакладаць грэцкае слова стаўрас словам слуп, а дзеяслоў стаўроо словам слупаванне, так як тут не прадвызначаюцца дэталі апісваемага пакарання.

Якімі ж былі нагоды "слупавання" Езуса? Паспрабуем прытрымлівацца евангельскіх паданняў.

У сучаснай рацыяналістычнай перадачы гэтыя месцы разумеюцца так. Адзін выключна таленавіты навуковец (мал. 38 і 39) быў, як і ўсе навукоўцы таго аддаленага перыяду, адначасова і астролагам, і алхімікам, і лекарам, і чараўнікам, г. азн. валодаў усімі таямніцамі тагачасных акультных навук. Ён меў імя Іешуа (*па-руску Ісус*), што ў перакладзе са старажытна-сірыйскай мовы азначае – выратавальнік. Час яго жыцця да гэтага часу вызначаўся недастаткова дакладна. Ён прапаведаваў ідэі, якія набылі яму шмат ворагаў сярод навукоўцаў старога пакалення і некалькі гарачых прыхільнікаў, із якіх адзін, самы юны і адораны духоўна, меў імя Ян або Іона[29], а другі, старэйшы, – Сымон па-жыдоўску, а па-грэцку быццам бы Пятро[30]. Першы, відаць, паходзіўшы із інтэлігентнай сям'і, пазней набыў выбітную адукацыю, так як напісаў на той час высока мастацкі Апакаліпсіс. Другі ж быў менш адораны духоўна, але затое вельмі энергічны і пазней стаў выбітным практыкам арганізатарам.

[29] Па-жыдоўску гэта тое ж самае імя יונה (ІУНЕ) – азначае галубёнак, гарліца, а таксама ianieц.

[30] Сымон (שמעון=ШМЕУН) азначае яго слухач, а Пятро (πετρος) – камель, скала.



Мал. 38. Выява Езуса з могілак св. Каліста. (Із кнігі Фаррара “Жыццё Езуса Хрыста”).



Мал. 39. Выява Езуса на камеі із зялёнай яшмы з надпісам ΟΩΝΟΗΝ, г. азн. які быў і ёсць. (Акапаліксіс 1,8). Прыпісваецца чацвёртаму ст.

Ідэйныя ворагі "выратавальніка" вызначаліся, як і ўсе застыўшыя і закамянеўшыя ў аднойчы засвоеных разуменнях руцінёры, нецярпімасьцю і нянавісьцю да ўсяго, што не памяшчаецца ў вузкія рамкі іхнага разумення, і вымавілі яму смяротны прысуд, як пазней інквізіцыя вымавіла прысуд Джыардано Бруна за тое, што ён не прызнаваў яе дагмат пра нерухомасць зямлі, як цэнтра сусвету. Яны прысудзілі "выратавальніка" (мал. 40) да слупавання, каб выставіць яго на ўсеагульнае ганьбаванне і на запалохванне цёмнага натоўпу, як раз падчас праходжання Сонцам ўзыходзячага "крыжа" нябёсаў (г. азн. перасячэння нябеснага экватара і экліптыкі ў сузор'і Рыб, перад Авенам, згараючым у полымі вечаровага зарыва) і перад праходжаннем месяцам сыходзячага "крыжа" ў сузор'і Панны, у якім рыхтавалася ў тую ноч поўнае месяцовае зацьменне.



Мал. 40. Суд над Езусам згодна з мазаікай у Равене, адносіцца да VI ст. н. э. Яна лічыцца самай старажытнай із усіх.

"Ратавальніка" ці пасадзілі на шост з папярэчнай перакладзінай каля вяршыні, каб шост не мог хутка глыбока ўвайсьці ў яго цела, або паднялі на гэты шост з пятлёй на шыі і закінулі яго рукі за перакладзіну, каб ён зваліўся ў пятлю, калі зьнямеюць стаміўшыяся рукі, або, нарэшце, ён быў проста прывязаны да "ганебнага слупа" з нейкай незразумелай для нас мэтай, і яго праткнулі дзідай.

Часам гэтай падзеі згодна са шматлікімі рэлігійна-гістарычнымі традыцыямі было 21 сакавіка перад пятніцай (пачынаўшайся не з паўночы, а з вечара нашага чацвярга). Але ў гэтую самую ноч, з чацвярга на пятніцу, адбылося месяцовае зацьменне, якое шматлікім натоўпам гледачоў і ўсімі пасьлядоўнікамі "выратавальніка" было звязана з яго асуджэннем. Адзін із апошніх, Ёсіф, Леў труны Грамабоя[31], змог раніцай у пятніцу, 21-га ж сакавіка, дамагчыся ў рымскіх уладаў, якія зацвярджалі і выконвалі прысуды духоўных судоў, дазволу зняць яго, ужо страціўшага прытомнасць, са слупа і пакласьці ў грабніцу гэтага "Ільва труны Грамабоя", быццам бы высечаную ў скале. Але "выратавальнік" там прыйшоў у прытомнасць ноччу з суботы на нядзелю, г. азн. вечарам 22 або раніцай 23 сакавіка, адсунуў засланяўшы камень і дайшоў або дапоўз да кахаўшай яго дзяўчыны Марыі, якая і схавала яго. Так атрымліваецца згодна з Евангеллямі.

Гэтае цудоўнае "ўваскрасенне із памёршых", магчыма, будучы ў сувязі з ужо існаваўшымі тады чаканнямі выратавальніка (па-жыдоўску месіі), і энтузіязм яго вучняў, якія былі перапоўнены панаваўшымі тады забабонамі, зрабілі тое, чаго, вядома, ніколі не магло б зрабіць самая таленавітая яго павучанне. Яго пачалі лічыць за бога, які сышоў з нябёсаў на зямлю, каб навучыць людзей праўдзе. Староннія людзі ўсюды пачалі адшукваць яго, каб пачуць хоць адно яго слова, нягледзячы на тое, што ён зараз быў вымушаны хавацца ад сваіх ворагаў.

Такім з’яўляецца рацыяналістычнае тлумачэнне паведамленняў у Евангеллях пра Езуса, імя якога і азначае выратавальнік ці лекар.

Усё гэта псіхалагічна так праўдападобна, што неяк не верыцца, каб апавяданне пра зямное жыццё міжвольнага заснавальніка сярэднявечнай хрысьціянскай ідэалогіі было чыстым міфам. Каб разабрацца ў гэтым пытанні, разгледзім першасныя дакументы і паглядзім, ці няма астранамічных пацверджанняў апісаных у іх падзей, так як астранамічныя пацверджанні – адзіна праўдзівыя праваднікі ў прыцемках старажытнай гісторыі.

Перш за ўсё, разгледзім дайшоўшыя да нас апавяданні пра нябесныя з'явы, якія суправаджалі слупаванне “выратавальніка”. Вось яны:

У Евангеллі Яна паведамляецца:

“Каля слупа стаялі яго маці і яе сястра – Марыя Клеопава, і Марыя Магдаліна, і вучань, якога ён шанаваў, і які пазней забраў яго маці да сябе жыць” (19, 25).

“Выратавальнік” прамовіў: “я хачу піць...” (19, 27), і тады абмакнуўшы ў воцат губку і, паклаўшы яе на сцябло ісопа, падносяць яе да яго вуснаў[32]. Паспрабаваўшы воцат, ён прамовіў: “адбылося”, і страціў прытомнасць (19, 30). А так як у гэты дзень была пятніца (*παρασκευη, г. азн. падрыхтоўка да суботы*), то

---

[31] Міфічнае імя Арымафей паходзіць ад ארוה (АРІЕ) – Леў מטה (МΘЕ) – ложак, гроб і יה (ІЕ) – Грамавержац, а ўсё разам: Леў ложка смерці Грамабоя (у нашым перакладзе: господа).

[32] Гэта ў насмешку, так як хрысты, ці назарэі, г. азн. пасвечаныя ў таямніцы акультных ведаў таго часу, як пабачым далей, не мелі права піць ні віно ні ўксус.

іудаісты (*ιουδαίοι*[33]), каб не пакідаць целы пакараных на слупах на суботу, бо гэтая субота (*якая пачыналася з 6 гадзін вечара нашай пятніцы*) была днём вялікім (*першай пасьля раўнадзенства*), папрасілі Пілата дазволіць перабіць у іх сцёгны (*відавочна, каб, прыйшоўшы ў прытомнасць, не збеглі*) і зняць..."(19, 31)."Але калі яны падышлі да "выратавальніка", то пабачылі, што ё**н ужо памёр, і таму не перабілі ў яго сцягно**, а адзін ваяр пракалоў яму дзідай бок, і пацякла із яго кроў і вада"(19, 34).

(Гэта апошняя акалічнасць асабліва цікавая з фізіялагічнага боку гледжання. Яна паказвае, што Езус быў яшчэ жывы, так як із памёршых кроў не цячэ з нагоды спынення дзейнасьці сэрца і загусьцення крыві, а вада магла быць ад ацёку. Падобны факт старажытны складальнік легенды не мог бы прыдумаць, гэта мог бы паведаміць толькі сведка. Тут бачыцца відавочнае падцверджанне праўдзівасьці евангельскага апавядання.)

"Пасьля гэтага, - працягвае далей Ян, - прыйшоў Язэп, Леў труны (*вучань Езуса, але таемны, із баязні перад іудаістамі*), і зняў яго цела". Нікадзім, які прыйшоў услед за ім, "прынёс духмяную сумесь із сьмірны і алею", яны "узялі яго і абматалі ў палатно з пахучасьцямі". "Тут была ў садзе пячора, у ёй спешна паклалі цела "выратавальніка" раней заканчэння пятніцы", г. азн. да 6 гадзін вечара (Ев. Яна , 19, 39... 42).

"У першы ж дзень пасьля суботы (μια των σαββάτων), калі было яшчэ цёмна, прыходзіць да пячоры Марыя Магдаліна і бачыць, што камень адвалены. Бяжыць да Сымона і да другога вучня, якога шанаваў "выратавальнік", і паведамляе: "вынеслі майго гаспадара із пячоры, і не ведаю, дзе яго паклалі"."Абодва пабеглі разам, але *другі* вучань бег хутчэй і, нахіліўшыся, пабачыў ляжаўшыя пялёнкі і хустку, якая была на яго галаве"," асобна на іншым месцы"."І вярнуліся да сябе, а Марыя стаяла каля пячоры і плакала"(20, 1... 11).

Адсюль відаць, што ва ўсім, што гаворыцца ў Яна пра абставіны пакарання Назарэя (г. азн. пасвечанага ў таямніцы акультных навук таго часу) і пра яго далейшае ажыўленне, няма ніякіх указанняў на такія падзеі ў прыродзе, якія б здаліся цудоўнымі для аўтара. А сам аўтар, як відаць із усяго яго Евангелля, быў вельмі адукаваным згодна са сваім часам чалавекам. Вельмі важна для нас тут і яго ўказанне, што цела было знята **ў пятніцу днём**, г. азн. што слупаваны вісеў усю ноч з чацвярга на пятніцу. Не было патрэбы аўтару прыдумляць таксама і паведамленне пра тое, што ў яго не была перабіта нага, калі б яго "ўваскрасенне" было чыстай выдумкай легкаверных або містыкаў.

Разгледзім зараз і астатнія евангельскія апавяданні пра гэтую самую падзею.

Возьмем спачатку **Евангелле Марка**, як больш прастадушнае.

"Слупавалі яго ў трэццяй гадзіне (*гэта азначае, у дзевяць вечара згодна з нашым адлікам*), – паведамляе ён у XV главе, – і быў надпіс яго правіны: "*цар богаслаўных*"[34]. "З ім слупавалі двух разбойнікаў". "А шостай жа гадзіне (*г. азн. у поўнач згодна з нашым злічэннем*) наступіла **зацьменне па ўсёй зямлі і працягвалася да дзевятай гадзіны** (*г. азн. да трох гадзін ночы згодна з сучасным злічэннем*). Тады "выратавальнік" закрычаў: "Элоі, Элоі, ламма сабахтані"(*божа,*

---

[33] Я звяртаю асаблівую ўвагу чытача на правільнасць майго перакладу выкарыстанага тут грэчкага слова Ιουδαίοι – іудаістамі, так як далей пакажу, што тут гаворка ідзе не пра нейкую нацыю, а пра веравызнанне.

[34] Па-жыдоўску ה־מלך־יהוה (Е МЛК ІЕУДЕ) – вярхоўны правадыр славячых (ці славы, ззяння будучага.

*божа, навошта мяне пакінуў*?)" [гл. псалом 22 (21)][35], "і з гучным стогнам страціў прытомнасць" (15, 37). "І заслона ў храме разарвалася зверху да нізу" (15, 38).

Пра тое, што ў яго не былі перабіты галёнкі, а ў разбойнікаў былі, Марк ўжо не лічыць патрэбным згадваць і толькі паведамляе, што перад надыходам сірыйскай суботы (*г. азн. вечара пятніцы*) Ёсіф хадзіў да рымскага кіраўніка з прашэннем зняць цела "выратавальніка". Той "здзівіўся, што ён ужо памёр", але дазволіў. Ёсіф Арымафейскі, "зняўшы яго і абвіўшы палатнішчам, паклаў яго ў склеп, высечаны ў скале, і прываліў камень да адтуліны" (16, 42, мал. 41). І вось "Марыя Магдаліна, Марыя Якаўлева і Саломія прыходзяць да склепа пры ўзыходзе сонца пасьля суботы і бачаць, што камень адвалены" (16, 1... 4). "Яны збеглі ад пячоры і нікому нічога не паведамілі ад перапалоху. "Выратавальнік" жа, прыйшоўшы ў прытомнасць раніцай пасьля суботы, зьявіўся спачатку да Марыі Магдаліны, і яна паведаміла пра гэта сумуючым пра яго, але яны не паверылі" (16, 9...10). "Потым (*невядома праз які прамежак часу*) ён сустрэў дваіх з іх на шляху ў паселішча, але і іхнаму паведамленню ніхто із астатніх не паверыў" (16, 12... 14). "Нарэшце, ён з'явіўся і самім адзінаццаці", дакараў іх за адсутнасць веры і прамовіў:

---

35 עזבתני למה אלי אלי (літаральна: АЛІ, АЛІ, ЛМЕ ЭЗБТНІ). Такі ж і пачатак псалма 22 (21 згодна з грэцкай версіяй), пра што будзе сказана пазней.



Мал. 41. Месца безпадстаўна выдаваемае тэолагамі за грабніцу Ёсіфа Арымафейскага (г. а. Чаркі Грамабоя Ільва труны господа) ў Палестыне. (із кнігі "Святая зямля і Біблія").

"Ідзіце і паведамляйце добрую вестку (*пра маё ўваскрасенне*) па ўсім свеце" (16, 19).

Так і заканчаецца Евангелле Марка, таксама без якіх бы то ні было цудаў, акрамя таго, што падчас слупавання адбылося трохгадзіннае зацьменне (σκότος) паміж шасьцю і дзевяццю гадзінамі. Лічэнне павінна быць усюды старадаўнім, г. азн. з вечара, які пачынаўся ў тыя часы у шэсць гадзін пасьля поўдня. У шэсць гадзін згодна з гэтым лічэннем наступала поўнач, і ў гэты час павінен быў ярка сьвяціць поўны Месяц, таму што падзея адбылася, як сведчыць старажытнае паданне, пад час вясенняга поўнага месяца, у ноч з гарачага чацвярга на гарачую пятніцу, і ў той жа час у ноч з 20 на 21 сакавіка (або з 14 на 15 іудэйскага веснавога месяца Нісана). А так як сонечных зацьменняў не можа быць пад час поўнага месяца, то ўсё гэтае месца можна растлумачыць толькі поўным зацьменнем месяца, пачаўшымся ў поўнач і працягваўшымся да 3-ох гадзін ночы згодна з сучасным адлікам, пасьля чаго паўднёвая, часова пацямнеўшая, яркая ноч зноў пачала станавіцца светлай, г. азн. поўная фаза зацьмення скончылася. Адсутнасць

ўказання на гэта ў Евангеллі Яна можна растлумачыць толькі тым, што яго аўтар, як вельмі адукаваны чалавек, ведаў, што тут няма ніякага цуда, што зацьменні месяца адбываюцца перыядычна ў загадзя вызначаемыя тэрміны, і таму не хацеў распавядаць пра факт, здольны імпанаваць толькі адным невукам і, наадварот, выклікаць іранічную ўсмешку ў яго адукаваным атачэнні. Марк жа быў прастадушным, а таму і згадаў пра гэта, як факт больш за ўсё уразіўшым натоўп, як пра цуд.

Паглядзім зараз, наколькі падцвярджаецца такое тлумачэнне пры вывучэнні **Евангелля Мацвея**, якое, па сутнасьці, уяўляе простае запазычанне амаль усяго Евангелля Марка, дапоўненае шматлікімі дадатковымі легендамі, большай часткай відавочна фантастычнага, г. азн. позняга характару.

Вось як распавядае **Мацвей** пра слупаванне Езуса. "Слупаваўшыя паставілі над яго галавой надпіс зь правінай: "выратавальнік, правадыр славячых будучага"[36] (27, 35... 37). Слупавалі разам з ім і двух разбойнікаў" (27, 38). "І наступіла зацьменне (σκοτος) **на ўсёй зямлі ад шостай да дзевятай гадзіны**" (*г. азн. ад паўночы да трох гадзін ночы*). "Выратавальнік" закрычаў: "Элі, Элі, Ламма савах фані" (божа, божа, навошта мяне пакінуў!) (27, 46) і з гучным стогнам страціў прытомнасць. *І завеса ў храме разарвалася зверху данізу, і зямля затрэслася, і магілы расчыніліся, і грабніцы адкрыліся, і парэшткі шматлікіх праведных ажылі і, выйшаўшы із грабніц пасьля яго ўваскрэсення, увайшлі ў "Святы Горад" і з'явіліся шматлікім*"(27, 51...53).

Тут запазычанне із Марка відавочна не толькі праз падобнасць зместу, але і па яўрэйскай фразе. У апошніх, падкрэсленых мною радках, чытач можа сам бачыць, як да простага выкладання Марка тут дадаецца ўжо фантастычная выява неверагоднага здарэння – ўваскрасення шматлікіх памёршых, што можа сведчыць толькі пра перапалох і забабонныя апавяданні у асяроддзі простых людзей пасьля гэтай падзеі. Дадатак ставіць пад сумненне дакладнасць апавядання і пра магчымы, па-сутнасьці, у гэты час землятрус і прымушае меркаваць, што тут ён дададзены да апавядання пра слупаванне праз наяўнасць нейкага іншага землятрусу, сапраўды адбыўшагася каля таго ж часу ў Сірыі, як чытач пабачыць далей із "царкоўнай гісторыі" Сакрата Схаластыка. Дакладна гэтак жа ўсюды ў Мацвея да першапачатковых простых паведамленняў Яна і Марка пра тоем, як страціўшага прытомнасць "выратавальніка" пахаваў Язэп і як потым Марыя Магдаліна, прыйшоўшы раніцай, знайшла пячору адчыненай, дададзена, што і ў гэты момант таксама "адбыўся вялікі землятрус, таму што апавяшчальнік божы, які сышоў з нябёсаў, адваліўшы камень ад грабніцы, сеў на яго, і выгляд яго быў як маланка, *а вопратка яго была белая, як снег (перайманне першай главы Апакаліпсіса*)".

Затым апісваецца фантастычная выява панікі сярод вартаўнікоў, пастаўленых быццам бы Пілатам каля грабніцы (*чаго, вядома, не было*), апісваюцца марныя спробы "іудаістаў" схаваць ад публікі, што адбылося ўваскрасенне слупаванага і распавядаецца пра тое, як, уваскросшы із памёршых, ён паклікаў сваіх вучняў да сябе на гару у Галілеі і, словамі із Апакаліпсіса, прамовіў ім: "Мне дадзена ўсякая ўлада на небе і на зямлі" (28, 18).

Так паступова развівалася легенда пра цудоўнае ажыўленне "слупаванага настаўніка".

---

[36] Па-жыдоўску יהודה מלך י־הושיע (І-ЕУШЕ МЛК І ЕУДЕ) – "богавыратавальнік, правадыр славячых (ці славы, ззяння) будучага".

Разгледзім на заключэнне гэтае ж апавяданне ў **Евангеллі Лукі**, у якім, як і ў Мацвея, мы знаходзім ўсю асноўную частку падзей даслоўна перапісанай із Марка:

"Калі прыйшлі на лобнае месца, слупавалі і двух разбойнікаў направа і налева ад яго (23, 33), і быў над ім надпіс па-грэцку, па-рымску і па-жыдоўску: "гэта вярхоўны правадыр іудаістаў"(23, 38). Была шостая (*палестынская*) гадзіна (*г. азн. поўнач*), і раптам **зрабілася зацьменне** (σκότος) па **ўсёй зямлі да дзевятай гадзіны** *(г. азн. да трох гадзін ночы*). І зацямнелася сонца (εσκοτίσθη ό ήλιος), і завеса ў храме разарвалася пасярэдзіне, а "выратавальнік" выдаў лямант: "Бацька, бацька, прымі маю душу ў твае рукі!" і страціў прытомнасць" (23, 44).

Мы бачым і тут, гэтак жа як і ў Мацвея, відавочна пазнейшыя прыпіскі, зробленыя Лукой ад сябе, да першапачатковых апісанняў Яна і Марка. Больш за ўсё для нас тут цікавы дадатак Лукі ці аднаго із яго ранніх перапісчыкаў пра *зацьменне Сонца*, якое наводзіла некаторых астраномаў на думку, што ў Евангеллях апісана сонечнае зацьменне падчас слупавання Езуса і што менавіта гэтай з'явай і тлумачыцца хуткае зняцце яго са слупа без разьбівання галёнак, яго наступнае ажыўленне і ўзнікненне хрысьціянскага культу, да якога пазней былі дададзены чыста астральныя дэталі больш ранняга паходжання. А між тым *сонечнага* зацьмення відавочна не магло быць пад час *поўнага месяца*, ды і наогул ніякага сонечнага зацьмення ў Палестыне не было ў чацвер ці ў пятніцу перад іудэйскай паскай на працягу першых стагоддзяў нашай эры.

Усё гэта прымусіла астраномаў-гісторыкаў лічыць апавяданне пра астранамічныя і сейсмічныя з'явы пры слупаванні "выратавальніка" простай фантазіяй і сцвярджаць, нарэшце, гэтак жа, як Дрэўс, што і сам факт існавання Езуса Назарэя (г. азн. лекара, пасвечанага ў таямніцы акультных навук ) і "ўкрыжаванага" пазней у Палестыне ці Сірыі, або ў іншым месцы на Усходзе, не даказаны гістарычна.

Але толькі-што зробленае мною параўнанне евангельскіх тэкстаў паказвае, што згадка пра Сонца ў Лукі з’яўляецца *пазнейшым дадаткам* і можа мець дачыненне толькі да аднаго із сонечных зацьменняў канца IV ці пачатку V стагоддзя, у шэрагу праходзіўшых праз Візантыю зацьменняў 355, 386, 393 і 418 гадоў.[37] Усюды ў Евангеллях гаворка, відавочна, ідзе не пра сонечнае, а пра месяцовае зацьменне, з паўночы да раніцы, у ноч з чацвярга на пятніцу, каля самага вясновага раўнадзенства, г. азн. у ноч 20/21 сакавіка. Такое месяцовае зацьменне я і пачаў шукаць на працягу першых стагоддзяў, кіруючыся тым, што хрысьціянская паска, згодна з вельмі трывалай старажытнай традыцыяй (так як яна ахоплівае **ўсіх** хрысьціянаў), спрадвеку святкуецца абавязкова ў *першую* нядзелю пасьля *першага* поўнага месяца, які надыходзіў пасьля *весновага* раўнадзенства, і не раней за 22 сакавіка, каб не святкаваць яе ў дзень самага слупавання, якое, відавочна, і было 21 сакавіка.

Мае высілкі прывялі мяне толькі да адной даты. Такая падзея, як апісаная ў Евангеллях, магла адбыцца толькі **21 сакавіка 368 года нашай эры**. Толькі адна яна (гл. табл. III) мела месца **ў ноч з чацвярга на пятніцу** гарачага тыдня, за 27

---

[37] Вось поўныя зацьменні каля гэтага часу: 6 чэрвеня 346 г., праходзіла праз Александрыю і Кіпр; 28 траўня 355 г., праз Балканскую паўвыспу вышэй горада Візантыя; 15 красавіка 386 г., праз Грэцыю і Візантыю; 20 лістапада 393 г., пра Балканы побач з г. Візантыяй у Малую Азію; 19 ліпеня 418 г., праз Балканы ў Малую Азію; 14 студзеня 484 г., із Грэцыі праз Кіпр і Антыёхію. Каля Ерусаліма ад пачатку нашай эры былі толькі: колападобнае 4 верасня 164 г., колападобнае – 8 лістапада 272 г. і 4 кастрычніка 590 г., таксама колападобнае. Пад час маладзіка каля вясенняга раўнадзенства не было ніводнага.

гадоў да ўзнікнення Апакаліпсісу, калі яго аўтару, Яну Хрызастому, было каля 19-21 гадоў[38]. Гэта, відавочна, і быў вучань Езуса Ян, які напісаў Апакаліпсіс, як я астранамічна даказаў гэта яшчэ ў Шлісельбургскім умацаванні, і зразумела, што на яго падзея слупавання павінна была падзейнічаць асабліва моцна, дзякуючы яго маладосьці. Сярэдзіна зацьмення была ў ноч з чацвярга на пятніцу ў сузор'і Панны (*як і апакаліптычнае сонечнае зацьменне*), у 5 гадзін 10 хвілін ночы згодна з Ерусалімскім часам, калі "выратавальнік" ужо быў слупаваны. Сонца знаходзілася ўсе гэтыя дні і ночы ў сузор'і Авена, згараўшага кожны вечар, у тым ліку і ў вечар слупавання, у полымі вечаровага зарыва, як велікоднае ягня, як ахвяра цэласпаленьня".

Калі лічыць час згодна са старадаўнім адлікам[39], з 6 гадзін вечара ("*і быў вечар, і была раніца, дзень першы*", гл. Кніга Быцця, глава I), то і прагрэсіўнае пацямненне Месяца было як раз *ад гадзіны шостай да гадзіны дзявятай*, калі Месяц пачаў праясняцца; яно было вельмі моцным і цалкам усё бачным у Палестыне, Ягіпце і Паўднёвай Яўропе. Іўдэйская ж субота павінна была пачацца з шасьці гадзін вечара нашай пятніцы, праз суткі пасьля слупавання. Гэта азначае, што сапраўды "выратавальнік" быў слупаваны ў чацвер вечарам і вісеў да раніцы пятніцы. Змешчаны пасьля паўдня пятніцы ў грабніцу, ён сапраўды мог прыйсьці ў прытомнасць і выйсьці, адваліўшы камень ад сваёй грабніцы.

Тут усё адпавядае апісанням евангелістаў і шматлікім хрысьціянскім паданням, а таксама і старажытным традыцыйным царкоўным цырымоніям. Хай чытач зірне на прыкладзеную мной тут табліцу (табл. III) усіх (нешматлікіх па колькасьці) месяцовых зацьменняў, адбыўшыхся каля вясновага раўнадзенства, ад VI стагоддзя да нашай эрай і да VIII яе стагоддзя, г. азн. ад глыбокай старажытнасьці да другой паловы сярэдніх стагоддзяў (далей я не лічыў з нагоды безсэнсоўнасьці), і ён сам пабачыць, што не было ніводнага іншага прыдатнага зацьмення. Цікава, што ніякіх месяцовых зацьменняў не было нават і ў дні, суседнія з 21 сакавіка, на якія можна было б паказаць у нашу эру, як таксама на магчымыя. Нават і раней яе, аж да V стагоддзя, на 21 сакавіка не прыходзілася ніводнага, а на 20-ы дзень было толькі адно, у 219 годзе, як відаць із прыкладзенай табліцы, але і яно было ўжо ў суботу.

Што ж да зацьменняў 21 сакавіка, то на працягу хрысьціянскай эры іх таксама не было ніводнага ў гэты дзень месяца, не толькі ў ноч з чацвярга на пятніцу, але і ў іншыя дні тыдня, акрамя апісанага намі. І да хрысьціянскай эры яны былі толькі ў 89, 135 і 154 гадах, і то не ў пятніцу, г. азн. цалкам выключаюцца із разглядання, тым больш што і раўнадзенствы ў гэтую эпоху прыпадалі ўжо на дні 22 і 23 сакавіка, згодна з Юліянскім календаром, якога, у дадатак, яшчэ і не існавала ў той час. Такім чынам, ўвесь перыяд ад сярэдзіны VI стагоддзя да пачатку нашай эры і ўвесь перыяд ад яе пачатку да канца VIII стагоддзя дае толькі адно адзінае астранамічнае рашэнне: **слупаванне евангельскага "выратавальніка" адбылося 20 сакавіка 368 года**, зняцце са слупа пасьля

[38] Із біёграфаў Яна Хрызастома Stilling схіляецца да 344 г. Tillemont да 347 г., згодна ж з візантыйскімі крыніцамі каля 334 г. у сярэднім, можна сказаць, што ў момант слупавання Езуса ў 368 г. Яну было не менш 14 і не больш 24 гадоў, у сярэднім 19 гадоў, што цалкам адпавядае ўзросту "самага малодшага із паслядоўнікаў Езуса".

[39] Таму што да вынаходніцтва гадзінніка не было магчымасьці вызначыць поўнач і таму суткі лічылі з вечара.

месяцовага зацьмення было праз суткі, раніцай 21 сакавіка, а **"ўваскрасенне" адбылося перад світаннем 22 сакавіка 368 года**.

Папярэднічаўшае зацьменне 19 сакавіка 303 года хоць і пазначана ў нас пятніцай, але згодна з сірыйскім адлікам было ўжо ў суботу. А, акрамя таго, яно было да веснавога раўнадзенства і таму не пагадняецца з царкоўным правілам, згодна з якім хрысьціянская паска не можа быць нават 21 сакавіка, і абавязкова ўжо пасьля дня раўнадзенства, IV стагоддзя нашай эры.

Табліца III.

Рэестр усіх зацьменняў месяца, якія адбыліся ў прамежку ад 18 сакавіка да 23 сакавіка паміж 545 годам да н. э. і канцом VIII стагоддзя н.э. (згодна з T.K. Ginzel "Spezieller Kanon der Sonnen-und Mondfingsternissen" 1899. стр. 137-159 і згодна з маімі дадатковымі вылічэннямі.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Зацменні пасьля пачатку нашай эры.<br>Паміж 800 і 536 гадамі не было ніводнага зацьмення месяца паміж 18 і 21 сакавіка. Усе былі пазней ці раней. | | | | | |
| Час зацмення | | Велічыня ў адзінках закрыцця | Сярэдзіна зацьмення згодна з грынвічскім часам | Тое ж згодна з ерусалімскім часам | Бачнасць |
| | 536 г. 23 сак. нядзеля | 4 (част.) | 14 г. 33 хв. | 16 г. 55 хв. | Не бачнае на берагах Міжземнага мора, заканчэнне бачна вечарам у Вавілане |
| 19 | | | | | |
| | 517 г. 23 сак. чацвер | 20 (поўн.) | 18 г. 46 хв. | 21 г. 8 хв. | У Рыме бачны сярэдзіна і канец. У Афрыцы (Ягіпет), Вавіл. – усё. Але месяц вечарам у чацвер ўзышла ўжо пад час зацьмення. |
| 19 | | | | | |
| | 498 г. 23 сак., паняд. | 10 (част.) | 18 г. 26 хв. | 20 г. 48 хв. | Бачна усё, але у панядзелак |
| 63 | | | | | |
| | 433 г. 21 сак. аўторак | 9 (част.) | 21 г. 47 хв. | 0 г. 9 хв. | Бачна усё, але у аўторак. |
| 27 | | | | | |
| | 406 г. 20 сак. аўторак | 1 (малое) | 18 г. 48 хв. | 21 г. 10 хв. | Бачна ўсё, але ў аўторак. |
| 18 | | | | | |
| | 368 г. 21 сакавіка пятніца | 13 (поўн.) | 0 г. 48 хв. | 3 г. 10 хв. | Бачна ўсё на тэр. усіх прыбярэжных краін Міжзем. мора. Адзінае раўнадзенства у ноч з чацвера на пятніцу. |
| 26 | | | | | |
| | 322 г. 19 сак. паняд. | 15 (поўн.) | 22 г. 26 хв. | 0 г. 48 хв. | Бачна ўсё, але ў панядзелак. |
| 19 | | | | | |
| | 303 г. 19 сак. пятніца | 15(поўн.) | 21 г. 52 хв. | 0 г. 14 хв. | Бачна ўсё, але раўнадзенства прыпадала ўжо на суботу. |
| 25 | | | | | |
| | 238 г. 18 сакавіка субота | 14 (поўн.) | 4 г. 5 хв. | 6 г. 27 хв. | Канец і сярэд. бачны ў Рым, Афіны, Мемфіс. У Вавілоне толькі раніцай. |
| | | | | | |
| Ад пачатку нашай эры да 238 г. не было зацьменняў месяца паміж 18 і 23 сакавіка; усе былі раней ці пазней. | | | | | |
| II. Зацменні да пачатку нашай эры.<br>Злічэнне часу "гістарычнае" без нулявога года. | | | | | |
| | 5 г. 23 сакавіка чацвер | 21 (поўн.) | 18 г. 24 хв. | 20 г. 46 хв. | У Рыме вечарам бачны сярэдзіна і канец. У Афінах, Мемфісе, Вавілоне – усё. |
| 19 | | | | | |
| | 24 г. 23 сак. панядзелак | 8 (част.) | 21 г. 18 х. | 23 г. 40 хв. | Усё бачна ў панядзелак |
| 65 | | | | | |
| | 89 г. 21 сак. аўторак | 7 (част.) | 16 г. 1 хв. | 18 г. 23 хв. | У Рыме, Афінах бачны канец вечарам. У Мемфісе, Вавілоне – сярэдзіна і канец. |
| 46 | | | | | |
| | 135 г. 21 сак. нядзеля | 18 (поўн.) | 0 г. 21 хв. | 2 г. 43 хв. | Бачна ўсё, але ў нядзелю. |
| 19 | | | | | |

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | 154 г. 21 сак. чацвер | 10 (поўн.) | 17 г. 10 хв. | 19 г. 32 хв. | У Рыме – канец вечарам. У Афінах і Мемфісе – сярэдзіна і канец. У Вавілоне – усё. |
| 46 | | | | | |
| | 200 г. 19 сак. панядзел. | 16 (поўн.) | 22 г. 54 хв. | 1 г. 16 хв. | Бачна ўсё, але ў панядзелак. |
| 19 | | | | | |
| | 219 г. 20 сак. субота | 13 (поўн.) | 0 г. 40 хв. | 3 г. 2 хв. | Бачна ўсё, але ў суботу |
| 27 | | | | | |
| | 246 г. 18 сак. пятніца | 2 (малое) | 16 г. 42 хв. | 19 г. 4 хв. | У Рыме – канец вечарам. У Афінах – сярэдзіна і канец. У Мемфісе і Вавілоне – усё. |
| | | | | | |

Ад 243 г. да 545 г. да пачатку нашай эры не было ніводнага зацьмення месяца паміж 18 і 23 сакавіка; толькі ў 541 г. было адно – 23 сакавіка і толькі ў 656 г. дата дня панізілася да 20 сакавіка. Гэтыя перыядычна ўзнікаючыя пустуючыя прамежкі, даўжынёй прыкладна каля 240 гадоў кожны, знаходзяцца ў залежнасьці ад умоваў зваротнага перамяшчэння вузлоў арбіты месяца. Гадзіны сутак лічацца ад грынвічскай паловы ночы. Для пераходу да ерусалімскага часу патрэбна да пазначаных лічбаў дадаць 2 гадзіны 22 хвіліны.

Адзінкай закрыцця тут лічыцца дванаццатая частка дыска месяца: із гэтага вынікае; зацьменні больш 12 "адзінак" – поўныя, ніжэй – частковыя: пры нязначнай лічбе "адзінак закрыцця" – частковыя, адпавядаючыя малой частцы закрыцця месяца.

Такім чынам, і астранамічнае даследаванне Апакаліпсіса і такое ж даследаванне Евангелляў прыводзіць да аднаго і таго ж выніку: "выратавальнік" (Езус па-жыдоўску) жыў у сярэдзіне IV стагоддзя нашай эры і быў "слупаваны", але без смяротнага заканчэння, 20 сакавіка 368 года. Ян Хрызастом і Ян Багаслоў – адна і тая ж асоба. Якімі былі ўмовы грамадзкага жыцця ў гэты час?

Перш за ўсё, звярну ўвагу чытача, што ва ўсіх Евангеллях гаворыцца, што на слупе "выратавальніка" быў надпіс: "цар іудаістаў" (ό βασιλεύς τών ίουδαίων). У сваёй кнізе "Прарокі" я ўжо паказаў, што "іудаісты", ці "юдэі", былі не расай, а тагачаснай рэлігійна-навуковай сектай. Гэта былі прыхільнікі Юды Вялікага, іхнага афарміцеля адзінабожжа. У вылічаны намі час слупавання "выратавальніка" (з 368 года) ва Ўсходняй Рымскай імперыі валадарыў Валент, які заступаўся за іудаістаў, і ўслед за гэтым годам іудэйскі навуковец Рэў-Ашы (367-427) пачаў складаць "Ерусалімскую Гемару", г. азн. "Іерусалімскае завяршэнне". (Уяўляўшае толькі зародак той Гемары, якая вырасла да свайго сучаснага памеру толькі да часу замацавала яе друкаваным станком каля 1450 г.). Затым, яшчэ да "ўкрыжавання" Езуса, быў (у 359 годзе), – як мы ўжо згадвалі, – абнародаваны пры Юльяне каляндар, які даваў магчымасць вызначаць маладзікі і нават месяцовыя зацьменні, хоць бы толькі і на палову года наперад, з памылкай на адзін поўны месяц наперад ці назад, што вельмі лёгка зрабіць, лічачы ў сінадычным абарачэнні Месяца $29^{1/2}$ сутак. Наогул жа гэта быў час моцных навукова-рэлігійных пошукаў і спрэчак.

Ніякага грамадзянскага паўстання ў 368 годзе ў Рымскай імперыі, відаць, не было, і таму даводзіцца зрабіць выснову, што "выратавальнік" у гэты час быў слупаваны, як і выходзіць згодна з Евангеллямі, толькі за спробы чыста ідэйнага, навуковага рэфарматарства, так як рэлігія была тады толькі філасофіяй навукі, дакладней жа за ўсё – менавіта за прадказанне таго самага месяцовага зацьмення, перад якім ён і быў слупаваны, бо ўсе лічылі, што ён яго зробіць сам.

Ва ўсякім выпадку, поўнае супадзенне толькі аднаго месяцовага зацьмення 21 сакавіка 368 года з евангельскімі апавяданнямі і мае ранейшыя вылічэнні часу стварэння Апакаліпсісу, які быў створаны ў 395 годзе, аб'ядноўваюць абедзве падзеі і міжволі прымушаюць думаць, што чыста гуманітарныя месіянскія ідэі першай паловы IV стагоддзя атрымалі такое змрочнае апакаліптычнае адценне пры яго заканчэнні менавіта дзякуючы таму, што не ўсё ў іх было "астральным міфам" і

што да гэтага міфа вечарам 21 сакавіка 368 года далучылася сапраўдная чалавечая трагедыя.

# Глава IV.

## Евангельскі "Выратавальнік" (Езус) і хрысьціянства.

Але, – скажуць мне зараз, – як жа "заснавальнік хрысьціянства", "выратавальнік", мог быць слупаваны ў 368 годзе, калі яшчэ на Нікейскім саборы, ў 325 годзе, ужо спрачаліся адна з адной дзве хрысьціянскія секты, арыяне і мікалаіты, а у самых старажытных індыйскіх паданнях існуе легенда пра некалькі зямных увасабленняў бога Вішну, якія згодна з усім сваім зместам з'яўляюцца толькі далейшым пашырэннем легенды пра Хрыста, так як восьмым увасабленнем Вішну і з'яўляецца Крышна, г. азн. Хрыстос?

Асабіста я схіляюся да думкі, што старажытнасць усіх індускіх паданняў вельмі перабольшана моцна развітай фантазіяй гэтага народа. Ніякіх старажытных летапісаў у іх не існуе, а што да глыбокай старажытнасьці захаваўшыхся ў Індыі руінаў, то яна не можа лічыцца даказанай больш чым і глыбокая старажытнасць ягіпецкіх пабудоў.

Ідзеце, напрыклад, хаця б на паўночны бераг Нявы і паглядзіце на пастаўленых тут, супраць Акадэміі Мастацстваў, ягіпецкіх сфінксаў, прывезеных сюды ў сярэдзіне XIX стагоддзя із Фіваў. Гранітныя пліты, на якія яны пастаўлены, выраблены із фінляндскага граніту прыблізна такога ж колеру і высечаны не больш як восемдзесят гадоў таму назад, і, аднак жа, уплыў атмасферы і вільгаці надалі ім такі выгляд даўніны, што за некалькі крокаў вы не пабачыце розніцы паміж імі і самімі сфінксамі. Нават і пры ўважлівым бліжэйшым даследаванні вы хутчэй заўважыце розніцу ў складзе фінскага граніту і егіпецкага сіяніту, чым у часе іхнай апрацоўкі. Калі б самаму ўважліваму, не настроенаму загадзя даследчыку паведамілі, што гэтыя сфінксы зроблены ўсяго пяцьсот гадоў таму, то ён ніколькі не здзівіўся б. Так і ў дачыненні да ўсіх астатніх каменных пабудоваў старажытнасьці: большасць з іх пры тым шматтысячагадовым ўзросьце, які ім да гэтага часу прыпісваецца, павінны б, здаецца, стоячы столькі гадоў пад адкрытым небам, даўно рассыпацца з паверхні ў парашок, асабліва ў гарачых краінах, дзе або шмат вільгаці, або сухі клімат суправаджаецца рэзкімі пераходамі ад паўдзённа пякучай спёкі да начной прахалоды, і ад сухасьці да вільготнасьці пры спарадычных моцных ліўнях. Аднак жа яны стаяць, як калі б ім было не больш за некалькі сотняў гадоў!

Для *фізіка*, вольнага ад цверджанняў папярэдніх пакаленняў, *глыбокая*, г. азн. трох-ці больш тысячагадовая старажытнасць такіх твораў егіпецкага мастацтва уяўляецца цалкам не адпавядаючай рэчаіснасьці. Нават і дзве тысячы гадоў, здаецца, цяжка дапусціць для іх з фізічнага боку гледжання.

Яшчэ больш недаказанай уяўляецца глыбокая старажытнасць наяўных у нас зборнікаў вусных або пісьмовых былін і гістарычных паданняў так званага "народнага эпасу" ці, дакладней, *калектыўнай творчасьці тагачаснай зараджаўся інтэлігенцыі*, г. азн. зборнікаў накшталт Адысеі або кнігі Быцця, ці кнігі Ведаў, у якіх паэтычныя, філасофскія і гістарычныя разрозненыя думкі, меркаванні, песьні, казкі і апавяданні асобных найбольш інтэлігентных і таленавітых розумаў з папярэднічаўшых нам пакаленняў скампанаваны ў адно мазаічнае цэлае

канчатковымі іх рэдактарамі. У гэтым выпадку прапанаваны мной астранамічны метад даследавання, якім я карыстаўся і ў сваіх папярэднічалі працах[40], з'яўляецца адзіна надзейным кіраўнікам.

У папярэдніх раздзелах, як мы бачылі, ён даў для часу слупавання Езуса і для часу ўзнікнення Апакаліпсіса нечакана познюю дату. *Гарачы чацвер 21 сакавіка 368 года і нядзелю 30 верасня 395 года*! Адносна ягіпецкіх помнікаў ён дае большай часткай першыя стагоддзі нашай эры. Аднак, як бы ні здавалася мне сумнеўнай "глыбокая" шматтысячагадовая старажытнасць паданняў пра Крышну, я ўсё ж такі не хачу тут адмаўляць без дастатковых доказаў, што яны папярэднічалі чацьвёртаму стагодзьдзю, і ні ў якім разе не буду браць пад сумненне, што Нікейскі сабор, дзе ўжо змагаліся дзве "хрысьціянскія" секты, сапраўды меў месца ў 325 годзе нашай эры пры першым візантыйскім імператары Канстанціне Вялікім, які зрабіў мікалаіцства дзяржаўным вучэннем і за тое быў прылічаны праваслаўнымі цэрквамі да ліку іх святых.

Так! Хрысьціяне, сапраўды, існавалі да "Езуса Хрыста".

Але гэтая ўяўная недарэчнасць тлумачыцца вельмі проста. Як і ў шмат якіх іншых выпадках, мы тут выяўляемся рабамі слова, дрэнна перакладзенага із чужой мовы і таму няправільна зразуметага намі. Калі б вам, напрыклад, на рускай мове сказалі: "Вы кажаце, што ў 1380 годзе жыў на Русі князь Зьміцер Данскі, але ж із гэтага вынікае, што раней не было ракі Дон", то вы, вядома, толькі засмяяліся б наіўнасьці таго, хто пытаецца і адказалі б яму: "Таму-та гэты Зьміцер і названы Данскім, што Дон папярэднічаў яму". Дакладна тое ж вы зрабілі б, калі б хто-небудзь сказаў, што раней Сакрата Схаластыка не было схаластыкі.

Але тое ж самае атрымліваецца і з імем Езус Хрыстос, калі мы не будзем паўтараць яго, як папугаі, не ўнікаючы ў сэнс, а звернемся да яго значэння на яго роднай грэцкай мове. Паглядзіце ў любы грэцкі слоўнік, і вы пераканаецеся самі, што слова Хрыстос (χριστός) азначае проста: *памазаны, прысвечаны*, а ў адмысловым старажытным сэнсе: прысвечаны ў таямніцы акультных ведаў. Хрыстамі называліся і тады і ў папярэднічаўшыя стагоддзі не толькі "палестынскі настаўнік", а ўсе людзі, прысвечаныя ў таямніцы тагачасных навук пасьля спецыяльнага ўступнага звычаю памазаньня іх святым алеем. Адсюль цалкам натуральна вынікае, што і хрысьціянскія (гэта азначае, у перакладзе на нашу мову ўсякія пасвячэнніцкія, або святарскія) секты безумоўна існавалі і ў папярэднічаўшыя евангельскаму "выратавальніку" стагоддзі, як гэта відаць і із іудэйскай Біблії.

Сапраўды, перакладзём грэцкае слова Хрыстос на жыдоўскую мову, і мы атрымаем слова *назарэй*[41], а ў дачыненні да "выратавальніка" - Езус Назарэй, як ён і зваўся па-жыдоўску ў Палестыне, таму што на жыдоўскай мове не існуе слова Хрыстос. А вось што паведамляецца ў Біблії пра назарэяў, г. азн. тых якія прысвяцілі сябе хоць бы часова вывучэнню акультных навук.

"Калі хто-небудзь, мужчына ці жанчына, вырашыцца даць заруку назарэйства, каб прысвяціць сябе Грамабою (*г. азн. вывучэнню акультных ведаў*), той павінен устрымлівацца ад віна, не павінен піць ні воцату і ніякага іншага напою із вінаграду, не павінен есьці нават вінаградных ягад, ні сырых, ні сушаных. На працягу ўсіх дней яго назарэйства (г. азн. прысвячэння сябе навуцы) брытва не

---

[40] Гл. мае творы: “Адкрыццё і навальніцы і буры” і “Прарокі”.

[41] נזיר (НЗІР) – назарэй, ад נזר (НЗР) – пасвячэнне, асвячэнне, а таксама  і ўвянчэнне першасвятарскім вянком.

павінна дакранацца да яго галавы[42]: ён мусіць не стрыгчы валасоў да заканчэння ўсіх дзён, на якія ён прысвяціў сябе Грамабою. Ён сьвяты на працягу гэтага часу і не павінен набліжацца ні да каго памёршага, а калі хто нечакана памрэ пры ім, ён павінен астрыгчы на сёмы дзень сваю галаву, а на восьмы дзень прынесьці двух галубак да сьвятара, да ўваходу ў царкоўную палатку (*дзе яго навучалі*), і сьвятар прынясе адну з іх у ахвяру за яго грэх, а другую пад час усеспалення. Пры заканчэнні ж тэрміну прысвячэння, яго павінны прывесьці да ўваходу ў царкоўную палатку, дзе ён прынясе ў ахвяру Грамабою аднагадовага барана без хібаў на ўсёспаленне, другога такога ж у мірную ахвяру і адну гадавалую авечку ў ахвяру за свой грэх (сыходу) і кошык хлябоў із лепшай мукі, з пірагамі і праснакамі на алеі, і прадставіць усё гэта святару, а той паставіць перад Грамабоем. Ён астрыжэ каля ўваходу ў царкоўную палатку сваю асвечоную галаву і спаліць валасы на палымі над мірнай ахвярай, і пасьля гэтага можа зноў піць віно” (Кн. Лічбаў 6, 2... 20).

Але хаця слова “назарэі”, як мы бачым із гэтага месца Кнігі Лічбаў, і было агульнай назвай для прысвячаўшых сябе, часова або бестэрмінова, якому-небудзь акультнаму занятку пры старажытных храмах, якія служылі тагачаснымі універсітэтамі, аднак, адзіны назарэй (г. азн. па-грэцку Хрыстос), жыццяпіс якога мы знаходзім у іудэйскай Бібліі, - гэта Самсон, імя якога ў перакладзе на нашу мову азначае Сонца-Асілак[43], або проста “Сонечны”. Цікава, што нараджэнне гэтага “Хрыста” таксама было абвешчана анёлам (г. азн. нябесным вястуном, каметай). І цікава таксама, што як толькі мы перавядзем усе ўласныя імёны гэтага міфа на зразумелую нам мову, так із яго атрымліваецца астральная алегорыя. Вось яго пачатак у перакладзе.

"Пад час саракагадовага "прыгнёту" іакаўцаў-багаборцаў палестынцамі[44], або сяродземцамі, жыў чужы (*Задыяку*) муж із Месца Пакарання (*Скарпіёна*[45], *мал*. 38), із дома Суда (*Шаляў*)[46] на імя Супакоены (*Валапас Якаў*)[47] і жонка яго (*зорная Панна пад ім*) была бясплоднай (*у яе тады не было планет*). І вось да яе з'явіўся апавяшчальнік будучага (*камета*) і прамовіў: "Ты зачнеш і народзіш сына (*скрозь цябе пройдзе Сонца, мал. 42*) і не закране брытва яго галаву, ён будзе назарэем (*хрыстом, прысвечаным*) ад самага свайго зачацця і будзе ратаваць (*літаральна: езустваваць*) іакаўцаў-багаборцаў ад рук "палестынцаў" (Кн. Суддзяў 1, 3... 5).

---

[42] Звяртаю ўвагу, что брытва (תער - ТЕР), патрабуе ўменне гатаваць металічныя вострыя нажы.

[43] שמש־און (ШМШ-УН) – Сонца-Асілак, ад שמש (ШМШ) – сонца і און (АУН) – магутнасць.

[44] פלשתים (ПЛШТІМ) – палестынцы, каланісты. Ад гэтага назва Міжземнага мора – Палестынскае. (Зыход 23, 31).

[45] צרע (ЦРЭ) – пакаранне, авадзень.

[46] מנוח (МНУХ) – заспакаенне, прыстанак, пасяленне.

[47] Назву дом ў старажытнай астралогіі, верагодна, мела не толькі задыякальнае сузор’е, а ўсё адпавядаючае яму мерыдыяльнае крыло да самога полюса. З такога боку гледжання ў доме Шаляў таксама знаходзіліся: Валапас, Паўночны Вянок, а уніз – пакараны Цэнтаўрам Воўк. Сюды прасоўваў сваю галаву Змей і сваю кляшню – Скарпіён.

Рыбы Авен Цяля

Казярог Вадалей Пегас Андрамеда Вазнічы Блізняты Рак



Казярог Стралок Змеятрымальнік Валапас(Якаў) Рак

Скарпіён Шалі Панна

Мал. 42. Лесвіца Якава – шлях планет па 360 прыступкам (градусам) экліптыкі.

"І другі раз прыйшоў анёл да жонкі заспакаенага (*г. азн. камета была ў ёй і на наступную ноч*), калі яна была ў полі (*г. азн. на вячэрнім небе*). Яе чалавек (*Валапас, які паднімаецца раніцамі разам з Паннай*) сказаў анёлу: "застанься ў нас, я прыгатую табе казляня" (*Казярога*). Анёл жа адказаў яму: "Прынясі яго ў ахвяру". І ўзяў, заспакоены, казляня і мучное прынашэньне (*із Млечнага Шляху*) і ўзьнёс на камні (*гарызонту*) Грамабою (*спаліў у полымі вечаровай зары, як гэта бывае штогод у снежні, мал. 43*). А анёл (*камета*) падняўся ў полымі (*зорнага*) ахвярніка (*у ззянні Млечнага Шляху, над ім*) і стаў нябачны". "І нарадзіла пазней (*вядома, праз дзевяць месяцаў, калі прайшло праз яе Сонца*) гэтая жанчына сына і дала яму імя Сонца" (Кн. Суддзяў 13, 1... 24).




Мал. 43. Сузор’е Казярога, штодзённа прыносімае ў ахвяру усеспалення ў полымі вячэрняга зарыва ў снежні перад калrailнымі святамі (Із старадаўняй лацінскай кнігі “Astrognosia” (XVI ст.) Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі)

Чытач ужо бачыць, што пачатак гэтай легенды мае не толькі астральнае паходжанне, але і надзвычай нагадвае евангельскае звеставанне Найсвяцейшай Панне Марыі анёлам Гаўрыілам пра нараджэнне, ад яе назарэя "выратавальніка" (*якому было наканавана імя "З намі Сонца", г. азн. эм-ману-эл*). А канец, калі "абстрыжанае палестынцамі", г. азн. пазбаўленае сваіх прамянёў падчас наступіўшага зацьмення, Сонца абрынае на іхную галаву храм-неба, узрушыўшы яго слупы, г. азн. мерыдыяны, паміж якімі яно зацьмелася, моцна нагадвае слупаванне евангельскага "выратавальніка" пры месячным зацьменні і адбыўшымся пасьля гэтага землятрусе. Усё гэта паказвае, што легенда пра Самсона-Сонца дададзена да Кнігі Судзьдзяў ужо ў V стагоддзі нашай эры.

Але я пакуль яшчэ не буду разглядаць астральнае адзенне гэтага біблейскага міфа, далей я зраблю яго спецыяльны разгляд. Зараз, каб не пакідаць у баку прадмет гэтай главы, адзначу толькі, што ў ёй мы відавочна бачым, што *хрыстос*, або *назарэй*, было званне, а зусім не прозвішча, дадзенае нейкаму аднаму "Езусу". Гэта было званне, нешта накшталт вялікага магістра ў масонаў, ды і самае слова магістр азначае "пасвечаны ў таямніцы магіі". Вось чаму і назву Езус Хрыстос я буду часта замяняць (каб пазбавіч чытача ад апошніх слядоў гіпнозу ад унушэнняў папярэдніх пакаленняў) назвай "выратавальнік", або "настаўнік", якім ён, відаць, і быў на самай справе. Сапраўды такжа і назву хрысьціяне я буду часта перакладаць яго грэцкім значэннем "пасвечаныя", або "прыхільнікі святароў, г. азн. памазаных святым алеем", што мела месца, відаць, задоўга да нараджэння евангельскага "настаўніка".

Із гэтага зразумела, што хрысьціяне існавалі раней свайго вялікага магістра Езуса.

Але для таго, каб канчаткова ўявіць сабе сапраўдную гістарычную асобу гэтага выдатнага чалавека, нам патрэбна вызваліць свой розум і ад іншага, вісячага на ім у гэтым дачыненні гістарычнага гіпнозу, таксама ўзнікшага ад няправільнага перакладу на лацінскую і на ўсе новыя мовы грэцкага слова тэктон (τέκτον). Ва ўсіх новых версіях Евангелля Марка гаворыцца, што калі “выратавальнік” “прыйшоў да

сябе на радзіму” і “пачаў вучыць на сходзе іудаістаў (багаслоўцаў[48]), то шмат хто із іх са здзіўленнем казалі: “адкуль у яго такая магутасць? Што за мудрасьць яму дадзена і як яго рукі могуць здзяйсняць такія цуды? Ці не *цясьляр* ён, сын Марыі, брат Якава, Ёсіі, Юды і Сымона? Ці не тут паміж намі яго сёстры?” (Марк 6, 1... 3.)

Амаль усё гэта месца із Евангелля Марка літаральна перапісана і Мацвеем, але толькі з вельмі характэрнай заменай аднаго выказвання. Замест "ці не цясьляр ён?", там сказана: "ці не сын ён цесляра?" (Гл. 13, 58), як быццам бы Мацвей саромеўся назваць "Хрыста" цесляром. Тлумачальнікі, не жадаўшыя прызнаваць тут супярэчнасьці, зрабілі выснову, што абодва выказванні правільныя і што першапачатковай прафесіяй "прысвечанага" таксама як і яго бацькі, было цяслярства, г. азн. згодна з сучасным сэнсам гэтага слова і той і другі быццам бы былі неадукаваныя людзі, якія хадзілі па гарадах і мястэчках з сякерай і пілamі і будавалі хаты тубыльцам.

Аднак жа, на справе няма нічога больш няправільнага як такое меркаванне пра іх абодвух, ужо праз адно тое, што ў Палестыне і на ўзбярэжжы Міжземнага мора ніколі не будавалі драўляных хат, а выключна самаробныя палаткі (мал. 44) або дамы із каменя (мал. 45 і 46), чаму і ніякіх цесляроў, падобных на сучасных, там не магло існаваць.



Мал. 44. Арабскія палаткі ў Палестыне. Узор нізкага культурнага ўзроўню той краіны якой тэолагі безпадстаўна прыпісваюць узнікненне ідэі адзінабожжа і потым хрысьціянскага вучэння. (Гейкі, “Святая зямля і Біблія”)

[48] Г. азн. прыхільнікаў дактрыны Юды, заснавальніка іудэйскага веравызнання (памёр, запэўніваюць нас, каля 200 г. н. э.).



Мал. 45. Старажытнае жытло ў пустыні Эль-Ціг (Згодна з Пальмерам The Desert of the Exodus)



Мал. 46. Частка берага Палестыны (Гейкі: “Св. Зямля” і “Біблія”)

У грэцкім арыгінале стаіць зусім не цясляр, а тэктон (τέκτον), што азначае дойлід. А дойлідамі ў той час былі навукоўцы архітэктары і, акрамя таго, яны аб’ядноўваліся ў замкнёны хаўрус і валодалі шматлікімі прафесійнымі таямніцамі. Упершыню тэктоніка, або па-сучаснаму архітэктура, відаць, узнікла ў Ягіпце, або, ва ўсякім выпадку, у краіне, дзе, як і ў Ягіпце, шмат вапнавых адкладанняў або друзлых вапнякоў, годных для падрыхтоўкі злучаючага камяні цэменту. Як і ўсе астатнія навуковыя здабыткі таго часу, гэтая ўласцівасць перапаленага вапняку ўтвараць пры дастатковай колькасьці вады цеста, здольнае праз некалькі гадзін зацвердзяваць і трывала ўтрымліваць змешчаныя ў яго камяні, трымалася ў строгім сакрэце. Гэтая таямніца паведамлялася толькі пасвечаным, г. азн. хрыстам, або назарэям тэктонікі.

Такія ж хрысты былі і ў іншых тагачасных навуках. Вышэйшая ступень пасвячэння, у асобе вялікага магістра, валодала, верагодна, таямніцамі ўсіх тагачасных навук: матэматыкі, яшчэ абмяжоўваўшайся арыфметыкай і геаметрыяй;

белай магіі, як мастацтва выклікаць прывідныя вобразы з дапамогай люстэркаў і тварыць цуды рознымі хімічнымі рэагентамі; медыцыны, заснаванай на веданні ўласцівасьцей розных траў і збольшага на гіпнатычных унушэннях для лекавання нервовых хвароб, што ўжо межавала з вобласьцю чорнай магіі, якая выклікала прывіды, а таксама рознастайных спосабаў прадказання будучыні як па лініях на далонях рук, так і па аблоках, асабліва ж па рухах нябесных свяцілаў і па незвычайных з'явах у прыродзе накшталт камет, якія лічыліся нябеснымі анёламі, пасылаемымі то з добрымі, то з грознымі весткамі.

Тэктоніка, або мастацтва будаўніцтва, у якім спецыялізаваўся згодна з Маркам "Езус", мела ў гэтым зборы таемных навук старажытнасьці адно із самых ганаровых месцаў, так як на чале дойлідаў стаяў, згодна са старажытнымі паданнямі, сам "будаўнік неба і зямлі". І арганізацыя гэтага хаўруса была вельмі строгая. Так, Страбон (кн. IV) сведчыць, што прывілеем будаваць храмы, тэатры і іншыя грамадзкія каменныя будынкі ў Малой Азіі, у Сірыі, Персіі і Індыі валодалі толькі адны "дыянісіянскія майстры". Сябры гэтай асацыяцыі быццам бы былі ў цеснай сувязі з дыянісіянскімі сакрамэнтамі, адрозніваліся ад астатніх смяротных сваімі таемнымі ведамі, якія дазвалялі ім тварыць цуды на вачах недасведчаных і пазнавалі яны сваіх субратаў праз таемныя адзнакі і паролі. Падобна масонам (г. азн. "мулярам", якія вядуць свой пачатак адтуль жа), яны былі падзелены на ложы, ці абшчыны, пад рознымі назвамі: так, адна ложа мела назву абшчына Аталісаў (κονόν των Ἀτταλισών), другая – суполка замкнёнай пасудзіны Саморы (κονόν της ἐχινο Σομμορίας[49]). Само імя *дыянісіянскія* азначае богасхопленыя.

Усё гэта, вядома, Страбоном адносіцца да глыбокай старажытнасьці, гэтак гадоў за тысячу да пачатку нашай эры. Але, нават і дапусціўшы, што гэта праўда, мы ўсё ж можам сказаць: цалкам у такім жа выглядзе ўсё гэта заставалася і ў сярэдзіне IV стагоддзя, а таму застаецца толькі дзівіцца, што за цэлыя паўтары тысячы гадоў гэтымі "дыянісіянскімі майстрамі" не было зроблена ніводнага новага адкрыцця, ніводнага ўдасканалення тэхнікі, што знаходзіцца ў поўнай супярэчнасьці з агульнай гісторыяй чалавечай культуры і з яе эвалюцыйнымі законамі.

Але я не буду больш разважаць на гэтую тэму, бо для маёй мэты дастаткова і сказанага. З усяго, што, я выказаў, зразумела адно: Езус, або Осія, як яго імя прамаўлялі сірыйцы, або Ехошуа[50], як зараз вымаўляюць рабіны, а ў перакладзе проста "выратавальнік", паходзіў із культурнай сям'і.

Пад час сваёй маладосьці ён атрымаў, як будзе паказана далей, у цэнтры культуры першых стагоддзяў нашай эры – Ягіпце – вышэйшую згодна з тым часам адукацыю. Як бачна із усіх Евангелляў, ён ведаў і магію (мал. 47), і алхімію, і мастацтва лекавання нервовых захворванняў з дапамогай унушэння (мал. 48), і звыш усяго гэтага быў яшчэ, відаць, і таленавітым дойлідам. І не без падставы евангеліст Ян змог ўкласьці ў яго вусны такую гордую фразу:

"Разбурыце храм, і я за тры дні аднаўлю яго" (Ян 2, 19).

---

[49] Chishul: Antiquitates Asiaticae, p. 39.

[50] Ва іудэйскай Бібліі для імя Езус існуе некалькі варыянтаў**:** יה־שוע (ІЕШУЭ) - Езус (у кнізе Зыход 17,9), – Выратавальнік, Iovis. השוע **(**ЕШУЭ) – Осія, ён жа ў кнізе Лічбаў 13,8 י־שוע (ІШУЭ) – у Ніяміі, (8,17). יה־שוע (ІЕУШЭ) – у кнізе Езуса Навіна. Пры гэтым на пачатку слова існуе скарачэнне слова ІЕУЕ – Ієгава, лацінскае Iovis (Юпітэр), так што Езус азначае: выратавальнік, лекар, а Ієзус азначае Ієгава-Выратавальнік, Юпітэр-Лекар.




Мал. 47. Легенда пра евангельскага “настаўніка”, як пра мага. Яго ператварэнне перад усыпленымі Пятром, Якавам і Янам у нізе. Направа стаіць Ілія, а налева Майсей (без барады). Із рукапісу твораў Рыгора Назіяізіса (№ 512 Парыжская Нацыянальная Бібліятэка).



Мал. 48. “Дзяўчына падніміся!” Абуджэнне евангельскім настаўнікам самнамбулы (унушэннем) згодна з евангельскім сказаннем. Із барэльефа мармуровага саркафага Арльскага музея. Адносіцца (хаця і не маючы вялікіх падставаў) да VI ст. Езус тут са скруткам у руках.

Такім быў чалавек, вучэнне якога, а больш за ўсё "нябесны знак" пры яго няўдалым слупаванні, далі новы напрамак назарэйству, або хрысьціянству, або па-нашаму: сьвяшчэнічаству, існаваўшаму і да яго.

Але перш чым прыступіць да аднаўлення яго біяграфіі згодна з прынцыпамі сучасных дакладных навук, нам неабходна растлумачыць яшчэ адно гістарычнае

непаразуменне ў гісторыі хрысьціянства. Вось рускі пераклад із грэцкай мовы звычайнага сімвала праваслаўнага веравызнання, г. азн. таемнага пароля, па якому пасьлядоўнікі "выратавальніка-святара" (па-грэцку Езуса Хрыста) маглі пазнаваць адзін аднаго[51].

1) "Веру ў аднаго бога бацьку, уседзяржыцеля, стваральніка неба і зямлі, усяго бачнага і нябачнага,

2) і ў аднаго ўладара нашага Езуса прысвечанага, сына божага

3) адзінароднага, народжанага бацькам перад усімі стагоддзямі, святло ад святла, праўдзівага бога ад праўдзівага бога; народжанага, не створанага, адзінасутнага з бацькам, якім усё было зроблена, сышоўшага із неба і прыняўшага цела ад святога духу (*святла і паветра*) і ўчалавечанага ў панне Марыі,

4) ўкрыжаванага за нас пры Понціі Пілаце, замучанага і пахаванага і ўваскросшага на трэцці дзень згодна з пісаннем і зноў прыйдучага ў славе судзіць жывых і памёршых, і яго царству не будзе канца,

5) і ў адзінага святога духа (*святла і паветра*), жыватварачага ўладара, паходзячага ад бацькі, праслаўляемага і славімага з бацькам і сынам, гаворачага праз пракокаў,

6) і ў адзіную святую апостальскую царкву.

7) Абвяшчаю адно хрышчэнне для пакідання грахоў, чакаю ўваскрашэння памёршых і жыцця вечнага ў будучым сьвеце. Хай будзе так".

Гэты сімвал вельмі старажытны дакумент і без сумненняў існуе больш тысячагоддзя. У першай сваёй частцы ён і да гэтага часу прыпісваецца шматлікімі праваслаўнымі тэолагамі-гісторыкамі яшчэ Нікейскаму сходу навукоўцаў і тэолагаў, які адносіцца імі да 325 года, г. азн. раней вылічанага намі "ўкрыжавання" Езуса і яго "ўваскрашэння із памёршых". Але нават і згодна з самімі праваслаўнымі першакрыніцамі (рукапісаў якіх, зноў паўтараю, нідзе на сьвеце не існуе, а існуюць толькі друкаваныя выданні XVI стагоддзя, пасьля чаго перададзеныя ў друкарню рукапісы чамусьці сістэматычна знішчаліся іхнымі ўладальнікамі[52]), гэты "сімвал веравызнання" абмяркоўваўся, рэдагаваўся і папаўняўся на Канстантынопальскім саборы ў 381 годзе (Сакрат Схаластык V, 8 і сучасныя гісторыкі), гэта азначае, праз 12 гадоў пасьля вылічанага намі слупавання "выратавальніка", што і зразумела само па сабе. Бо пытанне пра тое, кім быў гэты "настаўнік", слупаваны і ўваскросшы, "які пазней з'явіўся шмат каму" і затым знік і дарэмна чакаемы, павінна было ўпершыню паўстаць не праз трыста(!) гадоў пасьля яго з'яўлення, як гэта выходзіць згодна з гісторыкамі-тэолагамі эпохі Адраджэння, за якімі слепа ідуць сучасныя, а як раз менавіта на другое дзесяцігоддзе пасьля яго слупавання. Першае дзесяцігоддзе, як я пакажу далей, ён мог быць яшчэ жывы, а

---

[51] Сімвал (Σίμβολον) па-грэцку азначае: дамоўлены знак. Старажытная гісторыя дае сімвалы не аднаго толькі праваслаўнага веравызнання, а згадвае, што такія сімвалы існавалі ў прыхільнікаў Мітры, і ў прыхільнікаў Цыцэры, і ў прыхільнікаў Цыбэлы. Існавалі свае сімвалы і ў карпарацый і ў цэхавых абшчын. (Гл. “Педагог” Клімента Александрыйскага).

[52] Я звяртаю асаблівую ўвагу гісторыкаў, якія маюць жаданне паставіць сваю навуку на ўзровень сучасных прыродазнаўчых навук, на гэты вельмі цікавы з псіхалагічнага боку гледжання факт. Здавалася б, уладальнікі старажытных рукапісаў павінны былі б захоўваць іх вельмі рупліва, калі так здарылася, што продкі пакінулі ім такое нашчадства, як рэліквіі старажытнасьці і аддаваць для друкавання копіі з іх. А, між іншым, усё адбывалася наадварот, пасьля друкавання рукапісы амаль без выключэнняў знікалі назаўсёды. Навошта іх знішчалі? Няхай гэта чытач патлумачыць так як лічыць дарэчным, а для мяне відавочна: таму што перадаваўшы рукапіс пісаў яго самастойна згодна з нейкімі сабранымі ім урыўкамі і паданнямі і згодна са сваімі разуменнямі і падахвочваннямі літаратурнага натхнення ад імя таго ці іншага грэка, які потым і станавіўся ўсім вядомым замест аўтара. Усё гэта – псеўданімы.

потым яго вучням, Яну, Саўлу, і яго братам, Юдзе, Якаву і Сымону, яшчэ можна было чакаць яго са значнай надзеяй і запэўніваць публіку, што "вось ён прыйдзе хутка, як злодзей ноччу". Але калі ўжо наступіла другое дзесяцігоддзе пасьля яго слупавання і нічога сур'ёзнага не адбылося на сьвеце, тады ў асяроддзі веруючай публіцы, зразумела, пачалося разчараванне, а сярод скептыкаў і кпіны. Нарэшце, з'явілася неабходнасць наладзіць агульную нараду вернікаў і вырашыць, як жа быць далей? Ці скасаваць новую рэлігію ці выпрацаваць такую ідэалогію, якая б растлумачыла рэчаіснасць? Мы бачым, што Канстантынопальскі сабор абраў другі шлях.

Першы пункт пра веру ў адзінага бога-айца мог, сапраўды, належаць Нікейскаму сабору. Але гэта было толькі ўсталяваннем адзінабожжа, якім яно захавалася ў магаметан. Другі пункт адносна абавязковасьці веры і ў бога-сына мог належаць толькі Канстантынопальскаму сабору, а трэцці пункт са згадваннем пра некранутасць маці "выратавальніка" і пра страшны суд мае ужо пасьля-апакаліптычны характар і дададзены на адным із наступных сабораў, верагодна, пазней, чым наступная за ім прыбаўка[53] пра сьвяты дух, якая таксама можа належаць не раней, як нарадзе 381 года. Так паступова развівалася (з новага боку гледжання) першасная хрысьціянская ідэалогія, а не была выпрацавана і абвешчаная раптоўна без сур'ёзных нагод на Нікейскім саборы праз трыста гадоў(!) пасьля сьмерці таго, каго яна лічыла сваім пачынальнікам і якога згодна з ўсімі правіламі агульначалавечай псіхалогіі ўжо даўно перасталі б не толькі чакаць, але нават і памятаць без папярэдняга і агульнапрызнанага існавання гэтай жа самай ідэалогіі.

На Нікейскім саборы ў 325 годзе спрэчка магла быць толькі паміж арыянамі, г. азн. прыхільнікамі Юды-настаўніка (так як, мне здаецца, і сам Юда Ханешыя, смерць якога адносіцца да 200 г. нашай эры, спісаны апакрыфічна з Арыя) і мікалаітамі, згадваемымі ў Апакаліпсісе і меўшымі сваім правадыром Мікалая, празванага цудатворцам. І ён таксама быў настолькі ж "хрысьціянінам" (г. азн. пасвяшчэнецам-сьвятаром), наколькі такімі ж былі і ўсе да-езусаўскія "хрысьціяне" у старажытна-грэчаскім сэнсе гэтага слова, г. азн. усе былі адэптамі "сьвятарскіх" сект, правадыры якіх былі прысвечаны (хрыстасіраваны) ў таямніцы тагачасных акультных ведаў, у тым ліку і ў цудатворства, г. азн. магію, як Мікалай.

Разглядаючы з гэтага пункту гледжання Евангеллі, мы не можам не адзначыць, што евангельскія юдэі ёсць не што іншае, як прыхільнікі вялікага старажытнага настаўніка Юды-Арыя (гэта ў перакладзе азначае: богасветлага або богаслаўнага ільва). Евангельскія фарысеі – не што іншае, як тыя ж арыяне, так як і само слова фарысей (або фарысі, фарсі) ёсць толькі простая назва старажытнапярсідзкай літаратурна-навуковай мовы, а слова арыянін – толькі іншае вымаўленне слова арыец, як у старажытнасьці і зваліся тыя ж персы.

Акрамя таго, я не магу зараз не звярнуць увагу чытача на адну акалічнасць, пра якую я далей буду выказвацца больш падрабязна. Імя Арый, як я толькі-што сказаў, – азначае леў, а імя Юда Іскарыёт (Айш-к-Арые) азначае: богаславенны муж, як леў, і адпавядае сузор'ю Ільва, пасьля праходжання праз якое і Сонца і Месяц праходзяць сыходзячы крыж, г. азн. скрыжаванне нябеснага экватара і экліптыкі ў сузор'і Панны. Гэта астральная акалічнасць і дала падставу да

---

[53] Пра сімвал веравызнання гаворыцца і ў дзесяцітомнай "Гісторыі царквы" Яўсевія Памфіла, але яна стала вядомай толькі каля 1544 года і ўся – відавочны апокрыф, такую высноўу можна зрабіць вывучаючы яго добраапрацаваны склад, цалкам падобны на ўзоры XVI ст.

ўзнікнення легенды, быццам Арый-Леў, ён жа Юда – муж, як і леў, аддаў "выратавальніка" на укрыжавальную сьмерць. Далей[54] я пакажу, што падставай да такога тлумачэння паслужыла зацьменне Сонца ў пастцы сузор'я Ільва 18 ліпеня 418 года н. э., якое было растлумачана спробай Ільва праглынуць Сонца (легенда пра немейскага ільва). Нельга не адазначыць, што вучэнне арыян і іудаістаў нічым істотным не адрозніваецца, як толькі мы аднясем яго ў да-езусавы часы. Што ж да мікалаітаў, праціўнікаў арыян на Нікейскім саборы, то іх мімаволі, шляхам выключэння, хочацца атаясаміць з евангельскімі садукеямі, імя якіх я вывожу ад жыдоўскага слова ЦДКЕ, г. азн. сьвяты, правядны, апраўданы, хаця Ян у Апакаліпсісе і лічыць іх за шарлатанаў, ды і ў Евангеллях гаворыцца пра іх, як пра староннее для евангелістаў рэлігійнае адгалінаванне.

# Глава V.

## "Цар іудэйскі" у евангеллях і "Вялікі цар" у "Жіціях сьвятых".

Вазьміце ў рукі "Жыціі Сьвятых" і паглядзіце, якім з іх пачынаецца еўрапейскі новы год? На першай жа старонцы тэксту вы там прачытаеце:

1 студзеня, сьвяты Васіль Вялікі.

Само сабой зразумела, што калі вы не ведаеце грэцкай мовы, то гэты загаловак вам нічога не скажа. Але калі вы згадаеце, што Васіль па-грэцку азначае цар, то вы перакладзеце гэтае месца так:

Пачатак хрісьціянскага года

1 студзеня сьвяты Вялікі Цар.

Чаму ж год у нас пачынаецца з яго? Хто гэты "сьвяты вялікі цар" праваслаўнай царквы?

Пачынаючы чытаць гэтую главу Чэцці-Мінеі нават і па непрыдатнаму ні на што (інакш я не ведаю, як выказацца пра яго) рускаму перакладу, дзе для пазбягання спакусы сярод вернікаў выключаны ўсе выявы чарцей і іншай нячыстай магутнасьці, вы зараз жа пабачыце, што "сьвяты вялікі цар" нарадзіўся каля 323 года пры Канстанціне I, што ў момант укрыжавання евангельскага Хрыста яму было каля 45 гадоў. А ў Евангеллі Яна (8, 57) гаворыцца, што на сцвярджэнне "Езуса", быццам бы ён нарадзіўся раней Абрама, "багаслаўныя" ("юдэі") адказалі яму: "Табе няма яшчэ і 50 гадоў, а ты кажаш, што бачыў Абрагама?" Г. азн., што Езусу перад укрыжаваннем не было 50 гадоў, а згодна з "Жыціямі Сьвятых" вялікі цар памёр 50 гадоў ад роду 1 студзеня 379 г. ў "Горадзе Цэзараў", дзе і нарадзіўся.

Вы бачыце, што храналагічна чэцці-мінейскі сьвяты вялікі цар амаль цалкам накладаецца на евангельскага "цара іудэйскага". Толькі па часе сьмерці "вялікага цара" ў 379 годзе (за два гады да Канстантынопальскага сабора хрысьціянскіх дзеячоў у 381 годзе) выходзіць, што ён жыў пасьля "ўкрыжавання" "цара іудэйскага" яшчэ 12 гадоў і амаль 9 месяцаў, прычым гэта быў час запоўнены рэлігійнымі спрэчкамі.

Зараз паглядзім, як і геаграфічна абодва цары адпавядаюць адзін аднаму. Евангельскі "цар іудэйскі" нарадзіўся, кажуць нам тэолагі, і памёр у "святой зямлі" – Палестыне, а чэцці-мінейскі "сьвяты вялікі цар", – кажуць нам сьвятцы, –

[54] Пры разгляданні прадказання Амоса.

нарадзіўся і памёр у Кесарыі (г. азн. Цезарскім горадзе). Такіх гарадоў, – кажуць нам яны, – было два. Рымляне, быццам бы, называлі так малаазійскае глухое мястэчка Мазакі ў Кападокіі, вядомае ў грэкаў пад імем Яўсевіі, і, акрамя яго, "Стратонаву вежу" у Палестыне, "умацаваную Ірадам", г. азн. царом-героем, якая служыла, – кажуць, – месцазнаходжаннем мясцовага рымскага намесьніка і заняпала, быццам бы, толькі ў XIII стагоддзі і зараз лежачая ў руінах. Акрамя таго, мы ніколі не павінны забывацца, што слова *Кесар*ыя па-грэцку азначае проста: сталіца імперыі, або Царскі горад.



Мал. 49. Руіны сярэднестагоддзевага замка "Строганава вежа", зараз палічанага за “парэшткі” Кесарыі Палестынскай (г. а. царскага горада) у Палестыне. (Із Гейкі: "Сьвятая Зямля", гл. IV).

Сярэднестагоддзевы рэдактар "Жыцій Святых" тлумачыць гэтую "Сталіцу" ў сэнсе Мазакі, але мы можам і не згаджацца з яго меркаваннем і лічыць, што ў першакрыніцах гаворка ідзе пра нейкую сапраўдную сталіцу, дзе лічыліся сядзеўшымі і Давыд і Саламон. Такім чынам, мы можам прызнаць, што і евангельскі "Цар Юдэйскі" і "Вялікі Цар" святцаў жылі ў адзін і той жа час і ў адным і тым жа месцы, г. азн. ўяўляюць адну і тую ж асобу, але толькі святцы ўтрымліваюць пра яго некалькі больш адпавядаючых рэчаіснасьці біяграфічных апавяданняў, цалкам адсутнічаючых у Евангеллях аж да моманту слупавання. А сьмерць "Вялікага Цара" 1 студзеня 387 года робіць нам зразумелым і тое, чаму хрысьціянскі год у сярэднія стагоддзі ўсталявалі лічыць не з вясны ці з восені, як у старажытнасьці, а менавіта з 1 студзеня. Разгледзім жа яго біяграфію з гэтага пункту гледжання.

* * *

## Паданне пра заснавальніка хрысьціянскай літургіі.

Пры даследаванні старажытных дакументаў вялікае значэнне маюць застаўшыяся ў іх лінгвістычныя сляды, і мне здаецца, што, нягледзячы на частае выкарыстанне гэтага метаду этнолагамі, гісторыкі яшчэ не дастаткова ацанілі першаступенную важнасць такіх слядоў, асабліва ў дачыненні да ўласных імён старажытных напалову міфічных дзеячаў.

У старажытнасьці яшчэ не існавала нябесных патронаў, у гонар якіх зараз надаюцца міжнародныя найменні, усе імёны тады былі нацыянальнымі найменнямі, якія мелі сэнс, і яны змяняліся пры пераходзе ад адной мовы на іншую і нават ад аднаго ўзросту да другога. Нават і ў чыста літаратурнай творчасьці кожнай дзеючай асобе тады надавалася не імя, а адпаведнае найменне: Мудрэц, Праўдзін, Дурань, Хлус і г. д., зыходзячы ад уласных асабістасьцей іхных носьбітаў, варта толькі прагледзець класічныя камедыі на іх арыгінальных мовах.

Вось чаму, лічачы старажытныя біяграфіі ў значнай ступені дапоўненымі уяўленнямі, я, перш за ўсё, ўсюды імкнуся высветліць значэнне іхных імёнаў.

І тады атрымліваецца наступнае: *хрыстос* па-грэцку азначае *пасвечаны* (г. азн. па-нашаму *святар*) і *памазанік*, так як пасвячэнне суправаджалася памазаньнем галавы духмяным алеем; г. азн., Васіль Вялікі, як – пасвечаны згодна з грэцкім рытуалам, меў, несумненна, званне Хрыста.

Слова Езус (ЕУШЭ) па-жыдоўску азначае *выратавальнік, лекар*, і такімі аднолькава апісваюцца як "Цар Юдэйскі" так і "Васіль Вялікі". Г. азн., што і "Васіль Вялікі" меў права называцца па-жыдоўску Езусам (г. азн. лекарам, ратуючым), а адсюль і выратавальнікам. Слова *іудзейскі* па-жыдоўску азначае богаслаўны (ІЕ-УДЕ), аналагічна слову *праваслаўны*, гэта палестынская назва праваслаўя.

Але калі Васіль Вялікі, як я ўжо казаў на пачатку гэтай главы, азначае па-грэцку вялікі цар, дык ці не павінна нас тут засмучаць выпадзенне грэцкага вызначаючага члена пры яго імені?

Не. Такое выпадзенне з’яўляецца агульным правілам, калі *званне* чалавека ператвараецца ў яго *ўласнае імя*. Так, мы ўсе гаворым пра заснавальніка Германскай імперыі – Бісмарк, хаця яго сапраўднае прозвішча фон-Бісмарк, г. азн. із Бісмарка; ўсе мы гаворым пра вядомую фаварытку Людовіка XIV: ла-Вальер (даліна), хаця яе першапачатковым прозвішчам было дэ-ла-Вальер, г. азн. із даліны, ды і гэта скарочанае імя пасьля рэвалюцыі лёгка магло ператварыцца проста ў Вальер. Так і на грэцкай мове "о-васілеўс", г. азн. цар, як званне дадзенага чалавека, лёгка магло скараціцца пры сталым ўжыванні проста да Васілеўса, г. азн. ператварыцца ва ўласнае імя.

Відавочна, ён быў із царскага роду, так як у Жыціях Сьвятых і бацька яго таксама называецца Цар (Васіль), а імя яго маці было Прыемнаслаўная (Эмілія). Нарадзіўся ён, як і евангельскі "выратавальнік", згодна з нашымі вылічэння, каля 333 года нашай эры, на прыканцы кіравання Канстанціна, і таксама ва ўзросьце сямі гадоў быў аддадзены ў навучанне. Ён, як і евангельскі "Вялікі Цар Юдэйскі", рана вывучыў усю філасофію (быццам бы ў пяць гадоў) і з 12-гадовага ўзросту вучыўся яшчэ ў Афінах у "добрага дарадцы" (па-грэцку Еў-була), а таксама ў "сутачнага" (Гемерыя) і ў "рухаючагася" (Праерэсія) і хутка пераўзышоў іх усіх. "Дзівіліся, – кажуць Чэцці-Мінеі, – настаўнікі (як і кніжнікі храма, у які быў прыведзены, паводле Евангелляў, "Вялікі Цар Юдэйскі") яго розуму, руплівасьці і чысьціні жыцця. Яго шануемым таварышам быў "Нядрэмлючы Багаслоў" (Рыгор Багаслоў), і разам з ім вучыўся цэсарэвіч Юльян, які пазней быў вярхоўным імператарам Рыму, Грэцыі, Ягіпта і Сірыі. Сафіст Лібаній таксама быў школьным таварышам іх абодвух.

"Да 15-гадовага ўзросту ён вывучыў усе астралагічныя (зоркалічыльныя) хітрыкі, і вось у адну ноч яму было нябеснае асіянне, загадаўшае таксама вывучыць і боскае пісанне"[55].

Пакінуўшы Афіны, ён пайшоў для гэтага ў Ягіпет (як і Езус) да архімандрыта Парфірыя, у якога пражыў адзін год, "сілкуючыся вадой і гароднінай". Затым ён "пайшоў у горад Святога Прымірэння паглядзець тамтэйшыя цуды" і пасьля таго зноў вярнуўся ў Афіны. Там на сходзе філосафаў ён так добра прамаўляў, што на пытанне: "Хто гэта такі?" яго былы настаўнік, "добры дарадца", не пазнаўшы яго, адказаў: "Ці сам гэта бог, або цар (Васіль)". І адразу, выправіўшы ўсіх астатніх, ён тры дні размаўляў з "вялікім царом", "нічога не ядучы".

"Ніхто, – прамовіў яму "Вялікі Цар", як і евангельскі Цар Юдэйскі (г. азн. Багаслаўны) сваім вучням, – не можа служыць двум гаспадарам", і "Добры Дарадца", паверыўшы давяраючы яго словам у адзінага бога-бацьку і ў ажыванне памёршых, пажадаў ахрысьціцца і знаходзіцца ўсё сваё жыццё побач з "Вялікім Царом". Я думаю, што гэта быў першы парастак легенды пра Сымона Пятра.

"Яны раздалі сваю маёмасць немаёмасным, – працягвае аўтар, – і, надзеўшы белае адзенне, пайшлі ў горад Святога Прымірэння. Праходзячы праз "Контр-Сталіцу", яны гайшлі ў гатэль, дзе перад дзвярамі сядзеў сын гаспадара Філаксен, вучань сафіста Ліванія. Ён узяўся перакласьці вершы Гамера, але не мог перакласьці іх на "рытарскую" (лацінскую) мову і быў ад гэтага ў адчаі.

І вось "Вялікі Цар" напісаў яму адразу тры пераклады і калі юнак панёс іх свайму настаўніку, "той, уражаны, прыбег у гатэль, каб там пабачыць перакладчыка", і, верагодна, наступстваваў яму.

Прыйшоўшы ў горад Святога Прымірэння, яны пакланіліся Адзінаму богу і, зьявіўшыся да тамтэйшага біскупа Найвялікшага (Максіма), папрасілі ахрысціць іх у Эрыдане (Ярдане). І вось, калі "Вялікі Цар" зайшоў у ваду, "на яго апусьцілася як бы вогненная маланка, а із яе вылецеў голуб, які, апусціўшыся на раку, усхваляваў ваду і паляцеў назад на неба. А стаяўшыя на беразе, бачачы гэта, спалохаліся вялікім жахам і праслаўлялі бога".

Чытач бачыць сам, што гэта тая ж самая легенда, як і ў Евангеллях пра хрышчэнне Езуса, толькі ў Евангеллях яна больш распрацавана ў дэталях.

Пасьля гэтага "Вялікі Цар" прабыў год у горадзе Святога Прымірэння, а затым пайшоў у Контр-Сталіцу (Самарыю?), дзе быў пасвечаны ў дыяканы арцыбіскупам "клапатлівым" (Мялеціем). "Адтуль ён пайшоў у Царскі горад, і напярэдадні яго прыходу тамтэйшы біскуп Лявонцій (леў) меў бачанне, што да яго прыйдзе ўдваіх той, хто будзе ў свой час Вярхоўным Біскупам".

"Ён выправіў архідыякана і клірыка да ўсходняй брамы, загадаўшы, каб сустрэлі там двух вандроўнікаў і прывялі да яго".

Пры прыбыцці да яго "Вялікі Цар" і "Добры Дарадчык", яго спадарожнік, выявіліся дакладна такімі, якімі яны былі ў яго бачанні, "і ён, пабачыўшы іх, праславіў бога і, паклікаўшы да сябе ўсіх знакамітых грамадзян горада, паведаміў ім гэта".

"Вялікі Цар" і ў Царскім горадзе, які наўрад ці можна атаясамляць з Палестынскай Кайсарыяй, вёў такое ж жыццё, якое перад гэтым ён назіраў,

---

[55] Уся гэтая біяграфія складзена мной згодна з царкоўна-славянскім сінадальным выданнем "Жыціі Сьвятых" 1827 года. Усе выказванні ў косках з'яўляюцца падрадковым перакладам. Я пазбягаю дадаваць сюды старaславянскі шрыфт, каб не абцяжарваць выданне кнігі.

падарожнічаючы па Ягіпту, Палестыне, Сірыі і Месапатаміі, у тамтэйшых падзвіжнікаў".

Неўзабаве памёрлі Лявонцій і яго пераемнік Гермаген, і арцыбіскупам абралі Яўсевія, чалавека добрага нораву, але не дасведчанага ў кніжнай мудрасьці.

"Ён пачаў зайздросьціць славе і ведам "Вялікага Цара", які заставаўся і пры ім настаўнікам юнацтва, і "Вялікі Цар" схаваўся ад яго ў пустыню, куды выклікаў лістом і свайго сябра "Нядрэмлічуга" (Рыгора)." Тады да яго сышліся – як і да Езуса ў пустыню – шмат вучняў, і яго маці, застаўшыся ўдавой, пасялілася недалёка ад яго ў паселішчы. "Вялікі Цар" і " Нядрэмлючы" некаторы час навучалі ў пустыні, а ў гарадах пачаліся "шматлікія ерасі", і праз гэта бацька "Нядрэмлючага" выклікаў яго да сябе ў горад "Назіянс", а "Вялікага Цара" арцыбіскуп Яўсевій паклікаў у Царскі горад змагацца з арыянамі (евангельскімі фарысеямі)". Там, пасьля сьмерці Яўсевія, "Вялікі Цар", згодна з указаннем "святога духу", быў узведзены на арцыбіскупскі пасад, і тут жа ён пасьвяціў свайго брата Пятра ў прасвітары, а потым у аўгусцейшыя (севасцейскія) біскупы.

Яго маці памёрла ў гэты час у 90-гадовым узросьце, маючы акрамя яго і Пятра, яшчэ трэццяга сына, таксама "Нядрэмлючага" (Рыгора), будучага біскупа Ніскага, дачку Макрыну і іншых дзяцей, "выхаваных у вялікай дабрачыннасьці".

"Аднойчы "Вялікі Цар", адасобіўшыся, маліў Бога даць яму ласку, розум і Святы Дух і пасьля шасьці дзён запаў як бы ў шаленства, а на сёмы дзень, калі ён пачаў здзяйсняць сваю літургію (літургія Васіля Вялікага) і прыносіць некрывавую ахвяру, "Добры Дарадца" і ўсё найпершыя клірыкі пабачылі нябеснае святло, восеньскі алтар, і мужоў у светлых вопратках, атачаўшых "Вялікага Цара". Тыя, хто назіраў гэтае яго пераўтварэньне ўпалі на свае твары, як апосталы пры пераўтварэнні Езуса, праліваючы слёзы замілавання і славячы Бога. А "Вялікі Цар" загадаў зрабіць у памяць гэтай падзеі залатога голуба і павесіў яго над пасадам алтара".

Адсюль мы бачым, што вучэнне пра з'яўленнях святога духу ў выглядзе голуба пачалося толькі з часоў Васіля Вялікага, г. азн. з паловы IV стагоддзя.

Пасьля гэтага з "Вялікім Царом" адбылося шмат цудаў. "Аднойчы, калі ён здзяйсняў службу, адзін "іудэй" (г. азн. – багаслаўны) захацеў пранікнуць у таямніцу яго служэння і, зайшоўшы ў царкву, раптам пабачыў, што ў "Васіля" ў руках дзіця якога ён разразаў нажом і прычашчаў ім вернікаў (Ну, ні храна сабе! J.). Прычасьціўся з імі і "іудэй" і, панёсшы частку дадому, пабачыў, што гэта былі сапраўдныя цела і кроў. Ён паказаў іх сваёй жонцы, і яны абодва, паверыўшы, прыйшлі да "Вялікага Цара" і прынялі ад яго хрышчэнне з усім іхным домам".

"Кожны раз, калі "Вялікі Цар" здзяйсняў сакрамэнт ў сваім алтары, залаты голуб, якога ён павесіў над ім, як сімвал святога духа, трохразова ўздрыгаўся, а калі аднойчы гэтага не здарылася, "Вялікі Цар", здзіўлены, паглядзеў навакол і пабачыў, што адзін із дыяканаў падміргваў маладой жанчыне, якая стаяла перад алтаром". Тады ён загадаў павесіць на дзвярах царкоўнай сьвятыні заслону і "забараніў жанчынам пранікаць за яе".

Імператар Валент, спадкаемнічаўшы "забітаму Меркурыем" Юльяну, хваляваў царкву арыянствам. Прыйшоўшы ў Контр-Сталіцу, ён меў жаданне далучыць да арыянства і самога "Вялікага Цара", пасылаючы да яго баяраў і паненак. Але калі і паненкі не дапамаглі, яго кіраўнік (епарх) Мадэст заклікаў яго да сябе і "пачаў яму люта пагражаць".

"Падумай да раніцы!" – сказаў ён, нарэшце, і паведаміў пра ўсё Валенту. Але той на гэты раз не толькі не загадаў запалохваць "Вялікага Цара", але нават сам прыйшоў да яго ў дом. Там "Вялікі Цар" амаль пераканаў яго ў сваім веравызнанні, але, калі Валент з'ехаў у Контр-Сталіцу, арыяне зноў адвярнулі і заахвоцілі яго. Ён асудзіў "Вялікага Цара" на выгнанне [як раз у той час, калі, згодна з маімі вылічэннямі, быў суд "Марскога Дзіданосцы" (Панійскага Пілата) над евангельскім "Царом Богаслаўных"], але, калі цар намерыўся падпісваць прысуд, раптам адбыўся землятрус, і палачка для пісання зламалася ў яго руцэ. Ён узяў (быццам бы!) другую палачку, але і тая зламалася, ён узяў трэццюю, але і з ёй здарылася тое ж, і, акрамя таго, рука яго так задрыжала, што спалоханы Валент разарваў свой дэкрэт.

Аднак, арыяне (фарысеі) зноў "азлабілі яго", і Валент паслаў да яго свайго саноўніка "Ажыўшага" (Анастасія), які даставіў яго ў Контр-Сталіцу на суд "Пантыйскага епарха", – зноў як Езуса перад "Пантыйскім Пілатам".

Той таксама меў жаданне схіліць яго да арыянскага веравызнання і пагражаў яму, як Пілат Езусу, сьмерцю.

Міжвольна пачынаеш чакаць, што далей пойдзе эвангельскае апісанне збіцця і слупавання, але гэты эпізод, як ужо перайшоўшы ў "міф пра Хрыста", выявіўся выкарыстаным, і выратаванне "Вялікага Цара" тлумачыцца не землятрусам і месяцовым зацьменнем 368 года, да якога мы тут падышлі храналагічна, а іншым цудам.

"У гэты самы час, – распавядаецца ў Жыціях Сьвятых, – раптам захварэў сын Валента ў Галятыі. Царыца сказала свайму чалавеку: "Гэта за "Вялікага Цара". Вызвалі яго ад пакарання і папрасі выратаваць нашага сына". Валент зрабіў згодна з яе словамі. І як толькі вызвалены ад смерці "Вялікі Цар" памаліўся, адразу ж ачуняў сын Валента".

"Тады арыяне (*г. азн. евангельскія фарысеі*), перапоўненыя зайздрасьці, сказалі Валента: "І мы маглі б зрабіць тое ж самае". Яны "заахвоцілі яго" ахрысціць выратаванага "Вялікім Царом" сына згодна з іхным звычаем, але ледзь толькі яны паднеслі яго да купелі, як ён памёр на іхных руках".

Калі "Ажыўшы" распавёў пра гэты цуд (*ці, дакладней, пра ажыўленне із памёршых самаго слупаванага Валентам "Вялікага Цара")* Валентыніяну, брату і заходняму суправіцелю Валента, той, зьдзівіўся, праславіў Бога і даслаў "Вялікаму Цару" шмат дароў, на якія той пабудаваў шпіталі і прытулкі ў розных гарадах. Ён ацаліў таксама і захварэўшага кіраўніка Мадэста, судзіўшага яго. А потым, калі замест Мадэста быў прызначаны епархам Яўсевій, сваяк Валента, адбылася такая падзея.

У "Царскім горадзе" жыла маладая і вельмі прыгожая ўдава, на імя Вестыяна, дачка сенатара Аракса. Епарх Яўсевій пажадаў прымусіць яе адружыцца са сваім саноўнікам, але яна, не даючы згоды, збегла да "Вялікага Цара", які выправіў яе ў кляштар да сваёй сястры Макрыны. Не знайшоўшы збегшай панны ні ў кляштары, ні ў спальным пакоі самога "Вялікага Цара", пасланыя намерыліся яго катаваць. Тады ўсе жыхары "Царскага горада" і іхныя жонкі, са зброяй і каламі, пабеглі да намесьніка, каб яго забіць, і ён, спалохаўшыся, вызваліў "Вялікага Цара".

Потым ў Жіціях Сьвятых змешчана такое апавяданне, якое я перакладу амаль без скарачэння, каб захаваць яго каларыт.

"Згодна са сведчаннем эліна Эладыя, пераемніка "Вялікага Цара" і сведку яго цудаў, нейкі сінклітык, на імя Працерый, наведаўшы шмат якія сьвятыя месцы, пажадаў аддаць сваю дачку ў кляштар для служэння Богу. Але дз'ябал, спрадвечны ненавісьнік дабра, заахвоціў аднаго із служак Працерыя на надзвычайную пажадлівасць гэтай дзяўчыны. Звар'яцелы ад кахання служка пайшоў да вешчуна і абяцаў яму шмат золата, калі той дапаможа яму атрымаць яе ў жонкі.

– Я накірую цябе да майго гаспадара, дз'ябла, – адказаў вяшчун, – і ён дапаможа табе, калі ты выканаеш яго жаданне.

Служка паабяцаў зрабіць усё, і вяшчун, узяўшы паперу, напісаў дз'яблу такі ліст:

"Уладар мой! Так як мне належыць адварочваць хрысьціян ад іхнага веравызнання і прымнажаць тваю частку, то накіроўваю да цябе падаўцу гэтага ліста, юнака, распаленага запалам да адной дзяўчыны, і прашу цябе выказаць яму дапамогу, бо калі ты выканаеш яго жаданне, то праслаўлюся і я і буду прыцягваць да цябе шматлікіх з яшчэ больш вялікім стараннем".

Вяшчун перадаў юнаку гэты ліст і сказаў:

– Ідзі ноччу і стань на элінскай магіле. Падымі маю запіску ў паветра, і да цябе адразу з'явяцца тыя, якія прывядуць цябе да дз'ябла, і ты перадасі яму мой ліст.

Стаўшы на магіле ноччу, юнак пачаў клікаць дэманаў. Хітрыя адразу паўсталі перад ім і з радасьцю павялі яго да свайго князя, які сядзеў на вельмі высокім пасадзе з цемрай атачаўшых яго нячыстых духаў.

Юнак даў яму запіску ад вешчуна, і дз'ябал, прачытаўшы яе, спытаў:

– Верыш ты ў мяне?

– Веру, – адказаў юнак.

– Ці адмаўляешся ад свайго Хрыста?

– Адмаўляюся.

Дз'ябал падумаў некаторы час, а пасьля прамовіў:

– Часта вы, хрысьціяне, просіце мяне, калі вам патрэбна мая дапамога, і з запэўніваннямі прыходзьце да мяне. А пасьля таго як я выканаю ваша жаданне, вы адракаецеся ад мяне і зноў вяртаецеся да Хрыста, які праз сваю дабрыню і чалавекалюбства бярэ вас назад. Зараз я перастаў верыць вашых словах. Напішы-ка мне на паперы, што добраахвотна абяцаеш быць маім назаўсёды і пераносіць са мной вечныя пакуты пасьля суднага дня. Тады ў мяне будзе распіска, і я прадстаўлю яе пад час суднага дня, а зараз выканаю тваё жаданне.

Юнак напісаў такую дамову, і Душапагубны Зьмей паслаў да дзяўчыны дэманаў, спецыяльна займаўшыхся сардэчнымі справамі, і яны распалілі яе непераадольнай запалам да юнака. Зваліўшыся на зямлю, яна пачала качацца і прасіць свайго бацьку адружыць яе з каханым чалавекам і пагражала яму, што інакш пазбавіць сябе жыцця, і ён, бацька, адкажа за яе пад час суднага дня.

– Што зрабілася з маёй дачкой? – усклікнуў у жаху Пратэрый. – Хто скраў мой скарб, ўвёў у зман маё дзіця і засланіў святло маіх вачэй? Не зьвядзі мяне, дзіця, са смуткам ў пекла, не пасаромі сваёй высакароднасьці, адружыўшыся з рабом. Пастрыжыся ў кляштар , куды я цябе прызначыў!

Але яна ні ў што не ставіла словы свайго бацькі і паўтарала адно і тое ж:

– Калі ты не выканаеш майго прашэння, я сябе заб'ю.

Згодна з парадай сваякоў і сяброў, Пратэрый дазволіў стацца згодна з яе воляй і, паклікаўшы служку, вызваліў яго, аддаў яму ў жонкі дачку і даў ім шмат маёмасьці.

Праз некаторы час пасьля таго, як споўнілася гэта дз'ябальскае ўздзеянне, было заўважана, што юнак не ходзіць у царкву і не прычашчаецца святых таямніц.

Яго жонка запала ў адчай. Зваліўшыся зноў на зямлю, яна пачала разьдзіраць сабе нагцямі твар, біць кулакамі ў грудзі і лямантаваць:

– Хто паведаміць майму бацьку пра гэты мой сорам? На жаль, мне няшчаснай! Якая мне пагражае пагібель! Навошта нарадзілася я на свет і навошта не памёрла, нарадзіўшыся?

Яна пабегла да "Вялікага Цара", усклікаючы:

– Памілуй мяне, паслухаўшуюся дэманскай парады!

"Вялікі цар" паклікаў яе чалавека, і той падрабязна яму распавёў, як ён прадаўся нячысьціку за дзяўчыну.

– Не смуткуй пра гэта, – параіў яму "Вялікі Цар". – Бог чалавекашануючы і бярэ назад пакаяўшыхся. Ці верыш ты, што выратуешся?

– Веру. Гасподзь, – прамовіў ён (*як эпілептык евангельскаму настаўніку, Марк 9, 21*), – дапамажы маёй няверы.

"Вялікі Цар" замкнуў яго (*каб не звалаклі дэманы*) усярэдзіне свяшчэннай агароджы, загадаў яму маліцца, і сам знаходзіўся тры дні і тры ночы ў нястомнай малітве. Потым ён прыйшоў да юнака і спытаў:

– Як адчуваеш сябе, мой сын?

– Я ў вялікай бядзе, – адказаў той. – Не магу пераносіць жахліваха ляманту дэманаў, бачанняў, стрэлаў і збіцця мяне камянямі. Яны трымаюць у руках маю распіску і крычаць: "Ты сам прыйшоў да нас, а не мы да цябе!"

– Не бойся, – сказаў яму "Вялікі Цар", – толькі вер. І, падмацаваўшы яго крыху ежай, перахрысьціў зноў і замкнуў.

Пасьля некалькіх дзён ён зноў прыйшоў і спытаў:

– Як сябе адчуваеш, сын мой?

– Аддаліліся ад мяне іхныя крыкі і пагрозы, а саміх дэманаў ўжо не бачу больш.

"Вялікі Цар" зноў даў яму трохі ежы і, замкнуўшы яго, пайшоў. На 14-ы дзень ён, прыйшоўшы, задаў яму тое ж пытанне?

– Як адчуваеш сябе, мой сын?

– Добра, – адказаў юнак. – Я бачыў цябе змагаючымся з д'яблам і адолеўшым яго.

"Вялікі Цар" вывеў тады юнака са зняволення, паклікаў увесь царкоўны клір і набожных людзей выйсьці із храма і прамовіў:

– Праславім, браты, нашага чалавекашануючага бога, які хоча прыняць назад загінуўшую авечку. Трэба нам усім маліцца, каб пасароміць ворага нашых душ.

Ён здзейсніў усяночную, пастаянна абвяшчаючы: "Божа, памілуй!". А раніцай павёў юнака ў царкву з агульным спевам псалмоў і царкоўных гімнаў. Але д'ябал бессаромна пайшоў за ім, жадаючы вырваць юнака із рук "Вялікага Цара".

– Прэсвітэр божы! – залямантаваў юнак. – Дапамажы! Не аддавай мяне!

Але д'ябал з такім нахабствам настроіўся на яго, што задзіраў і самога "Вялікага Цара".

– Безсаромная ваўкарэзіна! Правадыр цемры і пагібелі! – прамовіў яму "Вялікі Цар", павярнуўшыся. – Ці недастаткова табе тваёй уласнай пагібелі? Навошта не перастаеш праследваць стварэнняў майго бога?

– Крыўдзіш ты мяне, крыўдзіш, "Вялікі Цар"! – закрычаў д'ябал голасна.

– Дык забароніць табе, дык забароніць табе Гасподзь, дз'ябал! – прамовіў яму "Вялікі Цар", утрымліваючы юнака.

Але дз'ябал усё крычаў:

– Крыўдзіш ты мяне, "Вялікі Цар!" Не я да яго прыйшоў, а ён да мяне, і ён даў мне распіску, якую я зараз трымаю ў маёй руцэ і прадстаўлю ў судны дзень.

– Падніміце ўсе свае рукі да неба! – прамовіў "Вялікі Цар" і адказаў дз'яблу: – Да той пары не апусьцяць мае людзі сваіх рук, ўздзетых да неба, пакуль ты не аддасі мне распіску! І ён загадаў усім, падняўшым рукі, нястомна крычаць:

– Божа, памілуй!

Шмат гадзін усе крычалі, трымаючы рукі паднятымі, і вось дз'ябал не змог больш гэтага пераносіць. Па паветры, на вачах усіх, распіска юнака пранеслася і ўпала прама ў рукі "Вялікага Цара".

– Твая гэта распіска? – спытаў ён.

– Мая, – адказаў юнак.

"Вялікі Цар" падраў яе на часткі перад усімі і, прычасьціўшы юнака і навучыўшы яго, аддаў яго жонцы, нязмаўкаючы славіўшай і дзякаваўшай бога".

Мы бачым тут ужо далейшую сярэднестагоддзевую распрацоўку першапачатковай хрысьціянскай дэманалогіі, пры гэтым "Вялікі Цар" із заснавальніка хрысьціянства тут ужо ператвораны толькі ў заснавальніка хрысьціянскай літургіі і, такім чынам, нечакана-негадана ператварыўся ў пасьлядоўніка самога сябе. Усё, што змог тут зрабіць дз'ябал, гэта сасватаць юнаку дзяўчыну, першапачаткова прызначаную для кляштарыа, і больш нічога!

А вось і яшчэ адно апавяданне ад імя таго ж Эладыя:

"Аднойчы "Вялікі Цар" быў асеяны божай ласкай і паведаміў сваім вучням:

– Ідзіце за мной, і вы пабачыце славу Божую. Ён павёў іх із горада, не кажучы нікому куды. А ў гэты самы час за горадам у вёсцы сядзеў у сваім доме прэсьвітэр "Ажыўшы" (Анастасій), з "Боганароджанай" (Феогніяй), якая сорак гадоў усімі лічылася яго бясплоднай жонкай. Але яна не мела дзяцей толькі таму, што абодва таемна былі ў анёльскай цнатлівасьці.

"Ажыўшы" таксама меў на сабе святога духа і сказаў Феогніі:

– Я пайду на поле апрацоўваць зямлю, а ты, спадарыня-сястра, упрыгож дом, і ў 9 гадзін дня, запаліўшы свечкі, ідзі насустрач "Вялікаму Цару", які мае жаданне нас наведаць.

Яна здзівілася яго славам, але выканала загаданае. Калі "Вялікі Цар" быў ужо недалёка, яна сустрэла яго і пакланілася да зямлі.

– Ці здаровая ты, Боганароджаная? – спытаў ён яе. Яна жахнулася, чуючы, як ён назваў яе па імені, не бачыўшы ні разу, і прамовіла:

– Здаровая, святы гасподзь.

– Дзе брат твой "Ажыўшы"? – спытаў ён.

– Не брат ён, а чалавек мой, – адказала яна. – Ён пайшоў на поле апрацоўваць зямлю.

– Не, ён дома, не спрабуй адшукаць яго ў полі, – адказаў ёй Вялікі Цар. – І ён не чалавек табе.

Яна спалохалася яшчэ больш, пабачыўшы, што "Вялікі Цар" ведае ўсё, і, трапечучы, звалілася да яго ног, кажучы:

– Памаліся за мяне, грэшную, прэсьвітар бога, таму што я бачу ў табе вялікія і дзівосныя рэчы!

"Вялікі Цар" памаліўся пра яе перад усімі, і калі зайшоў у дом, то ўсе пераканаліся, што яе чалавек ужо быў там. Пабачыўшы "Вялікага Цара" і цалуючы яго ногі, ён прамовіў (як у Евангеллі):

– Адкуль мне гэта, ды прыйдзе свяціцель госпада майго да мяне?

– Пойдзем у царкву і здзейснім служэнне Богу, – адказаў яму "Вялікі Цар" і загадаў "Ажыўшаму" служыць літургію. Той адмаўляўся, кажучы:

– Меншы багаслаўляецца ад большага.

Але "Вялікі Цар" адказаў яму:

– Далучы паслухмянасць да іншых тваіх цнотаў. І вось падчас паднашэньня святых таямніц, усе пабачылі, як святы дух у вогненным бачанні сышоў з неба і атачыў "Ажыўшага" сваім ззяннем.

Пасьля выхаду із храма ўсе пайшлі ў яго дом, дзе ён прапанаваў ім ежу.

– Скажы мне, адкуль у цябе сродкі да жыцця і як ты жывеш? – спытаў яго "Вялікі Цар".

– Я грэшны чалавек, – адказаў "Ажыўшы". – Маю дзве пары валоў. На адной араю зямлю сам, а на другой пары мой найміт. Даход з адной ідзе на прыём вандроўнікаў, а з другой – на выплату падаткаў. Мая жонка працуе разам са мной і праслугоўвае мне і вандроўнікам.

– Называй яе сваёй сястрой, – адказаў "Вялікі Цар", – таму што такой яна з’яўляецца для цябе. Распавядзі мне пра твае добрыя справы.

– Нічога добрага не зрабіў я на зямлі, – адказаў яму "Ажыўшы".

Але "Вялікі Цар" прапанаваў яму:

– Хадзем і паглядзім.

Ён павёў яго да адзінокай хаціны ў полі і прамовіў:

– Адчыні дзверы.

– Не заходзь туды, святар бога, – адказаў яму "Ажыўшы", – там няма нічога, акрамя непатрэбных для дома рэчаў.

– Праз іх-та я і прыйшоў да цябе, – адказаў яму "Вялікі Цар", і калі "Ажыўшы" зноў не пажадаў выканаць яго загад, ён прамовіў:

– Адчыніцеся, дзверы! – і яны адчыніліся самі сабой. Зайшоўшы ў хаціну, усе пабачылі там пракажоннага, у якога шмат якія члены ўжо адгнілі і адваліліся. Ніхто пра яго не клапаціўся і не ведаў, акрамя самога "Ажыўшага" і яго сястры.

– Чаму ты меў намер утаіць ад мяне гэты твой скарб? – запытаў "Вялікі Цар".

– Ён гняўлівы і дасадзіцельны, – адказаў "Ажыўшы", – і я баяўся паказаць яго табе, каб не саграшыў ён якім-небудзь словам супраць тваёй святасьці.

– Добрую справу робіш ты, – прамовіў яму "Вялікі Цар". – Пакінь і мяне паслужыць яму ў гэтую ноч.

Ён застаўся адзін з пракажоным, увесь час знаходзячыся ў малітве, а раніцай вывеў яго вонкі цалкам здаровым".

Ці не знаходзім мы і ў Евангеллях пра цудоўнае вылячэнне пракажоннага "Вялікім Царом Юдэйскім"? І калі там легенда абстаўлена іншымі дэталямі, то ці не сведчыць гэта толькі пра тое, што абодва апавяданні пра цудоўную медыцынскую дзейнасць "Вялікага Цара" ствараліся паралельна адзін аднаму, а не перапісаныя адзін з другога?

Зараз разгледзім трохі іншага роду цуд.

Яфрэм Сірын, пачуўшы ў сваёй пустыні пра цуды "Вялікага Цара", маліў бога, каб ён паказаў яму яго хоць бы ў бачанні. У адказ на гэта яму быў паказаны палымяны слуп, вяршыня якога ўпіралася ў неба, і голас з неба прамовіў яму:

– Яфрэме, Яфрэме! Якім бачыш ты гэты палымяны слуп, такі і ёсць "Вялікі Цар".

Узяўшы з сабой перакладчыка, бо сам ён не ведаў грэцкую мову, Яфрэм выправіўся ў Царскі горад на свята Вадохрышча, каб паглядзець такога чалавека. Яшчэ вельмі здалёк ён заўважыў "Вялікага Цара" і яго спадарожнікаў, якія ішлі ў царкву ў светлых вопратках.

Ён павярнуўся да перакладчыка і прамовіў:

– Думаю, што дарэмна мы працавалі, брат мой! Гэты чалавек не такі, якім я бачыў "Вялікага Цара".

Зайшоўшы ў царкву, ён незаўважаным стаў у адным із цёмных кутоў і разважаў сам сабе:

– Не магу паверыць, каб ён быў тым палымяным слупом.

"Вялікі Цар", ведаючы пра яго прысутнасць ў думках, паклікаў свайго дыякана і прамовіў:

– Ідзі да заходніх дзвярэй царквы. Там ты знойдзеш манаха ў куце разам з другім, маладым і малабародым чалавекам і скажы першаму:

– Ідзі ў сьвяцільню, вярхоўны біскуп кліча цябе.

Архідыякан, з цяжкасьцю разштурхаўшы народ, дайшоў да Яфрэмава і перадаў яму загад. Яфрэм жа, даведаўшыся праз перакладчыка пра яго словы, адказаў:

– Ты памыліўся, брат мой. Мы чужаземцы і невядомы твайму біскупу.

Дыякан пайшоў перадаць гэта "Вялікаму Цару", які тады чытаў прысутным людзям святое пісанне, і Яфрэм бачыў, як палымяны язык прамаўляе із яго вуснаў (*як у Апакаліпсісе ў Езуса*).

Скончыўшы чытанне, "Вялікі Цар" зноў выправіў архідыякана да Яфрэма:

– Скажы таму манаху: спадар Яфрэм! Зайдзі ў святы алтар, цябе кліча вярхоўны біскуп.

Пачуўшы сваё імя, Яфрэм здзівіўся і, здзейсніўшы каленапакланенне, прамовіў:

– Сапраўды вялікі ты, "Вялікі Цар"! Сапраўды ты агністы слуп, сапраўды святы дух вымаўляе тваімі вуснамі!

Але ён падышоў да яго толькі тады, калі скончылася служба і калі "Вялікі Цар" пайшоў у зберагальніцу пасудзіны. Ён пацалаваў Яфрэмава і прамовіў:

– Добра, што ты прыйшоў, бацька мой, выгаючы дэманаў.

Яфрэм прычасьціўся святых таямніц із рук "Вялікага Цара" і потым, падчас трапезы, прамовіў:

– Святы айцец! Прашу ў цябе адной ласкі: я ведаю, што бог дае табе ўсё, пра што ты просіш. Папрасі ж яго, каб ён даў мне дар гаварыць па-грэцку.

– Вялікага ты просіш, але пойдзем у храм, – адказаў яму "Вялікі Цар" – і памолімся пра гэта, бо напісана: "ён выконвае волю тых, хто баіцца яго, пачуе іхныя малітвы і ўратуе іх".

Яны маліліся ў царкве некалькі гадзін, пасьля чаго "Вялікі Цар" сказаў Яфрэму:

– Чаму ты не прымаеш прэсвітэрскае прысвячэння? Ты яго варты.

– Я грэшны чалавек, – адказаў яму Яфрэм па-сірыйску.

– Сатварым яшчэ пакланенне, – прамовіў яму "Вялікі Цар".

І калі яны ляжалі ніцма на зямлі, ён паклаў сваю руку на галаву Яфрэма і вымавіў малітву дыяканскага пастаўленьня. І адразу Яфрэм усклікнуў на чыста грэцкай мове:

– Уратуй, памілуй, накіруй і захавай нас, Божа, тваёю ласкай!

Так споўнілася пісанне: "тады ўскочыць кульгавы алень, і зразумелай будзе мова заікаючыхся", – заканчвае старажытны апавядальнік сваю легенду. Але гэтае ж прароцтва было і пра Хрыста.

Такім з’яўляецца першы зародак легенды пра палымяныя языкі апосталаў і пра сышоўшую на іх здольнасць вымаўляць на замежных дыялектах. Тут Яфрэм нагадвае апостала Тамаша.

Калі беззаконны цар Валент быў у Пераможным Горадзе (Нікеі па-грэцку), – працягваюць сваё апавяданне Жыціі Сьвятых, – да яго прыступілі арыяне-фарысеі . Яны папрасілі забраць у праваслаўных тамтэйшую саборную царкву і перадаць яе іхнаму зборышчу. Злы цар Валент выканаў гэта і пайшоў у Цар-Горад.

Набожныя ж пайшлі да "Вялікага Цара" з лямантам і плачам, распавядаючы пра здзейсненую ім крыўду. "Вялікі Цар" суцешыў іх сваімі прамовамі і, выправіўшыся ў Канстантынопаль, сказаў імператару:

– У судах жывуць царская праўда і гонар, а ты судзіў няправільна, выгнаўшы праваслаўных са святой царквы і перадаўшы яе зласлоўным.

– Зноў прыходзіш ты на маю прыкрасць! – усклікнуў Валент. – Ідзі ж да іх сам і паспрабуй жа рассудзіць арыян і праваслаўных так, каб і тыя і другія былі задаволены!

Узяўшы ліст пра гэта, "Вялікі Цар" вярнуўся ў Пераможны Горад і, паклікаўшы арыян, прамовіў:

– Вось імператар даў мне ўладу сатварыць правы суд паміж вамі і праваслаўнымі. Зробім жа так: прыйдзіце вы, арыяне, і вы, прававерныя, зачыніце спрэчную царкву і запячатайце яе дзверы, адны сваімі пячаткамі, а друія сваімі пячаткамі. Прыстаўце моцных вартаўнікоў, і хай дастанецца царква тым, пры чытанні чыёй малітве дзверы адчыняцца.

– А калі не адчыняцца ні перад кім? – спыталі арыяне (фарысеі).

– Тады хай будзе царква ваша, – адказаў ім "Вялікі Цар".

Гэтыя словы спадабаліся арыянам, а праваслаўныя смуткавалі за "Вялікага Цара", кажучы, што ён вырашыў не па праўдзе, а праз баязнь перад імператарам.

Арыяне маліліся тры дні і тры ночы, але не было ім ніякай азнакі. Яны ўсклікалі: "Госпадзі, памілуй!". Але нічога не было ў адказ, і на чацвёрты дзень яны пайшлі з сорамам.

А "Вялікі Цар", сабраўшы ўсіх сваіх прыхільнікаў з іхнымі жонкамі і дзецьмі, пайшоў спачатку ў царкву пакутніка Дыяміда, здзейсніў там усяночную службу, і толькі раніцай выправіўся да запячатанай саборнай царквы.

– Падніміце рукі да неба, – загадаў ён, калі ўсе спыніліся перад яе дзвярыма, і абвяшчайце безперапынна: "Божа, памілуй!".

Калі ўсе зрабілі так і замоўклі, ён перахрысьціў тры разы дзверы, і вось адразу адбыўся землятрус, пахіснуліся вушакі дзвярэй, зламаліся пячаткі, і царскія дзверы самі расчыніліся, як ад моцнай буры, і стукнуліся сваімі створкамі аб сьцены.

Незлічонае мноства арыян, будучы сведкамі гэтага цуда, адмовіліся ад свайго зловучэння і далучыліся да прававерных.

Валент, даведаўшыся пра гэты славуты цуд, спалохаўся, але аслеплены злосьцю ўсё ж не вярнуўся ў праўдзівую веру і таму загінуў злой сьмерцю. Пасьля ранення, атрыманага ім пры паразе яго войска ў Фракіі, ён збег і схаваўся ў плеўніцы, а яго ворагі, атачыўшы яго, запалілі яе сьцены, і ён перайшоў з яе полымя прама ў полымя непагаснае ў той жа год, як памёр і Вялікі Цар (378 г.).

Для мяне няма сумневаў, што апавяданне пра спрэчку за саборны храм і пра яго вырашэнне "Вялікім Царом", з'яўляецца наступствам землятрусу, сапраўды адбыўшагася пад час апошняга года валадарання Валента, што было растлумачана пакараннем за яго нявер'е ў новае рэлігійнае вучэнне. Ці не маецца тут на увазе той землятрус, які ў Евангеллях аднесены да часу няўдалага слупавання "выратавальніка", калі, як там паведамляецца, заслона храма разарвалася ад верхняга краю да ніжняга?

А вось і яшчэ апавяданне, якое нагадвае здзіўленне сярэднестагоддзевых хрысьціян адносна таго, што апостал Пятро жыў як чалавек са сваёй жонкай і меў сыноў і дачок, нягледзячы на свой біскупскі сан.

"Аўгусцейшы Біскуп" Пятро, брат "Вялікага Цара", – паведамляюць нам Жыціі, – быў абвінавачаны ў тым, што жыве са сваёй жонкай не як брат, а як чалавек. "Вялікі Цар" вправіўся да яго, і калі Пятро і яго жонка ляглі разам спаць у царкве, ён з пяццю праведнымі мужамі таксама таемна зайшоў у яе, і ўсе яны бачылі, як анёлы божыя, лётаючы над Пятром і яго жонкай, мазалі іхны ложак духмяным мірам. Тады "Вялікі Цар" загадаў сабрацца ўсім вернікам і, каб яшчэ раз выпрабаваць, ці правільна робіць Пятро, загадаў прынесьці жалезную пасудзіну, напоўненую распаленымі вуглямі. Ён загадаў жонцы Пятра:

– Прыпаднімі падол тваёй сукенкі! – і загадаў высыпаць у яго распаленае вуголле. Тое ж ён зрабіў і з Пятром. Яны абодва шмат гадзін трымалі падпаленыя вуглі ў сваім адзенні, але адзенне абодвух засталося цэлым. А калі яны, нарэшце, высыпалі вуголле на зямлю, згодна з загадам "Вялікага Цара", не выявілася ніякага следу на іхных сукенках".

Так было двойчы даведзена, што біскуп Пятро мог спаць у храме на адным ложку са сваёй жонкай, не зведваючы за гэта нараканняў. Але, вядома, сярэднестагоддзевы манах, які паведамляў гэтую дэталь, не прамінуў дапоўніць, што гэты цуд атрымаўся так добра толькі таму, што Пятро спаў са сваёй жонкай толькі як брат з сястрой, а не як чалавек з жонкай.

Некалькі ў іншым родзе пазней прыведзена і іншае апавяданне. У Царскім горадзе жыла заможная і высакародная ўдава, якая доўга, як евангельская Марыя Магдаліна, вяла распутнае жыццё, але, нарэшце, павярнулася да бога, плачучы і і лямантуючы:

– Гора мне, грэшнай! Як я адкажу праведнаму суддзі пра столькі маіх грахоў?

Яна села за стол, напісала на папірусе ўсе свае грахі, а на прыканцы спісу пазначыла яшчэ адзін са сваіх грахоў, самы цяжкі. Яна закрыла свой ліст апалам, каб ніхто не мог прачытаць, і, пабачыўшы "Вялікага Цара", які ішоў у царкву, ўпала перад ім на калені. Яна падала яму ліст і папрасіла ачысціць яе малітвай ад усіх выкладзеных у ім грахоў, не распячатваючы.

"Вялікі Цар" узяў яе ліст, ўпаў перад алтаром і маліўся ўсю ноч, а раніцай аддаў жанчыне яе ліст і загадаў паглядзець, што ў ім засталося. Калі яна раскрыла яго, то пабачыла дараванымі ўсе свае грахі, акрамя апошняга, самага цяжкага.

Жахнуўшыся, яна зноў звалілася да ног "Вялікага Цара".

– Памалі бога і пра самы цяжкі із маіх грахоў! – лямантавала яна.

– Ідзі ў пустыню, – адазаў "Вялікі Цар". – ты знойдзеш там Яфрэма. Дай яму твой ліст, і хай ён уміласьвіць пра цябе бога.

З вялікай цяжкасьцю яна прайшла па пустыні да Яфрэма.

– Памілуй мяне, бацька! Не палянуйся памаліцца пра адзін мой грэх, бо ад усіх астатніх вызваліў мяне "Вялікі Цар".

Але ён ёй адказаў:

– Адыдзі ад мяне, таму што я і сам маю патрэбу ў дапамозе ад іншых. Калі "Вялікі Цар" выпрасіў у бога пра дараванне усіх тваіх грахоў, то можа папрасіць і яшчэ пра адзін. Толькі спяшайся вярнуцца назад, каб заспець яго ў жывых.

Яна спешна вярнулася ў Царскі горад, але там ужо неслі "Вялікага Цара" на пахаванне. Яна кінулася на зямлю перад яго труной і, звяртаючыся да яго, як да жывога, пачала папракаць яго.

– На жаль мне, божы чалавек! Ці для таго ты выправіў мяне ў пустыню, каб я дарэмна зведала столькі цяжкасьцей? Хай бачыць гэта бог і хай рассудзіць паміж мною і табой! Ты сам мог дапамагчы мне, а выправіў мяне да іншага, які не можа!

Яна кінула ліст са сваім грахом на верх труны сьвятога і паведамляла ўсім пра дарэмную працу, якую ён прымусіў яе зрабіць.

Адзін із клірыкаў, жадаючы пабачыць, што гэта за самы цяжкі яе грэх напісаны на лісьце, разгарнуў яго, але пабачыў, што ўвесь ліст быў чысты.

"Так і пасьля сваёй сьмерці Вялікі Цар здзейсніў цуда", заканчвае аўтар гэтую наіўную гісторыю, якая нагадвае евангельскае апавяданне пра Марыю Магдаліну.

А вось і яшчэ адна легенда пра смерць Вялікага Цара.

Адзін лекар, на імя Язэп, які жыў у Царскім горадзе і прытрымліваўся іудэйскага веравызнання, быў такім вучоным, што мог нават за пяць дзён прадказаць гадзіну сьмерці ўсякага хворага чалавека.

Калі "Вялікі Цар" смяротна захварэў, ён паклікаў да сябе гэтага лекара, як бы для медыцынскай дапамогі, і спытаў, выпрабоўваючы:

– Што ты думаеш пра мяне, Ёсіф?

Ёсіф, "памацаўшы жылы сьвятога", адышоў і паведаміў хатнім:

– Прыгатуйце усё для пахаваньня, ён памрэ сёння, раней чым схаваецца сонца.

– А калі я застануся жывы да 6 гадзін раніцы, то што ты зробіш, Ёсіф? – запытаў пачуўшы гэта "Вялікі Цар".

– Хай я сам тады памру, – адказаў яму лекар.

– Ты памрэш дзеля граха, але ажывеш для бога, – адказаў яму "Вялікі Цар".

– Клянуся табе, уладыка, – запэўніў яго лекар, – калі ты застанешся жыць да раніцы, то я выканаю тваю волю, што б ты ні загадаў.

І вось раніцай наступнага дня "Вялікі Цар" паслаў за Язэпам, які, не паверыўшы яго служцы, паведаміўшаму, што ён жывы, захацеў сам пабачыць памёршага.

Але калі ён пераканаўся на свае вочы, што "Вялікі Цар" жывы, ён, зваліўшыся да яго ног, усклікнуў: "Вялікі бог хрысьціянскі, і няма іншага бога,

акрамя яго! Адракаюся ад боганенавіснага богаслаўлення (юдэйства) і далучаюся да сапраўднай хрысьціянскай веры. Загадай, святы айцец, неадкладна ахрысьціць мяне з усім маім домам".

– Я сам ахрышчу цябе, сваімі рукамі, – адказаў яму "Вялікі Цар".

Лекар, памацаўшы яго правую руку, прамовіў:

– Твае магчымасьці такія мізэрныя, што ты не зможаш гэтага зрабіць.

– Я маю стваральніка, падмацоўваючага нас, – адказаў "Вялікі Цар".

Ён падняўся, да здзіўлення ўсіх, з ложка, пайшоў у царкву, ахрысьціў лекара, назваўшы яго Янам, прычасьціў яго боскімі таямніцамі, сам адслужыў літургію і, павучаючы, прабыў у царкве да дзевятай гадзіны.

Толькі тады, вымавіўшы падзяку, ён аддаў сваю душу ў рукі бога. Гэта было 1 студзеня, у апошні год валадараньня Валента і ў чацвёрты год цараваньня Грацыяна. Ён пражыў 45 гадоў і пасвіў сваю царкву 8 гадоў 6 месяцаў і 16 дзён.

Так заканчваюць "Жыціі Святых" біяграфію "Вялікага Цара", із якой я пераклаў усё, акрамя звычайных для старажытных кніг шматслоўных разважанняў тэалагічнага характару.

Калі верыць апошнім датам, то заснавальнік хрысьціянскага набажэнства "святы Вялікі Цар" быў абвешчаны вярхоўным біскупам (г. азн. першасьвятаром бога) ў нейкім "Царскім горадзе" 15 чэрвеня 369 года, праз год і 3 месяцы пасьля вылічанага намі часу слупавання евангельскага цара Юдэйскага. Яго ўцёкі ў заморскую (Понтыйскую) пустыню з нагоды зайздрасьці да яго неведаючага кніжнага пісання першасьвятара "Добрашануемага" (Яўсевія), куды прыйшла да яго маса вернікаў, прыпадаюць як раз за год да вылічанага мной часу слупавання евангельскага цара. Нельга не паставіць у сувязь адну з другой, – як я ўжо зрабіў вышэй, – гэтыя абедзве падзеі і не прыйсьці да гіпотэзы, што збяганне "Вялікага Цара" і было вынікам няўдалай спробы слупаваць яго перад месяцовым зацьменнем 21 сакавіка 368 года, якое мела месца на скрыжаванні нябеснага экватара з нябеснай экліптыкі каля ног сузор'я Панны, што і дало ідэю пра крыж і пра маці Панну, якая стаяла каля яго падножжа.

За што ж маглі б яго ў той час слупаваць, спытаю я яшчэ раз?

Мы ўжо ведаем з пачатку гэтага апавядання, што "Вялікі Цар" як і евангельскі Хрыстос, яшчэ з сямігадовага ўзросту быў аддадзены ў навучанне і ў дванаццаць гадоў "пераўзыйшоў усіх сваіх настаўнікаў" у афінскай Акадэміі Навук, а да пятнаццацігадовага ўзросту "вывучыў усе зоркаведніцкія (г. азн. астралагічныя) хітрасьці".

Якія ж гэта маглі быць хітрасьці?

Зразумела, што толькі адна: прадказанне месяцовых зацьменняў, што непарыўна звязана з вучэннем пра шарападобнасць зямлі і з тым, што цень зямнога шара часамі закрывае месяц, калі зямля становіцца як раз паміж сонцам і месяцам. Іншых зоркаведніцкіх хітрасьцёй кідаючыхся ў тыя часы ў вочы яшчэ не было. І мы, сапраўды, ведаем, што IV стагоддзе было стагоддзем барацьбы за ўяўленне пра шарападобнасць зямлі супраць старой традыцыйнай старазапаветнай сістэмы сусвету, якая ўяўляла неба ў выглядзе шклянога каўпака над дыскападобнай зямлёй, падобнай на самотны плыт, які плавае па бясконцаму акіяну не маючай дна вады, у які апускаюцца нябесныя сьвяцілы пры сваім захадзе і зноў выплываюць із яго, вынырваючы із пад зямлі, на ўсходзе. Пры панаванні такой сістэмы, зразумела, немагчыма было растлумачыць месяцовыя зацьменні.

"Неведаўшы кніжную мудрасць" першасьвятар Царскага горада Яўсевій, зразумела, не мог ўхваліць наватарскія ідэі "Вялікага Цара", запазычаныя ім у вальнадумнай афінскай Акадэміі, і не абараніў яго перад фарысеямі-арыянамі, якія мелі намер папярэдзіць месяцовае зацьменне, прадказанае ім на 21 сакавіка 368 года, пасадзіўшы яго самога на слуп перад тварам месяца, які ён быццам бы меў намер зацямніць сваім чарадзействам. Цвікамі ж, вядома, ніхто яго не прыбіваў, ужо праз адно тое, што цвікі ў той час былі занадта каштоўнымі для таго, каб іх марнаваць на такія справы: да ганебных слупоў, у выпадку папярэдніх катаванняў, прывязвалі, як да прэнгу, закінуўшы рукі за папярочную перакладзіну, а на шыю надзявалі пятлю для таго, каб чалавек дастаткова напакутаваўшыся, пасьля таго як яго рукі занямеюць сам упадзе ў пятлю, пасьля чаго яму перабівалі дубінай калені.

Г. азн., уся гісторыя "Вялікага Цара" пасьля суда над ім, распаведзеная ў Жыціях Сьвятых, ужо адносіцца да жыцця евангельскага "Выратавальніка" пасьля яго няўдалага слупавання, якое разумеецца ў тым ці іншым із гэтых двух сэнсаў, а із жыцця да слупавання застаюцца толькі:

1) запал да навук, які ахапіў яго пачынаючы з сямігадовага ўзросту;

2) цеснае сяброўства з "Пільным Багасловам" (Рыгорам Багасловам, 328-390), амаль яго аднагодкам згодна з узростам, але перажыўшым яго на 12 гадоў, у якім можна прызнаць зародак евангельскага міфа пра Андрэя Першазванага ці пра Сімона;

3) хрышчэнне ў Ярдане – Эрыдане ад тамтэйшага біскупа "Найвялікшага" (Максіма), у якім нельга не бачыць Яна Купалу Евангелляў, і сыходжанне ў гэты час "святога духа" ў выглядзе голуба, прычым замест евангельскага голасу з неба: "гэта ёсць сын мой каханы!" у Жыціях напісана "вогненная маланка" і, вядома, мяркуецца і адпавядаючы ёй грамавы "голас з неба". Гэта відавочна тая ж самая легенда.

4) "Вялікі Цар" у Чэцці-Мінеях пасьля свайго ахрышчэння высвячаецца ў нейкай Контр-Сталіцы ў царкоўнаслужачыя (г. азн. у хрысты) тамтэйшым вярхоўным біскупам "Клапатлівым" (Мялеціем) і ідзе вучыць у нейкі Царскі горад, і, у адпаведнасьці з гэтым, у Евангеллях маем апавяданне пра Марскога Дзіданосца (Пантыйскага Пілата), для зацвярджэння якім быў прадстаўлены прысуд старазапаветных тэолагаў, асудзіўшых "Цара Юдэйскага" на слупаванне, верагодна, – як я ўжо згадваў вышэй, – за прадказанне зацьмення месяца (і землятрусу?) на ноч 21 сакавіка 368 г. і каб такім спосабам адвярнуць будучую бяду.

Усё гэта было, з нашага боку гледжання, да 368 года, а затым мы бачым і пасляслупавальнае жыццё "Вялікага Цара" хрысьціянаў.

Мы бачым яго ўцёкі ў "пустыню Понт", куды ён заклікаў лістом і свайго сябра дзяцінства "Пільнага Багаслова", у якім я выказаў здагадку бачыць Андрэя Першазванага, і куды да яго пачалі збірацца шматлікія прыхільнікі. Гэтага, вядома, ужо няма ў эвангельскім міфе пра Хрыста, бо пасьля слупавання Цар Юдэйскі, згодна з тэалагічнымі меркаваннямі, бяжыць не ў пустыню, а прама на неба (хаця яго не раз сустракалі вучні на зямлі ж і пасьля гэтага). Пустыня ж аднесена апакрыфічна да папярэдняга часу, дзе яго быццам бы спакушаў сатана, прапаноўваючы яму зрабіцца рымскім імператарам.

Затым я пазначыў яшчэ і іншыя адпаведнасьці. Паралельна евангельскаму апавяданню пра лекаванне Езусам пракажонага мы бачым тут вылячэнне такога ж пракажонага ў хаце пустэльніка "Ажыўшага" (які нагадвае сваім імем

евангельскага Лазара). Паралельна евангельскаму апавяданню пра веданне Царом Юдэйскім усіх думак атачаючых людзей і веданне ўсіх іх таемных спраў, мы бачым і тут тое ж самае ў дачыненні да "Вялікага Цара" святцаў. Падобна таму як Езус распавёў незнаёмай яму самарыцянцы, што яна ўжо была пяць разоў адружанай і што той, якога яна мае зараз, не яе чалавек, так і "Вялікі Цар" святцаў выказваецца незнаёмай яму "Боганароджанай", што той, якога яна мае як чалавека, не з'яўляецца яе чалавекам.

Паралельна евангельскай пакаяўшайся блудніцы, мы і тут маем такую ж і нават у больш распрацаваным выглядзе, з цэлым спісам яе грахоў, у закрытым лісьце.

У Евангеллях мы бачым вялікага апостала з падвойным імем Сымон і Пятро. А тут, як правобраз апостала Сымона, мы маем былога настаўніка "Вялікага Цара", а потым яго вучня "Добрапарадцу" (Яўбула), які ўсюды суправаджае яго, як і Сымон, які згодна са сваім узростам быў старэйшым за Езуса. А як аналаг яго двайніка, апостала Пятра, і тут маем Пятра, першасьвятара, які таксама, нягледзячы на сваё званне біскупа, быў адружаны і меў дзяцей, што і было апраўдана анёламі, якія начамі атачалі яго адружальны ложак і намазвалі ложак яго і яго жонкі духмяным мірам, не кажучы ўжо пра вогненнае выпрабаванне абодвух мужа і жонкі з дапамогай падпаленых вуглёў.

Ці варта із гэтага рабіць выснову, што евангельскі Сымон-Пятро з'яўляецца міфічным аб'яднаннем двух сапраўдных асоб – "Добрапарадцы-Яўбула" і "найсвятлейшага біскупа" Пятра, брата "Вялікага Цара"?

Я нікольки не здзіўлюся, калі гэта выявіцца не толькі аб'яднаннем двух асоб у адной, але нават, як пабачым далей, і падзелам адной асобы на дзве іпастасі. Не будзем забывацца, што і ў Езуса быў брат Сымон (Марк 6, 3). Але гэта яшчэ не азначае, што мы прыпісваем яму і пасланні апостала Пятра, якія змяшчаюцца ў новым запавеце Бібліі.

Мы сустракаем тут Яфрэма Сірына, як сучасніка "Вялікага Цара", якога той праз дыякана паклікаў да сябе, назваўшы па імені. І ці не адлюстраваўся ён у вобразе апостала Фамы або нават Натанаіла, які, пачуўшы ад Піліпа пра Цара Юдэйскага, завочна пытаўся: "Ці можа паходзіць нешта добрае із назарэяў (г. азн. хрыстоў)?" Бо і Езус таксама назваў яго па імені і сказаў яму: "перш чым Філіп сустрэў цябе пад смакаўніцай, я ведаў цябе" (Ян 2, 48). Бо і Натанаіл, таксама паверыўшы ў яго, усклікнуў: "Ты Сын Божы, ты Богазмагальніцкі Цар (па-грэцку Васіль)".

Я не хачу тут пералічваць далейшых аналогій, якія паказваюць, што шмат якія падзеі ў эвангельскім жыццяапісанні Езуса перанесены із яго дзесяцігадовага жыцця пасьля слупавання ў перадслупаваны перыяд яго жыцця. Да такіх, напрыклад, несумненна адносіцца яго "ўрачысты ўваход у Ерусалім" (мал. 50), які мог мець месца ўжо толькі пасьля яго "ўваскрашэння із памёршых", а таксама і тая не меўшая месца да таго часу рэпутацыя вялікага лекара (мал. 51), якая прымушала пры адным дакрананні да яго часова станавіцца здаровымі нервовых хворых. "Каго, – думалі яны, – не можа вылечыць чалавек, які здолеў ажывіць самога сябе із памёршых?"



Мал. 50. Уваход евангельскага “Цара багаславячых” у горад Давыда із Bosio: Roma Sotterrana (катакомбны малюнак).



Мал. 51. Евангельскі “Выратавальнік” з крыжом у руках (што больш пасуе яго жыццю пасьля слупавання) вылечвае паралічнага. Із рэльефнай выявы на слановай костцы, на крышцы вытрымак із евангелляў у Ровенскім кнігасборы (аднесена да V ст. на тэму апавяданняў Мацвея 9,2).

У чэцці-мінейскай біяграфіі "Вялікага Цара" мы бачымі толькі нікчэмныя парэшткі ад тых апавяданняў, якія хадзілі пра яго, так як большасць такіх легенд

была перанесена ў дэталі яго незвычайна перабольшанага вобраза ва ўвагнутым люстэрку Евангелляў, і ўсё адкінута, як гіганцкая цень, ад рэальнага "Вялікага Цара" на аддалены фон пачатку нашай эры, калі нічога падобнага не было.

І калі дзе-небудзь і існуе магчымасць гістарычнай распрацоўкі гэтага сюжэту, то, вядома, перш за ўсё, у Чэцці-Мінеях, ужо праз адно тое, што ў іх "Святы Вялікі Цар" не зрушаны са свайго храналагічнага месцы, хоць і яны на дзевяноста дзевяць адсоткаў – казкі.

З гэтага боку гледжання, евангельскі "Выратавальнік" быў сапраўды "сынам Цара-Будаўніка" (па-грэцку Васіля Тэктона, імя якога няправільна перакладзена як цясляр), а маці яго сапраўды магла мець імя "Прыемнаславутай" (Эміліяй).

Першапачатковую адукацыю ён, як мы бачылі ўжо ў чэцці-мінейскай біяграфіі "Вялікага Цара", атрымаў дома, потым у афінскай Акадэміі разам з Юльянам Цэзарам і вывучыў усе тонкасьці сучаснай яму астраноміі, астралогіі, медыцыны, алхіміі і іншых навук, засвоіўшы ідэю пра шарападобнасць зямлі і навучыўшыся, або нават самастойна вынайшаўшы спосаб, прадказваць месяцовыя зацьменні. Вучэннем пра шарападобнасць зямлі (у памяць чаго на дахах хрысьціянскіх храмаў да гэтага часу ставяцца шары з крыжамі, у адрозненне ад іудэйскіх і магаметанскіх навершшаў, як сімвалаў першабытнага неба), ён паставіў сябе адразу ў канфлікт з існаваўшымі да яго ў масах рэлігійнымі ўяўленнямі, г. азн. са "Старым Запаветам", які асабліва шанавалі тагачасныя фарысеі , г. азн. арыяне.

Гэты канфлікт ледзь не скончыўся для яго трагічна ў адным із буйных адміністрацыйных цэнтраў, пад час кіравання Пантыйскага Пілата (згодна з Чэцці-Мінеямі епарха Мадэста, а словы Пантыйскі Пілат не імя, а азначаюць проста – Марскі дзіданосец). І гэта цалкам адпавядае таму факту, што першыя сем хрысьціянскіх суполак паўсталі не ў Палестыне, а менавіта ў Малой Азіі: у Сьмірне, Эфэсе, Пергаме, Ціатырах, Сардысе, Філадэльфіі і Лаадыкіі, як пра гэта сведчыць Апакаліпсіс, напісаны ў 395 г. ( гл. II і III). А ў Эль-Кудсе (называемым сучаснымі хрысьціянамі Ерусалімам) яшчэ не існавала ніякай хрысьціянскай абшчыны нават і ў 395 годзе.

У поўнай згодзе з гэтым знаходзіцца і паданне, што Ян Залатавуст, аўтар Апакаліпсіса, быў вучнем "Вялікага Цара".

Зразумела, што ў легендах Чэцці-Міней ёсць вельмі шмат пераіначванняў. Таварыш Юльяна Цэзара па афінскай Акадэміі "Вялікі Цар" хутчэй за ўсё, быў яго сябрам па вальнадумству, а ніяк не ворагам. І, магчыма, менавіта для абвяржэння такіх непрыемных для сярэднестагоддзевых хрысьціянскіх вушэй чутак, як паданне пра сяброўства евангельскага Хрыста з Юльянам Філосафам, і было складзена недарэчнае апавяданне, быццам "святы Меркурый" з дзідай знік з малюнка "прачыстай Панны" (ці не на зорным небе?) праз малітву "Вялікага Цара", каб ўразіць яго школьнага таварыша, імператара Юльяна быццам бы паўстаўшага на хрысьціянства.

Дакладна так жа можна сумнявацца і ў тым, што першая хрысьціянская літургія, якая і да гэтага часу носіць назву "літургія Вялікага Цара" (літургія Васіля Вялікага), была складзена ім у тым самым выглядзе ў якім мы маем яе зараз. Вядома, раз мы атаясамляем яго з евангельскім Хрыстом, то можа здацца, што менавіта мы, перш за ўсіх астатніх даследчыкаў, і павінны прыпісаць яму заснаванне сучаснай літургіі, тым больш што тады менавіта і знікае тое недарэчнае да відавочнасьці сцвярджэнне тэолагаў, быццам першая хрысьціянская літургія з'явілася толькі праз 350 гадоў пасьля смерці заснавальніка хрысьціянства. Але

справа ў тым, што хрысьціянскія літургіі не заставаліся нязменнымі на працягу рукапіснага перыяду, калі яны яшчэ не былі замацаваны ў пэўных формах друкаваным станком. Кожны яе асобны манускрыпт дапаўняўся новымі дэталямі, што было тым лягчэй, чым больш асобныя рукапісы адрозніваліся паміж сабой.

Нагадаем, што і ліслівасць пецярбургскага найсвяцейшага сінода дапоўніла рускую літургію такой колькасьцю песен, якія пачынаюцца славамі: "пабожнейшага, самаўладнейшага, вялікага гасудара нашага, імператара" і г. д., што было брыдка слухаць не паважаўшаму рабалепную ліслівасць чалавеку.

Але калі нават і зараз у гэтую, стагоддзямі выпрацаваную літургію, ўводзяцца, як мы бачым, дапаўненні, то што ж казаць пра сярэднія стагоддзі, цалкам грунтуючыяся на самавольстве асобных царкоўных правадыроў?

Новыя дэталі і звычаі тады маглі ўзнікаць і адмяняцца згодна з воляй кожнага асобнага святара.

Я вышэй прывёў апавяданне Чэцці-Міней пра тое, як адзін іудэй, пракраўшыся ў храм "Вялікага Цара" пад выглядам хрысьціяніна, бачыў на свае вочы, як ён разразаў там перад алтаром немаўля і часткамі яго цела і глыткамі крыві прычашчаў сваю паству. А калі гэты таемны госць, не праглынуўшы ўсё атрыманае ім, прынёс дадому парэшткі і паказаў жонцы і родным, то ўсе пераканаліся, што гэта было сапраўднае чалавечае мяса і кроў. Гэта, – кажуць, – так усім ім спадабалася, што на другі ж дзень яны прынялі хрысьціянства. І такое паведамляецца пра "Вялікага Сьвятога" не ў Талмудзе і не ў творах язычніцкіх аўтараў, а ў саміх праваслаўных "Жыціях Сьвятых"! Гэтае апавяданне выключана толькі ў іхных рускамоўных перакладах. Самы позні рэдактар царкоўна-славянскіх "Чэцці-Міней"[56], жадаючы патлумачыць, якім чынам мог бы не веруючы знесьці ў руцэ частку цела і крыві зарэзанага дзіцяці, прапануе ў заўвазе звярнуцца з гэтай нагоды да жыцця святой пакутніцы Феактысты, але там мы чытаем толькі тое, што адзін рыбак прынёс ёй у скрыначцы часткі такіх "сьвятых і вельмі жахлівых таямніц", са згоды аднаго святара, для прычашчэння. Вядома, і ў прыведзеным намі апавяданні даследчык мог прынесьці іх дадому ў роце, не праглынуўшы, але тут нам важна растлумачыць цалкам не тое. Згодна са сцверджаннем "Жыція Васіля Вялікага, заснавальніка хрысьціянскай літургіі", "іудэй, які перайшоў з гэтай нагоды ў хрысьціянства", бачыў на ўласныя вочы, як зьдзейсьнілася забойства немаўляці і ўсеагульнае наступіўшае потым людаедства і прынёс прадметны доказ гэтага да сябе дадому. Калі б такое апавяданне было прыведзена не ў Жыціях Сьвятых, а ў Талмудзе пра іудэйскае набажэнстве з дадаваннем, што пры гэтым і наогул здзяйснялася "вельмі дзіўная містэрыя" з прычашчэньнем ўсіх "сапраўднай чалавечай крывёй і целам", то гэтага было б у вачах шматлікіх хрысьціян цалкам дастаткова для абвінавачвання талмудыстаў у рытуальных забойствах, калі не ў наш час, то ў мінулыя часы. А тут, у дадатак да прыведзенага апавядання, мы маем і сведчанні язычніцкіх аўтараў, тлумачыўшых ганенні на хрысьціян іхнымі рытуальнымі забойствамі пад час перадранішніх набажэнстваў.

Вядома, дзікунства думкі першабытнага чалавека не мела межаў, і таму не было б нічога дзіўнага, калі б нейкаму тэолагу-знахару III або IV стагоддзяў нашай эры сапраўды прыйшла б у галаву думка, што калі прынесьці ў ахвяру немаўля пад час маладзіка восеньскага раўнадзенства, калі і нованароджаны месяц і сонца адыходзяць у падземнае царства, і з'есьці па кавалачку яго цела і па глытку яго крыві, то гэта застрахавала б прычасьціўшыхся такім чынам ад сьмерці на працягу

[56] Царкоўна-славянскае сінадальнае выданне 1827 г.

ўсяго наступнага года. І ў яго, вядома, магло б з'явіцца шмат прыхільнікаў... Бо ўсім хацелася застрахавацца сябе ад сьмерці! Толькі вопыт недзейнасьці такога жыццёвага элексіру мог прымусіць першабытных людзей адмовіцца ад падобнага спосабу.

Гісторыя і натуральныя падставы ўзнікнення розных рэлігійных звычаяў сучасных нам набажэнстваў яшчэ не мелі магчымасьці да гэтага часу быць вывучанымі свабоднай навукай, але можна думаць, што гэта ўжо хутка пачнецца, і свабодная навука дасць нам новы матэрыял для вывучэння псіхалогіі нашых далёкіх продкаў.

Само сабой зразумела, што дайшоўшы да нас вобраз евангельскага Хрыста занадта відавочна паказвае, што ён "шанаваў дзяцей" не ў гэтым сэнсе, а таму можна думаць, што і "Вялікі Цар" Чэцці-Міней, якога ён адлюстроўвае, хутчэй за ўсё, не ўсталяваў, а адмяніў ахвярапрынашэнне дзяцьмі або наогул першапачатковы выгляд старажытнай літургіі, якая суправаджалася нейкімі падманамі, пра якія згадваецца і ў Апакаліпсісе[57], замяніўшы яе сімвалістыкай. Але я ўсё ж такі думаю, што гэтае апавяданне не недарэчная выдумка, а дэталь, узятая із папярэднічаўшага перыяда развіцця рэлігійных містэрый, і што ад нейкага першапачатковага сапраўды існаваўшага рытуальнага дзетаедства (верагодна, раз у год у якой-небудзь секце) гэты рытуал перайшоў да шарлатанства апакаліптычных "мікалаітаў", якія пазней пачалі гатаваць штучнае чалавечае цела і кроў із простага цеста і чырвонага віна.

Канчатковы ж вынік гэтых маіх меркаванняў такі:[58]

"Вялікі Цар" (Васіль о-Мегас па-грэцку) сапраўды ўсталяваў першапачатковую хрысьціянскую літургію і быў зернем, із якога вырасла евангельская легенда пра "Выратавальніка", але мы не ведаем, якой была гэтая літургія пры яго жыцці. Мы ведаем, што ўзамен яе Ян Залатавуст, яго вучань, склаў новую, але і пра яе мы не можам сказаць чаго-небудзь пэўнага, так як і яна з кожным стагоддзем ўскладнялася і развівалася. Ўстрымаемся ж, пакуль ад спроб растлумачыць пытанне аб узнікненні сярэднявечнага вучэння пра тое, што ў

[57] Гл. маю кнігу «Адкрыццё у навальніцы і буры», пераклад главы 17 пра жанчыну з залатой чаркай у руках, на якой напісана: “Сакрамэнт”.

[58] Уявім, што да вас з’явілася жонка вашага знаёмага лекара і распавядае вам, як ён прыехаў да яе аднойчы, уявім, із Адэсы ў Ноўгарад. Яго шлях да Кіева цалкам адпавядае рэчаіснасьці: ён ехаў чыгункай і ўсе прыпынкі згадваюцца правільна, але вось паміж Кіевам і Масквой пачынаецца нешта незразумелае :ён едзе не цягніком, а параходам і на ім вылечыў некалькі чалавек, із якіх раптам выскачылі бесы. Вы ведаеце, што на гэтым адрэзку шляху не існуе ніякага параходнага спалучэння і, акрамя таго, вы не верыце ў бесаў. Затым шлях ад Масквы да Цьвяры адпавядае рэчаіснасьці, а ад Цвяры да самога Ноўгарада зноў пачынаецца нейкая чартаўшчына: ён прыбыў дадому на паветраным шары, на шляху пабываўшы на месяцы і захапіўшы з сабой некалькі зорак. Як вам паставіцца да падобнага апавядання? Вы бярэце газеты пазначаныя тэтым днём і даведваецеся, што пры праходзе гэтага цягніка паміж Кіевам і Адэсай на яго быў здзейснены напад атрада, напрыклад Махно, людзі якога вельмі недобразычліва паставіліся да пасажыраў і адпусьцілі іх толькі абрабаваўшы і збіўшы нагайкамі. Вы з поўным правам робіце выснову, што ваша сяброўка спрабавала сьцерці із яго падарожжа гэты не вельмі прыемны факт і мала лісьлівячы яе самалюбству эпізод і для гэтага прыдумала параходнае спалучэнне, а бесы былі толькі іншым пазначэннем зрабіўшых напад авантурыстаў. І вы цалкам апраўдана ставіце гэтае праўдзівае апісанне ў пераіначанае апісанне падарожжа вашага знаёмага. Так жа і я ў апісанне жыцця чацці-мінейскага “Вялікага Цара” дадаю зацьменне месяца 21 сакавіка 368 года і яго вынікі, апісваемые ў евангеллях і маючыя дачыненне менавіта да гэтага часу і месца, наколькі яго можна вызначыць і нават да асобы таго ж наймення: “Вялікага цара ”богаславячых (па-іудэйску юдэяў). Пераканаўшыся, што гэта толькі дзве гісторыі із жыцця аднаго і таго ж чалавека, вы разумееце, што выключыўшы спробу слупавання “Вялікага Цара” пад час прадказанага ім зацьмення месяца і яе незвычайныя наступствы, чацці-мінейскі кампілятар непазбежна быў вымушаны пазбавіць жыцця ўвесь канец свайго апавядання, аж да самой сьмерці “Вялікага Цара” 1 студзеня 378 г. І вось вы спрабуеце аднавіць усё гэта з дапамогай псіхалагічнага метада.

прычашчэнні мы маем сапраўднае чалавечае цела і кроў ўкрыжаванага (?) евангельскага настаўніка, бо такія спробы яшчэ не могуць быць ні чым іншым, акрамя гіпотэз, і вернемся да таго, што мы "можам" лічыць за фактычнае.

Дакладных партрэтаў яго як у выглядзе "Васіля Вялікага", так і ў выглядзе "Езуса Хрыста" нідзе не існуе. Усё, што мы маем на сёняшні дзень, з’яўляецца выдумкамі сярэднестагоддзевых мастакоў, якія імкнуліся адлюстраваць старажытных знакамітасьцей у тым выглядзе, якім яно бачылася іхнаму ўласнаму ўяўленню. Для прыкладу я даю тут (мал. 52 і 53) адну із лепшых старадаўніх выяваў у выглядзе "Збавіцеля Хрыста" і адну із навейшых у выглядзе "Васіля Вялікага", прадстаўленага ў больш познім узросьце. Ці не нагадвае ён вам эвангельскае маленьне: "ды ідзе гэтая чаша міма мяне"?



Мал 52.



Мал 53. Выява “Вялікага Цара” (Васіля Вялікага), твор мастака Шэбуева ў 1843 годзе, на слупе за правым клірам галоўнага алтара Казанскага сабора, нагадваючае “маленне пра чарку” евангельскага “Выратавальніка” са святым духам у выглядзе голуба наверсе, часта лётаўшага, згодна з паданнямі над гэтым “Святым”.

Звярніце таксама ўвагу і на духа ў выглядзе голуба наверсе (мал. 53). Ні пры якім іншым святым яго не прынята адвабражваць. Тут цікава тое, што, лічачы годам нараджэння "Вялікага Цара" 333, як ён даецца ў "Жыціях", і, прыняўшы яго за сапраўдны пачатак хрысьціянскай эры, мы пабачым, што Аляксандр Македонскі, які памёр у 323 годзе да яе, памёр згодна з гэтым лічэннем у 19 годзе нашага юліянскага летазлічэння і заснаваў Александрыю як раз у 1-м годзе нашай эры.

З гэтага боку гледжання наша эра з’яўляецца эрай Александрыйскай – ад заснавання Александрыі Ягіпецкай (ab Urbae condita) дакладна так жа, як была эра ад заснавання горада Рыма.

Дынастыя Пталемееў у Ягіпце пачалася, згодна з такім лічэннем, з 10 года нашай эры, і яе апошняя прадстаўніца, прыгажуня Клеапатра, памёршая за 31 год да пачатку нашай эры, павінна была згодна з гэтым лічэннем памёрці каля 301 года юліянскага злічэння, яшчэ пры Канстанцыі Хлору, якому, згодна з маімі астранамічнымі вылічэннямі, і адпавядае спісаны з яго легендарны Юлій Цэзар, забраўшы Клеапатру ў яе ранейшага чалавека. Яна ж была гістарычным зернем і для легенды пра жонку Ўрыі, забраную царом Давыдам.

Такім чынам, мы можам паведаміць, хаця яшчэ і ў напалову легендарным выглядзе, гісторыю Ягіпта да самага пачатку нашай эры, а рымскую ледзь ці давядзём без фантазіравання далей за эпоху 30 тыранаў, бо ці Аляксандр Сявер спісаны з Аляксандра Македонскага, ці наадварот.

Раней гэтага, як пабачым із далейшых пяці тамоў маёй працы, усё губляецца ў імгле, і не існуе нічога акрамя апокрыфаў.

Дакладна так жа і гібель Геркуланума, Пампеі і Стабіі пры вывяржэнні Везувія, якое адносяць да 24 жніўня 79 гада пасьля нараджэння "Вялікага Цара", павінна быць аднесена, згодна з нашым меркаваннем, на канец IV ці пачатак V стагоддзя, і гэта падцвердзіцца, як пабачым у адным із наступных тамоў, вывучэннем помпейскіх знаходак, якія ўтрывмліваюць храналагічныя ўказанні.

Із усяго сказанага вышэй, мне здаецца, можна пераканацца, што "Вялікі Цар" Чэцці-Міней з’яўляецца сапраўдным гістарычным зернем евангельскага міфа пра Выратавальніка, або Лекара, як так жа можна перакласьці іудэйскае імя Хрыста. Яшчэ лепш сказаць: гэта не зерне, а першапачаткова вырасшае із яго дрэва, вяршыня якога была зрэзана і пасаджана адводкам на іншую храналагічную градку, на якой і вырасла ў новае самастойнае дрэва, пусьціўшае міфічныя парасткі да самых нябёс, а першапачатковы парастак, застаўшыся без вяршыні, пусціў самастойныя міфічныя галіны, частку якіх я і паведаміў тут. Гэта звычайны спосаб размнажэння міфаў шляхам адводкаў, і нам тут застаецца толькі аднавіць гістарычную вяршыню міфа пра "Вялікага Цара" Чэцці-Міней, г. азн. тое, што ад яе было адрэзана. І мы можам зрабіць гэта, кіруючыся псіхалагічнымі асаблівасьцямі светапогляду старажытных пакаленняў.

Зрабіўшыся знакамітасьцю пасьля свайго ўдалага прадказання зацьмення і ажыўлення із памёршых, "Вялікі Цар", вядома, быў абвешчаны сваімі прыхільнікамі сынам самога бога Грамабоя, а, такім чынам, і натуральным царом ўсёй зямлі.

Пачалося паўстанне ў Сірыі і Малой Азіі са знішчэннем імператарскіх статуй і статуй старажытных багоў, пра якое і паведамляюць грэцкія гісторыкі падчас валадараньня Валента, які даў пачатак легендзе пра "Чорнага цара" (Нерона), ганіцеля хрысьціян.

Ці браў дзейны ўдзел у гэтым паўстанні і сам "Вялікі Цар"? Магчыма, што і не і што яго супраць волі несьлі народныя хвалі туды, куды ён сам і не збіраўся плыць. Але супраціўляцца ўсеагульнаму мясцоваму паўстанню не было для яго ніякай магчымасьці: ён стаў тут толькі інэртнай цацкай іншых правадыроў, калі пад рэлігійным сьцягам загаварылі матэрыялістычныя і нацыянальныя захапленні насельніцтва. Ініцыятыва і кіраўніцтва перайшлі да тых, хто стаў называць сябе яго апосталамі, а ён ператварыўся толькі ў цудатворцу, ад аднаго дотыку да якога вылечваліся нервовыя хворыя.

Але вось у 377 годзе ён захварэў, а 1 студзеня 378 года памёр, і праз 3 дні пасьля гэтага, 4 студзеня, мы бачым у святцах сабор 70 вучняў пад старэйшынствам "брата господняга Якава".

Якім зрабілася становішча дзейнічаўшых ад яго імя? Зразумела – вельмі кепскім. Шмат хто із іх напэўна не жадалі паверыць, што аднойчы ажыўшы із памёршых і відавочны сын бога-Грамабоя раптам памёр. Напэўна чакалі, што вось ён хутка другі раз ажыве і пасароміць сваіх ворагаў, але дні праходзілі за днямі, і цела пачало парахнець.

У лютым непазбежна павінен быў пачацца раскол. Старэйшы брат "Вялікага Цара", да якога, згодна з радавым побытам таго часу, павінна была перайсьці яго ўлада, ніколі, вядома, цалкам не верыўшы у яго боскае паходжанне, памятаючы агульнае дзяцінства, не меў іншага выйсьця, як заявіць, што вучэнне пра яго несмяротнасць і ўсёмагутнасць было памылковым. А далёкія вернікі, якія не маглі

на ўласныя вочы пераканацца ў сумным для іх факце, павінны былі, наадварот, прыйсьці да высновы, што ў цэнтры іхнай тэакратычнай арганізацыі, адбылася здрада, і, натуральна, паўстала легенда пра Юду-здрадніка, цэнтрам якой стаў яго брат Юда. Тэзаімяніцтва здрадніка Юды "Жыція Святых", вядома, не святкуюць, хоць ён і быў апосталам і выконваў толькі прароцтва, але ён раздваіўся ў Евангеллі на Юду, брата гаспадняга, і на Юду-здрадніка, і дзень сьмерці першага згадваецца царквой. А другі брат, "Аўгуст" першасьвятар Пятро, які не быў сведкам сьмерці брата, стаў правадыром той фракцыі, якая прызнавала "Вялікага Цара" не памёршым, а толькі ўзнёсшымся на неба пасьля таго, як яму надакучыла нежаданне шматлікіх із яго ўласных прыхільнікаў адрачыся ад усіх старых багоў.

Так маглі натуральна паўстаць дзве першапачатковыя фракцыі хрысьціянскага свету: юдэі (г. азн. багаславячыя), з аднаго боку, і артадоксы (г. азн. праваслаўныя) – з другога, і мы бачым, што натуральным родапачынальнікам першай, па ўсёй верагоднасьці, быў першы брат "Вялікага Цара", "Нядрэмлючы" (Рыгор па-грэцку), ён жа "Богаславячы" (Юда па-сірыйску); натуральным родапачынальнікам другога – "Пятро", якога сустракаем і ў "Жыціях Святых", як брата Езуса (стар. 164, браты Васіля Вялікага).

Але гэты брат не патрапіў у такім званні ў Евангеллі, а быў прышчэплены, як апельсінавае дрэва да цытрыннага, да найстарэйшага паплечніка "Вялікага Цара" – Сымона. З гэтага боку гледжання лягчэй за ўсё тлумачыцца хуткі распад хрысьціянскага свету на "богаславячых" – юдэяў, і праваслаўных – артадоксаў.

У той час як "юдэі", быўшыя сведкамі натуральнай сьмерці "Вялікага Цара", выпрацавалі сабе месіянскае вучэнне, артадоксы на чале з Пятром ўсё яшчэ чакалі, што ён ажыве зноў і зьявіцца да іх жывым і здаровым. Відаць, вяртанне яго чакалася ў 378 годзе на дзень ўваскрэсення із памёршых, г. азн. на першую нядзелю пасьля першай поўнай луны наступаючай за часам вясновага раўнадзенства, і за сем тыдняў да гэтага быў прызначаны ўсеагульны пост і маленне пра вяртанне. Гэты звычай захаваўся і да гэтага часу. Самым хвалюючым момантам была, вядома, Паска ў 378 года. І мы павінны ўявіць сабе, што адбывалася ў розумах, калі прайшоў і гэты тэрмін, які ў 378 годзе прыпадаў на нядзелю 1 красавіка, і калі нічога асаблівага ў прыродзе не адбылося. Ці не ад гэтага бярэ свой пачатак і падманная рэпутацыя гэтага 1 красавіка, якая захавалася да гэтага часу?

Заставалася для высвятлення справы склікаць галоўных правадыроў тагачаснага хрысьціянства, якія, сабраўшыся 30 чэрвеня ў ліку 12 чалавек, вырашылі, што "Вялікі Цар" не памёр, а толькі ўзнёсся на неба, і трэба працягваць ранейшае вучэнне, чакаючы яго прышэсьця на наступны 379 год, калі велікодная нядзеля прыпадала на 21 красавіка. Потым усё было паўторана і трэцці раз у 380 годзе, калі велікодная нядзеля прыпадала на 12 красавіка.

Гэта была, на справе, толькі трайная прэлюдыя да першага Канстантынопальскага сабора, скліканага ў 381 годзе, дзе і быў сфармаваны другі тэзіс "сімвала веры" пра сына божага:

"І ў адзінага (веру) госпада нашага Езуса Хрыста, сына божага, адзінароднага, народжанага бацькам перад усімі стагоддзямі, святло ад святла, Бога сапраўднага ад Бога сапраўднага, народжанага, не створанага, адзінасутнага бацьку, праз якога ўсё адбылося". А першая частка пра адзінабожжа, – як я ўжо згадваў, – была рэзюміравана арыянскі Нікейскім саборам.

Такой ўяўляецца першапачатковая эвалюцыя хрысьціянства і юдаізма з рацыяналістычнага боку гледжання, як двух парасткаў, якія выраслі ізаднаго і таго ж кораня, але на розных тэрыторыях.

Паглядзім, на заключэнне, што гаворыцца ў "Жыціях Святых" пра двух братоў "Вялікага Цара".

Першасьвятар Нядрэмлючы (па-грэцку Рыгор) прайшоў з юнацкіх гадоў усё кніжнае вучэнне да самага канца, быў выдатным прамоўцам і выдатным філосафам. "Ён адружыўся з Фяозвай, якая была ўпрыгожваннем царквы і пазней стала дыяканісай". Застаўшыся ўдаўцом, Рыгор быў пасвечаы ў першасьвятары (біскупы), але арыяне пры Валенце прагналі яго каля 370 года, і ён 8 гадоў, да самай сьмерці Валента, бадзяўся па розных краінах. Калі на пасад сеў Феадосій і быў скліканы Канстантынопальскі сабор у 381 года, ён быў яго ўдзельнікам і "памёр у глыбокай старасьці". Я ўжо казаў, што гэта магчымы заснавальнік юдаізму (г. азн. багаслаўя), адкуль і атрымаў мянушку багаславячы (Юда).

А пра брата Пятра ў "Жыціях" не знаходзім нічога самастойнага, верагодна, таму, што ўсё яно ўключана ў біяграфію апостала Пятра. Разгледзім жа сьцісла і гэтую біяграфію.

# Глава VI.

## Апостал Сымон-Пятро як цень Сымона-вешчуна.

Апостал Сымон, – кажуць нам "Жыціі Святых", – быў палестынскім "рыбаком" із горада Віўсаіды, сын Ёны і брат Андрэя Першазванага, із роду Сымонаў. Імя яго па-жыдоўску азначае *Чуючы*, а па-грэцку *Адзнака*. Ён адружыўся з дачкой Арыставула (*найлепшага дарадцы*), брата апостала Варнавы (сына суцяшэння), і меў сына і дачку.

Езус , – кажуць нам, – быццам бы даў яму новае імя Кіфа, г. азн. Камень (па-грэцку Пятро), але гісторыя перанайменьня такая наіўная, – у выглядзе прароцтва, – што паверыць ёй можа толькі дзіця: "ты Сымон, сын Ёны, – быццам бы сказаў Езус пры першым поглядзе на яго, – і цябе назавуць Кіфа, што па-грэцку азначае камень (Петрас)".

Сымон так быў уражаны гэтым, што "больш не адыходзіў ад Езуса". Зразумела, што гэта простая белетрыстыка, і замена імя Сымон на Пятро павінна быць растлумачаная інакш.

Пасьля слупавання Езуса, Сымон, – распавядаюць нам "Учынкі апосталаў", – схіліў да хрысьціянства адразу некалькі тысяч чалавек і вылечыў пры гэтым кульгавага ад нараджэння, толькі падняўшы яго за руку і прамовіўшы:

– Устань і хадзі ў імя спадара Езуса!

Потым ён быццам бы забіў адным словам Ананію Ерусалімскага і яго жонку Сапфіру за утойванне абшчыннай маёмасьці, вылечыў расслабленага і ажывіў памершую дзяўчыну.

"Калі Ірад забіў Якава, брата Яна, ён пасадзіў Сымона-рыбака ў вязьніцу ў аковах, але анёл ноччу вывеў яго адтуль". Ён першым пачаў хрысціць язычнікаў і пасьля гэтага быццам бы сустрэўся з Сымонам-вешчуном – сваім цёзкай, які, прынёсшы яму дары, папрасіў даць і яму "святога духу", а Сымон-рыбак, раней ахвотна прынімаўшы розныя дары, быццам бы адмовіў яму (Учынкі 8, 18), кажучы, што не робіць нічога за хабар.

Згодна са сведчаннем Метафраста, у "Жыціях Сьвятых", апостал Сымон пайшоў із горада Святога прымірэння (Ерусаліма) у Царскі горад, із яго "ў Сідон і ў Трыпалі Фінікійскі", прызначаючы ўсюды біскупаў. "У Лаадыкіі ён прагнаў шмат нячыстых духаў". У Контр-Сталіцы ён дагнаў, – сведчаць нам "Жыціі", – і свайго цёзку Сымона-вешчуна, які, таксама як і сам Сымон-рыбак, уцёк ад праследу ўладаў, і з гэтага моманту Сымон-рыбак, як цень, спадарожнічае Сымону-вешчуну, пастаянна канкурыруючы з ім у цудах. Там, – кажуць нам, – Сымон-вяшчун збег ад Сымона-рыбака, які затым ажывіў памёршага ў галатыйскай Анкіры і дайшоў да Пераможнага горада (Нікеі). Затым Сымон-рыбак вярнуўся ў горад "Святога прымірэння", дзе ўпершыню сустрэў Саўла, таксама пераіменаванага пазней у Паўла, вярнуўся ў Малую Азію і дайшоў да Іліона на Гелеспонце, усюды прысвячаючы біскупаў. Потым ён зноў вярнуўся ў горад "Святога прымірэння".

У гэты час яго цёзка Сымон-вяшчун, – кажуць нам, – быў арыштаваны малаазійскімі ўладамі за пропаведзь таго ж хрысьціянства і адвезены ў аковах у Рым, дзе не толькі не быў пакараны, а, наадварот, быў прызнаны за бога, і сам цар Клаўдзій (г. азн. кульгавы) настолькі захапіўся яго вучэннем (*верагодна, астралагічнымі прадказаннямі: вяшчун азначае – прадказальнік*), што загадаў паставіць яго статую на беразе Тыбра з надпісам: "Сымону, святому богу".

А тым часам Сымон-рыбак, зараз пераіменаваны ў адрозненні ад яго ў Пятра, знайшоўшы ў Контр-сталіцы Саўла, таксама пераіменаванага ў Паўла, зноў як бы пайшоў па Малой Азіі і ўсюды прызначаў біскупаў, забыўшыся, што яны ўжо былі ім прызначаны пры першым падарожжы. Потым ён адплыў на Сіцылію і прыехаў у Рым ўслед за Сымонам-вешчуном.

Тут Сымон-вяшчун ужо паказваў у абарону хрысьціянства, але без згоды Сымона-рыбака, такія ж цуды, як і ён, але гэта, – дадаюць "Жыціі", – былі толькі "мары" (*прывіды*), прычым "душы памёршых прыходзілі і кланяліся Сымону-вешчуну, як богу". Ён прымушаў кульгавых не толькі хадзіць, але і скакаць, і сам ператвараўся то ў казу, то ў птушку, нават і ў полымя.

Але ўсё гэта атрымоўвалася толькі пад час адсутнасьці Сымона-рыбака. Як толькі Сымон-рыбак кідаў на яго пазірк, усе гэтыя "мары" знікалі.

У "Вялікай Чэцці-Мінеі" распавядаецца, што калі Сымон-рыбак прыйшоў да дома вешчуна Сымона, ён загадаў вялізнаму сабаку, які ляжаў каля яго дзвярэй, пайсьці і паведаміць пра сябе свайму гаспадару, і сабака адразу пайшоў і прамовіў Сымону-вешчуну чалавечым голасам: "Сымон-апостал мае жаданне да цябе зайсьці".

Сымон-вяшчун таксама загадаў сабаку ісьці і адказаць Сымону-апосталу: "Няхай Сымон заходзіць". Сабака выканаў і гэтае даручэнне. Тут абодва Сымоны выявіліся роўнымі.

Сымон-вяшчун, самастойна прапаведаваўшы хрысьціянства, пачаў і пры Сімоне-апостале тварыць "мары" (г. азн. прывіды), паказаўшы яшчэ большыя цуды. Пятро здзяйсняў тое ж, і спрэчка пра тое, хто із іх магутнейшы, так і засталася нявырашанай у гэтым спаборніцтве.

Першынство Сымона-рыбака выявілася ўжо на вуліцы тым, што Сымон-вяшчун змог прымусіць аднаго памёршага толькі паварушыць галавой, а Сымон-рыбак ажывіў яго канчаткова. Пасаромлены гэтым, Сымон-вяшчун зноў збег ад Сымона-рыбака, зрабіўшы сабе нечакана для ўсіх сабачую галаву, і хаваўся ад яго цэлы год па-за Рымам. Нарэшце, калі на пасад ўжо ўступіў Нерон (*імя якога па-латыні азначае проста чорны брунет*), ён вярнуўся ў Рым, і быў прыняты з

пашанай гэтым злым царом і стаў яго сябрам, увесь час самавольна прапаведуючы хрысьціянства".

Аднойчы ён, – кажуць нам "Жыціі", – загадаў адсекчы сабе галаву, абяцаючы ажыць на трэцці дзень, але, калі гэта захацелі выканаць, ён падставіў пад меч замест сябе Авена, зрабіўшы із яго прывіднага чалавека. Барану была адсечана галава, але Сымон-рыбак, ужо перайменаваны ў Пятра, адагнаў, быццам бы, гэтую "дз'ябальскую мару", і ўсе пабачылі, што адсечаная галава не чалавечая, а "Авена".

Каб аднавіць сваю рэпутацыю, Сымон-вяшчун абяцаў узнесьціся перад усімі на неба. Ён падняўся пасярод горада на высокі будынак, увянчаўшы сябе вянком, і прамовіў народу: "Я пакідаю вас і не буду абараняць ваш горад. Анёлы возьмуць мяне і ўзнясуць на неба да майго бацькі".

"Ён пляснуў рукамі, падняўся ў паветра і пачаў (*быццам бы*) лётаць, узыходзячы усё вышэй і вышэй, з дапамогай ўзносіўшых яго дэманаў".

Але яго вечная цень, Сымон-рыбак, усклікнуў: "О, дз'яблы! Імем бога майго, загадваю вам: не насіце яго больш!"

Дэманы адбеглі ад Сымона-вешчуна, і ён, пракляты, паляцеў уніз і моцна разбіўся аб зямлю. Народ пачаў крычаць:

– Вялікі бог, Пятра!

А Сымон, "пабіты і кпімы ўсімі, на наступную раніцу аддаў дэманам сваю душу".

Нерон, г. азн. Брунет, даведаўшыся пра смерць свайго сябра Сымона-вешчуна, вельмі ўгневаўся на Сымона-рыбака і пажадаў забіць яго, але той (*быццам бы*) схаваўся ў "Тараскone" (верагодна, да Тартарэна із рамана Альфонса Дадэ). Потым ён, ужо канчаткова пад імем Пятра і як бы забыўшыся пра сваё ранейшае імя Сымон, з моманту сьмерці Сымона-вешчуна пайшоў у "гішпанскую Сірмію", потым у "афрыканскі Карфаген", потым у Ягіпет і, нарэшце, праз паўночную Афрыку зноў вярнуўся ў Рым і ў іншыя італійсккія гарады, а пасьля іх у Брытанію, усюды заахвочваючы людзей да хрысьціянства і прызначаючы біскупаў (Эк, як хлопца панасіла – няўжо аўтастопам? J.).

Там анёл, нарэшце, паведаміў яму: "Час табе прыняць крыжовую сьмерць у Рыме!" Падзякаваўшы бога і анёла, Пятро пайшоў у Рым, на 12-м годзе валадараньня Нерона. Ён прызначыў там біскупам Клімента "і далей цягнуць калясьніцу божага слова". "Шматлікія вельмі шануемыя праз сенатарскі чын мужчыны і жанчыны прасвятліліся ў гэты час ад яго. Нават дзве самыя прыгожыя жонкі Нярона ахрысьцілі ад Пятра і адмовіліся жыць далей у шлюбе з царом язычнікаў".

Нерон так раззлаваўся за гэта, – што загадаў пакараць Пятра. Пятро меў намер зноў збегчы із горада, але, калі ўжо падышоў да брамы, раптам пабачыў ідучага насустрач яму Езуса.

– Куды ідзеш? – спытаў ён Езуса.

– Іду на новае ўкрыжаванне, – адказаў яму Езус і знік. Пятро спачатку здзівіўся такому бачанню, потым зразумеў, што "Выратавальнік" жадае зноў укрыжавацца ў яго асобе, і вярнуўся ў сваю царкву. Там ён і быў схоплены ваярамі з усімі сваімі прыхільнікамі. Большасьці з іх адсеклі галовы, а Пятра Нерон загадаў слупаваць, пры гэтым Пятро папрасіў, каб яго слупавалі адваротна Хрысту, уверх нагамі. Гэтае яго прашэнне было быццам бы выканана Няронам 29 чэрвеня на 12-м годзе яго валадараньня. А праз год, у той жа дзень, – паведамляюць нам "Жыціі", – у Рыме быў пакараны мячом Саўл, які ператварыўся ў Паўла.

* * *

Што тут рэальнага? – запытаю я ў чытача.

І калі чытач адкажа мне: рэальнымі з’яўляюцца падарожжы Сымона-рыбака ў Брытанію, Гішпанію, Карфаген, Ягіпет і ў Малую Азію, а ўсё астатняе не адпавядае рэчаіснасьці, – то я яму адкажу, што згодна з такім “спосабам выключэнняў" можна абвясьціць рэальнымі і апавяданні із "Тысячы і адной ночы", а яшчэ ў большай ступені падарожжы дікенсава містэра Піквіка і гогалеўскага Чычыкава у якіх нават няма відавочных недарэчнасьцей, накшталт нечаканага з'яўлення на чыіх-небудзь чалавечых плячах сабачай галавы, накшталт той, якая з'явілася на шыі Сымона-вешчуна пры яго збяганні ад Сымона-Пятра.

Тут абсалютна няма ні аднаго слова, якое мы мелі б права прыняць за рэальнасць. Абедзве фігурыруючыя тут асобы: і Сымон-вяшчун, і Сымон-рыбак з'яўляюцца героямі адной із тэалагічных казак сярэдніх стагоддзяў.

Хто ж даў падставу да такой казкі? Да казкі пра Сымона-рыбака, пераназванга ў Камень, даў падставу празваны Каменем жа брат "Вялікага Цара" (Васіля Вялікага), які і сам даў падставу да евангельскай казкі пра "Цара Юдэйскага". А хто ж даў падставу да легенды пра Сымона-вешчуна, за якім быццам бы ішоў паўсюль, як цень, Сымон-Камень, ён жа рыбак? Мне здаецца, што гэта той жа самы брат "Васіля Вялікага". Падобна таму, як Юда, брат Езуса, падзяліўся на Юду-здрадніка і на апостала Юду, так і гэты падзяліўся на Сымона-чарадзея і на Сымона-Каменя, якія і вызначаны легендай да вечнай барацьбы адзін з адным. Навошта? Я лічу цалкам магчымым, што брат "Вялікага Цара" (Васіля Вялікага) занадта захапіўся ў сваім астралагічным старанні і даваў не спраўдзіўшыя прадказанні, а потым, некалькі страціўшы розум і ўявіўшы, што "вера сапраўды можа ўзнесьці яго на паветра", і на самай справе кінуўся з даху будынка, будучы выкліканы на падобнае "выпрабаванне верай" скептыкамі, і разбіўся да сьмерці.

Падобныя прыклады прыводзяцца не адзін раз. У гісторыі авіяцыі распавядаецца, як у XVII стагоддзі адзін разанскі мешчанін, зрабіўшы сабе крылы, цалкам так жа і з такім жа вынікам саскочыў із адной із маскоўскіх званніц. Чаму ж было не здзейсніць падобнае і першаму із апосталаў каб давесьці сапраўднасць сваёй веры? Псіхалагічна падобныя ўчынкі былі нават непазбежнымі з боку фанатыкаў. Бо і ў Евангеллі паведамляецца, як Сатана ўзвёў "Езуса" на дах храма і прапанаваў яму кінуцца ўніз, але "Езус" разважліва адмовіўся. Вядома, такія спробы доказу праўдзівасьці якога б то ні было із існуючых зараз веравызнанняў заўсёды прыводзілі толькі да адмоўных вынікаў. А як жа пасьля гэтага было справіцца вернікам з падобнымі выпадкамі? Вядома, толькі адным спосабам: разбіўшыся Сымон быў не сапраўдным апосталам Сымонам, а проста вешчуном, які прыняў яго вобраз і яго імя. Сапраўдны ж апостал быў тут жа, але менавіта ён і прымусіў вешчуна ўпасьці. Затым паўстала легенда, што сапраўдны апостал яшчэ пры жыцці Езуса быў перайменаваны із Сымона ў Пятра і не толькі не мае нічога агульнага з гэтым няўдалым скакуном ў славу Езуса, а, наадварот, усё жыццё змагаўся з ім, ідучы за ім, як цень. Толькі такім спосабам і магла з’явіцца з псіхалагічнага боку гледжання гэтая легенда пра пастаянную барацьбу двух Сымонаў аднаго з другім. Іншага рацыянальнага тлумачэння тут не існуе.

Што ж да апавядання пра ўсячэнне мячом галавы Авена, замест галавы самога Сымона, то яно лягчэй за ўсё магло быць навеяна мечападобнай каметай, якая прайшла із Змеятрымальніка – сімвала Езуса – праз сузор'е Авена (ці

наадварот), якая няўдала была растлумачана астролагам Сымонам як прадвесьце новага прыходу Езуса. Калі нічога абяцанага з гэтай нагоды не адбылося, далейшыя вернікі лёгка маглі зваліць і гэтую няўдачу на галаву таго ж разбіўшагася за сваю веру вешчуна Сымона, з тлумачэньнем, што сапраўдны апостал Сымон не толькі не ўдзельнічаў у гэтым, але і загадзя выкрываў Сымона за такую "мару".

З'яўленне якой каметы магло б задаволіць гэтай умове? Услед за няўдалым слупаваннем Езуса, мы маем, згодна з кітайскім летапісам Ма-Туан-Лін, бліжэйшае назіранне прыблізна такой жа каметы толькі 9 сакавіка 373 года, на 10-ым годзе кіравання Валента Нерона, калі Сонца было ў Рыбах, а Авен згараў ў полымі вячэрняга зарыва. Камета Галея прайшла тады праз Авен вечарам з малым бляскам, але выйшла 9 сакавіка з вялікім бляскам із полымя ранішняй зоркі ў сузор'і Вадалея, сімвалізаваўшага Яна-Купацеля. Праз палову года, бліжэй да 25 верасня, калі Сонца перайшло ў Панну, яна была назіраемай вечарамі ўжо ў вобласьці Змеятрымальніка. Гэта і магло даць нагоду да наступнага тлумачэння няўдачы прароцтва: можна было сказаць, што нябесны меч адсёк пад час гэтага свайго падарожжа па небе не галаву Змеятрымальніка, а схаваўшагася за Сонцам Авена, і таму не адбылося канца сусвету. А потым, дзякуючы неразуменню астральнага значэння апавядання, замест галавы Змеятрымальніка лёгка магла быць падстаўлена і галава самаго Сымона. Наступная камета ў Авене была толькі ў 568 годзе, праз 200 гадоў пасьля слупавання Езуса. Яна была вялізнай, але прайшла наадварот: ад Змеятрымальніка як раз праз галаву Авена, дзе і знікла. Яна вельмі падыходзіць да каметы, якая дала нагоду да прароцтва "Мані-Факел-Фарэс", у біблейскай кнізе "Данііл".

Згодна з гістарычным меркаваннем, я схільны спыніцца на першай із гэтых камет, хоць да літаральнага тэксту легенды і падыходзіць больш другая, так як першая была толькі праз пяць гадоў пасьля няўдалага слупавання "Вялікага Цара".

Але як бы мы ні паглядзелі на гэта, а ў раздваенні першага апостала хрысьціянства на двух Сымонаў наўрад ці можна сумнявацца.

З гэтага пункту гледжання, апостал Сымон-Пятро быў не ўкрыжаваны "уверх нагамі" у Рыме, а сам кінуўся такім чынам з нейкага высокага будынка перад прысутнічаючым народам, каб даказаць праўдзівасць і магутнасць свайго веравызнання, і разбіўся за яго. Гэтая трагічная акалічнасць магла даць падставу і для евангельскай легенды, дзе сатана прапануе Езусу зрабіць як раз тое ж самае. А адмова Езуса ад гэтай прапановы сатаны магла быць нават знарок прыдуманай пасьля няшчасьця з апосталам Сымонам-вешчуноў для таго, каб даць далейшым хрысьціянам права адмаўляцца ад падобных прапановаў язычнікаў.

Уявіце сабе самі, што такое вырашальнае выпрабаванне было прапанавана зрабіць у сталіцы тагачаснай Заходняй імперыі, перад усім народам найвялікшаму із павучальнікаў новага веравызнання і скончылася так жаласна. Што тут можна было зрабіць, акрамя сцвярджэння, што загінуў не ён, а яго падстаўны спадарожнік, і што сам Езус "забараняе" выконваць такія прапановы сатаны?

# Глава VII.

## Храналагічны рэестр візантыйскіх святых па стагоддзях ад 1 да 1000 года нашай эры і высновы із гэтага.

У "Садзе святых", маючым назву іхных "Жыцій", усе святыя размяшчаюцца па днях іх сапраўднай або ўяўнай сьмерці. Пад кожным днём месяца прыводзіцца жыціё сьвятога, які памёр у гэты дзень, але, на вялікае здзіўленне, уважлівы чытач заўважае, што ў той час як дні сьмерці кожнага з іх так добра вядомы аўтарам, гады гэтай падзеі часта застаюцца ім невядомымі. У адных выпадках прыводзіцца толькі стагоддзе, а ў іншых гаворыцца, што "гэта было пад час Траянава", ці "Дыяклетыянава царавання", або пад час нейкага іншага.

У гэтым сваім рэестры, каб пазбегнуць самавольства, я адкінуў усе нявызначаныя ўказанні і выбраў толькі тых сьвятых, для якіх даецца і дзень і год, незалежна ад таго, веру я гэтаму вызначэнню ці не.

Вось гэты рэестр (прама із панцялеўскага выдання: "Жыціі Сьвятых"). Ўзята усё цалкам.

### I стагоддзе.

"Езус Хрыстос" памёр быццам бы ў 33 годзе нашай эры, у сакавіку. У гэтым жа стагоддзі лічацца памёршымі і яго 12 апосталаў і 70 яго вучняў.

Гэта, вядома, легенда, як даводзілі ўжо і да мяне. Але калі мы палічым іх усіх легендарнымі, то *ніякіх выдатных дзеячаў хрысьціянства ў гэтым стагоддзі няма*. Апосталаў "Цара Юдэйскага" разам з ім самім даводзіцца лічыць апакрыфіраваннымі із дзеячаў IV і V стагоддзяў.

### II стагоддзе.

Акрамя відавочна алегарычных сьвятых, накшталт Веры, Надзеі, Шанавання і іхнай маці Мудрасьці і таму падобных, пазначаны гады толькі для двух:

Палікарп (г. азн. шматплод) Сьмірнскі, "вучань Саўла", памёр, – кажуць нам, – 23 лютага каля 167 гада пасьля нараджэння Хрыста.

Аверкій (*трымальнік*) Фрыгійскі, быў у Рыме пры Марку Аўрэлія і памёр, – кажуць нам, – 22 кастрычніка 167 гада пасьля нараджэння Хрыста.

Вы самі бачыце, што абодва асобы нязначныя, і ніякіх іншых чым-небудзь выдатных дзеячаў хрысьціянства на працягу II стагоддзя нашай эры няма, ды і ў гэтых двух гады патрэбна, відаць, лічыць не згодна з нашай сучаснай эрай, а ад нараджэння Васіля Вялікага (333 г.), як сапраўднага Хрыста (г. азн. памазанага), або згодна з эрай Дыяклетыяна (284 г.), якой і да гэтага часу карыстаюцца хрысьціяне-копты (абісінская ж царква лічыць яе з 270 года).

### III стагоддзе.

Вавіла (*брат бога*) Антыяхійскі , памёр 4 верасня 251 г. "пасьля Н.Х." Карп (плод) і Папіла (бацюшка), Агатадор (*добры дар*) і Агафоніка (*добраперамагаючая*), памёрлі пры Дэцыю, 13 кастрычніка 231 г. "пасьля Н.Х.". Ісідор (*дар Ізіды*), памёр 14 траўня 251 г. "пасьля Н.Х.". Стэфан (*вянок*) Рымскі, памёр 2 жніўні 257 г. "пасьля Н.Х". Нічыпар (*пераможны*) Антыяхійскі, памёр 9 лютага 260 г. "пасьля Н.Х.". Кіпрыян (кіпрскі) Карфагенскі, памёр пры кіраванні Валяр'яна, 31 жніўня 257 г. "пасьля Н.Х.". Дыянісій (*бог вінаробства*) Александрыйскі, памёр пры кіраванні Валяр'яна, 5 кастрычніка 265 г. "пасьля Н.Х.". Іпаліт (*без падрабязнасьцей*), памёр 30 студзеня 269 г. "пасьля Н.Х.". Рыгор (*пілнуючы*) Неакесарыйскі, вучань Арыгена, памёр 17 лістапада 270 г. "пасьля Н.Х.". Фалалей (*кветка масліны*) Кілікійскі, памёр 20 траўня 284 г. "пасьля Н.Х.". Сікст (*выпрасаваны*) Рымскі і архідыякан Лаўрэнцій (*лаўровы*), памёрлі 10 жніўня 288 г. "пасьля Н.Х".

Зноў вы бачыце самі, што ніякіх чым-небудзь выбітных дзеячаў хрысьціянства ў III стагоддзі няма, ды і пры гэтых, нічым не выдатных, выказванне "пасьля Н.Х.", відаць, трэба разумець: "пасьля нараджэння Васіля Вялікага", або, згодна з "эрай Дыяклетыяна", з 276 года па-абісінскі, або з 284 года па-ягіпецку, як тамтэйшыя жыхары і да гэтага часу лічаць "хрысьціянскія гады".

## IV стагоддзе.

Зараз паглядзіце самі, колькі "хрысьціянскіх" дзеячаў раптоўна з'яўляецца ў IV стагоддзі! І, акрамя таго, звярніце ўвагу на іхныя якасьці: у першай палове да Канстанціна зноў няма ніводнай колькі-небудзь выбітной асобы, і мы можам дапусціць, што і яны кааптаваны сюды праз непаразуменне шляхам змешвання эры Дыяклетыяна з нашай сучаснай; але для другой паловы гэтага стагоддзя ўжо нельга гэтага сказаць. Там упершыню з'ўляюцца сьвятыя, якія атрымалі найменні вялікіх.

***1-я палова IV стагоддзя.***

Анфім Нікамідзійскі, памёр 3 верасеня 302 г. "пасьля Н.Х.".

Артамон (*Верхні Ветразь*), памёр 13 красавіка 303 г. "пасьля Н.Х.".

Феапемпт і Феона, памёрлі 5 студзеня 303 г. "пасьля Н.Х.".

Феадосій Анкірскі, пры Дыяклетыяне, памёр 18 траўня 303 г. "пасьля Н.Х.".

Ірыней Смірнскі, пры Дыяклетыяне, памёр 26 сакавіка 304 г. "пасьля Н.Х.".

Амфіён і Эдесій, памёрлі 2 красавіка 306 г. "пасьля Н.Х.".

Зьміцер Салунскі, памёр 24 кастрычніка 306 г. "пасьля Н.Х.".

Платон Анкірскі, памёр 18 лістапада 306 г. "пасьля Н.Х.".

Гурый, Самона і Авіва, памёрлі 15 лістапада 306 г. "пасьля Н.Х.".

Маркел, біскуп Рымскі, памёр 7 чэрвеня 310 г. "пасьля Н.Х.".

Кір, Ян, Апанасія, памёрлі 31 студзеня311 г. "пасьля Н.Х.".

Гардзій, памёр 3 студзеня каля 312 г. "пасьля Н.Х.".

Аляксандр і Антаніна, памёрлі 10 чэрвеня 313 г. "пасьля Н.Х.".

Міна, Гермаген і Яўграф Александрыйскі, памёрлі 10 снежня 313 г. "пасьля Н.Х.".

Хведар Страцілат, памёр 8 лютага 319 г. "пасьля Н.Х.".

Феадор Кірінейскі, памёр 2 сакавіка 320 г. "пасьля Н.Х.".

Сільвестр Рымскі, памёр 2 сакавіка 335 г. у Майнцы "пасьля Н.Х.".

Імператар **Канстанцін** роўна-**Апостальны**, памёр 23 траўня 337 г.

Сімяён, біскуп Пярсідзкі, памёр 17 красавіка 340 г.

Мілій, Абросім і Сіма, памёрлі пры Сапоры 10 лістапада 341 г.

**Мікалай Цудатворац**, памёр 6 сьнежня 342 г.

Садок, біскуп Пярсідзкі, памёр пры Сапоры II каля 20 лютага 344г.

***2-я палова IV стагоддзя.***

Пахом Вялікі, Нільскі, памёр 15 траўня 348 г.

Яго брат Ян памёр ўслед за ім.

Спірыдон Кіпрскі, памёр 12 снежня 348 г.

Мірон Крыцкі, памёр 8 жніўня прыблізна каля 350 года.

Маркіян і Мартыярый, памёрлі 25 кастрычніка 355 г.

**Антоній Вялікі**, памёр 17 студзеня 356 г. Павел Просты, вучань Антонія Вялікага, які памёр у 356 годзе жыў у Ягіпце, памёр у другой палове IV стагоддзя.

Яўстафій Антыяхійскі, памёр 21 лютага 360 г.

Васіль Анкірскі, памёр 22 сакавіка 363 г.

**Феадор-Хрыстос** ("пасвечаны"), вучань Пахомія Вялікага: ён памёр 16 траўня 368 г. (у год укрыжавання Езуса). Яго малодшы брат Пафнуцій быў яго

паплечнікам. Гэта новы водгалас легенды пра "Вялікім Цара". Ён жа, верагодна, і Мататыя Макавей.

**Панас Вялікі**, памёр 18 студзеня 373 г.

**Васіль Вялікі,** г. азн. "**Вялікі Цар**", памёр 1 студзеня 379 г. Пасьля яго сьмерці адбыўся "контр-сталічны" сабор 379 года.

І ўсе яго родныя сьвятыя:

Рыгор Ніскі, малодшы брат Васіля Вялікага. Нарадзіўся каля 332, памёр 10 студзеня каля 394 года.

Фяозва, сястра Вялікага Цара, памёрла 10 студзеня 385 г.

Малодшы брат "Васіля Вялікага" Пятро (гл. Жыццё Макрыяны) памёр 19 ліпеня на прыканцы IV стагоддзя.

Макрыяна, або Фёкла, сястра "Вялікага Цара" (Васіля), памёрла 19 ліпеня 379 г. Мікіта, памёр 15 верасня 372 г.

**Іларыён** (*радасны*) **Вялікі**, нарадзіўся ў Палестыне ў 291 г. і памёр 21 кастрычніка 372 г.

Яфрэм Сірын, памёр 20 студзеня 372 г.

Вадзім, памёр у Персіі пры Сапоры 9 красавіка 376 г.

Мялецій Антыяхійскі, IV стагоддзе, памёр 12 лютага, старшыня Канстантынопальскаг сабора 381 г.

Ісакій Далмацкі, памёр 30 траўня 386 г.

Кірыл Ерусалімскі, удзельнік сабора 381 г., ахрібіскуп ерусалімскі з 350 г.; памёр 18 сакавіка 386 г. Пры ім быў яркі крыж на небе і землятрус у Палестыне.

Макарый Ягіпецкі, памёр 19 студзеня 390 г., каля 80 гадоў ад роду.

Нона, маці Рыгора Багаслова (гл. 25 студзеня), а яго бацькам і яе чалавекам быў астролаг Рыгор, шанаваўшы нябесныя сьвяцілы і полымя. Пасьля свайго далучэння памёр 5 жніўня 374 г.

**Рыгор** (*пільнуючы*) **Багаслоў**, нарадзіўся ў 328 г. Парэшткі, хутчэй за ўсё, не сапраўдныя, знаходзяцца ў храме Пятра ў Рыме. Памёр 25 студзеня 390 г.

Амфілохій Іканійскі. Прысутнічаў на Сусветным саборы 381 г., памёр 23 лістапада 395 года.

Вы самі бачыце, што калі лічыць жыціё Мікалая Цудатворцы спісаным, як прызнаюць нават тэолагі, з жыцьця Мікалая Пінарскага[59], а імператара Канстанціна І памёршым неахрышчаным, як гэта сцвярджалі некаторыя гісторыкі і да мяне, то ніякіх выдатных дзеячаў праваслаўнага хрысьціянства ў першай палове гэтага стагоддзя таксама няма. Але з другой яго паловы, на якую прыпадае дзейнасць евангельскага "Цара Юдэйскага", атаясамляемага згодна з маім вылічэннем часу слупавання з "Вялікім Царом" (Васілём Вялікім), пачынаецца шэраг сьвятых, якія атрымалі назву **вялікіх** і сапраўды моцна садзейнічалі пашырэнню хрысьціянства. Такімі з’яўляюцца пазначаныя тут і далей буйным шрыфтам: Пахом Вялікі, Антон Вялікі, Хведар Хрыстос (асвечаны), Васіль Вялікі, Іларыён Вялікі, Рыгор Багаслоў, а за імі ідуць Ануфрый Вялікі, Ян Златавуст (аўтар Апакаліпсіса), Сысой Вялікі, Кірыл Апостальскі, Пімен Вялікі, Арсень Вялікі, Яўхім Вялікі, Феадосій Вялікі і Сава Хрыстос (г. азн. "асвечанае віно").

Што ж да самога "Вялікага Цара" (Васіля Вялікага па-грэцку), то звярніце ўвагу на тое, што не толькі ён сам, але і ўсе яго браты і сёстры прылічаны тут да ліку хрысьціянскіх сьвятых, чаго няма ні ў якога іншага сьвятога, акрамя

[59] Біскуп Антыёхіі: “Мікалай Пінарскі”.

евангельскага Хрыста, які і тоесны з ім згодна з маімі вылічэннямі ў III главе гэтай часткі маёй кнігі.

## V стагоддзе.

А вось і сьвятыя *апостальскага* V стагоддзя ў тым жа родзе.

Майсей Мурын Ягіпецкі, памёр 28 жніўня прыблізна 400 г.

**Ануфрый** (*Сонца-бык Грамабоя*) **Вялікі**, памёр 12 чэрвеня каля 400 г.

Марк Пустэльнік (*ён жа Афінскі*). Спыніў ссунуўшуюся гару, і анёл служыў яму. Памёр 5 красавіка каля 400 г. Вельмі цікавая легенда пра яго. Верагодна, нагоду да яе даў евангеліст Марк.

**Ян Залатавуст**, або **Апостал Ян**, нарадзіўся ў 354 г., памёр 13 лістапада 407 г.

Аляксей, "чалавек божы", памёр 17 сакавіка 411 г.

Якаў Персіянін, нарадзіўся на прыканцы IV стагоддзя, памёр 27 лістапада 421 г.

Парфірый (*пурпурны*) Газскі, памёр 26 лютага 421 г.

Ціхан (*ад цюхэ – лёс*) Амафунтскі, памёр 16 чэрвеня 425 г.

**Сысой** (*шосты*, ад жыдоўскага *шыш*) **Вялікі**, памёр 6 ліпеня 429 г.

Паўлін, нарадзіўся ў 353 г. і памёр 23 студзеня або 18 траўня 431 г.

Ян-Касіян Рымскі, памёр 26 люты 435 г. у Марсэлі.

Ісідор (*Дар Ізіды*) Пелузіод, памёр 4 лютага 436 г.

**Кірыл** (гаспадарчык) Александрыйскі, муж **Апостальскі**, памёр у чэрвені 444 г.

Прокл (*далёкі*) Канстантынопальскі, памёр 20 лістапада 447 г.

Варлам і Іасаф, прапаведнікі ў Індыі, памёрлі 19 лістапада 447 (?) г.

**Пімен** (*пастыр*) **Вялікі** Ягіпецкі, памёр 27 жніўня 450 г.

**Арсень** (*мужны*) **Вялікі**, памёр 8 траўня 450 г.

Ян Кушчык, памёр 15 студзеня 450 г.

Папа **Леў Вялікі**, пераемнік пап Цэлестына і Сікста III. Склікаў Халкедонскі сабор 451 г., памёр 18 лютага 455 г.

Сімеён Слупнік із Кілікіі, памёр 1 верасня 459 г.

**Яўхім** (*благаахвяруючы*) **Вялікі**, нарадзіўся ў 376 г., памёр 20 студзеня 473 г.

Герасім Іярданскі, памёр 4 сакавіка 475 г.

Маркел Эфэскі, памёр 29 снежня 485 г.

Венедыкт Італійскі, нар. 480 і памёр у 543 годзе.

Мы бачым, што хрысьціянскія знакамітасьці, пачаўшыся ў другой палове IV стагоддзя, працягваюцца і тут на ўсё V стагоддзе. У гэтым стагоддзі, як я ўжо паказаў у сваёй кнізе "Прарокі" і як пакажу тут у наступных раздзелах, былі напісаны ўсе найбольш значныя біблейскія "прадказанні", і сярод гэтых сьвятых мы можам спадзявацца адшукаць і іхных аўтараў, хоць бы яны і выявіліся пазней уключанымі у лік апосталаў евангельскага "Настаўніка".



Мал. 54. Ход у Эмаус, са старадаўняй выявы на слановай костцы (Парыжская нацыянальная бібліятэка, IX ст.).

## VI стагоддзе.

**Феадосій** (*г. азн. дадзены Богам*) **Вялікі**, памёр 11 студзеня 529 г.

Сампсон Рымскі, памёр 27 чэрвеня 530 г.

Сава Хрыстос (г. азн. Асвечанае Віно), нар. у 436 г., памёр 5 снежня 531 г. Верагодны заснавальнік звычая прычашчэння віном ва Усходняй царкве.

Яфрэм Антыяхійскі , памёр 8 чэрвеня 545 г.

Ян, Нікапольскі маўчальнік, памёр 3 сьнежня 558 г.

Кірыян із Карфагена, памёр 29 верасня 556 г.

Яўціхій Канстантынопальскі, нар. у 512 г., памёр 6 красавіка 532 года.

Сімяён Постнік Канстантынопальскі, памёр 2 верасня 595 г.

Сімяён Слупнік Дзіўнагорац (Антыяхійскі ), памёр 24 траўня 596 г.

У гэтым стагоддзі заканчваюцца хрысьціянскія дзеячы, якія атрымалі назву Вялікіх або Хрыстоў (*асвечаных*), адпавядаючыя дванаццаці апосталам Езуса і біблейскім прарокам, як хутка пабачым.

Далей ідуць ужо толькі вядомыя хрысьціянскія пісьменнікі, якія не атрымалі такіх найменняў, хоць бы яны і цалкам заслугоўвалі іх, як Ян Дамаскі.

## VII стагоддзе.

Рыгор Двоеслоў, памёр у 604 г., папа рымскі з 12 сакавіка 596 г. Да яго перадасвечаная, г. азн. гарачая літургія здзяйснялася "паводле вуснага падання", г. азн. як хто пажадае. Ён першы прызначыў яе з сучаснымі выхадамі і спевамі. Магчыма, што і наогул сучасная літургія належыць яму, а не Васілю Вялікаму і не Яну Залатавусту.

Тамаш Канстантынопальскі, памёр 21 сакавіка 610 г., вымаліўшы сабе смерць праз тое, што загайдаліся крыжы на цэрквах у Галятыі.

Ян Кіпрскі, памёр 12 лістапада 620 г.

Сафроній Іерусалімскі, памёр 11 сакавіка 644 г.

**Максім Спавяданьнік** (верагодна, прадказальнік канца свету ў 666 годзе), памёр 21 студзеня 662 года.

Цікава, што другая палова гэтага VII стагоддзя, якая прыходзіцца на час пасьля апакаліптычнага жахлівага 666 года, у якім чакалася заканчэнне свету, характарызуецца моцным падзеннем колькасьці сьвятых. Верагодна, было моцнае разчараванне і пераход ад прароцкага грознага хрысьціянства да мірнага евангелічнага (гл. дыяграму на стар. 170... 172).

## VIII стагоддзе.

З 666 года пачынаецца, – як пабачым далей, – новае евангеліцкае хрысьціянства.

Андрэй Крыцкі, памёр 4 ліпеня 712 г.

**Марк Афінскі**, памёр 15 студзеня 725 г. Верагодны евангеліст Марк.

Герман Канстантынопальскі, памёр 12 траўня 740 г.

Феафан Спавядальнік ў Канстанцінопалі, нарадзіўся ў 758 г. і памёр 12 сакавіка 761 г.

Феафіл, VIII стагоддзе, памёр 10 кастрычніка ў Баўгарыі.

Мікіта Канстантынопальскі, памёр 13 кастрычніка 763 г.

Стэфан Новы, Канстантынопальскі, нарадзіўся ў 715 г. і памёр 28 лістапада 767 г.

**Ян Дамаскін**, **Багаслоў**, памёр 4 снежаня 776 г.; склаў шмат царкоўных гімнаў. Сапраўдны аўтар Евангелля Яна.

Леў, біскуп Катонскі, памёр 20 лютага 780 г.

Тарасій, біскуп Канстантынопальскі і ўдзельнік Канстантынопальскага сабора 786 года, памёр 25 лютага.

Другая палова гэтага VIII стагоддзя, калі хрысьціянскі свет апамятаўся ад чаканняў заканчэння свету ў 666 годзе, характарызуецца ўзнікненнем новай ідэалогіі хрысьціянства. Яна, відаць, была пачата Маркам афінскім, верагодным аўтарам Евангелля Марка.

## IX стагоддзе.

Гэтае стагоддзе характарызуецца асаблівым уздымам евангеліцкага хрысьціянства. Грозныя прароцтвы і грымоты на зямных цароў сціхаюць і пачынаецца хаўрус царквы і дзяржавы.

Яўхім Салунскі, памёр 15 кастрычнік 824 г.

Мікіта Мікадзійскі, памёр 3 красавіка 824 г.

**Хведар Студыт**, памёр паблізу Канстантынопаля 11 лістапада 826 г. Верагодны аўтар Евангелля Мацвея.

Хведар Накрэслены, памёр 27 снежня 840 г.

Іларыён Новы, Далмацкі (у адрозненні ад Вялікага, памёршага 21 кастрычніка ў IV стагоддзі), памёр 6 чэрвеня 845 г.

**Іянікій Вялікі** із Віфініі, памёр 4 лістапад 846 г.

Нікіфар Спавядальнік, памёр 13 сакавіка 946 г. паблізу Канстантынопаля.

Ігнат Канстантынопальскі, памёр 23 кастрычніка 877 г.

Ёсіф Песьняпевец із Сіцыліі, памёр 4 жніўня 883 г.

Усё гэтае стагоддзе было стагоддзем распрацоўкі евангельскай ідэалогіі.

## X стагоддзе.

Лука Грэчаскі, памёр 7 лютага 946 г. Магчымы евангеліст Лука.

Далейшы працяг гэтага рэестра сьвятых я лічу залішнім. У X стагоддзі хрысьціянства распаўсюдзілася ўжо па ўсіх краінах Яўропы, і кожная краіна імкнулася ствараць сваіх нацыянальных сьвятых. Пачаліся крыжовыя паходы, як вынік прымірэння царквы з дзяржавай, пасьля марных чаканняў Езуса, у 666 годзе. З'явіліся "пасланні" ад імя апостала Паўла і іншых з заклікамі: "няма ўлады не ад бога" і "рабы, упакорвайцеся сваім гаспадарам".

Пакідаючы гэты новы перыяд праз недахоп месца ў гэтай главе без спецыяльнай распрацоўкі, я размяшчаю толькі дыяграму таго, што было мной выкладзена. Гэтая дыяграма настолькі павучальная, што грунтуючыся толькі на ёй адной можна было б зрабіць выснову, што хрысьціянства пачалося ніяк не ў I стагоддзі нашай эры, а толькі ў IV.




Мал 55. Дыяграма, якая паказвае колькасць хрысьціянскіх сьвятых прыпадаючыя на кожныя 50 гадоў ад пачатку нашай эры. Улічаны толькі тыя сьвятыя, для якіх пазначаны год сьмерці і паведамляецца хоць хто-небудзь, акрамя адных імёнаў ("Жыціі Святых" на рускай мове, выд. Панцелеева, адкуль узята ўсё што ёсць). Па вялічэзнаму выступу над прамежкам ад 350-га да 400-га года відаць, што першы стыхійны выбух хрысьціянства быў у другой палове IV ст. Да яго – адны міфы, а пасьля яго перыяд рэзкага падзення

пасьля 666 (апакаліптычнага) года н. э. і потым у прамежку ад 700 да 900 годамі адраджэнне хрысьціянства ў новым евангельскім выглядзе.

## Табліца IV.

Сьвятыя мужчынскай стаці Ўсходняй царквы, час жыцця якіх пазначаны ў дванаццацітомным поўным выданні праваслаўных святцаў. (Складзена А. А. Румянцавым і аўтарам).




## Табліца V.

Сьвятыя жаночай стаці Ўсходняй царквы, час жыцця якіх пазначаны ў дванаццацітомным поўным выданні праваслаўных святцаў. (Складзена А. А. Румянцавым і аўтарам).



Табліца VI.
Сьвятыя Заходняй царквы абодвух стацей, час жыцця якіх пазначаны ў трынаццацітомным выданні Бэрынг-Гульда «The Lives of Saints». (Складзена В. А. Каліцыным пад рэд. аўтара).



Выходзіць тое ж самае, але выступ IV стагоддзя робіцца яшчэ ўтрая большым, чым у дыяграмах.

Зірніце самі на размешчаныя вышэй дыяграмы. На гарызанталях пазначаны пасьлядоўныя паловустагоддзевыя прамежкі, а па вертыкалі пазначана колькасць датаваных сьвятых, якія прыпадаюць на кожны прамежак.

Калі дапусціць, што евангельская літаратура ўзнікла ў I стагоддзі нашай эры, то давялося б прызнаць, што да IV стагоддзя яна не мела ніякіх сур'ёзных настаўнікаў і ідэолагаў. Там мы бачым адну пустату. Але калі ў момант свайго ўзнікнення хрысьціянская ідэалогія была *нямоглай*, то якім жа чынам яна змагла б стаць *перамагаючай* праз 300 гадоў, калі ўжо састарэла? Гэта лагічна незразумела.

Зусім іншае вынікае з нашага боку гледжання, які дапускае, што заснавальнікам праваслаўнага хрысьціянства быў "Вялікі Цар" (Васіль Вялікі па-грэцку), перароблены пазнейшай легендай у евангельскага Хрыста. Тады ўсё становіцца зразумелым не толькі ў сярэдзіне стагоддзя, але і ў IV і V стагоддзях[60].

[60] Вышэй змешчаны спіс сьвятых, для пазбягання падазрэнняў у тэндэнцыйным падборы, узяты мной прама із рускага скарочанага перaклада “Жыцій Сьвятых” (выд. Панцялеева). У поўным жа выданні іх можна знайсьці і больш, як гэта зрабіў па маім прашэнні А. А. Румянцаў. Яго падлік па стагоддзях толькі падцвердзіў нашу дыяграму. У I ст. ён знайшоў 120 легендарных, у II ст. 46 легендарных, у III ст. 218 нічым не выдатных імёнаў. Але ў IV ст. 423, у V ст. – 105 са знакамітасьцямі, у VI ст. – 53, у VII ст. – 29, у VIII ст. – 38, у IX ст. – 65, у X ст. – 32, у XI ст. – 46, у XII ст. – 66, у XIII ст. – 61, у XIV ст. – 85, у XV ст. – 98, у XVI ст. – 90, у XVII ст. – 50, у XVIII ст. – 23, у XIX ст. – 7, у XX ст. – 0. Атрымліваецца тое ж самае, але выступ IV ст. робіцца яшчэ ў тры разы шырэй.

# Глава VIII.
## Апосталы Бога ў Евангеллях і вялікія багасловы IV стагоддзя.

Спынімся ж некалькі падрабязней на вышэйпрыведзеным рэестры "сьвятых" і спачатку высьветлім некалькі чыста лінгвістычных непаразуменняў, пануючых у нашым асяроддзі. Возьмем, напрыклад, пачатак нова-грэцкага нацыянальнага гімна часоў апошняга грэцкага каралеўства, які адпавядае былому рускаму імператарскаму гімну "божа, цара беражы". Па-грэцку ён пачынаецца так (пішу знарок рускімі літарамі):

"Калостон Васілея ке Васіліса!"

Ведаючы, што *калостон* азначае *найлепшае*, што *ке* азначае *і*, а *Васіль* і *Васіліса* грэчаскія ўласныя імёны, вы, вядома, перакладзеце яго так:

"Найлепшага Васілю і Васілісе!"

І вы перакладзеце правільна... А між тым гэта азначае:

*"Найлепшага цару і царыцы!"*

Справа ў тым, што падобна таму як і па-руску, калі вы ўсклікнеце:

"Няхай жывуць Надзея і Шанаванне!", то не ведаючы ў чым сутнасць справы ніяк не будзе ў стане зразумець, маеце вы тут на ўвазе агульначалавечыя пачуцці або двух знаёмых вам жанчынах, так у дадзеным выпадку і па-грэцку, таму што на грэцкай мове імя Васіль азначае – цар, а імя Васіліса – царыца.

Каб паказаць, наколькі змяняецца характар выкладання, калі мы перакладаем з замежных моваў імёны дзеючых асоб, я прывожу тут наступнае месца із Евангелля Яна пра суд над "Хрыстом", пакінуўшы ў ім неперакладзеным толькі слова цар (па-грэцку Васіль), і, наадварот, пераводзячы слова Езус яго значэннем – збаўца (выратавальнік). Вось што атрымліваецца пры такім перакладзе:

"Пілат сказаў яму (цару юдэйскаму): "І так ты Васіль?" Выратавальнік адказваў: "Ты правільна кажаш, што я Васіль. Я нарадзіўся такім, і прыйшоў у свет, каб сведчыць пра праўду"(Ян **18**-37)... З гэтага часу Пілат шукаў сродкаў для яго вызвалення, але юдэі (арыяне) закрычалі: "Калі ты вызваліш яго, ты не сябар імператара! Кожны, які называе сябе Васілём (г. азн. царом), праціўнік імператара..." Пілат, пачуўшы гэтыя словы, вывеў збаўцу вонкі і сеў на судзілішча, на месца, якое мае назву Каменны памост (*адзначу, што ўсё гэта магло адбыцца толькі ў Кесарыі, дзе жыў і судзіў рымскі намесьнік, а ніяк не ў Эль-Кудсе, званым хрысьціянамі Ерусалімам*)... і аддаў яго ім на слупаванне... і загадаў паставіць на слупе надпіс: "Выратавальнік мірапамазанік Васіль богаслаўскі".

Чытач сам бачыць, што пры такім перакладзе атрымліваецца цалкам іншае апавяданне. А між тым, уся Біблія, і ўсе класічныя пісьменнікі, і ўся старажытная гісторыя перакладзена менавіта без ўказання значэння ўласных імёнаў, у якіх і змяшчаўся тады галоўны сэнс, таму што яны былі толькі характэрызуючымі найменнямі, а не выпадковымі імёнамі, як у нас зараз.

Такім жа чынам, як я ўжо паказваў вышэй, паралельна паданню пра заснавальніка хрысьціянскага набажэнства Васіля Вялікага, якім хрысьціянскія "Чэцці-Мінеі" пачынаюць праваслаўны год, паўстала паданне і пра евангельскага "Хрыста", заснавальніка хрысьціянскай рэлігіі. Хто з іх рэальны? І той і другі аточаны, як мы бачылі, міфамі, але Васіль Вялікі пакінуты на сваім хранапагічным

месцы, і таму я лічу, што евангельскі "Хрыстос" з’яўляецца вялізным адбіткам Васіля на фоне старажытнага свету.

Яго малодшага вучня, Яна Багаслова, імя якога азначае іяніец (г. азн. грэк), мы бачым у Чэцці-Мінеях таксама раздваіўшымся на двух першарадных сьвятых: Іянійца Багаслова, празванага сынам грому і размешчанага пад 26 верасня, і Іянійца тэолага, празванага Златавустам, размешчанага пад 13 лістапада[61].

Першы таксама з’яўляецца адбіткам другога, хаця і не такім вялізным.

Месцам нараджэння гэтай цені называюць горад Рыбны (па-жыдоўску Віт-Саіда), яе бацьку даюць мянушку Надзел божы (па-жыдоўску ЗБД-ІЕ = Заведэй), а маці – божае прымірэнне (Саломія) і лічаць яе за адну із жанчын, якія суправаджалі евангельскага вялікага настаўніка. Пад час валадарання Ўтаймавальніка (па-рымску Даміцыяна), які адпавядае згодна з нашай храналогіяй імператару Валенту, гэтая цень Златавуста была, – сведчыць паданне, – ўзята пад варту і выпраўлена ў Рым на суд, а потым сасланая на Патмас, дзе яна быццам бы напісала Апакаліпсіс. Калі Марк Нерва, адпавядаючы згодна з нашай храналогіяй аднаму із першых суправіцеляў Аркадзя, спыніў ганенні на хрысьціян, гэты адбітак быццам бы пасяліўся ў Эфэсе, дзе напісаў "Евангелле ад Яна", і памёр у стогадовым узросьце, а месца яе пахавання засталося невядомым. Але гэтая асноўная канва так пераплецена з разнастайнымі цудамі, што не можа мець ніякага гістарычнага значэння: ва ўсякай казцы, адкінуўшы ўсё цудоўнае, можна знайсьці такую ж па знешнасьці адпавядаючую рэчаіснасьці канву. Такога Евангелля, як Янава, тады не магло яшчэ быць напісана, і я далей пакажу, што яго аўтарам быў Ян Дамаскі, а Ян Залатавуст, акрамя згубленых зараз твораў, напісаў толькі Апакаліпсіс.

Сапраўдны ж арыгінал шануемага вучня евангельскага "Настаўніка" намаляваны ў Чэцці-Мінеях, як і ў іхных першакрыніцах "Acta Sanctorum" і кнігах Касьмы Індыкаплеўста, "вядомы нам, – як мы ўжо згадвалі – пад імем іянійца (Яна) Залатавуста, пры чым ён быў вучнем Васіля Вялікага і непараўнальна больш гістарычны. Ён нарадзіўся, згодна з гэтай біяграфіі, у Антыёхіі , сталіцы тагачаснай Сірыі, ад заможных і шляхетных бацькоў у 354 годзе. К часу няўдалага слупавання Васіля Вялікага ў 368 г. яму, згодна з нашым разлікам, было, як і згодна з евангельскай традыцыяй, каля 14-15 гадоў, і таму гэтая падзея павінна была вырабіць на яго асабліва моцнае ўражанне. Яго незвычайнае жыццё і доказы таго, што Апакаліпсіс быў напісаны менавіта ім 30 верасня 395 года, дастаткова выкладзены мной ва ўводзінах да гэтай кнігі, дзе я толькі рэзюмую асноўныя высновы маёй ранейшай працы "Адкрыцьцё ў навальніцы і буры". Я не буду тут зноў абмяркоўваць гэтую тэму, а толькі спынюся над ўзнікаючым адсюль жа пытаннем: ці не знойдзем мы ў Чэцці-Мінеях і іншых вучняў евангельскага "Вялікага настаўніка", таксама распаўшыхся на дзве асобы, падобна таму як і сам стваральнік сусвету ўяўляецца згодна з гэтым вучэннем "адзіным у трох іпастасях"? Ці не знойдзем рэальных асоб таксама і для іх у IV і V стагоддзях нашай эры?

Для таго каб лепш разабрацца ў гэтым, спынім яшчэ раз нашу ўвагу на змешчаным вышэй "рэестры праваслаўных сьвятых, згодна з часам іхнай сьмерці".

Дзіўную рэч заўважаем мы ў ім!

Асобна вылучаючы старазапаветных прарокаў, а таксама 12 евангельскіх апосталаў і 70 другарадных вучняў евангельскага выратавальніка, як такіх, час

---

[61] Хаця слова ІААН і можна вывесьці як прыметнік ад ІЕУЕ ці ІЕВЕ, г. азн Іеговін, надаючы яму сэнс божы, але вельмі магчыма, што яно азначае проста іаніце (а не галінка)...

якіх, будзь яны рэальнымі або выдуманымі механічна, перамяшчаецца ў тую ж эпоху, у якую перамясьціўся згодна з нашым вылічэннем і Езус , мы не знайшлі да IV стагоддзя нашай эры рашуча ніводнай колькі-небудзь выбітнай хрысьціянскай асобы. Як-быццам бы тады хрысьціянства і цалкам не існавала, а хадзілі толькі нейкія яго адбіткі або прывіды будучых дзеячаў!

Ці вядомы вам, калі вы не сьвятар, абавязаны штодня чытаць сьвятцы, хоць што-небудзь пра аднаго із гэтых імёнаў? Вядома не, таму што і ведаць пра іх няма чаго: усе іхныя біяграфіі складзены згодна з адным шаблонам і бляклай схемай: нічога жыццёвага, характэрнага для дадзенай эпохі! Толькі Арыген ды Дыянісій Вялікі стаяць самотна ў III стагоддзі, ды і пра іх мы не ведаем нічога дакладнага.

Але пяройдзем да IV стагоддзя, у якім, згодна з нашымі вылічэннямі, было сапраўднае слупаванне нейкага вялікага мысляра, і вы пабачыце цэлы шэраг хрысьціянскіх сьвятых, вядомых кожнаму адукаванаму чалавеку і ўпрыгожаных тытулам "вялікі":

1) Антон Вялікі, памёршы ў 356 г.,

2) Панас Вялікі – 373г.,

3) Макарый Ягіпецкі – 390г.,

4) Рыгор Багаслоў – 390 г.,

5) Яфрэм Сірыйскі – 372 г.,

6) Кірыл Ерусалімскі – 386 г.,

7) Паісій Вялікі (каля 400 г.),

8) Легендарны Марк, Латвійскі Пустэльнік, пастаянна зрушваючы згодна са сваім жаданнем гару, якому заўсёды прыслугоўвалі анёлы (магчыма, што гэта – другая легенда пра аўтара Евангелля ад Марка). Ён памёр быццам бы каля 400 года;

9) Арсень Вялікі (памёр у 450 г.);

10) Пахом Вялікі (памёр у 340 г.), настаўнік Хведара "Прысвечанага" (г. азн. "Хрыста", божага дару, пасвечанага ў вышэйшыя таямніцы ведаў), які памёр у 368 годзе, у год укрыжавання евангельскага Хрыста згодна з нашымі вылічэннямі.

Вы тут жа пабачыце Ануфрыя Вялікага (памёр каля 400 г.), Паўла Неакесарыйскага (IV ст.), Іларыёна Вялікага (да 372 г., Яна Залатавуста (да 407 г.) і Мікалая Цудатворца (да 342 г.). Вось дзе выяўляецца цэлы кораб "вялікіх настаўнікаў" хрысьціянства, як і павінна быць згодна з нашымі вылічэннямі! Усе апосталы безстаронняму даследчыку тут могуць выявіцца пад новымі імёнамі.

Нічога падобнага не было ні раней, ні пазней, хоць наступнае за гэтым V стагоддзе таксама пачынаецца гучнымі імёнамі: Феадосій Вялікі (да 529 г.), Яўхім Вялікі (да 473 г.), папа Леў (да 455 г.), папа Рыгор Дыялагіст (каля 590 г.) і Пімен Вялікі (450 г.). А далей, аж да нашых дзён мы знаходзім толькі Іянікія Вялікага (да 846 г.), ды Яна Дамаскіна (да 776 г.), годнага гэтага наймення, да іх жа можна дадаць і Луку Эладзкага (грэцкага) памёршага ў 946 годзе, магчымага аўтара Евангелля Лукі і "Здзяйсненняў апосталаў", калі мы будзем лічыць усё папярэднія згадкі пра гэтыя кнігі за апокрыфы эпохі Адраджэння.

Я не буду зараз настойваць на гэтым маім даўнім падазрэнні, скасоўваючым адразу амаль усю тэалагічную літаратуру, прыпісваемую нават і сярэднім стагоддзям. Я тут толькі запытаю чытача: няўжо ён сам не бачыць із гэтага простага рэестра хрысьціянскіх дзеячаў, што пачаткам росквіту хрысьціянства сапраўды было не I, а IV стагоддзе і нават апошняя яго палова і першая палова V

стагоддзя? Чаму б яно магло тут раптам ажыць, праз трыста гадоў поўнага ідэйнага немацтва? Так не бывае ў рэальнай гісторыі чалавечай культуры!

Вось чаму, нават і без маіх вылічэнняў, міжволі хочацца сярод гэтых "вялікіх" канца IV стагоддзя пашукаць рэальных асоб для ўзнікнення паданняў і пра апосталаў евангельскага месіі.

Але для гэтага мы зноў не павінны ні на імгненне забывацца, што тагачасныя імёны былі простымі, ні для каго не абавязковымі найменнямі, і таму патрэбна ставіцца да іх згодна з іхным сэнсам і ніколі не забываць, што адна і тая ж асоба магла патрапіць не толькі ў "сьвятцы", але і ў кампіляцыі эпохі Адраджэння, накшталт "царкоўных гісторый" Яўсевія Памфіла і Сакрата Схаластыка, у выглядзе некалькіх розных асоб.

Лічачы Яна Златавуста аўтарам Апакаліпсіса, так як час напісання гэтай кнігі вызначаецца 30-ым верасня 395 года, як мы бачылі, з дапамогай цалкам дакладнага астранамічнага метаду, я мала схільны лічыць яго ж і аўтарам Евангелля ад Яна, так як мы маем, акрамя яго, і іншых вядомых навукоўцаў Янаў, асабліва Яна Вучонага (Схаластыка) у VI стагоддзі, памяць якога сьвяткуецца 2 лютага, затым Яна Дамаскага (памёр каля 777 г.) і Іянікія Вялікага (752-846. гг.)

Асноўную частку Евангелля ад Марка магчыма было б прыпісаць, перш за ўсё, як я ўжо казаў, Марку Лібійскаму, (родам із Афін), быццам бы памёршаму 5 красавіка каля 400 года, але гэтая асоба носіць ўсе прыкметы легендарнай творчасьці і, верагодна, спісана з марка Ягіпецкага, памёршага 5 сакавіка невядомага года ў V стагоддзі.

Прастата кампазіцыі гэтага Евангелля адпавядае складу думак ягіпецкага містыка-анахарэта, але яно, павінна быць, было апрацавана і папоўнена пазней у VI-IX стагоддзях.

Евангелле Лукі павінна быць вельмі познім, і яго прыходзіцца, як я ўжо згадваў, прыпісаць не раней, чым Луцэ Эладзкаму, памёршаму 7 лютага 946 года.

Што ж да Евангелля Мацвея, то пра яго можна толькі сказаць, што яго аўтар нідзе не прылічаны да ліку сьвятых пад гэтым імем, пасьля сапраўднага слупавання "Цара Юдэйскага" у 368 годзе, і таму ўся яго кніга павінна прадстаўляць апокрыф, таксама вельмі позняга часу, канчаткова апрацаваны не раней VIII стагоддзя нашай эры, так як у ім ужо маецца ўзвелічэнне скопчаства. А ў асноўнай частцы яно спісана із Евангелля Марка. Само імя Мацвей не грэцкае, а арабска-жыдоўскае, і азначае: дар божы, па-грэцку Хведар, а найбольш прыдатным із усіх вядомых грэцкіх сьвятых Хведараў для аўтара гэтага Евангелля я знаходжу Хведара Студыта, памёршага 11 лістапада 826 года. Нагода таго, чаму яго імя перакладзена на жыдоўскую мову, тады як Евангелле несумненна напісана па-грэцку, верагодна, заключаецца ў тым, што гэты навуковец-манах ўвесь час варожа ставіўся да візантыйскіх імператараў свайго часу, схіляўшыхся да іконаборства, і не раз быў імі высылаемы. Із іншых Хведарў-Мацвеяў можна паказаць яшчэ на Хведара Сікеёта, памёршага 22 красавіка 613 г.

Такім з’яўляецца становішча пытання пра евангелістаў з боку гледжання новай храналогіі, згодна з якой даводзіцца лічыць апокрыфамі амаль усю хрысьціянскую літаратуру да IX стагоддзя, за выключэннем біблейскіх пракокаў, Апакаліпсіса ды Евангелляў Марка і Яна.

Я, вядома, разумею, што гэтае маё меркаванне сучасныя царкоўныя гісторыкі знойдуць цалкам непрымальным, так як апошні Сусьветны сабор, Нікейскі II, скончыўся ў 785 годзе, але я нагадаю, што спрэчкі пра канчатковую

рэдакцыю нават "сімвала веравызнання", г. азн. яго распрацоўка, спыніліся толькі ў XI стагоддзі, разам з падзелам сусветнай хрысьціянскай царквы на ўсходнюю і заходнюю. Гэта азначае, што нават і сам "сімвал веры хрысьціянскай" не быў канчаткова ўсталяваны аж да XI стагоддзя, а Евангеллі Мацвея і Лукі ўяўляюць сабой толькі вельмі папаўненае Евангелле Марка.

Такім чынам, і пералічэнне ў іх імёнаў 12 апосталаў можна лічыць складзеным у вельмі познюю эпоху і даводзіцца шукаць іхныя першакрыніцы ў папярэдніх дэталях, асабліва канца IV стагоддзя або ў V, і нават у VI.

Спачатку разгледзім, каго больш за ўсё нагадваюць розныя "вялікія сучаснікі евангельскага Хрыста IV стагоддзя".

Вось сьвяты, які носіць дзіўнае найменне Вялікі Безсмяротны (па-грэцку Панас), хоць, нягледзячы на сваю мянушку, ён, – кажуць нам, – усё ж памёр 18 студзеня 373 г. Ён атрымаў адукацыю ў Александрыйскай школе ў той жа самы час, калі па Ягіпту вандраваў і евангельскі Хрыстос, гэты "Вялікі Цар" праваслаўных сьвятцаў. Кім жа быў "Вялікі Безсмяротны"?

Ён быў, – кажуць нам, – александрыйскім грэкам і змагаўся з арыянскім светапоглядам. Калі гэта не быў сам евангельскі Хрыстос, які дайшоў да нас пад новым выглядам, то ён мог паслужыць падставай да ўзнікнення легенды пра Іянійца (Яна), папярэдніка Езуса. У такім выпадку і ракой Ярдан, у якой Ян быццам бы ахрысьціў "Вялікага Цара" у сваё веравызнанне, магла быць не палестынская горная рэчка, бяручая пачатак із Бар-Эль-Гуле, а сьвятым Нілам, ажыўляючым сваімі штогадовымі разлівамі ўсю прыроду сваёй краіны.

"Вялікі Безсмяротны" памёр, як атрымліваецца і згодна з Евангеллямі, раней "Вялікага Цара" (г. азн. Васіля Вялікага), а легенда пра тое, што дачка рымскага намесьніка па даручэнні сваёй маці папрасіла падараваць ёй у дзень свайго нараджэння, замест жаночых упрыгожванняў, яго галаву, як і варта было чакаць, выявілася прыдумкай, таму што гэты "Вялікі Безсмяротны", хоць і зведаў за сваё вучэнне шматлікія спасылкі і пераследы, але памёр у Ягіпце натуральнай сьмерцю.

А вось і іншыя сучаснікі евангельскага Хрыста – Макарый Вялікі, імя якога азначае Вялікі Блажэнны, і Макарый Аляксандр, г. азн. Блажэнны Доблесны. Абодва сьвяткуюцца 19 студзеня, услед за Панасам (18 студзеня), але першы, – кажуць тэолагі, – памёр у 391, а другі ў 395 годзе.

"Вялікі Блажэнны" нарадзіўся, – кажуць, – на пачатку IV стагоддзя ў Верхнім Ягіпце і правёў жыццё ў пустэльніцтве. Ён ажывіў аднойчы памёршага ў труне, каб пераканаць ерэтыка Іеракіта, імя якога азначае "свяшчэнная урна". Усе памёршыя адказвалі яму із магіл на яго пытанні. Ён быў такім шчодрым, што сам дапамог злодзею вынесьці са свайго дома скрадзеныя ў сябе рэчы, і ў час яго скону 19 студзеня каля 390 года да яго з’явіліся анёлы са славамі: "Ідзі з намі на вечнае жыццё!". Усё гэта, вядома, не рэчаіснасць, а легенда, а таму і тлумачэнне яе мы павінны шукаць у якой-небудзь іншай вядомай асобе таго ж часу. Вось Рыгор Багаслоў, мянушка якога прыраўноўвае яго да Яна Багаслова, а імя азначае "пілнуючы".

Мы ўжо бачылі на пачатку гэтага главы, што, – згодна са словамі падання, – ён быў старэйшым сябрам і таварышам "Вялікага Цара" па Александрыйскай і Афінскай школах, але на год ці два старэйшы за яго, бо нарадзіўся ў 328 годзе, у Кападокіі. Паданне сцвярджае, што ў 372 годзе "Вялікі Цар", які быў у той час галоўным "назіральнікам" у "Царскім горадзе", прызначыў яго "назіральнікам" у

Сосім, у Малой Азіі, потым у Селеўкію, а потым ён пераехаў у Канстантынопаль. Сваё жыццё ён скончыў на радзіме ў 390 годзе.

Бяручы да ўвагі гэтую акалічнасць, мы можам выказаць здагадку, што Пільнуючы Багаслоў хутчэй за ўсё – сам апостал Сымон Пятро (ён жа "Адзнака-камень").

Пасьля таго як анёл у Палестыне, – як нам паведамляюць із глыбіні стагоддзяў, – вывеў яго із вязніцы, ён некаторы час недзе хаваўся, а потым прысутнічаў на "апостальскім саборы ў Ерусаліме" ў 50 годзе пасьля нараджэння Езуса, што храналагічна адпавядае І-аму Канстантынопальскаму сабору 381 года, або Антыяхійскаму 379 г.

Лічачы, што "Вялікі Цар" нарадзіўся каля 330 года, як сцвярджаюць "Жыціі Сьвятых", мы атрымліваем для гэтага сабора 380 год. На ім, – кажуць, – быў адменены, па прапанове Пятра, звычай абразання, усталяваны, верагодна, Арыем. Пятра ў гэтым падтрымалі Павел і Варнава. Сам старшыня сабора – Якаў, брат Езуса, пагадзіўся, – згодна са Здзяйсненнямі Апосталаў, – з гэтым, і, разам з Юдай, празваным Варсавай і Сілай, яны выправілі рашэнне свайго сабора ў Контр-сталіцу ("Антыёхію"), дзе асабліва шанавалі гэты звычай. Выходзіць, што горад зорка Давыда – Ерусалім – адпавядае тут геаграфічна "Цар-Гораду", або Канстантынопалю. Пятро ж пасьля гэтага наведаў гарады Малой Азіі і Грэцыі і потым пераехаў у Рым, дзе быццам бы і быў слупаваны "Неронам", прычым сам папрасіў, каб яго павесілі на слупе ўніз галавой, але гэта ўжо легенда, якая не мае каранёў у рэсаіснасьці.

Такім чынам, у асобах двух "вялікіх тэолагаў" IV стагоддзя мы знаходзім двух галоўных апосталаў Езуса, але Пятро, відаць, яшчэ адпавядае некалькі староннім чынам таксама і александрыйскаму біскупу Пятру, памяць якога сьвяткуецца 25 лістапада, а памёр у 311 годзе, калі, – кажуць нам, – ён быў пазбаўлены галавы. З гэтага боку гледжання ўсе ганенні на хрысьціян, якія адносяцца да валадараньня Дыяклетыяна і Максіміна, давядзецца аднесьці да часоў Валента і Хвядоса І.

А вось яшчэ адзін Пілнуючы (Рыгор), па прозвішчу Ніскі (Кападакійскі), памёршы 10 студзеня 394 года, за год да з'яўлення Апакаліпсісу. Ён быў малодшым братам "Вялікага Цара". З 360 года ён з вялікім натхненнем займаўся свецкімі навукамі і зрабіўся настаўнікам славеснасьці. Потым, пакінуўшы свецкае жыццё, ён пачаў даводзіць, што адружанае становішча чалавека перашкаджае яму цалкам аддавацца навуцы, і, такім чынам, стаў ідэолагам манаства. Пры Валенце ён, – кажуць нам, – быў асуджаны на выгнанне, але вярнуўся пасьля яго сьмерці. У 379 годзе ён быў на Антыяхійскім саборы і пасьля яго выправіўся прапаведаваць хрысьціянства ў Палестыну і Аравію. Ён жа, кажуць, быў удзельнікам і Канстантынопальскага сабору і вельмі шмат падарожнічаў па Ўсходу. Яго сястра Тэозва, імя якой азначае Богажывучая, і другая сястра Макрына (Велічная) праводзілі жыццё ў сузіральнай адзіноце. У ім мы можам меркаваць Якава, "брата господняга", памяць якога сьвяткуецца 23 кастрычніка.

Ён, – кажуць нам, – старшынстваваў на апостальскім саборы, адбыўшымся на 50 годзе ад нараджэння Езуса, што згодна з нашай храналогіяй прыпадае на 380 год, які аднолькава можна дапасаваць як да Антыяхійскага сабору 379 г. так і да Канстантынопальскага 381 г., калі не лічыць, што абодва гэтыя саборы былі адным і тым жа. На працягу трыццаці гадоў, – сведчаць "Жыціі", – ён быў "ерусалімскім" біскупам, апірышчам вернікаў, абаронцай народа. Фарысеі (арыяне) спіхнулі яго з

даху храма, але ён застаўся цэлым, і яны за гэта пабілі яго камянямі каля падножжа храма, а ён маліўся за сваіх забойцаў. І тут мы бачым тэндэнцыйны пакутніцкі канец, дададзены да нейкага рэальнага жыцця, але ўсё ж "Жыціі" паціху выкрываюць нам і сваякоў евангельскага Езуса і яго наступнае жыццё пасьля зняцця са слупа або з чагосьці падобнага на слуп. Адзначу яшчэ, што яго скіданне з даху храма нагадвае апавяданне пра саскокванне адтуль жа Сымона-вешчуна і пра спакушэнне сатаной Езуса зрабіць тое ж.

Вось знакаміты Яфрэм Сірыец, памёршы 2 студзеня каля 373 г., імя якога азначае Попел (АФРІМ). Ён нарадзіўся ў Нізібіі, у паўночна-ўсходняй Месапатаміі, і быў у юнацтве скептыкам. Але аднойчы яго з двума таварышамі несправядліва абвінавацілі ў крадзяжы авечак, і, калі ён абураўся на свайго суддзю, ён раптам пачуў у сне голас, які прамовіў: "Прыгадай, што ты рабіў раней разам з таварышамі, і вы ўсе пераканаецеся, што пакутуеце не бязвінна". Потым, калі былі знойдзены сапраўдныя вінаватыя і ён быў вызвалены, ён вырашыў выдаліцца ад свету і аддацца тагачасным містычным навуках. Якаў, біскуп Нізібійскі, узяў яго да сабе ў вучні, і ён прысутнічаў, – кажуць нам, – разам з ім на першым Сусветным саборы ў Канстантынопалі, вандраваў па Ягіпце і на адваротным шляху пабачыў у Царскім горадзе "Вялікага Цара", які павучаў у храме шматлікі народ.

– Якімі справамі можам мы ўласкавіць бога? – спытаў яго "Вялікі Цар".

– Не мне павучаць цябе, – адказаў ён, – сам будзь маім лекарам, накіруй мяне на правільны шлях!

За такі адказ "Вялікі Цар" прысвяціў яго як быццам бы ў дыяканы.

Само сабой зразумела, што "Попел" не раз рабіў цуды, аж да ажыўлення памёршага юнака, якога ўкусіла змяя за тое, што апошні яе ўдарыў. А "Попелам" ён мог быць празваны за тое, што напісаў шмат твораў, паміж якімі яму прыпісваюць і вядомую малітву: "Госпадзі, уладар жывата майго! Духу бяздзейнасьці, засмучэння, цікаўнасьці і марнаслоўя ня дай мне".

Па прыведзенай тут яго размове з "Вялікім Царом" зразумела, што ён быў адным із яго вучняў. Ці не адпавядае ён Томашу, імя якога азначае "Блізьнец" і які таксама быў спачатку скептыкам?

Вось Арсень Вялікі, імя якога азначае "Вялікі мужны". Яго радзімай быў Рым, а бацькамі людзі заможныя і вельмі адукаваныя. Ён нарадзіўся, згодна з царкоўнымі паданнямі каля 354 года, і да часу слупавання яму было, такім чынам, толькі гадоў трыццаць. Але мы ніяк не павінны спадзявацца на гэтую дату, бо "Вялікі мужны" быў настаўнікам сыноў Феадосія I яшчэ па рэкамендацыі Грацыяна, памёршага ў 383 г., калі арыентуючыся на вышэйпазначаную дату яму не магло быць і 28 гадоў, – узрост занадта малады для настаўніка ў тыя часы, тым больш што імператар, згодна з тымі ж паданнямі, звярнуўся да яго пры яго прыездзе з такой прамовай:

– Будзь маім дзецям бацькам больш, чым я: бо цяжэй даць дзецям розум, чым жыцьцё. Зрабі іх дабрадзейнымі і мудрымі, ахоўвай ад благога ўплыву, і бог аддзячыць табе за твае працы.

Пры гэтым цар надаў яму, – кажуць нам, – званне "сенатара".

Вядома, уся гэтая прамова апокрыф, але яна характэрная, як паказчык таго, што да часу ўкрыжавання Езуса ў 368 годзе "Вялікі мужны" быў ужо не хлопчыкам. Ён правёў пры двары Хвядоса 11 гадоў і затым каля 390 года збег ад двара, дзе сын Хвядоса Аркадзь падбухторваў царадворцаў забіць яго за тое, што

ён, будучы выхавальнікам, занадта празмерна хацеў зрабіць яго "мудрым і дзейным".

Пераехаўшы ў Александрыю, ён перапраравіўся адтуль, перад часам з'яўлення Апакаліпсіса, у пустыню, у кляштар Яна Колава, а адтуль яшчэ далей, і памёр у адзіноце.

Згодна з сэнсам свайго імя "Вялікі мужны" адпавядаў бы апосталу Андрэю, імя якога таксама азначае мужны, але хрысьціянскія легенды малююць апошняга рыбаком, не змяшчаючым у сабе нічога прыдворнага. Заўважым, аднак, што і Ян Залатавуст із арыстакрата і ўладара цароў зямных быў зьведзены Евангеллямі таксама да ступені рыбака. Акрамя таго, я ўжо казаў, што пад "рыбакамі" ў Евангеллях трэба разумець астраномаў, якія лавілі нябеснай каардынатнай сеткай перасоўванне кропкі веснавога раўнадзенства ў сузор'і Рыб, ды і самую прытчу пра тое, як Езус накарміў народ пяццю хлябамі і дзвюма рыбамі, трэба разумець астральна: або ў тым сэнсе, што ён дадаў да першапачатковых 360 дней у годзе яшчэ 5 дзён у сузор'і Рыб, або што ён патлумачыў народу злучэнне 5 планет у сузор'і Рыб (Ян **6**,9), г. азн. каля вясновага раўнадзенства, як адзнаку нейкіх маючых адбыцца важных падзей. Адзначу, што гэтыя пяць планет ў Мацвея ператварыліся ўжо ў сем (Мацвей. **25**,34), г. азн. у сваю поўную колькасць, чаго "ў Рыбах" не было ніразу ні згодна з ранейшай храналогіяй, ні згодна з маёй. Згодна з ранейшай храналогіяй Сатурн і Юпітэр сыходзіліся ў сузор'і Рыб ў I стагоддзі толькі ў 52 годзе, але Марс у маладзік 5-6 сакавіка 52 г. быў яшчэ паміж Казярогам і Вадалеем, ды і для жыцця Езуса 52 год не падыходзіць. А ў IV стагоддзі Юпітэр і Сатурн цалкам не сыходзіліся ў сузор'і Рыб. Упершыню пяць планет сышліся ў гэтым сузор'і толькі пры жыцці Яна Дамаскага (памёр у 776 г.) пад час веснавога маладзіка 23-24 сакавіка 730 года, калі Марс таксама быў паблізу, паміж Казярогам і Вадалеем.

Вось Кірыл із горада Сьвятога Прымірэння (*Ерусалімскі*), імя якога з’яўляецца змяншальна-ласкальных ад слова Кір (цар), г. азн. васальны царок горада Сьвятога Прымірэння. Ён памёр, – кажуць, – 18 сакавіка 386 года, і пры яго жыцці былі дзве нябесныя адзнакі: 7 траўня 351 года на "тамтэйшым" небе быў бачны велізарны крыж, ззянне якога параўнoвалася з сонечным, а ў 363 г. моцны землятрус з жудаснай бурай раскідаў матэрыялы, звезеныя для пабудовы "тамтэйшага храма". Затым, калі ўсё ж такі намерыліся працягваць яго пабудову, "агонь выйшаў із зямлі і абпаліў сукенкі працаўнікоў, пакінуўшы на іх адзнакі крыжоў". Ён, – кажуць, – быў удзельнікам I Канстантынопальскага сабора ў 381 годзе, і таму можна думаць, што абедзве папярэднія адзнакі пазначаны на дзясятак гадоў раней, чым адбыліся фізічныя з'явы, якія далі нагоду да ўзнікнення гэтых паданняў. "Ён некалькі разоў зведваў ганенні і быў у выгнанні". Ці не з’яўляецца гэтае апавяданне другой легендай пра "Вялікага Цара"?

Вось Паісій Вялікі, памёршы, – кажуць нам, – 19 чэрвеня 400 г. Імя яго азначае Юнак і ён быў вучнем Памвы, імя якога ў перакладзе азначае "Усепастыр". Апошні памёр, – кажуць, – 18 ліпеня 386 г., г. азн. прыблізна адпавядае евангельскаму "Ўсепастыру", але месцам жыхарства яму тут прызначана Нітрыйская пустыня ў Ягіпце. Сюды ж "Жыціі" змяшчаюць і "Вялікага юнака", пакінуўшы для іх абодвух бляклыя біяграфіі, якія не змяшчаюць у сабе нічога жыццёвага і напісаны згодна з агульнай схемай манаскай літаратурнай творчасьці сярэдніх стагоддзяў. Але ў значэнні іхных імёнаў застаўся высушаны і не

атрымаўшы развіцця варыянт шматадгалінаванай легенды пра Езуса і яго юнага вучня Яна.

Вось у Тавенскай мясьціне, каля Латопаля ў Ягіпце, жыве "Хведар Асьвечаны", што ў перакладзе азначае богадараваны Хрыстос, і смерць яго аднесена да 27 красавіка 368 года, праз месяц пасьля вылічанага намі часу ўкрыжавання евангельскага "асвечанага", хаця памяць яго і сьвяткуецца 16 траўня. Гэта прымушае нас западозрыць і ў ім адно із адгалінаванняў легенды пра эвангельскага Хрыста.

Ён быў, – кажуць нам "Жыціі", – вучнем Пахома Вялікага, імя якога азначае Вялікі моцнаплечы, які нарадзіўся ў 292 і памёр у 348 г., пяцідзесяці гадоў ад роду. Пахом быў спачатку ваенным кіраўнікам, але потым пайшоў у егіпецкую пустыню разам са сваім братам Янам, памёршым неўзабаве пасьля гэтага. Туды-та да яго і зьявіўся Богадарованы "асьвечаны", або па-грэцку "Хрыстос", яшчэ юнаком, пакінуўшы сваю маці, заможную і шляхетную жанчыну із ягіпецкай Фіваіды, якая пазней сама прыйшла да яго і пасялілася недалёку ў жаночай мясьціне, паблізу Латопаліса, заснаваную сястрой Пахома. Пабачыўшы яго, Моцнаплечы адразу ж "пачаў бачыць у ім пасудзіну абрання", поўную "чароўнага духу" і "Богададзены" пачаў "суцяшаць тужлівых, даваць навучанні неспрактыкаваным".

Неўзабаве ў Тавенскай мясьціне зьявіўся таксама і брат Богадараванага Пафнутый, які, аднак, вызначаўся меншай стараннасьцю, чым ён. Адпаведна спакусе Езуса дз'яблам ў пустыні, і тут маецца наіўнае спакушэнне "Богадараванага". Калі Пахом захварэў, дык браты вырашылі пасьля яго сьмерці замяніць яго "Богададзеным", і ён пагадзіўся на гэта. Але "Моцнаплечы" ачуняў і, пакрыўдзіўшыся на яго за заўчаснае абранне, разжалаваў яго на два гады ў званне простага скітніка, пасьля чаго прызнаў яго зноў "атрымаўшым ласку ад бога ў сем разоў больш чым раней".

Потым "Моцнаплечы" памёр, пакінуўшы запавет "Богаданаму" не пакідаць без пакараньня тых братоў, якіх ён палічыць нядбайнымі. Яго пераемнікамі былі абраны спачатку Пятроній (каменны), потым Арсісій (падымаючы), а трэцім ўжо Богадараваны. Згодна ж з іншым варыянтам, "Богадараваны" замясьціў "Моцнаплечага" яшчэ пры яго жыцці, калі той, жадаючы поўнага маўчання, выдаліўся із Тавенскай пустыні. У апошнім выпадку легенду пра "Хведара Хрыста", памёршага ў 368 годзе, давядзецца прызнаць за адгалінаванне легенды пра Езуса, але таксама заняпаўшым на сухой і беднай глебе кляштарыскай фантазіі сярэдніх стагоддзяў.

Вось Ануфрый Вялікі, імя якога азначае Сьвяты бык, або Цяля, памёршы 12 чэрвеня каля 400 г. Ён жыў спачатку, – кажуць нам, – у адной із ягіпецкіх мясьцін, але гэтага яму здалося мала. Згодна з парадай аднаго старца-пустэльніка ён пайшоў у ізаляваную ад усяго жывога пячору ў пустыні, дзе толькі "худая трава служыла яму ежай", а "раса піццём". Толькі праз трыццаць гадоў такога сьвятога жыцця, каля пячоры для яго з’явілася крыніца, а для ежы вырасла фінікавае дрэва. Ніхто на сьвеце нават і не падазраваў нічога пра гэта, і толькі ў апошні дзень жыцця "Сьвятога быка" да яго прыйшоў манах Пафнутый, якому ён распавёў усё гэта і затым памёр, прамовіўшы:

– У рукі твае, божа, аддаю дух мой.

На каго із евангельскіх дзеячаў падобны гэты "Сьвяты бык ў пустыні"? На Яна Купацеля або на Язэпа Арымафейскага, імя якога азначае Кратэр Грамабоя,

Сьвятло ложа сьмерці гасподняй[62], або проста на сузор'е Цяляці, якое выходзіць із прамянёў ранішняй зоркі ў чэрвені месяцы, калі сьвяткуюць яго сьмерць?

Вось Іларыён Вялікі, імя якога азначае: Вялікі весялун і мала падыходзіць для падзвіжніка. Ён памёр 21 кастрычніка 372 года і быў спачатку вучнем біскупа Пятра Александрыйскага, а потым Антонія Вялікага, імя якога азначае "Набіваючы кошт". Раздаўшы сваю маёмасць бедным, "Вялікі весялун" пасяліўся ў "палестынскай пустыні", куды да яго прыносілі разнастайных хворых, і ён іх вылечваў. Затым ён пайшоў у Ягіпет да мяжы "Вавілонскай" вобласьці, дзе дзейнічаў і Антоній Вялікі, адкуль зноў відаць, што хрысьціянскі "Вавілон" быў не ў Месапатаміі, а ў Ягіпце, дзе і да гэтага часу стаяць біблейскія вежы да нябёсаў. У 359 годзе Ягіпет напаткала засуха і моцны голад, але "Вялікі весялун" малітвай пазбавіў краіну ад гэтых бедстваў. Ён патым быў на выспах Сіцыліі, Кіпры і Патмас, дзе і памёр ва ўзросьце больш 80 гадоў ад нараджэння.

З якім бы із апосталаў яго параўнаць? Ён больш падобны на самаго Дыёніса або Бахуса, першае імя якога паходзіць ад лацінска-грэцкага слова Дыёс (деус) – бог-Грамабой, і другое ад санскрыта-славянскага кораня: баха (бог).

Такімі з’яўляюцца асабліва праславіўшыяся ў паданнях праваслаўнай царквы, сапраўдныя ці ўяўныя сучаснікі "Вялікага Цара". Для даследавання іхнага першапачаткова значэння мы больш павінны кіравацца сэнсам іхных імёнаў, чым зместам апавяданняў пра іх: апавяданні папаўняліся прадуктамі наступнай літаратурнай творчасьці, здольнымі цалкам пераіначыць першапачатковую сутнасць, а імя, г. азн. першапачатковае характэрызуючае найменне асобы, застаецца нязменным на радзіме міфа ва ўсе часы.

Зразумела, што такія фігуры, як Ануфрый Вялікі, адно імя якога "Сьвяты ягіпецкі бык" выклікае да сябе недавер, хутчэй за ўсё, з'яўляюцца прадуктамі легендарнай творчасьці. Яны не толькі не могуць служыць сродкам да рэалізавання евангельскіх легенд, але і самі патрабуюць рэалізавання, г. азн. тлумачэння свайго паходжання, нароўні з тлумачэннямі евангельскіх дзеячаў. Зразумела таксама, што шукаць на прыканцы IV стагоддзя рэальных асоб для ўсіх 12 апосталаў Езуса было б смешна, так як імёны некаторых із іх, накшталт Варфаламея, г. азн. сын Вадалея, ўзятыя з ліку 12 сузор'яў Задыяка. Ды і ў Евангеллях большасць з іх нідзе не бяруць удзелу, не толькі як дзеячы, але нават як і суразмоўцы.

Актыўную ролю там выконваюць толькі тры:

1) Ян Багаслоў, арыгінал якога мы цалкам дакладна вызначылі шляхам вылічэнні часу Апакаліпсісу у асобе Яна Залатавуста.

2) Сымон, імя якога азначае Чуючы (або Адзнака), называемы Пятром, г. азн. каменем веры, не спаўшы ноччу, калі быў арыштаваны Езус, і спрабаваўшы абараніць яго мячом. Яго мы разглядаем як адлюстраванне Пільнуючага багаслова (па-грэцку Рыгора-тэолага), і

3) Юда Іскарыёт, г. азн. "Богаслаўны" муж, як леў, або "Богаслаўны муж-арыянін", які здрадзіў Езусу. Але ён з'яўляецца асобай алегарычнай. Зразумела, што аналагічнага яму сьвятога мы не знойдзем у праваслаўных сьвятцах.

Аднак магчыма выказаць здагадку, што першакрыніцай для ўзнікнення легенды пра Юду-здрадніка мог быць і сапраўдны брат Езуса Юда, калі пасьля смерці свайго брата ён абвясьціў сябе яго пераемнікам і заснаваў у Палестыне сваю партыю, падняўшую паўстанне супраць рымлян, як гэта зрабіў Юда Молат (па-

[62] Слова Ёсіф я вывожу ад יו־ספה (ІУ-СФЕ), а Арымафей ад אור־מות־יה (АУР-МУТ-ІЕ)

жыдоўску Юда Макавей), які, як мы пабачым далей, таксама храналагічна адпавядае двум евангельскім Юдам, г. азн. у перакладзе, богаслаўцаў.

Сярод першых месіянцаў сапраўды маглі паўстаць дзве варожыя партыі.

Першая – палестынскія месіянцы на чале з Юдам, братам Езуса (г. азн. юдэі), магла прызнаваць, што Езус памёр праз адзінаццаць гадоў пасьля свайго няўдалага слупавання натуральнай сьмерцю 1 студзеня 379 года, і таму з'яўляецца хоць і прарокам, але такім жа смяротным, як і астатнія людзі.

Другая партыя, еўрапейская, на чале з Янам, які ў гэты час быў у іншай мясцовасьці, магла не верыць у магчымасць сьмерці Езуса пасьля таго, як ён ужо ажыў із памёршых, і толькі лічыць яго проста ўзнёсшымся на неба, каб пасядзець трохі "праваруч бацькі" і зноў з'явіцца на зямлю ў вельмі хуткім часе, для пакарання сваіх ворагаў – зямных цароў.

Гэтым чаканнем і дыхае ўвесь Апакаліпсіс у 395 годзе.

Зразумела, што такая партыя ў запале свайго фанатызму спачатку магла аспрэчыць толькі кроўнае радство "брата-здрадніка" з Езусам, абвясьціўшы апошняга народжаным ад бога, а не ад агульнага іхнага бацькі, а затым, як гэта зроблена ў апошнім із Евангелляў – Евангеллі Лукі, яна лёгка магла падзяліць Юду, брата Господняга, на двух Юд: Юду Якаўлевага і Юду Іскарыёта, чаго яшчэ няма ў іншых Евангеллях, дзе фігуруе толькі адзін Юда Іскарыёт.

Такім чынам натуральна тлумачыцца ўзнікненне двух варыяцый месіянства V стагоддзя – равінскага і праваслаўнага, тым больш што нашы астранамічныя вылічэнні часу ўзнікнення біблейскіх прароцтваў, а з імі і "Кніг цароў ізраільскіх", перамяшчаюць іх у сярэднія стагоддзі нашай эры, выкрываючы іх апакрыфічнасць.

# Частка Другая

## Месіянцы. "Вялікі цар" у біблейскіх паэтаў і "прарокаў".



Мал. 55 Парэшткі старажавой вежы ў Месапатаміі, якая тэолагамі лічыцца Нінівійскай (із Фарара: “Жыццё Езуса Хрыста”).

# Глава I.

## Паэма сузор'я Арыёна.

(Псалом 22 (21[63]) як гімн, прысвечаны Езусу і напісаны ўжо пасьля яго сьмерці (25 снежня 442 г. пры эліна-сірыйска-ягіпецкім імператары Феадосіі II).

Калі напісаны псалмы (г. азн. гімны) "шануемаму" (па-жыдоўску Дод'у, пераўтворанаму ў Давыда)?

Адносна таго, што яны прысвечаны "Хрысту-месіі", ніхто не сумняваецца, але час іх складання вельмі дарэмна адносяць да дахрысьціянскага перыяду. Яны напісаны, як і біблейскія прароцтвы, ўжо напярэдадні сярэдніх стагоддзяў. Яны сапраўды рапавядаюць пра Езуса, як сцвярджаюць хрысьціянскія тэолагі, але ўжо пра памёршага Езуса, і чакаюць яго новага прыходу з неба. Большасць іх напісана ў V стагоддзі нашай эры, як гэта відавочна із астранамічнага даследавання, асабліва псалома 22 (па-руску 21).

Сярод усіх біблейскіх псалмаў няма больш мастацкага, чым ён.

[63] Лічачы згодна з іудэйскім тэкстам, гэта гімн 22, а згодна з грэцкім і славянскім гэта псалом 21.

Артур Дрэўс у сваёй вядомай кнізе "Пра гістарычнасць Езуса[64]" справядліва выказваецца, што мы тут не перастанем здзіўляцца, пакуль будзем стаяць на адным толькі сучасным гісторыка-тэалагічным грунце. Але калі мы зірнем на тое месца астралагічнай мапы неба, супраць якога Сонца бывае ў калядныя дні, то пабачым, што дэталі гэтага гімна прадстаўлены на ёй, як на мастацкай ілюстрацыі да якой-небудзь паэмы.




Мал. 56.

"На старадаўнім Дрэве Сусвету, – выказваецца ён, – ці Млечным Шляху, як мы яго зараз называем, вісіць **Арыён[65]**, з раскінутымі рукамі, як укрыжаваны на крыжы. Яму пагражае **Цяля** з разчыненымі сківіцамі – Гіядамі, і да яго ж павёрнуты сківіцы **Ільва** (мал. 57), які знаходзіцца ад яго на 90º, і таму астралагічна звязаны з ім..." "На яго кідаюцца Вялікі і Малы Сабакі, і рака Эрыдан цячэ каля яго нагі, апраўдваючы выказванне пра ваду, разлітую ад яго..."

---

[64] Prof. Arthur Drews: The Wittnesses of the Historicity of Jesus, p. 309. London, 1912.

[65] Арыён згадваецца ў Бібліі і ў кнізе Іава: "Ці можаш ты завязаць вузел Плеяд і распусьціць вузел Арыёна? Ці можаш ты выводзіць задыякальныя сузор'і ў свой час і вадзіць колападобна Мядзьведзіцу з яе дзецьмі? Ці ведаеш ты закон неба? Ці можаш накіроўваць маланкі і ці пойдуць яны, і ці прамовяць табе вось мы? (Іаў, 38, 31-35)"

| | | | |
|---|---|---|---|
| Лапа В. Мядзьведзіцы | Вазнічы | Пярсей з мячом | Ногі Андрамеды |
| Блізняты | з Конскай аброццю | і галавой Медузы | Трохкутнік |
| Малы Сабака | і Казламі | Цяля | Авен |
| Адзінарог | Арыён | Рака Эрыдан | Кіт |
| В. Сабака | Заяц | | |




Мал 57. Сузор’е Арыёна выходзячае із Нябеснага Ярдана (Эрыдана) і нападаючыя на яго звяры і людзі. Направа Цяля і за ім ніжэй Кіт. Налева унізе Вялікі Сабака, вышэй Адзінарог, яшчэ вышэй Малы Сабака і над ім, смяючыся і шэпчучыся, Блізняты маючыя намер пусьціць у яго стралу. Узята із кнігі “Drei Neue Sternlilder” першай паловы XIX ст.. Сярод старажытных сузор’яў аўтар размясьціў яшчэ дадаткова ад сябе трубу Гершэля малодшага і псалтыр караля Рыгора (!!), не прызнаваемыя астатнімі астраномамі.

А агульны сэнс гімна, згодна з Дрэўсам, уяўляецца такім:

Сонца, якое знаходзіцца на зімовай палове неба, удалечыні ад Арыёна, рыхтуецца, на ўзыходу і над ранішняй зарой падымаецца Змеятрымальнік – старажытны сімвал "Выратавальніка". **Арыён** жа, наадварот, апускаецца пад зямлю ў царства старажытнага пекла і ўсклікае, звяртаючыся да асобы ўзыходзячага Сонца, падняўшы рукі із-за гарызонта:

– Моцны, Моцны! Чаму ты мяне пакінуў?!

І вось, як бы ў адказ на яго прашэнне, Сонца ўзыходзіць, каб з кожным новым днём падымацца па экліптыцы і, пераганяючы Юпітэр, набліжацца да Арыёна, пакуль не залье яго ўсяго, праз палову года, сваімі прамянямі.

Нельга не пагадзіцца з такім тлумачэннем Дрэўса, цалкам адпавядаючаму астралагічнаму светапогляду старажытных і сярэднестагоддзевых месіянцаў. Ўжо не раз гісторыкі астраноміі бачылі ў асаблівасьцях сузор'я Арыёна дзіўнае

супадзенне з біблейскімі паданнямі. У ім прызналі і правобраз Яна-Хрысьціцеля на рацэ Ярдан (Эрыдан) і самога Езуса, які выходзіць із яе пасьля хрышчэння, і Ноя, выйшаўшага із Каўчэга (Карабля Арго) у той час як вясёлка Млечнага Шляху абяцае яму, што больш не будзе патопу, а голуб пад ім нясе зялёную галінку ў адзнаку таго, што зямля ўжо вызваляецца ад вады.

Дрэўс тут, несумненна, патрапіў на адзіна правільны шлях. Аднак жа, для некаторых дэталяў псалма 22 можна пайсьці і далей чым Дрэўс і прыйсьці да высновы, што падставай для яго складання паслужыла не адно штогадовае аддаленне Сонца ад Арыёна, якое было мала здольным заахвоціць, пры сваёй звычайнасьці, старажытную паэтычную творчасьць, якая апявала амаль выключна незвычайныя справы. Так, напрыклад, толькі дапушчэннем, што праз Арыён праходзіла ў той час мечападобная камета, можна растлумачыць маючаеся ў ім выказванне пра меч, які ўразіў яго і знішчыў усю яго магутнасць, а словы Арыёна пра Прыгнятальніка, падышоўшага да яго, можна патлумачыць толькі знаходжаннем каля яго злавеснага ў астралагічнай сімволіцы Сатурна. Здагадка Дрэўса, што пад словам меч тут маецца на ўвазе меч Персея, не можа быць прынята ўжо таму, што меч Персея не толькі не пранізвае Арыён, але нават і накіраваны не на яго, а на Медузу з мэтай вызвалення прыкаванай да скалы Андрамеды.

Затым тут змяшчаецца ўказанне і на **Юпітэр**. У 11 радку гэтага гімна Арыён прама выказваецца: "На цябе пакінуты я, моцны Юпітэр!", Прычым жыдоўская назва гэтай магутнай планеты – Амон (AMI) – перакладзена не разумеўшымі сэнсу перапісчыкамі і перакладчыкамі не больш, не менш як у *маму* (!), што выглядае ўжо вельмі наіўна і нават смешна. Пазначана ў гэтым гімне яшчэ і трэцяя яскравая планета: **Лань Світання** – ранішняя зорка Венера, – пад нагой Змеятрымальніка...

Усе гэтыя абставіны даюць поўную магчымасць вызначыць час складання разглядаемага намі гімна чыста астранамічным шляхам і даказаць, што ён быў напісаны ў калядную раніцу 25 снежні 442 года н. э., а разам з тым вызначыць і для шэрагу іншых псалмоў, якія маюць той жа самы характар, час – V стагоддзе.

Аднак перш чым прыступіць да такога вызначэння, мне трэба даць тлумачальны і дакладны пераклад самога гэтага псалма або гімна з жыдоўскай мовы, каб выправіць непаразуменні і нават некаторыя памылкі звычайных царкоўных перакладаў, якія непазбежна паўсталі праз тое, што ўсе ранейшыя перакладчыкі самі не ведалі, што такое яны перакладаюць. Вось гэты асэнсаваны пераклад.

Гімн шануемаму,
які ўзыходзіць на неба на Касулі Світання – Венеры[66].

**Арыён** – сімвал месіянца, пад **мячом** (каметай) направа і злавесным **Сатурнам** налева, апускаецца пад зямлю (у Аід) на заходняй частцы гарызонту ў калядную ноч насупраць Шануемага (Змеятрымальніка, які топча нагой Смерць у

[66] Такім з'яўляецца пры рацыянальным перакладзе загаловак гэтага біблейскага псалма. Перакладаючы жыдоўскую транскрыпцыю для неведаючых жыдоўскую мову на нашы літары, мы атрымліваем для гэтага загалоўка (замяняючы літару (ח) хет на Х) “Л-М-НЦХ-ЭЛ-АЙЛТ-Е-ШХР” (למנצח על־איקת ה־שחר), г. азн. УЗЫХОДЗЯЧАМУ НА КАСУЛІ СВІТАННЯ – ВЯНЕРЫ. Тут са зместа відаць, што гаворка ідзе пра Арыён. А словы **псалом Давыда** ў перакладзе азначаючыя: песня шануемаму і лёгка могуць быць дапасаваны не да легендарнага цара Давыда, а да чакаемага месіі.

сузор'і Скарпіёна) і сімвалізуе сабой узнімаючагася на неба **Езуса-Месію**. **Змеятрымальнік** павольна падымаецца із падземнага царства на ўсходняй частцы гарызонту з **Касуляй Світання** (Венерай) каля абодвух ног у той час, калі Магутны **Юпітэр** (у сузор'і, Стралка) і **Сонца** ўжо выдаляюцца ад яго.

Арыён (Юпітэру):

3) Моцны, Моцны! Навошта ты мяне пакінуў? Навошта ты аддаляешся ад майго выратавальніка (Змеятрымальніка) і ад крыкаў майго ляманту! Чароўны мой! я заклікаю да цябе днём (із-пад зямлі, але ты не чуеш мяне, а начамі (калі я хаджу над зямлёю) мне няма спакою.

4-5) Сімвал будучага месіі (па-грэцку: Хрыста), жыву-

6) чы сярод месіянскіх гімнаў! На цябе спадзяваліся нашы продкі, і ты ратаваў іх. Табе яны маліліся, і ты не

7) адкідваў іх маленьняў. А зараз я чарвяк[67], а не ваяр[68], пагарджаемы сярод маіх субратаў!

8) Усе (*сузор'і*) глядзяць на мяне і зьдзекваюцца нада мной, яны раскрываюць на мяне свае вусны (мал. 56), ківаюць галовамі і прамаўляюць:

9) – Ён паверыў Грамабою, дык няхай жа той уратуе яго, калі добра да яго ставіцца!

10) З дня майго нараджэння ўзгадавана ўва мне надзея на магу-

11) тнасьць Юпітэра[69]. На цябе пакінуты я. Моцны ад нараджэння[70]

12) Юпітэр: Не адыходзь жа ад мяне, таму што Бязлітасны (*Сатурн*[71]) блізка, а памочніка (*Сонца*) яшчэ няма.

13) нападаюць на мяне зборышчы Цяля (Гіады і Плеяды),

14) і моцныя ў колавым руху[72] абступілі мяне. Леў,

15) прагнучы здабычы, адчыніў на мяне, рыкаючы, спою пастку, і Рака (*Эрыдан*) разлілася пада мною. Уся мая магутнасць выцякла ў яе. Маё сэрца растала, як воск (*гл. імглістасць пад поясам Арыёна*), як расплаўлены метал. Мая моц высахла, як абпаленая гаршковая гліна, язык прыліп да вуснаў, а ты зводзіць мяне (*да заходу пад зямлю*) у краіну

17) памёршых! Вось напалі на мяне Сабакі (*Вялікі і Малы Сабакі, мал. 56*). Хеўра Зла (*камета*) падышло да мяне і пра-

18) нізвае мне рукі і ногі! Мая магутнасць прапала! А яны (*Блізняты, блізу якіх злавесны Сатурн*) глядзяць на мяне і смяюцца

19) з мяне! Яны спрачаюцца паміж сабой пра маю сукенку і кідаюць жэрабя пра мой плашч.

20) Грамабой! Не пакідай мяне! Спяшайся на дапамогу, мая

21) магутнасць! Вызвалі маю душу ад Мяча (*каметы*) і захавай яе, маю адзіную, ад пастак Сабак, ад сківіц Ільва

22) і ад рагоў Аднарога[73]! Пачуй маю просьбу[74], і я аб-

---

[67] Цікава, што Чарвяком (Ціамат) у вавіланян наываўся Млечны Шлях.

[68] Тут у арыгінале стаіць איש (АІШ), г.азн. муж, ваяр. Гэтая назва даецца Змеятрымальніку, але тут, верагодна дапасавана да Арыёна, які на астралагічных мапах адлюстроўваецца і як ваяр.

[69] Тут па жыдоўску стаіць אמי (АМІ), замест אמין г. азн. (АМОН), ці Юпітэр, а набожныя перапісчыкі, не разумеючы астралагічны сэнс і баючыся яго языцкага значэння, прарабілі гэтая слова ў МАМА!

[70] Тут М БТН АМІ АЛІ АТЕ(מ־בטן אמי אלי אתה) – ад нараджэння моцны Амон.

[71] Тут (ЦРЕ) жаночага род. (ад ЦР – тыран), г. азн. планета-тыран Сатурн.

[72] Тут АБІРІ Б ШН замест АБІРІ Б ШНЕ (אבירי ב־שנה), г. азн. Магутнае ў колападобным руху, так як сузор’і каля Арыёна найбольш хуткія ў сутачным руху. Слова ШНЕ – азначае гадавы рух.

23) вяшчу твой прыход маім субратам (*сузор'ям*) і ўслаўлю цябе сярод іхнага сходу.

24) Сьпявайце ж гімн Будучаму богу (*Сонцы*) ўсе, хто шануе яго! Праслаўляйце яго дзеці Ўзнагароды Богаслядзіцеля[75]. Благагавейце

25) перад імі ўсе нашчадкі багаборцы! Ён не пагрэбаваў пакутамі прыгнечанага і не ўтаіў ад яго свайго аблічча!

(Сонца ўзышло як бы ў адказ на прашэнне заходзячага Арыёна – гэтага астралагічнага знака месіянцаў.)

26) Хвала табе (*Сонца*) у вялікім сходзе нябёсаў! Ты выканаў сваё абяцанне перад шанюючымі цябе! Хай насыцяцца пакорныя і праслвяць цябе ўсе, якія чакаюць цябе!

27) Ды ўваскрэснуць іхныя сэрцы, і хай звернуцца да Будучага

28) бога ўсе канцы зямлі, і ўсе народы схіляцца перад ім!

29) Наступіла яго царства, ён адзін зараз валадар народаў!

(Зоркі патухлі ў промнях узыйшоўшага Сонца.)

30) Ды атрымаюць адплату і схіляць галовы перад яго тварам ўсе моцныя (*г. азн. ніколі не заходзячыя сьвяцілы)*, усе (*зоркі*), сыходзячыя пад зямлю, і ўсё, няздольныя ажывіць свае душы (*г. азн. усе зоркі, ніколі не з'яўляючыяся над мясцовым гарызонтам*). Яму аднаму будуць пакланяцца нашы нашчадкі. Яны абвесьцяць пра яго будучым пакаленьням і будуць прапаведаваць яго праўду тым, хто яшчэ не нарадзіўся, таму што ён стварыў увесь сусвет.

* * *

Такім з'яўляецца псалом 22 (21) пры яго асэнсаваным перакладзе згодна з ўказаннем саміх нябесных свяцілаў, якія ён так па-мастацку адвображвае. Ён поўны сапраўднай паэзіі для таго, хто адначасова знаёмы і са з'явамі зорнага неба, і з гісторыяй хрысьціянскай рэлігіі. Але ўжо першае ўскліканне ў ім: "Элі, Элі, ламма савахтані", г. азн. тое ж самае, якое ў роспачы прамовіў Езус на слупе, паказвае, што час яго ўзнікнення даводзіцца шукаць ніяк не раней канца IV стагоддзя, калі быў слупаваны "Цар богаслаўцаў". Але ў псалме ён астралагізаваны ўжо да такой ступені, што a priori можна сказаць: найбольш верагоднай датай узнікнення гэтага гімна павінна быць V або VI стагоддзе. Так і атрымліаецца.

Найбольш важнай дэталлю для вылічэння часу ў дадзеным выпадку з'яўляецца становішча сонца, а з ім і Венеры супраць Арыёна, г. азн. у Змеятрымальніку, ўзыходзячаму раніцай на гэтай "Касулі Світання". Другая важная дэталь – гэта небяспека, якая пагражае Арыёну ад Мяча, г. азн. ад мечападобнай каметы. Гэта і паслужыла зыходным пунктам прапанаванага мной у дадзеным выпадку вызначэння часу. А сродкі мне далі кітайскія летапісы Шэ-Кэ і Ма-Туан-Лін, маючыяся ў ангельскім перакладзе Джона Вільямса ва ўсіх галоўных

---

[73] Тут у жыдоўскім тэксце ідзе РМІМ (насарог), а ў грэцкім і лацінскім тэкстах АДЗІНАРОГ. Паглядзеўшы на мапу неба мы тут якраз бачым сузор'е Адзінарога. Калі дапусьціць, што правільна ў жыдоўскім тэксце, то як маглі пераіначыць гэтае слова перакладчыкі, не ведаючы пра астралагічны сэнс гэтага гімна? Яны яго ведалі, але, верагодна, разумелі не ўсё.

[74] Я ўжо згадваў, што калі сонца пад час каляднай ночы паднімаецца ў нагах Змеятрымальніка, Арыён заходзіць насупраць яго на захадзе, як бы молячыся на ўсход, згодна са спосабам іудэеў і молячы пайшоўшае на зіму ў паўднёвае паўшар'е сонца вярнуцца, пры гэтым вяртанне абавязкова суправаджаецца спыненнем аддалення сонца ад Арыёна і адваротным набліжэннем да яго. Із гэтага зразумела, што гэты гімн быў каляднай песьняй месіянцаў-астролагаў, сімвалізаваўшых у вяртанні сонца чакаемы імі прыход свайго нябеснага выратавальніка.

[75] Тут ІЭКБ=ІЕ ЭКБ азначае божая ўзнагарода (таксама кульгавы).

абсерваторыях. Дадаткам да іх служыла мне лацінская кніга Любенецкага "Усеагульная гісторыя камет ад сусветнага патопу і да нашага часу", таксама маючаяся ў кнігасховішчы Пулкаўскай абсерваторыі.

У іх абедзвюх раней за 147 год і да канца сярэдніх стагоддзяў не паказана ні адной каметы, якая праходзіла б нават і паблізу Арыёна. Затым, калі мы перакладзём кітайскую храналогію, складзеную па дынастыях і месяцовых месяцам, на наш сучасны спосаб лічэння часу, мы атрымліваем вось які спіс (табл. VII).

## Табліца VII.

| А. – каметы пачатку нашай эры (лічэнне астранамічнае). |
|---|
| Мінус 146 год. 14 сакавіка (Сонца ў Панне). "Белая камета на паўночным захадзе ў 10 локцяў даўжыні, каля Ламбды (λ) Арыёна. Яна была бачнай 15 дзён" (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.)*<br>Гэтае апісанне вельмі блытанае. Перш за ўсё, Арыён ў паўночным паўшар'і Зямлі ніколі не бывае бачным на паўночным захадзе. Акрамя таго, у сакавіку ён вечарамі хаваецца на паўднёва-ўсходняй частцы неба ў промнях вячэрняга сонца, ды і такое доўгае знаходжанне каметы ў адным і тым жа сузор'і паблізу ад Сонца неверагодна. І месяц не падыходзіць, так як Сонца ў сакавіку не толькі не выдаляецца, але, наадварот, вельмі набліжаецца да Арыёна, і камета з'яўлялася б не раніцамі, а вечарамі. Г азн., не падыходзіць. |
| Мінус 72 год. 10 траўня (*Сонца ў Цяляці*). "Вечарам бачылі хвастатую зорку ва ўсходняй частцы Арыёна". (*Шэ-Кэ.*) Зноў не падыходзіць згодна з тымі ж падставамі, што і папярэдняя. |
| Мінус 48 год. "Бачылі чырвона-жоўтую камету на паўночным усходзе (г. азн. раніцамі), 8 локцяў даўжыні. Праз некалькі дзён яна дасягнула даўжыні да 10 локцяў і паказвала на паўночную частку Арыёна". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.*)<br>Тут ізноў блытаніна. Камета магла паказваць на Арыён, (*не абыйшоўшы папярэдне цэлую палову неба ў больш яркім выглядзе*), толькі знаходзячыся раніцамі не на паўночным усходзе, а на паўднёвым усходзе ў летнюю пару года, калі Сонца знаходзіцца блізу Арыёна. Г. азн. і гэтая камета не падыходзіць, як і папярэднія. |
| Б. – каметы пасьля пачатку нашай эры. |
| 39 год. Ад 13 сакавіка (*Сонца ў Рыбах*) да 30 красавіка (*Сонца над Арыёнам*) "была бачнай вельмі вялікая камета ў вобласьці Плеяд (*г. азн. раніцамі*); светлая, 30 локцяў даўжыні, шырокая, разгаліноўваючаяся як дрэва. Яна ішла на паўночны-захад". "30 красавіка ўвайшла ў вобласць Пегаса і Андрамеды і знікла на 49-ы дзень сваёй бачнасьці". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.*)<br>Зноў не падыходзіць. Яна аддалялася ад Арыёна па меры таго, як Сонца набліжалася да яго ўсё больш і больш. |
| 74 год. 6 сакавіка (*Сонца над Арыён*ам) "дзіўная зорка з'явілася ў вобласьці Плеяд. Прайшла (*над Арыёнам*) у вобласьці Ільвоў і знікла направа ад Панны праз 60 дзён". (*Шэ-Кэ.*)<br>Зноў не падыходзіць згодна з тымі ж падставамі, як і папярэдняя, і, акрамя таго, яна з'яўлялася ня раніцамі, а вечарамі. |
| 77 год. 23 студзеня (*Сонца ў Казярогу*). "З'явілася камета на 3-м градусе вобласьці альфы (α) Авена, ад 8 да 9 локцяў даўжынёй. Яна паступова слабела і знікла праз 106 дзён". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.*) |

| |
|---|
| Зноў не падыходзіць, так як пры гэтых умовах яна магла быць бачнай толькі вечарамі, а не раніцамі. Ды і Змеятрымальнік з Касуляю Світання ў гэты час быў пад гарызонтам. |
| 102 год. 7 студзеня (*Сонца ў Казярогу*). "Быў бачны зялён-белы пар каля 30 локцяў даўжыні ў Эрыдане; ён паказваў на Прокіёна і быў бачным 10 дзён. (Шэ-Кэ.)<br>Зноў не падыходзіць, так як гэты "пар" мог быць бачны толькі па вечарамі. |
| 110 год. Студзень (*Сонца ў Казярогу*). "Была бачная камета ў Эрыдане, паказваўшая на паўночны ўсход, ад 6 да 7 локцяў даўжыні, зялёна-белага колеру". (*Ма-Туан-Лін.*)<br>Верагодна, гэта была тая ж камета, што і папярэдняя. Толькі год быў вызначаны на 8 гадоў пазней. Ізноў не падыходзіць. |
| 141 год. Ад 7 сакавіка (*Сонца ў Рыбах*) да 23 красавіка (*Сонца ў Аўне*). "З'явілася камета на захадзе, ад 6 да 7 локцяў даўжыні, блакітнавата-белага колеру, паказваючая на паўднёвы захад, ад Пегаса да Вадалея. 16 красавіка яна распасьціралася ад Андрамеды да Рыб на 6 локцяў. 22 красавіка яе бачылі раніцай (?!) на паўночным захадзе. Яна ўвайшла ў вобласць Плеяд і Цяляці (*г. азн. была над Арыёнам*); 23 красавіка зайшла ў Гідру, прайшла сярэдзіну Ільвоў і знікла". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.*)<br>Зноў не падыходзіць ужо пра адно тое, што Сонца было каля Арыёна і накіроўвалася да яго. Акрамя таго, яна магла быць бачнай пры такіх умовах толькі вечарамі. |
| 218 год. Красавік (*Сонца ў Авене паблізу Арыёна*). "Бачылі камету раніцай на ўсходзе каля 20 дзён. Потым вечарам яна з'явілася на захадзе, прайшла праз Возьнічага і Цяля ў Двайнят, пад Вялікі Мядзведзіцай, і ў Ільва і ў Панну. Яна была завостранай і яркай. Ішла да Геркулеса". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.)*<br>Гэта было трэцяе гістарычнае з'яўленне каметы Галея, і праўдзівасць кітайскага апісання ў дадзеным выпадку падцверджана вылічэннямі Гайнда. Але і яна цалкам не падыходзіць, так як Сонца засланяла ў гэты час Арыён сваімі прамянямі. |
| 252 год. 25 сакавіка (*Сонца ў Рыбах па шляху да Арыёна*). "Бачылі камету на захадзе каля Мухі, белага колеру, ад 60 да 70 локцяў даўжыні. Хвост паказваў на поўдзень, на Арыёна; яна знікла праз 20 дзён". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.*)<br>Зноў не падыходзіць, так як была бачнай вечарамі, і Сонца набліжалася да Арыёна. |
| 304 год. Травень (*Сонца ў Цяляці над Арыёнам*). "Дзіўная зорка была ў сузор'і Цяльца". (Шэ-Кэ.) Зноў відавочна не падыходзіць. |
| 305 год. Верасень (*Сонца ў Панне*). "Была камета ў вобласьці Плеяд і Цяляці". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.)*<br>Відаць, гэта тая ж, што і папярэдняя, толькі пераблытаны год і месяц. У верасні не магла прыйсьці камета ў Цяля, не абыйшоўшы ў больш яркім выглядзе цэлую палову неба ў ранішні час. |
| 423 год. 13 лютага (*Сонца ў Казярогу*). "Была камета ва ўсходняй частцы вобласьці Персея і Андрамеды". (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.*)<br>Ізноў не падыходзіць, бо была бачнай толькі вечарамі. |
| 442 год. З 1 лістапада і да канца года (*Сонца ў Скарпіёне каля ног Змеятрымальніка, ўзыходзячага ў гэты час над ранішняй зоркай*) дзіўная зорка з'явілася ў Вялікай Мядзведзіцы. (*Відавочна, з вобласьці Змея.*) Яна зрабілася |

| |
|---|
| каметай, увайшла, праз Паўночны Вянок, у паўднёвую частку Вялікай Мядзведзіцы, прайшла ў сузор'е Вазнічага і ў Цяляці (*г. азн. ляцела прама на Арыён*), перайшла Гіады і Альдэбарана і ударыўшы, як бачым, па прыпаднятаму, як бы для заслоны, шчыту Арыёна, перасекла Эрыдан і знікла зімой. (*Шэ-Кэ, Ма-Туан-Лін.)* |

Мы бачым із гэтага спісу, што камета 442 года нашай эры з'яўляецца першай прыдатнай для доследуемага намі псалма 22 за ўвесь час існавання самых старажытных у сьвеце кітайскіх летапісаў, г. азн. з тых часоў, калі іхныя астранамічныя сведчанні пачынаюць падцвярджацца сучаснымі вылічэннямі. У яе шляху і ў размяшчэнні планет ўсё адпавядае апісанню псалма.

З табліцы VIII вы бачыце, што ў калядную раніцу 25 сьнежня 442 года і ў бліжэйшыя раніцы да і пасьля гэтага дня Меркурый, Марс і Месяц, якія згадваюцца ў псалме 22, як раз і былі пад гарызонтам. Меркурый заходзіў хутка пасьля Сонца, Марс і Месяц заходзілі з Авенам каля паўночы і, такім чынам, былі бачнымі толькі вечарамі. А із астатніх свяцілаў усе былі на пазначаных для іх месцах. Сонца, абаронца Арыёна, знаходзілася на супрацьлеглым баку неба паміж сузор'ямі Стралка і Казярога; Змеятрымальнік – сімвал узьнімаўшагася на неба Хрыста – ўзыходзіў раніцамі, сапраўды, на "Касулі Світання" (*Венеры*) пад сваёй нагой, у гадзіны, калі Арыён – сімвал купаемага ў Ярдані хрысьціяніна – напалову спускаўся на захадзе пад зямлю. "Божы Меч" – вялікая камета 442 года – злавесна апускалася прама над яго галавой, як бы даганяючы яго, сыходзячага пры крывавым бляску зімовага ранішняга світання ў падземнае царства. Злавесны, бязлітасны і смяротны, згодна з астралагічнымі паданнямі, Сатурн гнаўся за ім у сутачным руху неба па другі бок ад каметы ў здзекваючыхся над ім Двайнятамі. Дабрадзейны ж Юпітэр-Амон пайшоў ад яго ў процілеглы бок неба і зьнік із вачэй за Сонцам. Карціна, згодна з містычнымі паданнямі таго часу, была настолькі злавеснай, што Арыёну, сапраўды, было чаго палохацца, тым больш, што гэтая зімовая камета 442 года была адной із самых вялікіх у камэтных летапісах, так як не знікла, нават прайшоўшы палову нябеснага скляпення.

# Табліца VIII

| А – становішча Сонца, Месяца і пяці планет раніцай 25 снежня 442 года згодна з каардынатамі 1900 г. | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Прам. Узыход. Скланенне. Месца. | Сонца. $19^h52^m$ –20°58' Стралок | Месяц 0h51m +4°38 Авен. | Меркурый. 20h01m –18°36' Казярог | Венера. 17h28m –22°18' Пята Змеетрымальніка | Марс. 2h08m +13°50' Авен | Юпітэр. 19h48m –20°54' Стралок. | Сатурн 6h49m +22°02' Двайняты |
| Б-становішча Вялікай Каметы 442 г. (згодна з кітайскімі летапісамі). | | | | | | | |
| Камета выйшла на прыканцы кастрычніка на Скарпіёна і хутка зайшла ў Паўночны Вянок. 1 лістапада прайшла праз Вялікую Мядзьведзіцу, потым праз Вазнічага, мячом паказваючы на Арыёна, затым праз Цяля, зачапіўшы шчыт Арыёна, і знікла пасьля калядных дней у вобласьці Гама-Дэльта (γ, δ) Эрыдана. | | | | | | | |

Усе апісанне псалма 22 цалкам адпавядае пазначанай тут камеце, і іншага такога выпадку не было за ўвесь гістарычны перыяд часу аж да эпохі Адраджэння.

Усе астатнія праходджанні каметы праз Арыён за час нашай эры (якім, напрыклад, з'яўляецца быўшае ў сярэдзіне траўня 760 года з'яўленне каметы Галея) адбыліся ў вясновыя месяцы, калі Сонца само знаходзілася каля Арыёна. Гэты выпадак камэтнага шляху ад сузор'я Скарпіёна праз усё неба да Арыёна, сапраўды, быў адзіным ў сваім родзе. Лёгка сабе ўявіць, што ён быў добрым стымулам для распачынання паэтычнай творчасьці, асабліва на пачатку сярэдніх стагоддзяў, напярэдадні сучаснай навукі, калі моцнае развіццё фантазіі ў чалавецтве ўпершыню абудзіла яго да інтэлектуальнай дзейнасьці.

Праверачнае вылічэнне М. Я. Ідэльсона, дадзенае ў табліцы, цалкам пацвердзіла мае папярэднія вылічэнні становішча планет на 25 снежня 442 г.

Якія яшчэ больш патрэбны доказы, каб пераканацца, што псалом 22 (21) напісаны на самым канцы снежня 442 года, як раз праз 74 гады пасьля вылічанага намі года слупавання Езуса і праз 47 гадоў пасьля з'яўлення Адкрыцьця Яна Хрызастома? І стыль, і сэнс гэтага твора паказваюць тую ж самую эпоху, далейшае развіццё той жа самай месіянскай ідэі... І не Езус усклікнуў словамі псалма: "Элі, Элі, ламма савахтані", г. азн. "Моцны, Моцны, навошта ты мяне пакінуў!" (Яму на тычцы або на слупе было не да спявання псалмаў!), а аўтар псалма 22 паўтарыў гэтыя словы ў сваім гімне, як выказванне найвялікшай пакуты таго, хто быў слупаваны, як багаборац (ізраэль), адкінуўшы ранейшую "сьвятую сядміцу" у імя новай сістэмы сусвету, сістэмы Клаўдзія Пталямея. Акрамя таго, Клаўдзій па-латыні азначае Кульгавы, а пра Якава мы чытаем у Бібліі, што ён атрымаў ад бога падножку за тое, што хацеў змагацца з ім, ды і само імя Якаў азначае, між іншым: божая запінка, г. азн. па-латыні – Клаўдзій. Ці нельга зрабіць адсюль выснову, што легенда пра Якава, які пабачыў лесвіцу на небе, ёсць толькі легенда пра Клаўдзія Пталямея?

# Глава II.

## Час узнікнення астатніх біблейскіх псалмоў.

Такія вынікі астранамічнага даследавання псалма 22 (21), паказаўшыя для яго хрысьціянскую эпоху, прымусілі мяне перагледзець з новага боку і астатнія старажытнаіудэйскія гімны. Усе яны носяць характар гэтай жа эпохі як згодна са сваім стылем, так і з настроем. Самыя жыдоўскія загалоўкі большасьці псалмоў (МЗМУР Л-ДУД) у перакладзе на нашу мову азначаюць "*музыка шануемаму*", так што ні пра якое аўтарства Давыда тут гаворкі няма. Калі нават і прамаўляць жыдоўскае напісанне ДУД – як Давыд, то перакладаць трэба – псалом Давыду, а не псалом Давыда. Калі ж прыняць да ўвагі, што жыдоўскае напісанне Л-ДУД – азначае проста *шануемаму*, то, адзначыўшы пра сябе, што даследуемы намі 22 (21) псалом несумненна прысвечаны слупаванаму "выратавальніку", пасьля таго як Ян Хрызастом узвёў яго сваім Апакаліпсісам у самога "творцу сусвету", прыйшоўшага аддаць сябе ў ахвяру за грахі, – то і ўсе псалмы, якія маюць гэты загаловак, варта лічыць прысвечанымі Езусу ж, а таму таксама напісанымі не раней V стагоддзя.

Іхнае ўвядзенне ў царкоўны рытуал прыпісваецца (*Сакратам-Схаластыкам*) таленавітаму рэлігійнаму паэту і кампазітару Флавіяну Антыяхійскаму, які жыў на пачатку V стагоддзя. Было б дзіўным думаць, што гэта ўвядзенне здарылася толькі праз тысячу гадоў пасьля іхнага складання (!), а таму і маё вылічэнне толькі аднаўляе натуральную храналагічную сувязь, якую можна было б усталяваць, і не

золата. Харан, Канэ, Эдн, Асірыя і Келмад выменьвалі табе свае япанчы, цюкі пурпуровых і рознакаляровых тканін, лепшыя хусткі, спакаваныя вяроўкамі ў кедравых скрынях..."

"І ты, Прыгнятальніца, абагацілася і стала знакамітай на марах. Твае весляры вадзілі цябе па шырокіх водах, але ўсходні вецер разаб'е цябе сярод мора, і пойдуць із тваіх караблёў весляры і рулявыя, і высадзяцца на бераг, і загалосяць па табе моцным голасам. Пасыпаўшы попелам галовы і зваліўшыся на зямлю, яны абвесьцяць у сваім горы: "хто быў як гэтая Прыгнятальніца, якая зараз зрабілася месцам мёртвай цішыні сярод мора!"

"І не будзе цябе больш ніколі!" ***Іез. гл. 38.***

Сын чалавека, скажы вярхоўнаму кіраўніку Прыгнятальніцы (каталіцызма):

"Твой розум заганарыўся, ты прамаўляеш: Я бог! Я сяджу на божым пасадзе, "сярод мораў". Але ты чалавек, а не бог, хоць і ставіш сваю мудрасць нароўні з розумам бога. Ты думаеш, быццам ты разумнейшы за навуку ўсемагутнага[87], і няма таямніцы, недасягальнай для цябе? Але я прывяду на цябе варвараў, самых жахлівых із усіх народаў, і яны аголяць свае мячы супраць лепшых твораў твайго мастацтва, і будзе памрачоны твой бляск... Так, ты памрэш сьмерцю забітых, у глыбіні мораў, і прамовіш тады перад сваімі забойцамі: "Я – бог".

Заспявай жа, сын чалавека, сьлёзную песню пра кіраўніка Прыгнятальніцы і скажы: о ты, лічачы сябе пячаткай дасканаласьцей, паўнатой мудрасьці і верхам прыгажосьці! Ты жыў у асалодзе, у садзе бога, абсыпаўся рознымі каштоўнымі камянямі. Рубін, тапаз, алмаз, бурштын, берылій, яшма, сапфір, смарагд, чырвоны карбункул і золата былі ўпрыгожваннямі тваіх тымпанаў і жалеек. Падобна маёй калясьніцы (*цяперашняму сузор'ю Вялікай Мядзведзіцы*) ты быў памазаны, каб заступацца за іншых. Я паставіў цябе як бы на сваёй сьвятой гары (*нябесным скляпенні*), і ты хадзіў там, сярод маіх агністых камянёў (*зіхацячых зорак*). І ты быў дасканаласьцю у дзень твайго прызначэння, але, дзякуючы твайму шырокаму гандлю, тваё нутро напоўнілася няpraўдамі. За гэта я скіну цябе, як апаганіўшагася, із маёй сьвятой гары і зьнішчу твой сімвал, Калясьніцу-Заступніцу, сярод нябесных камянёў, зіхацячых агнямі (*дам іншую назву Вялікай Мядзведзіцы*). Ад тваёй прыгажосьці заганарылася тваё сэрца, і праз ганарыстасць ты выкарыстаў для зла твой розум. За гэта скіну цябе на зямлю і выстаўлю на ганьбу перад усімі царамі зямнымі.

А зараз павярні, сын чалавека, твой твар да лаўца і скажы яму: "Вось я іду на цябе, прамаўляе табе Грамабой, і праслаўлюся сярод цябе, калі здзейсню свой суд над табой і выяўлю на табе маю справядлівасць. Я пашлю на цябе згубную пошасьць, і ўпадуць сярод цябе забітыя мячом, накіраваным на цябе. І не будзеш ты надалей калючай шыпшынай і ўчэпістым цёрнам для харомаў багазмагальніка (*месіянства*), ганьбуючым іх больш чым усе астатнія зларадныя суседзі".

Хіба недастаткова гэтых параўнанняў кнігі Іезекі-Іла з Апакаліпсісам, каб адразу пабачыць, што гэты твор пісаўся пад моцным уплывам ідэй і складу Яна Златавуста г. азн. напісаны не раней V стагоддзя нашай эры?

Але возьмем яшчэ прыклад.

Вось як коратка паведамляецца ў Апакаліпсісе аб "Гога і Магога":

"Калі скончыцца тысяча гадоў, будзе вызвалены Паклёпнік (*сузор'е Змея*) са сваёй цямніцы (*Цясніны Млечнага Шляху*) і выйдзе падманваць Гога і Магога,

[87] דנ־אל (ДН-АЛ) – דנה אל (ДНЕ-АЛ) – навука ўсемагутнага.

народаў, жывучых на чацьвёртым (*паўночным, ад усходу, дзе ўзыходзіць сонца*) куце зямлі, каб вывесьці іх на вайну. Колькасць іх як марскога пяску. Вось яны выйшлі на стэпавую раўніну (*задунайскія стэпы Расіі*) і атачылі стан беззаганных і шануемую цьвярдыню, але ўпала палымя з неба (*у сімвале ранішняй зоркі, якая занялася над выспай Патмас на паўночным усходзе*) і праглынула іх"(Ап. **20**. 8).

У сваёй кнізе "Адкрыцьцё ў навальніцы і буры" я ўжо паказаў, што імёны Гог і Магог, гэта сапсаваныя назвы Гуна і Мангола, а вось як пашырана гэтае месца ў кнізе "Іезекі-Іл" ***(Іез. 38-39).***

"Зноў было мне слова Грамабоя:

– Сын чалавека! Павярні свой твар да Гога ў краіне Магог (*Гуну у Манголіі*), валадару Русі Москаў і Перадбалканіі[88], і паведамі яму мае словы: "Вось, я іду на цябе, Гун, валадар Русі Москаў! Я ўкладу цуглі ў твае сківіцы, я выведу на поле бітвы цябе і ўсё тваё войска, усіх тваіх коней і вершнікаў, у латах і са шчытамі. Я выведу разам з табой на бойку і Персію, і Абісінію, і Маўрытанія, і Крым, і Нямеччыну[89] з паўночных межаў Зямлі, і ўсе іх шматлікія атрады і плямёны. Падрыхтуйся ж і стань у рады, каб быць для іх перадавой вартай! Ты прыйдзеш у апошнія гады сусвету (*перад яго апакаліптычнай сьмерцю*) у краіну, вольную ад улады мяча, да майго народа, абранага са шматлікіх народаў на вяршыні богазмагальніцтва, быўшыя заўсёды пустэльнымі. Ты падымешся як бура, і пакрыеш зямлю, як хмара, сваімі полчышчамі і шматлікімі народамі, каб учыніць рабунак і накласьці сваю руку на мае зноў населеныя развaліны, на мой народ, сабраны із усіх народаў, займаючыхся жывёлагадоўляй і гандалем і жывучых на самай сярэдзіне зямлі... Ці не ты той самы, пра якіх я згадваў у мінулыя дні праз служыўшых мне апавяшчальнікамі багазмагальніка (*як мы зараз бачым, праз аўтара Апакаліпсіса і яго пасьлядоўнікаў*[90]), прадказаўшых яшчэ тады і сам год, калі я прывяду цябе? "

"Але вось у той дзень, калі ты нападзеш на краіну багазмагальніка, выступіць гнеў на мой твар, і абавязкова, абавязкова наступіць прадказаны вялікі землятрус на зямлі. Затрымцяць тады перада мной і марскія рыбы, і нябесныя птушкі, і палявыя зьвяры, і ўсе земнаводныя жывёлы, і ўсе людзі, якія жывуць на твары зямлі. Абваляцца горы, абваляцца абрывы зямлі, і ўсе пабудаваныя на зямлі сьцены абваляцца на яе. Я распраўлюся з табой забойствам і пошасьцявай язвай, я зьвяду праліўны дождж і незвычайны каменны град, з полымем і падпаленай серай, як на цябе, так і на ўсе твае атрады і на шматлікія народы, якія прыйдуць з табой

---

[88] גוג (ГУГ) і מגוג (МГУГ), па-грэцку Γώγ Μαγώγ. А ראש משך (РАШ-МСК), як я пазначаў у сваёй кнізе “Прарокі” (1-ае выд, стр. 103), бясспрэчна азначаюць Русь, Масковію. Гэта даводзіў яшчэ Hammer у сваёй кнізе “Les origines Russes-Petersburg, 1827”. Таксама Штэйнберг у сваім Жыдоўска-Халдэйскім Этымалагічным Слоўніку (1878 г.) выказваецца: “ראש (РАШ) племя скіфскае, згадваемае пры Тыбарэнах і Мосхах, як жыхары поўначы. Яго атаясамляюць з народам русь каля Паўночнага Таўра (Крыма), згадваемага візантыйскімі пісьменнікамі X ст. Арабскі пісьменнік таго ж часу Ібн-Фалдан дае падрабязнае апісанне народа русаў (ראש), які ён асабіста ведаў каля ракі Волга (гл. пераклад Frank'a Petersburg 1823). Із гэтых і іншых падобных дакументаў выяўляецца, што ראש (РАШ) у Іезекі-Іла азначае русаў, продкаў рускага народа. (стр. 436).”

[89] Паходжанне гэтых найменняў растлумачана мной у кнізе “Прарокі” (1-ае выданне стр. 103).

[90] Слова Гог згадваецца акрамя Іезекі- Іла і Апакаліпсіса толькі ў выглядзе асабістага наймення. Напрыклад, “Гог, сын Пасхара (Іярэм-Ія, 38.1)”, “Гог, сын Атыкама (40.1)”, “Хусіа, сын Гога (Сафон-Ія, 1.1)”. Слова Магог, акрамя Іезек-Іла, нідзе ў Бібіліі больш не згадваецца. Слова Раш (ці Русь), акрамя Іезек-Іла, нідзе не згадваецца ў Бібліі. Слова Моск (Мешах), ў Бібліі згадваецца яшчэ раз у Былым 10.2, пры пералічэнні народаў Яўропы. Нідзе, акрамя Апакаліпсіса не прадказваецца нашэсьце Гога (Гуна), г. азн. гэтае месца пасьля апакаліпснага паходжання.

(*зноў усё перапісана з Апакаліпсіса з указаннямі на вывяржэнне Везувія або Этны*)."

"Вось я іду на цябе, Гог (Гун), валадар Русі-Масковіі і Прэдбалканіі!"

Я не буду больш рабіць параўнанняў Апакаліпсіса і Іезекі-Іла, каб не стамляць чытача. Няма ніводнага каларытнага месца ў Апакаліпсісе, не перапісанага тут амаль тымі ж самымі выказваннямі. Выказваючыся дакладнай сучаснай мовай, гэтая кніга на тры чацвёртыя часткі з’яўляецца плагіятам Апакаліпсіса, але плагіят несвядомым. Гэтыя запазычанні зроблены цалкам не для таго, каб выдаць чужое за сваё, а адзіна таму, што аўтар быў пад такім моцным уплывам кнігі Яна, якую ён чытаў сотні разоў, што ўжо сам не заўважаў, як гаворыць па-жыдоўску яе вобразамі і нават фразамі, прачытанымі ім па-грэцку.

Усё гэта тлумачыць нам і падставы паходжання даследуемай намі кнігі. Аўтар Апакаліпсіса прадказаў другое прышэсьце Езуса на 400 год нашай эры (якая, як мы пакажам далей, лічылася не ад нараджэння Хрыста, а была ўсталявана астралагічна) грунтуючыся на злавесным спалучэнні становішчаў планет і сузор'яў, што мела месца 30 верасня 395 г. і згодна з іхным далейшым рухам, які ён прыблізна разлічыў.

Але 400 год прайшоў, не апраўдаўшы забабонных жахаў. Аўтар няўдалага прадказання быў выпраўлены ў спасылку імператарам Аркадзем і памёр там на беразе Чорнага мора, але яго грамавое слова працягвала жыць. Няўдача была растлумачаная тым, што "Вялікі цар", улагоджаны ўсеагульным раскаяннем і хуткім прыняццем хрысьціянства візантыйскімі ўладамі, адклаў свой прыход да наступнага аналагічнага спалучэння планет.

А прыблізна такое спалучэнне самых галоўных планет мелася адбыцца праз 58 гадоў у 453 годзе, і ўсе вернікі і пераследуемыя з нецярпеннем чакалі гэты тэрмін. Да такіх належаў і аўтар даследуемага намі прадказання, якое не толькі дзякуючы маім астранамічным вылічэнням і шматлікім запазычанням із Апакаліпсіса паказвае на сярэдзіну V стагоддзя нашай эры, але таксама – як мы ўжо бачылі – і дзякуючы змешчаным у ім геаграфічным і этнаграфічным ўказанням.

Некаторыя із іх, напрыклад, словы пра Русь-Масковію паказваюць, што Русь, як краіна, была вядомай ужо ў V стагоддзі. Што ж да тлумачальнага дадатку: Масковія, то, прымаючы пад увагу, што Масква зрабілася сталіцай Русі толькі з 1320 г., даводзіцца зрабіць выснову, што гэтая тлумачальная прыбаўка дададзена ў Біблію ўжо ў XIV стагоддзі, а таму і ўсе рукапісы, якія змяшчаюць гэтае імя, нягледзячы на аўтарытэт Тышэндорфа сярод тэолагаў і гісторыкаў, не могуць быць старэйшымі за 500 гадоў, ці ж слова москі паходзіць ад назвы рускіх мужыкамі, прычым "*ж*" перайшло ў грэкаў у "*с*".

Такім чынам, няма сумневаў, што першая частка біблейскага прадказання "пераможа бог", па-жыдоўску "Іезекі-Іл", напісана ў 453 годзе, калі ў Візантыі валадарыў Маркіян, пераемнік Аркадзя. Месца складання таксама невядома, бо па рацэ Хабур аўтар толькі падарожнічаў. Ён жыў у якім-небудзь культурным цэнтры таго часу: у Візантыі, Антыёхіі або ў Александрыі Ягіпецкай.

У загалоўку ён названы бен-Вуз, і гэта добра адпавядае арабскаму звычаю называць людзей згодна з імем бацькі з дадаваннем "бен" да імя бацькі, падобна нашаму найменню па-бацьку – Мікалаевіч, Пятровіч, прычым ўласнае імя пры такім "называнні" па-арабску адкідваецца. Але слова "вуз" па-жыдоўску азначае: ганьба, зьнявага, і ледзь ці якая-небудзь маці назвала б так сваё дзіця. Магчыма,

гэта грэцкае Базілеўс (Васіль). У такім выпадку бен-Вуз будзе азначаць – пасьлядоўнік Васіля Вялікага, якога мы ўжо атаясамілі з евангельскім Хрыстом, г. азн. адзін із "апосталаў".

Цікава яшчэ адзначыць, што, нягледзячы на тое, што аўтары чатырох евангелляў і іхныя пазнейшыя рэдактары надзвычай паважаюць цытаваць біблейскіх прадказальнікаў, аднак, у іх няма ніводнай цытаты із такога шырокага і выдатнага прадказання, як Іезекі-Іл.

# Глава VI.

## Біблейскае прадказанне "Памятае Грамабой" (Захар-Ія).

(Кніга Бэн-Барахіі Бэн-Эду, 453-466 гг. нашай эры.)

"Я стаяў у ціхім маўчанні начнога ярка-зялёнага неба, і я бачыў у аддаленні як бы ў сне, у бляску месячнай ночы вялікага генія Ньютана, седзячага пад яблыняй. Вось два яблыкі ўпалі каля яго ног, і яго думка панеслася ў аддаленыя прасторы і аб'яднала тое, чаго ніхто із смяротных да яго не аб'ядноўваў. Ён зразумеў, што калі б якая-небудзь вялікая магутнасць кінула гэты яблык у бок з велізарнай хуткасьцю, то яно б пайшло настолькі вялікай дугой, што ўжо вечна круцілася б вакол зямлі і ніколі б не змагло зваліцца на яе паверхню. І ён зразумеў, што і Месяц упаў бы, як камень, на зямлю, калі б вялікая магутнасць не кінула яго ў бок на пачатку ўзнікнення гэтых абодвух сусветаў. Ён зразумеў закон сусветнага прыцягнення".

Скажыце, чытач, вы б паверылі, калі б хто-небудзь сказаў, што гэты ўрывак быў напісаны нейкім прадказальнікам Захарыяй за 2200 гадоў да Ньютана і яго вялікага адкрыцця? Я думаю, што як бы глыбока вы ні былі перакананы, што Захарыя быў боганатхнёным прадказальнікам, але вы ўсумніліся б у гэтым і падумалі б, што прыведзены мной урывак напісаны мной самім або кім-небудзь із іншых пасьлядоўнікаў Ньютана ўжо ў той час, калі легенда пра тое, быццам бы ён зрабіў сваё адкрыццё менавіта такім шляхам, склалася або складалася.

Але чаму ж у такім выпадку не прыходзіць вам у галаву не меншы сумнеў, калі вы чытаеце не толькі ў рускім перакладзе, але і ў грэцкім царкоўным і ў іудэйскім тэкстах падобную главу гэтага ж самага прадказальніка (гл. III), пра якога кажуць, быццам бы ён жыў за 520 гадоў да нараджэння Езуса.

"І паказаў мне ён (*апавяшчальнік неба*) Езуса, вялікага іярэя (*у сімвале Змеятрымальніка*), які стаяў перад вечнаіснуючым вястуном (*Сонцам*), і сатаной (*Сатурнам*), знаходзіўшымся праваруч ад яго[91], каб проціздзейнічаць яму.

І прамовіў Грамабой сатане:

"Забараняю табе я, сатана! Забараняю табе я, ушанаваўшы сьвяты горад! Ці не галавешка ён, выцягнутая із полымя?"

Езус жа быў апрануты ў запэцканую вопратку (*із аблокаў, а пазней было, як пабачым далей, і прыватнае сонечнае зацьменне ў Вадалеі пры Сатурне-сатане ў Скарпіёне*)...

"Зніміце з яго запэцканую вопратку, – *прамовіў усюдыісны анёл* і, павярнуўшыся да яго, дадаў: – я зняў з цябе грэх і апрану цябе ў вопратку чыстую"...

---

[91] Лічачы, што Змеятрымальнік павёрнуты тварам да зямлі.

"І ўсклалі чысты цюрбан[92] на яго галаву і зноў апранулі яго ў вопратку"...

"І абвясьціў вечнаіснуючы анёл Езусу: "Паслухай Езус, вялікі іярэй, ты і твае сабраты, якія стаяць перад табой, бо яны служаць правобразам: вось я прывяду "Падлетка"[93], майго слугу (*Яна Багаслова*), і вось кладу камень (*па-грэцку "Пятро"*) перад Езусам. На гэты Камень (*Пятра*) накіраваны сем вачэй (*сем першых хрысьціянскіх цэркваў Апакаліпсіса*). Я напішу на гэтым камені (Пятры) пісьмёны мае і згладжу грэх гэтай зямлі ў адзін дзень" (Зах. **3**, 1-9).

Параўнайце толькі гэтае месца са словамі Езуса Пятру: "На камені гэтым ствару царкву маю і брамы пякельныя не адолеюць яе" (Евангелле Мацвея, 16, 18).

Хіба тут не намаляваны Езус з яго двума апосталамі-багасловамі, Янам і Пятром?

А вось і яшчэ месца ў шостай главе таго ж прадказання Захарыі, быццам бы пісаўшага за 500 гадоў да нараджэння Езуса:

"Вазьмі (*у перасяленцаў*) срэбра і золата, зрабі з іх вянкі і пакладзі іх на галаву Езуса, вялікага іярэя, сына праўды божай, і скажы яму: так кажа гаспадар нябесных ваяроў: вось чалавек, імя якога "Падлетак". Ён вырасьце із сваёй глебы і створыць храм свайму гаспадару... і будзе сьвятаром на сваім пасадзе (*як Ян быў Канстантынопальскім першасьвятаром*), і мір і рада будуць паміж абодвума (*г. азн. паміж Янам Багасловам і вялікім першасьвятаром Езусам, або паміж Янам і Пятром, тут сказана незразумела*) "(Зах. **6**, 10-13).

Сцвярджаць, што гэтыя два месцы прадказання "Захар-Ія" не маюць дачынення да евангельскага Езуса, – усё роўна, ці з'яўляецца ён сапраўды існаваўшай асобай ці напалову прыдуманай евангелістамі, – гэта так жа наіўна, як і сказаць, што я напісаў вышэйпрыведзены ўрывак пра Ньютана, цалкам не маючы на ўвазе ні гэтага вялікага навукоўца, ні закона прыцягнення, а проста наўгад. Вядома, багатая і таямнічая падсвядомая дзейнасць чалавечага мозгу дае нам вядомую магчымасць прадбачыць будучыя гістарычныя падзей агульнага характару. Аднак, ніяк нельга сцвярджаць, каб нават і сучасныя геніяльныя людзі, у якіх гэты дар прыроды развіты ў шмат дзясяткаў разоў мацней, чым у прадстаўнікоў старажытнай інтэлігенцыі, маглі прадказваць дэталі прыватнага жыцця яшчэ не народжаных людзей і нават самыя імёны, якія тыя будуць насіць.

Такім чынам, ужо адно апошняе месца прадказання "Захар-Ія", якое ў перакладзе на нашу мову азначае "Памятае Будучы", і аўтар якога ў старажытных грэцкіх крыніцах мае назву "Серпавідец" (*г. азн. набыўшы галоўную частку свайго натхнення ў сярпе месяца, які выйшаў вечарам пасьля маладзіка із-за сонца*), паказвае, што яно напісана менавіта пра Езуса і ўжо пасьля яго слупавання, г. азн. не раней V стагоддзя нашай эры і ўключана ў габрэйскую Біблію із хрысьціянскай крыніцы.

І сапраўды, ўплыў Апакаліпсіса і тут заўважаецца, як у "Іезекі-іле", на кожным кроку.

Гэтую кнігу да гэтага часу лічылі творам нейкага Захарыі, які напісаў яе быццам бы паміж 520 і 518 гадамі да пачатку нашай эры, г. азн. прыблізна праз 70 гадоў пасьля напісання кнігі "Іезекі-Іл", напісанне якая адносіцца тэолагамі да 595-574 гг. да пачатку нашай эры. Але пра жыццё такой асобы таксама няма ніякіх іншых дакладных звестак, акрамя загалоўка самога гэтага прадказання. А гэты

[92] צניף (ЦНІП), цюрбан, сугучна צנין (ЦНІН) – цёран (Лічбы, 33, 35).

[93] צמה (ЦМЕ) – парастак, а пра людзей падлетак, юнак.

загаловак азначае проста "Памятае Грамабой"[94] і з’яўляецца рэзюмэ зместу самой кнігі, падобна ўсякаму іншаму загалоўку.

Вось яна, як і Іезекі-Іл, распавядае пра адно і тое ж: нейкі "Будучы гаспадар" яшчэ не забыўся пра сваё абяцанне прыйсьці да чакаючых яго: ён толькі адклаў свой прыход, каб пакараць іх за няверра.

Я, перш за ўсё, звярну ўвагу чытача на гэтыя словы "Гаспадар Грамабой" (Адні-Іеуе)[95], пастаянна ўжываемыя ўсімі біблейскімі прадказальнікамі. Гэта не бог – стваральнік нябёсаў і зямлі. Стваральнік сусвету па-жыдоўску пішацца заўсёды так жа, як і па-арабску, АЛ, што азначае магутны[96], або Ал-Алеім – бог багоў[97] (магутны із магутных), або прама Алеім, г. азн. багі (магутныя) ў множным ліку, як у першай Кнізе Быцця. У прадказальнікаў жа гэтае слова ўжываецца надзвычай рэдка, хаця яны яго і добра ведаюць. Напрыклад, ва ўжо разабранай намі кнізе "Іезекі-Іл" мы сустракаем яго ў главе восем: "І там была бачная слава бога (Алеі) багазмагальнікаў" (*г. азн. ранішняе світанне*, **8**, 4), або ў главе дваццаць восьмай: "Ці скажаш ты перад сваім забойцай: я бог (Алеім), хаця перад рукой цябе забіваючага, ты чалавек, а не бог (Ал)".

Дакладна так жа знаходзім мы гэтае слова і ў іншых прадказальнікаў, калі яны пазначаюць стваральніка сусвету наогул. Але кожны раз, калі яны прадказваюць пра кагосьці, каго яны чакаюць як свайго выратавальніка і які не спяшаецца да іх прыходзіць, каб пакараць іх за нявер'е ў яго, яны не называюць яго богам, а толькі гаспадаром Грамабоем (Адні Іеуе) або будучым ад Сонмішч нябесных (Іеуе Цбаут). Гэта старажытнае напісанне перакладчыкі або пакідаюць неперакладзеным, прамаўляючы яго Іегава Саваоф, ці перакладаюць выразам "бог ваяроў". Але такі пераклад няправільны. Біблейскі "бог" прадказальнікаў ніколі не меў нічога агульнага з грэцкім Марсам, заступнікам ваяроў і змаганняў. Напісанне Цбаут (сонмішча) у жыдоўскай мове хоць і ўжываецца, між іншым, у сэнсе "чалавечых рушанняў", але ў Бібліі яго пастаянна даводзіцца разумець ў астральным сэнсе. Так, у другой жа главе Кнігі Быцця паведамляецца, што неба і зямля, і, усе *сонмішча* (ЦБАУТ) іх былі створаны за шэсць дзён (**2**, 1), а ў Кнізе Шыфраў (Лічбаў) аўтар выказваецца:

"Калі ты зірнеш на неба і пабачыш сонца і месяц, і зоркі, і ўсе сонмішча нябесныя, не спакусіся імі і не памаліся ім" (Лічбы **4**.19).

Сапраўды так жа ў прадказанні "Іса-Ія":

"Падніміце вашы вочы да неба і паглядзіце: хто стварыў гэтыя зоркі? Той, хто лічыць іхныя сонмішчы і які называе іх усіх па імёнах" (40-26).

А жыдоўскае напісанне Іеуе, якое перакладчыкі Бібліі прамаўлялі як Іегава і пераклалі ўсюды на нашу мову гасподзь (як гэта вы і сустрэнеце амаль у кожным радку ў прадказальнікаў у нашай Бібліі), лічаць за будучы час ад дзеяслова быць (еуе)[98]. У латынян яно ператварылася ў Іёвіса (Юпітэра), а ў грэкаў у Зеўса (або само ўтварылася ад іх).

---

[94] זכר־יה (ЗКР-ІЕ) – памятае Іегава.

[95] אדני־יהוה (АДНІ-ІЕУЕ) – спадар Грамабой.

[96] ה־אלי (Е-АЛ), кн. Быція 31.13.

[97] אל־אלים (АЛ-АЛІМ) – бог багоў.

[98] הוה (ЕУЕ) – быць יהוה (ІЕУЕ) – буду, а ўскосна: той хто будзе, з’явіцца. Я перакладаю: маючы з’явіцца (з нагоды цяжкасьці знайсьці лепшае выказванне на нашай мове) ці Грамабой, так жа выразна, што Іеве ёсць тое ж самае імя, як і лацінскае Іёвіс (Iovis), г. азн. Юпітэр-Грамабой і грэцкае – Зеўс.

Але хто ж такі гэты "спадар Грамабой", пра прыход якога абвяшчаюць ўсе прадказальнікі?

Ён нават як-быццам і не бог, а нешта сярэдняе паміж богам і чалавекам. Самі вернікі ў яго, відаць, расчараваліся ў яго прыходзе і гэтым пакрыўдзілі яго. Ён не хоча да іх за гэта ісьці да таго часу, пакуль яны, зведаўшы за сваё нявер'е цяжкія нягоды і выпрабаванні, не адумаюцца. Толькі тады ён выканае сваё абяцанне вярнуцца, ён ўзьвялічыць тых, хто быў яму да канца верны, і жорстка пакарае і зьнішчыць скептыкаў.

Гэта нейкі асабліва таямнічы Грамабой, накшталт прадказальніка Іллі. Вернік не меў права нават прамаўляць услых напісання яго імя і кожны раз, калі сустракаў пры чытанні слова ІЕУЕ, ён павінен быў прамаўляць яго – Адонай, г. азн. гаспадар, як у Евангеллі вучні называлі паміж сабой Езуса, і як звярталіся на жыдоўскай мове да людзей прывілеяванага становішча.

Вось чаму і ў складаных словах, у якія ўваходзіла слова ІЕВЕ, яно і не вымаўлялася да канца і ў напісанні пісалася як ІЕ (ІЯ) ці нават проста І ці Ю, як у слове Ю-пітэр (Jovis Pater). У такім выглядзе мы і сустракаем яго ў загалоўку доследуемай намі біблейскай прадказальнай кнігі.

Слова "Захар-Ія" тут напісана замест "Захар Іеуе" ці "Захар Іегава", г. азн. памятае Грамабой.

Усе гэтыя лінгвістычныя нататкі тут неабходны для таго, каб чытач мог выразна пабачыць, што "Грамабой", якога чакаюць прадказальнікі, не мае дачынення да нейкага старажытнага, дахрысьціянскага бога, а да пасьля апакаліптычнага, да таго, які ў першай главе Апакаліпсіса сказаў Яну Хрызастому ў громе буры і хваляў на востраве Патмас 30 верасня 395 года: "Я першая і апошняя літара алфавіту. **Я той, хто быў, ёсць і прыйду**". Слова Іегава гэта толькі пераклад грэцкага выказвання "Апакаліпсіс" на жыдоўскую мову.

Ужо адно толькі пастаяннае ўжыванне яго ў прадказанні "Захар-Ія" паказвае, што яно пасьля апакаліптычнага паходжання. Сам стыль яго, як і стыль "Іезекі-Іла", паказвае на тую ж самую эпоху, той жа самы светапогляд.

Вось, напрыклад, некалькі вытрымак із разглядаемай намі зараз кнігі.

## Гараскоп главы VI.

"Я падняў мае вочы да неба і пабачыў на ім чатыры калясьніцы, выходзіўшыя із цясьніны паміж двух гор (*г. азн. чатыры планеты паміж двума адгалінаваннямі Млечнага Шляху, узнімаючыяся із-за гарызонта са Змеятрымальнікам перад імі*). Гэта былі горы Змея[99]. У першай калясьніцы былі запрэжаны чырвоныя коні, у другой цьмяныя, у трэцяй белыя, у чацвёртай плямістыя, магутныя. Гэта ішлі чатыры духі нябёсаў, перад ўладаром усёй зямлі "(**6**, 1-5).

Пры параўнанні з Апакаліпсісам не цяжка заўважыць, што гаворка тут ідзе пра чырвонага каня – Марса, пра жудаснага, цьмянага Сатурна, пра белага Юпітэры і пра плямісты, вялікі параўнальна з імі, серпападобны Месяц, так як Сонца павінна было знаходзіцца блізка тут жа, таму што назіранне носіць зімовы характар. Нездарма аўтар называецца "Серпавідцам". Ўзгадаем, што ад сярэдніх стагоддзяў і да найноўшых часоў і Сонца і планеты па-мастацкі прадстаўляліся не толькі конямі, як у Апакаліпсісе і на старажытных манетах, але і вершнікамі, якія

[99] נחשת і נחש (НХШТ і НХШ), пры гэтым НХШ – азначае Змей, а НХТШ азначае – медны. Абодва словы ў спалучэнні гэта біблейскі медны змей, якога некалі шанаваў “абраны божы народ”.

скачуць па небе ў калясьніцах, запрэжаных некалькімі коньмі. А пры параўнанні з папярэднім прадказаннем – Іезекі-Ілам – не цяжка пабачыць, што і гэта – гараскоп.

Цясніна Змея ў Медны гарах Млечнага Шляху, каля якой яны знаходзіліся, з'яўляецца, несумненна, адзінай цяснінай на нябесным скляпенні (мал. 62), так як іншых расколін няма ў абрысах начных свяцілаў, ды і сам Млечны Шлях, цягнучыся праз усё неба, хутчэй нагадвае горны хрыбет меднаватага колеру, чым раку, якая напоўнена малаком і мёдам, як пра яго таксама сцвярджаецца ў іншых месцах Бібліі пры апісанні "запаветнай зямлі", г. азн. нябеснага "царства вернікаў".




Мал. 62. Горы Змея. Два адгалінаванні Млечнага Шляху ў сузор'і Змеятрымалніка (Astrognosia XVI ст. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі).

"Цьмяныя коні, – працягвае далей аўтар, – ішлі на поўнач, белыя накіроўваліся за імі (*г. азн. накіроўваліся ў паўночнае паўшар'е неба*), калючыя (*Марс*) кіраваліся (*папятна*) на поўдзень, а хуткія (*Месяц*) аддзяліліся ад астатніх, каб абыйсьці ўсю зямлю "(Зах. **6**. 1-7).

Чытач сам бачыць, што гэта проста перапрацоўка коней Апакаліпсісу. Нават і нумарацыя гэтай главы тая ж самая: "шостая глава", у якой і ў Апакаліпсісе гаворыцца: "Вось выйшаў белы конь (*Юпітэр*), і ў седзячага над ім (*сузор'е Стралка*) быў лук у руках"... "Па іншы бок пайшоў вогненна-чырвоны конь (*Марс*), і седзячаму над ім (*сузор'ю Персея*) быў дадзены вялікі меч". "А ў седзячага на цёмным кані (планеце-невідзімцы Меркурыя) былі ў руцэ Шалі" (Ап. 6).

Дакладна так жа тут не забыта і навальнічная хмара, апісаная Янам ў выглядзе скрутка, і яго сем залатых хмарных чарак, і жанчына, якая сядзіць на барвовым звяры вячэрняга зарыва. Вось што сказана ў Апакаліпсісе:

"У нядзелю мяне ахапіла натхненне, і я чуў (у шуме хваляў на востраве Патмас) ззаду сябе магутны голас, які гучаў як труба:

– Я першая і апошняя літара алфабэта, пачатак і канец.

Я азірнуўся на гэты голас і вось пабачыў (*у абрысах аблокаў, паміж якімі праглядала сонца*) сем залатых светаносных чарак, а пасярод іх вогненнае падабенства чалавечай істоты, апранутай у белую вопратку іудэйскіх першасьвятароў і аперазаную пад грудзьмі залатым поясам. Яе вочы былі як вогненнае полымя. Яе ногі (*слупы прамянёў, прабіваючыяся на зямлю скрозь хмары*) былі падобныя да бронзы, распаленай у печы. Голас жа яе быў шумам шматлікіх хваль "(Ап. **1**, 10-15).

А вось і адлюстраванне ўсяго гэтага ў кнізе "Захар-Ія" (што азначае па-жыдоўску: "памятае Грамабой"):

"Калі я апамятаўся ад сваёй задумёнасьці, быццам ад сну, вось з'явіўся ў постацях хмар (*ад прасветаў закрытага імі сонца*) сьвяцільнік, увесь із золата, і кубачак для масла наверсе яго і сем лампад, на ім, і ў лампадах па сем трубачак, выліваючых із сябе золата, і дзве аліўкавыя галінкі (*таксама із хмар*), адна з правага боку чашачкі, а другая зь левага..."

"Гэта знак Грамабоя (*сімвал Езуса*) "Чужога браме божай" (*г. азн. Змеятрымальніку, у якім было тады Сонца каля брамы Млечнага Шляху*), што ён пераможа не войскам і не магутнасьцю, а божым надхненнем. Рукі "Чужога браме божай" утварылі аснову гэтай харомiны нябёсаў, і яго ж рукі закончаць яе. І хто зможа з пагардай лічыць малаважным гэты дзень, калі радасна глядзяць на будаўнічы адвес (*нябесны мерыдыян*) у яго руцэ ўсе сем вачэй Грамабоя (*планет*), якія абдымаюць (*сваім вечным кручэннем* ) усю зямлю (**2**, 2-10).

"І вось разгарнуўся скрутак (*цёмная хмара перад Сонцам*). Даўжыня яго была дваццаць локцяў (*дзесяціградусных прамежкаў*), а шырыня дзесяць локцяў. Гэта быў сімвал праклёну, сыходзячага на твар зямлі. З'явілася (*у аблоках*) Чарка, і ў ёй нейкая жанчына. Гэта была сама бязбожнасьць (*візантыйская царква таго часу*), і была яна кінута на дно сваёй чаркі, а адтуліна чаркі была прыкрыта свінцовым зліткам (*сіняватай навальнічнай хмарай*).

"І з'явіліся (*у аблоках*) яшчэ дзве жанчыны з крыламі як у бусла, і вецер імчаўся ў іхных крылах. Яны падняла Чарку (мал. 63) паміж небам і зямлёй і панеслі яе ў Зямлю "брамы господняй (*да цясьніны Млечнага Шляху*), каб там паставіць яе на яе сапраўднае месца "(5, 1-11).




Мал. 63. Сузор'е Гідры з прычашчальнай Чаркай і воранам на спіне. Згодна з Грынбергам.

Няўжо не нагадвае вам усё гэта, хоць і ў блеклым адлюстраванні, велічную выяву ў XVII главе Апакаліпсіса?

"Пойдзем, – прамовіў там апавяшчальнік неба, – я пакажу табе прысуд над вялікай самапрадажніцай, якая сядзіць на шматлікіх хвалях-народах (*візантыйская царква)*. Яе куплялі цары зямныя, і напоены насельнікі зямлі віном яе амаральнасці". "І ён адвёў мяне ў захопленым стане ў пустыннае месца, адкуль я пабачыў (*у сілуэтах аблокаў на вогненным фоне вячэрняга зарыва*) жанчыну, якая сядзела на барвовым сямігаловым зверы з дзесяццю рагамі, напоўненым сімваламі блюзнерства (*сузор'ем Самкі Гідры са стаячай на ёй прычашчальнай чаркай*). І

была гэтая жанчына апранута ў парфіру і ў пурпур (*вячэрняга зарыва*) і аздоблена золатам, і жэмчугам, і каштоўнымі камянямі"[100].

Дакладна так жа не забыты і вымяральны кій Апакаліпсісу. Там было сказана:

"Мне было выкінута морам трысняговае сцябло, падобнае на кій.

– Падбяры яго – загадаў мне пасланнік буры ў хмарнай вопратцы (*апускаючыся на гарызонце ў мора*) – і памерай ім пазней жыллё бога (*неба*) і сузор'е Ахвярніка і палічы штодня схіляючыхся ў божым жыллі "(*зоркі*, Ап. 11, 1).

А тут вось якім чынам распавядаецца гэтае месца:

"Я зламаю свой першы (*г. азн. апакаліптычны*) вымяральны кій, – прамовіў Грамабой, – пяро ласкі (*нябесны мерыдыян*), у знак разрыву хаўруса, зладжанага мной з усімі цэрквамі, і скажу ім:

"Аддайце мне плату, за якую вы прадалі мяне!"

І яны адважаць мне трыццаць сярэбранікаў – выдатны кошт, у які яны ацанілі мяне!

І я кіну іх ў іхнае царкоўнае скарбасховішча" (**11**, 10-12).

Я зьнішчу нават самі імёны (*царкоўных*) малюнкаў я выдалю з твару зямлі ўсіх іх ілжэпрадказальнікаў і іх нячыстае натхненне. І пасаромеюцца іхныя прадказальнікі сваіх прадказанняў і не стануць для падману апранаць на сябе валасяныя накідкі. Яны скажуць выратавальніку: "Праз што гэтыя раны на тваіх далонях?" А ён ім адкажа: "Мяне білі ў доме тых, хто паважае мяне". О, меч! (*Камета Галея, якая прайшла ў сузор'і Панны пад Валапасам у ліпені 451 года нашай эры, пры сонцы ў Раку*) Паўстань на пастыра (*Валапаса*), на сваяка майго! Забі яго, і хай расьсеюцца яго авечкі (*зоркі*). Дзве часткі іх будуць вынішчаны (*полымем світання пры вераснёўскім праходзе пад імі Сонца),* а трэцяя застанецца над зямлёй. Я правяду гэтую частку праз полымя (*ранішняга світання і вечаровага зарыва*) і ператаплю яе, як срэбра, і накладу на яе пробу, як на золата. Належачыя да яе будуць заклікаць маё імя, і я пачую іх і адкажу: "Гэта мой народ". А яны адкажуць мне: "Ты наш Будучы бог" (**13**, 2-9).

"І стануць мае ногі на Гары масліны (*Млечным Шляху*), на ўсходзе ад Сьвятога горада (*сузор'я Панны*), і раздвоіцца Гара масліны (*Млечны Шлях*), і зробіцца ў ёй вялікая даліна (мал. 61) ад усходу (*неба*) да захаду, і пабяжыце вы, усе часовыя пасяленцы ў ёй (*у сімвале пёрыстых аблокаў*), паміж маімі гарамі да самага краю, як беглі ад землятрусу ў дні віцязя Грамабоя, валадара ўсіх славячых яго.

І не будзе ў той дзень сонечнага сьвятла, а толькі холад і загушчэнне паветра. І гэта будзе адзіны дзень, вядомы толькі Грамабою: ні дзень, ні ноч, толькі вечарам з'явіцца сьвятло" (*намёк на маючае адбыцца вячэрняе сонечнае зацьменне 24 лютага 453 г.*).

Мы бачым у гэтым заканчэнні ўжо не толькі запазычанні із Апакаліпсіса, але і некалькі указанняў на жыццё Езуса, паведамляемых у Евангеллях. Такімі з’яўляюцца словы пра яго продаж за 30 срэбранікаў, пра што дакладна таксама выказваецца Евангелле Мацвея (26,15), тады як гэтай дэталі няма ні ў адным із іншых Евангелляў. Такімі ж з’яўляюцца словы пра раны ад "укрыжавання" на яго далонях, пра землятрус, быўшы пры "Вялікім цары" (*Васіля Вялікім*), і няправільны намёк на сонечнае зацьменне, якога павінна чакаць пры яго другім прыходзе, як на гэта намякае Апакаліпсіс (**6**, 12).

---

[100] Гл. мой пераклад Апакаліпсіса ў кнізе “Адкрыццё ў навалніцы і буры” 1907 г.

Усё гэта – чуткі і апавяданні, якія хадзілі пра "Вялікага цара" на пачатку V стагоддзя, і ўвесь царкоўны жывапіс Візантыі з гэтага часу поўніцца такімі сюжэтамі (а да V стагоддзя іх цалкам не існавала).

Але, акрамя гэтых чутак, ні аўтар "Іезекі-Іла", ні аўтар "Захар-Іі" нічога не паведамляюць нам пра жыццё "Вялікага цара", як да, так і пасьля яго слупавання. Яны абодва толькі чакаюць з нецярпеннем яго новага прыходу па прыкметах, дадзеных у Апакаліпсісе: па сыходжанню некалькіх планет у сузор'і Скарпіёна.

Прадказанне "Захар-Ія", нязначнае па сваёй велічыні і зместу, носіць усе сляды перайманне не толькі апакаліпсіса, але і "Іезекі-іла". Яно павінна было быць, як прызнаюць і тэолагі (памылкова памяшчаючыя абедзве кнігі ў дахрысьціянскую эпоху), напісана амаль аднinformatie з "Іезекі-Ілам".

Паспрабуем жа вылічыць яго час.

У парадку калясьніц, пазначаных у 6 главе гэтага прадказання, маем:

1-я калясніца з канямі чырвонымі (па-жыдоўску АДМ).

2-я калясніца з цьмянымі (ШХР).

3-я з белымі (ЛБН).

4-я з плямістымі моцнымі (БРД-АМЦ).

Тут несумненна, што коні чырвоныя – Марс, белыя – Юпітэр і плямістыя, моцныя – Месяц, а адносна магчымасьці тлумачэння цьмяных як Меркурыя, па аналогіі з яго прадстаўленнем ў Апакаліпсісе як цёмнага (*нябачнага*) каня, можна моцна сумнявацца, менавіта таму, што Меркурый, заўсёды блізкі да сонца, абыходзіць з ім усё неба кожны год і таму выконвае толькі дапаможную, а не кіруючую ролю ў астралагічных прадказаннях і гараскопах агульнага характару. Цяжка дапусціць, каб аўтар у сваім пералічэнні прапусьціў галоўнага кіраўніка па стагоддзях – Сатурн і замяніў яго нябачным Меркурыем. Таму слова "Конь змрочны"[101] – тут павінен быць Сатурнам.

У такім выпадку мы зараз жа атрымліваем магчымасць дакладнага і самастойнага вызначэння часу гэтага прадказання. Із табліцы XI мы бачым, што першае сыходжанне Сатурна і Юпітэра ў Цясніне Млечнага Шляху, дзе стаіць Змеятрымальнік і выгінаецца Зьмей, было ў 453 годзе. Глава I прадказання дае нам і дзень назірання: 21 дзень адзінаццатага месяца (*г. азн. студзень*). Гэта згодна з нашым сучасным злічэннем быў яшчэ вечар 23 студзеня. Сонца тады было ў Казярогу, і перад яго ўзыходам наперадзе ўсіх ішлі па сваёй арбіце чырвоныя коні Марса, за імі змрочныя Сатурна, за імі, амаль побач, белыя Юпітэра, а плямістыя коні Месяца, ужо абагнаўшага да гэтага часу ўсіх, напярэдадні былі ў гэтым жа цесным гурту Марса, Юпітэра і Сатурна. Г. азн., справа адбывалася дні за тры ці чатыры да маладзіка, і зрабіўшы вылічэнні, мы, сапраўды, знаходзім, што маладзік быў як раз праз тры дні пасьля пазначанага тут 23 студзеня. Ён быў 26 студзеня 453 года. Гэта быў той жа год, у які назіраў і аўтар кнігі "Іезекі-Іл", праз паўтара года пасьля з'яўлення чэрвеньскай каметы 451 года, але аўтар "Захар-Іі" назіраў дадзеную канстэляцыю за палову года да аўтара "Іезекі-Іла" і, верагодна, быў яго вучнем. Табл. XI паказвае становішча свяцілаў *вечарам 23/24 студзеня 453 года*, пазначанае ў VI главе "Захар-Іі".

Табліца XI.

| Сатурн | Юпітэр | |
|---|---|---|
| 13,08 | 14,50 | |
| 42,54 | 38,23 | |

[101] שחר (ШХР) – змрочны.

| | | |
|---|---|---|
| 72,00 | 73,81 | |
| 101,45 | 97,54 | |
| 130,91 | 133,12 | |
| 160,37 | 156,85 | |
| 189,82 | 192,43 | |
| 219,28 | 216,16 | Сыходжанняў няма |
| 248,74 | 251,74 | |
| 278,20 | 275,47 | |
| 307,65 | 311,05 | |
| 337,11 | 334,78 | |
| 366,56 | 370,56 | |
| 396,02 | 394,09 | |
| 425,48 | 429,67 | |
| 454,95 | 453,4 | У 453 годзе першае сыходжанне Сатурна і Юпітэра ў Змеятрымалніку. У гэтым годзе 24 лютага было сонечнае зацьменне ў сузор'і Вадалея (у Рыме). |
| 484,40 | 488,98 | |
| 513,83 | 512,70 | У 512 г. другое сыходжанне. |
| 543,31 | 548,29 | |
| 572,77 | 572,01 | У 572 г. трэццяе сыходжанне. |
| 602,22 | 607,60 | |
| 631,68 | 631,32 | У 631 г. чацвёртае сыходжанне. |
| 661,14 | 666,91 | |
| 690,59 | 690,63 | У 690 г. пятае сыходжанне. |
| 720,05 | 726,22 | |
| 749,51 | 749,94 | У 750 г. шостае сыходжанне. |
| 778,97 | 773,67 | |
| 808,42 | 809,25 | У 809 г. сёмае і апошняе да XV ст. |
| 837,88 | 832,98 | |
| 867,33 | 868,56 | |
| 896,79 | 892,29 | |
| 926,25 | 927,87 | |
| 1014,62 | 1010,91 | |
| 1044,08 | 1046,50 | |
| 1073,54 | 1070,22 | |
| 1102,99 | 1105,81 | |
| 1132,45 | 1129,53 | Сыходжанняў няма |
| 1161,91 | 1165,12 | |
| 1191,36 | 1188,84 | |
| 1220,82 | 1224,43 | |
| 1250,28 | 1248,15 | |
| 1279,74 | 1283,74 | |
| 1309,19 | 1307,46 | |
| 1338,65 | 1343,05 | |
| 1368,10 | 1366,77 | |

*Сыходжанні планет у Змеятрымальніку.*

Акрамя таго, за паўтара года перад тым камета Галея праходзіла із Цяляці ў Панну пры Сонца знаходзіўшымся каля Цяляці, і ў гэтым самым 453 годзе 24 лютага мелася адбыцца сонечнае зацьменне, бачнае ў Рыме і па ўсёй Гішпаніі, на працягу якога зайшло Сонца. Ні ў Візантыі, ні ў Ягіпце, ні ў Месапатаміі яго не было відаць, але яно магло быць чакаемым і там пры адсутнасьці дакладных спосабаў вылічэння.

Для большай выразнасьці я тут прыкладаю схему размяшчэння планет па сузор'ях на 23 студзеня 453 г., за месяц да сонечнага зацьмення 23 лютага 453 года (табл. XII).

## Табліца XII.




| | Даўгата. |
|---|---|
| Сатурн у Скарпіёне | каля 237° |
| Юпітэр у Скарпіёне | каля 238° |
| Марс у Скарпіёне | каля 244° |
| Венера ў Вадалею | каля 335° |
| Меркурый у Казярогу | каля 317° |
| Сонца ў Казярогу | каля 306° |
| Месяц перайшоў са Скарпіёна ў Стралка | каля 266° |

Такім чынам, і тут астраномія выявілася надзейным павадыром пры нашым падарожжы ў цёмныя глыбіні часоў. Без яе і мы таксама б збіліся на гэтым паросшым бадыллем, звілістым і заблытаным шляху, як збіліся аўтары Эпохі Адраджэння, ад якіх мы атрымалі нашы веды пра першыя пачаткі чалавечага культурнага жыцця. Астраномія ўдакладніла нам нават і саму ноч назірання аўтара, **апісанага ў І главе**, і ўсё ў гэтай ночы (калі Сонца узыходзіла ў сузор'і Казярога, каля 306° экліптычнай даўгаты) адпавядае апісанню, якое мы прывялі.

Калясніца з цьмянымі канямі (Сатурна) "ішла да краіны паўночнай", г. азн. Сатурн на сваім арбітальным шляху ішоў вышэй экліптыкі. Калясніца з белымі канямі Юпітэра сапраўды ішла следам за Сатурнам таксама на поўнач ад экліптыкі. Калясніца з хуткімі канямі – Месяц – сапраўды хутка ішла за ім, міма клюшні Скарпіёна ў цясніну Млечнага Шляху, каб абыйсьці астатнюю зямлю, а калясніца з чырвонымі конямі – Марс – сапраўды, як і пазначае аўтар, ішла на поўдзень ніжэй экліптыкі.

Такім з’яўляецца гараскоп у VI главе кнігі "Захар-Ія". Але ў ёй існуе і іншы гараскоп, у яе першай главе, якая пачынаецца так:

"У 24 дзень адзінаццатага месяца (*студзеня згодна з візантыйскім злічэннем, да якога блізка і іудэйскае месяцовае*) бачыў я ноччу: вось Велічны муж (*Змеятрымальнік*), знаходзячыся ў шатры нябёсаў паміж двума адгалінаваннямі (*Млечнага Шляху*), сеў на барвянога каня (*Меркурыя*) паміж гэтымі адгалінаваннямі, а ззаду яго былі коні чырвоныя (*Марс*), стракатыя (*Месяц*) і белыя (*Юпітэр*).

– Ім загадана, – паведаміла мая чароўная навука, – абысьці вакол ўсю зямлю, і яны абышлі яе і зараз даюць Вечна-існаму (*Сонцу*) справаздачу, што ўсе на зямлі спакойна. А ён усклікае да Грамабоя: "О ты, Маючы З’явіцца з нябеснымі сонмішчамі! Ці доўга яшчэ не злітуешся над сваёй сталіцай Сьвятым горадам і над гарадамі славячымі цябе, на якіх ты сердзішся ўжо семдзесят гадоў?"

– Я зноў з міласэрднасьцю вяртаюся да іх, – адказвае ён, – і мой будаўнічы адвес зноў будзе вымяраць іхныя памеры "(**1**, 8-16).

Як разумець гэтае апошняе месца? Калі мы возьмем пярвічны сонечны, ягіпецкі год у 360 дзён, то пабачым, што пачатак года вернецца ў першапачатковае сузор'е праз 70 гадоў, і таму гэтая лічба мае вялікую ролю ў астралагічнай кабалістыцы. Г. азн. справа адбывалася праз 70 гадоў пасьля Апакаліпсіса, пад моцным уплывам якога знаходзіцца, як мы бачылі, аўтар. Семдзесят першым годам пасьля 30 верасня 395 г., калі быў напісаны Апакаліпсіс, з'яўляецца 466 год. Паглядзім жа, наколькі апісанае тут становішча свяцілаў адпавядае гэтаму.

Вылічэнне паказвае для 24 студзеня 466 года згодна з юліянскім лічэннем:

| | | | |
|---|---|---|---|
| 466 г. 24 студзеня | | Даўгата | |
| | Сонца | 327° | Паміж Казярогам і Вадалеем. |
| | Меркурый | 320° | У Казярогу |
| | Юпітэр | 283° | У Стралку |
| | Марс | 167° | У Ільве |
| | Месяц | Каля 235-245° | Ішоў да Скарпіёна |
| | Астатнія ж планеты, не пазначаныя тут, сапраўды ішлі асобна. | | |
| | Венера | Каля 3° | Даўготы ў сузор’і Рыб |
| | Сатурн | Каля 16° | Даўготы ў сузор’і Рыб |

Яны не былі бачнымі падчас ранішніх назіранняў аўтара. Выходзіць, што першая глава напісана праз 11 гадоў пасьля трэцяй, і толькі праз памылку яе лісток патрапіў у пачатак гэтай калекцыі нататак. Гэты гараскоп я і даў у сваёй кнізе "Прарокі". Указанне на "выратавальніка ў заплямленай вопратцы" можа мець дачыненне да сонечнага зацьменне 24 лютага 453 года, побач з сатаной Казярогам бачным у Рыме.

Хто ж быў аўтарам гэтай кнігі, калі "Захар-Ія" (памятае Маючы З’явіцца) з’яўляецца толькі яе загалоўкам, характэрызуючым яе змест?

Ўказанні на яго асабістае найменне – бен-Барахія, бен-Эду, хаця і адпавядаюць арабскаму звычаю называць людзей не згодна з уласным імем, а згодна з імем бацькі, маюць занадта вызначаны ўласны сэнс. Яны азначаюць: сын прыхільніка Грамабоя, сын Адкрыцьця, і гэта можна лічыць толькі за яго ўласную характарыстыку, а не за сапраўдныя імёны бацькі і дзеда аўтара. Хай гісторыкі шукаюць яго ў прамежак паміж плюс 451 годам (калі пры Сонцы ў сузор'і Рака і Юпітэры, і Сатурне пад Валапаса (у Панне) туды ж ішла, як божы меч, камета Галея, навеяўшая ўсклікание (гл. XIII) пра меч, ідучы на пастыра), і 453 годам (23/24 студзеня), калі напярэдадні сьвятых каляд у Скарпіёне (паміж 240º і 250º даўгаты) сабраліся Сатурн, Юпітэр, Марс і Месяц, пры Сонцы і Меркурыі ў Казярогу і пры Венеры – паміж Казярогам і Вадалеем (гараскоп у главе VI). Толькі-што разабраная першая глава, як я ўжо пазначаў, відаць, дададеная пазней, так як яе гараскоп (Марс, Меркурый, Юпітэр і Месяц пры ўваходзе ў Цясніну Млечнага Шляху пад Змеятрымальнікам) адносіцца да 25 студзеня 466 г., г. азн. напісана праз 70 гадоў пасьля з'яўлення Апакаліпсісу калі, відаць, была канчаткова адрэдагавана гэтая кніга шляхам адпаведнай перастаноўкі яе главак, напісаных кожная асобна на

прамежку 15-гадовага не маючага выніку чакання аўтарам другога прыходу "Вялікага цара".

Калі ж чытачу-тэолагу здадуцца непераканаўчымі гэтыя невядомыя яму астранамічныя вызначэнні, то хай ён згадае пра неаднаразова выкарыстанае тут імя Езуса і пра 30 срэбранікаў, за якія ён быў прададзены, згодна з Мацвеем, не кажучы ўжо пра выпіскі із Апакаліпсіса, і калі ў ім ёсць хоць невялікія крытычныя здольнасьці, то ён і без мяне пагадзіцца, што гэта кніга хрысьціянскага паходжання. Аўтара яе трэба шукаць сярод "вялікіх сьвятых" V стагоддзя пад адпаведным грэцкім імем.

# Глава VII.

## Біблейскае прадказанне "Страла Грамабоя" (Іерам-Ія).

(Кніга Бэн-Халкія, 451 г. нашай эры.)

Ерам-Ія па-жыдоўску азначае: стрэліць Грамабой[102], або проста "Гермій". Гэта зноў такі не аўтар, а загаловак кнігі. Пра яе ж аўтара нам нічога невядома, акрамя таго няшматлікага, што ён у ёй жа паведамляе пра сябе.

Тэолагі адносяць гэтую кнігу да прамежку паміж 629 і 588 гадамі да пачатку нашай эры, г. азн. да таго ж часу, як і ўжо разабраную намі раней кнігу "Іезекі-Іл".

Сапраўды, няма сумненняў у прыблізнай адначасовасьці іхнага ўзнікнення. І сюжэты і стыль абедзвюх кніг цалкам падобныя. У гэтым вы самі лёгка пераканаецеся, прагледзеўшы маю кнігу "Прарокі", у якой я даў літаратурныя пераклады ўсіх найважнейшых біблейскіх прадказальнікаў згодна з жыдоўскім тэкстам[103], таму што сучасныя царкоўныя пераклады настолькі цяжкія і незразумелыя, з нагоды неразумення перакладчыкамі іхных астранамічных сюжэтаў, што чытанне іх з'яўляецца нечым вельмі кашмарным, падобным на бясконца-доўгае трызненне вар'ята.

Тут я не знайшоў гараскапічнага апісання планет, з дапамогай якога мы б маглі дакладна вылічыць час жыцця аўтара, але затое тут змяшчаецца нешта іншае, не менш цікавае для правільнага ўяўлення пра старажытную астралогію. Гэта – падрабязнае апісанне шляху каметы Галея ў ліпені 451 года і выробленага ёю забабоннага жаху. Гэтую камету, як бывала і пазней пад час сярэдніх стагоддзяў, хрысьціяне, якія чакалі вяртання "Вялікага цара", патлумачылі як адзнаку яго гневу на няверуючых і гэтым моцна спрыялі пашырэнню першапачатковага, апакаліптычнага хрысьціянства ў народных масах, за якімі мімаволі ішлі і іхныя не менш забабонныя кіраўнікі.

Вось якая першая глава гэтага натхнёнага прадказання.

"– Перш, чым я стварыў цябе ў жываце тваёй маці, – прамовіў мне Грамабой, – я ведаў цябе, і перш чым ты выйшаў із яе, я асьвяціў цябе і паставіў апавяшчальнікам для зямных народаў... Не кажы: “я малады!". Ты пойдзеш да ўсіх, да каго я цябе выпраўлю, і паведаміш ім усё, што я табе загадаю".

"І Грамабой працягнуў нада мной сваю руку. Ён дакрануўся ёю да маіх вуснаў і прамовіў:

---

[102] ירמה־יהו (IEPE-IEУ) – пусьціць стралу (ад רמה - Маючы Быць.

[103] Кніга “Прарокі” выйшла ў 1914 годзе перад самым пачаткам вялікай вайны і пагэтаму засталася мала заўважанай у тагачаснай літаратуры, цалкам аддаючай увагу трывогам свайго часу.

– Вось, я ўклаў мае словы ў твае вусны і паставіў цябе гэтым вышэй за ўсіх цароў і народаў, для знішчэння і выкаранення зла, для стварэння і размеркавання дабра.

– Што ты бачыш на небе, стралок Грамабоя? – спытаў ён мяне потым.

– Я бачу паднятую булаву (*камету*, мал. 64 і 65), – адказаў я.



Мал. 64. Камета “вогненная булава” (ці “прыпаднятая галаўня”) згодна з сучасным фотаздымкам.



Мал. 65. Камета “вогненна булава” (ці галаўня) згодна з малюнкам XVI ст. (із вельмі рэдкай кнігі Бахарама: Astronomia, 1545 г., Пулкава).

– Ты добра бачыш, – сказаў ён мне. – Гэта я пілную з ёю, каб выканаць мае абяцанне (*пра хуткі прыход на зямлю*).

І ў другую ноч ён спытаў мяне:

– Што ты бачыш?

– Я бачу размахнуўшуюся распаленую качаргу на паўночным баку неба (*тую ж камету*[104]).

– Гэта з поўначы падымаецца бедства на ўсіх жыхароў Зямлі, – прамовіў ён мне. – Падніміся ж і падперажыся! Абвясьці народам усё, што я загадаў табе... Я паставіў цябе сярод іх, як моцнае ўмацаванне, як жалезны слуп супраць усіх цароў, валадарачых зараз над славячымі Грамабоя, супраць усіх іхных князёў і сьвятароў і ўсіх чужых насельнікаў зямлі, варожых маім верным. Яны будуць змагацца з табой, але не перамогуць цябе, таму што я з табой, каб ратаваць цябе "(**1**, 5-19).

* * *

Адносна таго, што тут апісана камета, мне няма патрэбы распаўсюджвацца. Гэта зразумела для кожнага, хто бачыў старажытныя выявы гэтых сьвяцілаў і хто чытаў сярэднестагоддзевыя паведамленні пра іх. Гэтая камета была бачнай, як паведамляецца тут, у поўным і яркім выглядзе на поўначы, а гэта магчыма толькі пад час летняй ночы, калі сонца не так глыбока апускаецца пад паўночны гарызонт,

[104] У маёй кнізе “Прарокі” я размясьціў старажытныя малюнкі, якія паказваюць каметы ў выглядзе мячэй, булаваў, труб і г. д. Не паўтараю іх тут.

як пад паўднёвы, і гэтаму адпавядае далейшае апісанне аўтара, у чацвёртай главе яго кнігі (**4**, 6).

"Паднімайце сьцяг на пуцяводным слупе! – усклікае ён ад імя Грамабоя. – Уцякайце, не спыняючыся! Я вяду да вас з поўначы вялікія бедствы і пагібель. Вось выйшаў, паднімаючыся ў вышыню, Леў (*сузор'е Ільва,* мал. 66) з гушчару (*сваіх каардынатаў*), вось ўзыходзіць Знішчальнік народаў (*Скарпіён*, мал. 29), каб ператварыць вашу краіну ў пустыню, разбурыць горады і пакінуць іх бязлюднымі. Апяразвайцеся ж вяроўкамі ў адзнаку нягоды, плачце і галасіце, таму што вагнённая Галаўня Грамабоя (*тая ж камета Галея*) яшчэ не адышла ад вас!



Мал. 66. Сузор’е Ільва (Із маёй кнігі “Адкрыццё і навальніцы і буры”, 1907 г.)

І калі яна да вас прыйдзе, замрэ сэрца кожнага цара і князя, жахнуцца сьвятары і зьдзівяцца прадказальнікі... Пякучы вецер панясецца з апусцелых вышынь неба на дарогу дачкі народа майго, але ён наляціць не дзеля абдування і асвяжэння яе. І яшчэ большая бура наляціць ад той Галаўні, калі Грамабой вымавіць свой прысуд над імі (*над князямі і сьвятарамі багазмагальніка*).

Вось падымаецца яна, падобна вогненнаму воблаку, калясьніца яе як віхор, коні яе хутчэй арлоў... Гора нам, гора! Мы ўсе загінем! Вымый жа злыя намеры із твайго сэрца, Сталіца заспакаення, каб вырataвацца! Да якога часу будуць жыць у табе кепскія думкі?

Я адчуваю боль ва ўсёй маёй вантробе. Маё сэрца стогне, я не магу маўчаць, таму што ты, мая душа, ужо чуеш гук трубы (мал. 67 і 68) і крыкі баталіі. Пагібель ідзе за пагібеллю. Я прадбачу, як у адно імгненне будуць разбураны мае намёты і палаткі. Ці доўга яшчэ я буду бачыць гэты вогненны сьцяг, чуць (*у шуме ветру*) гук трубы? Мне здаецца, што я гляжу на зямлю, і яна пустая, на нябёсы – і няма ў іх сьвятла. Гляжу на горы – яны дрыжаць, на пагоркі – яны вагаюцца. Гляжу – і няма больш чалавека, і ўсе нябесныя птушкі разляцеліся. Урадлівы мой край (*відавочна, не Палестына*) стаў пустыняй, і гарады яго разбурыліся перад тварам Грамабоя, перад яго палымянай Галаўнёй."

– Навошта вы выйшлі на нас? – запыталі іх богаслаўцы-зоркі.

– Мы выйшлі звязаць волата-Сонца, каб зрабіць зь ім так, як ён зрабіў з намі, – адказвалі качэўнікі...

Тры тысячы ваяроў (*зорак*) із "краіны богаслаўя" пайшлі да цясьніны гор Арла і сказалі волату-Сонцу:

– Хіба ты не ведаеш, што качэўнікі (*хмары*) пануюць над намі? Мы хочам звязаць цябе і аддаць ім...

– Пакляніцеся, што вы не заб'еце мяне, – адказаў волат.

– Не, мы толькі зьвяжам цябе і перададзім у іхныя рукі.

Яны звязалі яго двума новымі, ніколі не ўжываўшыміся цецівамі і павялі із цясьніны. Ён дайшоў да Сківіцы (*расколіны Млечнага Шляху ў Змеятрымальніку*), дзе прышэльцы з крыкамі сустрэлі яго. Але на яго сышло натхненне Грамабоя, і путы ўпалі із яго рук, як перагарэўшы лён. Ён узяў асьліную сківіцу, забіў ёю тысячу іхных ваяроў і выкінуў яе прэч са сваіх рук. Адчуўшы моцную смагу, ён зьвярнуўся да Грамабоя і "бог" адчыніў зубную яміну ў Сківіцы (*адну із чорных прастор, зараз маючых назву "вугальныя мяшкі" у сузор'і Скарпіёна ў шчыліне Млечнага Шляху*), і пацякла із яе (*дажджавая*) вада. Ён напіўся і падбадзёрыўся і назваў гэта месца Гарой Сківіцы "(**15**, 19).

"Волат-Сонца судзіў багазмагальнікаў дваццаць гадоў (20-гадовы цыкл у Сонца). Ён прыйшоў аднойчы ў Месца неўтаймаванасьці[150], пабачыў там прыдарожную жанчыну і зайшоў да яе. Жыхары гэтага месца хадзілі навакол і пілнавалі яго ўсю ноч, кажучы:

– Заб'ём яго да світання.

Але волат-Сонца падняўся апоўначы (*каля паўночы пралятаў яркі, як Сонца, метэарыт*), схапіў юродзкую браму з яе абодвума вушакамі, падняў яе, абарваўшы завесы, і аднёс на сваіх плячах на вяршыню гары, павёрнутай да скопішча" (*водгалас землятрусу*, **16**, 1-8)

Відавочна, тут зноў фігуруюць не толькі зоркі і хмары, але таксама і дажджы падаючых зорачак (знічак), уяўляўшыяся старажытным агністымі дзідамі пры бітвах нябачных войскаў на нябёсах. Але вось, у апошняй главе легенды ўжо відавочна фігуруе сакавіцкае зацьменне Сонца, калі яно апускалася на начлег побач з сузор'ем Андрамеды і паднімалася раніцамі разам з ёю.

"Волат-Сонца пакахаў адну жанчыну, якая мела імя Даліла, г. азн. вісячая (Гэта Андрамеда, вісячая над шляхам Сонца па сузор'ю Рыб, мал. 74). Да яе прыйшлі правадыры качэўнікаў-хмар (вятры-эолы) і прамовілі ёй:




[150] Ад עז (ЭЗ) – неўтаймаваны стан, магутнасць, веліч, таксама казёл – Казярог.

Мал. 74. Сузор’е Прывешанай Далілы-Андрамеды.

– Выведай ад яго, у чым сакрэт яго вялікай магутнасьці і як нам утаймаваць яго. Кожны із нас дась табе за гэта тысячу сікляў срэбра.

– У чым твая вялікая магутнасць? – запытала Даліла-Андрамеда волата-Сонца. – І чым цябе звязаць, каб утаймаваць?

– Калі звязаць мяне сям'ю свежымі цецівамі (*пабудаваць для планет сем арбіт*), то я буду, як і іншыя людзі.

Правадыры хмар (*вятры*) прынеслі ёй сем цеціваў, яна звязала яго імі, а яны селі засадай ў іншым пакоі. Яна прамовіла яму:

– Качэўнікі (*хмары*) ідуць на цябе, волат-Сонца!

Але ён разарваў цецівы (*планетныя арбіты*), як ніткі із пакулля, калі полымя абпаліць іх.

– Ты падмануў мяне, – сказала Даліла-Андрамеда. – Адкажы мне праўду, чым звязаць цябе?

– Я страчу магутнасць, – адказаў ён, – калі мяне зьвяжуць новымі вяроўкамі, якія раней не ўжываліся (*г. азн. новай, эпіцыклічнай сістэмай арбіт*).

Калі ён заснуў, Даліла ўзяла гэтыя новыя нябесныя вяроўкі, звязала імі волата-Сонца і зноў прамовіла яму:

– Качэўнікі-хмары ідуць на цябе!"

Але ён сарваў і іх са сваіх рук (*прэцэсій*), як ніткі.

– І зноў ты ашукаў мяне, – прамовіла яму Даліла, – ты ўсё паведамляеш хлусню. Скажы ж, чым бы звязаць цябе?

– Перапляці сем кос маёй галавы (*г. азн. тыя ж арбіты пталемеевай сістэмы*) з канвой (*зорных узыходжанняў і схіленняў*) на ткацкім прыстасаванні нябёсаў.

Яна прымацавала іх і, калі ён заснуў, зноў прамовіла:

– Качэўнікі ідуць на цябе, волат-Сонца!

Ён прачнуўся ад свайго сну і вырваў прыстасаванне (*ўзыходжанняў і схіленняў*) разам з канвой" (*нахіліўшы зямную вось*, **16**, 14).

Мы бачым, што гаворка ўжо ідзе пра размяшчэнне сямі планет у экліптычнай сетцы неба (*ткацкае прыстасаванне нябёсаў*), якое паказвае, што яна была вядомая складальнікам легенды...

– Як жа ты кажаш, што кахаеш мяне і што тваё сэрца са мной? Ты тройчы ашукаў мяне.

І яна так дакучала яго сваімі словамі кожны раз, што на душы яго стала смяротна цяжка, волат-Сонца адкрыў ёй усё сваё сэрца і прамовіў:

– Я Назарэй – Хрыстос божы (*па-нашаму пасвечаны*) ад свайго зачацця. Калі астрыгчы мае валасы (*прамяні*), то пакіне мяне мая магутнасць, і я зраблюся слабым, як усе іншыя людзі.

"Даліла-Андрамеда зразумела, што зараз ён паведаміў ёй усю праўду, і выправіла за правадырамі качэўнікаў-хмар. Яны прынеслі ёй срэбра ў сваіх руках. Яна ўсыпіла волата-Сонца на сваіх каленях, паклікала слугу (*Месяца перад зацьменнем Сонца*) абстрыгчы ўсе сем космаў (*пучкоў прамянёў*) яго галавы. Ад волата-Сонца тады адступіла яго магутнасць. Яна зноў прамовіла яму:

– Качэўнікі ідуць на цябе!

Ён прачнуўся і прамовіў:

– Пайду, як і раней!

Ён не ведаў, што яго пакінуў Грамабой.

Качэўнікі-хмары схапілі волата-Сонца, выкалалі яму вочы (*адбылося зацьменне*), закавалі яго меднымі ланцугамі, і ён круціў жорны (*нябесных сфер*) у цемры. Калі яго валасы зноў адраслі, правадыры качэўнікаў сабраліся прынесьці вялікую ахвяру свайму богу – сузор'ю Рыб (*Дагону*) і павесяліцца. Яны выклікалі волата-Сонца із вязніцы і паставілі яго паміж слупамі (*мерыдыянамі*), каб ён іх забаўляў". "Увесь божы дом быў поўны мужчын і жанчын, усе правадыры качэўнікаў-хмар (*вятры*) былі ў ім, а на купале было да трох тысяч (*зорак*) глядзеўшых на аслепленага волата". Але ён схапіў два сярэднія слупы, на якіх быў зацверджаны будынак, і упёрся ў адзін правай, а ў другі левай рукой.

– Памры мая душа разам з качэўнікамі, – прамовіў ён, – і абрынуў дом на іхных правадыроў і на ўвесь знаходзіўшыся ў ім народ.

Яго браты потым пахавалі яго паміж месцам пакарання (*сузор'ем Скарпіёна і Ахвярніка*), ў магільніцы "Мірнага", яго бацькі (*новае сонечнае зацьменне: у цясніне Млечнага Шляху, (мал. 58), дзе стаіць Змеятрымальнік*) (16-31).

Такое заканчэнне мае біблейская легенда пра асілка-Сонца: паданнем пра нейкі землятрус, адбыўшыся падчас другога зацьмення Сонца, у Змеятрымальніку. Мы ведаем, што сонечнага зацьмення падчас пакарання Езуса 31 сакавіка 368 года не было, а было месяцовае. Сонечнае ж, "жудаснае", у Змеятрымальніку было ў Канстантынаполі ўжо пасьля сьмерці "Вялікага цара" 20 лістапада 393 года, за два гады да з'яўлення Апакаліпсіса.

Каб не пакідаць пытанне ў незакончаным выглядзе, я прыкладаю тут спіс усіх заходзячых і ўзыходзячых сонечных зацьменняў, дапасуючыхся да даследуемай легенды. Для сьцісласьці пазначаю іх схематычна (г. азн., напрыклад, 52-III-29 азначае: сонечнае зацьменне 52 гады нашай эры, 29 сакавіка, і г. д.) І пры гэтым даю характарыстыку[151].

## Табліца XIV.

Заходзячыя і ўзыходзячыя сонечныя зацьменні ў сузор'і Андрамеды з пачатку нашай эры ў басейне Міжземнага і Пярсідзкага мораў.

| Гады | Характарыстыка |
|---|---|
| 32-III-19 | Заходзячае зацьменне ў Індыі, перадзаходзячае ў Аравіі (71° д. і +26° ш.); фаза ў Палестыне 2"-3". Не было камет у Панне ад 1 да 71 г. нашай эры. |
| 80-III-10. | Узыходзячае паблізу Карфагена (2° д. і +30° ш.), пасля ўзыходнае із Кіпра, паловудзённае ў Цібеце. За 5 гадоў да яго камета, ідучы да Сонца ў Рыбы із Валосся Веранікі, прайшла побач з Паннай з Ільвом (Шэ-Ке і Ма-Туан-Лін), "Полымямёт" у Ільве быў за 28 гадоў да гэтага (52 год). |
| 228-III-23. | Ішло із Брытаніі праз Скандынавію да Паўночнага Полюса. Узыходнае ў Гішпаніі, пасьляўзыходнае ў Рыме (фаза 10"). Перад ім было 3 каметы. 1) за 10 гадоў (красавік 218 г.) яркая камета прайшла праз Вазнічага паміж Ільвом і Паннай і Геркулесам і знікла ў траўні. 2) за 6 гадаў (лістапад 222 г.) ранішняя камета паміж Паннай і Ільвом. 3) за 3 гады (снежань 225 г.) была камета паміж Ільвом і Паннай, "Палымямёт" з Ільва (*леаніды*) быў за 6 гадоў да гэтага ў 222 г. |
| 291-III-14. | Заходзячае ў Самалі(50° д. і +70° ш.), перадзаходзячае ў Цэнтральнай Афрыцы. Было бачным як частковае, на заходзе сонца ў Месапатаміі. Перад ім не было камет. |
| 295-III-3. | Вечаровае на Балканах, заходзячае за Уралам (46° д. і +51° ш.). Перад ім не было камет, а праз год пасьля яго ў 296 годзе пры сонцы ў Цяляці выйшла вечаровая камета із Андрамеды і прайшла побач з Ільвом і Паннай у нагах Вялікай Мядзьведзіцы. "Полымямёт" з Ільва быў за 5 гадоў да гэтага (у 290 г.). |

[151] Каметы згадваю грунтуючыся выключна на кітайскіх летапісах Шэ-Кэ і Ма-Туан-Лін, так як у яўрапейскіх шмат фантазій і блытаніны ў гадах.

| | |
|---|---|
| 359-III-15. | **Перадзаходзячае колападобнае ў Грэцыі, заходзячае над Чорным морам (*36° д. і +44° ш.*). Першае дастаткова падыходзячае. Як частковае заходзячае, яно было добра бачным у Ягіпце і Месапатаміі.** Перад ім было 3 каметы: 1) *за 19 гадоў* (5 сакавіка 340 г., калі сонца было ў Рыбах, *перад святам звеставання, 25 сакавіка*), за 28 гадоў да вылічанага намі слупавання евангельскана "настаўніка", была, згодна з Шэ-Ке і Ма-Туан-Лін, ранішняя камета паміж Ільвом і Паннай, выйшаўшая ад сонца, калі яно яшчэ было ў Стралку (снежань) ці Казярогу (студзень). 2*) за 16 гадоў* (у 343 годзе), за 25 гадоў да вылічанага намі слупавання евангельскана "настаўніка", калі сонца таксама было ў Стралку, ішла згодна з Шэ-Ке і Ма-Туан-Лін ранішняя камета "7 лакцей даўжыні" белага колеру ў Панне і прайшла праз Ільва і Яслі Езуса відавочна праз Шалі і Змеятрымальніка. 3) *за 19 гадоў* да слупавання (у 349 г.) была, згодна з Шэ-Ке і Ма-Туан-Лін, яшчэ трэццяя камета яскравая, "10 локцяў даўжыні", выйшаўшая ад сонца ў Скарпіёне (у лістападзе) із-пад ног Змеятрымальніка і прыйшоўшая да ног Панны, заставалася тут пры ранішнім бачанні на працягу ўсяго каляднага перыяда. *Зоркамёт (ці полымямёт*) з Ільва (*леаніды*) быў за 22 гады да шэтага, у лістападзе 337 г., пры Самсоне-Сонцу пад Змеятрымальнікам, Сатурне ў Скарпіёне і Юпітэры ў Вадалеі. Тут поўнае астральнае апісанне легенды пра Самсона і Далілу і пра "звеставанні" пра яго ягонай маці. Іншыя даследаванні не маюць сэнсу, але для паўнаты я памяшчаю і іх. |
| 489-III-18. | Узыходзячае колападобнае зацьменне ў Ягіпце (25° д. і +19° ш.). Перад ім ад 451 г. не было камет у Панне. |
| 507-III-29. | Заходзячае ў паўночнай Расіі (60° д. і +58° ш.). Перад ім ад 451 года не было камет у Панне. |
| 568-III-17. | Заходзячае каля Самалійскага берага Афрыкі (40° д. і +13° ш.). Не было відаць камет у Панне ад 541 года. |
| 591-III-30. | Заходзячае ў Алжыры (0° д. і +28° ш.), перадзаходзячае ў Атлантычным акіяне. Не падыходзіць само і не было камет у Панне з 451 г. |
| 721-III-1. | Заходзячае ў паўднёвым Ягіпце (28° д. і +15° ш.). Перадзаходзячае ў Бенгальскім заліве. Прад ім з 676 г. не было камет у Панне. |
| 732-III-1. | Заходзячае ў Аравіі (54° д. і +24° ш.).Не было камет у Панне з 676 г. |
| 749-III-23. | Узыходзячае на Балканах (22° д. і +44° ш.). Не было камет у Панне з 676 г. |
| 751-III-2. | Заходзячае каля Мадагаскара (57° д. і -17° ш.). Перад ім не было камет у Панне з 676 г. |
| 768-III-23. | Узыходзячае каля Мадагаскара (42° д. і -6° ш.). Бачнае ў частковым выглядзе ў паўднёвым Ягіпце і Аравіі. "Полымямёт" з Ільва быў за 2 гады да гэтага ў 766 г. |
| 786-III-3. | Заходзячае ў Афганістане (55° д. і +31° ш.). Перад ім не было камет з 760 года. |
| 852-III-21. | Заходзячае ў Сярэдняй Расіі (42° д. і +55° ш.), перадзаходзячае ў Германіі. У частковым выглядзе *перадзаходзячае* ў Грэцыі, Малой Азіі, Сірыі. Перад ім пяць камет: 1) *за 37 гадоў* (815) у красавіку, пры сонцы ў Авене вялікая камета паміж Ільвом і Паннай (Шэ-Ке і Ма-Туан-Лін). 2) *за 31 год* (821) у сакавіку (пры сонцы ў Рыбах) камета "у 10 лакцей даўжыні" была бачнай паміж Ільвом і Паннай. (Шэ-Ке і Ма-Туан-Лін). 3) *за 18 гадоў* (834) у кастрычніку (пры сонцы ў Шалях) камета "у 10 лакцёў даўжыні" ішла на поўнач паміж Ільвом і Паннай у Валасы Веранікі.<br>4) *за 15 гадоў* (837) камета Галея паказалася ў сакавіку (пры сонцы перад Авенам) у эфектным выглядзе і, паступова памяншаючыся, дайшла да Панны. Акрамя таго, пад гэтым жа 837 годам, але пазней, ад траўня да чэрвеня, той жа кітайскі летапіс Шэ-Ке двойчы паказвае на "незвычайную зорку ў вобласьці Панны". "Полымямёт" з Ільва (леаніды) быў за 18 гадоў да гэтага, у 834 годзе. **Вось другі выпадак, які дапасуе да біблейскага апісання, але без Полымямёта.** |
| 1010-III-18. | Заходзячае паблізу Венецыі (15° д. і +45° ш.), перадзаходзячае ў паўднёвай Францыі. Перад ім не было камет з 943 года. |
| 1075-III-19. | Заходзячае ў Індыйскім акіяне (69° д. і -10° ш.), перадзаходзячае на Мадагаскары, бачнае толькі ў паўднёвай Аравіі. За 9 гадоў перад ім (1066 г.) прайшла ў Панну із Вадалея ў эфектным выглядзе камета Галея. "Полымямёт" з Ільва (*леаніды*) быў за 3 гады да гэтага у 1072 годзе. |

| | |
|---|---|
| 1112-III-29. | Заходзячае ў Месапатаміі (39° д. і +31° ш.), перадзаходзячае ў Ягіпце. За 32 гады да яго (1080 г.) у жніўні (пры сонцу ў Ільве) была камета ў Панне у “10 локцяў даўжыні”. “Полымямёт” із Ільва быў за 6 гадоў да гэтага, у 1106 годзе. |
| 1113-III-19. | Узыходзячае каля Ягіпта (21° д. і +20° ш.), пасляўзыходзячае ў Месапатаміі. Перад ім не было камет ў Панне з 1080 года. |
| 1122-III-10. | Узыходзячае ў паўднёвым Ягіпце (29° д. і +17° ш.), пасляўзыходзячае ў паўднёвай Аравіі. Не было камет у Панне з 1080 года. |
| 1140-III-20. | Заходзячае ў сярэдняй Расіі (18° д. і +55° ш.), перадзаходзячае ў Германіі. Не было камет з 1080 года. |

Затым не было супадзенняў аж да друкавання Бібліі Гутэнбергам каля 1450 г. нашай эры. Лічачы 852 год занадта позьнім і таму менш прыдатным, я спыняюся на 359 годзе, як на адзначаным падзеяй, якая пазней, гадоў праз 20, пачала злучацца з жыццём евангельскага "настаўніка ці навукоўцы".

Я думаю, што легенда пра Самсона – гэта адна із легенд пра Езуса, створаная на пачатку V стагоддзя нашай эры, калі дакладныя тэрміны розных дэталяў жыцця "Вялікага цара" ўжо пачалі забывацца.

Месяцовае зацьменне, як менш эфектнае, міжволі тады было заменена гэтым, як мы і бачым у Евангеллі Лукі. У першапачатковым кароткім паведамленні Марка было проста сказана: "У шэсць гадзін (*калі Езус быў на слупе*) настала цемра па ўсёй зямлі да гадзіны дзевятай... і завеса храма разарвалася на палавіны" (*г. азн. быў землятрус*). А Лука дадае сюды: "і пацямнела Сонца" (**24**, 45).

Тут жа, у міфе пра Самсона-Геркулеса, або асілка-Сонца, усе падзеі ўжо настолькі астралагізаваны, што рэальнасць праглядаецца толькі як цень, як вельмі слабы фон астральнага міфа, хаця алегорыя дакладна вытрымана. У 368 годзе адбылася трагічная падзея: слупаваньне папулярнага вучонага, якое суправаджалася месяцовым зацьменнем і землятрусам, меўшымі тое наступства што падзеі яго жыцця былі пастаўлены ў сувязь з нябеснымі сьвяцiламі і праявамі таямнічай магутнасьці падземнай прыроды. І вось у папярэднічаўшых гэтай падзеі нябесных з'явах пачалі шукаць такіх жа суадносін з яго жыццём. Каметы, якія прыходзілі ў сузор'е Панны, пачалі лічыцца звеставаннямі пра яго, сонечнае зацьменне 359 года, за дзевяць гадоў да яго пакарання і ажыўлення, замяніла сабой у Евангеллі Лукі месяцовае, а тут падставы яго гібелі былі прыведзены ў сувязь з сузор'ем Андрамеды, якая з'явілася ў гэты міфе пад імем Далілы, евангельскай Магдаліны[152], як-быццам бы ўсыпіўшай Езуса ў сябе на каленях і пазбавіўшай яго духоўнай магутнасьці.

Але як бы вы ні глядзелі на адпаведнасць легенды пра "Самс-Она" легендам пра "Вялікага цара", гэтая легенда цікавая нам тым, што вызначае позні час складання Кнігі Судзьдзяў і тлумачыць сэнс шмат якіх найменняў, якія сустракаюцца ў Бібліі. Пад імем качэўнікаў (*паводле грэцкага вымаўлення – філістымлян або палестынцаў*) тут фігуруюць сірыйцы, сімвалізаваныя ў аблоках і не задыякальных зорках, а ізраільцяне-багазмагальнікі, адпавядаючыя першым іконазмагальнікам гэтага часу, сімвалізаваны ў 12 экліптычных сузор'ях, і сам "Вялікі цар" (Езус), увасаблены ў Сонцы, уяўляецца тут бацькам наступных іканаборцаў.

[152] מגד־אל (МГД-АЛ) – божая каштоўнасць, сугучна מ־גדד־אל (М-ГДД-АЛ) – тая, якая пастрыгла бога. Падобнае параўнанне словаў па іхнаму гучанню з’яўляецца асновай сярэднестагоддзевых кабалістычных даследаванняў сутнасьці рэчаў, грунтуючыся на іхнай назве.

Такім чынам, юдаізм не папярэднічаў хрысьціянству, а развіваўся паралельна з ім, і Стары запавет Бібліі не папярэднічаў Новаму, а быў напісаны пазней яго першай кнігі Апакаліпсіс.

Мне тут не дастае месца для разглядання астральнага сэнсу астатніх легенд, уключаных у біблейскую кнігу "Суддзяў", у наступную за ёй кнігу "Самуіл" і ў I і II Кнігу Царстваў, але няхай чытач, які ведае адначасова гісторыю астраноміі і старажытнажыдоўскую мову, сам паспрабуе зрабіць гэта з таго боку гледжання, якога прытрымліваюся я, і ён знойдзе тут шырокія межы для сучаснай вольнай навукі.

# Глава XII.

## Прадказанне "Моцны" (Амос).

Астранамічная варажба з нагоды поўнага сонечнага зацьмення у Ільве 19 ліпеня 418 года, бачнага ў Рыме, Грэцыі і Месапатаміі перад надыходам "жыдоўскай" суботы, пры Сатурне ў Ільве і Юпітэры у Скарпіёне.

Гэта невялікае біблейскае прадказанне цікава для нас тым, што яго астранамічная аснова была паказана ўжо даўно Карнілем[153]. Гэты тэолаг справядліва адзначае, што змяшчаемая тут выказванне: "Я ўчыню заход Сонца апоўдні і азмрочу зямлю пасярэдзіне яснага дня"[154], вызначана сцвярджае пра прадказанне аўтарам паўдзённага сонечнага зацьмення. Пра гэта ж сведчыць і іншае месца: "На ўсіх вуліцах будзе плач, ва ўсіх завулках будуць казаць: “на жаль! нажаль!.." Гора жадаючым бачыць дзень бога-Грамабоя: ён змрочны, а не светлы... Ён цемра, і няма ў ім зьзяньня".

Лічачы згодна з царкоўнай традыцыяй, што Амос (што ў перакладзе азначае: моцны) быў напісаны ў 787 годзе да пачатку нашай эры ў Месапатаміі, астраномы шукалі там поўнага сонечнага зацьмення і не знайшлі ніводнага, не толькі каля гэтага часу, але і нават ад -900 да 19 траўня -556 астранамічнага года[155], калі ўпершыню поўнае зацьменне прайшло праз месапатамскі Кандзігір із Гішпаніі, прайшоўшы праз усе Міжземнае мора, ды і то не каля поўдня, а перад самым заходам сонца. Выкарыстоўваючы нацяжку, звычайную амаль ва ўсіх такіх непагадненнях гісторыі і астраноміі, зрабілі выснову, што ў дадзеным выпадку размова ідзе пра ліпеньскае зацьменне -763 г., якое праходзіла нешырокай паласой ад афрыканскага берага праз Кіпр да Каспійскага мора і нябачнае ў поўным выглядзе ні ў Яўропе, ні ў Александрыі, ні ў Палестыне, ні ў Месапатаміі, г. азн. абсалютна непрыдатнае.

На гэтым і супакоіліся, лічачы прадказанне Амоса *пацверджаным астранамічна*(!)".

Зараз, калі мы даказалі шляхам вылічэння часу псалмоў і іншых біблейскіх прадказанняў, што эпохай іх стварэння былі V і VI стагоддзі нашай эры, для нас няма ніякіх цяжкасьцей вызначць самым дакладным чынам час і гэтага прадказання, а разам з тым высветліць і ўсе яго асаблівасьці.

У самым яго загалоўку пазначана: "Словы моцнага (*Амоса*) аднаго із пастухоў Трубы (*назіральніка каметы, якая мела выгляд трубы, як і ўяўляліся*

[153] Cornill. «Einleitung in das alte Testament», § 25 sub. 2.

[154] Амас, 8, 9.

[155] Астранамічнае злічэнне гадоў на 1 год карацей гістарычнага.

*шмат якія із камет у старажытнасьці, мал. 68*), вымаўленыя ім пра багазмагальнікаў пад час дзён Озіі, іудэйскага цара, і па дні Ераваама (Другога), ізраільскага цара, за два гады перад землятрусам".

Вазьміце каталог камет Вільямса[156], складзены згодна з кітайскімі летапісамі, і канон зацьменняў Гінцэля[157], і вы зараз жа з іхнай дапамогай знойдзеце гэтае спалучэнне каметы і зацьмення ў раёне Міжземнага мора ў поўным выглядзе толькі ў V стагоддзі нашай эры, а да таго часу не было нічога падобнага нават ад мінус тысячнага года.

Дарэчы, нам няма патрэбы выкарыстоўваць Гінцеля або Вільямса.

Вось тут у табліцы XV мной сабраны ўсе поўныя (як патрабуецца ў прадказанні) сонечныя зацьменні, якія мелі месца каля поўдня ў басейне Міжземнага і Пярсідзкага мораў ад *мінус* 602 года. Для сцісласьці я схематызаваў іх і тут, пазначаючы спачатку год, затым (рымскай лічбай) месяц і на прыканцы – дзень месяца.

## Табліца XV.

| Дата | Характарыстыка |
|---|---|
| Да пачатку нашай эры | |
| -602-V-18. | Паўдзённае зацьменне ў Тыбеце (69° д. і +42° ш.). Бліжэйшая камета (згодна з Ма-Туан-Лін) была ў 610 годзе. |
| -556-V-19. | Паўдзённае над акіянам каля Гішпаніі (339° д. і +37° ш.). Бліжэйшая камета (згодна з Ма-Туан-Лін) у Стральцы ў -501 годзе. |
| -492-XI-24. | Каля Гішпаніі (2° д. і +37° ш.). Бліжэйшая камета (згодна з Ма-Туан-Лін) у -496 г. |
| -401-I-18. | Паўдзённае ў Афганістане (53° д. і +37° ш.). Бліжэйшая камета (згодна з Ма-Туан-Лін) у -432 г. |
| -356-II-29. | Паўдзённае каля Ягіпта (24° д. і +20° ш.). Бліжэйшая камета ў -304 г. (згодна з Ма-Туан-Лін) |
| -335-VII-14. | Паўдзённае каля Дамаска (37° д. і +31° ш.). Бліжэйшая камета ў -304 г. (згодна з Ма-Туан-Лін) |
| -302-IV-2. | Паўдзённае каля Ягіпта (23° д. і +22° ш.) Бліжэйшая камета ў -304 г. (згодна з Ма-Туан-Лін) |
| -241-VI-15. | Паўдзённае каля Антыохіі (35° д. і +34° ш.). Бліжэйшая камета ў -304 г. (згодна з Ма-Туан-Лін) |
| -173-X-10. | Паўдзённае каля Багдада (44° д. і +32° ш.). Бліжэйшая камета ў -171 г. (згодна з Ма-Туан-Лін) |
| -9-VI-30. | Паўдзённае каля Грэцыі (41° д. і +31° ш.) Бліжэйшая камета ў -11 г. паміж Ільвом і Паннай (згодна з Ма-Туан-Лін). Гэтая апошняя камета магчыма камета Галея, а ўсе папярэднія недакладныя. У кітайцаў тады яшчэ не існавала запісаў. |
| Пасьля пачатку нашай эры. | |
| 29-XI-24. | Паўдзённае каля Багдада (2° д. і +37° ш.). Бліжэйшая камета ў красавіку 39 г. у Пегасе і Андрамедзе. |
| 226-IX-16. | Паўдзённае ў Індыі (80° д. і +22° ш.). Бліжэйшая камета 265 г. у Касіяпеі. |
| 301-IV-25. | Паўдзённае ў Тыбеце (60° д. і +41° ш.). Была камета ў Геркулесе ў траўні пры Сонцы ў Цяляці. Сатурн быў у Панне, Юпітэр у Казярогу. Гэта першы, хаця і малазадавальняючы выпадак (з нагоды недакладнасьці ўказанняў на рух каметы). Ды і ў Месапатаміі поўнае зацьменне было відаць тлькі каля 9 гадзін ранку, замест поўдня. Не магло ж гэта прадказанне быць напісаным у Тыбеце. |
| 393-XI-20. | Паўдзённае ў Канстантынопалі (26° д. і +41° ш.). Узыходзячае каля Ісландыі (15° д. і +60° ш.), заходзячае ў Цэнтральнай Азіі (75° д. і +49° ш.). Перадпаўдзённае ў Венецыі. Пра камету гэтага года Шэ-Ке выказвецца: “Дзіўная зорка з’явілася (пад |

[156] I. Williams. «Observation of Comets etc.». 1871 г.
[157] F. K. Ginze1. «Specieller Kanon der Sonnen- und Mondfinsternisse». 1899 г.

| | |
|---|---|
| | Паннай) у вобласьці Гідры ў траўні і знікла ў кастрычніку". Сатурн быў у Шалях, Юпітэр таксама, Марс апісваў пятлю паміж Казярогам і Вадалеем. А само зацьменне адбывалася ў Скарпіёне пад нагамі Змеятрымальніка. **Гэта першая прыдатная дата, калі толькі мы адкінем думку, што месцам стварэння гэтага прадказання былі Месапатамія і Сірыя.** |
| 418-VII-19. | Паўдзённае ў Рыме (17° д. і +42° ш.). Узыходзячае над Атлантычным акіянам (300° д. і +21° ш.) і заходзячае за Індастанам (87° д. і +14° ш.). Самае эфектнае із усіх класічных зацьменняў, так як было бачным ва ўсіх цэнтрах культуры і ў самой Месапатаміі ў поўным выглядзе. Яно адбывалася ў пастцы Ільва, дзе знаходзіўся і Сатурн. Юпітэр быў у Стралку, а ў Панне пад час пачынаючайся восені злавесна ззяла вялізная камета, хвост якой працягнуўся на трэцюю частку неба. **Гэта другая дата прыдатная нават да Месапатаміі.** |
| 512-VI-29. | Паўдзённае ў Закаўказзі (44° д. і +41° ш.). Бліжэйшая камета ў 532 г. |
| 540-VI-20. | Паўдзённае на Каўказе (46° д. і +43° ш.). Бліжэйшая камета ў 532 г. |
| 601-III-10. | Паўдзённае каля Самарканда (51° д. і +39° ш.). Бліжэйшая камета ў 607 г. паміж Ільвом і Паннай. |
| 646-IV-21. | Паўдзённае на Ўрале (47° д. і +49° ш.). Бліжэйшая камета ў 641 г. паміж Ільвом і Паннай. |
| 693-X-5. | Паўдзённае ў Белуджыстане (62° д. і +25° ш.). Бліжэйшая камета ў 697 г. |
| 812-V-13. | Паўдзённае каля Гібралтара (4° д. і +32° ш.). Бліжэйшая камета 815 г. паміж Ільвом і Паннай. |
| 993-VIII-5. | Паўдзённае ў Белуджыстане (62° д. і +25° ш.). Бліжэйшая камета ў 989 г. |
| 1133-VIII-2. | Паўдзённае ў Галандыі (7° д. і +52° ш.). Ішло праз Канстантынопаль у Месапатамію. У верасні камета прыйшла ў Вялікую Мядзьведзіцу. **Гэта трэццяя дата найбольш задавальняючая для Месапатаміі, так як паласа поўнага зацмення ішла ўздоўж усяго Міжрэчча пасьля паловы дня.** Але я не магу адважыцца спыніцца на ёй, маючы цалкам задаволняючыя рашэнні за 393 і 418 гады, хаця для першага даводзіцца перанесьці месца стварэння вывучаемага прадказання із Азіі ў Яўропу. |

Тут выбар паміж 393, 1133 і 418 гадамі, бяспрэчна, павінен быць вырашаны на карысць апошняга.

Гэта было знакамітае зацьменне Сонца ў пятніцу 19 ліпеня 418 года, калі Сонца із сузор'я Ясляў (*зараз Рак*), пад якім згодна з царкоўным паданнем нарадзіўся евангельскі Хрыстос, пераходзіла ў сузор'е Ільва да яго Васіліска (*Рэгула*), рыхтуючыся засланіць яго сваім дыскам, але само было, так бы мовіць, часова праглынута ім. Гэтае зацьменне праходзіла шырокай паласой із паўночнай Гішпаніі праз усю Корсіку, сярэднюю Італію, Дарданэлы, да Паўночнага берага Пярсідзкага заліва, г. азн. амаль праз усю Месапатамію. Асабліва эфектным яно было ў Рыме, так як поўнае пацямненне Сонца прыпадала там менавіта на поўдзень, як і пазначана ў прадказанні. Гэта вызначае адразу і месца назірання Амоса. Яно пісалася не ў Месапатаміі і не ў Палестыне, хаця і там яно было такім жа эфектным як і ў Рыме, але пасьля поўдня.

Пра камету ж, якая суправаджала гэтае зацьменне, згадваецца не толькі ў загалоўку, але і ў тэксце, пад living рознымі формамі, сапраўды гэтак жа, як і пра суправаджаўшы яго праз два гады землятрус.

"Упала, не паднімаецца больш Панна багазмагальнікаў (*Панна з'яўляецца ў ліпеньскія і жнівеньскія дні толькі перад сваім заходам*), а няма каму падняць яе (5.2)". "Ці раве Леў у лесе, калі няма яму здабычы?" (3.4). "Вось той, які стварыў Сямізор'е і сузор'е Бур, хто ператварае смяротную цемру ночы ў светлую раніцу, а дзень раптоўна азмрочвае як ноч, і раптам (*ад землятрусу*) разлівае ваду мора па твару зямлі (5.8), прамаўляе вам: "Вы пабудуеце хаты із абчосаных камянёў, а

жыць у іх не будзеце (*намёк на землятрус*), развядзеце цудоўныя вінаграднікі, а віна ад іх піць не будзеце"(5.11).

Месца пра вінаграднікі павінна быць навеяна праходжаннем каметы «Труба» каля зорачкі Вінаградарніцы (Vindemiatrix) у сузор'і Панны. У падцверджанне таго, што гэтая здагадка слушная, мы знаходзім у кітайскіх летапісах:

“У 418 годзе, 15 верасня (*калі сонца перайшло ў Панну*), з'явілася вельмі яркая камета ў вобласці паміж Ільвом і Паннай. Паступова павялічваючыся, яна дасягнула 100 локцяў даўжыні і на сваім шляху засланіла зоркі Сямізор'я (Вялікай Мядзведзіцы) і Кола Вечнай Бачнасьці (летапісы Шэ-Кэ і Ма-Туан-Лін)”




Мал. 75.
Сузор'е Панны з Сонцам і Месяцам пад яе нагамі (як апісана ў Апакаліпсісе). Налева сузор'е Шаляў і галава сузор'я Змея. Угары сузор'е Валасы Веранікі, ранейшае Пчаліны Вулей.

А ў еўрапейскіх крыніцах Рокенбахіус адносіць яе да жніўня і дадае, што следам “за ёй адбыліся шматлікія бедствы і, відаць, усе юдэі, – дадае ён, былі выгнаны із Александрыі згодна з загадам біскупа Кірылы».

Такім чынам, час стварэння біблейскага прароцтва «Моцны» не толькі сам вызначаецца з найвялікшай дакладнасьцю, але і вызначае час валадарання юдэйскага Озіі і ізраільскага Ераваама, выяўляючы іх адначасовасць з Ганорыем і Хвядосам ІІ, а разам з тым і тоеснасць царства ізраільскага з рымскім з часоў Кастуся І, а юдэйскага з – візантыйскім, пра што я падрабязна буду гаварыць у адным із наступных тамоў.

Гэтае прароцтва хаця, відаць, і моцна папоўненае пазнейшымі ўстаўкамі, але, згодна с часам свайго з’яўлення было першым пасьля Апакаліпсіса, і таму я прыводжу яго ад пачатку да канца толькі са скарачэннем шматслоўяў.

# МОЦНЫ
## Глава І.

1. Словы Моцнага аднаго із пастухоў Трубы (*каметы* 418 г.) якія ён прадказальніцкі вымавіў пра багазмагальнікаў у дні Озіі, цара юдэйскага, і ў дні Ераваама сына Наасава, цара ізраільскага, за два гады перад землятрусам.

2. Загрыміць Грамабой з прыдарожнай вешкі неба (*перакрыжаванне экліптыкі з экватарам, дзе на старадаўніх зорных мапах малявалася дошчачка са шляхапазначальным знакам,* мал. 76), падась свой голас са святога горада. І

заплачуць (*дажджамі*) сенажаці Пастуха (Валапаса) і высахне (*ад сонечнага жару*) вяршыня боскага вінаградніка (*сузор'я Панны*).




Мал. 76.
Перамяшчаючаяся з плынню стагоддзяў вясновая вешка (Сіён – па-жыдоўску, Colurus equinoctialis – па-лаціне). На малюнку яна намалявана дзвюма паралельнымі лініямі. Другі – Верхні Сіён ці калюр сонцастаянняў – праходзіць папярок гэтага раўнадзённага калюра і перасякае экліптыку ў сузор'і Двайнят. Із кнігі Грындбергера «Catalogus Veteres Affixarum longitudines cum Novis Conferens». 1609 г. (Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.) У тэксце гаворка ідзе, верагодна, пра апошнюю вешку.

Так кажа Грамабой:

3. Тры злачынствы “Мяха Крыві” (*галава Мядузы*) я дарую яму, але не за чацвёртае, за тое, што яго жыхары малацілі ўзгорак Сведчання жалезнымі бічамі (*метэарытамі-пярсеідамі*).

9. Тры злачынствы Цара-горада[158] я дарую яму, але за чацвёртае, за тое што ён здрадзіў багазмагальнікам (*планеты*) «двайнятам» у сталіцы і не памятаў братэрскага хаўруса з імі, я пашлю полымя (*світанку*) на сьцяну Цара-

11. гарада, і пажарэ ён яго палацы. Тры злачынствы “двайнят”[159] я дарую ім, але не чацвёртае, тое, што яны пераследавалі мячом (*каметай*) свайго брата-багазмагальніка (Арыён)

## Глава II.

4. Тры злачынствы богаславячых я дарую ім, але не чацвёртае, тое, што яны абкінулі закон Грамабоя

6. і зацягнуты ў зман ілжэбагамі іхных бацькоў. Тры злачынствы багазмагальнікаў я дарую ім, але не чацвёртае, тое, што яны імкнуцца, каб зямны прах быў бы на галаве ў бедных, і збіваюць паслухмяных са шляху: нават сын і бацька ходзяць да адной дзяўчыны, каб зняславіць сьвятое маё імя.

---

[158] Па-біблейску צר (ЦРБ), перароблена грэкамі ў Цір, у рускай мове гэтае слова (ЦУР і ЦАР) захавалася амаль нязменным у слове цар. Вось чаму я і перакладаю слова ЦР – Цар-горад (сузор’е Цяляці).

[159] АДУМ – Рымская імперыя. Сапсаванае АДМІ – двайняты, г. а. Усходняя і Заходняя імперыі.

11. Із сыноў вашых я выбіраў прарокаў і із юнакоў вашых – назарэяў (хрыстоў); ці не так гэта, сыны багазмагальніка?

16. А вы не слухалі іх. І вось за ўсё гэта самы цвёрды духам із асяродзьдзя адважных пабяжыць голым ў маючы адбыцца дзень!

## Глава III

4. Ці раве Леў у лесе, калі няма яму здабычы? Ці падась свой голас Ільвяня са свайго логава, калі няма чаго яму злавіць (*зацьменне ў сузор'і Ільва пад Ільвянятам*[160])

5. Ці патрапіць Птушка (*Крумкач*) у пятлю на зямлі калі силок не

6. нацягнуты? Ці трубіць у горадзе Труба (*камета*) і народ не спалохаўся б? Ці бывае бедства, якога б не дапусціў

7. бог багоў? Маючы з’явіцца бог нічога не робіць, не адкрыўшы свайго намеру прадказальнікам (*астролагам*).

9. Абвясьціце ж над харомамі “Полымя кахання”[161] над харомамі Міц-Рымскай зямлі: “Збярыцеся на горы Самарыі і паглядзіце на вялікія бясчынствы (*навальніцы*) і на прыгнёт сярод яе!”

12. Але як Валапас вырывае із пасткі Ільва дзьве галёнкі ці частку вуха, так уратаваны будуць сыны багазмагальніка, седзячага ў Самарыі на кутку ложка і ў Мяшку Крыві на сярэдзіне ложка.

14. У той дзень, калі я спаганю із багазмагальнікаў за іхныя злачынствы, адсечаны будуць рогі Ахвярніка (*сузор'е Ахвярніка*) і ўпадуць (*з неба*) на зямлю. Я паб'ю Дом Зімовы (*Казярог*) разам з Домам Летнім (*Ракам*) (мал. 76 і 1), і зьнікнуць Дшчэры, Года[162].

[160] Незвычайнае падобенства з гэтым месца мы знаходзім у главе III Ераміі: “Вось падымаецца Леў са сваёй нетры» і г. д. (III. 6-8).

[161] אשדוד (АШДУД) адносіцца да сучаснай вёсачкі Эсдул ў трох мілях ад берага Міжземнага мора на шляху із Егіпта ў Палестыну. Гэтае слова азначае «полымя кахання».

[162] בתי ה-שנה (БТІ Е-ДШЕ) зараз адносіцца да сучаснай вёсачкі Эсдул ў трох мілях ад берага Міжземнага мора на шляху із Егіпта ў Палестыну. Слова гэта азначае «полымя кахання».




Мал. 77. Старажытны Зімовы дом сонца – сузор'е Казярога. Заштрыхаваная паласа, па якой ходзяць планеты. (Із кнігі Astrognosia XVI стагоддзя. Кнігасховішча Пулкаўскай абсерваторыі.)




Мал. 78. Летняя стаянка сонца – сузор'е Рака (зараз яна перайменавана ў сузор'е Двайнят направа). Уніз сузор'е вялікага Сабакі і побач – Млечны Шлях (із той жа Астрагнозіі).

## Глава IV

1. Выслухайце маё слова, цялушкі каля колазварота (*планеты*), што на Самарыйскай гары!

2. Вечнаісны Аданіс кляўся святасьцю сваёй, што вось прыйдуць на вас дні, калі павязуць вас на Караблі і нашчадкаў

4. вашых на рыбацкіх лодках. Ідзіце ў «дом божы» (*да сузор'я Ахвярніка*) і грашыце; прыносьце вашы ахвяры хоць кожную раніцу і вашы дзесяціны хоць кожныя тры дні.

9. Я пашкоджваў ваш хлеб іржой і бляклaсьцю непагодзі. Вусень пажырала шмат вашых садоў.

11. Я выбляў сярод вас пагібель, як у Садоме і Гаморы (*Стабіі і Геркулануме*), і вы зрабіліся як галавешка, выхапленая із пажарышча навальніц; але ўсё-такі не вярнуліся.

12. Падрыхтуйцеся ж да сустрэчы бога!

14. Вось той, які стварае горы і выбляе вецер, абвяшчае зараз “двайнятам”, што ён надумаў: ён ранішняе святло ператварае ў змрок і топча нагамі зямныя вышыні; імя яму – вечнаіснуючы, бог нябесных ваяроў.

## Глава V

2. Упала, не паднімецца больш Панна багазмагальнікаў (*камета ў Панне*), яна скінута на зямлю, і няма каму падняць яе;

3. Так паведамляе бог-Грамабой: “горад, выстаўляючы тысячу ваяроў, застанецца толькі з сотняй і выстаўляючы сотню, застанецца з дзесяткам належачых да дома багазмагальнікаў.

5. Не звяртайцеся ў “божы дом”, не наведвайце “кола” (*экліптыкі*) і не вандруйце да калодзежа сямі: “кола” пойдзе ў палон, а “божы дом” ператварыцца ні ў што.

8. Той, які стварыў Сямізор'е і сузор'е Бур, які ператварае сьмяротную цемру ў яскравую раніцу, а дзень раптам азмрочвае як ноч і раптам (*ад землятрусу*)

11. разлівае ваду мора па твару зямлі, кажа вам: “Вы пабудуеце хаты із абцёсаных камянёў, а жыць у іх не будзеце, разьвядзеце цудоўныя вінаграднікі, а віна ад іх не будзеце піць (камета *з'явілася каля зоркі Вінаградарніца*).

16. На ўсіх вуліцах будзе плач, і на ўсіх завулках пачнуць казаць:

18. “На жаль! на жаль!”

19. Гора ўсім, жадаючым бачыць дзень прыходу бога-Грамабоя: ён змрочны, а не светлы. Ён падобны да таго, як калі б хто-небудзь збег ад Ільва і схоплены быў Мядзведзіцай, які прыйшоў бы дадому, і абапёрся рукой на сьцяну а яго ўкусіў бы Змей. Хіба не змрочным будзе гэты дзень, а светлым?

20. Ён – цемра, і няма ў ім зьзяньня.

25. Хіба падносіў ты мне ахвяры і хлебныя дарункі ў пустыні на працягу сарака гадоў, дом багазмагальнікаў? (*З часу сьмерці Вялікага цара ў 378 г. да зацьмення 418 гады прайшло 40 гадоў*). Не! Вы прынялі палатку цароў (МЛКІМ) і зорку бога вашага Сатурна[163]. За гэта я перасялю вас далёка за «Мех Крыві».

## Глава VI.

3. Гора тым, якія дзень бедства лічаць далёкім, ляжаць на канапах са слановай косткі і брынькаюць на гуслях, думаючы, што па-майстэрску валодаюць музычным інструментам, як

7. закаханы! Зараз пойдуць яны ў палон паперадзе палонных,

11. і скончыцца вялікая радасьць сьпешчаных. Будучы бог дась загад і ўразіць вялікія дамы расколінамі, а малыя трэшчынамі.

## Глава VII.

1. Тры бачанні паведаміў мне Адоніс:

2. Вось, стварыў ён саранчу на пачатку росту другой травы, пасьля пакосу для цара. Калі яна пачала есьці траву на зямлі, я прамовіў: “Божа! памілуй якавітаў: чым будуць

3. жыць яны без травы?” І злітаваўся Грамабой і адмяніў свой прысуд, сказаўшы: “Не будзе гэтага!”

4. Вось ён абвясьціў, каб полымя, зжэршы вялікую

5. бездань, зжэрла таксама і палеткі. Я прамовіў: "Божа! Спыні полымя, малю цябе! Чым стане якавіт? І без таго ўжо

6. ён малы”. І злітаваўся Грамабой і адмяніў свой прысуд, прамовіўшы: “Не будзе і гэтага!”

7. Вось ён стаў на стромкай скале, і ў руцэ ў яго сьвінцовы адвес (*камета 418 года ў Змеятрымальніку*). І ён

8. прамовіў мне: "Што ты бачыш, Моцны?» Я адказаў: “Адвес”. А ён прамовіў: “Я павешу правілы сярод майго народа-

9. багазмагальніка: не буду больш цярпліва ставіцца да яго. Я паўстану з мячом (*каметай*) супраць дома Ераваама”.

А затым наступны рэдактар гэтай кнігі дадае, відавочна ўжо ад свайго імя:

---

[163] כיון (КІУН) – планета Сатурн, Keivan па-арабску і на-фарсі, а ў перакладзе 70-і – Пайфан, чамусьці перароблены па-руску ў Рэмфана. У 418 годзе Сатурн быў у сузор'і Ільва, а Юпітэр у Скарпіёне.

10. Тады “Моцны божы”, святар у “Доме бога” паслаў да Еравaама цара багазмагальніка, паведаміць: «Моцны вырабляе абурэнне супраць цябе; не можа зямля

12. пераносіць усіх яго слоў. А самому Моцнаму паведаміў:

13. “Празарлівец! Выдаліся ў зямлю богаслaвячых, кармісь там і павучай, а ў “Доме бога” больш не выказвайся, таму што ён святыня цара і царскае жыллё.

4. Моцны адказаў яму: «Я пастух і збіраю сікаморы, але бог-Грамабой узяў мяне ад статку авечак, і прамовіў:

3. “Ідзі, прадказвай на мой народ. І вось за тое, што ты (*Моцны*) выказваешся: не прадказвай на багазмагальнікаў, жонка твая будзе распуснічаць ў горадзе, сыны і дочкі загінуць ад мяча, зямля твая будзе падзелена межавой вяроўкай, а багазмагальнікі абавязкова будуць выселены са сваёй зямлі”.




Мал. 79. Сузор'і паміж полюсам экліптыкі ў сузор'і Дракона (наверсе) і нябесным Ахвярнікам (унізе). Над ахвярнікам Скарпіён ў адгалінаванні Млечнага Шляху, пад ім Змеятрымальнік трымае змея, які адкрывае пастку на нябесны Вянок, а вышэй Геркулес, які збівае дубінай змей і топча Цмока.

# Глава VIII.

Пасьля гэтага апавяданне зноў працягваецца ад імя аўтара:

2. «Такое бачанне даў мне Адоніс:

1. Вось (*на небе*) кошык з переспеўшымі пладамі. "Што ты бачыш?” – спытаў ён у мяне. – “Кошык з пераспеўшымі

13. пладамі (*камету*)”. А ён адказаў мне: “Прыйшоў канец

11. майму народу – багазмагальніку! Шмат будзе трупаў, на кожным месцы будуць кідаць іх, моўчкі”.

Вось вы (*няверуючыя*) сцвярджаеце: “Калі пройдзе гэты маладзік (*без зацьмення*), мы пачнем прадаваць хлеб і пасьля суботы (*звярніце ўвагу, - што зацьменне 18 ліпеня 418 г. было пасьля поўдня ў пятніцу, а жыдоўская субота пачыналася ў пятніцу ж у 6 гадзін вечара*), паменшым мерку, павялічым кошт і будзем крывіць няправільнымі шалямі”. Але бог-Грамабой клянецца славай Якава (*навучыўшыся прадказваць зацьменні*): "Не забуду на-стагоддзі

10. такіх спраў! Захвалюецца ўся зямля і будзе паднімацца

9. і апускацца, як Міц-Рымскае возера! Я ўчыню захоп сонца апоўдні, і азмрочу зямлю сярод сьветлага дня.

8. Я перातвару ваша сьвята ў смутак і ўсе песні вашыя у плач. Я ўскладу

3. Вось наступаюць дні, калі я пашлю на зямлю не патрэбу ў хлебе, не смагу ад недахопу вады, а смагу чуць словы Грамабоя.

4. У той дзень будуць пакутаваць ад смагі ведаў выдатныя дзяўчыны і юнакі, якія прамаўляюць зараз: “Няхай жыве бог Дан! Ды квітнее шлях да калодзежа Сямі!”.

# Глава IX

2. Я бачыў Адоніса (*Змеятрымальніка*) над ахвярнікам (мал. 79), і ён паведаміў мне: “Разбі ўпрыгожванне над брамай, каб патрэскаліся вушакі і зваліліся на галаву ўсіх! Не ўцячэ ў іх ніхто із бягучых, і не ўратуецца ў іх ніхто, жадаючы

1. выратавацца *(землятрус 420 года*). Хоць бы яны зачыніліся ў апраметную, і адтуль рука мая возьме іх; хоць бы

16. ўзышлі на неба, і адтуль я скіну іх. Хоць бы яны схаваліся на вяршыні божага Вінаградніка, я і там знайду і вазьму іх; хоць бы яны затаіліся ад маіх вачэй на дне мора, я і там загадаю Марскому Змею (*сузор'е*

15. *Гідра-Марскі Змей*) уразіць іх. І калі яны пойдуць у палон да сваіх ворагаў, то я загадаю мойму мячу (*камеце 418 года*) і там забіць іх.

5. Бог магутнасьці дакранецца да зямлі, і яна растане, і заплачуць усе жывучыя на ёй. Уся яна захвалюецца як мора і апусьціцца

6. як Міц-Рымскае возера. Ён зладзіў свае жылля на нябёсах і зацвердзіў сваё скляпенне на зямлі; ён кліча марскую ваду і залівае ёй паверхню зямлі – вечнаісны імя яму!

7. «Ці не такія вы для мяне, сыны багазмагальніка, як і сыны эфіёпаў? – кажа Ён. – Ці не вывеў я вас із Кіра?”

8. Вось, вочы бога накіраваны супраць грэшнага (*рымскага*) царства, і ён зьнішчыць яго з твару зямлі.

9. Ён пастанавіў: “раскідаю дом багазмагальніка паміж усімі народамі, як рассыпаецца збожжа ў рэшаце, і ніводнае не ўпадзе на зямлю. Але ён адновіць упаўшую палатку Любаснага, зараўнае ў ёй шчыліны і наладзіць яе, як у старажытныя дні (*г. а. легенда пра Давіда ўжо лічылася*

12. *старажытнай*), каб знайшлі маючага з’явіцца бога народы, паміж якімі абвесьціцца яго імя.

13. Наступяць дні, калі горы будуць струмяніць салодкі сок і пагоркі будуць арашацца ім”.

* * *

Такім з’яўляецца біблейскае прадказанне «Моцны» (Амос), якое я тут прывёў у скарочаным перакладзе з жыдоўскай мовы, пазначыўшы сэнс уласных імёнаў. А скараціў я толькі частыя паўтарэнні адных і тых жа выказванняў па некалькі разоў, якія замінаюць складнасьці чытання.

Апошнія радкі тут ўяўляюць сабой пазнейшую прыпіску, але сярэдняя асноўная частка прадказання сапраўды напісана ў V стагоддзі і прытым у Рыме. Зацьменне 418 года мела там дзіўны выгляд, яно адбывалася ў пастцы сузор'я Ільва, і скарга святара Еравааму II, якога даводзіцца тут атаясаміць з Ганорыем, валадарыўшым у той час (імя Ераваам азначае проста “заступнік народа”), прама паказвае на гэта. Адсюль жа легенда пра немейскага ільва, праглынаючага сонца і забітага Геркулесам, адсюль жа легенда пра здраду Ісусу Юды Іскарыёта. Слова Іскарыёт (АЙШ-К-АРІЕ) азначае муж-як-леў, а таксама муж-арыянін, бо слова арыянін азначае львовец, а ў перакладзе на лаціна-грэцкую мову лявіт, ад leo-леў. Адсюль жа, верагодна, паходзіць і французскае імя Луі (Louis) – Людовік, першапачаткова меўшае значэнне лявіт.

# Глава XIV.
## Кім былі жыды ў старажытнасьці і кім былі біблейскія багі Іеве (Іегава), Саваоф і Элаім?

Для таго каб зразумець для сябе, менавіта што ў Бібліі разумеецца пад словам жыд (ЭБРІ), разгледзім нешматлікія выпадкі, у якіх яно там ўжываецца. Гэта не цяжка зрабіць карыстаючыся існуючымі ў тэалагічнай літаратуры спецыяльнымі альфабэтнымі ўказальнікамі ўсіх біблейскіх слоў[164]. Вось яны ўсё сабраныя ў прыкладзенай тут табліцы XVI.

ТАБЛІЦА XVI

Пералік усіх нешматлікіх выпадкаў, дзе слова жыд, жыдоўка ці жыдоўства сустракаецца ў Бібліі і ў Евангеллях.

| | |
|---|---|
| Кніга | Быцця: **14**.13; **29**.14; **41**.12; **40**.19; **43**.32 – пяць разоў |
| Кніга | Выхад: **2**.11; **2**.6,13; **3**.18; **5**.3; **7**.16; **9**.1,13; **10**.3 – сем разоў. |
| Кніга | Лявіт – ніводнага разу. |
| Кніга | Лічбаў – ніводнага разу. |
| Кніга | Другі закон – ніводнага разу. |
| Кніга | Суддзяў – ніводнага разу. |
| Кніга | Самуіл I: **4**.6,9; **13**.3,19; **14**.11,21; **29**.3 —чатыры разу. |
| Кніга | Самуіл II – ніводнага разу[165]. |
| Кніга | Мелехі (Правадыры)I – ніводнага разу. |
| Кніга | Мелехі (Правадыры) II – ніводнага разу. |
| Кніга | Макавеі (Молаты) – ніводнага разу[166]. |
| Прыморскія аповесьці Мораў (Параліменон) I – ніводнага разу[167]. | |
| Прыморскія аповесьці Мораў (Параліменон) II – ніводнага разу. | |
| Кнігі | Руф, Эсфір, Юдыф, Тавіт, Іаў, Псалмы, песьня Песьняў, Эклезіаст, Прыпавесьці Саламона, Прамудрасць Саламона і Прамудрасць Ісуса, Сына Сірахава – ніводнага разу. |
| Кніга | Ісайя – ніводнага разу. |
| Кніга | Ерамія: 34,9,14 —двойчы, амаль побач. |
| Кніга | Езекііл – ніводнага разу. |
| Кніга | Данііл – ніводнага разу. |
| Кніга | Ёна: 1,9 —адзін раз. |
| Кнігі | Амас, Аўдзій, Авакум, Варух, Захарыя, Іані, Міхей, Малахія, Навум і Сафонія – ніводнага разу. |
| Евангелле | Марка – ніводнага разу. |
| Евангелле | Мацвея – ніводнага разу. |
| Евангелле | Лукі – ніводнага разу. |
| Евангелле | Яна – ніводнага разу. |

[164] Гл. «Сімфонію Старога і Новага Запавету» (сінодзкае выданне), ці слоўнік Cruden'a пры «Polyglot Bible», выд. S. Bagster'a. Лондан.

[165] Дзве кнігі «Самуіл» і дзве кнігі «Правадыры» па-грэцку і па-славянску названы I, II, III і IV кнігі Царстваў. Гэта цалкам няправільна. Па-жыдоўску абедзве першыя кнігі маюць назву «Самуіл» (г. азн. чуючы бога, тое ж, што і Сімяён), а дзьве іншыя – «Правадыры» (МЛКІМ).

[166] Кніг Макавеяў няма на габрэйскай мове. Ёсць толькі па-грэцку і ў лацінскім перакладзе з грэцкага (ці наадварот).

[167] Прыморскія аповесьці (ДБРІ Е-ІМІМ) даволі слушна названы па-грэцку – Параліпаменон, але няправільна па-лаціне – Летапісы.

# ТАБЛІЦА XVII

Месцы, дзе ў Бібліі ўжыта слова ГЕБР (הבר) (ХыБыР) сугучнае са словам габрэй (hebraeus).

| |
|---|
| 1) У Кнізе Быцця (46.17) Гебр пазначаны пры пераліку родапачынальнікаў народаў і сектаў як сын Берыі (בריעה), унук Асіра, праўнук Ёсіфа, пра-праўнук Ізраіля-богазмагальніка, пра-пра-праўнук Ісака і пра-пра-пра-пра-праўнук бацькі Рыма (Аб-Рэма). |
| 2) У Кнізе Суддзяў: 4.11,17; 5.24 (у сэнсе наймення адной прыватнай асобы). |
| 3) У Кнізе «Марскія Аповесьці» (па-грэцку – Параліпаменон, па-лаціне – Хронікі), у кн. I. 7,31 прабацька Гебр, ці Хебр, таксама паказаны як сын Берыі, унук Асіра, праўнук Ёсіфа і г. д. згодна з Быццём |
| У гэтай транскрыпцыі слова Гебр больш нідзе не згадваецца ў жыдоўскай Бібліі. А па-грэцку яно згадваецца толькі раз: у Евангеллі Лукі (3,35). Але ж Гебр паказаны ўжо не нашчадкам бацькі Рыма (Аўраама), а яго продкам – пра-пра-пра-прадзедам. |

Перш за ўсё, мы са здзіўленнем заўважаем, што слова *ж ы д* ніразу не ўжываецца ў найбольш старажытных і значных біблейскіх кнігах. Яго цалкам не існуе ў такіх як: Лявіт, Лічбы, Другі закон. Яго няма ў біблейскіх гістарычных кнігах "Мелех" (няправільна названых у грэцкім перакладзе 3 і 4 кнігамі Царстваў), няма ў кнігах "Прыморскія Аповесьці" (па-грэцку – Параліменон). Яго няма ў Евангеллях, няма ў Псалмах, няма ў прыпавесьцях і ў біблейскай белетрыстыцы, як кнігі: Эсфір, Рут, Юдзіф, Тавіт, Песьня Песьняй і г. д. Яго няма нідзе ў прадказальнікаў, за выключэннем аднаго разу ў нязначным апавяданні пра Ёну. Калі маракі, якія пажадалі кінуць яго ў мора падчас буры, спыталі: якога ён народа? Ён адказваў ім: я жыд (ЕБРІ), шануючы Грамабоя, бога нябёсаў, стваральніка неба і зямлі (Ёна 1, 9). Ды яшчэ ў Ерам-Іі словы "жыд і жыдоўка" выкарыстаны ў сэнсе рабоў: "і было слова Грамабоя Ерам-Іі, каб кожны вызваліў на волю раба свайго і рабыню сваю, жыда і жыдоўку, каб ніхто не трымаў у рабстве брата свайго, багаслявячага"(Яр. **34**, 9). Адзінкавыя выпадкі ўжывання гэтых слоў у прадказальнікаў і іхны тлумачальны сэнс прымушаюць думаць, што нават і гэта – сярэднестагоддзевыя дадткі каментатараў.

У 2-й кнізе Саму-Іла жыдоў таксама нідзе няма, а што да 1-й кнігі, то гэта слова там ўжыта толькі ў чатырох выпадках. Перш за ўсё "валацугі" (па-біблейску "Філістымы") чатыры разы пагардліва называюць "багазмагальнікаў": "Навошта тут гэтыя жыды?" – кажуць яны. "Праз што такія гучныя крыкі у табары жыдоў?" – пытаюцца яны пазней. "Падмацуйцесь і будзьце мужнымі, каб не ператварылі ў рабоў вас жыды, як яны заняволены вамі?" (**4**, 6-9).

Потым у главе XIII такім жа імем называе "багазмагальнікаў" і Саўл, кажучы: "хай чуюць гэта жыды", але ў наступным радку аўтар зноў кажа ад сябе: і ўсё "багазмагальнікі" пачулі пра гэта (**13**, 3). Потым трохі далей у кнізе "Саму-Іл" гаворыцца, што "не было каваля ў зямлі "багазмагальніка", так як заняволіўшыя іх, прышэльцы, пастанавілі, каб жыды не рабілі сабе ні мяча, ні дзіды" (**13**, 19).

Затым у XIV главе зноў "валацугі" называюць багазмагальнікаў жыдамі: "Вунь жыды выходзяць із цясьнін, у якіх хаваліся, – кажуць яны" (**14**, 11). "І жылі жыды паміж валацугамі" (**14**, 21), – заўважае аўтар ужо ад сябе, калі ў гэтых адзіных чатырох згадках мы не маем справу з пазнейшымі дадаткамі перапісчыкаў.

А гэта мімаволі прыходзіць у галаву, таму што ў той жа самай кнізе мы знаходзім слова *багазмагальнікі (ізра-эль)*, якое служыць для пазначэння таго ж самага грамадзкага пласта ў перамешаным насельніцстве краіны, ўжытым каля трыццаці разоў, а ва ўсёй Бібліі больш за 1000 разоў. Эпітэт *багазмагальнікі* ў дачыненні да згаданага пласта насельніцтва, які жыў асобна сярод іншых

іншаверніцкіх слаёў, пазначаў, вядома, не іхную барацьбу з самім стваралькам сусвету, як гэта спрабуе паказаць нам адно наіўнае месца Кнігі Быцця (32, 28) пра начную барацьбу Якава з богам, прыдатнае толькі для чытання малым дзецям. Яно пазначае змагароў з паганскімі багамі і іхнымі выявамі ў статуях і на абразах у імя нерукатворнага адзінабожжа, г. азн. назва *багазмагальнікі* (ізра-эль) азначала тады не расу, а пэўны накірунак тагачаснай рэлігійнай думкі.

А вось выпадкі, дзе слова "жыд" ужыта ў Кнізе Быцця.

1) "У чатырнаццатым годзе прыйшоў Кэдарлемер (КДРЛ-ЭМР) і цары, якія былі з ім[168] (**14**, 5) да крыніцы Кадэс і ўзялі ўсю маёмасьць Садома (СДМ) і Гаморы (ЭМРЕ) і Лата (лаціняніна), жыўшага ў Садоме (*відаць, у Стабіі блізка ад Везувія*). Але адзін із ўцекачоў із палону апавясьціў пра гэта "Бацьку Рыма", жыда. "Бацька Рым" пагнаўся за паланіўшымі і вярнуў Лата (лаціна) і маёмасць яго і яго народ"(**14**, 5-16).

2) "Жонка царскага вяльможы звярнула свае погляды на Язэпа, схапіла яго за накідку і прамовіла: "ляж са мной!", але ён пакінуў накідку ў яе руках і выбег прэч. Яна пакінула ў сябе накідку да вяртання свайго чалавека і паведаміла: "раб, жыд, якога ты прывёў да нас, прыйшоў зняславіць мяне..." "І ўзяў Язэпа яго гаспадар і заняволіў у цямніцу"(Быццё, **39**. 7-20).

Акрамя таго, на заканчэнні гэтай легенды сказана, што калі Ёсіф, стаўшы пасьля свайго вызвалення із вязніцы першым саноўнікам вярхоўнага правадыра міц-рымцаў, частаваў прыехаўшых да яго бацьку і братоў урачыстым абедам, "то яму падавалі асобна, і ім асобна, і міц-рымцам асобна, таму што агідна для міц-рымцаў есьці хлеб разам з жыдамі"(**43**, 32).

Такім чынам, ва ўсёй Кнізе Быцця слова жыд (ЭБРІ) ўжываецца, уласна кажучы, толькі ў дачыненні да братоў Язэпа і прытым таксама з пазначэннем, што да "жыдоў" *ужо ў гэты час пагардліва ставіліся* нейкія іншаверныя народы да таго, што з імі не лічылася прыстойным нават абедаць за адным сталом. А гэта ніяк не магло быць да пачатку сярэдніх стагоддзяў, калі некалькі адзінабожных сектаў сапраўды пачалі да такой ступені варагаваць адна з другой, што ўжо не ждалі мецъ паміж сабой нічога агульнага. Хай нават гэтыя міц-рымцы былі толькі пануючым класам у Ягіпце, які меў назву па-копцкі Хемі або Хм (ХыМ), гэта ніколькі не перамяняе сутнасць справы. Калі б з Язэпам абедалі тады язычнікі, то яны пакланіліся б усім багам, у тым ліку і "ствральніку сусвета" і не пагрэбавалі б нікім.

А дадатак эпітэта ЭБРІ да імя бацькі-Рыма (АБ-РМ) у XIV главе Быцця паказвае толькі на тое, што слова "эбрі" (перасяленец) служыла найменнем заснавальніка Рымскай імперыі.

Вось і ўсё, што гаворыцца ў Кнізе Быцця пра жыдоў.

Крыху больш за тое мы знаходзім і ў кнізе "Зыход", г. азн. у зборніку легенд пра Майсея і Арон, пры гэтым адзначым, што слова "Майсей" ў перакладзе на нашу мову азначае "ахрышчаны вадой", або "выратаваны", і з'яўляецца эпітэтам, а не дадзеным бацькамі ўласным найменнем.

Вось кожнае із сямі месцаў, дзе там ўжываецца слова "жыд":

Валадар міц-рымцаў загадаў (*падобна евангельскаму "Іраду"*) акушэркам жыдовак: "Назірайце пры нараджэннях. Калі будзе ў іх сын, дык аддавайце яго на

[168] עברי (ЭБРІ)—перасяленец, валацуга.

сьмерць" (Зыход **1**, 14, 16). "Але бабкі адказалі яму: "Жыдоўскія жанчыны не так, як міц-рімкія: яны нараджаюць раней, чым да іх прыйдзе акушэрка" (Зыход **1**, 19).

Потым распавядаецца, як маці вялікага пасвечанага (Майсея), каб выратаваць сваё дзіця, пусціла яго ў кошыку па рацэ перад прыходам туды дачкі "доўгавалосага" ("ПАРЭ"). Заўважыўшы дзіця, якое плавае ў кошыку па рацэ, яна прамовіла: "гэта із жыдоўскіх дзяцей" (Зыход **2**, 6).

Потым, пасьля апавядання пра тое, што Майсей быў выхаваны як міц-рымец, паведамляецца: "Майсей пабачыў аднойчы, што міц-рымец б'е аднаго жыда із яго братоў". "Ён забіў міц-рымца і закапаў яго ў пясок. Калі ж ён выйшаў на другі дзень, то пабачыў, як сварацца два жыды (**2**, 6, 11, 13). Выявілася, што яны ўжо ведаюць пра ўчынак Майсея. Спалохаўшыся, ён збег у Мадзіну (МДІНУ), але там бог, які зьявіўся яму ў паўночным ззянні (*вянку із цярноўніка*), прамовіў яму: "Ідзі да "доўгавалосага"[169] са старэйшынамі багазмагальнікаў і скажы яму: "Мы маем жаданне пайсьці ў пустыню на тры дні, каб прынесьці ахвяру богу жыдоў". (**6**, 3). Але, нягледзячы на гэтыя словы, "доўгавалосы" не пусьціў заняволеных ім людзей, і бог зноў сказаў свайму пасвечанаму: "Паведам яму яшчэ: бог жыдоў выправіў мяне да цябе паведаміць: пусьці народ" (7, 16). А калі і на гэты раз "доўгавалосы" не пусьціў, то бог трэцці раз паўтарыў той жа загад. "Так кажа Маючы З’явіцца бог жыдоў: пусьці народ мой здзейсніць мне служэнне" (**9**, 1, 13). Потым бог загадаў, перш чым прызначыць апошняе пакаранне міц-рымцам за паняволенне яго народа, зноў паведаміць "доўгавалосаму": "Так кажа Грамабой, бог жыдоў: "да якога часу ты не будзеш схіляцца перада мной? "(10, 3).

Ні ў якім іншым месцы Біблії, акрамя гэтай размовы вялікага пасвечанага з доўгавалосым патрыярхам міц-рымцаў, біблейскі бог не называецца богам жыдоў. Ды і ў гэтых выключных выпадках мы не заўважаем, каб пад імем "эбрі" мелася на ўвазе асобная нацыя альбо народ, які мае ў Азіі аднайменную з сабой зямлю, падобна таму, як армяне маюць Арменію, персы – Персію, арабы – Аравію і г. д. Адзіныя дзьве зямлі, аднайменныя з эбрамі (жыдамі) – гэта старажытная заходняя Іберыя, г. азн. Гішпанска-Партугальская паўвыспа, жыхары якога, сапраўды, мелі назву іберы, ды ўсходняя Іберыя (Арменія з Грузіяй), апісаная ў семнаццаці-кніжнай геаграфіі, прыпісанай выдаўцамі аўтару пачатку хрысьціянскай эры "Косавокаму" (Страбон) і маючайся толькі ў выданнях кнігадрукавальнай эпохі, але не ў рукапісах.

Згодна з гэтымі двума Іберыямі "Касавокага" за родапачынальнікаў жыдоў даводзіцца лічыць ці гішпанскіх маўраў, ці частку армян, якія некалі запазычылі арабскую культуру. Арамейская мова, на якой напісаны некаторыя кнігі Біблії, у тым ліку ўвесь "Даніїл", збольшага захавалася ў Сірыі і да гэтага часу, як адна із гаворак арабскай мовы, пераіначаннем якой з’яўляецца мова астатніх біблейскіх кніг, якую мы і называем зараз "старажытнажыдоўскай мовай", падобна таму, як лацінскай мовай мы называем сярэднестагоддзевы жаргон старажытна-італьянскай мовы, а грэцкай класічнай такі ж сярэднестагоддзевы жаргон старадаўняй элінскай мовы.

Згодна са сваім вымаўленнем і паходжаннем дайшоўшая да нас біблейская мова павінна быць аналагічнай сучаснаму нямецкаму жаргону польскіх жыдоў.

---

[169] Слова ברעה (ФРЭЕ) перароблена перакладчыкамі ў «Фараон», але ў ягіпецкай іерогліфіцы такога слова не існуе. Цар Ягіпта там мае назву сутэн (султан) ці «шэф» шэф, шэіх. Па-жыдоўску ФРЭЕ азначае – распушчаныя валасы, даўгагрывы, як я і пераклаў гэтае слова, нідзе пакуль не лакалізуючы Мадзіну і Міц-Рым (МЦ-РІМ), атаясамляемы тэолагамі без доказаў з Ягіптам.

Лічыць яе за сапраўдную першабытную мову, ад якой адгалінавалася арабская, гэтак жа неасьцярожна, як лічыць сучасную нямецкую мову за пазнейшае адгалінаванне польска-жыдоўскай.

Пра існаванне *асобнай* жыдоўскай мовы ў старазапаветнай Бібліі не гаворыцца ні слова. Па-грэцку ж пра яе згадваецца два разы ў Апакаліпсісе (**9**, 11; **16**, 16), чатыры разы ў Евангеллі Яна (**5**, 2; **9**, 13; **17**, 20) і адзін раз у Евангеллі Лукі (**23**, 38), але заўсёды як тлумачэнне да ўжытага там і нярэдка перарobленага арабскага наймення. Так, напрыклад, у Евангеллі гаворыцца: "Ёсць у Ерусаліме купальня, называная *па-жыдоўску* Віфезда" (Ян **5**, 2), або "і быў над ім (*слупаваныым Езусам*) надпіс, напісаны словамі грэцкімі, рымскімі і жыдоўскімі: "Гэта цар богаслаўцаў" (Лука **23**, 38).

Калі мы дапусьцім, што гэта толькі тлумачальныя надпісы сярэднестагоддзевых перапісчыкаў да мясцовых палестынскіх назваў, дзіўна гучаўшых ў іхных вушах, то прыйдзем да высновы, што назва *жыдоўская мова* ўвайшлі ва ўжыванне для пазначэння спецыфічнай варыяцыі арабскай мовы толькі пад час хрысьціянскай эпохі. Толькі ў параўнальна вельмі позняй сярэднестагоддзевай кнізе "Здзяйсненні" гаворыцца (**21**, 40 і **22**, 2), што аднойчы "апостал Павел" у Цэзарыі вымавіў сабраўшамуся натоўпу прамову на жыдоўскай мове, але згодна са зместам ўся гэтая прамова мае характар сярэднестагоддзевай прыдумкі, тым больш што ў той час, да якога адносіцца прамова Паўла нават самімі тэолагамі (І стагоддзе нашай эры), "жыдоўская мова", як размоўная, лічыцца цалкам не існаваўшай. Сучасныя гебраісты, якія адстойваюць яе глыбокую старажытнасць і натуральнае паходжанне сцвярджаюць, што яна была канчаткова і паўсюдна, нават у Палестыне, "выцеснена арамейскай" за чатыры стагоддзі да пачатку нашай эры.[170]

Г. азн. як у "Здзяйсненнях", так і ў Евангеллях жыдоўскай мовай называецца арамейская або, магчыма, арабская мова. Толькі на іх і маглі ў той час яшчэ весьціся ў народзе размовы і існаваць агульназразумелыя назвы мясцовасьцей. Ніводнаму падарожніку па сучаснай Італіі не прыйдзе ў галаву напісаць: каля Неапаля ёсць гара, званая па-латыні "Везувій", або загаварыць там з італьянскім натоўпам не па-італьянску, а па-латыні. Сапраўды ў такім жа становішчы пісалі і евангелісты і ў такім жа становішчы прамаўляў "Павел". Арамейская ж мова ўжывалася "жыдамі" аж да X стагоддзя, на ёй напісаны Талмуд і, акрамя часткі біблейскіх і розных свецкіх жыдоўскіх кніг шмат хрысьціянскіх рэлігійных. Затым, ад X да XIII стагоддзя жыды карысталіся даволі чыстай арабскай мовай і толькі пачынаючы з XIII стагоддзя пачалі ўжываць, пад імем старажытна-жыдоўскай, той варыянт арабскай мовы, на якім напісана большасць біблейскіх кніг.

Усё гэта паказвае, што жыдоў, як самастойнай расы, якая мела калісьці ў Палестыне сваю тэрыторыю і сваю дзяржаву, ніколі не існавала. Гэта была не раса, а інтэлігенцыя свайго часу, "выбраны народ із усіх народаў", пласт адукаванага насельніцтва краін, якія размяшчаліся на працягу IV, V, VI і VII стагоддзяў ад Гішпаніі праз усю паўночную Афрыку і Ягіпет да Арменіі ўключна, і збольшага быў пашыраны і ў Візантыі. Гэты пласт пісаў і, верагодна, нават размаўляў паміж сабой, акрамя сваіх родных моваў, яшчэ на асабнай, навуковай арабскай, у якой некаторыя аравійскія гукі хутка спрасьціліся, г. азн. перайшлі ў іншыя, з нагоды

[170] Гл., напрыкладам, А. І. Томсан «Агульнае мовазнаўства», 1910 г

няздольнасьці іншародцаў правільна іх вымаўляць. Гэтая мова для іх была тым жа, што і сярэднестагоддзевая лацінская для еўрапейцаў.

Такі ж скептыцызм мне хочацца выказаць ў дачыненні да "глыбокай старажытнасьці" і іншых заходне-азіяцкіх помнікаў пісьмовасьці, а, такім чынам, і моваў, на якіх яны напісаны.

У даволі значнай колькасьці клінападобных надпісаў, выдрапаных на цаглінах і перавезеных большай часткай у Берлін, Парыж і Лондан, асірологі знаходзяць доказ існавання там загінуўшай у старадаўнія часы старажытнейшай культуры, роднаснай з нядаўняй урала-алтайскай. Разам з рознымі малітвамі, загаворамі, гімнамі і надпісамі цароў на гэтых помніках старой пісьмовасьці маецца шэраг кароценькіх апавяданняў на біблейскія сюжэты, да таго падобныя на апошнія, што запазычанне іх сюды із Бібліі або адсюль у Біблію – не выклікае сумненняў. Археолагі адносяць іхны час за 4000-5000 гадоў да пачатку нашай эры, грунтуючыся на ўкаранiўшымся ў нас меркаванні пра вялікую старажытнасць Бібліі і з прадузятым дапушчэнні, што Біблія запазычыла свае сюжэты із клінапісу, а не яны із Бібліі.

Аднак гэта цалкам не даказана, а таму не даказана і тое, што носьбіты клінапіснай культуры не былі часовымі заваёўнікамі персаў, якія спрадвеку жылі ў далінах Тыгра і Еўфрата, падобна таму, як манголы былі часовымі заваёўнікамі Расіі. Хутчэй за ўсё, гэта было менавіта так, а таму і існаванне ў той мясцовасьці за шмат тысяч гадоў таму "акада-сумерыйскай" культурнай расы, быццам бы заваяванай прыйшоўшымі з поўначы "жыдамі", пераняўшымі яе культуру, выклікае вялікія сумненні. Катастрафічная тэорыя развіцця культуры чалавецтва шляхам разбурэння ўзнікшых культурных цэнтраў варварамі, павінна быць так жа адкінута, як зараз адкінута аналагічная тэорыя катастроф у геалогіі і палеанталогіі.

Наколькі мы можам бачыць, дзяржавы знаходзячыяся на больш высокім узроўні культуры заўсёды скаралі або адбівалі тыя, якія стаялі на ніжэйшай ступені развіцця. Выміранне і заваяванне адстаўшых духоўна і малакультурных рас больш духоўна развітымі, хаця б і слабейшымі ў фізічным дачыненні, з'яўляецца агульным законам чалавечай эвалюцыі, і патрэбна з вялікім недаверам ставіцца да сярэднестагоддзевага гіпнозу, яшчэ трымаючага ў сваіх кіпцюрах нашы розумы, быццам бы ў старажытнасьці і ў сярэднія стагоддзі эвалюцыя чалавецтва ішла адваротнымі парывамі, у адрозненне ад нашых дзён.

Я не буду тут выбіраць цытаты пра "бога Бібліі", як выбіраў пра жыдоў, таму што такіх цытат – без канца. Я абмяжуюся толькі заўвагай, што ў розных кнігах Бібліі ён розны і што яго варыяцыі не павінны аб’ядноўвацца пад адным найменнем, як гэта да гэтага часу робяць перакладчыкі і тэолагі.

У прадказальнікаў гэта месія (IEBE), бог, які павінен прыйсьці і запанаваць на зямлі, і таму ў сваёй кнізе "Пракокі (Прадказальнікі)" і збольшага тут, кажучы пра яго, я пакінуў за ім найменне "Маючы З’явіцца" згодна з яго звычайным вывядзеннем ад дзеяслова ЕУЕ (або ЕВЕ) – быць. У царкоўных жа перакладах яго заўсёды называюць "гасподзь" цалкам няправільна.

Але гэты ж самы Іеве фігуруе і ў лацінскім Пантэоне пад тым жа найменнем, толькі з дадаткам лацінскага заканчэння да назоўніка наймення мужчынскага роду “S”, з нагоды чаго із Іеве і атрымаўся Іевіс, або Іовіс (Jovis), г. азн. Юпітэр. Г. азн, Юпітэр таксама быў "Маючым З’явіцца богам прадказальнікаў", і лаціны яго атаясамлялі з богам-Грамабоем і са стваральнікам сусвету, як і ў біблейскай і ў хрысьціянскай тэалогіі.

Рабінам наогул было забаронена прамаўляць гэтае імя (ІЕВЕ) у поўным выглядзе каб ён не пачуў і не загрымеў, і яны прамаўлялі толькі першую літару, называючы яго І, або першы склад ІЕ, як яно і ўвайшло ў склад шматлікіх імёнаў, нават і ў імя евангельскага Хрыста І-ЕЗУС, пры чым І тут азначае ІОВІС (Jovis) і ІСА – выратавальнік, а УС – звычайнае заканчэнне найменняў мужчынскага роду. Гэта азначае, імя Езус перакладаецца ў сэнсе месіянскіх прадказальніцкіх кніг ці "будучы выратавальнік", ці "Грамабой-выратавальнік", ці Юпітэр-выратавальнік.

Сапраўды гэтак жа і лаціны асьцерагаліся прамаўляць гэтае імя ў назоўным або клічным склонах і пакідалі толькі першы склад ІЕ, замяніўшы яго ІЮ і дадаўшы да яго слова "бацька" (pater), адкуль і атрымалася ўжываемае намі найменне Йу-ПАТЭР, або Юпітэр, або "бог-бацька" хрысьціянскай тэалогіі.

Грэкі прамаўлялі імя Іевіс, як Зеўс, выводзячы яго ад свайго дзеяслова *зао* (жыву) і, надаючы яму сэнс: *жывучы*, *існуючы*, як і тлумачаць тэолагі імя Іеве сапсаванае ў Іегову. І я нават думаю, што не Іовіс-Зеўс паходзіць ад Іеве-Іеговы, а дакладна наадварот.

Як жа нам перакласьці слова *Іеве* ў непрадказальніцкіх біблейскіх кнігах, дзе яно пазначае менавіта чалавекападобнага бога-Грамабоя, які п'е і ўжывае ежу, і размаўляе з людзьмі? Я не знайшоў нічога лепшага, як пакінуць за ім часам грэцкае найменне Зеўс, каб наладзіць сувязь паміж біблейскай і класічнай тэалогіяй. Няхай жа чытач не здзіўляецца, пабачыўшы, што ў мяне ў цытатах із Бібліі часта атрымліваецца цалкам тое ж самае, што, напрыклад, у Фукідыда або ў Адысеі.

Падабенства павялічваецца яшчэ праз тое, што ў біблейскіх кнігах фігуруюць, акрамя Зеўса, і іншыя багі, якіх мы прывыклі бачыць у класікаў. Такім, напрыклад, з’яўляецца бог войнаў – Марс, не раз згадваемы ў Бібліі пад імем бога Саваоф і званы ў перакладах "богам Саваофам", з ігнараваннем таго, што слова Саваоф (Шбаут) і азначае у перакладзе *войска* і больш нічога. Такія і іншыя багі, якім Зеўс тут забараняе пакланяцца, як замежным заступнікам, не адкідваючы іхнага існавання: Венера – Астарта, Меркурый – Нэво, Бел – Юпітэр, і сябе часам кліча Адонай, ён жа Адоніс і г. д.

Зеўс-Іеве адрозніваецца тут ад сваёй планеты Юпітэра, таму што па-грэцку ў родным склоне называецца ўжо не Зеўсам, а Дзыясам, ад лацінскага слова дзіес (dies) – дзень, а ў біблейскім тэксце яго імя, як мы бачылі, азначае існуючы, калі ўзяць транскрыпцыю ЕВЕ, і маючы з’явіцца, калі ўзяць месіянскую транскрыпцыю ІЕВЕ.

Дакладна такое ж паходжанне мае і лацінскае імя бога – *дэус (deus)* ад абагульнення гэтага Зеўса-Дыяса з *днём*, як антытэзай ночы. Гэта далейшая стадыя развіцця уяўленняў пра бога-бацьку, які раней атаясамляўся з Сонцам, як мы бачым із яго назвы ў некаторых месцах Бібліі імем АЛ або ЭЛ таго ж кораня, як і грэцкае слова Эліос – сонца.

Ад бачнай вокам крыніцы сьвятла і пазнання ў прыродзе ўяўленне чалавека перанеслася, нарэшце, да самога сьвятла, як да сутнасьці нябачнай у выглядзе рэчы, але робячай бачнымі ўсе іншыя рэчы ў прыродзе, у тым ліку і само сонца. Гэта і быў – бог-дзень (dies, dios, deus). Але ў Бібліі гэтае вышэйшае разуменне выяўляецца толькі ў зачатачным стане, і нам не давядзецца тут яго ўжываць.

Аднак, першапачатковае слова АЛ або ЭЛ для адначасовага абазначэння бога-бацькі і Сонца – нам давядзецца ўжываць і ў абагульненым сэнсе для ўсіх ўяўляемых тады багоў.

Яркі ўзор існавання шматбожжа падчас складання біблейскіх легенд мы знаходзім у тым, што слова АЛ – бог – часта ўжываецца там дакладна гэтак жа, як і ў грэцкіх класікаў – у множным ліку: багі (АЛЕІМ). Вось чаму і ў царкоўных перакладах засталася ў некаторых месцах назва біблейскага бога Элаім, з ігнараваннем таго, што гэтае слова азначае не бог, а багі. "Спачатку стварылі "багі" неба і Зямлю" – чытаецца першая фраза Кнігі Быцця, і гэтыя яе "багі" заўсёды выказваліся ў множным ліку: не я, а мы.

З такімі папярэднімі заўвагамі я і перайду да разглядання (у апошнім аддзеле гэтага тома) таго, як толькі-што акрэсленае мной ваяўнічае хрысьціянства біблейскіх прадказальнікаў ператварылася ў пагадніўшаяся з зямнымі ўладамі евангельскае. Але раней гэтага я дам сьцісла сваю схему старажытнай храналогіі, усе дэталі якой, праз неабходнасць, апрацаваны мной (з астранамічнага, геафізічнага, матэрыяльна-культурнага і этна-псіхалагічнага эвалюцыйнага бакоў гледжання) толькі ў наступных тамах гэтага даследавання.

# Частка Трэцяя

## Увядзенне.
## Нешта неверагоднае ў нашых сучасных уяўленнях пра старажытную гісторыю.

*Выкарыстанне матэматычнай тэорыі верагоднасьцей да даследавання выпадковых шматкратнасьцей старажытнай храналогіі*



Мал. 89. Колападобная столь Дэндэрскага храма ў Ягіпце. Сярод фігур, паказваючых ахвярныя працэсіі, дадзены 12 сузор'яў Задыяка і планеты: Марс на Казярогу, Сатурн пад Паннай, Юпітэр у

Раку над Ільвом, Венера пад Авенам, Сонца і Меркурый ў Рыбах. Гэта астралагічны гараскоп 15 сакавіка 568 г. нашай эры.

Я не буду разважаць тут пра тое, што ў паведамленнях нашых гістарычных першакрыніц існуе здаючаяся не толькі неверагодным, але і выглядае відавочна немагчымым, якімі, напрыклад, з’яўляюцца цуды.

Сучасная гістарычная навука ўжо ачышчана ад падобных паведамленняў, і ні адзін сур'ёзны гісторык не распавядае нам зараз, як, напрыклад, Майсей здабываў ваду са скалы ударам свайго кія, ці як евангельскі "настаўнік" ператварыў ваду ў віно падчас вяселля сваіх сяброў. Сур’ёзная гісторыя паказвае нам такія паведамленні толькі як легенды пра жыццё выдатных людзей старажытнасьці, малюючы псіхалагічны стан сучасных ім пакаленняў.

Але ў ёй яшчэ застаецца нераспрацаваным цэлы пласт іншых не адпавядаючых рэчаіснасьці падзей, што робіцца відавочным толькі пры дапамозе матэматыкі.

Па знешнасьці і паасобку гэтыя падзеі цалкам праўдападобныя, але пры супастаўленні адных з другімі становяцца вельмі неверагоднымі, калі дапусьціць за імі незалежнае адна ад другой паходжанне.

Я прывяду тут галоўнейшыя падобныя неверагоднасьці, пакідаючы другарадныя для далейшых тамоў.

Толькі вызваліўшы нашы галовы ад падобных недарэчнасьцей, мы зможам закласьці падмурак для новай навукі: гісторыі безперапыннай (і вельмі хуткай) эвалюцыі чалавечай псіхікі з моманту ўзнікнення на зямлі лёгкадаступнага кожнаму фанетычнага напісання.

# Глава I.

*Паралелізм двух іерагліфічных радаводаў Ра-Месу Міамуна з евангельскімі радаводамі Езуса і некаторыя высновы із гэтага.*

**А. Абідоская табліца і радаводы Езуса ў евангеллях Лукі і Мацвея.**

Пачну некалькі здалёк.

Пра усё вялікія навуковыя вынаходніцствы і пра ўсіх вялікіх людзей мінулага часу складаюцца легенды. Так, пра Ньютана распавядаюць, што ён адкрыў закон прыцягнення, назіраючы, як яблык упаў з яблыні, пад якой ён ляжаў; пра Галілея кажуць, што ён прыдумаў маятнік для колавых гадзін, назіраючы, як гайдаецца панікадыла ў царкве...

Вы адразу бачыце, што ў гэтых абедзвюх легендах няма нічога непраўдападобнага, і таму яны прыводзяцца нават і ў падручніках. Але што вы скажаце з нагоды наступнага анекдота пра Якава Бярнулі, бацьку сучаснай матэматычнай тэорыі верагоднасьцей, якая мае такое вялікае значэнне пры даследаванні важнейшых фізічных, біялагічных і грамадзка-статыстычных праблем?

Вось гэты анекдот. Калі Якаў Бярнулі быў яшчэ юнаком і сядзеў, займаючыся ў сваім пакоі ў Базелі, пайшоў моцны град, які выбіў шкло яго вакна, і на падлозе яго пакоя апынулася 77 градзін, якія размясьціліся своеасаблівымі згуртаваннямі. Ён класіфікаваў іх па адлегласьці іхнага знаходжання ад вонкавай сьцяны і налічыў 13 згуртаванняў, якія і пазначыў на падлозе крэйдавымі лініямі, паралельнымі сьцяне. Шкло было ўстаўлена ў вакно, але на наступны дзень

пайшоў новы град, зноў прабіў шкло ў вакне, і нават у іншым месцы. Калі град скончыўся, ён зноў палічыў трапіўшыя ў пакой градзіны, і, на сваё здзіўленне, выявілася, што і зараз іх ляжала на падлозе таксама 77 і, можаце сабе ўявіць! – яны размясьціліся паміж яго крэйдавымі лініямі дакладна так жа, як і ранейшыя, толькі на месцы перадапошняй градзіны выявілася мокрае месца, як-быццам бы яна ўпала, ужо растаючы.

А ў дэталях выйшла наступнае.

Паміж яго 1-й і 2-й лініямі выявілася ў абодвух выпадках як раз па 8 градзін, вельмі старога, адмысловага выгляду, і першымі із іх ляглі дзве буйныя градзіны.

Паміж 2-й і 3-й лініямі выявілася як раз 5 градзін і ў тым і ў другім выпадку, і другая з іх таксама была больш буйнай.

Паміж 3-й і 4-й лініямі выявілася 7 градзін і ў тым і ў другім выпадку, і дзве із іх ляглі ў тым і ў другім выпадку некалькі асобна ад іншых.

Паміж 5-й і 6-й лініямі ў першым выпадку выявіліся 4 такія вялізарныя і своеасаблівыя градзіны, якіх ён ні разу не бачыў у сваім жыцці, ды і ў другім выпадку таксама выявілася 4 такія ж вялізарныя і своеасаблівыя градзіны.

І паміж усімі астатнімі яго лініямі атрымалася такое ж дакладнае лікавае і нават якаснае супадзенне ў абодвух выпадках, а апошнія градзіны ў іх былі падобныя на каштоўныя камяні, хаця абодва выпадкі граду былі незалежнымі адзін ад аднаго, і прабоіны ў шкле былі рознымі. Гэта дзіўнае супадзенне так зацікавіла маладога Якава Бярнулі, што ён узяўся за вывучэнне закона выпадковых супадзенняў і вынайшаў сваю знакамітую формулу ў матэматычнай тэорыі верагоднасцей...

– Дазвольце! – бясспрэчна перапыняеце вы мяне. – У той момант, калі ён вынайшаў сваю знакамітую формулу, ён пераканаўся б, што гэтыя абодва выпадкі граду, або, на крайні выпадак, другі з іх ён бачыў толькі ў сне, так як сама ж яго тэорыя верагоднасцей паказвае, што такога супадзення і па агульнай колькасьці градзін 77, і па асобных гуртах, у рэальнасьці не магло быць. Нават калі б гаворка ішла пра адзін і той ж выпадак граду, патрапіўшым ў пакой праз дзве аднолькавыя адтуліны, то верагоднасць абсалютнага супадзення памяншалася б больш чым адваротна прапарцыянальна ўзрастанню колькасьці заляцеўшых градзін.

А тут і абедзве прабоіны незалежныя па сваёй велічыні, і абодва грады незалежныя па сваёй працягласьці!.. Гэта запатрабуе ўзвядзення 77 больш чым у трэцюю ступень. А падзел градзін на 13 аднолькавых па якасьці і колькасьці згуртаванняў, прычым у абодвух выпадках градзіны чацвёртага згуртавання з'яўляюцца выключнымі, падобных якім ні разу не даводзілася бачыць у жыцці, можа быць толькі ў чароўнай казцы...

І вось гэтую-та самую чароўную казку мы і бачым у прыкладзенай табліцы XVIII, дзе я даў супастаўленне знакамітага ў ягіпталогіі радаводу Рамзэса Вялікага (*імя якога Ра-Месу азначае: "бог спарадзіў яго"*) і знакамітага ў "сьвятой гісторыі" радаводу таксама боганароджанага Езуса Хрыста.

Скажыце самі: ці не падобна гэта на сон? Для матэматыка гэта – відавочны сон. Разгледзім жа гэтую начную мрою ў дэталях.

## Табліца XVIII.

Параўнанне лікаў продкаў Ра-Месу Міамуна ў паслядоўных дынастыях «егіпецкіх цароў» згодна з Абідоскай табліцай з колькасьцю продкаў Езуса-Месіі ў іх натуральных гуртах згодна з Евангеллем Лукі (гл. 3.).

| | Продкі Езуса | | | | | | | | | | | | | | Продкі Ра-Месу | | | | | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1-ае згуртаванне | | | | | | | 8 | 7 | 6 | 5 | 4 | 3 | 2 | 1-ШЫЧАЛАВЕК | 1-ШЫЦАР | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | | | | | | | 1-ая дынастыя |
| 2-ае згуртаванне | | | | | | | | | | 13 | 12 | 11 | 10 | 9 | 9 | 10 | 11 | 12 | 13 | | | | | | | | | | 2-ая дынастыя |
| 3-ае згуртаванне | | | | | | | | 20 | 19 | 18 | 17 | 16 | 15 | 14 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 | 20 | | | | | | | | 3-яя дынастыя |
| **Вялікае 4-ае згуртаванне** | | | | | | | | | | | 24 | 23 | 22 | 21 | 21 | 22 | 23 | 24 | | | | | | | | | | | **Вялікая 4-ая дынастыя** |
| 5-ае згуртаванне | | | | | | 33 | 32 | 31 | 30 | 29 | 28 | 27 | 26 | (25) | (25) | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 | 33 | | | | | | 5-ая дынастыя |
| 6-ае згуртаванне | | | | | | | | | 39 | 38 | 37 | 36 | 35 | 34 | 34 | 35 | 36 | 37 | 38 | 39 | | | | | | | | | 6-ая дынастыя |
| 7-ае згуртаванне | | | | | | | | | | | | | 41 | 40 | 40 | 41 | | | | | | | | | | | | | 7-ая дынастыя |
| 8-10-ае згуртаванне | 55 | 54 | 53 | 52 | 51 | 50 | 49 | 48 | 47 | 46 | 45 | 44 | 43 | 42 | 42 | 43 | 44 | 45 | 46 | 47 | 48 | 49 | 50 | 51 | 52 | 53 | 54 | 55 | 8-10 дынастыя |
| 11-ае згуртаванне | | | | | | | | | | | | 58 | 57 | 56 | 56 | 57 | 58 | | | | | | | | | | | | 11-ая дынастыя |
| 12-ае згуртаванне | | | | | | | | 65 | 64 | 63 | 62 | 61 | 60 | 59 | 59 | 60 | 61 | 62 | 63 | 64 | 65 | | | | | | | | 12-ая дынастыя |
| | Псеўдазгубленыя 13-17 згуртаванні | | | | | | | | | | | | | | Дынастыі грэцкіх аўтараў | | | | | | | | | | | | | | |
| 18-19-ае згуртаванне | 77 | | | 76 | 75 | 74 | 73 | 72 | 71 | 70 | 69 | 68 | 67 | 66 | 66 | 67 | 68 | 69 | 70 | 71 | 72 | 73 | 74 | 75 | 76 | 77 | | | 18-19ая дынастыя |
| | Езус-Месія Боганароджаны | | | **Панна-МАрыя** | | | Продкі Езуса згодна з Лукой | | | | | | | | Продкі Ра-Месу (*згодна з Абідосам*) | | | | | | | | **Уладальніца Праўды** | | | Ра-Месу Боганароджаны | | | |

*Паралелізм абодвух бакоў поўны: кожны із 76 ягіпецкіх продкаў Ра-Месы мае свайго ізатопа ў продках Ісуса-Месіі ў Лукі. Такое супадзенне і агульнай колькасьці, і асобных згуртаванняў магчыма згодка з тэрыяй верагоднасьцей*

*толькі ў двух выпадках: 1) калі Ра-Месу тоесны з Ісусам-Месіяй, ці 2) калі гэта былі два адначасовыя і розна знакамітыя стрыечныя браты.*

*Калі ж дапусціць, што ўсё гэта міф, то – гэта той жа самы міф у двух розна-нацыянальных адгалінаваннях.*

*Другая выснова: ці біблейскія цары ўяўляюць сабой ягіпецкіх пад іншымі назвамі, ці наадварот. Іншага выйсця няма.*

Зірніце на табліцу XXVIII. Пасярэдзіне яе дадзена (лікамі 1, 2, 3 і г. д.) пасьлядоўнасць імёнаў 76 продкаў Езуса, пералічаных у Евангеллі Лукі (левы бок табліцы) і паралельна ёй (на правым баку) прыведзена пасьлядоўнасць 76 продкаў Ра-Месу Вялікага на Абідоскай сьцянной табліцы[171], заканчваючайся "Уладычыцай праўды", маці Ра-Месу. Неаднолькавы гукавы склад імёнаў у Евангеллі Лукі і ў іерогліфах Абідоса не павінен нас бянтэжыць. Гэтыя імёны нават і ў ягіпталогіі называюцца "каранацыйнымі", г. азн. даваемыя под час каранацыі ў Ягіпце, і ўсе яны ўяўляюць толькі мясцовыя мянушкі або тытулы. А ў евангельскай паралелі дадзены арабска-жыдоўскія мянушкі тых жа асоб, якія маюць сэнс толькі па-жыдоўску.

Мы не павінны забывацца, што ў старажытнасьці не было ні метрычных кніг, ні царкоўных запісаў, якіяператвараюць у нас адзін раз дадзеныя (і прытым часта замежныя – грэцкія або лацінскія) імёны абавязковымі на ўсё жыццё. Дзеці тады мелі назыву Першы, Другі і г. д., Пакуль якая-небудзь цялесная або душэўная якасць або выпадковая падзея жыцця не станавіліся нагодай прысвойвання яму новай мянушкі: Сонечны (Юлій), Бялявы (Флавій), Ксанціпа (Рыжая Кабыла), Філіп (Вершнік) і г. д. Зразумела, што на кожнай адмысловай мове і мянушкі гістарычных асоб, вядомых сярод некалькіх нацый, былі рознымі, як гэта мы і бачым у спісах відавочна тых жа цароў ў Афрыкана, Яўсевія, Сінкеласа, Эратасфена, Язэпа Флавія і т. д.

## Табліца XIX.

Параўнанне Абідоскага Спіса 76 продкаў боганароджанага Ра-Месу, Міамуна і 76 продкаў боганароджанага Езуса ў Евангеллі Лукі з захаваннем іх пасьлядоўнасьці (гл. Агульную нумарацыю 8 сярэдзіну табліцы). Курсіўныя адзнакі і падзел на дынастыі сюды дададзены мной; у арыгіналах жа імёны дадзены запар. Налева збоку варыянт паводле Евангелля Мацвея.

| **Згодна з Еван. Мацвея** | **Евангелле Лукі (III, 23-38)** | | | **Абідоская табліца** |
|---|---|---|---|---|
| | *“Дынастыя” дапатопных патрыярхаў* | | | *1-ая (Цініцкая) дынастыя згодна з лічэннем Яўсевія і Афрыкана.* |
| У Мацвее | Першы чалавек... | **Адам** | **1** | **Мена...** першы зямны цар |
| | | **Сіф** | **2** | **Тота** |
| | | **Енас** | **3** | **Атоць** |
| | | **Каінан** | **4** | **Ата** |
| | | **Малелеіл** | **5** | **Два полі (хеспы=Ісафайс)** |
| | | **Ярэд** | **6** | **Мірбіп** |

[171] Знойдзена Марыетам і апублікавана ў 1864 годзе Дымітэнам (Aeg. Z. XI, 81). Адноўлена De Rouge у Recherches sur les monuments des six premieres dynasties. Таксама ж у Mariette у «Abydos». Цалкам адпавядаючая ёй часткова захаваўшаяся і знаходзячаяся ў лонданскім музеі табліца Рамзэса II, апублікаваная Лепсіусам у Auswahl, а таксама і ў нямецкім выданні егіпецкай храналогіі Эдуарда Мейера, і ў яе французскім папоўненым выданні ў Annales de Musee Guimet, XXIV, 2, адкуль я яе і бяру.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| я гэтых продкаў Езуса няма | | | **Енах** | **7** | **Старэйшы з кіем** |
| | | | **Мафусаіл** | **8** | **Кебху** |
| | *“Дынастыя” Ноя (Неха), выратаваўшагася ад патопа* | | | | *2-ая (Таніцкая) дынастыя згодна з лічэннем Яўсевія і Афрыкана* |
| | | | **Ламех** | **9** | **Буцау** |
| | | | **Ной** | **10** | **Ка+3 дзетародныя члены (кау)** |
| | | | **Сім** | **11** | **Бенацерн** |
| | | | **Арфаксад** | **12** | **Уціас** |
| | | | **Каінан** | **13** | **Сента** |
| | *“Дынастыя” Еўра (па-жыд. Евер-араб-пасяленец)* | | | | *3-яя (Мемфіская) дынастыя згодна з лічэннем Яўсевія і Афрыкана* |
| | | | **Сале** | **14** | **Цаца** |
| | | | **Евер (Жыд)** | **15** | **Небка** |
| | | | **Фалег** | **16** | **Цесер-Ша** (Цэзар-шах) |
| | | | **Рагаў** | **17** | **Тота** |
| | | | **Серух** | **18** | **Сечас** |
| | | | **Нахор** | **19** | **Неф-Ерк-Ре** |
| | | | **Фара** | **20** | **С-Неф-Ер-У** |
| У Мацвея гэта №№ 1,2,3 і 4 | *“Дынастыя” Абрама (АБ-РМ азн. Бацка Рыма)* | | | | *4-ая (Мемфіская) дынастыя згодна з лічэннем Яўсевія і Афрыкана* |
| | *1.* | **АБ-РАМ**[172]**.** Бацька Рымскай Імперыі | | **21** | **Хуфу-Хеопс**. Над ім 1-ая вялікая піраміда. |
| | *2.* | **Ісаак** | | **22** | **Дзедзеф-Рэ** |
| | *3.* | **Якаў Ізраіль.** Бацька царства Ізраільскага | | **23** | **Хеф-Рэ** Над ім 2-ая вял. піраміда. |
| | *4.* | **Юда Якаўлеў.** Бацька царства Юдэйскага | | **24** | **Менкаў-Рэ (Міке-Рын).** Над ім 3-яя вялік. піраміда. |
| | *5.* | **Фарэс Фарэс** (Перс) | | **25** | **Шэпсес-Каф** (Пір. Прахладная) |
| У Мацвея тыя ж найменні | *“Дынастыя” Фарэса (па-жыд. ФРЦ-ПРС-пер.)* | | | | *5-ая (Элефантская) дынастыя згодна з Афрыканам (адсутнічае ў Яўсевія).* |
| | *6.* | **Ес-Ром** | **Ес-Ром** | **26** | **Ус-Каф** (*Пір. “Самае чыстае месца”)* |
| | *7.* | **А-Рам** | **Рам(РМ)** | **27** | **Шахус-Рэ** (*Пір.Узыходжанне душы на неба*) |
| | *8.* | **Амінадаў** | **Амінадаў** | **28** | **Кака** |
| | *9.* | **Наасон** | **Наасон** | **29** | **Нефер-Ф-Рэ** (*Піраміда “Душа”)* |
| | *10.* | **Салмон** | **Салмон** | **30** | **Не-Ус-Рэ** (*Пір.”Мацнейшая месца”*) |
| | *11.* | **Вааз** | **Бааз** | **31** | **Менку-Гор** (*Пір.”Свяцейшае месца”*) |
| | *12.* | **Авід** | **Авід** | **32** | **Дзедкэ-Рэ** (*Пір.”Цудоўная”*) |
| | *13.* | **Есей** | **Есей** | **33** | **Унас** |
| Згодна з Евангеліем Мацвея | *“Дынастыя”Давыда (па-жыд. ДУД-ДОД - шануемы)* | | | | *6-ая (Мемфіская) дынастыя (згодна з меркаваннямі Брыгша).* |
| | *14.* | **Давыд (Дода)** | **Давыд (Дода)** | **34** | **Тота** (іерог. ТТА-ДДА-Дода[173]) |
| | | | **Натан** | **35** | **Уск-Рэ** |
| | | | **Матафій** | **36** | **Меры-Рэ** |
| | *15.* | **Саламон Мудры** | **Маінан** | **37** | **Мерэн-Рэ** |
| | | | **Мелеай** | **38** | **Неф-Ерк-Рэ** |

[172] Звычайна думаюць, што імя Абрам азначае: Бацька Вялікай Колькасьці, выводзячы Рам ад арабскага raham (шматлікасць). Але першапачоткавая транскрыпцыя гэтага слова не Рем (רהם), а РМ (רם), г. азн. Рым. Такога натуральнага тлумачэння да гэтага часу не прапаноўвалі, бо лічылі, што падзел на царства Ізраільскае і Юдэйскае быў каля -980 г. і што Рымская імперыя пачалася толькі ў -753 г. Але мае астранамічныя вылічэнні далей пакажуць няправільнасць абедзвюх дат.

[173] Да № 34. Іерогліф ДДА ці ТТА дарма чытаецца Эд. Мейерам адваротна іншым, каб атрымаць із яго АТТ (Атот). Гэта той жа іерогліф, што і пад № 2.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| | | | **Елі-а-Кім** | **39** | **Гор-Мерэн-Рэ-Цэфымцар** (птушкалоў) |
| У Мацвея яе няма | *“Дынастыя” Яна (загадкавая)* | | | | *7-ая дынастыя (Мемфіская).* |
| | | | **Ян (Іанан)** | **40** | **Нцт-Ерк-Рэ** |
| | | | **Ёсіф** | **41** | **Менк-Рэ** |
| Варыянт Евангелля Мацвея | *“Дынастыя” Раваама, 1 “цара Іўдэйскага” і дынастыя Озіі.* | | | | *8-ая і 10-ая дынастыі (Мемфіская). Пра іх толькі выпадковыя паведамленні ў грэцкіх аўтараў.* |
| | *16.* | **Равам-Юдэеў** | **Юда (Юдэй)** | **42** | **Неф-Ерк-Рэ** *(Мемфіская дынастыя)* |
| | *17.* | **Аб-Іе** | **Сімеён** | **43** | **Неф-Ерк-Рэ-Нэва** |
| | *18.* | **Аса** | **Левій** | **44** | **Дэдке-Рэ-Сема** |
| | *19.* | **Іа-Сафат** | **Матат** | **45** | **Неф-Ерк’-Рэ Хенду** (хадун) |
| | *20.* | **Іа-Рам** | **Іа-Рам** | **46** | **Мерэн-Г’ор** |
| | *21.* | **Озія**[174] | **Елі-Эзэр**[22] | **47** | **С-Нек-Ерк** (геракліапалітанская дынастыя) |
| | *22.* | **Іо-Там** | **Ёсія** | **48** | **Нек-Рэ** |
| | *23.* | **Ахаз** | **Ір** | **49** | **Неф-Ерк-Рэ-Тэрэру** |
| | *24.* | **Езэк-Ія** | **Елмадам** | **50** | **Неф-Ерк-Гор** |
| | *25.* | **Манас-Ія** | **Касам** | **51** | **Неф-Ерк-Рэ Папа-Сеніб** |
| | *26.* | **Амон** | **Адый** | **52** | **С-Неф-Ерк-Эну** |
| | *27.* | **Іас-Ія+Іс-Ахаз** | **Мелхій** | **53** | **........ку-Рэ** |
| | *28.* | **Іехан-Ія** | **Нірый** | **54** | **Неф-Ерку-Рэ** |
| | *29.* | **Салафі-Іл** | **Салатыіл** | **55** | **Неф-Ерку-Гор** |
| Згодна з Мацвеем | *“Дынастыя” Зарававеля (Чужога Вавілону)* | | | | *11-ая (Дыяспалітанская) дынастыя згодна са здагадкамі Яўсевія і Афрыкана.* |
| | *30.* | **Зора-Вавель** | **Зора-Вавель** | **56** | **Неф-Ер-Ірк-Рэ** |
| | | | **Рысай** | **57** | **Неб-Хру-Рэ** |
| | | | **Ян** | **58** | **Санх-К-Рэ** |
| | *“Дынастыя” Юды Макавея (Багаслявячага Малацільшчыка)* | | | | *12-ая дынастыя Цраў-Правадыроў (Іксосаў) згодна з Сінкеласам (Цініская).* |
| | Прымус жыдоў да абразання | | **Юда** | **59** | **С-Хачэп-Пата Іб-Рэ** |
| | | | **Ёсіф** | **60** | **Хен-Ерк-Рэ** |
| | | | **Сямей** | **61** | **Нуб-Ку-Рэ** |
| | | | **Матаф-Іл** | **62** | **Хе-Хеп-Ер(К)-Рэ** |
| | | | **Мааб** | **63** | **Хе-Ку-Рэ** |
| | | | **Нагей** | **64** | **Мао-э-т-Рэ** |
| | | | **Еслім** | **65** | **Мао-э-Хру-Рэ** |
| **Дынастыі 13-17 у ягіпталогіі адсутнічаюць.** | | | | | |
| Варыянт Евангелля | *“Дынастыя” Аб-Юды Наума (Наум азн. настаўнік).* | | | | *18-ая (Дыяспалітанская) дынастыя згодна з лічэннем Афрыкана.* |
| | *31.* | **Аб-Юд** (бацька юдэеў) | **Наум Суцяшальнік** | **66** | **Неб-Пех-Тата-Рэ** |
| | *32.* | **Акім** | **Амас** | **67** | **Цесэр-(ер-к)-Рэ** |
| | *33.* | **Азар** | **Матафій** | **68** | **О-Хеп-Ерк-Рэ** |
| | *34.* | **Цадэк (Святы)** | **Ёсіф** | **69** | **О-Хеп-Ерн-Рэ** |
| | *35.* | **Ахім** | **Ёнай** | **70** | **М-Хеп-Ерн-Рэ** |

[174] Да № 47. У біблейскай кнізе «Цары» паміж Іа-Рама і Озіяй Мацвея ўстаўлены яшчэ Ахозія, жонка яго Гафолія (Эталія), першасвятар Іадай, Ёаш і Азарыя ці Амасія, якіх няма ні ў радаводзе ў Мацвея, ні ў радаводзе ў Лукі (калі не выказаць здагадку, што Елі-Езер і Ёсія=Іадай і Ёаш), ні ў Абідоской радаводнай табліцы, ідучай, як мы бачым дастаткова паралельна радаводнай у Лукі. Можна думаць, што гэты пропуск і ёсць нехапаючая ў егіпталогіі 9-я (Геракліапалітанская дынастыя Яўсевія і Афрыкана, дзе яны згадваюць толькі Ахфоэса Ἀχθοής), верагодна гэта – Ахазія.

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| Мацвея | *36.* | **Эл-Імуд** | **Мелхій** | **71** | **О-Хеп-Еру-Рэ** |
| | *37.* | **Елі-Азар** | **Левій** | **72** | **М-Хеп-Еру-Рэ** |
| | *38.* | **Матан** | **Матат** | **73** | **Мает-Неб-Рэ** (жанчына з люстэркам) |
| | (Божы дар) | | | *(Увядзенне адзінабожжа)* | |
| | *39.* | **Якаў** | **Гелій (Юлій)** | **74** | **Цесар-Хепер_рэ Соцен-н-Рэ** (адступленне ад адзінабожжа) |
| | *“Дынастыя” Якава (19-ая дынастыя).* | | | | *19-ая дынастыя грэцкіх аўтараў* |
| | *40* | **Ёсіф** | **Ёсіф** | **75** | **М-Пех-Тата-Рэ** |
| | **(41.** | **Панна-Марыя і Св. Дух)** | **(Панна-Марыя і Св. Дух)** | **76** | **М-Рэ+жанчына з люстэркам** (Уладальніца Праўды) |
| | *42.* | **Езус Хрыстос – “Сын Божы”** | | **77** | **Ра Месу Міамун – “Сын Божы”** |
| Усяго 42 пакаленні, пачынаючы ад Аб-Рама-Хеопса (7*6=42) | | | Усяго 77 пакаленняў ад Адама-Мены (7*11=77) | | Усяго 77 пакаленняў, пачынаючы ад Адама-Мены (7*11=77). |

Але вернемся да табліцы.

Мы бачым на ёй наступнае:

**I**. Першыя 8 цароў Абідоскай табліцы ад Мены да Кебху вылучаныя старажытна-грэцкімі аўтарамі Яўсевіем, Афрыканам і іншымі, у 1-ю (*Ініцкую*) дынастыю і, адпаведна ім, першыя 8 біблейскіх патрыярхаў (*на левый баку табліцы*) уяўляюць сабой адмысловае згуртаванне, званае дапатопнымі патрыярхамі, так бы мовіць, таксама "дынастыя", як я алегарычна і пазначыў на пачатку табліцы.

У ёй першы Ягіпецкі цар Мена адпавядае першаму біблейскага патрыярху Адаму. Калі жыдоўскае напісанне імя Адам (АДМ) параўнаць з іерагліфічным напісаннем Мены (МНА) і прачытаць гэты іерогліф (што дапускаецца ў ягіпталогіі) знізу ўверх, то атрымаем АДМ-АНМ, пры чым гук Н прадстаўляе па-сутнасьці гук Д з рэзанансам насавой поласьці.

**II.** Наступныя 5 ягіпецкіх цароў ад Буцау да Сендзі – вылучаныя тымі ж грэцкімі аўтарамі ў 2-ю (*Ініцкую ж*) дынастыю, а ў Бібліі іх ізатопы вылучаюцца ў натуральнае згуртаванне пяці пасьляпатопных патрыярхаў з далучэннем да іх Ноевага бацькі (Ламэха), і ў іерогліфе Ноя паказаны 3 сыны.

**III**. Наступныя 7 ягіпецкіх цароў, ад Цацы да С-Неферу, вылучаюцца егіптолагамі ў 3-ю (*Мэмфіскую*) дынастыю, а ў Бібліі іх ізатопы вылучаюцца ў натуральнае згуртаванне бацькі і нашчадкаў Эвэра. Эвэр на біблейскай мове азначае жыд, і гэта не павінна нас здзіўляць, бо ў Кнізе Быцця сам Абрагам называецца разы два жыдом. Згодна са звычайным тлумачэннем слова ЕБРІ[175] азначае перасяленец, але пытанне заключаецца ў тым, ці не пачалі надаваць гэтаму слову такі сэнс ужо пасьля Факту рассялення? Ва ўсякім выпадку, бацька і нашчадкі гэтага Эвэра ўяўляюць сабой цалкам адасобленае згуртаванне.

**IV**. Наступныя чатыры ягіпецкія цары так своеасабліва знакамітыя, як ніякія іншыя ў ягіпецкай гісторыі, праз вялікія піраміды, узведзеныя над імі. Першы з іх Хуфу (*ці Хеопс грэцкіх аўтараў*), над муміяй якога паднялася першая ягіпецкая вежа да нябёсаў; другі Дэдэф-Рэ, піраміды для якога грэцкія аўтары не паказваюць, хаця яна і павінна б быць сярод іншых, меншых: трэцці Хеф-Рэ, над якім высіцца другая вялікая піраміда, і чацьвёрты Менькаў-Рэ (або Мікэрын грэцкіх аўтараў), над прахам якога ўзведзена трэцяя вялікая піраміда.

[175] עברי (ЭБРІ) блізка да ערבי (ЭРБІ), г. азн. 'arabi, але прыводзіцца ў сувязь з дзеясловам עבר (ЭБР) – пракрадацца, праступаць.

Гэта такая своеасаблівая "дынастыя", падобнай на якую мы не знаходзім у чалавечай гісторыі. А хто ж з'яўляюцца іхнымі ізатопамі паводле Евангелля Лукі (ды і згодна з Бібліяй)? Зірніце на левы бок табліцы, і вы будзеце ўражаны. Гэта Абрагам, бацька шматлікіх народаў (або згодна з літаральным перакладам АБ-РМ – бацька Рымскай імперыі). Гэта Ісаак, яго сын, адпавядаючы Дэдэф-Рэ, і затым Якаў-Ізраіль, родапачынальнік царства Ізраільскага, паспяхова змагаўся з самім богам-Грамабоем, а чацвёрты, адпаведны Менкаў-Рэ, – гэта Юда Якаўлеў, родапачынальнік царства Юдэйскага... Зноў імёны, роўных якім няма ў старажытнай гісторыі.

Гэта вымушае па-новаму зірнуць і на паходжанне ягіпецкіх пірамід. Звярніце ўвагу на падабенства планаў іхнага размяшчэння з планамі праваслаўных храмаў. Найбольш выбітной часткай апошніх бывае званніца, якую імкнуцца пабудаваць як мага вышэй. Яна абавязкова павёрнута сваімі чатырма бакамі на чатыры бакі свету, як і ягіпецкія піраміды. Толькі дзякуючы поспехам дойлідства, сучасныя званніцы робяцца не як курганы над магіламі старажытных герояў, а ў выглядзе абеліскаў. А ў старажытнасьці пры адсутнасьці цэменту (?), іх можна было будаваць толькі ў форме пірамід. На ўсход ад званніцы зараз прыбудоўваецца ахвярнік, пад якім, згодна з канонамі сусветных сабораў, абавязкова павінны быць парэшткі якога-небудзь сьвятога[176], на ўсход ад кожнай ягіпецкай піраміды заўсёды знаходзяцца руіны ахвярніка (мал. 90, зігзагі ў 2 і 3).




[176] Зараз, дзякуючы шматлікасьці храмаў, пад іхнымі ахвярнікамі захоўваюцца толькі часьцінкі парэшткаў: жмуток валасоў, костка, палец, пята якога-небудзь святога, а першапачаткова павінна была быць поўная мумія.

*Мал. 90. Поле пірамід Гізэ паблізу Мэмфіса. Із кнігі Бругша "Гісторыя фараонаў", рускі папаўнены пер. праф. Ўластава.*

Усё адрозненне ў тым, што парэшткі ў Ягіпце захоўваліся не пад ахвярнікам, а пад "званніцай", і, акрамя таго, там не было патрэбы будаваць над ахвярнікам скляпення для прыкрыцця ад дажджу і снегу: дажджоў амаль не бывае ў Ягіпце, і таму скляпеннем храмаў там служыла само неба або палатка.

Але калі гэта так, то і піраміды будаваліся не самімі вышэйпазначанымі ягіпецкімі царамі (або адпавядаючымі ім біблейскімі патрыярхамі) для сябе, а гэтак жа, як і зараз, усюды будуюцца помнікі ўдзячнымі нашчадкамі, або людзьмі, веруючымі ў сьвятасць нябожчыка, ужо пасьля яго сьмерці.

Чытач бачыць сам, што якімі ні нечаканымі выявіліся нашы параўнанні 76 продкаў Ра-Месу Міамуна з 76 продкамі евангельскага Хрыста, але ўсё-такі ў дачыненні да егіпецкай і біблейскай гісторыі мы не знаходзім да гэтага часу непрымірымых непагадненняў. Легенды пра першага цара Мену і пра першага патрыярха Адама маглі мець агульнае развіццё як на старажытна-ягіпецкай, так і на старажытна-арабскай мовах, з нагоды іхнага суседства. Легенда пра патоп лягчэй за ўсё магла паўстаць дзякуючы выключна моцнаму разліццю Ніла, і зараз штогадова затапляючых усю гэтую краіну, тым больш што і само слова "Ной" па-біблейску пішацца НХ, што больш сугучна са словам "Нэхао", чым з нашым сучасным вымаўленнем. Я не хачу, вядома, сцвярджаць, што гэта быў той самы Нэхао, які будаваў Суэцкі канал і рэгуляваў рэзкасць разліваў Ніла, а ўсяго толькі тое, што імя Ной – ягіпецкае імя.

Так мы без цяжкасьцей дайшлі да *пірамідальнай дынастыі*, атаясамляючай Абрагама, Якава і Юду Якаўлевага з Хуфу, Хефренам і Манкавам-Рэ, пры гэтым Рэ іерагліфічна малюецца кружочкам з кропкай пасярэдзіне (*Сонца*); адсюль паходзіць і італьянскае re (rex) – цар. Але Абрагам і згодна з Бібліяй "гасьцяваў" у Ягіпце і нават пазычыў егіпецкаму "фараону" на час сваю жонку (звычайная жыдоўская практыка – падсоўваць сваю жонку, а потым паразітаваць да летальнага заканчэння: напрыклад, Маякоўскі); і Якаў з Юдай пасяліліся там жа і нават на тым самым полі Гізэх, дзе размяшчаюцца іхныя піраміды. Але згодна з нашым параўнаннем уся розніца заключаецца толькі ў тым, што яны не "пасяліліся тут", як гаворыцца ў Бібліі, а жылі спрадвеку, і нават панавалі.

У Бібліі, акрамя таго, распавядаецца, што сын Якава і малодшы брат Юды пачаў узводзіць і Ягіпце агульнанародныя пабудовы, якія прывялі да заняволення ўсёй краіны, і гэта, сапраўды, магло мець дачыненне да пабудовы вялікіх пірамід. Фараонамі ж маглі называцца хутчэй за ўсё тагачасныя духоўныя суправіцелі свецкіх цароў. Такое найменне, як я ўжо вышэй згадваў, не існуе ў іерогліфах, а толькі ў Бібліі ды ў грэчаскіх аўтараў. У іерогліфах ягіпецкія цары заўсёды маюць найменне сутэ-намн (султан), а слова фараон, згодна з біблейскім напісаннем ПА-РЭ, больш падобна на старажытна-італьянскае Padre або грэцкае πατήρ – ξςец і прыпадабняецца слову патрыярх.

Такім чынам, да гэтага часу мы можам аб'ядноўваць Абідоскі радавод ягіпецкіх цароў і радавод Езуса ў Евангеллі Лукі. Паглядзім, што будзе далей.

**V**. Пятая дынастыя ягіпецкіх цароў, у адрозненні ад толькі што разгледжанай і маючай назву Мэмфіская, мае ў грэцкіх аўтараў найменне Елэфантынскай дынастыі. Як у Абідоскай табліцы, так і ў Евангеллі Лукі яна складаецца із 8 цароў, на чале якіх пастаўлены ў Евангеллі Ес-Ром, а яго ягіпецкім ізатопам з'яўляецца

Вус-Каф, у памяць якога, як і яго 7 нашчадкаў, узведзены піраміды меншай велічыні. Гэта ўсё непасрэдныя продкі "сьвятога цара Давыда".

**VI**. Наступныя 6 цароў Абідоскай табліцы, пачынаючы ад Тота і заканчваючы Мерэн-Рэ Цефамцафам, складаюць, згодна з грэцкімі аўтарамі, VI дынастыю, а ў евангельскім радаводзе Езуса ёй адпавядаюць 6 нашчадкаў цара Давыда. Давыд па-біблейску пішацца ДУД або ДОД і павінен бы быў вымаўляцца Дода, што вельмі сугучна з яго ягіпецкім ізатопам Тота (ТТА), так як Д адрозніваецца ад Т толькі дадаваннем рэзанансу горла. Цікава адзначыць, як гэта і пазначана ў маёй табліцы, што ў радаводзе Мацвея тут адсутнічаюць чатыры прамежкавыя цары, дададзеныя як у Евангеллі Лукі, так і ў Абідоской табліцы паміж Дувідам-Тотай і Саламонам Мудрым – Мерэн-Рэ Цефамцафам, пераназваным ў Лукі ў Эліякіма. Ці не паказвае гэта на тое, што Мацвей карыстаўся больш старажытным радаводам, чым Лука, спісаўшым цалкам усю Абідоскую табліцу?

**VII**. Да гэтага часу мы карысталіся для тлумачэння евангельскага радаводу Езуса Абідоскім спісам, а вось зараз нам даводзіцца рабіць адваротнае: тлумачыць саму Абідоскую табліцу з дапамогай Евангелля.

Справа ў тым, што ў наступных дынастыях VII-XI грэцкія аўтары не пералічваюць цароў, а толькі згадваюць, што былі і такія дынастыі. Абідоская табліца дае нам для іх 19 цароў ад Нут-Ерк-Рэ (№ 40) і да Санх-ка-Рэ (№ 58). Як бы нам аднавіць гэтыя дынастыі? Гэта вельмі лёгка зрабіць, карыстаючыся адразу і радаводам Езуса згодна з Лукой і радаводам згодна з Мацвеем. Вось што атрымліваецца:

***VII дынастыя*** (№№ 40-41 нашай табліцы XIX). У Лукі тут два цары: Ян і Ёсіф, і абодва адсутнічаюць ў Мацвея. Гэта цары дададзеныя і таму ўяўляюць таксама адасоблены гурт. Іхныя ізатопы Нут-Ерк-Рэ і Менк-Рэ павінны патаму уяўляць сабой VII дынастыю.

***VIII дынастыя*** (№№ 42-46). У Евангеллі Мацвея тут натуральны гурт ад Раваама – першага цара іудзейскага – да Іа-Рама, таму што ў біблейскай кнізе "Цары" паміж Іа-Рамам і наступным за ім, згодна з Мацвеем, Озіяй дададзена 5 цароў, ўтвараючя ў ёй натуральны перарыў. У Евангеллі Лукі Раваам юдэйскі названы проста "Юдэй" (Юда), і яго абідоскім ізатопам з'яўляецца Неф-Ерк-Рэ. А матвеевому апошняму цара гэтага гурта, Іа-Раму, названаму ў Лукі Іа-Рым, адпавядае ягіпецкі Мерэн-Гор. Так мы аднавілі натуральныя межы VIII ягіпецкай дынастыі. Яна пачынаецца Неф-Ерк-Рэ і заканчваецца Мерэн-Горам.

***IX дынастыя***. Яна складзена грэцкімі аўтарамі із прапушчаных як у радаводзе Езуса, так і ў радаводзе Рамесу "чыста юдэйскіх цароў": Ахозіі, яго жонкі Гафоліі, Іа-Аша са сьвятаром Ёдаем і Азарыі або Амасіі.

***X дынастыя*** (№№ 47-55). Яна мае назву, ў адрозненні ад папярэдніх (Мэмфіскіх), Гераклiопалітанскай. У радаводзе Мацвея да яе натуральна належаць (гл. зборку №№21-29) юдэйскія (г. азн. багаславячыя) цары ад Озіі да Салафііла (у Лукі маючага назву Салатыііл); г. азначае, у ягіпталогіі да яе патрэбна аднесьці цароў ад С-Неф-Ерка (№ 47) да Неф-Ерк-Гора (№ 55).

***XI дынастыя*** (№№ 56-58). У Мацвея тут толькі Зарававаель (ЗО). У Лукі і ў Абідоскай табліцы да яго дададзены яшчэ сын і ўнук. Зноў асобнае натуральнае згуртаванне продкаў Езуса.

Тады я зноў вярнуўся да зацьмення ў прадказальніка "Моцнага" (Амоса) у 418 годзе і пачаў сачыць аналогію назад да заснавальніка імперыі Кастуся I. I тут, як бачыць чытач, для кожнага богазмагальніцкага цара (*гл. налева*) я адразу знаходзіў аналага сярод лаціна-сірыйска-ягіпецкіх цароў (*гл. направа*). Адзін з іх Іла (Элій) выявіўся нават і па найменню адным і тым жа Юлій (Юльян). Уся розніца абедзвюх галін дыяграмы выявілася толькі ў тым, што ў Бібліі цары Надаў і Васа пазначаны як спадкаемцы адзін аднаго, а згодна з візантыйскімі крыніцамі іхныя двайнікі. Кастусь II і Канстанцый II, спачатку былі суправіцелямі. Тое ж самае далей атрымалася з Амрыем і Ахавам, адпавядаючых Валенцініяну і Валенту; з Ахазіей і Ёрамам, адпавядаючых Грацыяну і Валенцініяну II, і з Ёасам і Ераваамам II, адпавядаючым Аркадзю і Ганорыю. Усюды суправіцель, *які працягваў царавацьдаўжэй, сістэматычна пастаўлены тут пераемнікам першага.* Такое ператварэнне тагачасных сучаснікаў у пасьлядоўны шэраг цароў сапраўды лёгка магло быць зроблена старажытным кампілятарамі асобных запісаў дзякуючы таму, што тады яшчэ не была ўсталявана афіцыйная эры, згодна з якой маглі б датавацца падзеі, якія пазначаліся толькі годам валадараньня тагачаснага манарха.

Я зноў тут пытаюся, як і пры параўнанні радаводу Ра-Месу і Езуса-Месіі: ці магчыма нават падумаць, што правая лінія нашай дыяграмы толькі выпадкова выявілася люстэркавым адлюстраваннем левай часткі?

Для мяне, як матэматыка, такое сцвярджэнне проста смешнае. Гэта ўсё роўна, як калі б хто-небудзь мне сказаў, што двойчы два не заўсёды бывае чатыры, а часам можа быць і тры.

Акрамя таго, я ўжо згадваў, што ў гэтым выпадку адзначаюцца падабенства не толькі па колькасных паказчыках, але падобны і галоўнейшыя якасьці пазначаных асоб. Вядома, пры двух варыянтах той жа самай дынастычнай гісторыі сірыйска-візантыйска-лаціна-ягіпецкіх цароў, у сірыйскім варыянце, – якім лічыцца Біблія, – галоўным чынам апісваюцца падзеі маючыя большае дачыненне да Сірыі; а ў грэцкім варыянце, якой лічыцца гісторыя Сакрата-Схаластыка, маючыя дачыненне да гэтага перыяду і напісаная ніяк не раней X стагоддзя нашай эры, апісваюцца падзеі больш маючыя дачыненне да Грэцыі, з абыякавым стаўленнем да аддаленых царстваў. Гэта азначае, кожная із гэтых гісторый мае свой нацыянальны каларыт. Нават і пры поўнай безстароннасьці гэта падобна на тое, калі фатаздымкі аднаго і таго ж будынка, зроблены з розных бакоў і з першага погляду мала падобныя адзін на адзін.

І ўсё ж, нягледзячы на гэта, асабліва выбітныя рысы ў абодвух варыянтах падобныя. Вось яны:

1) Заснавальнік богазмагальніцкага царства (Ізраэльскага) Ераваам быў, як я ўжо згадваў вышэй, і заснавальнікам яго рэлігіі; сапраўды таксама і заснавальнік сьвятарскага (па-грэцку – хрысьціянскага) Міжземнага царства Кастусь быў заснавальнікам яго рэлігіі.

2) Апошнія цары абодвух царстваў былі заняволены "варварскімі царамі" і памёрлі ў іх у палоне.

3) Усе астранамічныя з'явы пад час валадарання ізраільскіх цароў адбыліся не за некалькі соцень гадоў да пачатку нашай эры, куды іх адносяць да гэтага часу, а толькі пры іх лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкіх двайніках. Такім з’яўляецца ўжо згаданае сонечнае зацьменне з адначасовай каметай пры Ерavaаме II, якое выявілася зацьменнем 418 г.; такімі з’яўляюцца спалучэнні планет і сузор'яў,

апісаныя Езэкіілем і Захарыяй, якія мелі месца, як мы бачылі ў гэтай самай кнізе (частка II), не пры Менаіме і Факхе, а пры іхных двайніках, Валенцініяне III і Рэціміры.

Але гэтым справа далёка не абмяжоўваецца.

4) Пры Валенце (363-378 гг.) на ўсходзе жыў цудоўнейшы із хрысьціянскіх дзеячаў Васіль Вялікі, што ў перакладзе азначае "Вялікі цар", заснавальнік хрысьціянскага набажэнства, ахрышчаны ў Ярдане, падобна Езусу, дарослым, прычым на яго сышоў з неба сьвяты дух у выглядзе голуба, і пачуўся громавы голас у падцверджанне яго велічы. Ён пазней быў асуджаны понтыйскім наместнікам за барацьбу з панаваўшым тады арыянскім адзінабожжам, але быў выратаваны дзякуючы моцнаму землятрусу, які адбыўся падчас намеру Валента падпісаць прысуд над ім. Я ўжо паказаў, што із легенд пра яго склаўся евангельскі міф пра Хрыста (г. азн. пра вялікага сьвятара), які ўзнёсся жывым на неба. Біблейскім жа двайніком Валента ў нашай табліцы з’яўляецца, як мы бачым, бязбожнейшы із богазмагальніцкіх цароў – Ахаў, з яшчэ больш бязбожнай жонкай Іезабэллю (Ізабелай, евангельскай Ірадыядай), як і павінна быць згодна з аналогіяй.

А каго ж мы бачым пад час яго валадарання? Найвялікшага са старажытных прадказальнікаў, Іллю-Грамабоя, які ўзнёсся гэтак жа, як і Езус, згодна з евангельскім паданнем, жывым на неба, а пры жыцці таксама ажыўляўваша памёршых, карміўшага галодных, лячыўшага хворых і павучаўшага супраць сучаснай яму рэлігіі. І тут адзінства ў двух асобах. Легенда пра Ілію і пра Езуса – два адгалінаванні той жа самай легенды.

5) Услед за Іліяй у Біблії ідзе яго вялікі пераемнік, прадказальнік Елісей, і ён аналагічна Яну Златавусту, паўстае ўслед за Васілём Вялікім.

Як вы самі бачыце, асноўны рэльеф падзей тут вымалёўваецца аднолькавым. Не будзем жа працягваць знаходзіцца ў рабстве ў гукаў чалавечай гаворкі, розных на розных мовах і даўшых адным і тым жа людзям і мясьцінам розныя найменні, у залежнасьці ад той мовы, на якой апісваюцца падзеі, будзем кіравацца фактамі.

А гэтыя факты кажуць нам, і яшчэ больш скажуць у адным із наступных тамоў нашай кнігі, што багазмагальніцкім (ізраэльскім – па-жыдоўску) царствам называецца ў біблейскай кнізе "Цары" лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкае царства, але яго храналогія тэолагамі перамешчана больш чым на тысячу гадоў назад і лакалізавана наступнымі тлумачальнікі пад час сярэдніх стагоддзяў на малюсенькім і няплодным кавалачку зямлі ў наваколлі Мёртвага мора, як анёл на лязе іголкі ў сярэднестагоддзевай схаластыцы.

# Глава III.

## Паралелізм дынастычных падзей у гісторыі "другой" і "трэццяй" лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкіх імперыях.

Зробім такое ж супастаўленне і для вярхоўных дзеячаў "Другой" і "Трэццяй" лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкіх імперый.

*"Першай імперыяй"* я тут называю царства, заснаванае Ромулам і Рэмам, да яго падзення пры Тарквініі Ганарыстым, і ў наступных тамах я пакажу яго міфічнасць, што наўрад ці вельмі здзівіць большасць сучасных мне гісторыкаў, так як да той жа думкі схіляўся нават Мамзен.

*"Другой імперыяй"* я называю царства, заснаванае Сулой (біблейскім Саўлам), працягнутае Пампеем і Юліем Цэзарам і якое скончылася пры Каракалле, даўшым права раманскага грамадзянства ўсім народам, якія ўваходзілі пад найменнем варвараў у склад гэтай імперыі.

*"Трэццяй імперыяй"* я называю ўжо апісанае ў папярэднім выкладанні тэакратычнае царства, пачатае Аўрэліянам ў 270 годзе нашай эры, працягнутае Дыяклетыянам і Канстанцыем Хларам, і канчаткова ўсталяванае Кастусём І. Яно скончылася паразай Адаакра, апошняга із яго цароў, Тэадарыхам Вялікім у 493 годзе нашай эры.

Яшчэ ніхто не лічыў міфічным "*Другое царства*", а між іншым яго гісторыя і гісторыя "*Трэццяга царства*" ўяўляюць сабой толькі два варыянты адной і той жа гісторыі лаціна-эліна-сірыйска-егіпецкай імперыі паміж 270 і 493 гадамі нашай эры, калі ў рэчаіснасьці існавала толькі "лацінская "імперыя.

Упершыню навялі мяне на гэтую думку зноў жа вылічэнні часу астранамічных з'яваў, апісаных у Фукідзіда, Герадота, Ціта Лівія і ў іншых нашых першакрыніцах. Я пасьлядоўна вызначыў час не менш як сотні астранамічных з'яваў лаціна-элінскай эпохі і атрымаў дзіўныя вынікі: усе сонечныя і месяцовыя зацьменні, усе каметы (правераныя мной згодна з кітайскімі летапісамі) і ўсе спалучэнні планет выявіліся цалкам адпавядаючымі рэчаіснасьці пачынаючы з 402 года нашай эры, г. азн. з канца цараваньня Аркадзя і Ганорыя, і амаль усе да гэтага часу выявіліся змешчанымі назад, то каля 333 гадоў, то каля 1200 гадоў адпаведна таму, як гэта мы бачылі тут пры вызначэнні часу Апакаліпсіса і біблейскіх прадказальнікаў і ў вызначэнні часу евангельскага Хрыста.

Усе гэтыя дэталі і прыватнасьці будуць прыведзены ў мяне ў наступным томе, а тут я даю толькі канчатковую храналагічную схему, у якой выявілася магчымым рэзюмаваць усё дадзенае пытанне. Яна графічна прадстаўлена ў табліцы XXII і цалкам аналагічная папярэдняй табліцы.

## Табліца XXII.

*Параўнанне часоў царавання валадароў "Другой Рымскай Імперыі" і валадароў "Трэццяй Рымскай Імперыі"*

*Сравнение времен царствования последовательных царей «Второй Римской Империи» и царей «Третьей Римской Империи».*




На яе левым баку ў пасьлядоўным парадку пазначаны цары "Другой імперыі" з пазначэннем часу іх валадараньня, а на правай дадзены іхныя аналагі ў "Трэццяй імперыі".

Мы і тут бачым, што кожны цар Другой імперыі мае аналага ў Трэццяй, так што ў колькасным дачыненні нельга і жадаць лепшай праверкі адной храналогіі пасродкам другой. Пра выпадковасць падабенства абедзвюх крывых і тут смешна нават і думаць з боку гледжання матэматычнай тэорыі верагоднасцей. Нават і ў некалькіх выпадках, дзе дапушчальна паставіць суправіцеляў то аднаго, наперадзе то другога (размяшчаючы іх у адначленным шэрагу), змяняецца толькі канфігурацыя чарцяжа, а не велічыня яго выпукласцей і западзенняў.

Вось чаму, не ўпадаючы ў шматслоўе, я спынюся толькі на якасных падабенствах прыведзеных тут адпаведных асоб.

Налева зверху мы бачым **Люцыя** Сулу, называемага першакрыніцамі адраджэнцам Рыма (restitutor urbis), а насупраць яго направа мы бачым яго двайніка **Люцыя** Аўрэліяна, называемага першакрыніцамі, аналагічна першаму, адраджэнцам імперыі (restitutor orbis). Згодна з нашым меркаваннем яны не аднаўляльнікі, а *заснавальнікі*, і Сула ўяўляе толькі адлюстраванне Аўрэліяна, які жыў каля 170-275 гг., нашай эры. Акрамя таго, Сула згодна з папярэдняй аналогіяй, атаясамляецца з біблейскім Саўлам.

Потым мы бачым, што Вялікі Пампей (г. азн. Вялікі Трубны) з’яўляецца гістарычным адлюстраваннем "чароўнага Дыяклетыяна", якому ў біблейскай гісторыі адпавядае цар Давыд.

Першаімператар Юлій Цэзар з'яўляецца толькі адлюстраваннем такога ж першаімператара Канстанцыя Хлора (Рудога), які даў нагоду да ўзнікнення цэлага шэрагу легенд.

Ад яго на левым баку дыяграмы мы пераходзім да Гая Актавіяна Аўгуста (г. азн. Свяшчэннага), а яго двайнікоm налева мы бачым Гая Кастуся, ужо прама прылічанага не да сьвяшчэнных, а да сьвятых.

Пры Гаі Актавіяне сьвятым, кажуць нам, нарадзіўся евангельскі Хрыстос, а з нашага боку гледжання, пры Гаі Кастусю сьвятым (306-337 гг.) нарадзіўся (каля 333 г.) Васіль Вялікі, заснавальнік хрысьціянскага набажэнства, які даў пачатак евангельскай легендзе пра Хрыста. У Бібліі ж Кастусь мае найменне Ераваам – заснавальнік іконашаючай ерасі.

Мы бачым далей, што "Жаўнерскі Бот" (Калігула), які абвясьціў сябе на прыканцы жыцця богам, адпавядае Юльяну, вялікаму вайсковаму правадыру і філосафу, якога хрысьціяне называюць адступнікам ад сваёй рэлігіі, а ў Бібліі яму адпавядае богазмагальніцкі цар Іла, імя якога таксама азначае бог і аднагучны з Юльянам.

Услед за ім налева стаіць Клаўдый са сваёй распутнай жонкай Месалінай, а яго двайнікоm направа з'яўляецца Валентыніян, пра жонку якога мне нічога невядома, але калі мы звернемся да Евангелля, то пабачым, што каля гэтага часу Ян, хрысціўшы Езуса, выкрываў цара Ірада (Валента) за тое, што ён адбіў жонку свайго брата (Валентыніяна), вядома, не без яе згоды.

І вось мы пераходзім, нарэшце, у Другой імперыі, да самога варожага хрысьціянам цара Нерона (Чорнага), а ў Трэцяй імперыі знаходзім яго двайніка Валента (363-378 гг.), пра якога царкоўныя гісторыкі згадваюць як пра жорсткага ганіцеля хрысьціян. І менавіта пад час яго валадарання пантыйскі эпарх асуджае на смерць заснавальніка хрысьціянскага набажэнства Васіля Вялікага, а згодна з часам вылічанай намі няўдалай спробы слупавання евангельскага Хрыста, яна і прыпадае на цараванне Валента (21 сакавіка 368 г.), пры гэтым евангельскі "Хрыстос" выяўляецца толькі міфічным гіганцкім адлюстраваннем вышэйзгаданага Васіля Вялікага (г. азн. па-нашаму: "Вялікага цара"). У біблейскай гісторыі мы бачым нават і трайніка для Валента-Нерона ў выглядзе самага грэшнага із усіх цароў Ахава з яго разбэшчанай жонкай "Ізабэлай", а трайнікоm Езуса-Васіля з'яўляецца ў Бібліі ўзьнесены жывым на неба найвялікшы прадказальнік Ільля.

Я не буду працягваць далей гэтае дэталёвае якаснае параўнанне правай часткі маёй дыяграмы з левай і пакажу толькі, што на мяжы паміж валадараньнем Хвядоса Вялікага, які адлюстраваўся ў асобе імператара Ціта Даміцыяна, і узыходжаннем Аркадзя (ён жа Траян Другой імперыі) прыпадае жахлівы землятрус, разбурыўшы Геркуланум і Пампею, і ён жа, з гэтага боку гледжання даў падставу да некаторых месцаў Апакаліпсіса, напісанага 30 верасня 395 г., дзе па-майстэрску апісваецца жахлівы землятрус, "разбуўшы паганскія горады". Чытач бачыць сам, як, грунтуючыся на нашай тэорыі, усё, што здаецца бязладна раскіданым па стагоддзях гісторыі, прыходзіць у стройнае лагічнае ўпарадкаванне аж да ўвядзення ва ўжытак Каракалой (які ў нас атаясамляецца з Тэадарыхам гоцкім), гальскага, г. азн. французскага адзення і даравання ўсяму вольнаму "варварскаму" насельніцтву правоў рымскага грамадзянства.

Але як жа, – скажуць мне, – узнікла гісторыя Другой, не існаваўшай, імперыі? Збольшага, – адкажу я, – пад уплывам праваслаўнай тэалогіі, якой спатрэбілася, із дыпламатычных меркаванняў, адсунуць нараджэнне Езуса на 333

гады для таго, каб адарваць легенды пра Хрыста ад паданняў пра жыццё Васіля Вялікага, пасьля таго, як Хрыстос быў прызваны ўжо не сынам чалавечым, а сынам самога бога-Грамабоя. Збольшага ж гэта магло здарыцца і праз непаразуменне: былі знойдзены грэцкія рукапісы, грунтуючыся на якіх Сакрат-Схаластык, або яго папярэднік, напісаў сваю царкоўную гісторыю, пачынаючы з Кастуся I, і былі знойдзены іншыя, магчыма лацінскія, рукапісы якія асвятлялі тыя ж пытанні, грунтуючыся на якіх Яўсевій Памфіл або яго папярэднік злажыў *сваю* гісторыю *Другога царства*, звязаўшы яе і з апакрыфіраваным хрысьціянствам.

Тут не мая справа разбірацца, хто ў чым быў вінаваты, але факт у наяўнасьці: Другая лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкая імперыя спісана з Трэццяй.

Што ж да ўзнікнення міфа пра Першую імперыю, пачынаючы з Ромула і Рэма і заканчваючы Тарквініем, то ён з'явіўся, несумненна із жыдоўска-арабскіх варыянтаў гісторыі той жа Трэццяй імперыі, так як імёны ўсіх цароў, пачынаючы з Ромула і Рэма, тут жыдоўска-арабскага кораня, ды і само найменне Рым (Roma) – жыдоўскае і паходзіць ад кораня РАМ (інакш РОМ) – ўзвышацца і ад РАМ, Рым і РАІМ – насарог.

Усё гэтым я падрабязна абмяркую ў адным із наступных тамоў.

# Глава IV.

## Паралелізм дынастычных падзей у царстве багаславячых (юдэйскім) і ў царстве праваслаўных (візантыйска-сірыйска-ягіпецкім).

Я не магу пакінуць гэтых эскізных храналагічных абрысаў (дэталёвая распрацоўка якіх зроблена ў наступных тамах), не даўшы тут таксама лёгкую схему і для гісторыі царства юдэйскага (па-жыдоўску: багаславячага), параўнальна з царствам візантыйскім – праваслаўным. І тут абодва царствы выяўляюцца адным і тым жа. Схема іх прадстаўлена на дыяграме, складзенай згодна з узорам папярэдніх (табліца XXIII).

### Табліца XXIII.

*Параўнанне часоў царавання паслядоўных цароў багаславячых (юдэйскіх) і рамейскіх (эліна-сірыйска-ягіпецкіх) цароў.*

*Сравнение времен царствования последовательных царей богославных (иудейских) и ромейских (эллино-сирийско-египетских) царей.*

8-й дни египтологов.

| Число лет царствования царей богославных (иудейских) 60 55 50 45 40 35 30 25 20 15 10 5 | Число лет царствования царей православных (восточных) 5 10 15 20 25 30 35 40 45 50 55 60 |
|---|---|
| Начало царства богославного (иудейского). | Начало эллино-сирийско-египетской (ромейской) теократии. |
| Ровоам 17л. | 17л. Лициний (307-324) |
| Аб-Ие (т. е. Отец Господа Бога) 4г. | 9л.? „Сын Лициния" (324-333) |
| Аса (Иисус) 41г. Распятие Иисуса | 21 марта 368 года. 45л. „Великий Царь" (Василий Великий; 333-378) |
| Иосафат 25л. | 17л. Феодосий Великий (378-395) |
| Иорам с нечестивой женой. „Отделение Эдома" 8л. Появление Апокалипсиса. | 13л. Аркадий с нечестивой женой. „Отделение Зап. Империи" (395-408) |
| Четверо вставных „Израэльских" царей. | Четверо вставных Западно-Римских царей. |

10-я династия египтологов.

| | |
|---|---|
| Озия (?)50л. Апосово Солнечное | затмение 19 июля 418 г. 41г. Феодосий II Законодатель (408-400) |
| Пропущен | 7л. Маркиан (450-457) |
| Иотам 16л. Время | Библейских 17л. Лев I (457-474) |
| Ахаз 16л. | пророков 17л. Зенон (474-491) |
| Езекия 29л. Страшная чума | в Константинополе 27л. Анастасий (491-518) |
| Манасия 55л. Комета Постройка Храма | Даниила 568 г. Мудрости в Царь-Граде. 60л. Три Юстина под ряд (518-578) |
| Пропущен | 4г. Тиверий (578-582) |
| Амон („Они") 2г. | 20л. Маврикий (582-603) |
| Узурпатор, убийца Амона. ? | 7л. Фока Узурпатор, убийца Маврикия (603-610) |
| Иосия 31г. | 31г. Ираклий (610-641) |
| „Ассирийцы" убили Иосию в Мессопотамии под предводительством Нево (Навуходоносора) | Магометане отняли у Ираклия Египет под предводительством Халифа Омара. |
| Иоахаз 3 мес. | 3 мес. Константин III (641) |
| Иоаким 11л. | 27л. Констанс (641-668) |
| Иоаким II 3 мес. | Отсутствует |
| Седекия 11л. | 11л. Константин-Пагонат (668-679) |
| Подчинение земли Иудейской Нево (Навуходоносору). | Подчинение Сирийских владений Вост. Империи Моавию-Халифу (679) |

Налева дадзены пасьлядоўныя "цары юдэйскія", направа адзначаны эліна-егіпецка-сірыйскія суправіцелі раманскіх імператараў да падзелу ўсёй імперыі на Усходнюю і Заходнюю, а пасьля гэтага параўнаны з юдэйскімі толькі эліна-сірыйска-ягіпецкія (г. азн. ўсходнія) цары, відаць, адзіна лічыўшыяся богаславячымі.

Першаму "богаславячаму" цару Равааму адпавядае Ліцыній, суправіцель Кастуся I, адлюстраванага ў Другой імперыі ў асобе Антонія, закахаўшагася ў Клеапатру, якую, згодна з нашай тэорыі, таксама патрэбна перамясьціць на пачатак IV стагоддзя. Ліцыній, Антоній і Раваам выяўляюцца толькі трыма найменнямі адной і той жа асобы.

У Раваама, згодна з Бібліяй, быў сын Аб-Ія, г. азн. Бацька бога-Грамабоя (Еве), а ў Клеапатры, згодна са сведчаннем гісторыкаў, быў сын Цэзарыён, хоць быццам бы і не ад Антонія, а ад Юлія Цэзара (па-нашаму, Канстанцыя Хлора). Я не хачу тут паглыбляцца ў даследаванне гэтых гістарычных плётак і намоваў і таму прама лічу, што сын Клеапатры быў ад Антонія, так як і ў яго двайніка Ліцынія быў ад ягіпецкай прынцэсы таксама сын, імя якога, на жаль, не прыводзіцца ў маіх першакрыніцах, але якога Кастусь I, забіўшы Ліцынія, прызначыў на некаторы час на ягіпецкі асад пасьля яго. Гэта і павінен быць Аб-Ія, бацька бога-Грамабоя (таксама прадказальніка Іллі).

Але кім жа быў яго сын – Бог? Мы бачым у нашай табліцы Асу, і гэтае найменне з’яўляецца толькі асобным вымаўленнем наймення Езус:

І-Езус азначае бога-выратавальнік, а Езус (Аса) проста – выратавальнік. Згодна са сваім часам гэты Аса-Езус як раз адпавядае Васілю Вялікаму (па-нашаму "Вялікаму цару"), і гады іхнага жыцця, або, калі хочаце, "духоўнага валадараньня на Усходзе" амаль супадаюць, калі мы прымем да ўвагі, што сын Ліцынія быў таксама неўзабаве забіты Кастусем, калі яго сыну Асе-Езусу – "Вялікаму цару" – было толькі некалькі гадоў.

Але гэта супадзенне, – скажуць мне, – толькі колькаснае, па гадах, а якое ж якаснае супадзенне? І яно ёсць, – адкажу я, – калі выкінем ўсё цудоўнае, г. азн. небыліцы, і ўсё тэндэнцыйнае із жыцця евангельскага Хрыста і із жыцця чэцці-мінейскага "Вялікага цара".

"Аса, – сведчыць біблейская кніга "Цары"(**1, 15**, 13), – дагаджаў богу, як яго продак Давыд. Ён адхіліў выявы, якія рабілі яго продкі, і нават "Мэку" (*прыгнятальніцу*) пазбавіў званьня царыцы (*дзяржаўнай царквы*) за тое, што яна прыгатавала балвана для дубравы. Ён спаліў балвана, але не знішчыў вышыню "(верагодна, курганы-піраміды, як месца ўшанавання продкаў).

"На яго напаў богазмагальніцкі цар Васа (відаць, гэтае імя з’яўляецца проста грэцкім словам васілеўс – цар, і ў ім мы павінны бачыць не Васу, а Валента) і пачаў будаваць Рому, каб не хадзілі да Асы ў горад Сьвятога Прымірэння, але Аса заключыў супраць яго хаўрус з Бэн-Ададам, жыўшым у Дар-мяшку, і Васа застаўся ў "Турцы". Падчас сваёй старасьці Аса быў слабы на ногі".

Вось і ўсё, што паведамляецца пра яго ў кнізе "Цары" (1, 15).

А больш позняя і таму менш дакладная кампіляцыя, маючая назву кніга "Летапісаў", дадае да гэтага, што, у яго распараджэнні было 300 тысяч узброеных вялікімі шчытамі і дзідамі, 280 тысяч стралкоў із лука, забяспечаных малымі шчытамі, усе людзі адважныя. На пачатку яго жыцця супраць яго зямлі выступілі кушыты (КУШІ), але ён зьвярнуўся да свайго бога, і пабеглі кушыты. Ваяры Асы гналі іх да Герара (ГРР), разрабавалі гарады вакол яго, спустошылі пастуховыя буданы і вярнуліся ў "Ерусалім". Тады насустрач Асу выйшаў прадказальнік Азарыя, на якога сышоў божы Дух, і абвясьціў: "Паслухай мяне, Аса і ўсе богаслаўныя і сыны сьмерці: з вамі бог, пакуль вы з ім"... "Будзьце моцнымі, і хай не слабеюць вашыя рукі, таму то ёсьць адплата за вашы справы".

"Мноства народа сабралася да Асы пасьля гэтага на трынаццатым годзе яго валадарання ў трэцім месяцы" (траўні).

... "І кляліся (быць вернымі) богу пад гукі труб і рагоў, і было сэрца Асы аддадзена богу на працягу ўсіх яго дзён. Ён памёр на 41 годзе свайго валадараньня, яго паклалі на ложак, напоўнены пахучымі рэчывамі і рознымі штучнымі масьцямі і наладзілі вялікае ахвярапрынашэнне"(11, 16).

Узяўшы І кнігу "Цары" (гл. XX) на жыдоўскай мове, мы бачым, што Бэн-Адад ваяваў з Ахавам, г. азн. з Валентам, які, відавочна, і названы тут Васай (царом або васілеўсам), а падлік гадоў у кнізе "Цары" з'яўляецца устаўкай пазнейшага рэдактара, параўноўваўшага згодна са сваім разуменнем запісы пра тых і другіх цароў і карэктаваўшага іх, не бяручы да ўвагі суправіцельствы, праз што ў яго і атрымалася храналагічная памылка.

Адзначым, што паход "Ціта" (г. азн. Грацыяна або Хвядоса) на паўстаўшых сірыйскіх хрысьціян і адбыўся, згодна з нашым параўнаннем, каля гэтага часу.

Што ж атрымліваецца? Евангельскі Хрыстос, калі яго лічыць у Другой імперыі, быў унукам Антонія і Клеапатры, а калі лічыць яго ў Трэццяй, то унукам Ліцынія, двайніка Антонія, і, верагодна, той жа ягіпецкай царыцы або царэўны. Усё гэта супадае з паданнем, што ён паходзіў із дома Давыда (г. азн. Дыяклетыяна, як я паказваў вышэй) і быў царскага роду, як і быў надпіс на яго "слупе", згодна з Евангеллем, нават на трох мовах "цар юдэйскі" (г. азн. богаславячы).

Пасьля Асы-Езуса ў спісе цароў богаславячых пазначаны яго пераемнік Язафат, г. азн. "П'едэстал бога", і, з нашага боку гледжання, ён адпавядае Хвядосу Вялікаму, які ўступіў на пасад таксама адразу пасьля сьмерці Васіля Вялікага, як-

быццам яго пераемнік. Пры ім, – сведчыць кніга "Цары" (**1, 22**, 48), – не было асобнага цара ў Эдоме (*гэта азначае, у Заходняй імперыі*), як не было і пры Хвядосе. Ён быў набожны і згодна з хрысьціянскімі крыніцамі.

"Пачынаючы з трэццяга года яго валадарання (г. азн. з 381 г.) два пасвечаныя, Элі-шаман і Ёрам і дзевяць лявітаў: Сымон, Натанія, Заведэй, Ешаал, Шымрамот, Янатан, Аданія, Товія і Тоў-Аданія, і з імі пяць саноўнікаў: Бэн-Хіл, Абадыя, Захарыя, Натанал і Міхей – хадзілі па зямлі богаслявячых, "прапаведуючы кнігу закона божага" (*г. азн. першапачатковае Евангелле*) і "вучылі народ", адпаведна апосталам Езуса. "І быў у той час Жах (ФХД) бога-Грамабоя, – дадае аўтар (Парал. II, 17, 10), – на ўсіх царствах зямлі, і яны не ваявалі з Ёсафатам".

Пад гэтым "Жахам бога-Грамабоя", відаць, трэба мецць на ўвазе велізарную камету, якая, згодна з кітайскімі летапісамі Шэ-Кэ і Ма-Туан-Лін, з'явілася на ранішнім небе ў сузор'і Двайнят 22 жніўня 390 года, калі Сонца было у Ільве. Яна патым прайшла праз галаву Панны ў Вялікую Мядзведзіцу, дасягнуўшы перад гэтым "100 локцяў" даўжыні, і знікла ў верасні, моцна, напалохаўшы ўсе народы паўночнага паўшар'я Зямлі.

Усё гэта як раз адпавядае цараванню Хвядоса I, з яго "вялікімі стаўпамі хрысьціянства". Мы бачым тут двух пасвечаных і дзевяць лявітаў – усяго адзінаццаць чалавек, адпаведна адзінаццаці апосталам без Юды-Здрадніка.

Пераемнік Хвядоса, Аркадзь, адпавядае Ераму. І тут усё адпавядае тагачаснай эліна-сірыйска-ягіпецкай імперыі. Пры ім, – сведчыць II кніга "Цароў" (8, 22), – канчаткова аддзяліўся Эдом (*г. азн. Заходняя імперыя*) ад эліна-сірыйска-егіпецкага Ўсходу, як і было пры Аркадзі, а адружаны ён быў з дачкой грэшніка Ахава, як і Аркадзь на грэшніцы Еўдаксіі.

У гэты час на Усходзе, відаць, адбывалася моцная рэлігійная смута з шэрагам паўстаньняў на рэлігійнай глебе, так як нашы першакрыніцы пачынаюць тут моцна супярэчыць адна адной.

Пасьля Ёрама, згодна з радаводам Евангелля Мацвея, як паказана і на нашай табліцы XXIII, іде Озія (Хвядос II). Тое ж самае і ў шэрагу продкаў Рамзэса ў Абідоскім спісе тут няма ніякага перапынку, што адпавядае і нашым вылічэнням. Але калі вы паглядзіце ў біблейскую кнігу "Цары", то пабачыце дададзеных тут цароў: Ахозію (1 год), яго ўдаву, узурпатаршу Эталію (6 гадоў), сына Ахозіі, набожнага Ёаса (40 гадоў), і яго апекуна – першасьвятара Ёдая. Затым Амасію (29 гадоў) і, нарэшце, Азарыю, без усялякага папярэджання ператварыўшагася ў Озію ў XV главе той жа біблейскай кнігі ("Цары" 15, 13).

У гэтым дададзеным шэрагу не цяжка пазнаць, як згодна і з храналагічнымі супадзеннямі, так і згодна з якаснымі асаблівасьцямі, апошніх цароў Заходне-Рымскай імперыі, як гэта я і паказваю тут на дадатковай дыяграме (табл. XXIV).

## Табліца XXIV.

*Адлюстраванне апошніх заходне-рымскіх (рамейскіх) цароў у легендзе пра богаслаўнае (Іудэйскае) царства.*

ОТРАЖЕНИЕ ПОСЛЕДНИХ ЗАПАДНО-РИМСКИХ (РОМАНСКИХ) ЦАРЕЙ В ЛЕГЕНДЕ О БОГОСЛАВНОМ (ИУДЕЙСКОМ) ЦАРСТВЕ.

9-я династия египтян.

| Число лет царствования 50 45 40 35 30 25 20 15 10 5 | Число лет царствования. 5 10 15 20 25 30 35 40 45 50 |
|---|---|
| Библейские богославные (иудейские) цари. | Западно-римские православные цари. |
| Охозия. Умер в „Израеле" 1г. | 1г. Константин III (422) |
| Иоас 47л. | 32г. Валентиниан III (423-455) |
| Амохая 29л. | 16л. Рецимер (456-472) |
| Азария 1(?) г. | 1г. Ромул-Августул (475) |
| Неожиданный перескок повествования в книге Цари (15 13) от Азарии к Озии и смешение обоих в книге „Паралипоменон." | Перескок теократической гегемонии от погибших западно-римских царей к византийским (ромейским), еще оставшимся невредимыми. |

Вы бачыце із яе, што "ізраільскі" (г. азн. богазмагальніцкі) цар Ахозія адпавядае Кастусю III (422 г.), а Ёас – якога мела намер забіць яшчэ дзіцёнкам узурпатарша Эталія (ЕТЛІЕ), відаць, тагачасная італьянская царква, і які быў выратаваны Іесаветай, жонкай сьвятара Ёдая, і знаходзіўшыся доўга пад іхнай агульнай апекай, – адпавядае храналагічна і якасна Валентыяну III, якога з дзяцінства да сталага ўзросту апекавалі Аэцый і яго жонка Платыдыя. Гэта азначае, і яго спадчынніка, богаславячага Амасію, непазбежна прыходзіцца атаясаміць са спадчыннікам Валентыніяна III – Рэцімерам. А наступнага за ім Азарыю – з Ромулам Аўгустулам (табл. XXIV).

Пасьля яго аўтар біблейскай кнігі "Цары" робіць раптоўны адваротны пераскок да візантыйска-сірыйска-ягіпецкіх цароў, як прадаўжальнікаў гэтых загінуўшых рымскіх цароў, хаця такі яго ўчынак і атрымліваецца пераскокам не наперад, а назад. Аднак гэты пераскок тлумачыць нам тое, чаму ў Евангеллі Лукі, – напісаным, як я пакажу далей, Лукой Грэцкім ўжо ў IX стагоддзі нашай эры, – ніякай заходняй дынастыі няма ў ліку продкаў Езуса, а таксама і тое, што яна адсутнічае ў ягіпецкіх іерагліфічных надпісах (табл. XXVIII). Гэтая дынастыя ўжо пазней дададзена ў кнігу "Цары", а із яе і ў "Параліменон".

Гэтая ж устаўка тлумачыць і храналагічны зрух назад, зроблены кампілятарам той жа біблейскай кнігі "Цары", адсунуўшых назад гады валадарання ўсіх "цароў Юдэйскіх" паміж Ёасам і Раваамам, каб знайсьці перыяд часу для гэтых дададзеных цароў, што ў яго, аднак, дрэнна атрымалася, так як дзякуючы такому дадаванню ў кнізе "Цары" атрымаўся шэраг храналагічных супярэчнасьцей, заўважаных гебраістамі і да мяне.

Із гэтага гістарычнага балота, якое ўзнікла ад шэрагу рэлігійных смут, натупіўшых пасьля сьмерці Васіля Вялікага, які лічыўся на прыканцы свайго жыцця несмяротным Хрыстом, і наступнай гібелі Заходне-Рымскай імперыі, мы зноў выбіраемся на цвёрдую глебу толькі пры Озіі, так як час яго жыцця дапускае астранамічную праверку з дапамоай прадказання Моцнага (Амоса), які жыў, як паведамляецца ў ім, пры гэтым цары. Само сабой зразумела, што калі сонечнае зацьменне, апісанае ў "Моцнага", было 19 ліпеня 418 года, то, відавочна, і "Озія" валадарыў каля гэтага ж часу і таму храналагічна адпавядае Хвядосу II. Сапраўды, як бы ў пацверджанне такой высновы, яго пераемнікі, Іатам, Амасія і Эзэкія, выдатна храналагічна атаясамляюцца са Львом I.

Прапушчаны чамусьці толькі Маркіян (450-457 гг.).

Затым, у царстве богаславячых валадарыць выключна даўгавечны цар Манас, які сядзеў на пасадзе цэлых 55 гадоў, і паралельна яму мы знаходзім у эліна-сірыйска-егіпецкай гісторыі выключна даўгавечнага Юстыніяна, імя якога пры тым жа для жыдоўскага вуха зліваецца з двума Юстынамі, адзін із якіх быў яго недоўгагадовым папярэднікам і суправіцелем, а другі недоўгадовым спадкаемцай, а значэнне іхнага найменне ва ўсіх выпадках адно і тое ж: правасудны.

Можна думаць, што аўтар, які пісаў кнігу "Цары", не меў дастатковых ведаў у галіне грэцкай гісторыі, так як пазней аб'яднаў Тыверыя і Маўрыкія ў адно і тое ж дзіўнак найменне Амон, што па-жыдўску азначае "яны". Акрамя таго, ён памылкова даў гэтым "яны", грунуючыся на нейкіх меркаваннях, толькі два гады валадараньня. Ён прапусціў затым і "ўзурпатара Факу", які забіў апошняга із "іх" (г. азн. Маўрыкія), і прама перайшоў да Ёсіі, атаясамліваемага намі з Гераклііем, дзе аналогія аднаўляецца і якасна, так як Ёсію перамог "Навуходаносар", а Гераклія – халіф Амар, пры гэтым Гераклій тады фактычна "памёр" для Ягіпта і Палестыны, якія адышлі да магаметан.

Далейшую агонію эліна-сірыйска-ягіпецкага царства мы бачым на нашай табліцы аж да Сэдэкіі, канчаткова падначаленага тым жа "Навухаданосарам". Ён адпавядае, як бачым, Кастусю Паганату, з якога ўзяў даніну Маава-Халіф ў 679 г. Гэтых цароў ўжо няма ні ў радаводзе Езуса ў Лукі, ні ў радаводзе Ра-Месу Вялікага.

Ужо адна гэтая акалічнасць паказвае нам, што першапачатковая кніга "Цароў юдэйскіх" (дададзеная пазнейшым рэдактарам кавалкамі ў кнігу "Цароў ізраільскіх" і папаўненая ў кнізе "Параліменон" пазнейшым кампілятарам) была напісана не раней, як на прыканцы VIII стагоддзя, калі Сірыя і Ягіпет былі ўжо аддзелены магаметанамі ад Яўропы. Таму яе аўтар і меў пра Грэцыю ў шмат якіх выпадках толькі няпоўныя і недастаткова дакладныя звесткі. Гэтыя недакладнасьці наглядна і адбіліся некалькімі неадпаведнасьцямі левай крывой на нашай дыяграме. Аднак жа, хаця сіметрыя дэталяў у абедзвюх крывых і прымушае тут у некалькіх выпадках жадаць лепшай дакладнасьці, гэта зусім не памяншае правільнасьці нашага аднясення ўсяго прыведзенага на ёй шэрагу "богаславячых гістарычных дзеячаў" да перыяду паміж уступленнем на ўсходні пасад Ліцынія і паміж падначаленнем ўсходняга прыбярэжжа Міжземнага мора магаметанам пры халіфах. Таму што маё атаясамленне грунтуецца не толькі на адных вышэйпрыведзеных дыяграмах, а таксама і на астранамічных вылічэннях, якія прывялі мяне да іх.

Мне застаецца тут зрабіць толькі такую заключную нататку. Усе прыведзеныя на маёй дыяграме цары, акрамя чатырох апошніх, ужо падначаленых, прысутнічаюць у радаводзе Езуса ў Мацвея пад тымі ж найменнямі, як і ў кнізе "Цары", а ў Лукі пад іншымі (табл. XXV), за выключэннем толькі Ярама, якога мы атаясамляем з Аркадзем.

У некаторых выпадках гэтае адрозненне найменняў адразу тлумачыцца. Так, заснавальнік царства Юдэйскага (*Ліцыній*), замест Раваама (*Пашыральнік Народа*), названы прама Юдэем (*Юда*), і Аса-Езус (*Выратавальнік*) названы проста сьвятаром (*лявітам*). У іншых выпадках гэтая розніца найменняў менш відавочная, і магчыма, што адна з гэтых варыяцый ўяўляе пераклад найменняў, якія ўжываліся на якой-небудзь із замежных моў.

Дакладна тое ж мы можам сказаць і пра папярэднікаў гэтага спісу цароў, із якіх ў Мацвея пазначаны толькі два, а ў Лукі цэлых восем (табл. XXIV).

Чаму тут захавана нязменным толькі імя Давыда (якога мы ўжо атаясамілі з Дыяклетыянам чароўным), а ўсе астатнія найменні новыя? Чаму замест *двух* асоб Мацвея тут прыведзена восем, як-быццам Саламон, падобна ракеце, рассыпаўся на сем рознакаляровых агнёў (табл. XXVI)?

## Табліца XXV.

*Продкі "евангельскага Хрыста" (у якія патрапіў і ён сам у выглядзе Асы) пасьля Раваама-Ліцынія.*

| У Мацвея | У Лукі |
|---|---|
| Раваам Юдэйскі | Юдэй |
| Аб-Ія | Сімеён |
| Аса(Езус) | Лявіт (святар) |
| Ясафат | Матан |
| **Ерам** | **Ерам** |
| Озія | Елі-Езэр |
| Ятам | Ёсія |
| Ахаз | Ір |
| Езекія | Елмадам |
| Манасія | Касам |
| Амон | Адый |
| Ёсія | Мелхій |

## Табліца XXVI.

*Біблейскія цары перад Раваамам-іудэем*

| У Мацвея | У Лукі |
|---|---|
| Давыд (ДОД) | Давыд (ДОД) |
| Саламон | Натан |
| | Матафій |
| | Маінан |
| | Малеай |
| | Елі-а-Кім |
| | Іанан (Ян) |
| | Ёсіф |

З нашага боку гледжання, тут няма ніякай цяжкасьці пры тлумачэнні. Мы ўжо бачылі із папярэдняга, як суправіцелі пасьля-кастусёвай гісторыі Сакрата-Схаластыка ператварыліся ў да-кастусёвай гісторыі Яўсевія Памфіла ў спадкаемцаў адзін аднаго; так, відавочна, адбылося і тут. Мацвей лічыў згодна з метадам Сакрата-Схаластыка, а Лука згодна з метадам Яўсевія Памфіла. Мы ведаем, што ў Дыяклетыяна (Давыда) былі суправіцелі: Максіміян, Валеры і Канстанцый Хлор, а ў Канстанцыя Хлора былі суправіцелі і потым пераемнікі: Максенцый, Ліцыній і Кастусь I, якія далі нагоду да ўзнікнення падання пра трыумвірат Пампея і Цэзара. Лука і ўнёс іх усіх, праз адсутнасць нечага лепшага, у свой радавод Езуса, і загадкавым тут застаецца толькі апошні цар Ёсіф.

Само сабой зразумела, што, з новага боку гледжання, Яўсевій Памфіл пісаў сваю гісторыю пазней Сакрата-Схаластыка, і абодва ніяк не раней X стагоддзя нашай эры.

# Глава V.

# Вынікі нашых графік і колькасных і якасных дынастычных паралелізмаў.

Спынімся тут на хвіліну і перш чым ісьці далей, засяродзімся трохі на сказаным вышэй. Што мы зрабілі ва ўсім папярэднім?

1) Я вылічыў час Апакаліпсіса па яго гараскопу, размешчанаму ў VI главе гэтай жа самай кнігі, і выявілася, што ён напісаны з нагоды "прарочага спалучэння планет", што мела месца на небе толькі ў ноч з 30 верасня на 1 кастрычніка 395 юліянскага года. Сумневу тут не магло быць, так як асноўнае вылічэнне пацвердзілася, згодна з паведамленнямі той жа кнігі, трыма незалежнымі адзін ад аднаго астранамічнымі спосабамі, і выявілася, што аўтар гэтай кнігі "Ян Багаслоў" атаясамляецца з вялікім сірыйскім настаўнікам таго часу Янам Залатавустам, памёршым у 408 годзе. Існаванне гэтага апошняга Яна як раз у вылічаны мной для Апакаліпсіса час пацвердзіла справядлівасць майго вылічэння і гістарычна.

2) Я вылічыў час слупавання евангельскага Хрыста (што ў перакладзе з грэцкай мовы азначае: сьвятар), і выявілася, што гэта 418 год пад час валадарання Ганорыя ў Заходняй (Рымскай) імперыі і Хвядоса II ва Ўсходняй (Рамейскай) імперыі і, такім чынам, храналагічна наклаў першых цароў на другіх, але яшчэ не палічыў іх, грунтуючыся на адным гэтым супадзенні, тоеснымі.

3) Я вылічыў час "прадказальнікаў" – Ісаі,Ераміі, Езекііла, Даніїла і Захарыі – па апісаных у адных з іх гараскапічных злучэннях планет і сузор'яў, а ў другіх паводле шляхоў камет, і атрымаў дакладныя год і месяц ўсіх іх нябесных назіранняў, якія здзяйсняліся толькі ў V і VI стагоддзях нашай эры, так што із прадказальнікаў пра Месію яны ператварыліся ў напалову легендарныя ўспаміны пра заснавальніка набажэнства Васіля Вялікага, як і відаць грунтуючыся на іхных уласных выказваннях. Пазней я вылічыў, што паўдзённае поўнае сонечнае зацьменне на лініі культурных цэнтраў старажытнага свету, злучанае з вялікай каметай і пазначанае часам валадараньня Ераваама II у багазмагальнікаў (ізраільцян) і Озіі ў богаславячых (юдэяў), мела месца толькі 19 ліпеня (Restitutor'ом Orbis), а ў біблейскім варыянце з Саўлам (*той жа Сула*), сапраўдным заснавальнікам ізраільска-юдэйскага царства. А Каракала, якія ўвёў гальскую (*французскую*) вопратку і падараваў правы грамадзянства ўсім правінцыям, храналагічна адпавядае Тэадарыху Гоцкаму, які зрабіў тое ж самае. Не ссунутым са свайго храналагічнага месца пакуль застаўся толькі перыяд паміж 218 і 270 гадамі, які пачынаецца з Геліагабала, "Вышэйшага жраца неперамoжнага Сонца" (218-222 гг.) і яго спадкаемцы Аляксандра Севера (222-235 гг.), пераможна змагаўшагася з пярсідзкім заваёўнікам Артаксерксам (Ардашырам) і забітага мяцежнікамі, кажуць, на Рэйне, аналагічна таму, як Аляксандр Македонскі перамог пярсідзкага заваёўніка Дарыя і памёр ад ран, кажуць, на Еўфраце.

У якіх дачыненнях адзін да аднаго знаходзяцца гэтыя абодва Аляксандры, я пакажу ў наступных тамах, а зараз адзначу толькі, што зрух "нараджэння Хрыста" на 333 гады наперад да года нараджэння Васіля Вялікага дасць рух і Аляксандра Македонскага і ўсіх яго пераемнікаў таксама на 333 гады наперад, і пры гэтым выяўляецца, што Аляксандр Македонскі будаваў сваю Александрыю як раз каля *першага года нашай эры*. Гэта азначае, "наша эра" павінна была б, замест "хрысьціянскай", называцца Александрыйскай эрай (а астранамічна гэта эра Авена).

4) Жадаючы затым прасачыць, як храналагічна налягаюць астатнія богазмагальніцкія і багаславячыя цары на раманскіх (лацінскіх) і рамейскіх (эліна-сірыйска-ягіпецкіх), я адзначыў, што гады іх валадараньня адпаведна амаль супадаюць, і склаў дзве вышэйпрыведзеныя дыяграмы, на якіх выявіўся такі поўны паралелізм ад пачатку і да канца абодвух, што нават і акрамя маіх вышэйпрыведзеных астранамічных вылічэнняў, а грунтуючыся на адной толькі тэорыі верагоднасцей, давялося б зрабіць выснову, што богазмагальніцкае і багаслаўнае царствы не толькі паралельны раманскаму і рамейскаму, але і тоесныя з імі.

5) Я зрабіў якасную ацэнку найбольш выбітных падзей у абодвух сваіх атаясамленнях, і ўсе важнейшыя падзеі выявіліся такімі ж ад пачатку і да канца, нават да таго, што "ўзнёсшыся жывым на неба" прадказальнік-грамабой Ільля храналагічна і якасна атаясамляецца з "ўзьнёсшымся жывым на неба "евангельскім настаўнікам, і абодва выявіліся толькі двума міфамі пра Васіля Вялікага, заснавальніка хрысьціянскага набажэнства. І ўсе астатнія біблейскія прадказальнікі згодна з часах іхнага жыцця перамясьціліся на гэтай дыяграме як раз на вылічаныя для іх мной яшчэ раней месцы.

6) Потым я ўзяў за аснову евангельскае паданне, што "Хрыстос" нарадзіўся пры Актавіяне Аўгусьце і, атаясаміўшы яго з дапамогай апісанага на пачатку гэтай кнігі месяцовага зацьменне 21 сакавіка 368 года з заснавальнікам хрысьціянскага набажэнства "Вялікім царом" (Васілём Вялікім), якія нарадзіліся каля 333 г. нашай эры, прыйшоў да высновы, што Гай Актавіян Аўгуст з’яўляецца двайнікам Гая Кастуся Аўгуста. Ужо здагадваючыся, што аналогія працягнецца і далей, я пачаў храналагічна накладаць імперыю Гая Актавіяна на імперыю Гая Кастуся з дапамогай таго ж дыяграматычнага спосабу, як і папярэднія, па працягласьці валадараньня пасьлядоўных цароў і, атрымаўшы дыяграму XXIIа, прыйшоў да высновы, што імперыя Гая Актавіяна спісана з імперыі Гая Кастуся, пачынаючы ад яе заснавальніка Сулы (Restitutor'a Urbis), атаясамляемага з Аўрэліянам, што месяцовае зацьменне, апісанае пры няўдалай спробе яго слупавання, мела месца на нашым паўшар'і зямлі толькі адзін раз на працягу некалькіх стагоддзяў да і пасьля пачатку нашай эры (так званага "нараджэння Хрыстова"): яно было 21 сакавіка 368 года. Я пачаў шукаць каля гэтага часу ў Сірыі "вялікага сьвятога", які адпавядаў бы "Цару юдэйскаму", і адразу знайшоў Васіля Вялікага (333-378 гг.), імя якога ў перакладзе азначае "Вялікі цар". Я даследаваў яго жыццё па "Жыціям сьвятых", і прыйшоў да высновы, што ён таксама быў сынам "Цара" (Васіля па-грэцку), і ўсё ў яго жыцці да спробы слупавання выявілася адпавядаючым евангельскаму паданню пра Езуса, а гэты апошні эпізод заменены простым смяротным прысудам, быццам бы не прыведзеным у выкананне, таму што пры падпісанні яго імператарам адбыўся землятрус, апісаны і ў Евангеллях пры зьдзеках над евангельскім настаўнікам.

Аўтар Апакаліпсіса – Ян – і тут выявіўся яго маладым вучнем, і астатнія "апосталы" знайшліся з лішкам у асяроддзі настаўнікаў гэтага часу, якія атрымалі назву "вялікіх". Раней іх ад пачатку нашай эры не было ніводнага "вялікага сьвятога", а толькі алегарычныя міфічныя асобы ў выглядзе Сьвятой Мудрасьці (Сафіі) з яе трыма сьвятымі дочкамі, Верай, Надзеяй і Шанаваннем, або ў выглядзе рэлігійных дзеячаў, перамешчаных з больш позніх часоў з нагоды змяшання ўжываўшайся на пачатку сярэдніх стагоддзяў эры Дыяклетыяна з нашай сучаснай, псеўда-хрысьціянскай (а на справе Александрыйскай) эрай.

7) Я тут паказаў, акрамя таго, з дапамогай супастаўлення радаводаў Рамзэса і Езуса, што абедзве іхныя генеалогіі з’яўляюцца адной і той жа кампілятыўнай генеалогіяй, напісанай на двух розных мовах. У першым яе варыянце ў радавод уключаны юдэйскія цары, пачынаючы з Раваама-Юды і заканчваючы Ёсіяй-Мэлхіем. Але Раваама-Юду мы ўжо атаясамілі з ягіпецкім Ліцыніем (307-324 гг.), а Ёсію-Мэлхія з Геракліем (610-641 гг.), у якога Халіф Амар (ён жа Навуханоносар) забраў Ягіпет у 632 г. нашай эры пасьля яго дваццацідвухгадовага валадараньня ў ім. У другім жа варыянце гэтай агульнай генеалогіі тыя ж самыя цары ўнесены пад назвай 8-10-й дынастыі пад найменнем цароў Неф-Еркаў. Гэта азначае, ягіпецкія Неф-Еркі валадарылі паміж 307 і 641 гадамі нашай эры, а, такім чынам, і Абідоская іерагліфічная табліца складзена не раней, як у VII стагоддзі нашай эры, пад уплывам візантыйскай культуры і ўжо пры панаванні магаметанскай рэлігіі над астатнімі рэлігіямі Ўсходу.

Выходзіць, што Гераклеопалітанская (г. азн. із горада Геркулеса) дынастыя была Канстантынапольскай дынастыяй, і ў ёй:

С-Неф-Ерк = Озія = Хвядос II (408-450 гг.),

Неф-Рэ = Ятам = Леў I (457-474 гг.),

Неф-Ерк-Рэ = Тэрэру = Ахаз = Зянон (474-491 гг.),

Неф-Ерк Гор = Езекія – Анастас (491-518 гг.).

Неф-Ерк-Рэ-Папа-Сеніб = Манасія = Юстыніян (518-565 гг.) і г. д.

Я выдатна разумею, што гэта ашаламляючая выснова для егіптолагаў, але ў адным із далейшых тамоў, спецыяльна прысвечаных Ягіпту, я пакажу, што астранамічныя вылічэнні гараскопаў, знойдзеных у розных ягіпецкіх магільнях, прыводзяць бяспрэчна да тых жа вынікаў. Так, круглы гараскоп на столі Дендэрскага храма дае 15 сакавіка 540 г., час эліна-сірыйска-егіпецкага імператара Юстыніяна, а чатырохвугольны – 6 траўня 568 г., г. азн. закончаны пры яго пераемніку Юстыне II[185]. Да такога ж зруху прыводзяць і мае вылічэнні часоў усіх маючыхся ў мяне месапатамскіх клінапісных эфемерыд.

Гэты ўдар па старой храналогіі некалькі памякчаецца зрухам на 333 гады, які мы зрабілі накладаннем "Другой" Рымскай імперыі на "Трэцюю". Сапраўды, калі іерогліфамі, як нам кажуць, пісалі і пры Актавіяне Аўгусьце, а Актавіян Аўгуст атаясамляецца з Кастусём Аўгустам, то і іерагліфічная пісьмовасць зрушваецца да IV стагоддзя. Гэта азначае, я набліжаю да нас яе заканчэнне толькі на чатыры стагоддзі, але і гэты зрух дзіўны, хоць, як далей пабачыць чытач, я набліжаю да нашага ж часу, не раней як у VIII стагоддзе, і евангелістаў Марка, Яна, Мацвея і Луку, дапускаючы існаванне ў папярэдніх стагоддзях толькі апакаліптычнага і месіянскага хрысьціянства. Іншага выйсьця тут няма.

Дапусціць, што ўсе прыведзеныя тут (і далей) шматлікія астранамічныя вызначэнні і ўсе названыя тут аналогіі імператарскіх радаводаў з'яўляюцца толькі "выпадковымі супадзеньнямі", азначае вяртацца да містыкі сярэдніх стагоддзяў і прыступіць за аднаўленне старажытнай кабалістыкі.

Тут нам не застаецца іншага выйсьця, як пабудаваць наступную тэорыю паходжання нашай сучаснай "гісторыі старажытнага свету" (таму што тэорыі неабходныя таксама ў галіне гістарычных пошукаў, як у галіне натуральных навук).

Вось гэтая тэорыя.

---

[185] Згодна з дэталёвым параўнаннем (у томе III) Юстыніян і быў іераграфічным Неф-Ерк-Рэ Папа-Сенібам Геракеапалітанскай дынастыі.

***Лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкія ўладары з часоў Аўрэліяна каранаваліся чатырма каронамі: лацінскай ў Рыме (ці ў Пампеі, або ў Равене), элінскай ў Канстантынаполі (ці ў Нікеі) сірыйскай ў Антыёхіі (ці ў Кесарыі) і ягіпецкай ў Каіры (або у Мемфісе, або ў Александрыі). Пры кожным каранаванні яны атрымлівалі асобнае афіцыйнае найменне на мове гэтай краіны і яно выбівалася на медалях, якія раздаваліся шляхетным прысутнічаючым і адсутнічаючым службовым асобам. (Мы зараз дарэмна лічым іх манетамі ў нашым сэнсе слова, таму што тады яшчэ не магло інаваць грашовай гаспадаркі). Такім чынам, ва ўсіх тых, хто аднаасобна валадарыў па ўсёй тэтрархіі, было чатыры найменні. Калі ў кожным із гэтых чатырох, злучаных дынастычна каралеўствах, развілася свая нацыянальная пісьмовасць, былі напісаны чатыры гісторыі той жа самай імперыі, але іхныя ўладары былі пазначаны пад мясцовымі афіцыйнымі найменнямі і самі гісторыі былі напісаны з мясцовым ухілам г. азн. перспектыўна.***

***Пазней грэкі, як дапытлівыя мараходы па Міжземнаму мору, прывезлі да сябе кнігі італійскага, сірыйскага і ягіпецкага варыянтаў і пераклалі іх пад час сярэдніх стагоддзяў на сваю мову, пакінуўшы не перакладзенымі ўласныя імёны дзеючых асоб і нават найменні згадваемых мясцовасьцей і litарадоў, якія таксама на розных мовах маюць рознае гучанне. Дзякуючы гэтаму, а таксама мясцоваму перспектыўнаму каларыту кожнага варыянта, яны былі палічаны за асобныя гісторыі і аднесены да свайго асобнага часу.***

У выніку ўсяго гэтага і ўзьнікла тое, што мы зараз называем гісторыяй старажытнага сьвету.

З гэтага боку гледжання, перыяд часу, пра які мы маем пісьмовыя паведамленні, скарачаецца да 1700 гадоў, г. азн. да другога стагоддзя нашай эры ў самых культурных краінах прыбярэжжаў Міжземнага мора, а ў Кітаі максімум да 2000 гадоў, г. азн. да апошняга стагоддзя перад нашай эрай. Далей у глыб стагоддзяў ідзе ўсюды ўжо не гісторыя, а археалогія, але затое сярэднестагоддзевы перыяд ўзбагачаецца масай новых матэрыялаў, так як з новага боку гледжання нават класічны пантэон даводзіцца лічыць апакрыфічным, не кажучы ўжо пра вытанчаныя літаратурныя творы, пачынаючы з Адысеі і Іліяды і заканчваючы Авідзіем і камедыямі Арыстафана, у якіх дзеянне пераносіцца ў старажытную Грэцыю толькі згода са звычайнай для эпохі Адраджэння ці, дакладней, Эпохі фантазёрства і апакрыфіравання, інтэрнацыянальнай манерай, дзякуючы якой лічылася нецікавым мастацкае апісанне свайго ўласнага нацыянальнага побыту, а абавязкова патрэбна было перанесьці дзеянне ў далёкую Грэцыю, як гэта мы часта бачым нават і ў пісьменнікаў XVIII стагоддзя.

Ну, а як жа з гэтага боку гледжання, – запытае мяне чытач, – паставіцца да індускай тройцы – Трымурці[186], якая складаецца із бога Слова (Брамы),

---

[186] Заўвага перакладчыка: на Палессі да гэтага часу існуе слова "мурса" для пазначэння твару і асобы. Зараз яно мае зневажаючае адценне. Гэтае слова несумненна старажытнаславянскае. "Тры мурсы" яшчэ лепш чым "тры морды" адпавядае для тлумачэння паходжання слова Трымурці. Палессе з'яўляецца больш архаічным рэгіёнам у напрамку захавання славянскай старыны, чым так званая Кіеўская Русь. Нават у старакіеўскіх летапісах другое месца пасьля Кіева захавана за Туравым, хаця са зместу саміх летапісаў ён ніяк не адпавядае другому па значэнню гораду ў палітычным плане. Сама сабой напрошваецца думка, што гэта адгалосак таго ранейшага перыяду, калі Тураў быў перадавым месцам славянскай каланізацыі ўсходу, ва ўсякім разе падняпроўя, а ад яго далей на ўсход. У гэтым накірунку каланізацыя ішла па Прыпяці. Хутчэй усяго гэта быў адзін із напрамкаў. Выразна прагладаецца другі, больш паўночны, з выхадам да Ноўгарада. Існаванне больш паўднёвага не прагладаецца, магчыма таму што паўднёвей рэчкі маюць паўднёвы

стваральніка сусвету, із бога Сівы, як увасаблення ўсёзнішчаючага і ўсёачышчаючага полымя (Агні, сугучна з Ягнём – Авенам), языкі якога, як адзнакі "сьвятога духу", сышлі і на хрысьціянскіх апосталаў, і з бога Вішну, крыніцы існавання ўсяго жывога? Як паставіцца да індускага Крышны-Хрыста, гэтаму восьмаму ўвасабленню бога Вішну, гісторыя юнацтва якога амаль такая ж самая, як і ў евангельскага Хрыста, але які, як пераконваюць нас, увасабіўся ў гэты свой восьмы вобраз яшчэ за 2000 гадоў да пачатку нашай эры?

Паставіцца да гэтага, – адкажу я, – трэба цалкам гэтак жа, як нам давялося паставіцца і да легенд пра біблейскага першага чалавека Адама і да ягіпецкага першага цара Мены. Ніводнага із гэтых васьмі ўвасабленняў бога Вішну, вядома, не было ў рэчаіснасьці, а міф пра іх таксама паўстаў пад час сярэдніх стагоддзяў.

Не індуская Трымурці разам з немаўлём Крышнай прыехала на белым слане на берагі Міжземнага мора із цнатлівых лясоў Індыі, а цалкам наадварот, яна перавандравала ў Індыю із культурных гарадоў эліна-сірыйска-ягіпецкай тэакратычнай імперыі Хвядоса II на вярблюдах разам з гандлёвымі караванамі, не раней канца IV стагоддзя нашай эры. Гэта і была ў Індыі першая і прытым дакладная "добрая вестка" пра прыход на зямлю Крышны, у выглядзе "Вялікага цара", які заснаваў хрысьціянскае богаслужэнне, а ўсе папярэднія ўвасабленні Крышны станавіліся вядомымі ў Індыі ўжо пазней. Бо мы ж ведаем зараз, што і ў хрысьціянскі свет Яўропы "Хрыстос" ва ўяўленні прыходзіў не адзін раз. Мы ўжо прачыталі ў папярэдніх частках гэтай кнігі пра яго папярэднічаўшы прыход на берагі Міжземнага мора ў легендзе пра евангельскага Хрыста, які з'яўляўся выратаваць класічны свет на пачатку нашай эры пры Актавіяне Аўгусьце, гэтым міфічным двайніку Кастуся I. Потым мы бачылі таго ж Крышну-Хрыста ў летапісе цароў юдэйскіх ў вобразе цара Асы, вынішчальніка язычніцкіх багоў быццам бы яшчэ за 961 гадоў да пачатку нашай эры; потым мы бачылі яго ж ўзнёсшымся на неба, каля 950 г. да пачатку нашай эры, у асобе найвялікшага із прадказальнікаў – Іллі; потым мы бачылі яго ўжо некалькі разоў у радаводзе Вялікага Рамзэса, а ў далейшым пабачым у вобразе Езуса Навіна, які жыў быццам бы за паўтары тысячы гадоў да нашай эры. Але тады Майсей атаясамляецца ў нас, з аднаго боку, з Дыяклетыянам, а з другога – са сваім блеклым рэштквавым атажылкам на правільным храналагічным месцы – Мікалаем Цудатворцам. Яго ж мы знойдзем і ў легендзе пра Язэпа Выдатнага і ў Енаха.

Вось ужо і сем увасабленняў таго ж самага Ўсётрымальніка Вішну на Захадзе. І ўсе яны пасьлядоўна, па меры свайго міфічнага развіцця, перавандроўвалі на Ўсход, апошні раз, магчыма, нават і морам, вакол мыса Добрай Надзеі, разам з партугальскімі мараплаўцамі на пачатку XVI стагоддзя нашай эры...

І ўся гэтая перамена шляху васьміразовага ўвасаблення бога-Ўсётрымальніка Вішну ў адваротным напрамку із грэцкай Сірыі ў Індыю знаходзіцца ў поўнай згодзе з лінгвістыкай, дзе слова Крышна з’яўляецца перайначваннем нацыянальнага грэцкага слова Хрыстос, г. азн. пасвечанага шляхам памазаньня алеем[187], і з натуральным спосабам распаўсюджвання культуры, падобна плыні вады, із яе вышэйшых цэнтраў у ніжэйшыя, із гарадоў у вёскі, са сталіц ў правінцыі, а ніяк не наадварот. Індыя ў дачыненні да прыбярэжжаў Міжземнага

напрамк. Бяспрэчна славянскую каланізацыю на ўсход патрэбна разглядаць не ў разуменні засялення славянамі амаль пустуючых зямель, а ў плане пашырэння славянскай культуры і асіміляцыі тубыльцаў дружынамі славянскіх канкістадораў (аналагічна засяленню Паўднёвай і Цэнтральнай Амерыкі гішпанцамі).

[187] Прыметнікавая форма ад дзеяслова χριω – намазваю маслам, фарбую.

мора заўсёды павінна была заставацца правінцыяй, як праз тое, што раскоша яе прыроды не стымулявала працавітасць насельніцтва, так і таму, што яе неізвілістае ўзбярэжжа не давала магчымасьці развіцця першапачатковага мараплавання, гэтага галоўнага стымулу да прагрэсу старажытнай тэхнікі, і да абуджэння старажытнай дапытлівасьці, а разам з ёй і фантазіі.

Індыя краіна цудаў не ў сваёй уласнай, а толькі ў нашай еўрапейскай фантазіі, выхаванай на напалову раманах накшталт Жакольо і на тэасафічных прыдумках накшталт Алены Блавацкай і яе прыяцеля, англа-індыйскага палкоўніка Олькота. Індускія мудрацы, якія захоўваюць у сховішчах сваіх храмаў ад пакалення да пакалення сваю хаваемую ад неазнаёмленых мудрасць і напаловумістычныя творы сваіх продкаў, ўяўляюць цікавасць для сучаснага сур'ёзнага даследчыка толькі з псіхіятрычнага боку гледжання, а ніяк не для аднаўлення старажытнай гісторыі гэтай краіны, якая не мае ў рэчаіснасьці ніякай сваёй храналогіі раней XVI стагоддзя нашай эры.

# Частка Чацвёртая

## Новазапаветнікі

### Глава I.

Лука Эладзкі (830-946 гг.), як аўтар Евангелля Лукі і першай часткі апостальскіх здзяйсненняў.

Яго нябесны сімвал – сузор'е Цяляці.



*Мал. 91. Паўночна-заходні кут храма "Нябеснай Панны" (Партэнона).*

Імя Лука паходзіць або ад Леўкас (белы), або ад мясцовасьці Луканія.

Спачатку паглядзім, што нам паведамляе царкоўная традыцыя пра Луку Эладзкага, а таксама і пра "евангеліста Луку".

Згозна з "Жыціямі сьвятых", евангеліст Лука нарадзіўся 18 верасня ў Сірыйскай Антыёхіі і быў "з моладу навучаны ўсім элінскім навуках і медычнай хітрасьці". Ён добра ведаў грэцкую і жыдоўскую мовы. Ён лічыцца ў ліку 70 другарадных апосталаў, выпраўленых парамі Езусам па гарадах для пропаведзі яго вучэння.

Ён прапаведаваў, – паведамляюць "Жыція", – у Фівах, у Беоціі, і быццам бы напісаў сваё Евангелле праз 50 гадоў пасьля "ўсшэсьця на неба" Езуса. Ён, – кажуць нам, – працаваў разам з Паўлам, прапаведуючы хрысьціянства язычнікам, і пра яго апошні згадвае ў сваім пасланні да каласянаў (**4**, 14), выказваючыся, што іх "вітае лекар любасны Лука".

Ён падарожнічаў у "Іерусалім", прайшоў Лівію і жыў некаторы час у Ягіпце. Потым пабудаваў сабе царкву ў Беоцкіх Фівах і лекаваў там хворых целам і душой. Затым памёр у глыбокай старасьці, больш за 80 гадоў ад роду, і ад яго труны вылечваліся шматлікія хваробы, "асабліва вочныя".

Ён "першым напісаў на драўлянай дошцы малюнак багародзіцы з дзіцёнкам на руках" і яшчэ дзве яе "выявы", а таксама "партрэты" Пятра і Паўла, і быў, такім чынам, заснавальнікам царкоўных малюнкаў у візантыйскім стылі. Гэта азначае, справа была як-быццам ужо пры імператрыцы Ірыне, а не ў I і нават не ў IV стагоддзі нашай эры. Між тым нам кажуць, што Канстанцый I, сын Кастуся I, ужо перанёс яго парэшткі ў Цар-горад, дзе яны і былі размешчаны ў царкве св. апосталаў разам з Андрэем і Цімафеем...

Вось і ўсё, што паведамляецца пра яго ў "Жыція сьвятых". Паведамленні вельмі сціслыя, але амаль увесь праўдападобныя, за выключэннем цудаў, якія адбываліся ўжо пасьля яго сьмерці ад дакранання да яго магілы, і сапраўднасьці яго парэшткаў, якіх Кастусь II не мог нікуды перанесьці, так як памёр раней вылічанага намі часу слупавання Езуса 21 сакавіка 368 г.

Мы ўжо бачылі, як першаўзорам аўтара Апакаліпсіса – Яна Багаслова – выявіўся Ян Залатавуст і як першаўзорам евангельскага цара юдэйскага выявіўся "Вялікі цар" Васіль Вялікі Чэцці-Міней. Паглядзім, ці не знойдзем мы ў іх і першаўзору евангеліста Лукі.

Із розных Лук мы маем у "Жыціях сьвятых":

1) Пад датай 29 студзеня: Згадка "пра трох сьвятых пакутнікаў: біскупа Сільвана, дыякана Луку і чытальніка Мокію, аддадзеных дзеля Хрыста на з'ядзенне дзікім звярам пад час паравання Нумерыяна ў Элісе, фінікійскім горадзе". Гэты дыякан Лука, бяспрэчна, мала падыходзіць для ролі лекара і евангеліста Лукі.

2) Пад датай 22 студзеня: апосталы: Натанаіл, Лука, Клімент. Хаця Лука тут і той самы, але без біяграфіі, як і астатнія два.

3) Пад датай 30 ліпеня: "канчына дыяканаў Лукі і Муко, пры вавілонскім біскупе Поліхроніі падчас валадараньня Дзекія", без падрабязнасьцей.

Гэта дае прамежак паміж 248 і 252 гг. Калі мы будзем лічыць, што такі год дадзены згодна з эрай Дыяклетыяна (286 г. нашай эры), то атрымаем для часу скону Лукі і Муко 534-538 гг. Але тады яшчэ былі памятнымі біблейскія прадказанні, як нядаўнія, а таму і гэты Лука, цытуючы іх, як даўніну, відавочна не падыходзіць для евангеліста.

4) Пад датай 7 верасня: вялебны Лука, трэцці ігумен Спасавай мясьціны, маючай найменне "Глыбокія Рэкі", ад Ліканскай епархіі. Таксама відавочна не падыходзіць для евангеліста.

5) Пад датай 6 лістапада: вялебны Лука са сікалійскага горада Таўраменіі, які, пакінуўшы бацькоў і заручаную з ім маладую, таемна пайшоў з дому ноччу ў пустыню, апрануўся ў манаскае адзенне і шмат пакутаваў, дагаджаючы богу. Таксама мала падыходзіць для літаратурнай знакамітасьці.

6) Пад датай 11 снежня: слупнік Лука. Ужо праз само сваё слупніцтва ён мала падыходзіць для пісьменніцтва: стоячы 45 гадоў на слупе, наўрад ці можна было напісаць што-небудзь вартае. Ды ён нічога такога і не рабіў.

7) Нарэшце зараз у нас застаецца, ва ўсіх "Жіціях сьвятых" толькі адзін Лука Эладзкі (Грэцкі), якому пад датай 7 лютага нададзена значная ўвага і які адзін падыходзіць у якасьці першаўзора акрэсленага намі вышэй лекара-евангеліста, нягледзячы на тое, што гэта было толькі ў X стагоддзі. Але із папярэдніх главаў гэтай кнігі мы ўжо прызвычаіліся да храналагічных сюрпрызаў, а із далейшых главаў прызвычаімся яшчэ больш.

Разгледзім жа яго біяграфію згодна з "Жіціямі сьвятых".

Лука Грэцкі, – паведамляюць яны нам, – нарадзіўся каля 860 года ў мястэчку Касторыі ў Эладзе. Яго бацькам быў Вянок (Стэфан), а маці Радасная (Еўфрасіння), выхадцы із выспы Эгіна, якая часта зведвала набегі мусульман. Яго бацька быў быдлаўладальнікам і землеўладальнікам, і Лука ў дзяцінстве быццам бы дапамагаў яму. Ён быў такім добрым, што, выходзячы із дому, часта раздаваў усю сваю вопратку жабракам і вяртаўся дадому цалкам голым, за што быў шмат разоў біты бацькамі. Усё гэта паказвае, што ён паходзіў із заможнай сям'і, бо інакш пасьля першай жа раздачы сваёй вопраткі жабракам яму не было ў чым хадзіць, ды і "кніжным вучэннем" голым было б цяжка займацца.

А між тым пасьля сьмерці бацькі, калі яму было яшчэ гадоў 15, ён, перадаўшы кіраванне домам сваёй маці, цалкам прысвяціў сябе навукам. "Ён да такой ступені накіроўваў свой дух да неба, – паведамляюць нам" Жыціі", – што нават і целам адрываўся ад зямлі, што не раз заўважала і яго маці: шмат разоў яна падглядвала ў шчылінку дзьвярэй, як ён маліўся ў сваім пакоі ў паветры, на цэлы локаць падняты сваёй малітвай ад зямлі".

Аднойчы ён, "нікому не сказаўшы ні слова, пайшоў із дому, каб паступіць у кляштар", так як кляштары таго часу служылі адзінымі захавальнікамі навук.

Але на дарозе яго сустрэў атраду ваяроў, якія шукалі збеглых рабоў, і яны, палічыўшы яго за такога, збілі яго і накіравалі ў вязьніцу, кажучы, што не вызваляць, пакуль не скажа, чый ён раб. Аднак праз некаторы часу яго пазналі ведаўшыя яго людзі, і ён вярнуўся ў свой дом.

У яго вёску прыйшлі два манахі, якія ішлі ў "Ерусалім". Ён падмануў іх, сказаўшы, што ён сірата, і пайшоў разам з імі ў Афіны, дзе інакі і пакінулі яго ў кляштары, не ўзяўшы з сабой далей, бо яму быў толькі 17-ы год.

Яго маці тым часам "усюды шукала яго, шмат плакала і доўга малілася богу". І вось "бог пачуў, нарэшце, яе маленні". Ён "наладзіў бачанне ў сне ігумену таго кляштара, і з дапамогай свайго сну ігумен даведаўся пра Луку ўсё". Ён "пачаў гнеўна папракаць Луку за падман і загадаў неадкладна ісьці дадому".

І вось ён зноў "прыйшоў у Касторыю, дзе яго маці, падняўшы рукі да неба, закрычала ад радасьці:

– Дабраславёны Бог, не пакінуў без увагі маю малітву і выказаў сваю ласку да мяне!

Аднак праз чатыры месяцы Лука зноў узнамерыўся сысьці із дому, і яго маці ўжо не замінала яму ў гэтым. Яму было тады гадоў дваццаць.

Ён "пайшоў у царкву Касьмы і Даміяна на беразе мора, на Янавай гары. Там ён пачаў жыць у маленькай келлі, дзе так змагаўся з дэманамі, што і распавесьці нельга", – паведамляюць нам "Жыціі", на ўсе накладваючы свой манаскі каларыт.

А на справе ён быў там не адным толькі бесазмагальнікам, але і "настаўнікам сваіх сужыцеляў". Сярод іх у яго быў там адзін дрэнны вучань, уявіўшы, што Лука быў шарлатан. Каб пераканацца ў гэтым, ён аднойчы "падслухоўваў цэлую ноч, але чуў толькі, як Лука ўвесь час маліўся богу”.

У гэтай мясьціне Лука наладзіў сабе і садок, "але ў яго пачалі прыходзіць алені, і моцна аб'ядаць яго дрэвы.

– Навошта ты псуеш мой сад? – спытаў Лука ў галоўнага з іх. – За гэта ты зведаеш пакаранне ад бога.

І алень адразу ўпаў мёртвым, а іншыя алені збеглі ад жаху. Але Лука ажывіў памёршага і з мірам выпусьціў яго ў лес.

Аднойчы да яго "прыйшлі два старцы і пастрыглі яго ў манахі", а калі ён іх выпраўляў і давёў да берага мора, засмучаны, што не можа даць ім ніякай ежы, адразу ж із мора выскачылі да яго ног дзве вялікія рыбы, прапаноўваючы сябе ў ежу вандраўнікам.

Яны выканалі іхнае жаданне і наеліся імі.

Хутка слава пра Луку, як мудраца і навукоўцу, для якога "няма таямніц ў прыродзе", які вылечвае памёршых і кіруе зьвярамі і рыбамі, разнеслася па ўсіх наваколіцах, і да яго пачалі збірацца не толькі звяры, але і разнастайныя людзі за парадамі ў жыцці і за дапамогай ад хвароб. Так, "аднойчы да яго прыйшлі два браты, якія не ведалі, дзе іхны бацька закапаў сваё срэбра і золата перад сваёй сьмерцю. Лука адразу ж паказаў ім месца, дзе трэба капаць зямлю, і яны знайшлі тут бацькоўскі скарб, здзіўленыя глыбінёй мудрасьці Лукі".

Другі раз, праз падгаворванні дз’ябла, да яго прыйшлі тры жанчыны, якія спавядалі яму ўсе свае грахі, просячы, каб ацаліў іх. Іхная споведзь была такога роду, што і на яго самога, пасьля іхных прызнанняў, напалі нецнатлівыя жаданні, і ён тры дні быў вымушаны маліцца, не сыходзячы з месца, "каб пагасіць полымя ўзнікшага ў ім запалу". І вось, "калі ён, нарэшце, заснуў у знемажэнні, ён пабачыў анёла, які, прыляцеўшы, закінуў вуду на нітцы ў яго горла і выцягнуў з яе дапамогай із яго нейкую пачварную частку яго цела".

Анёл адкінуў яе ад яго і сказаў Луцэ:

– Зараз смела адважвайся выслухоўваць розныя споведзі і не бойся!

Прачнуўшыся, Лука, сапраўды, адчуў, што цалкам пазбавіўся ад грахоўных жаданняў.

У яго была сястра "Калі", такога ж ладу жыцця, і часам прыходзіла да яго са свайго кляштары дапамагаць у гаспадарцы. Аднойчы Лука сказаў ёй:

– Да нас ідзе чалавек, які нясе на сабе вялікі цяжар.

І вось хутка прыйшоў да іх падарожнік, не нясучы на сабе роўна нічога. Аднак жа, калі Лука пабачыў яго, ён моцна захваляваўся.

– Навошта ты прыйшоў сюды? – прамовіў ён. – Да якой пары ты будзеш маўчаць і не пакаешся ў здзейсненым табой забойстве?

Прышэлец прызнаўся з плачам і галашэньне, што на дарозе ён забіў свайго сябра, і маліў Луку:

– Не дай мне загінуць у дз'ябальскіх сетках!

Лука выправіў яго на пакаянне да сьвятара.

Дакладна так жа і ў іншых выпадках ён выяўляе ўсёведанне.

Адзін чалавек, на імя Зьміцер, часта прыставаўшы на сваім караблі да гэтага месца, захацеў наведаць Луку. Каб не з'явіцца да яго з пустымі рукамі, ён цэлы дзень лавіў вудай рыбу, але нічога не злавіў.

– Закіну-ка яшчэ раз на імя Лукі! – прамовіў ён і зараз жа выцягнуў велізарную рыбу. Ён закінуў з гэтымі ж словамі другі раз і выцягнуў меншую рыбу.

Ён пашкадаваў аддаць вялікую рыбу і прынёс меншую, а Лука, падзякаваўшы, распавёў яму прытчу пра тое, як Ананія ўтаіў ад апосталаў частку грошай, атрыманых ім за прададзеную зямлю (якая змяшчаецца ў "Здзяйсненнях апосталаў", прыпісваемых Луцэ), і як блага яму было праз гэта. Зьміцер з жахам пабачыў, што Лука ўсё ведае і, кінуўшыся да яго ног, маліў аб прабачэнні. Пасьля гэтага і першая рыба была прынесена ім і скормлена Лукой на агульнай трапезе.

Сем гадоў Лука жыў на сваёй гары. – паведамляюць "Жыціі", – пакуль не здзейснілася прадказанае ім балгарскае нашэсьце на гэтую краіну. Пасьля яго ён пераправіўся на караблі ў Карынф і жыў там, у Патрах, дзесяць гадоў.

Адзін прэсьвітэр абгаварыў там аднаго слупніка, і калі "Лука пачаў, адступіўшы ад сваёй звычайнай лагоднасьці, выкрываць яго хлусню, прэсьвітэр ўдарыў яго па шчацэ, але адразу ж упаў і памёр у канвульсіях".

Пасьля гэтага Лука зноў вярнуўся на Янаву гару. Калі вясной ён ішоў з крыжам на яе вяршыню, "гадзюка схапіла яго за вялікі палец ногі. Але ён лагодна прамовіў змяі:

– Мы абодва стварэнні аднаго стваральніка. Будзем жа хадзіць кожны сваім шляхам, не робячы таго, чаго нам не загадана рабіць".

Гадзюка засаромеўшыся папаўзла ад яго, і ён застаўся цэлы.

Само сабой зразумела, што пры апісанай вышэй празарлівасьці Лукі, ён мог быць і выдатным шпіёнам. Гэта і выявілася на справе.

Адзін граф (коміт), які нёс царскія дары, быў абкрадзены ў Карынфе па дарозе ў Афрыку, і ніхто не мог знайсьці злодзея. Напалоханы маючай прыйсьці няміласьцю цара, граф, згодна з парадай мясцовых жыхароў, звярнуўся да Лукі. Той прыйшоў да яго ў Карынф, дзе граф, перш за ўсё, запрасіў яго да сябе на агульны абед.

"Лука зірнуў на аднаго із служачых і, назваўшы яго па імені, прамовіў:

– Навошта ты наклікаеш на сябе смерць і на свайго гаспадара бяду? Ідзі і прынясі скрадзенае табой золата, якое ты закапаў.

Слуга затрапятаў і, кінуўшыся да ног Лукі, маліў яго аб прабачэнні. Выбегшы вон, ён прынёс усё скрадзенае, і Лука вярнуўся дадому, суправаджаемы дабраславеньнямі прысутных".

Другі раз у аднаго із самых знакамітых фіўскіх грамадзян захварэў сын, і калі ён ужо ляжаў напалову мёртвы і бязмоўны, бацькі паклікалі Луку як лекара (згадайце, што і евангеліст быў лекарам!) для яго лячэння. Лука толькі памаліўся за паміраючага і пайшоў да сябе дадому. А калі на наступную раніцу яго ігумен выправіў слугу даведацца, у якім становішчы юнак, то слуга на сваё здзіўленне пабачыў яго "сядзячым верхам на кані, каб ехаць у лазню".

Калі ў Лукі не хапіла цярпення жыць тут праз шматлікасць наведвальнікаў, якія шукалі ў яго вылячэння душы і цела, ён выправіў свайго вучня Германа ў Карынф да аднаго боганатхнёнага мужа Феафілакта спытаць яго парады. Той яму адказаў:

– Пазбягай людзей, і ты выратуешся!

"Лука сышоў са сваім вучнем і пасяліўся, невядомы нікому, каля Калавійскага мора і, кінуўшы медыцыну, заняўся земляробствам. Там, пад час яго адсутнасьці, адзін із праязджаўшых побач маракоў скраў у яго жоран". Лука паспяшаўся да карабля, просячы аддаць неабходную яму рэч, але маракі заўпарціліся.

– Калі вы не бралі, – сказаў ім, нарэшце, Лука, – то плывіце з мірам, а калі хто із вас узяў, то няхай пакарае яго за гэта бог. І адразу ж узяўшы жоран ўпаў мёртвым, а астатнія карабельнікі пачалі прасіць у яго прабачэння і вярнулі камень. Але Лука ўсё ж не пажадаў ажывіць скраўшага, як зрабіў гэта з аленем.

Ён прабыў тут каля мора тры гады, а потым з нагоды нашэсьця мусульман "збег на пустынную выспу Ампіль, із якой пераехаў у Сатырыю, дзе і жыў да сваёй сьмерці ў невялікім кляштары". Там ён зноў заняўся медыцынай і сем гадоў лекаваў хваробы навакольных. Ён вылечыў, між іншым, манаха Пільнага (Рыгора) "ад доўгай страўнікавай хваробы" і "адну шляхетную фіўскую даму, пакутаваўшую ад цяжкай хваробы, ад якой адмовіліся ўсе лекары, зрабіў цалкам здаровай шляхам памазаньня алеем".

Аднойчы нейкі "Вершнік" (Філіп), брат "Богададзенага" (Хвядоса), вучня Лукі, пажадаў наведаць іх. «Даведаўшыся духам пра яго прыезд", Лука "загадаў прыгатаваць для госьця асабліва добрую трапезу, на якой і сам еў больш звычайнага із гасціннасьці".

Дзякуючы гэтаму, "Вешнік" неасьцярожна падумаў, што Лука толькі прыкідваецца постнікам, але, калі ён заснуў пасьля абеду, перад ім паўсталі два юнакі. Яны гнеўна зірнулі на яго і прамовілі: "Чаму ты няправільна думаеш пра Луку? Падымі ўверх твае вочы!"

І вось ён раптам пабачыў "слаўнае месца, пасланае парфірам, і на ім Луку, ззяўшага як Сонца".

Прачнуўшыся спалоханым, ён пакаяўся перад усімі за свае думкі і выпрасіў сабе прабачэнне ў Лукі.

Усё гэтае месца з'яўляецца, як мне здаецца, не простай прыдумкай бяздзейнага ўяўлення, а адлюстраваннем таго, што Лука, сапраўды, паважаў паесьці ў кампаніі.

Прадчуваючы сваю смерць, ён наведаў усіх навакольных прэсвітэраў і прасіў іх памаліцца пра яго перад богам. Тры месяцы рыхтаваўся ён да скону. Потым на заходзе Сонца прамовіў:

– У рукі твае, бог, аддаю мой дух, – і памёр 7 лютага 946 года, у глыбокай старасьці.

Раніцай ўсе прысутныя плакалі пра яго і пахавалі на тым месцы, дзе ён жыў. Але і пасьля сьмерці ён застаўся лекарам. "Із яго парэшткаў пацякло духмянае масла, ад памазаньня якім ацаляліся кульгавыя, пачыналі бачыць сляпыя, ачышчаліся пракажонныя, і з жахам выскоквалі із жыватоў людзей дэманы".

Мы бачым, што гэты жыццяпіс з’яўляецца адзіна прыдатным для евангеліста ў "Жыціях сьвятых".

Падобна таму, як евангеліст Лука быў лекарам, так і гэты быў лекарам. Абодва пабудавалі для сябе цэрквы, толькі замест грэцкіх Фіваў названы суседні з імі Карынф, што, па сутнасьці, прыводзіць да таго ж самага месца жыхарства. Іншага прыдатнага Лукі мы не знаходзім у царкоўнай гісторыі і таму павінны спыніцца на ім.

Гэта азначае, Евангелле Лукі напісана не раней за пачатак апошняга дзесяцігоддзя дзевятага стагоддзя (890 г.). І гэта цалкам адпавядае таму, што біблейскія прадказальнікі, тварыўшыя, як мы бачылі, у пятым стагоддзі нашай эры, цытуюцца ім як старажытныя дакументы, не згадваўшыя пра "Хрыста", а прарочыўшыя пра яго.

Я адчуваю ўжо, як усе прыхільнікі старой храналогіі з пагардлівай усмешкай прапануюць мне тое ж пытанне, якое прапаноўвалі пятнаццаць гадоў таму, калі выйшла ў свет мая кніга "Адкрыцьцё ў навальніцы і буры" (выд. 1907 г.), дзе я астранамічна даказаў, што Апакаліпсіс быў начарна напісаны 30 верасня 395 года Янам Залатавустам.

– А як жа тады пра яго згадваюць яшчэ ў III стагоддзі шмат хто із царкоўных пісьменнікаў? – запыталі яны мяне.

Але я павінен прызнацца, што гэтае пытанне заўсёды нагадвала мне словы аднаго састарэлага сьвятара студэнту канца XIX стагоддзя, які паведаміў яму, што, на яго думку, бога няма.

– Ах, малады чалавек, малады чалавек! – адказаў ён яму паблажліва. – Калі бога няма, то адкажыце мне, каго ж дзень і ноч усхваляюць сьвятыя херувімы?

Само сабой зразумела, што, адважыўшыся публічна выказаць такую думку, як думка, што Евангелле Лукі напісана на прыканцы IX стагоддзя, насуперак ўсім прышчэпленым нам з дзяцінства паданням пра ранні час узнікнення Евангелляў, у супярэчнасць ўсёй сучаснай тэалогіі, я не раз не толькі сур'ёзна падумаў, але навёў грунтоўныя даведкі і пра херувімаў.

Пачну некалькі здалёк.

Калі я напісаў, яшчэ на прыканцы XIX стагоддзя, у Шлісельбургскім умацаванні маё даследаванне пра Апакаліпсіс, частка маіх таварышаў па зняволенню, на чале з нябожчыкам Германам Лапаціным, замест сур'ёзных пярэчанняў, толькі абсмяялі мяне.

– Як можа гэта быць, – заяўляў апошні, – калі ў архівах Ватыкана захоўваюцца сапраўдныя летапісы ўсіх рымскіх валадараньняў пачынаючы з самага заснавання горада Рыма і пратаколы сусветных сабораў, кананізаваўшых Апакаліпсіс? Як перш не падумаць пра гэта, чым выказаць падобныя бязглуздзіцы.

Мне тады не было вядома нічога пра летапісныя скарбы Ватыкана і пра пратаколы сусветных сабораў, і таму я толькі адказаў: у мяне свой метад даследавання – метад матэматычны, і тэорыя верагоднасцей мне кажа: больш шанцаў за тое, што ўсе гэтыя летапісы і пратаколы падложныя, чым няправільныя падставы, на якіх я грунтуюся пры сваім астранамічным вылічэнні часу ўзнікнення Апакаліпсіса. Аднак, разумеючы, што я пішу не для сябе аднаго, а і для іншых, якія менш мяне спадзяюцца на матэматыку, я, пасьля вызвалення са зняволення восенню 1905 года, прыклаў намаганні, друкуючы маю кнігу, забяспечыць яе і гістарычнымі тлумачэннямі адносна падробленасьці гэтых "херувімаў Апакаліпсіса".

З тых часоў мая кніга была перакладзена на нямецкую і некаторыя іншыя мовы: адносна яе быў вялікі абмен меркаваннямі ў навуковым сьвеце, але да гэтага

часу я не сустрэў ніводнага пярэчання, якое прымусіла б мяне змяніць хоць адзін радок у "Адкрыцці ў навальніцы і буры ", калі спатрэбіцца яго чацвёртае выданне.

Амаль усе херувімы выявіліся ўжо ўпаўшымі з неба і западозранымі яшчэ да мяне, а астатнія нешматлікія не зваліліся толькі таму, што да гэтага часу ніхто яшчэ іх не штурхнуў.

– Але тады, – скажуць мне зараз новыя апаненты, – вы казалі пра памылковасць звычайнай гісторыі хрысьціянскай царквы толькі да канца IV стагоддзя, а зараз вы ўжо даводзіце гэта да канца IX стагоддзя! Бо апошні сусветны сабор, Нікейскі II, быў у 783-787 гг. ўсяго толькі на сто гадоў раней гэтага часу, а падзел царквы на ўсходнюю і заходнюю адбыўся толькі трохі пазней за гэта, у 1054 годзе! Няўжо Евангелле Лукі напісана пасьля ўсіх сусветных сабораў, і толькі за паўтараста гадоў да падзелу цэркваў? Калі ж яно было кананізавала і ўведзена ў набажэнствы?

Дазвольце мне адказаць на гэтае пытанне паведамленнем пра мае далейшыя пошукі ў галіне палеаграфіі.

Яшчэ да друкавання майго "Адкрыцця ў навальніцы і буры" ў 1907 г. я пацікавіўся даведацца: што ж змяшчаюць знакамітыя ватыканскія архівы, пра якія згадваў мой таварыш Лапацін? Дзе захоўваюцца арыгіналы пратаколаў сусветных сабораў за ўласнаручнымі подпісамі іхнага прэзідэнта, сакратара і ўсіх сябраў? Дзе захоўваецца архіў старажытнай Рымскай імперыі?

Ужо 17 гадоў прайшло з часу майго вызвалення, і за гэтыя гады я цікавіўся пра гэтае пытанне не толькі ў нашых свецкіх акадэмікаў і ў прафесароў духоўнай акадэміі, але і асабіста перачытваў каталогі найважнейшых кнігасховішчаў Яўропы. І што ж выявілася? Усе гэтыя архіўныя старажытнасьці былі, як я і раней быў упэўнены, простай фантазіяй Лапаціна! Ні ў Ватыкане, ні ў якім-небудзь іншым кнігасховішчы зямнога шара няма ніякіх афіцыйных запісаў, якія б вяліся із году ў год і былі складзеных у асобныя шафы пачкамі пад нумарамі, як гэта робіцца ў нашых судовых і натарыяльных архівах, і нідзе няма ніякіх пратаколаў сусветных сабораў! Нідзе няма нават і асобных сапраўдных запісаў пра справы тых або іншых імператараў не толькі старажытнага, але нават і сярэднестагоддзевага перыяду. Усё, што мы там маем, гэта рукапісы пярэдадня кнігадрукавальнага перыяду, г. азн. ўжо значна пазней 890 года, меркаванага тут мной для Евангелля Лукі. Выявілася, што ўсе херувімы гэтага Евангелля, як і іншых, і нават самой старазапаветнай Бібліі, спяваюць ім славу толькі ў друкаваных выданнях пасьля 1450 года нашай эры, прычым большай часткай нават невядома, адкуль узяты і куды потым падзеліся рукапісы, із якіх надрукаваны гэтыя зборнікі тварэнняў "бацькі нашага Васіля Вялікага, Яна Залатавуснага, благаслаўлёнага Ераніма і г. д., і г. д.

Усё гэта відавочныя апокрыфы. Але як яны складаліся? Я не думаю, што тут былі наўмысныя падробкі з карыслівай мэтай атрымаць пабольш грошай ад выдаўцоў, хоць і не выключаю падобных выпадкаў. І яны шмат разоў былі, але я думаю, што ў большасьці наяўных у нас апокрыфаў, да якіх я далучаю наогул усе складаныя гістарычныя апавяданні ад імя старажытных аўтараў, мы маем справу з простымі непаразуменнямі.

Я грунтуюся, перш за ўсё, на псіхалагічных меркаваннях.

У кожнага шмат чытаўшага ў юнацтве чалавека раней ці пазней з'яўляецца жаданне і самому пісаць, але ў яго няма яшчэ ўпэўненасьці ў сябе.

"А раптам тое, што я напісаў, у што ўклаў сваю душу, выявіцца цалкам нягодным і будзе толькі пасмешышчам для слухачоў?"

Так і я сам прачытаў сябрам свой першы верш з дапамогай апакрыфічнага прыёму.

– Наладзім сёння ў сябе літаратурную вечарыну, – прапанаваў я ім аднойчы. – Хай кожны із нас прачытае верш, які яму падабаецца, а мы будзем яго ацэньваць, каб паглядзець, наколькі падобныя нашы думкі.

І вось адзін прачытаў верш Лермантава, другі Някрасава і г. д., а я прачытаў свой, выдаўшы яго за верш Агарова. Да маёй найвялікшай радасьці, усе пачалі яго хваліць і нават папрасілі даць спісаць. Толькі тады я і прызнаўся, што аўтарам быў я, але ўслед за тым быў вельмі засмучаны, калі мне не захацелі верыць...

Такі душэўны настрой, я думаю, уласьцівы для ўсіх ўпершыню выступаючых аўтараў, і асабліва гэта характэрна да пачатку "Эпохі Адраджэння", ці, дакладней, "Эпохі зараджэння мастацкай літаратуры", калі высока шанавалі толькі тое, што было абвешчана старажытным, а адносна сучасных, асабліва пачынаючых, нават і таленавітых аўтараў заўсёды баяліся выказваць публічную ўхвалу праз асьцярогу быць абвінавачанымі ў недахопе густу з боку пагарджаючых усім новым аўтарытэтных знаўцаў псеўда-старажытнасьці.

Што ж было рабіць тагачаснаму аўтару пасьля таго, як ніхто не звяртаў увагі на яго першы твор ад свайго імя, і шмат хто нават высмеялі яго за жаданне канкураваць са "старымі пісьменнікамі"? А між тым таленавітыя вучні заўсёды ішлі далей сваіх настаўнікаў, і развіццё літаратуры здзяйснялася эвалюцыйна.

Так было не з адной толькі свецкай літаратурай.

З даўніх часоў, акрамя звычайных рытуальных чытанняў, воклічаў і малітваў, якія складалі царкоўную службу, у цэрквах чыталіся і павучанні. Яны чыталіся, а не прамаўляліся, так як сярэднестагоддзевы сьвятар ці манах яшчэ не валодаў аратарскім мастацтвам. Аратарствалі тады шмат і прытым бязладна на духоўныя тэмы толькі ў напаловупрытомным стане істэрычныя людзі, званыя прадказальнікамі, калі яны хвалілі бога, або бесnаватымі, калі яны вымаўлялі змрочныя на яго нaганы. Ды і ў свецкім асяроддзі было тое ж самае: прамовы Дэмасфена і Цыцэрона – гэта такія ж апокрыфы. Прамоўніцкае мастацтва, як і ўсё астатняе, таксама развівалася эвалюцыйна, а не ўзнікла нейкім цудам адразу згодна з загадам Зеўса, а потым пачало слабець: гэта было б так жа непраўдападобна, як і нараджэнне якой-небудзь маці дарослага сына, які потым пачаў паступоваператварацца ў дзіця.

У сярэднестагоддзевых хрысьціянскіх храмах маглі, як і зараз, чытацца пасьля заканчэння службы маральныя павучанні як ранейшых слупоў царквы, так і саміх сьвятароў.

Але ў пачынаючага сьвятара, асьцерагаючагася, што дзе-небудзь ён неабдумана вымавіць нешта нязгоднае са сьвятым пісаннем ці проста што-небудзь няўдалае, чым скарыстаюцца яго супернікі, заўсёды з'яўлялася спакуса прачытаць свой твор публічна ў царкве ад імя каго-небудзь із агульнапрызнаных, бацькоў царквы: Арыгена, Яна Златавуста і г. д., і потым пачуць яго ацэнку, незалежна ад стаўлення да самога сябе. І асабліва моцным было гэта жаданне, калі першы твор ад свайго імя быў ужо абсмяяны зайздроснікамі.

Але ў гэтым выпадку становішча аўтара ўскладнялася. Пасьля публічнага чытання ад чужога імя было ўжо немагчыма прызнацца перад паствай ва ўласным аўтарстве, чаму прытым жа, ніхто б ужо не паверыў.

І вось такім чынам пачала назапашвацца вялізная колькасць царкоўных апокрыфаў, якія і былі пазней сабраны выдаўцамі ў першыя дзесяцігоддзі друкарскага перыяду пад імем твораў розных бацькоў царквы.

Так узіклі ўсе херувімы, апяваючыя на восьмай сферы апакрыфічнага неба – і Евангелле Лукі, і ўсе астатнія Евангеллі.

Але, акрамя гэтых херувімаў, нам трэба разгледзець і саміх багоў, якіх яны ўсхваляюць, г. азн. старажытнасць Евангелляў. Само сабой зразумела, што і іх арыгіналаў, за ўласнаручным подпісам евангелістаў Марка, Лукі, Мацвея і Яна, таксама нідзе не існуе.

І яны захаваліся толькі ў выданнях друкаванага перыяду ды яшчэ ў некалькіх манускрыптах, якія зараз захоўваюцца ў рукапісных аддзяленнях розных нацыянальных бібліятэк Еўропы. Адкуль і калі яны патрапілі ў гэтыя кнігасховішчы, ніхто не ведае, і аж да другой паловы XIX стагоддзя ім не надавалі ніякага значэння.

Але вось, у палове XIX стагоддзя з'явіўся тэолаг Цішэндорф (1815-1874 гг.)

Выправіўшыся спачатку, у 1840 г., у Францыю ў Парыж, яшчэ маладым чалавекам 25 гадоў, ён патрапіў ў Французскую нацыянальную бібліятэку, дзе даглядчык за рукапісамі Гозэ хімічнымі сродкамі аднавіў на пергаментных лістах, на якіх кімсьці былі напісаны "Складанні Яфрэма Сірына", ранейшы пабляклы тэкст першапачаткова напісаных тут главаў із Біbліі. Цішэндорф выдаў гэты тэкст, аднясучы яго да V стагоддзя нашай эры. На якой падставе? Таму што тэкст быў напісаны буйнымі загалоўнымі літарамі, тады як ужо з IX стагоддзя, на яго думку, пачалі пісаць малымі. Але ў такім выпадку, чаму ж не прыпісаць гэты тэкст менавіта IX стагоддзю? Цішэндорф не прыводзіць па гэты конт ніякіх пераканаўчых доказаў. Акрамя таго, гэта нават і даказаць немагчыма. Грунтуючыся на якіх падставах можна было б сцвярджаць, што пераход ад першапачатковага буйнога пісання да дробнага здзейсніўся амаль адначасова ва ўсіх краінах, як у сталіцах Заходняй Еўропы, так і ў глухіх мясьцінах Грэцыі і Ягіпта, цалкам тады адрэзаных ад цэнтраў культурнага свету мусульманскім заваяваннем і якія не ведалі, як пачалі пісаць у Рыме і Парыжы або Канстантынаполі па-новаму?

Зразумела, што перш чым хуткапісанне культурных цэнтраў змагло дабрацца да асобных і ізаляваных глухіх басейнаў тагачаснага Ўсходу і быць засвоена імі, павінны былі прайсьці не адно, не два, і нават не тры стагоддзі. Руціна заўсёды занадта моцная, каб адразу саступіць новаўвядзенню і, як вынік, у той час калі ў Фларэнцыі і Рыме пісалі ўжо хуткапіснымі літарамі, традыцыя Ўсходу магла захоўваць старое пісанне аж да самага пачатку кнігадрукавання і нават доўга пасьля яго.

Ды і ў самым кнігадрукаванні хіба не было разнастайнасьці? Хіба да апошняга часу гатычны шрыфт у Германіі, нягледзячы на тое, што ўсе літары яго тыя ж самыя, што і ў лацінскім шрыфце, і, нягледзячы на тое, што яны вельмі саступаюць ім у выразнасьці, не пануе і зараз у нямецкіх газетах і белетрыстычных кнігах? Бо толькі навуковыя кнігі, ды і то не так даўно, перайшлі ў Германіі да лацінскага шрыфта.

Хіба царкоўныя кнігі жыдоў не пішуцца і да гэтага часу згодна са старадаўнім спосабам, без пунктуацыі?

Гэта азначае, што спосаб пісання згодна са старым напісаннем яшчэ не даказвае, што дадзены рукапіс напісаны раней IX стагоддзя, а толькі тое, што ён патрапіў у культурны цэнтр із нейкай глухамаі, дзе, магчыма, пісалі гэтым

спосабам і аж да XVIII стагоддзя. Гэта тое ж самае, як калі б які-небудзь геолаг, пабачыўшы ў лесе Паўднёвай Амерыкі двухутробку, палічыў яе прывідам на той падставе, што гэты падклас млекакормячых жывёл характэрны для трыясавай эпохі. Усе рукапісы Цішэндорфа такія ж двухутробкі, калі нават і не простыя пудзілы.

Для таго каб ухапіцца абедзвюма рукамі за гэты спосаб вызначэння часу, трэба было не столькі сур'ёзнае навуковае стаўленне да справы, колькі гарачае жаданне знайсьці кропку апоры для існуючых ужо гістарычных і асабліва тэакратычных уяўленняў. Попыт нарадзіў прапанову, і Цішэндорф набыў сабе спачатку славу заснавальніка палеаграфіі, а потым і дваранскае званне, падарыўшы імператару Аляксандру II адну са сваіх двухутробок, званую Сінайскім кодэксам Бібліі. Яе пергамент я даследаваў асабіста у нашай Публічнай бібліятэцы і па гнуткасьці лістоў прыйшоў да поўнага пераканання, што ён ніяк не мог ляжаць у сухім клімаце Сіная не толькі паўтары тысячы гадоў, але нават і 500 гадоў. А грунтуючыся на той чысьціні, якую выяўляюць ўнутраныя лісты гэтага кодэкса, зразумела, што ён ніяк не чытаўся дзесяткі тысяч разоў, што было б непазбежным пры такім доўгім часе яго існавання і пры рэдкасьці кніг у перыяд сярэдніх стагоддзяў. Падумайце толькі, што гэты спіс чытаўся хоць чатыры разы на год (а не кожны тыдзень, як усе службовыя кнігі ў нашых цэрквах), і вось ужо 6000 чытанняў! Якая кніга вытрымала б гэта не будучы пашкоджанай?

На вялікі жаль, у мяне не было магчымасьці даследаваць пад мікраскопам ніткі, якімі былі сшытыя гэтыя парэшткі, але гэта неабходна рана ці позна зрабіць каму-небудзь, так як матэрыял, ды і ўся гісторыя адкрыцця тут вельмі падазроная.

Навука не павінна чакаць такога моманту, калі з рукапісамі Цішэндорфа здарыцца тое ж, што адбылося з кляштарскімі парэшткамі.

Сотні гадоў ляжалі ў кляштарах целы розных "сьвятых", якія былі абвешчаны нятленнымі, як і манускрыпты Цішэндорфа, быццам бы здзекуючыся над уздзеяннем кіслароду і заўсёды прысутнічаючага ў паветры вадзянога газу, раз'ядаючых нават і граніт. Але вось царкоўныя парэшткі агледзела староння магутнасць – рэвалюцыйны ўрад – і што ж выявілася? Усе старадаўнія ўжо згнілі, а ад пазнейшых засталося вось што (табліца XXVII).

## Табліца XXVII.

*Выпіска із пратаколаў агляду некалькіх із "нетленных мошчаў".*

| Час анатаміравання | Найменне так званага сьвятога | Кароткая выпіска із пратакола анатаміравання |
|---|---|---|
| 12 лютага 1919 г. | Пак. Аўраамій г. Уладзімір | Збор костак, ва ўсякім разе, не менш чым ад двух асоб. |
| 13 лютага 1919 г. | Кн. Андрэй. г. Уладзімір. | Косткі са слядамі відавочнага разбурэння. |
| 17 лютага 1919 г. | Кн. Гаўрыіл. г. Юр'еў-Польскі. | Косткі шкілета. Дробныя косткі кісьцей рук і ступняў ног адсутнічаюць. Маюцца дзве лішнія скроневыя косткі. |
| 20 лютага 1919 г. | Прэп. Даніла. г. Пераяслаўль. | Косткі, якія моцна разбурыліся ад часу. |
| 10 лютага 1919 г. | Пятро і Феўронняя. г. Мурам. | Косткі захаваліся толькі буйныя: сцягно, плечавыя і чэрап. |
| 7 лютага 1919 г. | Кн. Кастусь і яго дзеці: Міхал, Хведар і яго маці | Чатыры мяхі з моцна пашкоджанымі косткамі. |

| | | |
|---|---|---|
| | Ірына. | |
| 10 лютага 1919 г. | Біскуп Ян. г. Суздаль. | Косткі; чэрап без ніжняй сківіцы. |
| 12 лютага 1919 г. | Яўхім Суздальскі. г. Суздаль. | Куча спарахнелых ад часу і рассыпаючыхся костак. |
| 3 лютага 1919 г. | Мітрафаній, біс. Варонежскі. г. Варонеж. | Чэрап з прылепленымі валасамі і буйныя спарахнелыя косткі. |
| 28 студзеня 1919 г. | Ціхан Задонскі. г. Задонск. | Чэрап і буйныя косткі. |
| 11 красавіка 1919 г. | Сергій Раданежскі. г. Сергіеў Пасад. | Напалову разваленыя косткі. У чэрапе ў васкаванай паперы руса-рудаватыя валасы. |
| 17 сакавіка 1919 г. | Сава Звянігародзкі. г. Звянігарад. | Лялька із ваты; у ваце 33 моцна пашкоджаныя косткі. |
| 3 красавіка 1919 г. | Кн. Мсціслаў Адважны. Г. Ноўгарад. | Моцна пашколжаныя косткі шкілета; правая рука і ніжнія канцавіны адсутнічаюць. |
| | Пак. Гаўрыіл. г. Масква | Костка чэрапа: правая бакавая частка патылічнай косткі. |
| 3 студзеня 1919 г. | Кн. Уладзімір. г. Ноўгарад. | Збор цёмных костак; чэрап раскалоўся на дзьве часткі. |
| 3 красавіка 1919 г. | Ганна, жонка Яраслава. г. Ноўгарад. | Косткі: чэрап разбураны цалкам; ніжняя сківіца захавалася. |
| 3 красавіка 1919 г. | Ян Наўгародзкі. г. Ноўгарад. | Збор напаловуспарахнелых костак. |
| 1 лютага 1919 г. | Кірыла Новаазёрскі. г. Белазёрск. | Куча костак; добра захавалі сваю форму сцягно і патылічная частка чэрапа. |
| 3 красавіка 1919 г. | Якаў Баровіцкі. Наўгарод. губ. | Косткі злучаныя высахшымі звязкамі. |
| 27 лютага 1919 г. | Усевалад-Гаўрыіл. Пскоўская губ. | Рэшткі разбураных чорных костак. |
| 21 лютага 1919 г. | Афонскія пак. Яўхім, Ігнат і Акакій. г. Балашоў. | Тры часткі адпілаваных чалавечых костак: адна ад локцевай дзве ад вялікай сьцягеннай. |
| 29 лютага 1919 г. | Піцірым Тамбоўскі. г. Тамбоў. | Залітыя воскам косткі. Воскавы злепак з галавы, і ў ім адломкі цемянной, патылічнай і скроневай костак. |
| 18 траўня 1919 г. | Кн. Міхал Цвярскі. г. Цвер. | Косткі; чэрап з аддзеленай ніжняй сківіцай. |
| 5 лютага 1919 г. | Яфрэм Новаторжскі. г. Таржок. | Пашкоджаныя косткі. |
| 11 лютага 1919 г. | Еўфрасіння Суздальская. | Тканінавая лялька з кавалкамі костак. |
| 5 лютага 1919 г. | Юліяній Новаторжскі. г. Таржок. | Пашкоджаныя косткі. |
| 5 лютага 1919 г. | Аркадзь Новаторжскі. г. Таржок. | Некалькі костак. |
| 25 лютага 1919 г. | Ніл Стоўбенскі. г. Асташкаў. | Збор спарахнелых костак. Косткі далёка не ўсе. |
| 2 лютага 1919 г. | Макарый Калязінскі. г. Калязін. | Параўнальна добра захаваліся чэрап і буйныя трубчатыя косткі; лапатка, некалькі пазванкоў і дробныя косткі часткова разбурыліся ад часу. |
| 9 лютага 1919 г. | Кн. Кастусь. Яраслаўская губ. | Спарахнелыя косткі; чэрап без ніжняй сківіцы; ступні ног адсутнічаюць. |
| 15 лютага 1919 г. | Кн. Рыгор, г. Уладзімір | Муміфікаваны труп. |
| 13 лютага 1919 г. | Кн. Глеб. г. Уладзімір. | Шкілет, абцягнуты высахшай скурай блекла-шэрага колеру. |
| 17 лютага 1919 г. | Хвядос Тоцемскі. г. Тоцьма, Валагодзкая губ. | Высахшы касьцяк, зведаўшы значнае разбурэнне, складаецца із костак, пакрытых высахлымі часткамі скуры, якая пры расьціранні ператвараецца ў парашок. Скура |

| | | |
|---|---|---|
| | | плячэй, галавы і ступняў цалкам спарахнела. Засталіся толькі адны косткі. |
| 6 сакавіка 1919 г. | Пракоп Усьцянскі. Бельскі ў. | Муміфікаваны труп. |
| | Яўстафій, Антоній і Ян, Віленскія дагоднікі. | Муміфікаваныя трупы. |
| 3 красавіка 1919 г. | Біс. Мікіта. г. Ноўгарад. | Муміфікаваны труп. |
| 3 красавіка 1919 г. | Кн. Хведар. г. Ноўгарад. | Муміфікаваны труп. |
| 25 траўня 1919 г. | Арсень цуд. г. Цвер. | Муміфікаваны труп. |
| 9 красавіка 1919 г. | Кн. Хведар. Яраслаўская губ. | Шкілет, пакрыты высахлай скурай. Косткі ступняў адсутнічаюць. На заднім боку тулава тканіны няма. |
| 9 красавіка 1919 г. | Кн. Давыд. г. Яраслаўль. | Касьцяк, збольшага пакрыты высахлай скурай. |

Мы тут назіраем, як старадаўнія забабоны ператварыліся ў прамыя падробкі.

Навукоўцам патрэбна самім зрабіць агляд манускрыптаў Цішэндорфа, запрасіўшы да яго не толькі палеаграфаў, але і хімікаў і тэхналагаў, каб паглядзець пад мікраскопам склад нітак, вызначыць хімічны склад клею і параўнаць пергамент з ужо вядомымі ўзорамі канца сярэдніх стагоддзяў.

Палеаграфія тут найменш надзейны сродак, не толькі праз вышэйпазначаныя прыклады неадначасовага пераходу да новай транскрыпцыі ў розных мясцовасьцях, але і праз **лёгкасць** здзяйснення падробак. Вядома, цяжка падрабіць почырк якога-небудзь пэўнага чалавека, Пятра ці Яна, але нічога не варта навучыцца пісаць (згодна з нейкім узорам) почыркам пэўнай эпохі, якая ўключае ў сябе тысячы індывідуальных почыркаў, у тым ліку і почырк пераймальніка. Бо калі, напрыклад, у IV стагоддзі кожны хлопчык за некалькі тыдняў мог навучыцца пісаць згодна з прописамі свайго часу, то чаму не можа зрабіць тое ж самае і хлопчык XIX стагоддзя, не кажучы ўжо пра дарослага чалавека? Гэта вельмі лёгка, і думаць, што хто-небудзь тут можа вызначыць, грунтуючыся проста на стылі літар, сапраўднасць дакумента, вельмі наіўна.

Такім чынам, я не бачу ніводнага сур'ёзнага факта супраць дапушчэння, што Евангелле Лукі, хоць бы яно і ўтрымлівалася ў Сінайскім кодэксе Цішэндорфа, было напісана Лукой Эладскім на прыканцы IX стагоддзя нашай эры і ўведзена ў канон не сусветнымі саборамі, а, як і ўсе іншыя царкоўныя кнігі, богаслужбовай практыкай або простым дэкрэтам агульнапрызнаваемага да 1054 нашай эры намесніка Хрыста – рымскага папы.

Згодна са сваім складам гэтае Евангелле мае адзнакі ўжо дастаткова распрацаванай літаратурнай мовы. Пачынаецца яно не як іншыя, а прысвячэннем, падобна кнігам эпохі Адраджэння, або, дакладней сказаць, "Эпохі апакрыфічнай літаратуры":

"Так як шмат хто ўжо пачыналі складаць апавяданні пра добра вядомыя сярод нас падзеі, як перадалі тое быўшыя з самага пачатку відавочцы і служкі Слова, – то надумалася і мне, шаноўны Богалюб (Тэафіл), пасьля руплівага дасьледавання ўсяго з самага пачатку, па парадку апісаць табе, каб ты вывучыў цвёрдыя падставы таго вучэння, у якім быў настаўлены "(Лука **1**, 1-4).

Затым аўтар пачынае апавяданне пра звеставанне, якога няма ў іншых Евангеллях; распавядае пра нараджэнне Езуса ў ясьлях на шляху ў "Ерусалім" і пра Яна Хрысьціцеля, які выйшаў хрысціць людзей у Ярдане "ў дні Тыверыя-цара, калі Пантыйскі Пілат быў начальнікам у Юдэі", пра спакушэньні Езуса дз’яблам ў пустыні, а пасьля гэтага амаль уся сярэдзіна і канец перапісаны літаральна із

Евангелля Марка з параўнальна нязначнымі дапаўненнямі і варыяцыямі і з дадаваннем розных відавочна апакрыфічных прамоваў Езуса.

Такім жа зваротам пачынаюцца і "Здзяйсненні апосталаў", не без падставы прыпісваемыя таму таго ж Луцэ.

"Першую кнігу напісаў я, Богалюб (Тэафіл), пра ўсё, што рабіў Езус і чаму ён вучыў спачатку і да таго дня, у які ён узьнёсься, даўшы праз Духа Сьвятога наказы Апосталам, якіх ён выбраў і перад якімі і зьявіўся жывым пасьля сваіх пакут са шматлікімі слушнымі доказамі "("Здзяйсненні", **1**, 1-3).

Тут зноў мы бачым зварот аўтара да таго ж "глыбокашануемага Тэафіла", як і ў Евангеллі Лукі, і міжволі хочацца бачыць тут не толькі агульнае ўяўленне пра "богалюбца", але таго ж Теафіла, які, як мы бачылі, фігуруе і ў жыццяапісанні Лукі Эладзкага.

Агульнае аб'ектыўнае апісанне дзейнасьці апосталаў пасьля суда над Езусам працягваецца тут толькі да 9 радка XVI главы і тут рэзка абрываецца словамі "абмінуўшы Мізію, Павал і Цімафей пайшлі ў Трааду" (**16**, 9).

Да гэтага месца выкладанне вядзецца ад трэццяй асобы, як у кожнага аўтара, які апісвае староннія яму падзеі, а тут цалкам нечакана для чытача пачынаецца суб'ектыўнае апавяданне з ужываннем слова "мы".

Атрымліваецца такое ўражанне, як-быццам бы вы ўзялі для чытання, напрыклад, "Сусветную Гісторыю" Шлосэра і, прачытаўшы на дванаццаці лістах выкладанне сусветных падзей, на трынаццатым і далей раптам знаходзіце апісанне падарожжа Лівінгстана па цэнтральнай Афрыцы. Вы непазбежна прыходзіце да думкі, што пераплётчык тут памыліўся і да пачатку "Сусветнай Гісторыі" Шлосэра далучыў канец падарожжа Лівінгстана, дзякуючы аднолькавым шрыфту і фармату абедзвюх дадзеных яму кніг.

"Было ноччу бачанне Паўлу, – нечакана гаворыцца ў XVI главе. – Паўстаў нейкі муж, македанянін, кажучы: "Прыйдзі і дапамажы нам!" Пасьля гэтага сну мы адразу вырашылі выправіцца ў Македонію, мы прама прыбылі ў Самафракію, а на другі дзень у Неапаль, адтуль у Філіпы "і г. д.

Усюды “мы” да самага канца, а да гэтага не было ні аднаго “мы”, ды і замест Паўла быў Савел.

Чытач застаецца здзіўленым гэтым нечаканым пераходам аб'ектыўнага тону апавядання да суб'ектыўнага і прыгодамі нейкіх дваіх на сушы і на моры, цалкам у іншай манеры аж да главы XXVIII, на якой заканчваецца апавяданне таксама абрывам, без заключных слоў: "Пасьля гэтых слоў юдэі сышлі, шмат спрачаючыся паміж сабой, а Павел жыў (у Рыме) два гады на сваім утрыманьні і прымаў усіх хто прыходзіў да яго, прапаведуючы царства Божае і павучаючы пра Госпада Езуса Хрыста з усякай адвагай без перашкод".

Ні пра якое яго пакаранне "ў Рыме пры Няроне" быццам бы ў 65 годзе нашай эры не гаворыцца ў "Здзяйсненнях апосталаў".

Мне здаецца, што растлумачыць гэта можна толькі адным чынам: "Здзяйсненні апосталаў" працягваліся ў Лукі нашмат далей, чым дапускалі гэта ўсталяваўшыяся ў кіруючым цэнтры тэалагічнага жыцця таго часу ўяўленні пра развіцці хрысьціянства. Канец кнігі супярэчыў тагачаснай рымскай тэалагічнай сафістыцы, у ім, магчыма, згадваліся асобы, відавочна належачыя канцу IV і пачатку V стагоддзяў. Гэты канец быў адкінуты і наўзамен яго прыстаўлена апавяданне пра сухапутныя і марскіх прыгоды нейкага Паўла, апісаныя яго спадарожнікам, імя якога засталося і да гэтага часу невядомым.

Гэтым жа можа быць растлумачана і тое, што аж да XIII главы мы бачым у "Здзяйсненнях", як я ўжо згадваў, толькі Саўла сярод іншых апосталаў, а з 9 радка XIII главы Савел раптам ператвараецца ў Паўла, без усякіх тлумачэнняў, а астатнія апосталы знікаюць, невядома куды.

"Савел, – кажуць "Здзяйсненні", – напоўніўшыся духу сьвятога, скіраваў позірк на вешчуна Элаіма (спрачаўшагася з ім) і прамовіў: "О ты, напоўнены рознымі хітрыкамі і зладзействамі сыне дз'ябла, вораг усякай праўды! Ці перастанеш ты зводзіць з роўных дарог божых?"

Але ў гэты самы момант Савел, як-быццам праз узмах чароўнага жазла гэтага "вешчуна", раптам ператвараецца ў Паўла і знікае разам з усімі іншымі апосталамі із далейшага апавядання.

Але: ці сапраўды мы тут маем цуд вешчуна Элаіма, "сына дз'ябла, ворага усякай праўды", хаця Элаім і ёсць, згодна з Бібліяй, стваральнікам нябёсаў і зямлі і ўсяго існуючага?

Мне здаецца, што пераўтварэнне здзейснена – і не без хітрасьці – больш познімі "ворагамі праўды". У першапачатковых "Здзяйсненнях апосталаў", верагодна, не фігуравала цалкам ніякага Паўла, а толькі Савел і Варнава, яго спадарожнік. Але калі наўмысна прыставілі да першай часткі "Здзяйсненняў Апосталаў" падарожжа нейкага сярэднестагоддзевага Паўла разам з яго непадпісаным спадарожнікам, аўтарам гэтага апавядання, то, каб затушаваць хоць бы па знешнасьці відавочную розніцу абодвух апавяданняў, злучаных разам, імя Саўла было заменена Паўлам не тут, а за паўтары главы ад гэтага.

Такім чынам, адбылася спайка ў двух месцах, што для неспрактыкаванага ў літаратурнай творчасьці чалавека магло здацца дастатковым. Магчыма, што спайка праведзена не ў сярэдзіне (арт. 10) главы XVI, а ў самым яе пачатку, але ў такім выпадку яе першыя словы: "дайшоў ён (Савел) да Дэрвіі і Лістры" трэба чытаць: "дайшлі мы да Дэрвіі і Лістры".

Адносна Саўла мы маем у "Жыціях сьвятых" ўказанне толькі на аднаго, і прытым не Саўла, а Савула, памяць якога сьвяткуецца 17 чэрвеня і які адносіцца да часу Юльяна, г. азн. як раз да часу, калі згодна з нашымі вылічэннямі павучаў евангельскі Хрыстос. Але там Савул фігуруе не адзін, а з двума братамі, Мануілам і Ізмаілам. Дарэчы, гэтыя апошнія называюцца яго братамі толькі па маці, але ад розных бацькоў. Яго бацька быў персам і трымаўся пярсідзкага вучэння, а маці была, – сведчаць "Жыціі", – хрысьціянкай. Яны былі "ахрышчаны прэсьвітэрам Яўпоікам" і паступілі ў войска персідскага цара "Аламундара", які выправіў іх да Юльяна для змацавання міру. Але як раз "ў гэты час Юльян выправіўся на караблі з Царгорада ў Віфанію да Халкедона", у месца, маючае назву Оргія Трыгон, дзе пачыналася самае дрэннае д'ябальскае сьвята. Юльян "пачаў з усім натоўпам элінскага народу, сабраўшагася там, кланяцца статуям і прыносіць незлічоныя ахвяры дэманам", пры гуках тымпанаў і "ўсякіх музікейскіх родаў майстэрстваў". Не жадаючы ў іх удзельнічаць, Савел і яго браты "сталі ўдалечыні, шкадуючы пра спакушэнне ў памылцы такой вялікай колькасьці народа".

Юльян, не бачачы каля сябе пярсідзкіх пасланнікаў, загадаў іх шукаць і прывесьці да сябе, каб весяліліся разам з ім.

"За Саўлам і яго братамі прыйшоў Кувікуларый, царскі пасьцельнік, але яны адказалі яму: "Не для таго мы распачалі такі цяжкі шлях, каб адрачыся ад сваёй веры, і калі нават цар і аддасць нас на пакуты і полымя, усё ж не пераканае нас у сваім няшчасьці".



*Мал. 92. Апостал Павел. (Здымак са старадаўняга малюнка на слановай костцы (згодна з Фарорам).*

"Благадаць вам і мір ад "бога-бацкі" і ад валадара нашага Езуса Хрыста!"

Як гэты пачатак пагадніць з подпісам Тэрцый і з адсутнасьцю якога б то ні было прывітання ад Паўла на заканчэнні паслання?

Гэта можна патлумачыць толькі тым, што пачатак напісаны адным аўтарам, а заканчэнне – іншым, ці што першапачатковы ліст Тэрцыя пачынаўся прама апошняй фразай прыведзенага мною пачатку, г. азн. словамі: "Благадаць вам і мір ад бога-бацькі", а ўсё ідучае перад гэтым з’яўляецца толькі загалоўкам перапісчыка, які палічыў ліст Тэрцыя за ліст "Малога" (Паўла).

Гэта самае верагоднае тлумачэнне. І ў сярэднія стагоддзі і ў старажытнасьці натуральна пачыналі ліст с звароту да таго, каму пішуць, а не са звароту да самога сябе: "Я, такі-та, пішу такому-та". Паспрабуйце самі пачаць так ліст да каго-небудзь са сваіх знаёмых, і вы засьмяецеся.

Простыя людзі пачынаюць свае лісты амаль заўсёды з прывітання: "Добры дзень, такі-та". А старыя хрысьціяне пачыналі, вядома, з бога, як і рускі селянін, заходзячы ў хату, спачатку хрысьціцца на ікону ў куце. "Благадаць табе і свет, такі-та" пісалі яны, не ставячы наперадзе імя таго, ад каго ліст і каму адрасаваны. Гэта патрабуецца для афіцыйных прашэнняў у сучасных канцылярыях выключна для зручнасьці рэгістрацыі вялікай колькасьці прыходзячых і выходзячых папер, чаго не было ў старажытнасьці.

Гэта азначае, пасланне да рымлян было напісана проста тэрцыем. Галоўная яго частка – звычайная фразеалогія, тыповая для хрысьціянскіх аўтараў сярэдніх стагоддзяў. Але у ім змяшчаецца і некалькі каларытных радкоў, як, напрыклад:

"Адкрываецца гнеў божы з неба на бязбожнасьць і несправядлівасць людзей, якія ўціскаюць ісьціну няпраўдамі (**1**, 8). Яны, называючы сябе мудрымі, страцілі розум і славу нятленнага бога выявілі малюнкамі, падобнымі на тленнага чалавека, падобна на птушак і чатырохногіх жывёл і паўзуноў" (**1**, 23).

Тут мы бачым прыкметы іконазагальніцтва, а далей знаходзім прамое пярэчанне звычаю абразання.

"Калі неабрэзаны выконвае патрабаванні закона, дык яго неабразаньне ці не залічыцца яму за абразаньне?.." (**2**, 27).

Не той юдэй (*тут гэтае слова ўзята згодна з яго сэнсам на жыдоўскай мове: богаслаўны*), хто такі згодна са знешнасьцю, і не той абрэзаны, хто такі згодна з плоццю, але той юдэй (*г. азн. богаслаўны*), хто ўнутрана такі, і той абрэзаны, хто такі згдна з духам, а не згодна з літарай, і таму пахвала ад бога"(**2**, 29).

Такім чынам, аўтар гэтага паслання можа лічыцца, калі не першым, то адным із самых галоўных, агітатараў супраць абразаньня, верагодна таму, што гэтая аперацыя замінала распаўсюджванню веры.

Калі ж гэта магло быць?

У гэтым лісце шмат цытат із прадказання "Іса-Ія", напрыклад: "хто спазнаў розум ўладара нашага і хто быў дарадцай яму (Іс. **40**, 13)? Калі б валадар наш не пакінуў нам нашчадкаў, то мы зрабіліся б як Садом, і былі б падобны да Гаморы "(Іс. **1**, 9). Гэта азначае, у "Хрыста" былі і дзеці, але Ісаі.

Ёсць шмат урыўкаў і із псалмаў: "Ніхто не шукае бога, усе зьбіліся са шляху, да аднаго нягодныя! Гартань іх – адчыненая труна, яд аспідаў на іхных вуснах" (Іс. **5**, 10; 139, 4) і г. д.

Усё гэта паказвае, што пасланне да рымлян напісана ніяк не раней VI стагоддзя.

Яго ідэалогія ўжо чыста евангельская, хоць аўтар нідзе не цытуе Евангелляў, а толькі згадвае пра іх.

"Так як закон госпада, паслаблены плоцьцю людзкой, не меў дастатковай магутнасьці, – выказваецца ён, – то бог выправіў свайго сына ў грэшнай плоці і асудзіў яго плоць, каб апраўданьне закона выканалася на нас, жывучых не годна з плоццю, а згдна з духам" (**8**, 3).. "Бо я перакананы, што ні сьмерць, ні жыццё, ні анёлы, ні пачаткі, ні магутнасьці, ні сёняшняе, ні будучае, ні вышыня, ні глыбіня і ніякае іншае стварэньне не можа адлучыць нас ад шанавання Божага ў Хрысьце Езусе »(**8**, 39).

Чытач бачыць, што гэта ўжо сярэднестагоддзевае духоўнае красамоўства. А вось і стаўленне аўтара да зямных улад, ніяк не паказваючае на перыяд перasледаў, а хутчэй на трыумф хрысьціянства пад час сярэдніх стагоддзяў:

"Няма ўлады не ад бога, а таму той, хто супрацівіцца зямной уладзе, супрацівіцца божаму ўсталяванню, бо кіраўнікі жахлівыя не для добрых спраў, а для злых. Хочаш не баяцца ўлады? Дык рабі дабро, і ты атрымаеш ад яе толькі хвалу! Кіраўнік ёсць божы слуга на дабро табе, ён нездарма трымае меч: ён адпомсціць робячым лхія сравы. Таму трэба яму пакарацца не толькі праз баязнь перад пакараннем, але і згодна з сумленьнем. Для таго вы і падаткі ім плоціце, што яны слугі бога, пастаянна занятыя гэтай справай. Аддайце ж, кожнаму належнае, каму падатак – падатак; каму чынш – чынш; каму баязнь – баязн, каму гонар – гонар "(**13**, 1-7).

Зразумела, што так мог пісаць толькі служка тэакратычнай дзяржавы, а ніяк не прадстаўнік гнанай і пераследуемай уладамі царквы!

Чаму аўтар, пастаянна спасылаючыся на Біблію, нідзе не спасылаецца на Евангеллі? Ці таму, што іх яшчэ не было або праз свядомае нежаданне?

Магчыма, што апошняя здагадка адпавядае рэчаіснасьці, так як аўтар і сябе называе "евангелістам" і, заканчваючы XV главу, выказваецца:

"Слава могачаму зацвердзіць вас згода з маім евангеллем і маім павучаннем ад імя Езусу Хрыста і згодна з "Апакаліпсісам таямніцы" (*сузор'яў*), пра якую маўчалася ад пачатку стагоддзяў і якая зараз абвешчана ўсім народам для

скарэньня іх перад верай. Слава адзінаму мудраму Богу праз Езуса Хрыста, слава навечна! Амэн" (**14**, 24-26).

Але, нягледзячы на гэты амэн, аўтар прыпісвае яшчэ дзве главы, апошняя із якіх уся заключае толькі прывітанні розным асобам у Рыме. Ці не прыпісаны яны ўжо пазней Тэрцыем, які і падпісаў усё пасланне?

Як бы там ні было, але гэте пасланне з'яўляецца сярэднестагоддзевым згодна з ўсімі прыведзенымі мной цытатамі.

Я думаю, што аўтар ужо ведаў Евангеллі, але лічыў ніжэй сваёй годнасьці спасылацца на іх для падцверджання сваіх меркаванняў, бо гэта былі сучасныя яму творы, а аўтарытэтнымі маглі быць толькі творы старажытных аўтараў. Бо і Лука з Мацвеем, пастаянна спасылаючыся на біблейскіх прадказальнікаў, нідзе не згадваюць пра Марка, хаця і відавочна літаральна перапісалі із яго амаль усю сярэдзіну.

**Пасланне да Карынфянаў.** Пасьля нуднага шматслоўя, якое займае 9 главаў гэтага паслання, нічога не даючаму ні сэрцу, ні розуму, аўтар, пачынаючы з X главы, становіцца некалькі весялейшым і піша:

"Я, "малы", – кажаце вы, – сціплы ў вашай прысутнасьці, а пры адсутнасьці адважны супраць вас..." "Але калі б я і пачаў хваліцца уладай, якую даў мне гаспадар,.. дык я не быў бы пасаромлены "(**10**, 8). "Хай жа не гавораць: у лістах без нас ён строгі і моцны супраць нас, а ў асабістай прысутнасьці слабы, і прамовы яго нязначныя, а няхай ведаюць, што якія мы ў пасланнях, дакладна такія ж і на справе, і не без падставы хвалімся, што дасягаем сваёю рукой і да вас "(**10**, 10-13).

"Думаю, што ў мяне ні ў чым няма недахопу супраць астатніх апосталаў; хоць я і "невук у красамоўстве", але не ў ведах" (**11**, 6).

"Ілжэапосталы, хітрыя дзеячы, заўсёды бяруць выгляд апосталаў хрыстовых, і не дзіўна: сам сатана бяры выгляд анёла сьвятла... Яны жыды? І я! Яны ізраільцяне? І я! Яны Хрыстовыя слугі? Я больш!" (**11**, 22).

"Тры разы мяне білі палкамі, раз камянямі, тры разы я зведваў караблекрушэнне, ноч і дзень прабыў у глыбіні мора (11, 25). У Дамаску абласны кіраўнік цара Арэты меў намер схапіць мяне, але я ў кашы быў спушчаны праз вакно па сьцяне і пазбег яго рук" (**11**, 32).

"Я ведаю чалавека, хрысьціяніна, які 14 гадоў таму назад, быў узняты да трэццяга неба, бог ведае, у целе або па-за целам, – ведаю чалавека, які быў узняты ў рай – бог ведае, у целе або па-за целам, – і ён чуў там невымаўленыя словы, якія нельга пераказаць" (**12**, 4).

"Але каб я не заганарыўся нязвычайнасьцю маіх адкрыцьцяў, дадзена мне джала ў плоць і прыстаўлены да мяне анёл сатаны. Тройчы маліў я госпада, каб ён забраў яго ад мяне, але бог адказаў мне: даволі з цябе маёй ласкі" (**12**, 9).

"Я дайшоў да вар'яцтва, хвалячыся, але вы мяне прымусілі да гэтага. Вам бы належала хваліць мяне, бо ў мяне няма ні ў чым недахопу супраць астатніх апосталаў. Прыкметы апостала выявіліся ў маім цярпенні, адзнаках, цудах і магутнасьці" (**12**, 11).

"Для таго я і пішу гэта ў вашу адсутнасць, каб у прысутнасьці не ўжыць уладнай строгасьці, дадзенай мне гаспадаром" (**13**, 10).

"А дарэчы, братцы, радуйцеся, удасканальвайцеся, суцяшайцеся!.. І бог шанавання і міру няхай будзе з вамі. Вітаюць вас усе сьвятыя!" (**13**, 12).

Ці падобна гэта ўсхваленне на першыя стагоддзі нашай эры, калі хрысьціянства было сапраўды гнаным?

Ці можна дапусціць, што гэта было яшчэ да Евангелляў, хаця "пра пропаведзь Евангелляў" тут гаворыцца двойчы?

Вядома, ні ў якім разе! Гэта не старажытнасць, а канец сярэднявечча. Гэта ўжо клерыкалізм!

**Пасланне да галатаў.** Перш за ўсё, кім былі галаты? Гэта грэцкая назва кельтаў або галаў наогул.

Чаму ж тэолагі размяшчаюць іх у Малой Азіі? Я лічу гэта за непаразуменне.

"Абвяшчаю вам, братцы, – кажа ім аўтар, – што Евангелле, якое я зьвеставаў вам, не з’яўляецца чалавечым. Я прыняў яго не ад чалавека, а дзякуючы адкрыццю самога Езуса Хрыста" (**1**, 12).

"Дзіўлюся, што вы так хутка пераходзіце да іншага Евангелля. Але калі б нават мы самі, або анёл з неба пачаў зьвеставаць вам не тое, што мы зьвеставалі вам, – то хай будзе ён анафема!" (**1**, 6-8).

"Вы чулі, – працягвае ён, – пра ранейшы мой стыль жыцця ў юдэйстве, як я жорстка перасьледаваў божую царкву і спусташаў яе, але калі бог выкрыў ува мне свайго сына(!), я пайшоў не да апосталаў, а ў Аравію пвучаць язычнікаў, а потым зноў вярнуўся ў Дамаск і праз 3 гады хадзіў у Ерусалім пабачыцца з Пятром і прабыў у яго дзён пятнаццаць. А другога ж із апосталаў я не бачыў, акрамя Якава, брата гаспадняга, і пра гэта я, ёй богу, не хлушу!" "Пасьля гэтага хадзіў я па Сірыі і Кілікіі, а юдэйскім (богаславячым) цэрквам не быў асабіста вядомы" (**1**, 21).

"Праз 14 гадоў я зноў хадзіў паводле адкрыцьця ў Ерусалім з "сынам суцяшэння" (Варнава па-жыдоўску), захапіўшы і "шаноўнага" (па-грэцку Ціта), і прапанаваў там прапаведуемае язычнікам Евангелле на разгляд самым знакамітым настаўнікам, каб даведацца, ці не марна я жыў. Але яны і Ціта не прымушалі да абразаньня (**2**, 3), а пабачыўшы, што мне даверана Евангелле для неабрэзаных, як Пятру для абрэзаным, і даведаўшыся пра дадзеную мне ласку, Якаў, Кіфа (па-жыдоўску Пятро) і Ян (г. азн. Ян Багаслоў, якога аўтар, згодна з папярэднім выказваннем, ніколі не бачыў – "ёй богу, не хлушу!"), лічымыя стаўпамі, падалі мне і Варнаве руку абяцання "(**2**, 9).

"Калі ж Пятро, "паважаны стоўп", прыйшоў у Царскі горад, я асабіста супрацьстаяў яму, таму што ён да прыбыцця дасланых ад Якава прымаў ежу разам з язычнікамі, а пасьля прыбыцця пачаў таіцца і ўхіляцца, а разам з ім пачалі крывадушнічаць і іншыя богаславячыя, так што нават "Сын Суцяшэння" (Варнава) быў захоплены іх крывадушнасьцю" (**2**, 13).

Вось і ўсе аўтабіяграфічныя сведчанні, якія аўтар чамусьці робіць толькі галам, а потым раптоўна пераходзіць да цалкам іншага стылю.



*Мал. 93. Апостал Павел (вучням): "Я ведаю чалавека, хрысьціяніна, які чатырнаццаць гадоў таму назад быў узняты да трэцяга неба" (Карынфянам 12, 4).*

"О, неразумныя галы! – выказваецца ён. – Хто спакусіў вас не скарацца ісьціне, вас, перад вачымі якіх, згодна з наканаваннем, быў слупаваны **ў вас** (гэта азначае, у Галіі, або Галатыі, у Малой Азіі!) Езус Хрыстос? Ці згодна з законам вы атрымалі дух ці праз навучанне ў веры (**3**,1)? Я сцвярджаю, што (свецкі) закон, які з'явіўся праз чатырыста трыццаць гадоў, не адмяняе закон Хрыстовы, зацверджаны богам. Для чаго (свецкі) закон? Ён дадзены з нагоды злачынстваў "(**3**,19).

"Зараз ужо няма (для свецкага закона) ні юдаіста, ні язычніка, ні раба, ні вольнага, няма ні мужчынскай, ні жаночай стаці, вы ўсе адно ў Езусе Хрысьце» (**3**,28).

"Агар (жонка Абрагама із рабыняў), – працягвае ён, – азначае гару Сінай у Аравіі (!!) і адпавядае сучаснму Ерусаліму, таму што ён у рабстве (у арабаў), а вышэйшы Ерусалім (неба) вольны. Ён маці ўсім нам" (**4**,25).

"Вось я, Малы, кажу вам: калі вы абразаецеся, то не будзе вам ніякай карысьці ад Хрыста" (**5**,2). "Бо ўвесь закон змяшчаецца ў адным выслоўі: шануй блізкага твайго, як самога сябе" (5,14). "Для Езуса Хрыста нічога не азначае "ні абразаньне, ні неабразаньне, а толькі новая асоба" (6, 15).

Які свецкі закон, з'явіўшыся праз 430 гадоў пасьля закона Хрыста, мае на ўвазе аўтар? Мне здаецца, што ён мае на ўвазе закон свайго часу, і таму, нягледзячы на яго запэўніванне, што ён "ёй богу, не хлусіць!", – бачыў Якава, брата господняга, на ўласныя вочы, думаю, што час гэтага паслання быў ужо ў 420 годзе пасьля нараджэння Хрыстова. Дапасуючы яго да пачатку нашай эры, атрымліваем час Ганорыя і Феадосія II, а дапасуючы да года нараджэння "Вялікага цара" (Васіля Вялікага, які нарадзіўся каля 333 года), атрымліваем 753 год, г. азн. VIII стагоддзе, перыяд узнікнення Евангелляў, як гэта я пакажу яшчэ і далей.

**Пасланні да ефесцаў, каласянаў, піліпійцаў і да фесалійцаў.** У пасланні да **ефесцаў** можна адзначыць толькі некалькі выказванняў, якія маюць нейкую цікавасьць. Перш за ўсё:

"Ён (*г. азн. Хрыстос*) прызначыў адных апосталамі, другіх прадказальнікамі, трэціх евангелістамі, а некаторых пастарамі і настаўнікамі" (**4**,14).

А потым тры запаведзі:

"Жонкі, слухайцеся сваіх чалавекаў, як госпада" (**5**, 22). "Дзеці, слухайцеся сваіх бацькоў" (**6**, 1). "Рабы, слухайцеся сваіх гаспадароў" (**6**, 5).

І тры антытэзісныя запаведзі:

"Мужы, паважайце сваіх жонак" (**5**, 25). "Бацькі, не крыўдзіце вашых дзяцей" (**6**, 4). "Гаспадары, памякшайце сваё строгае стаўленне да рабоў" (**6**, 9).

Усё гэта паказвае, што пасланне да ефесцаў належыць да эпохі, калі ўжо супакоіліся рэлігійныя захапленні і былі вядомы евангелісты.

Тыя ж тры запаведзі парамі паўтораны літаральна і ў пасланні да **каласянаў** (**5**, 18-25). А ў пасланні да **піліпійцаў** змяшчаецца выдатнае выказванне:

"Засьцерагайцеся ад сабак, засьцерагайцеся ад ліхіх асоб, засьцерагайцеся ад абразаньня" (**3**, 2).

Ці мог сказаць нешта падобнае абрэзаны з дзяцінства чалавек? Вядома, не. Гэта пісаў не араб і не юдэй.

А вось яшчэ месца ў першым пасланні да **фесаланікійцаў,** якое паказвае, што аўтару яго вядомы не толькі Апакаліпсіс, але і Евангелле Мацвея, але ён распрацаваў далей іхныя думкі.

"Сам бог сыдзе з неба пры голасе арханёла і пры божай трубе. Тады перш за ўсё ажывуць памёршыя ў імя Хрыста, а **мы, тыя, што засталіся ў жывых**, будзем паднятыя на аблокі сустракаць нашага гаспадара ў паветры" (**4**, 16). "А пра часы і тэрміны, якія павінны прайсьці да гэтага часу, няма патрэбы пісаць" (**4**, 1). "Бо вы самі напэўна ведаеце, што дзень пана бога прыйдзе, як злодзей у ночы" (Мацвей **24**, 43). "Такім чынам, не будзем спаць, як некаторыя, а будзем пільнымі і будзем цьверазіцца" (Мацвей **24**, 42).

А ў другім лісце да іх жа прама паведамляецца сярэднестагоддзевае меркаванне пр антыхрыста.

"Хай не ашукае нас ніхто, сцвярджаючы, быццам ужо наступае дзень Хрыста! Ён не наступіць, пакуль перш не прыйдзе сын пагібелі, узносячыся вышэй бога і вышэй усякай сьвятыні, і не сядзе ў храме божым, выдаючы сябе за бога" (**2**,4).

У гэты час, відаць, шмат спрачаліся пра зямное паходжанне евангельскага Хрыста, бо ў пасланні да "баючагася Бога" (**Цімафея**) шмат гаворыцца пра гэта.

**Паслання да Цімафея і Ціта.** "Адыходзячы ў Македонію, я прасіў цябе знаходзіцца ў Эфэсе, і павучаць некаторых, каб яны не займаліся прытчамі і **бясконцымі радаводамі** (*намёк на прыпавесьці і радаводы Езуса ў Евангеллях Лукі і Мацвея*), якія маюць наступствам больш спрэчкі, чым навучанне ў божай веры. Мэтай павучанняў з’яўляецца шанаванне ад чыстага сэрца, добрае сумленьне і некрывадушны давер, адступіўшы ад чаго некаторыя запалі ў пустаслоўе"(**1**, 5).

"Такія Імяней і Аляксандр, якіх я аддаў сатане, каб яны навучыліся (*у яго?*) не блюзнернічаць" (**1**,20).

"Перш за ўсё, прашу цябе здзейсніць маленні, пршэньні і падзякі за ўсіх людзей, за цароў і за ўсіх кіруючых, каб праводзіць нам ціхае і мірнае жыцьцё ў пабожнасьці і цішыні. Гэта добра і заўгодна нашаму выратавальніку-богу, які ёсць адзіны, і адзіны пасярэднік паміж ім і людзьмі, чалавек Езус Хрыстос, для якога я прызначаны прапаведнікам і апосталам, праўду кажу, не маню" (Цім. **2**,7).

Я не магу не звярнуць тут увагу, што выказванне "адзіны бог і адзіны пасярэднік паміж ім і людзьмі – Езус Хрыстос", – занадта нагадвае звычайнае арабскае выказванне: "Няма бога, акрамя Бога, і Магамет яго прарок", каб ёй можна было прыпісаць незалежнае паходжанне, а запэўніванне "**не маню**!" збліжае гэты ліст з пасланнем да галатаў.

У некаторай неадпаведнасьці з сучаснымі праваслаўнымі і каталіцкімі пастановамі тут знаходзяцца словы пра абавязковае адружанне для царкоўных саноўнікаў:

"Калі хто жадае быць біскупам, то ён жадае добрай справы, але біскуп **павінен быць** чалавекам **адной жонкі**, цнатлівым, богабаязным, павучальным, не п'яніцай, не забіякай" (**3**, 1-3).

"Дыякан **павінен быць** чалавекам **адной жонкі**, добра кіруючым сваёй гаспадаркай і дзецьмі" (**3**, 12).

"Дух выразна выказваецца, што і ў апошнія часы некаторыя адступяцца ад веры, слухаючыся вучэння дэманаў і спакушаючых духаў, забараняючы адружвацца і есьці тое, што стварыў бог, таму што кожнае яго стварэньне добрае і не можа быць асуджаным (*для выкарыстання ў ежу*), калі прымаецца з удзячнасьцю"(**4**, 3).

Якія ж гэта "апошнія часы", калі будуць забараняць адружванне, што так непажадана для аўтара?

Гэта відавочны анахранізм, і я мяркую, што гэтае выказванне мае дачыненне, хутчэй за ўсё, да меўшай месца ўжо пад час сярэдніх стагоддзяў спробы ўсталяваць ўсеагульную забарону на адружанне і вегетарыянства для святарства. Тут гаворка ідзе толькі пра адначасовае адзінажонства духоўных асобаў і ніяк не ў сэнсе аднаго іх адружання на працягу ўсяго жыцця.

"Удава, – далей паведамляе аўтар, – няхай выбіраецца ў служкі царквы не менш як шасьцідзесяцігадовага ўзросту, быўшая жонкай **аднаго** чалавека, вядомая добрымі ўчынкамі і выхаваўшая дзяцей. Маладых жа удоў не бяры, таму што яны імкнуцца да прыбірання і жадаюць адружыцца... Яны маюць звычку хадзіць па чужых дварах, пляткарнічаюць, цікаўныя і прамаўляюць тое, чаго не павінны выказваць... Такім чынам, хай маладыя ўдовы лепш зноў адружваюцца, нараджаюць дзяцей, кіруюць сваёй гаспадаркай і не даюць падставаў для ліхаслоўя, як некаторыя, ўжо збочыўшыя пад уздзеяннем сатаны"(**5**, 15).

"Рабы, якія маюць сваімі гаспадарамі вернікаў, не павінны ставіцца да іх нядбайна праз тое, што яны ім браты (ў Хрысьце), але тым больш павінны служыць ім". "Хто навучае інакш, той не прытрымліваецца здаровых слоў нашага госпада, Езуса Хрыста, той ганарлівы, нічога не ведае і заражаны запалам да пустых спрэчках паміж людзьмі з пашкоджанымі розумамі, грэбуючымі ісьцінай... Вялікі набытак быць пабожным і задаволеным" (**6**, 6).

Мы бачым, што ўсе гэтыя нататкі маглі быць напісанымі толькі як пярэчанне павучанням і прыповесьцям Езуса, утрымліваючымся ў Евангеллях Мацвея і Лукі, і іхным радаводам Езуса, якія, сапраўды, не маглі не выклікаць спрэчак. Пра гэта ж гаворыцца і ў другім пасланні да Цімафея:

"Нагадвай ўсім заклінаючы не пачынаць спрэчак, якія служыць не на карысць, а на разлад слухачам. Цурайся схільных да непатрэбнага пустаслоўя: іхнае слова будзе распаўсюджвацца, як рак. Такімі з’яўляюцца Гіменэй і Філіт, адступіўшыя ад праўды, сцвярджаючыя, што ажыванне ўжо было. Ведай, што ў кожным вялікім доме існуюць не толькі залатыя і сярэбраныя пасудзіны, але і гліняныя (*пад ложкам*), выкарыстоўваемыя для самага нізкага ўжывання" (**11**, 1-20). Такімі з’яўляюцца і гэтыя людзі.

У пасланні да **Ціта**, на выспу Крыт, абмяркоўваецца падобнае ж: "Існуе шмат непакорлівых, пустасловаў і ашуканцаў, асабліва із абрэзаных, яны разбэшчваюць цэлыя сем’і, і нездарма ж адзін із іх, вершаскладальнік, выказаўся: усе вы, крыцяне, хлусы! Нібы звяры, яны злыя, і гультаяватыя нутробы.

"Гэтае сведчанне адпавядае рэчаіснасьцт" (Ціту **1**, 13).

"Нагадвай ім падпарадкоўвацца і скарацца кіраўнікам і ўладзе, быць гатовымі на ўсякія добрыя здзяйсненні, нікога не абгаворваць, быць ціхімі і выказваць усякую лагоднасьць у дачыненні да ўсіх людзей" (**3**, 2).

* * *

Мы бачым, што ўсе гэтыя міратворчыя і феадальна-манархічныя ідэі з'яўляюцца ўжо заключнымі акордамі той апакаліптычнай буры, якая за некалькі стагоддзяў перад гэтым пагражала гібеллю ўсім зямным царам і ганьбаваннем ўсім заможным і якая характарызавалася непрызнаннем ніводнага цара на зямлі, акрамя цара нябеснага.

Тэалагічны пажар V стагоддзя ўжо спаліў ранейшы язычніцкі лад думкі, але зямныя цары, паддаўшыся плыні, самі прынялі хрысьціянства і, такім чынам, выратаваліся пад заступніцтвам яго правадыроў. І вось наўзамен апакаліптычных громаў пачуліся вышэйпрыведзеныя павучанні "Малога апостала" (Паўла) пра падпарадкаванне ўсіх зямным уладам, як прызначаным ад бога.

Чаму гэтыя павучанні "Малога" пераадолелі павучанні "Вялікіх"? Таму што на той прыступцы псіхічнай эвалюцыі, якую мы засяваем пад час сярэдніх стагоддзяў, еўрапейская частка чалавецтва яшчэ не дарасла ні да якога іншага дзяржаўнага ўладкавання, акрамя абсалютнай, напалову свецкай і напалову тэакратычнай манархіі, і ні да якога сацыяльнага ўладкавання, акрамя ўласніцкага. Усе спробы дэмакратычнага рэспубліканскага ўладкавання тады адразу ж перараджаліся або назад у абсалютную манархію, або ў алігархічную рэспубліку, а не маючая дзяцей кляштарская абшчына так і засталася параўнальна нешматлікай у сваіх замкнёных сьценах.

Тое, што нам распавядаецца пра старажытныя Афіны, Спарту і пра рэспубліканскі Рым, быццам бы існаваўшыя яшчэ да пачатку нашай эры, – гэта толькі чароўныя казкі Эпохі Адраджэння, якую дакладней можна назваць "Эпохай фантазёрства ад імя ніколі неіснаваўшых старажытных аўтараў", мроя пра будучыню пад выглядам мінулага. Калі б у той час частка зямнога чалавецтва ўжо дарасла псіхічна да дэмакратычнага рэспубліканскага ўладкавання (распачаўшага паступова ажыццяўляцца толькі з часоў італьянскіх і швейцарскіх рэспублік), то яна ўжо ніколі б не вярнулася зноў да абсалютнай манархіі. Гэта было б так жа цяжка, як патоку, які аднойчы спусьціўся з адной гары, пабегчы на другую гару.

**Пасланне да "жыдоў".** Я зараз перахожу да апошняга із пасланняў, якія прыпісваюцца "Маламу апосталу". Гэта пасланне да жыдоў (εβραίους па-грэцку).

Што азначае гэтае слова? Ці жыдоў у сучасным сэнсе ці гебраў, г. азн. іберыйцаў, як называліся жыхары Гішпаніі, верагодна, згодна з найменнем яе рэчкі Эбро?

У пасланні да "жыдоў", у сучасным сэнсе слова, аўтару, ганячаму абразанне, давялося б выказацца і пра гэты звычай і пра ўжыванне свініны і гэтак далей, як ужо і гаварылася ў ранейшых пасланнях. Між тым, нічога падобнага тут няма. Нават і на "закон Майсея" няма амаль ніякіх спасылак, а толькі шмат спасылак на псалмы, прычым даводзіцца адзначыць, што яны ж шмат разоў цытаваліся дарэчы і недарэчы і ў папярэдніх пасланнях.

Ніякай палемікі з юдэямі, такой характэрнай для Евангелляў, тут няма, хоць яна, як мы бачылі, прысутнічала ў папярэдніх лістах. А тут цалкам наадварот: у заключнай частцы ён кажа гэтым "жыдам":

"Не захапляйцеся featureрознымі чужымі вучэннямі" (**13**, 9).

Але ж хрысьціянства і было чужым для жыдоў у сучасным сэнсе слова, а калі дапусьціць, што разглядаемы ліст мае дачыненне толькі да хрысьціян, "якія жывуць сярод жыдоў", то як жа можна было называць іх жыдамі, калі сам жа аўтар у іншых лістах выказваецца, што для яго няма ні эліна, ні юдэя?

Усё гэта прыводзіць мяне да думкі, што загаловак гэтага паслання трэба перакладаць "да іберійцаў", г. азн. ўзяць мясцовасць, а не нацыянальнасць, як і ў іншых пасланнях. Гэты ліст пазначаны Італіяй, "вітаюць вас італьянскія..." (13, 24) і гэта зноў здзіўляе. У першыя стагоддзі хрысьціянскай эры гэтая назва не магла быць ужытай, тады было б сказана: "вітаюць вас рымскія...", як і гаворыцца ў пасланні да рымлян.

І ў ім, як у папярэдніх лістах, прапануецца "слухацца мясцовых настаўнікаў" (**13**, 17), а апошнія павучаюцца так:

"Сьвятыя браты! Удзельнікі нябеснага пакліканьня! Зразумейце апостала і першасьвятара нашага веравызнаньня, Езуса Хрыста, які верны прызначыўшаму яго, як і Майсей ва ўсім яго доме (Лічбы **12**, 7). А Хрыстос – як сын у гэтым доме, а дом – гэта мы" (**3**, 6).

"Маючы вялікага першасьвятара, які прайшоў нябёсы, сына божага, будзем цьвёрда трымацца яго веравызнаньня" (**4**, 14), "Калі б дасканаласьць дасягалася праз лявіцкае сьвятарства, то якая была б патрэба іншаму сьвятару згодна з чынам Мэльхісэдэка, а не згодна з чынам Арона? Бо гасподзь наш заззяў із калена Юды, пра сьвятарства якога Майсей нічога не гаварыў, і (*аднак жа*) засведчана пра яго: "ты сьвятар навечна згодна з чынам Мэльхісэдэка" (**7**, 14). "Калі кроў цялят і казлоў і попел ад цялушкі асвячаюць апаганеных праз акрапленне, дык наколькі ж болей кроў Хрыста, які прынёс сябе богу, ачысьціць сумленьне наша?" (**9**, 14). "Нельга дагадзіць богу без веры... А вера ёсьць пераканасць у нябачным" (**11**, 1, 6). "Верай Ной атрымаў адкрыцьцё пра тое, што яшчэ не было бачна. Верай Абрагам пайшоў, не ведаючы куды ідзе... Верай Майсей, у сталым веку, адмовіўся называцца сынам дачкі фараона... Верай упалі сьцены Ерыхонскія пры сямідзённай іх аблозе. І што яшчэ скажу? Не хапае мне часу распавесьці пра Гедэона, пра Бараку, пра Самсона, пра Ефаю, пра Давыда, пра Самуіла і пра прадказальнікаў"(**11**, 32).

"Вось чаму і мы, маючы такую хмару сведкаў, скінем з сябе ўсякі цяжар і церпяліва будзем праходзіць наканаваную нам будучыню" (**12**, 2), "таму што гасподзь наш, каго шануе, таго і карае, б'е ж ён кожнага сына, якога прымае"(**12**, 6).

"Вы падступіліся не да гары, палаючай полымем, пра якую сказана: калі і звер дакранецца да гары, то будзе пабіты (*яе*) камянямі або (*громавой*) стралой; не да цемры, не да змроку і буры, не да трубнага гуку, а да гары Сіён, да нябеснага Ерусаліма, агароджы жывога бога, да процьмы анёлаў, да параможнага сабора, да царквы Двайнят, напісаных на нябёсах, да духаў праведнікаў, якія дасягнулі дасканаласьці, да хадатая "Новага Запавета", Езусу, і да судздзі ўсіх – богу, голас якога тады пахіснуў зямлю і які зараз даў такое абяцанне: яшчэ раз скалану не толькі зямлю, але і неба "(Агей **2**, 6; да Жыд. **12**, 26).

* * *

Такімі з’яўляюцца істотныя месцы із пасланьняў, прыпісваемых "Паўлу". Усё астатняе ў іх суцэльнае размазванне таго, што тут напісана, пры чым кожная доўгая і заблытаная ў сваёй складанай і сапраўды сярэднестагоддзевай канструкцыі фраза прычапляецца да іншай, як-быццам кручком за пяцелькі, без ніякай сістэмы. Чытаць запар усё гэта надзвычай стомна, а таму і карысны канспект, які я тут зрабіў.

Які ж канчатковы вынік ўсяго нашага агляду? Вось ён.

Магчыма, што ўсе 14 пасланняў "Паўла", складаючыя значную частку "Новага Запавету" і прадстаўляючыя, ва ўсякім разе, яго завяршэнне, а не аснову, напісаны не адной асобай. Магчыма, што частка іх, асабліва тая, у якой Павел сам

называе сябе – з дадаткам: "ёй богу, не хлушу!" – апосталам, які з'яўляецца не толькі не горшым, але нават лепшым за іншых, з’яўляцца бясспрэчнай наўмыснай падробкай нейкага сярэднестагоддзевага аўтара. Але менавіта на гэтых пасланнях і было пабудавана, як на краевугольным камені, усё актыўнае маральнае вучэнне хрысьціянскай царквы з канца сярэдніх стагоддзяў, калі гэтая царква стала пануючай у Яўропе і прызнанай яе зямнымі царамі. Евангельская ж мараль, не дапасуючаяся згодна з самой сваёй прыродай да звычайнага жыцця, да цяперашняга часу заставалася толькі "пасіўнай мараллю, спачываючай моцным сном ва ўлонні хрысьціянскай паўсюднай царквы".

## II. Пасланні першаапостола Пятра і Юды, брата Езуса Хрыста.

Нам застаецца толькі разгледзець астатнія апостальскія пасланні, якія складаюць разам з Паўлавымі цалкам адмысловую частку Новага Запавету, якая лічыцца, са звычайнага боку гледжання, больш гістарычнай, чым Евангеллі. Існуюць да гэтага часу аднабакова адукаваныя людзі, якія лічаць гэтыя пасланні не заключным акордам евангельскага хрысьціянства, уяўляючыя із сябе яго перараджэнне ў сучасную хрысьціянскую царкоўную мараль, а яго пачаткам. Недарэчнасць такога ўяўлення я ўжо паказваў вышэй. Хрысьціянства, з новага боку гледжання, пачалося ў IV стагоддзі Апакаліпсісам і прадказальнікамі, якія заклікалі людзей да раздачы ўсёй сваёй маёмасьці немаёмасным і кідалі грымоты і маланкі на зямных цароў. Адсюль і пачалося першапчатковае варожае стаўленне цароў і ўладаў да хрысьціянства, перамешанае з вялікім жахам, выкліканым некалькімі поўнымі сонечнымі зацьменнямі на берагах Міжземнага мора, якія тады ўмелі прадказваць толькі пасвечаныя ў новае вучэнне, зводзіўшаяся да астралогіі і адзінабожжа. Гэтаму садзейнічала і ажыўленне сейсмічнай дзейнасьці на ўсіх берагах Міжземнага мора. Жах узяў, нарэшце, верх над нянавісьцю, і зямныя цары прынялі хрысьціянства, разам з усімі сваімі падначаленымі.

І вось адразу выявілася для ўсіх хрысьціянскіх настаўнікаў жыццёвая непрактычнасць асноў апакаліптычнага вучэння, якое было цудоўным для часу разбурэння старога свету, але нікуды не было прыдатным пры стварэнні новага грамадзкага жыцця. Наўзамен яму спачатку з’явіліся ўлагоджваючыя Евангеллі з іхнай містыкай і, нарэшце, пасланні ад імя апосталаў, Паўла, Пятра, Юды – брата Езуса і шмат іншых, такіх жа, але не прынятых для царкоўнага ўжывання. Сюды ж адносіцца і ўся апакрыфічная літаратура павучанняў Васіля Вялікага, Яна Златавуста і нават павучанні, напісаныя ад імя ерэтыкоў, да якіх, напрыклад, прылічаўся Арыген, імя якога мела аўтарытэт нават у эпоху Адраджэння, нягледзячы на анафематызаванне яго нейкім сусветным саборам.

Разбяром, з гэтага ж боку гледжання, перш за ўсё, другое пасланне апостала Пятра, быццам бы заснаваўшага рымскую царкву яшчэ ў І стагоддзі нашай эры. Лічаць, што ён супрацоўнічаў з Паўлам, і абодва загінулі ў той жа самы дзень 29 чэрвеня. Але гэта цалкам не адпавядае першакрыніцам, г. азн. іх уласным лістам.

Мы ўжо чыталі вышэй, як Павел паведамляе "нецямячым галам", што ён "працідзейнічаў апосталу Пятру ў Антыёхіі" за тое, што той пасьля прыбыцця пасланнікаў ад Якава пачаў хавацца ад іх, што разам з Паўлам "еў з язычнікамі", а згодна з яго прыкладам "пачалі крывадушнічаць і іншыя, так што нават Варнава

(*бліжэйшы супрацоўнік Паўла*) быў захоплены іхнай крывадушнасьцю" (Галатам **2**, 13).

Так выказваўся Павел. А вось тут, у другім "Саборным пасланні апостала Пятра", чытаем і адказ на гэтае абвінавачванне.

"Лічыце сваім выратаваннем, – піша Пятро ўсім вернікам, – цярпенне нашага госпада, як кажа вам пра гэта і шаноўны брат наш Павел ва ўсіх сваіх пасланнях, якія **змяшчаюць нешта цяжказразумелае**, якое невукі і няцвёрдыя перакручваюць да ўласнай сваёй пагібелі. Але вы, шаноўныя, будучы папярэджанымі пра гэта, асьцерагайцеся захапіцца памылкай беззаконнікаў" (**II, 3**, 16-17).

У перакладзе з вульгарнай мовы гэта азначае: "не верце Паўлу, што я крывадушнічаў!" І, аднак жа, аўтар не патлумачыў, чаму Павел напісаў гэта абвінавачванне. Із гэтага можна зрабіць дзве высновы:

1) Пасланні ад імя Пятра напісаны чалавекам, які ўжо быў азнаёмлены з пасланнем Паўла, разыйшоўшымся паўсюдна. Вось чаму і была патрэба адмяніць сваю нязгоду з імі ў саборным, г. азн. агульным пасланні да ўсіх цэркваў.

2) Пісаў гэта не апостал Пятро, так як той не абмежаваўся б простай заўвагай, што такое абвінавачванне толькі нешта "цяжка зразумелае ў лістах яго шаноўнага брата Паўла", а прывёў бы і тлумачэнні гэтага, вельмі неспрыяльнага для сябе публічнага паведамлення Паўла.



*Мал. 94. Пятро і Павел у аперцэпцыі старадаўняга мастака.*

Цалкам зразумела, што проста ўхіліцца ад прамога адказу мог толькі чалавек, староннi справе, чалавек, у якога не магло быць асабістай крыўды або раздражнення за падобную, непрыемную нават і для звычайнага чалавека, інсінуацыю... Не разумеючы, як Павел мог напісаць такое паведамленне пра першаступеннага апостала Хрыста, і не адважваючыся сказаць "Малому алостолу": "далібог, хлусіш!", аўтар ліста ад імя Пятра назваў гэта толькі "чымсьці цяжка зразумелым, што невукі і няцвёрдыя перакручваюць да ўласнай сваёй пагібелі".

Анахранізм паслання Пятра пацвярджаецца і іншымі яго месцамі.

"Былі і ілжэпрадказальнікі ў народзе, – выказваецца аўтар у II главе, – ды і ў вас будуць ілжэнастаўнікі, якія ўвядуць згубныя ерасі... і шмат хто пяроймуць іхнюю распусту" (**2**, 2). "Гэта бязводныя крыніцы, гэта воблакі і імглы, гнаныя бурай; ім падрыхтаваны змрок вечнай цемры" (**2**, 17). "Лепш бы ім не спазнаць шлях праўды, чым, пазнаўшы, павярнуцца назад, згодна з той праўдзівай прымаўкай: "сабака вяртаецца на свае ваніты", і "памытая сьвіньня зноў валяецца ў гразі" (I, **2**, 22).

"Ведайце, што ў апошнія дні прыйдуць нахабныя глуміцелі, прамаўляючыя: "дзе яго абяцаньне прышэсьця? З таго часу, як пачалі паміраць нашы продкі, усё застаецца, як ад пачатку стварэньня". Тыя, што думаюць так, не ведаюць, што спачатку зямля і нябёсы былі складзены із вады і вадой, вось чаму дапатопны сусвет і быў затоплены вадой. А сучасныя нябёсы і зямля, падтрымліваемыя тым

жа "словам", аберагаюцца полымя. Але не павінна быць схавана ад вас, шаноўныя, што ў господа адзін дзень, як тысяча гадоў, і тысяча гадоў, як адзін дзень (Пс. **89**, 5). Не замаруджвае ён выкананне абяцаньня, як думаюць некаторыя, але жадае, каб усе прыйшлі да пакаяння. Прыйдзе ж гэты дзень, як злодзей ноччу, і тады нябёсы ўпадуць з шумам, растануць загарэўшыяся стыхіі, і зямля згарыць разам з усімі сваімі справамі (Мацвей. **24**, 35-43). Але мы чакаем новага неба і новай зямлі, на якіх жыве праўда "(II, **3**, 13).

Што ж мы тут бачым? Зноў цытату із Евангелля Мацвея пра характар апошняга дня. А перад гэтым, у адказ глуміцелям, прамаўляючым: "дзе ж абяцанае прышэсьце?" даецца адказ: "у бога тысяча гадоў, як адзін дзень".

Зыходзячы із рацыянальнага тлумачэння, якое выключае дэталізіруючы прадказальніцкі дар, мы павінны прыйсьці да высновы, што гэты ліст напісаны, калі і не праз тысячу гадоў пасьля сьмерці Езуса, то, ва ўсякім разе, праз некалькі соцень гадоў яго чакання, калі на гэтай падстве ўжо ўзніклі ерасі. Так не напісаў бы першы хрысьціянін, чакаючы сёняшняга прыходу Езуса. Верагодней за ўсё, што тут маецца на ўвазе тысячны год нашай эры, як момант другога прышэсьця Езуса.

"Мы абвясьцілі вам, – працягвае аўтар, – прышэсьце господа нашага Езуса Хрыста, не на падставе хітра сплеценых баек, але як відавочцы яго велічы, калі даляцеў да яго голас ад годнай славы: "гэта ёсьць сын мой каханы, у якім мая добрая воля!" І гэты голас з нябёсаў мы чулі, калі былі з ім на сьвятой гары" (**II**, 1, 18).

А затым, як бы адчуваючы, што ён ужо выказвае неадпавядаючае рэчаіснасьці, сцвярджаючы, што асабіста чуў голас з неба пры хрышчэнні Езуса (*ды яшчэ на гары!*), аўтар, замест паўлава: ёй богу, не хлушу! – дадае больш пераканаўча: "прытым жа мы маем пра гэта самае пэўнае прадказальніцкае слова" (**II**, 1, 19).

Для таго, хто не верыць у голас з нябёсаў і ў самае пэўнае прарочае слова, аднаго гэтага месца дастаткова, каб пераканацца, што аўтар разглядаемага намі ліста не быў паплечнікам Езуса. Гэта сярэднестагоддзевы выдумшчык, наўмысна пішучы ад імя першага хрысьціянскага апостала.

Дадзены ліст ўжо не апокрыф, а сапраўдная падробка, са спасылкай на Евангелле Марка (**9**, 7), у якім упершыню выказваецца гэтая фраза.

Такі ж позні характар мае і **першае саборнае пасланне Пятра**.

"Як нованароджаныя немаўляты, – звяртаецца ён да ўсіх хрысьціян, – ушануйце маё чыстае славеснае малако" (**I, 2**, 2). "Будзьце пакорлівымі, дзеля бога, кожнаму людзкому кіраўніку, хай то цар, як найвышэйшая ўлада, хай то намесьнік, выпраўляемы ад яго для пакарання злачынцаў і для заахвочваньня робячых дабро, бо такая воля бога, каб мы, робячы дабро, замыкалі вусны невуцтву неразумных людзей" (**I, 2**, 15).

Скажы сам, чытач, ці магчыма такое выказванне ў вуснах чалавека, які сам лічыўся злачынцам, "разам з Хрыстом і з усім яго вучэннем і з таварышамі сваімі", і быў, нарэшце, "ўкрыжаваны ў Рыме", як невуцкі, шалёны і шкодны чалавек, царом Няронам ці нават Валентам? Кожны ж цар за такія ўльтра-вернападданіцкія пасланні мог бы толькі абсыпаць яго сваімі ўшанаваннямі, ардэнамі і высокімі чынамі, як заўсёды і ставіліся зямныя цары да руплівых царкоўных прапаведнікаў гэтых самых тэкстаў "апостальскіх" пасланняў.

Не маглі на яго паскардзіцца і рабаўладальнікі, так як ён паўтарае літаральна, або з дапаўненнямі, ужо вядомыя нам сацыяльныя статуты Паўла.

"Служкі, – кажа Пятро, – з баязьню падпарадкуйцеся гаспадарам, не толькі добрым і лагодным, але і суровым. Што вам за ўхвала, калі вас б'юць толькі за правіны? Але калі вы церпіце за дабро, то гэта прыемна богу. У гэтым ваша пакліканне, бо і Хрыстос пакінуў нам такі прыклад, і жадае, каб і мы ішлі па яго слядах" (**I, 2**, 21).

"Жонкі, пакарайцеся сваім чалавекам... І вы, чалавекі, разумна стаўцеся да жонак, як да далікатных пасудзін" (3, 1-7).

"Будзьце ўсе адзінадумнымі, спагадлівымі, браташануючымі, міласэрднымі, прыязнымі, пакорнамудрымі; не плаціце злом за зло і лаянкай за лаянку" (**3**, 8).

Усё гэта тое самае, што мы ўжо чыталі ў Паўла. Цалкам магчыма, што падобная парада пра спагадлівасць прапаноўваўся як маральны ўзор нават і да пачатку нашай эры, але тут характэрыстычна не яна, а тое, што гаворыцца пра ўзаемадачыненні царквы і дзяржавы і пра царкоўную іерархію.

"Малодшыя (*служыцелі царквы*), пакарайцеся сваім пастырам, і ўсе, падпарадкоўваючыся адзін аднаму, апранайцеся пакорлівай мудрасьцю, таму што бог пярэчыць ганарлівым і дае перавагу пакорным. Упакорцеся ж пад моцную божую руку, ды падыме ён вас у свой час. Цьверазіцеся, будзьце пільнымі, бо праціўнік ваш, дз'ябал, ходзіць як рыкаючы леў, шукаючы каго праглынуць"(**I, 5**, 8).

Такія ж познія ідэі, якія сведчаць пра поўнае пагадненне царквы са сярэднестагоддзевай дзяржавай, мы знаходзім і ў пасланні апостала Юды, "брата господняга", якому я і прысвячаю ў заключэнні некалькі радкоў, на ўвазе яго высокага сваяцтва.

"Як Садома і Гамора і навакольныя гарады, распуснічаўшыя падобна ім, зведалі пакаранне ўсякім полымем, – выказваецца ён, відавочна, пра пагібель Стабіі і Геркуланума, – так будзе і з тымі мроячымі, якія апаганьваюць плоць, пярэчаць кіраўнікам і бэсьцяць вярхоўную ўладу... Такія праз спакусу бываюць на вашых вечарах шанавання і, банкетуючы з вамі, без баязні назапашваюцца. Гэта бязводныя хмары, насімыя ветрам, восеньскія дрэвы, двойчы памёршыя, бясплодныя, вырваныя; гэта раз'юшаныя марскія хвалі, пенячыяся сваімі срамотамі, блукаючыя зоркі, якім падрыхтаваны змрок цемры навекі" (**I, 3**, 17). Так! Усё гэта, чытач, тыповыя сярэднія стагоддзі, а не першыя стагоддзі хрысьціянства, характарызуемыя апакаліптычным гневам першых яго прадказальнікаў на ўсіх зямных цароў, як загубіўшых іхнага настаўніка. Сам склад, гэта – склад Эпохі Адраджэння ці яе пярэдадня. Лагічна развіўшыся ў евангельскую згодніцкую ідэалогію, апакаліптычнае хрысьціянства V стагоддзя натуральна скончылася ў X стагоддзі поўным пераходам тэалогіі на бок існаваўшага тады грамадзкага ўладквання шляхам апакрыфічных апостальскіх пасланняў.

# Глава VII.

## Лесвіца культуры міжземнаморскага басейна, з пункту гледжання пераемнасьці і непарыўнасьці чалавечай культуры.

Усё, што было сказана да гэтага часу, і ўсё, што будзе сказана ў далейшых тамах гэтага даследавання, можа быць рэзюмавана ў наступнай "лесвіцы чалавечай культуры".

Калі першабытнае, вандруючае чалавецтва, з зачаткамі выразнага вымаўлення, распаўсюдзілася па ўсёй той частцы паверхні зямнога шара, якая была прыдатнай для першабытнага існавання, яно пачало асядаць на пастаяннае жыхарства на выспах і на берагах рэк дзеля рыбальства, будуючы сабе буданы або жывучы ў пячорах і разводзячы фруктовыя дрэвы. Вопраткай служылі, перш за ўсё, скуры забітых звяроў, здзіраемыя з дапамогай крэмневых нажоў, а іголкамі служылі вострыя шыпы ці сучкі дрэў, здольныя працягнуць у праколы валокны гнуткіх расьлін. Потым із гэтых валокнаў навучыліся плесьці і тканіны для адзення.

Найбольш зручнымі для ўзнікнення значнай першабытнай культуры выявіліся басейны ўнутраных мораў з архіпелагамі, якіх мы знаходзім чатыры: Міжземнамарскі басейн, Жоўта-морскі басейн, ўключаючы ў сябе Жоўтае і Японскае моры, Інда-Малайскі басейн і Антыльскі басейн у Амерыцы. І ў кожным із гэтых басейнаў утварылася самастойная культура, якая мела, нягледзячы на сваю поўную ізаляванасць, шмат агульнага з астатнімі і ішла спачатку амаль тым жа шляхам.

Але культура Антыльскага басейна, якая ўключала Мексіку і Перу, была рэзка асімілявана еўрапейскай культурай у XVI стагоддзі, якая паходзіла із Міжземнаморскага басейна. Культуры Жоўта-морскага і Інда-Малайскага басейнаў асімілююцца ёю зараз, так як Міжземнамарская культура, дзякуючы выключнай велічыні і геафізічным умовам свайго басейна, выявілася самай актыўнай. Яе старажытнасць (*як і трох іншых*) нашмат меншая, чым гэта лічыцца зараз, і ўзнікненне галоўнага стымулу і асноўнага падмурку ўсякага разумовага прагрэсу – пісьмовасці – ледзь ці далёка адыходзіць за пачатак нашай эры. Але з гэтага моманту лесвіца культуры Міжземнаморскага басейна ўяўляецца такой:

**А. Канец каменнай эпохі на берагах Міжземнага мора. I стагоддзе.**

Ўжо ажыццявілася адкрыццё крэмневай сякеры, колёсаў, як сродку перамяшчэння цяжараў, полымя і глінянага посуду для прыгатавання ежы.

Перыяд першабытнага урыўкавага сьцяннога пісання і меркаваны пачатак такога ж пісання на гліняных дошчачках, на лапатках барана і на драўнянай кары.

**Б. Эпоха папірусу і пергамента, бронзы і жалеза ў басейне Міжземнага мора.**

**II стагоддзе.**

Вынаходніцтва папіруснай паперы ў Бібласе, у Ягіпце. Першае ўзнікненне літаратуры ў выглядзе кароткіх запісаных казак і анекдотаў першапачатковай речытатыўнай паэзіі і разнастайных практычных ведаў і рэцэптаў.

Вынаходніцтва спосабу выплаўлення ў таварным маштабе медзі із кіпрскіх руднікоў і эксплуатацыя алавяных руднікоў у Гішпаніі для вырабніцтва бронзавых прадметаў гаспадаркі і вайсковай зброі. Пачатак геацэнтрычнай астраноміі і астралогіі.

**III стагоддзе.**

Верагодны пачатак выплаўлення жалеза із руды ў Багеміі. Пачатак тэхнікі і хіміі.

Бронзавыя і жалезныя мячы і наканечнікі стрэл і дзід. Каскі, наплечнікі і латы. Заснаванне, дзякуючы гэтаму ўзбраенню, лаціна-эліна-сірыйска-ягіпецкай імперыі Дыяклетыянам.

Развіццё берагавога плавання ў Міжземным моры на падставе вынаходніцтва спосабу вырабніцтва цёсаных дошак, немагчымае без пілы і свярдзёлкаў.

**IV стагоддзе.**

Юліянскі каляндар.

368 г. "Слупаванне" (стаўрозіс) знакамітага ўсходняга вучонага Асы (Васіля, Езуса) і яго вяртанне да жыцця пасьля паспешнага зняцця са слупа, дзякуючы пачаўшамуся месяцоваму зацьменню. Рэлігійнае паўстанне ў Сірыі і Палестыне з гэтай нагоды. Жахлівае вывяржэнне Везувія, загубіўшае Геркуланум і Пампею.

395 г. З'яўленне Апакаліпсіса, пагражаўшага карамі зямным царам і вяртаннем на зямлю памёршага Асы. Пачатак апакаліптычнага хрысьціянства.

**V стагоддзе.**

418 г. Выдатнае поўнае сонечнае зацьменне, якое прайшло праз Рым і Візантыю і нагнала забабонны жах, у сувязі з развіццём апакаліптычнага хрысьціянства. Пачатак біблейскай прадказальніцкай літаратуры. Ўсходнія готы у Гішпаніі (з 412 г.).

451 г. Распаўсюджванне апакаліптычнага (монафізіцкага) хрысьціянства сярод падначаленых германскіх і славянскіх народаў і, як вынік гэтага, Каталаўнская бітва гунаў з рымлянамі каля Рэймса.

472 г. Жахлівае вывяржэнне Везувія наступствам чаго была трохгадовая анархія ў "Заходняй Рымскай імперыі", што было нагодай яе разбурэння.

Развіццё астралогіі, а таксама і назіральніцкай астраноміі ў сувязі з меркаваннем, што зямныя падзеі прадвызначаюцца нябеснымі з'явамі. Першая сістэматызацыя асобных гістарычных запісаў і паданняў ў форме летапісаў (консулярыі, ці кнігі царстваў). Пракоп Кесарыйскі, верагодны аўтар біблейскай кнігі "Цары".

**VI стагоддзе.**

Заснаванне шоўкаводства ў паўднёвай Яўропе.

493-554 гг. Остгоцкае каралеўства ў Італіі, Сіцыліі, Швейцарыі і Далмацыі, як незалежнае ад Візантыі. Узвышэнне рымскіх біскупаў (пап). Першая кадыфікацыя законаў пры Юстыніяне ў Візантыі. Росквіт ў ёй бюракратыі. Барацьба за гегемонію паміж гоцкай Італіяй і Візантыяй. Часовае аднаўленне лаціна-эліна-ягіпецкай імперыі ў 554 г. Заваянне лангабардамі яе паўночнай часткі ў 568 г. (да 774 г.). Жахлівая чума ў Канстантынаполі – 541 г. (да 8000 чалавек за дзень).

**VII стагоддзе.**

Росквіт горнай справы ў Багеміі – 622 г. З'яўленне першай монатэістычнай рэлігіі на Ўсходзе (магометанства). Расчараванне ў апакаліптычным хрысьціянстве.

**VIII стагоддзе.**

Вынаходніцтва арабамі ў Месапатаміі баваўнянай пісчай паперы. Росквіт першапачатковых урыўкавых навук і мастацтваў (астраноміі, прыродазнаўства, медыцыны, філасофіі, паэзіі, архітэктуры) на Ўсходзе пры халіфах. Заснаванне на магаметанскім Усходзе акадэмій, вучэльняў, бібліятэк. "Тысяча і адна ноч". Тое ж самае на Захадзе пры двары Карла Вялікага. Узнікненне евангельскага хрысьціянства. Узнікненне Папскай вобласьці ў 754 г. Заваёва Гішпаніі арабамі-маўрамі. Далучэнне Італіі да манархіі Карла Вялікага ў 774 г. Ідалазмагальніцства (так званае іконазмагальніцства), або ліквідацыя класічных багоў ў Візантыі (717-867 гг.).

**IX стагоддзе.**

Частковае аднаўленне класічных багоў для натоўпу пад выглядам напалову багоў (сьвятых) на Канстантынопальскім Саборы 869 і 879 гг. Прымірэнне хрысьціянскай царквы і дзяржавы ў Яўропе.

Адкрыццё залатых руднікоў у Гішпаніі. Вынаходніцтва стрэлкавага гадзінніка, з коламі, але безківача. Раздрабленне Італіі на незалежныя герцагствы ў 888 г. (да 962 г.). Развіццё феадалізму ў Германіі. Македонская дынастыя ў Візантыі (867-1057 гг). Развіццё гандлёвага мараплаўства арабаў па Міжземнаму мору, а таксама стасункі з Індыяй, Тыбетам і Кітаем.

**X стагоддзе.**

Ваўняныя і суконныя фабрыкі ў Фляндрыі. Адкрыццё срэбных руднікоў ў Гарцы. Далучэнне паўночнай Італіі да Германіі (так званае "аднаўленне" ў сярэдняй Яўропе свяшчэннай Рымскай імперыі). Безпаспяховыя паходы ў паўднёвую Італію. Залаты век баўгарскай пісьменнасьці. Увядзенне пісьменнасьці і хрысьціянства ў Кіеўскім княстве.

**XI стагоддзе.**

Ветракі. Нотная сістэма ў музыцы. Пачатак утварэння ў паўночнай Італіі гарадзкіх рэспублік (рэспубліканскага кіравання). Выцясненне грэкаў нарманамі із паўднёвай Італіі. Канчатковае аддзяленне рымскай царквы ад візантыйскай (1054). Удзельная перыяд у Расіі. Складанне зборнікаў "Жыціі сьвятых". Рыцарства і турніры. Развіццё духоўнай літаратуры і навукі ў кляштарах.

**XII стагоддзе.**

Першыя вокны са шклом (1147-1149гг.). Вышэйшая ступень свецкай магутнасьці пап (Інакенцій III). Росквіт рыцарскай паэзіі на захадзе Яўропы. Першы крыжовы паход і заснаванне Ерусалімскага каралеўства (1199-1241 гг.). Пазнейшыя паходы да 8-га ў 1270 г. і канчатковае выгнанне мамелюкамі хрысьціян із Палестыны ў 1291 г. Развіццё венецыянскага і генуэзскага гандлёвага мараплаўства. Узнікненне алгебры (Фібаначы ў Пізе, 1199 г.) і яе апакрыфіраванне арабам і індусам. Верагодная сістэматызацыя ранейшых урыўкавых геаметрычных тэарэм пад найменнем "Элементы" Эўкліда і верагодная сістэматызацыя астранамічных ведаў пад найменнем "Альмагест» Пталемея.

**XIII стагоддзе.**

Прымяненне каменнага вугалю ў Ньюкэстле. Вынаходніцтва вытворчасьці паперы із ануч у Яўропе. Лоевыя свечкі. Саляныя капальні ў Яўропе. Першае мыла. Незалежныя гарадзкія рэспублікі ў Італіі: Фларэнцыя, Піза, Мілан, Верона, Генуя, Венецыя. Пачатак заняпаду папства. Навукі пераходзяць із кляштарскіх школ ва ўніверсітэты на захадзе Яўропы (Парыжскі, Оксфардскі, Падуанскі і інш.). Ерасі ў каталіцкай царкве. Заснаванее інквізіцыі. Кодэксы свецкіх законаў ("Саксонскае люстэрка", "Швабскае люстэрка"). Роджэр Бэкан – ідэолаг алхіміі. Падарожжы еўрапейцаў на Далёкі Ўсход. Увядзенне ў Заходняй Яўропе ад імя арабаў у першабытную арыфметыку з літарным лічэннем дзесяцічнай сістэмы міжнародных лічбаў, але яшчэ без дробных лічбаў. Лацінская імперыя 1204-1261 гг. Татарская, ардынскага ўлада ў Расіі (1238-1480 гг.).

**XIV стагоддзе.**

1302 – вынаходніцтва компаса. Порах. Ацяпленне ў Яўропе з дапамогай печаў. Паступовае заваяванне Візантыйскай імперыі туркамі. Узвышэнне Маскоўскага княства (1328-1533 гг.) на ўсходзе Яўропы. З'яўленне першых універсітэтаў у Кракаве, Празе, Вене, з тэалагічным адценнем і экзаменамі на

вучоныя ступені. Пачатак лірычнай рыфмаванай паэзіі, драмы, аповесьці, казкі. Мода пісаць ад імя грэчаскіх аўтараў і ўзнікненне так званай "класічнай паэзіі, філасофіі і драмы", а таксама "старажытнай гісторыі" і "старажытнай навукі", сістэматызаваных засноўваючыся на ранейшых урыўкавых матэрыялах. Дантэ, Петрарка, Бакачыо ў Яўропе, Саадзі і Гафіс ў Персіі.

**В. Эпоха кнігадрукавання і паруснага мараходства.**

**XV стагоддзе.**

Першая аптэка ў Яўропе (у Лейпцыгу). Першае асьвятленне вуліц у Лондане. Вынаходніцтва кнігадрукавання (каля 1450). Апагей апакрыфічнай творчасьці. Пастаяннае войска ў Францыі. Пошта ў Францыі і Англіі. Кішэнныя гадзіннікі ў Нюрнбергу і марскія гадзіннікі са спружынай. Жывапісанне алейнымі фарбамі.

Адкрыццё Бразіліі Кабралем. Падпарадкаванне Візантыйскай імперыі туркам. Пачатак расколу ў заходняй царквы (Гус). Гугеноцкі войны ў Францыі. 1420 – адкрыццё выспы Мадэра. 1450 – адкрыццё выспаў Зялёнага мыса. 1486 – адкрыццё мыса Добрай Надзеі. 1492 – адкрыццё Амерыкі Калумбам. 1498г. – адкрыццё марскога шляху ў Індыю. Падзенне феадалізму.

**XVI стагоддзе.**

1519 г. – заваяванне Мексікі Картэцам і першае кругасветнае падарожжа Магелана. Заваяванне Перу Пізарам. 1576 – адкрыццё Каліфорніі Картэцам. Знішчэнне надзелаў у Расіі (1523). Рэфармацыя рэлігіі ў Германіі і Англіі. Ўзвышэнне каталіцкай Францыі. Пачатак марской магутнасьці Англіі. Еўрапейская культура асімілюе самастойныя культуры Караібскага і Інда-Малайскага басейнаў. Сымон Стэвін уводзіць у арыфметыку (1586) дзесяткавыя дробы і гэтым дае першую магчымасць рабіць дакладныя астранамічныя вылічэнні. Раздрабленне свяшчэннай Германа-Рымскай імперыі на мноства свецкіх і духоўных княстваў і вольных гарадоў.

**Г. Эпоха паравых машын і доследнай навукі.**

**XVII стагоддзе.**

Мікраскоп на пачатку XVII стагоддзя. Тэлескоп-рэфлектар Ньютана. Рэфрактар Кеплера. Тэрмометр 1638 г. Барометр Тарычэлі 1643 г. Пнеўматычная машына 1654 г. З'яўленне доследнай навукі ва ўніверсітэтах Яўропы. Моцны рух наперад матэматыкі, а таксама фізікі і астраноміі на аснове матэматыкі. Узвышэнне Прусіі. Рэформы Пятра І у Расіі.

**XVIII стагоддзе.**

Фартэпіяна Шрэдэра 1717 г. Электрычная машына 1742 г. Громаадвод 1752 г. Паравая машына Ўата 1765 г. Аэрастат Монгальф’е 1783 г. Гальванізм 1791 г. Французская рэвалюцыя і яе адгалоскі сярод астатніх народаў. Узнікненне навуковай хіміі, сістэматычнай заалогіі і батанікі, палеанталогіі і геалогіі.

**Д. Пачатак эпохі электрычнасьці і паветранага жыцця.**

**XIX стагоддзе.**

Літаграфія 1806 г. Параход 1807 г. Лакаматыў 1814 г. Электрамагнетызм 1820 г. Першая (Ліверпульска-Манчэстэрская) чыгунка 1830 г. Тэлеграф Морзэ 1832 г. Фотаздымак Дагера 1838 г. Тэлефон 1876 г. Мімалётная еўрапейская імперыя Напалеона І. Заснаванне Германскай імперыі. Трыумф доследнай навукі.

**XX стагоддзе.**

Бяздротавы тэлеграф. Аэраплан. Дырыжабль. Заваёва атмасферы. Падзенне манархізму. Трыумф марксізму сярод астатніх сацыялістычных вучэнняў.

Узнікненне навуковай сацыялогіі і верагоднае грамадзянская аб'яднанне народаў на прыканцы XX стагоддзя. Падзенне сярэднестагоддзевай тэалогіі.

**XXI стагоддзе.**

Верагоднае пранікненне чалавецтва ў заатмосферную прастору.

Эпілог. Свабода і Братэрства.